АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# ТУРАЎСКІ СЛОЎНІК

ТОМ 5

**С — Я**

Складальнікі
А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін,
П. А. Міхайлаў, Т. М. Трухан

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1987

ББК 81.2.Бел-4
Т 86

Рэдактар
А. А. КРЫВІЦКІ

Рэцэнзенты:
І. К. ГЕРМАНОВІЧ, Ф. Д. КЛІМЧУК,
М. А. ДАНІЛОВІЧ, Т. І. ТАМАШЭВІЧ

Т 86 **Тураўскі** слоўнік: У 5 т. Т. 5 / Склад. А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін і інш.— Мн.: Навука і тэхніка, 1987.— 423 с.

У пяты том слоўніка ўключана лексіка гаворкі Турава і навакольных вёсак на літары С—Я, а таксама анамастыка (мікратапанімія) і тэксты. Лексікаграфічная апрацоўка матэрыялаў такая ж, як у папярэдніх тамах слоўніка.

Разлічан на моваведаў-славістаў, фалькларыстаў, этнографаў, работнікаў культуры, аматараў роднай мовы.

**Т 4602020000—062 / М 316(03)—87 падпісное 141—87** **ББК 81.2.Бел-4**

# АПОШНІ ТОМ СЛОЎНІКА

Пяты, апошні том слоўніка гаворкі Тураўшчыны ўключае слоўнікавыя артыкулы на літары С — Я (4788 рэестравых слоў), а таксама, як і папярэднія тамы, тэксты магнітафонных запісаў сучаснага мясцовага маўлення Тураўшчыны, перададзенага пры дапамозе спрошчанай транскрыпцыі (сродкамі беларускага арфаграфічнага пісьма). Гэтыя тэксты дакладна адлюстроўваюць лексіку, марфалогію і сінтаксіс гаворкі мясцовых жыхароў, а таксама амаль усе яе гукавыя асаблівасці. Зразумела, што тэксты — прыклады сучаснага маўлення Тураўшчыны з найбольш яркай дыялектнай адметнасцю, якое з'яўлялася асноўным аб'ектам назірання і аналізу, крыніцай лексікі і ілюстрацый для слоўніка, арыенцірам пры вызначэнні мясцовай дыялектнай прыналежнасці слоў. І хаця зараз на Тураўшчыне, як і ў іншых месцах Беларусі, часта можна пачуць і гаворку, ужо даволі далёкую ад мясцовых дыялектных традыцый, але варта ўсё ж падкрэсліць, што пашыранасць і папулярнасць гэтых традыцый у моўных зносінах патомных жыхароў Турава і навакольных сёл яшчэ вялікія. І тураўцы добра ўсведамляюць, што іх своеасаблівае маўленне з'яўляецца вынікам яго мясцовай дыялектнай самабытнасці.

У томе пададзена таксама значная частка сабраных матэрыялаў па ўласных назвах Тураўшчыны (2095 слоў). Гэта мікратапанімія — назвы палёў, сенажацей, азёр, балот, лясоў, частак паселішчаў і інш. З асаблівых уласных назваў (антрапонімаў) змешчаны толькі назвы жыхароў паводле назваў мясцовых населеных пунктаў. Іншыя асабовыя назвы (імёны асоб людзей, афіцыйныя прозвішчы, родавыя прозвішчы, нарэшце, мянушкі) маюць асаблівую цікавасць для раскрыцця розных сувязей паміж насельніцтвам Тураўшчыны і суседзямі. Гэтыя

назвы знойдуць месца ў спецыяльным лінгвагеаграфічным даследаванні, прысвечаным Тураўшчыне і яе наваколлю.

У пяці тамах «Тураўскага слоўніка» змешчана больш 20 тысяч слоў (20 004 слоўнікавыя артыкулы) і значная колькасць розных устойлівых (семантычна непадзельных) словазлучэнняў. Можна думаць, што слоўнік дастаткова шырока раскрывае лексічны склад (ці, можа, лепш — лексічны запас) тураўскай гаворкі, якой ён прысвечан. Але лічыць яго поўным, зразумела, нельга. Ды і поўных слоўнікаў жывой гаворкі, дыялекту, як і жывой мовы, відавочна, не можа быць. Тут заўсёды нешта аджыло і знаходзіцца ў народнай памяці на грані знікнення, нешта творыцца і выпрабоўваецца ў гутарках і размовах на дасканаласць і прыдатнасць, нарэшце, нешта патрэбнае асвойваецца з чужых здабыткаў. Слоўнік жывой гаворкі мае, інакш кажучы, няпэўныя, размытыя, зменлівыя берагі, не вельмі даступныя для вывучэння. Таму новых даследчыкаў слоўнікавых багаццяў гэтага кутка Палесся яшчэ чакаюць новыя моўныя адкрыцці. Ды і складальнікі гэтага слоўніка таксама яшчэ не развітваюцца з Тураўшчынай назаўсёды.

Пры вывучэнні матэрыялаў слоўніка можна атрымаць уяўленне не толькі аб лексічным складзе тураўскай мясцовай гаворкі. Гэтыя матэрыялы адлюстроўваюць таксама асаблівасці яе фанетыкі, марфалогіі, словаўтварэння і сінтаксісу. Аднак тыя, якія пажадаюць пазнаёміцца з важнейшымі з'явамі фанетычнай сістэмы і граматычнага ладу гаворкі ў абагульненым і сістэматызаваным выглядзе, будуць мець такую магчымасць у спецыяльнай лінгвагеаграфічнай працы складальнікаў слоўніка — Лінгвістычным мікраатласе Тураўшчыны. У ім будуць пададзены матэрыялы па тэрытарыяльнаму размяшчэнню розных фанетычных і граматычных з'яў, а таксама лексікі на Тураўшчыне і ў яе наваколлі. Змешчана будзе ў гэтай працы і бібліяграфія асноўных друкаваных крыніц па гаворках Тураўшчыны і наваколля.

У пятым томе слоўнікавыя артыкулы на літару С распрацавалі Т. М. Трухан (С — СМУЧАЙ) і А. А. Крывіцкі (СНАГА — С'ЯТО), на літары Т, Ф, Х, а таксама раздзелы па анамастыцы — П. А. Міхайлаў, на літары У, Ч — Г. А. Цыхун, на літару Ц — Т. М. Трухан і на літа-

ры Ш, Э, Ю, Я — І. Я. Яшкін. Тэксты падрыхтавалі А. А. Крывіцкі і П. А. Міхайлаў.

Том слоўніка пры падрыхтоўцы яго да выдання ўважліва прачытаў М. А. Саскевіч. Ён зрабіў рад заўваг па напісанню слоў, іх марфалогіі, унёс каштоўныя прапановы па ўдакладненню тлумачэнняў значэння некаторых слоў, а таксама ілюстрацыі ў некаторыя слоўнікавыя артыкулы. Усё гэта таксама, як і заўвагі пастаянных рэцэнзентаў рукапісу тамоў слоўніка І. К. Германовіча і Ф. Д. Клімчука, было з удзячнасцю прынята і ўлічана складальнікамі тома слоўніка пры дапрацоўцы раздзелаў.

*А. А. КРЫВІЦКІ*

# С

С, СО *прыназ.* 3. *Покінула мешок с картоплямі на дворэ, то вон заінеў.* Хачэнь. *Той стары с куршыны зробіць дудку да ек зайграе!* Луткі. *Кострыцу зо льну на вельчык кладуць.* Сямігосцічы.

САГА́Н *м.* 1. Высокі чыгун з вушкамі. *Саган — ек чугун, толькі стоўбуноваты.* Аздамічы. *Варылі ў саганах да елі.* Сямігосцічы. *От заробіў, ек Пельха на саганах.* Там жа. *Вон наклаў у той саган золота і закопаў* (з казкі). В. Малешава. 2 *перан.* Нізкі, тоўсты чалавек. В. Малешава. *Памянш.* с а г а́ н ч ы к. *Такі доўгі чугунчык з ручкою, то саганчык.* Луткі. *Саганчык з вухом буў.* Там жа.

САГАНЕ́Ц *м.* Высокі чыгун з вушкамі. Мачуль.

САД *м.* 1. Сад. *Буў хорошы сад годоў трыццаць і вусох.* Сямігосцічы. *Там дубў ма́хіные, ек сад екі седзіць.* Луткі. 2. Месца, дзе жыруюць качкі. *Сад называўса. Оберуць озеры́ну — і там іх тысячы, тых вутво́ў.* В. Малешава. *А сад — это вутвы́ садзяцца.* Буразі. 3. Упрыгожанні на вясельным караваі. *Сад на короваé робілі.* Пагост. 4. Шмат, вельмі многа. *Сад вуто́ў прылетае ў тэ болото Лагузоў.* Верасніца. 5. Пастаў у млыне. *Млін у нас буў на два сады́.* Старажоўцы. △ Н а ч н ы́ с а д. Месца, дзе начуюць качкі. Сямігосцічы. Д з ё н н ы с а д. Месца, дзе збіраюцца качкі на днёўку. Там жа. *Памянш.* с а д о́ к. *Той шчэ молоды садок, шчэ слабо родзіць.* Аздамічы.

СА́ДЖАНЫ *прым.* Саджаны. *Скрозь по вуліцы саджаные ліпу.* Дварэц.

САДЖА́ЦЬ, САЖА́ЦЬ *незак.* 1. Садзіць у печ для выпякання. *Хлеб на лопату да ў печ саджалі.* Старажоўцы. *Хлеб саджалі на дубовом лісту, у недзелю коліся хлеб не саджалі.* Кароцічы. *Зырко хлеб саджаць, хай вучахне.* Луткі. 2. Саджаць дрэвы, расаду і інш. *Некоторые саджалі сад, то не росце на той земле.* Сямігосцічы.

*Берэзнік самé по собе росце, а саджаюць дубнік, хвойнік.* Пагост. *Саджаюць росаду да не прымаецца.* Рубель. *У екі день пошоў снег, то сажай капусту* (прыкмета). Хотамель. 3. Рассаджваць. *Саджаюць разом молодых.* Запясочча. *Маці хросну і саму старшу коровайніцу на беседзі саджаюць на покуці.* В. Малешава. Прымушаць заняць пэўнае месца. *Вечэром, як ідзе с пашы товар, саджаюць куры на седало.* Мачуль. 4. Усаджваць, утыкаць. *Вона голову саджае ў корыто.* Альпень. *Не трэба ж туды палца саджаць.* Бярэжцы.

СА′ДЗЕЦЬ *незак.* Садніць. *Ногі боляць да садзеюць.* Цераблічы.

САДЗІ′ЦЦА *незак.* Садзіцца. *Не бойса, садзіса, чысто.* Старажоўцы. *Садзіс Іван, годзі стояў, ніхто не заплаціць вам.* Сямурадцы. *Хмара садзіцца, вона, ек дрыгва.* Цераблічы. *Непрошоны госць — не садзіса за стол* (прымаўка). Сямігосцічы.

САДНО′ *н.* Месца на дрэве для вулля. *Ек голье отышло ў бок, то добрэ садно для вулья.* Сямігосцічы. *От хорошэ садно для вулья, і голье отышло, ёго добрэ поставіць.* Там жа. *А ты колі свого содна буў? — Не.— Ну дак там пóіска!* Луткі. *Хорошы дуб, на садно годзіца.* В. Малешава.

САДОВІНА′ *н.* 1. Садавіна. *Садавіны сколько у цебе!* М. Малешава. *Под самуй сад прыдуць і обтрусяць садовіну.* Пагост. 2. Садовыя дрэвы. *От дзе іду да бачу еку садовіну, то і сажаю одну коло однэй.* Луткі. *От ек на рожство садовіна чорна, нема навісі, будзе чэрніц много* (прыкмета). Старажоўцы.

САДО′ВУ *прым.* Садовы. *Сторож садовы ек увогнаўса за злодзеем, той і яблука погубіў.* Цераблічы.

СА′ДОМ *прысл.* △ С а д о м с е с ц і. Сесці на доўгі час, не устаючы. *Шчоб ты садом сеў і не ўстаў!* Сямігосцічы.

САЕ′Т *н.* Саета, тонкае бліскучае сукно. Альшаны.

САЕТО′ВУ *прым.* Зроблены з саеты. *Саетовэ сукно.* М. Малешава.

САЖ *м.* Садок для рыбы. *Сплецеш, бы коша, такі саж, і туды, ў той саж, саджаеш рыбу.* Альшаны. *Памянш.* с á ж ы к. *Сажык — таке ценето для рыбы.* Сямігосцічы.

СА′ЖА *ж.* 1. Сажа. *Чорны, ек сажа.* Старажоўцы. *Колісь век на дорогу сажы не сыпалі* (павер'е: хто сту-

піць у сажу, на таго нападзе курыная слепата). В. Малешава. 2. Галаўня. *На Чэрнічах ярыцу жалі тогды, да грязные, сажа ў ей.* В. Малешава. *Сажа на пшэніцы, на просі.* М. Малешава.

СА'ЖЭЛКА *ж.* Сажалка. *Сажэлка — дзе неводнікі сажалі рыбу.* Альшаны. *Сажэлка — ек сам собе вукопае ямку таку для рыбы, для вутоў.* Луткі.

СА'ЖЭНЬ *м.* Сажань. *Сажэнь — тры аршыны.* Пагост.

САК *м.* Сак, жаночая верхняя вопратка на ваце. *Пошыла маці нового сака.* Запясочча. *Трэба сак наложыць короценькі.* Аздамічы. *Памянш.* с а ч о́ к, с а́ ч ы к. *Ужэ мне дзе́ўкі са́чка порвалі.* Запясочча. *Коліся шылі такого пінджачка, ек кухаечка, сперэду зашчэпваецца, і звалі сачык.* Цераблічы.

САЛА'Ш *м.* Будан. *Гэто место коло курэня — то салаш.* Альшаны.

САЛДУ'ПА *м. абразл.* Прымак. *Шо прымак, то і салдупа. Баба Халімоніха таку прозвішчу дала, ек сворыласа со свойім прымаком.* Цераблічы.

САЛІ'НА *м.* Невялікі кавалак сала. *Можэ саліну еку, вускорка з'еў.* М. Малешава.

САЛІ'ШЧЭ *н. пагардл.* Сала. *Одно саліишчэ ўвесну і молоко.* В. Малешава. *Салішчэ етэ елке сама еж.* Пагост.

СА'ЛО *н.* 1. Сала. *Сало було на долоню на ём, на кабану.* Старажоўцы. *Сало барсуковэ, казалі, хто беркулёзом более, то ёго піць.* Там жа. *Сало ў куры, сало і ў гусе, а ў козы, корову і овечкі — лой.* Дварэц. *У кожушка сала мало е на ксеню.* Рубель. *Буў хозяін — було і сало.* Хачэнь. *Коса любіць брусок і сала кусок* (прыказка). Там жа. *Німа сала й молока, німа й прымака* (прымаўка). Кароцічы. *Ні село, ні пало, на, коце, сало* (прымаўка). Луткі. 2. Месца, дзе спыняецца ўдзельнік гульні ў лапту, калі яму не ўдаецца дабегчы да *города. Хто ўдырыў, той ідзе на сало.* Запясочча.

СА'ЛЬНІК *м.* Чалавек, які калоў свіней і прадаваў сала. Дварэц.

СА'ЛЬНІЦА *ж.* Невялікая пасудзіна для трымання солі. Запясочча.

СА'ЛЬНЫ *прым.* Сальны, тлусты. *Ну воны сальные булі* (пра свіней простай пароды). Верасніца. *Ек з хіба, то сальнэ сало.* Цераблічы.

САМ *займ.* 1. Сам, ніхто іншы. *А ўжэ той цар сам умёр, да эты его сын, шо то брау эту жонку, да ўжэ заступіў царствовацъ* (з казкі). Бярэжцы. *Зашчэпіць у клецé, а сам пошоў гулять.* М. Малешава. *От хлопец эты ек поедзе ўжэ куда, то му ўжэ сáмі пропадом.* Пагост. *Вубірай самá, а не му.* Луткі. *Два палцы отпалі саміе, не одрэзалі.* Сямігосцічы. *Я, дзеткі, сам не знаю.* Там жа. *Екіе мі самі, такіе й сані* (прыказка). Там жа. *Не чорт бацька пхаў, а сам упаў* (прымаўка). Там жа. 2. Толькі адзін. *Я ўсе сама, сама ў хаці, ек пень.* Хачэнь. *Она сама, сама жыве, а ў ее й сыны, й дзве дочкі.* Там жа. *Пошлі бацько і мацер на роботу, а маленькая дзевочка дома осталаса самая, побачыла, шо нема нікого ў хаці, і давай плаком плакаць.* М. Малешава. *Ей нема дзеда, дак вона сама гібее ў хаці.* Там жа. *Бацько сам* (жыве), *маці умéрла.* Там жа. *Самые соценные узелі, а рубле покінулі.* Запясочча. *Бачыў, сколько вусеней? Самá вусень.* Цераблічы. *Другі раз не будзе сама ходзіць по ягоды, воўка побоіцца.* Бярэжцы. *Ек поюць, то я помогаю, а самой, то не хочэцца.* Альпень. *Мой мілой жэніцца з другою, а я остаюса ж сама* (з песні). Сямурадцы. *Памянш.* с а м é н ь к і, с а м é н е ч к і, с а м ý л е н ь к і. *А жонка одна саменька.* Альшаны. *Я вас покіну тут саменьку.* Бярэжцы. *Еж саменька, не трэбо давацъ з роціка.* Сямігосцічы. *А вон саменечкі ў курэне буў.* Пагост. *Самуленькую кінулі, седзіць вона, ек орол.* Луткі. △ С а м-н а с а м. Зусім адзін. *Сам-насам воўк не возьме дзіка.* Цераблічы. С а м п о с о б е. Адвольна, незалежна ні ад каго. *На хвоі сам по собе коўтун такі вуросце.* Хачэнь. *Самі по собе жывом.* Луткі. *Саме по собе усходзіласо: блісковіца, грымота стала.* Дварэц. *У курной хаці комін буў сам по собе.* Хотамель. С а м с о б е. Адзін, без нікога, самастойна. *Хай бу самі собе елі дзеці.* Запясочча. *Вона сама собе кажэ: «Дзеніс не Дзеніс, ну не Дзенісова смерць»* (з казкі). В. Малешава. *Сам собе муркочэ.* Кароцічы.

САМЕ'Ц *м.* Дрэва, якое не дае насення. *Е ж берэ́зіна самец, на ёй пупошкі.* Цераблічы.

САМІ'ЦА *ж.* 1. Самка. *А саміц було штук чотыры забітых* (пра ваўчыц). Сямігосцічы. *Саміца була здорóва, удвох неслі.* Мачуль. 2. Кароткае бярвенца ў прасценку паміж вокнамі. *Между окнамі кладуць саміцу.* Аздамічы. *Памянш.* с а м í н к а. Хотамель.

СА'МО, СА'МЕ 1 *прысл.* Толькі, якраз. *То — твоя робота, само по твоём здороўі.* Мачуль. 2 *часц.* Най-. *Я само больща, это я з семнаццатого году.* Бярэжцы. *Воны цепер само трудней робяць.* Верасніца. *Шоб у мене було саме мало трыста кілограм.* Запясочча. 3. Найбольш, найлепш. *Само ў жыці волошкі ростуць.* Пагост. *Само вон спевае, обміраеш слухаючы.* Там жа.

САМОВА'Л *м.* Дрэва, якое само ўпала. Цераблічы.

САМОВІ'ТЫ *прым.* Разумны. *Е чоловек не вельмі самовіты, вон розносіць порошкі.* Старажоўцы. *Не самовітая дзевочка, вона заблудзіласа ў лесі.* Хачэнь.

САМОГНЁТ *м. экспр.* Самагонка. Кароцічы.

САМОДЗЕ'ЛКОВЫ *прым.* Самаробны, саматужны. *З порта, з ніток самодзелкова дзеруга.* В. Малешава. *Наш дзед — свой доктор самодзелкову* (жарт). Запясочча.

САМОДРА'Й *м. экспр.* Свавольнік. *Такі блатны хлопец, такі собаковаты, то самодрай.* Мачуль.

САМО'К *м.* Самец. *Самок полівае белым молоком ікру.* Верасніца.

САМОЛУ'К *м.* Пярэдняя, загнутая частка бараны. Хотамель.

САМОКА'ТКА *ж.* Дзіцячы вазок на трох каньках, на якім катаюцца дзеці па лёдзе. *Мой меншы дзень і ноч на той самокатцы по возеру галяе, коб хоць дзе ў полонку не ўпаў.* Кароцічы.

САМОПА'САМ *прысл.* Самапасам. *Самопасом ходзяць коні.* Хачэнь.

САМОПА'СНІКІ *мн.* Тыя, хто пасуць сваіх кароў самі. Запясочча.

САМОПА'СНО *прысл.* Асобна, самапасам. *Самопасно я только корову свою пасу.* Запясочча.

САМОПЛА'ВОМ *прысл.* Самаплывам. *Самоплавом колісь плавілі корованы.* Пагост.

САМОПРА'ДКА *ж.* Самапрадка. *Самопрадкі больш на Полесьі, а ў нас то на верэцёна пралі.* Луткі.

САМОПРА'ЎНО *прысл.* Без дазволу. *Ідзі, самоправно запрагай коня да везі.* М. Малешава.

САМОПРА'ЎНЫ *прым.* Самаўладны. *Я самопраўна хозяйка.* М. Малешава.

САМОРО'БКОВЫ *прым.* Самаробны. *Саморобковыйе возкі, дзядзько зробіць сам усе, і колёса.* Мачуль.

САМОРО'ЖДЖЭНЫ *прым.* Народжаны без шлюбу.

*Дзіця нагуляе без бацька, то байструк родзіцца, а ў мене була саморожджэна дочка, му булі не запісаны з чоловеком.* М. Малешава.

САМОРЭ'ЗКА *ж.* Сячкарня. Хотамель.

САМОСА'ДКА *ж.* Дзікае пладовае дрэва. *Самосадкі посадзяць да прышчэпаюць зразікамі.* М. Малешава.

САМОСЕ'Й *м.* 1. Самасей. *Озьмі этого самосею маку.* Хачэнь. 2 *перан.* Пазашлюбнае дзіця. *Однэ од его, а двое самосееў знайшла збоку.* М. Малешава. *Вон жэ ў ее самосей, да хорошэ дзіця.* Луткі.

САМОСЕ'ЙКА *ж.* Самасей. *Самосейкі трошкі лучшэ вудзержваюць, не засыхаюць.* Запясочча.

САМО'ТА *ж.* Самота. *Шоб дзе я сама на самоці з ім була, то не.* М. Малешава.

САМОТКА'НЫ *прым.* Саматканы. *Дзеруга самотканая.* Любавічы.

САМОТУ'ГІ *мн.* Саматужкі. *Самотугі дроў прыўёз.* Альшаны. *Сані-самотугі і я цегаў.* Сямігосцічы. *Памянш.* с а м о т у́ ж к і. *На самотужках повезла повен цэбер плацья праць.* Верасніца. *Везу сено самотужкамі по леду́.* Запясочча. *Этож мне довелосо саматужкамі дрова возіць.* Тураў. *Ганно, дай саматужкі, трэ мешок мукі з лаўкі прівезці.* Пагост.

САМОТУ'ЖКОМ *прысл.* Саматугам. *Ек везеш самотужком сані, от попоцягнеш.* Луткі.

САМОХО'ЦЬ *прысл.* Па сваей ахвоце. *Ему не трэбо було ісці, а вон пошоў дай погіб, самохоць.* Цераблічы. *Сіло́ самохоць шукае, жыць не хочэ.* Пагост.

СА'МУ *займ.* 1. Самы, якраз той, ніякі іншы. *А гэто той самы воўк.* Мачуль. *Сатана — той самы чорт.* Кароцічы. *А гэту саму дзеўку вугнаў, і вона осталас з сыном.* Хільчыцы. *Ішла с тых самых, шо ву хочэце ехаць, жонка ў Тураў.* Сямігосцічы. 2. Самы, крайні. *По самого пупа ў болото ўлез.* Запясочча. *Другі кабан поўз самы наш стожок бежыць.* Луткі. *Вон до дзюбы назбірае жаб, от як і дзе е багато, до самое дробы.* Хачэнь. *Воўкі гойнуюць до самого стрэчэнья.* Любавічы. 3. У самай высокай меры. *Александроўкі ў спасоўку ўжэ самуе яблука.* Старажоўцы.

САМУ' *займ.* Адзін. *Тут самуй торф.* Верасніца. *Памянш.* с а м у́ с е н ь к і. *Дзіця самусенькe спіць у хаці.* Цераблічы.

САМУ'СЕНЬКІ *прым.* Адзінокі. *Ох, остаўся самусенькі ў лесі.* Цераблічы.

СА'НІ *мн.* Сані. *Найбольш у нас на санях гной зімою возілі.* Сямігосцічы. *Я ў Пінск і возом ездзіў і саньмі.* Дварэц. *Беглі сычыкі, задралі лычыкі, на небо гледзяць, кашку з маслом едзяць* (загадка). *Сані* (адгадка). Хачэнь. *Екіе сані, такіе самі* (прыказка). Сямігосцічы.

СА'НКІ *мн.* Тое ж. *То ўжэ була трохі вувучыла ее, у санкі запрагу і еджджу на санках* (пра карову). Пагост. *Памянш.* с á н о ч к і. Хотамель.

СА'ННЫ *прысл.* Санны. *Свежы санны след.* М. Малешава.

СА'ПА *ж.* Від рыбы (тонкая, касцістая). *А гэту рыбу ў нас зовуць сапа.* Верасніца. *Памянш.* с á п к а. Верасніца.

СА'ПАЦЬ *незак.* 1. Матыкай апрацоўваюць рады бульбы, буракоў і інш. *Сапаюць картоплі ў гародзі сапкою, шоб не було зелье.* М. Малешава. 2. Шугаць. *Дзеўке, отсуньце дрова, а то пóлом'е сапле аж у комін.* М. Малешава. *Дух сапле от пéчы.* Альшаны.

САПА'ЧКА *ж.* Матыка. Хотамель.

СА'ПКА *ж.* Тое ж. *Сапкою зелье сапаюць.* М. Малешава. *Сапка поламалас.* Лутки.

СА'ПКО *прысл.* Топка. *Под ногамі сапко, грузко ў том озеры.* М. Малешава.

САПКОВА'ЦЬ *незак.* Акучваць. *Сапковала сапкою картоплі.* Лутки.

СА'ПНУЦЬ *зак.* Капнуць матыкай. *Сапне разоў тры да обратне стоіць.* М. Малешава.

САПОВА'ЦЬ *незак.* Апрацоўваць матыкай рады бульбы, буракоў і інш. *Воны саповалі ўдвоёх картоплі.* М. Малешава. *Смеіцца, не хочэ саповаць сапкою на огородзі.* Там жа.

САПО'ЖНІК *м.* Шавец. *Вон сапожніком буў, шыў чоботы.* Лутки.

САП'Я'Н *м.* Саф'ян. *На нозе сап'ян сыпіць, а ў горшку чорт кіпіць* (прымаўка). Сямігосцічы.

САРАНА' *ж.* Саранча. *Так сарана напала, одные чэрві.* Пагост. *Шо то за сарана напала на капусту.* Сямігосцічы. Многа. *Сарана тых шпакоў розвелосо.* Пагост.

САРА'НКА *ж.* Конік, казюлька. *У траве поўзаюць саранкі.* Рубель. *Памянш.* с а р á н ч ы к і. *Шо летаюць — саранчыкі.* Альшаны.

САРАНЧА′ *ж.* Саранча. *Зоглуміла саранча пшэніцу.* Пагост.

САРОМА′ХА *ж.* Расамаха. *Саромаха наподобіе рыся, нападзе на коня, пуд хвостом ззаду вуедае.* Запясочча.

САРПА′НКА *ж.* Вясельны галаўны ўбор. *Сарпанкі робяць з полотна.* Бярэжцы. *Молода сарпанку подыме да і роззірае людзей.* М. Малешава. *А вы берэзянкі — тонкіе сарпанкі* (з песні). Хільчыцы.

САРПА′НОК *м.* Тое ж. Аздамічы. *Памянш.* с а р п а́ н о ч о к. *Учора была ў веночку, а цепер у сарпаночку* (з песні). Пагост.

СА′ТАН *м.* Сатана. Бярэжцы.

САТАНА′ *м.* Тое ж. *Ты ж гледзі, не тронь, то ж прычэпіцца сатана, шо не отстане.* Верасніца. *Пока не посвечанэ, то на яблуні сатана седзіць* (павер'е). Луткі. *Муж і жона й одна сатана* (прымаўка). М. Малешава. *Не сам ідзе, а его сатана ведзе* (прыказка). Там жа.

САТА′НЬЕ *н. зб.* Чэрці. *От сатанье було немцы, куры поелі ўсе чысто!* В. Малешава. *Коб на вас ліхо налезло, сатанье* (на курэй). Дварэц.

САЦІНКО′ВУ *прым.* Сацінавы. *Каптанік у мацеры сацінкову.* Старажоўцы.

САЧЭВІ′ЦА *ж.* Сачавіца. *Сеелі сачэвіцу, а бор буў у просі.* Дварэц.

СВА′РКА *ж.* Сварка. *Дзе ву бачылі, шо дзеўка штрах плаціць за сварку?* Луткі. *На езык, на сварку вона прыдатна, то нашчо мне шчэпацца з ею.* М. Малешава. *Гэта сварка по ўсіх хатох е.* Дварэц. *Кучэраву Марко ходзіць па ермалку, не купуе, не торгуе, только робіць сварку* (з песні). Хачэнь. *Хозяін за чарку, то жонка за сварку* (прыказка). Старажоўцы.

СВАРЛІ′ВУ *прым.* Сварлівы. *Нека сварлівая невестка попаласа.* Старажоўцы.

СВАРЫ′ЦЦА *незак.* Сварыцца. *Побачыў дзед другі з другого мліна да прыходзіць, да ек стане сварыцца — куды-то гэтэ робіш?* Мачуль. *Вечно вона сва́рыцца з усімі.* Там жа. *Ты шо, сворыцца прышла?!* Аздамічы. *Вот той чоловек, шо гомонеў з вамі, такі чырвоны, я з ім часто-часто сваруса, спорым.* В. Малешава. Усе сварацца за роботу. Сямурадцы. *Сварацца ўдвох крыўда і праўда.* Запясочча. *Хто з кім не жыве, той с тым не сварыцца* (прымаўка). Цераблічы. *Мужык з жонкою сва-*

*рыцца, то ў печэ́ трасца варыцца* (прымаўка). Старажоўцы. *З сыном сварыс, на покуці дзержыс, а з зяцем сварыс, то за дзверы дзержыс* (прыказка). Там жа.

СВАРЭ′НЬЕ *н.* Сварка. *Ніколі ніхто не чуў сварэнье ў Настулі.* Верасніца.

СВАТ *м.* Сват. *Дзе наш сват подзеўса, ці ў ключ'е уверцеўса, ці на сеножа́ці косіць, чому госцей не просіць, шоб пілі да елі* (з вясельнай песні). Хачэнь. *Мі думалі, шчо сваты́ ехалі, а воны пе́шкі ішлі, молодого ў мешку неслі́, рукавішча торчалі і собакі ворчалі, і схопілі за полішча, оторвалі рукавішча* (з вясельнай песні). Сямігосцічы. *Добры сват і собацы брат* (прымаўка). Старажоўцы. *Свату перва чарка, а жэніху перва палка* (прымаўка). Там жа. *Памянш.* с в а́ т к о, с в а т о́ ч о к. *Сватко, не рэжце косу́, не хорошэ будзе, молода ку́ца будзе.* Запясочча. *Сваточок, не рэшце, му вам заплацім.* Там жа.

СВА′ТАЦЦА *незак.* Сватацца. *Ек святое воды коўценуць на крэшчэнне, то ўжэ сватаюцца.* Пагост.

СВА′ТАЦЬ *незак.* Сватаць. *Сваталі мене ў Туроў, а я кажу ім, шо мацер не найду.* Запясочча. *Дзеўку сватаюць — путаюць бацькоў, а корову купляюць — путаюць чужых мужыкоў* (прымаўка). Старажоўцы.

СВА′ТНЫ *прым.* △ С в а́ т н ы д з е н ь. Другі ці трэці дзень пасля вяселля, калі госці ходзяць да сватоў. Запясочча.

СВА′ТЫ *мн.* △ У с в а́ т ы. Сватацца. *Прыходзіў у сваты з Озеран.* Пагост.

СВА′ХА *ж.* Сваццця. *Свахо, да ідзеце ко мне да поседзе́це.* Запясочча. *Сваха — то колі мой сын іх дочку́ ўзяў.* Бярэжцы. *А хлопцэва беседа, то ўсех свахамі зовуць.* Луткі. *Дзе наша старша сваха волочылаcа, шо по пояс умочылаcа? Ці конопелькі бра́ла, ці сыночка лопатою ўстрэчала* (з песні). Старажоўцы.

СВА′ХНА *ж.* Тое ж. *Одно, коб давала корова молоко, свахно.* Мачуль. *Бо ўжэ твою галоньку дружкі обселі, свахны обпелі* (з песні). Пагост.

СВА′ШКА *ж.* Тое ж. В. Малешава.

СВА′ШЫН *прым.* Які належыць сваццці. *Вона свашыны носкі ўкрала.* Запясочча.

СВЕЖЭНІ′НА *ж.* Свежына. *На тобе свежэніны.* Запясочча.

СВЕ′ЖЫ *прым.* Свежы. *Му толькі свежу во́ду налі-*

*лі.* Дварэц. *Цепер усе свежэ хочуць, не хочуць дайне есць.* Тураў. *Памянш.* с в е́ ж э н ь к і. *Зобрала Наташэчкі свежэ́нькіх пяць подýшэчок, шоб под бок собе подослала.* В. Малешава.

СВЕЖЫНА′ *ж.* Свежына. *Напнуў я пружыны, будзе заўтра свежына.* Сямігосцічы. *Забілі кабана, свежына була.* Хачэнь.

СВЕКРО′Ў *ж.* Свякруха. *Свекроў моя хороша.* Цераблічы. *Свекроў — не родная кроў* (прыказка). Верасніца.

СВЕКРУ′ХА *ж.* Тое ж. *Моя свекруха шчэ жыве.* Запясочча. *Свекруха гледзіць усе хозяйство.* Сямурадцы. *Это моя свекруха так спевала.* Кароцічы.

СВЕНТОЯ′Н *м.* Зверабой. *Свентоян, казалі на его, а цепер называюць зверобой. По пучку неслі гэтого зверобоя, од семдзесят ліх казалі вон.* Хачэнь. *Колісь була хо́ндзя, то ім кури́ліса, свентояном. Положаць на жар, вон дыміць, да гэтым падкурваліса.* Там жа.

СВЕНТОЯ′ННІК *м.* Тое ж. Чэрнічы.

СВЕРБЕ′ЦЬ *незак.* Свярбець. *У шыпшыны ў серэдзіне ек вошы, ек за пазуху закінуць, от свербяць.* Запясочча. *Рукі свербяць от короcты.* Там жа. *Да свербіць, да боліць, да печэ* (як апячэш ногі ў жаберы). Кароцічы. *Ек попрэе між пальцамі, свербіць.* Альпень. *Вайка свербіць, сходзіласа вельмі.* М. Малешава. *Ек нос свербіць — чарочку піць* (прыказка). Сямігосцічы.

СВЕРБЯ′ЧЫ *дзеепрым.* Які вельмі свярбіць. *Там жабу пускаюць сліну свербячу — не купайса там.* М. Малешава.

СВЕРГУ′Н, СВІРГУ′Н *м.* Цвыркун, конік. *Свергун цвісціць.* Альшаны. *На свергуно́ў беруцца плотачкі.* Кароцічы. *Свіргун.* Альпень.

СВЕ′РДЗЁЛ, ШВЕ′РДЗЕЛ *м.* 1. Свердзёлак. *Есьцека свердзёл просты і е цэнтрык.* Тураў. 2 *перан.* Вертыкальны корань у пладовага дрэва. *Куме, скажы мне, шчо мое яблоні долягу́е, раскопалі ее, а ў ее свердзёл е ў земле, ву́рэзалі кусок з ко́рэня, то зародзіла.* Луткі. *Свердзёл ідзе ўніз, а убокі корэне́.* Там жа. *Швердзел.* Запясочча. *Памянш.* с в е́ р д л і к. *Такого свердліка поломаў.* Верасніца.

СВЕСЦЬ, СВЕСЬ *ж.* Сястра жонкі. *Да беры мою свесць, да будом свое.* М. Малешава. *Пайлава свесць груповодкою робіць* (пра звеннявую). Там жа. *Дзе моя*

*свесь жыве, то нема дзецей у перву клас.* В. Малешава.

СВЕТ *м.* 1. Свет, мір, людзі. *От і свет цепер настаў, усе ідуць у навуку.* Верасніца. *Колько чоловек на свеці жыве, то половіну свету бачыць, а половіну не бачыць* (аб працы і сне). Луткі. *То шо, одна корова раба на свеці?* Там жа. *Абадва сыны недзе ў свеці.* Кароцічы. *Дзеніс шчэ сем год будзе жыць на свеці.* В. Малешава. 2. Святло. *Шоб так сова свет бачыла, ек ты покінеш курыць.* М. Малешава. *Ему свет открыўса* (пасля аперацыі). Хачэнь. 3. Многа, шмат. *Свет сена наробіў.* Аздамічы. *У іх рыбы свет було.* Кароцічы. *Було свет зе́рнет, а зара і зе́рнеці нема.* Цераблічы. △ Пайсці ў свет, пайсці по свету. Выехаць з дому на працу, вучобу і інш. *Пойду ў свет, пойду куды очы бачаць — туды пойду.* Кароцічы. *Ну й пошоў по свету ходзіць.* Там жа. *Хоць ты кідай ложка да ідзі ў свет.* Луткі. Свету не бачыць. Быць вельмі занятым, цяжка працаваць. *А то й свету не бачылі за этою роботою.* Пагост. Той свет. Замагільны свет. *Запусціў плуга аж на той свет.* Старажоўцы. *Памянш.* свето́чок. *На роботу, на ўсе, на светочку буў здатны.* Старажоўцы.

СВЕТКОВА′ЦЬ, С′ЕТКОВА′ЦЬ, СЕТКОВА′ЦЬ *незак.* Святкаваць. *Мо ву сеткуеце ў недзелю?* Сямурадцы. *С′еткý ю, бо цяпер с′ято.* Бярэжцы. *Хоць ты с′еткуй не с′еткуй, а пірогі пачы.* Мачуль.

СВЕТЛЕ′ЦЬ *незак.* Святлець. *Ба, ек светлее, расходзіцца.* Бярэжцы.

СВЕТЛІ′ЦА *ж.* Светлая, прасторная хата, святліца. *Поставіў хату-светліцу.* Мачуль. *Прывезено молодзіцу ў нову светліцу* (з песні). Пагост.

СВЕТЛО′ *н.* Агонь. *Я сам с светлом тож по рыбу ездзіў.* Цераблічы.

СВЕТЛЯ′К *м.* Святляк. *Налоўлю светлякоў у коробку.* Запясочча.

СВЕТНЫ′, СЕТНЫ′, С′ЕТНЫ′ *прым.* Святочны. *Та світа светна́.* М. Малешава. *Та світка сетная.* Верасніца.

СВЕТОВУ′ *прым.* Бывалы. *Такі светаву чоловек.* Запясочча. △ Светова́ зора́ (зо́рка). Ранішняя зорка. *Светова зара зошла, церэз екі час будзе дзень.* В. Малешава. *Ек свет, то светова зорка сходзіц.* Запясочча. *Перэд светом, ек днее, светова зора свеціць большэ за ўсіх.* Хачэнь.

СВЕТО′К, С′ЕТО′К *м.* Невялікае свята. *Чому не прыехала на светок?* М. Малешава. *У нас чэтырнаццатого с′еток.* Лутвкі.

СВЕТО′ЧНЫ, С′ЕТО′ЧНЫ *прым.* Святочны. *С′еточные шмáты.* Аздамічы.

СВЕЦЕ′ЛЬНІК *м.* Прыстасаванне для асвятлення хаты. *Свецельнік запальваюць на ўсёночну да вон свеціцца цалу ноч, а ўжэ после ўсёночны больш не свецяць.* Луткі.

*Свецельнік* — сплецены з лазы каўпак з комінам, абшыты мешкавінай і аблеплены глінай. Пад ім на металічнай рашотцы гарэла лучына.

СВЕЦЕ′ЛЬНЫ *прым.* △ С в е ц é л ь н ы к ó м і н. Тое ж. Луткі.

СВЕЦЁЛКА *ж.* Дзяўчына з боку маладога, якая несла вясельны хлеб са свечкамі. *Хросны бацько свецёлцы свечку сучэ веліку, шоб не удовец буў молоды.* Пагост. *Старша свецёлка свéчы паліць.* Луткі. *Маршалок коровая несе, свецёлка хлеб з свечкамі.* Пагост.

СВЕЦІ′ЦЦА *незак.* Свяціцца, блішчаць, зіхацець. *Бачаць — свецяцца огні. Там ужэ дзерэ́ўня.* Бярэжцы. *Так бліскае, так бліскае, свеціцца і свеціцца.* Хачэнь. *А ракеты кідалі, то свецілосо на ўсей лес.* Там жа.

СВЕЦІ′ЦЬ, С′ЕЦІ′ЦЬ *незак.* 1. Асвятляць. *Усе спяць, а му свецім у хаці, ек на станцыі.* Хачэнь. *А карасіною колісь мало хто свеціў.* Там жа. *А свеціць, то такую газнічку запалім.* Мачуль. *Коб на мене месяц свеціў, а зоры я і колом поб′ю* (пра каханага). Запясочча. 2. Запальваць святло. *Свеці, куму.* Бярэжцы. 3. Свяціцца, блішчаць. *У воўкоў очы свецяць, ек свечкі.* Бярэжцы. 4. Свянціць. *На роздво воду ідуць свеціць, а яйца на паску свецяць.* Запясочча. *Тые годы воду там с′ецілі.* Альпень. △ В о ч ы с в е ц я ц ь. Пра добры зрок. *Покуль молода, то вочы свецяць.* Хачэнь. *Очы свецілі до старосці.* Бярэжцы. С в е ц і ц ь г о л ы м ц е л о м. Быць дрэнна апранутым. *Свецілі голым целом колісь, поўцéпаласа одзежа.* М. Малешава.

СВЕЧА′ *ж.* 1. Прамы сук у сасне. Альшаны. 2. Свечка. *Му ж радзілі самі да яснымі свечамі* (з песні). Пагост.

СВЕ′ЧАНЫ *прым.* Свянцоны. *Свечэны колоскі клалі за образ.* Верасніца.

СВЕ′ЧКА *ж.* 1. Свечка. *Занесе свечку ў цэркоў, таку*

*мах, ек конёва нога.* М. Малешава. *Цело белэ, душа з клоч'я* (загадка). *Свечка* (адгадка). Луткі. 2 *перан.* Зломак дрэва без верхавіны. Запясочча. △ Л о в і́ ц ь с в е́ ч к і. Лавіць цурку, падкінутую ўгору пры дапамозе *корпанья* другой палкай (пры гульні ў цурку). *Одные корпаюць, а другіе свечкі ловяць.* Хачэнь.

СВЁКОР *м.* Свёкар. *Добрачы свёкор буў.* Д.-Гарадок. *Свёкор свёкрыве́ продраў спіну до крыве́* (загадка). *Нож* (адгадка). Цераблічы.

СВІДЗІ'НА *ж.* Свідзіна. *З свідзіны ложкі робілі.* Пагост. *Свідзіна слізка і моцна. Ек плецеш лапці, то потплетаеш.* Запясочча.

СВІНЕ'Ц *м.* 1. Свінец. *Свінец ек олово, ім залівающь місу, ек поцечэ.* Дварэц. 2. Расліна. *Свінец — то некі е там за рэкою, такі дробненькі.* Чэрнічы.

СВІНІ'ЦА *ж.* Свіная вош. *Свініцы на поросята напалі, то шчо ім робіць, не ведаю.* Дварэц.

СВІНІ'ЦЫ *мн.* Грыбы свінушкі. Бярэжцы.

СВІНІ'ШЧЭ *н. экспр.* Вялікая свіння. *Свінішчэ вішчыць навек.* Аздамічы.

СВІНОПА'СОВЫ *прым.* Малаякасны. *Сено спасово, то свінопасово* (прымаўка). Хачэнь.

СВІ'НСКІ *прым.* Недобрасумленны, неахайны. *Понаплёўвалі на подлогу, некі свінскі народ.* В. Малешава.

СВІ'НСТВО *н. зб.* 1. Свінні. *Покорміла я свое свінство.* Хачэнь. 2. Паскудства, брыда. *Учворылі свінство, лаўкі по селу позрывалі ўночы.* Пагост.

СВІ'НТУ'Х *м.* Неахайны чалавек. *Свінтух, прыберыса хоця ў людзі.* Верасніца. *Я тобе дам качацца, свінту́х!* Кароцічы. *Набраўса, ек свінту́х!* Аздамічы.

СВІНУ'ШНІК *м.* Хлеў для свіней. *Свінушнік одгородзіў.* Бярэжцы.

СВІНЧА' *ж.* Падсвінак. *Воўк у дзерэўню прыдзе, свінча схопіць, і пошоў.* Сямігосцічы. *Сталі шукаць тэ свінча, а вонэ нізвесно дзе дзелосо.* В. Малешава. *Мі не можэм ўкорміць одымі картоплямі свінча.* Там жа.

СВІНЧЛЯ' *ж.* Малая свінка. *У кого загінуло свінчля, хай прыдзе ў Хо́томле.* Рубель.

СВІНЬЯ' *ж.* 1. Свіння. *Свінья малі, так свіньям той жолуд.* Чэрнічы. *А летось у мене була така свінья, шчо не ела.* Пагост. *Вішчыць свінья на ўсе село.* Хільчыцы. *Свінья ў год два опоросы мае.* Запясочча. *Воўк узяў свінью да за вухо ведзе.* Хачэнь. *От наеў чэрэво, ек у*

*поросное свіньe.* Старажоўцы. *Коб свіньe рогі, то не ўступіла б з дорогі* (прыказка). Сямігосцічы. *Ек прышоў Ілья, то чоловек, ек свінья* (прымаўка). Цераблічы. 2. Старажытная гульня, пры якой цурку заганялі ў ямку. Сямігосцічы. 3 *перан.* Чалавек, які робіць непрыемнасці. *Свінья ты, а не чоловек.* Аздамічы. *Памянш.* с в і́ н к а. Картачная гульня. Аздамічы. Дзіцячая гульня. Верасніца.

СВІНЯ′ЧЫ *прым.* Свінячы. *Свінячые следы на ганку бачылі.* Сямурадцы. *От бувае дзіця не спіць уночы, то бралі той свінячы берлог да купалі этэ дзіця.* Цераблічы. △ С в і н я ч ы д о ш ч. Дробны дождж. *Ек сонцэ свеціць, а дожджык ідзе, то кажуць свінячы дожджык.* В. Малешава. У с в і н я́ ч ы е г о л о с а́. Пра вельмі позні час. *Пока вуберуса, то пойду ў свінячые голоса.* М. Малешава. С в і н я́ ч ы е л а́ п к і. Дуброўка гусіная. *От свінячых лапок свіны гладчэ́юць.* Хачэнь.

СВІНЯ′ЧЫЦЬ *незак.* Рабіць непрыстойна. *Напіўса да на вуліцы свінячыць.* Пагост.

СВІРОПА′ *ж.* Свірэпа. *Свіропа — ее товар есць.* Луткі. *По свіропу я ходзіла свіньям.* Бярэжцы.

СВІ′РЭНЬ, СВЕ′РЭНЬ *м.* Свіран. *Свірэнь надвое перэгоро́джэны буў на дворэ.* Альшаны. *Добрэ, ек свірэнь е: у ём добрэ дзержаць і пашню, і муку, і сало.* Тураў. *Багато пашне́ згорэло ў свірне.* Аздамічы. *Сверэнь.* Хачэнь.

СВІСТА′ЦЬ *незак.* 1. Свістаць, утвараць гук. *А вуж стоіць да свішчэ.* М. Малешава. *Снег свішчэ под ногамі.* Кароцічы. *Не можна свістаць у хаці, бо вужэ заведуцца под подлогою або чорт прылеціць* (павер'е). Луткі. *Не свішчы ў хаці, бо будзе буран, усходзіцца вецёр* (павер'е). Аздамічы. 2. Ліцца з сілаю. *Удырыло жылу да кроў свістала ўверх чорна.* В. Малешава. 3. Моцна выцяць, сцёбнуць. *Чого чэпляесса, а то ек свісне пугою, то будзеш знаць.* В. Малешава. 4. Маніць. *Грыбоў два мешкі, кажэш, зараз набрала? Свішчэш, бабо.* Пагост.

СВІСТО′ЛІК *м.* Свісток. *Свістолік скручывалі з вербу́, колодочку ўстаўлялі, дзірочку робілі.* Сямігосцічы.

СВІСТУ′ШКА *ж.* Тое ж. *Не з лозы, да з ве́рбы свістушка.* Цераблічы.

СВІСЦЕ′ЛКА *ж.* Тое ж. Запясочча.

СВІСЦЕ′ЛІК *м.* Тое ж. Запясочча.

СВІСЦЁЛ *ж.* Маркоўнік. *Свісцёл цвіце вішнёвенькім.*

Старажоўцы. *Стояла вода да порос одзін свісцёл.* Луткі.

СВІ'ТА *ж.* 1. Світа. *Я шчэ венчаласа ў свіці.* М. Малешава. *У дзвёх свіцях.* Хільчыцы. 2. Кампанія. *Та світа ўся елі, а на Хведора сположылі.* Луткі.

СВІТА'ЦЬ *незак.* Світаць. *Стало світаць, так ужэ от розвіднёваць, а певень — «ка-ка-рэ-ку!»* Хачэнь. *Світае — і пташкі ўжэ шчэбечуць у саду.* Луткі.

СВІ'ТКА *ж.* Світка. *Пошылі мне світку, хоцеў носа опцерці — руку не зогнуць.* Запясочча. *Світка доўга, по колено, самодзелковая.* М. Малешава. *Світку ту з заборамі колісьню эту доўгу надзевае.* Бярэжцы.

СВІЦЕ'ЦЦА *незак.* 1. Свіцецца, прасвечвацца. *Свіціцца ўсе кругом.* М. Малешава. *Клець свіціцца, і снег меце.* Верасніца. *Ек рэдкі мацер'ял, то свіціцца.* Луткі. *Такіе картоплі там ростуць, шо возьмі, дай свіцяцца.* Бярэжцы. 2. Быць чуць бачным. *Огонь недзе далеко чуць-чуць свіціцца.* Луткі.

СВІЦЯ'НЫ' *прым.* Які адносіцца да світы. *Буў коліс пінжак свіця́ны до колена.* Луткі. *Свіцяну́ світу я шчэ носіла: багатые — суконные, а бедные, то з порту.* Верасніца. *Нашы ходзілі ў свіця́ных пінджакох.* Там жа.

СВОБО'ДА *ж.* Свабода. *До свободы булі вольные.* Чэрнічы. *Сеелі ксёндзо́ве до колеквізацыі, до свободы.* Там жа.

СВОВО'ЛІЦЬ *незак.* Сваволіць. *Его ў хлеў, коб не своволіў.* Запясочча. *Своволіць, не слухаецца, вучворае.* Пагост.

СВОВО'ЛЬНІК *м.* Свавольнік. *А вон свовольнік такі, і б'е его Лёкса, але ўсё рэўно не слухае.* Луткі.

СВОВО'ЛЬНЫ *прым.* Свавольны. *Свовольнэ дзіця твое вельмо.* Сямігосцічы.

СВО'ЕЦ *м.* Скрутак даматканага палатна. *Ходзем да свойцы погорнэмо.* Хотамель. *Своец полотна ў дзве ста́лі.* Мачуль.

СВОЙ 1 *займ.* Свой. *Із своє хаты мене гоніш?* Хачэнь. *Тогды ж своя земля була.* Бярэжцы. *Той на свого коня єеў, а той на свого.* Старажоўцы. *Шо з ею зробілосо, вішчала не своім віском.* Там жа. *У каждого свой езык.* Тураў. *Кладзі кошэль для свое душэ* (прымаўка). Луткі. 2 *м.* Сваяк, радня. *Свой сечыса, рубіса, а чужы не мешайса.* Сямігосцічы. *Вон буў ім некі свой.* Луткі. *Свое, усе наша родня ту́тока ў селе жывуць.* М. Малешава. *А ёму Навум да некі свой трохі шчэ.* В. Малеша-

ва. 3 *м.* Сувой, скрутак. *Ужэ буду згортáць полотнó ў свое.* Цераблічы. *Полотно бéлім да ў свой згóртаем.* Мачуль. *Свой полотна накруціць.* Луткі. *У одном своé метроў сорок полотна.* Сямігосцічы.

СВОЙНЕ'ЙШЫ *прым.* Раднейшы, бліжэйшы па сваяцтву. *Зняў ее з роботы да поставіў свойнейшу.* Дварэц. *Нема свойнейшэго ў мене за цётку Матруну.* Там жа. *Свойнейшэму краміну́ дають* (на вяселлі). Луткі.

СВО'ЙСКІ *прым.* Свойскі. *Думаў, шо коценята не будуць свойскіе, а будуць дзікіе.* Сямігосцічы. △ С в ó й с ь к і   ш ч á в е р. Шчаўе. *Свойськi шчавер на межэ, дзе мурожок неораты.* Сямурадцы. С в ó й с к і   м а к. Свойскі мак. Д.-Гарадок. С в ó й с к і   р о м ё н о к. Свойскі рамонак. Луткі.

СВОЙСТВО' *н. зб.* Сваякі. *Нічыпорэ, Бухтанэ, Хомічэ — однэ́ свойство* (усе Лéськi). Луткі. *Бабу бралі пупорэ́зну по свойству́.* М. Малешава.

СВО'ЛОК *м.* Жардзіна, якую клалі на сохі. *Ключыньє вешаецца на сволок, а сволок кладзецца на сохі.* Цераблічы. *Под свóлок сена наклалі.* Бярэжцы.

СВОЛОТА' *ж.* Агідныя шкодныя людзі. *Разное сволоты́ мо чоловек дваццаць було.* Старажоўцы. *Та сволота сэсоўска і зарэ жыве.* Пагост.

СВОЛОЧУ'ГА *м.* і *ж.* Нягоднік, нягодніца. *Да та нейка сволочуга, прыжэніўса да жыве.* Старажоўцы. *Колкі мое ўночы позрывала ека-то сволочуга!* Пагост.

СВОР *м.* Лясны праход паміж балотамі. *Пошлó по свóру, шоб на гало не ву́скочыць.* Цераблічы. *Свор — кудою звер ідзе.* Там жа. *Свор — ек лес у болоці, а кругом болото, счытай чыстэ болото кругом того свора.* Мачуль.

СВО'РОК *м.* Тое ж. *Ходзіў по своркóх, шукаў яйка цецёркі.* Мачуль. *Ідзе своркóм, дзе ву́шэйшым местом.* Цераблічы. *Памянш.* с в ó р о ч о к. Цераблічы.

СВОЯ'К *м.* Сваяк. *У нас не беруць за кума і куму своякоў, бо ўміраe дзіця* (павер'е). Запясочча.

СВОЯ'ЧКА *ж.* Сваячка. *Своячка, шчоб ёй села болячка* (прымаўка). Луткі.

СВЯ'ТО, С'Я'ТО *н.* Свята. *Цепер с'етоў не гледзяць.* Буразі.

СВЯТЫ' *прым.* Святы. *А ты, святы понедзелку, загубіў жэ нам дзеўку, посадзілі под поліцою, нарадзілі молодзіцою* (з песні). Пагост.

СЕ *часц.* Тут. *О се ж, на розоры саджу горбузу.* Мачуль. *З самого плоту да до се.* Сямігосцічы.

СЕБЕ′ *займ.* Сябе. *Готова піць і ні нап'юса, ек не ў себе.* Старажоўцы. *Я собе лоўлю, а вон собе.* Хачэнь. *Я пошыў собе калітў.* Бярэжцы. *Я гледжу, коб і собе гэтак.* М. Малешава. *Еш собе на здороўе, а я пойду твою эту одзежу помыю.* Кароцічы. *Ідзі собе, чоловечэ, не займай мене, я і так перэедзены.* Пагост. *Певень собе бежыць, а я собе.* Луткі.

СЕВА′Р *м.* Сейбіт. Аздамічы.

СЕВЕ′НЬ *м.* Сявенька. *Буў севень з дубцоў густо сплеты.* Бярэжцы. *Севень плетуць с соломы і сілегі або корэнья.* Аздамічы.

СЕГО′ЛЕТНІ *прым.* Сёлетні. *Сеголетні год мокры, то поўмокалі картоплі на нізкіх местáх.* Луткі.

СЕГО′ЛЕТО *прысл.* Сёлета. *Сеголето вода затопіла болонье.* Аздамічы.

СЕГОЛЕ′ТОК *м.* Сяголетак. Запясочча.

СЕГО′РОЧНО *прысл.* Сёлета. *Сегорочно поставілі хату.* Хачэнь.

СЕ′ДАЙЛО, СЕ′ДАЛО *н.* 1. Седала. *Дзесяць кур з седайла забралі, а одзінáнцотого петуха.* В. Малешава. *Зові курэй — пора на седало.* Азяраны. *На седалі тхор курэй не дастане.* Пагост. 2 *перан.* Месца адпачынку. *Тэ сено на седало будзе.* М. Малешава.

СЕДА′ЛКА *ж.* Крэсла для малога дзіцяці. Луткі.

СЕДА′ЦЬ *незак.* Садзіцца. *Ходзі сюды і седай, і обувайса.* Сямурадцы. *Она ж там не будзе седаць, дзе трэба.* Бярэжцы.

СЕ′ДЖА *прысл.* Седзячы. *Звук, то і седжа спіць.* Луткі.

СЕДЖА′ЧЫ *дзеепрым.* Сядзячы. *Коб жэ лёг да заснуў, а то прамо седжачого обокралі.* Луткі.

СЕ′ДЗЕЛКО *н.* Услончык, месца для сядзення. *Седайце на седзелко.* Сямігосцічы.

СЕДЗЕ′НЬЕ *н.* Месца для сядзення. *Там у дворы е седзенье, посадзі і прывежы волокою.* Сямігосцічы.

СЕДЗЕ′ЦЦА *незак.* △ Не седзіцца. Пра стан непакою. *Пойду я домоў, от мне не седзіцца, так як бу мене і вело тую дзеўку вузваць.* Пагост. *Не седзіцца бабі ў хаці, грэбці пошла.* Там жа.

СЕДЗЕ′ЦЬ *незак.* 1. Сядзець. *Седжу і гледжу ў вокно.* Запясочча. *Чорт седзіць у болоці. А шчэ дзе ж вон*

*будзе?* Там жа. *От жэ, бра, грыб седзіць, поба, вурос!* Старажоўцы. *На краёчэчку седзеў, на самом носочку.* М. Малешава. *Мы седзімо коло магазіна, нас богато жонок седзіць.* Мачуль. *Му побеглі обратно на своє тэ место, у курэне своє, дзе седзелі.* Там жа. *Збоку шчэ той сад седзіць, е тры яблоні.* Луткі. *Будуць воны седзець голодные.* Там жа. *Сомок седзіць у бухці глыбокай.* Аздамічы. *Седзіць пані ў коморы, ее косы ў дворы* (загадка). *Кукуруза* (адгадка). Старажоўцы. 2 *перан.* Быць не замужам. *І цепер дзеўка-ляхоўка седзіць.* Запясочча.

СЕДЗІ'БА *ж.* Сядзіба. *Ты на своей седзібе, ка, не ўмрэш.* Чэрнічы.

СЕ'ДЗЬКО *н.* Дзіця, якое доўга не ходзіць. *Ек дзіця доўго седзіць, то зовуць седзько.* Цераблічы.

СЕ'ДЗЯ *дзеепрым.* Седзячы. *Хіба седзя будзе спаць?* Сямігосцічы. *Другá посівела седзя, ніхто не ўзяў.* Запясочча. *Да я ў лесі седзя іх бачыла* (пра баброў). Сямурадцы.

СЕДЗЯ'НКА *ж.* Крэсла для малога дзіцяці. *Памянш.* с е д з я́ н о ч к а. Запясочча.

СЕДНО' *прысл.* Усё роўна. *Водку налью на зуб, седно не помогае, грэлку кладу — не помогае, ну й жыжня моя!* М. Малешава. *Свінчá своє ўдасца седно як дзіке.* Цераблічы.

СЕДНЯ' *ж.* Сядзенне. *А шо мне седня дасць?* Хачэнь. *Нашчо нам гэта седня?* Бярэжцы.

СЕДУ'Н *м.* 1. Фасоля, якая не ўецца. *Седун росце на градзе, ёму тычкі не трэба.* М. Малешава. 2. Хлопчык, які доўга не ходзіць. *Як доўго не ходзіць, то седун.* Альпень. △ С е д у н-б о б. Фасоля. Альшаны.

СЕДУ'ХА *ж.* Фасоля, якая не ўецца. *Седуха на градзе седзіць і не ўецца. Зернета белые, кругленькіе.* М. Малешава. *І седуха е, і тычкова квасоля.* Пагост. *Памянш.* с е д у́ ш к а. Альпень.

СЕДУ'ШКА *ж.* Крэсла для малога дзіцяці. Альшаны.

СЕ'ЕНКА *ж.* Расліна, якая вырасла з насення; сеянец. *У нас лугове сено, а там сеенка.* Дварэц. *Е ў мене тры сеенкі, я з зернета вуросціла* (пра яблыні). Луткі.

СЕ'ЕНЫ *дзеепрым.* Сеяны. *Оторка не сеена зосталаса ў Хведоры.* Дварэц.

СЕ'ЕЦЬ *незак.* Сеяць, засяваць. *Картоплі сеялі ў кажнў гранку.* Сямігосцічы. *Чым поле не орау, тым і сеець не стаў* (прымаўка). Запясочча. Садзіць. *На небе*

*гуры — трэба гарбузы, гуркі сееця* (прыкмета). Старажоўцы.

СЕЙ *займ.* Гэты. *Повіхнўла, і по сей дзень так.* В. Малешава.

СЕЙЧА'С, СІЧА'С *прысл.* Зараз. *Сейчас онно боўтне і ўтопіцца.* Пагост. *Січас.* Там жа.

СЕЙЧА'СНЫ *прым.* Цяперашні, сучасны. *По сейчасной жыткі, то жыць можно хорошо́.* Старажоўцы.

СЕКАНУ'ЦЬ *зак.* Секануць, сцебануць. *Плёткой тры разы ек секануў, так і крой пошла.* Мачуль. *Секануў — і перэрубаў.* Пагост.

СЕКА'Ч *м.* Прылада, якой сякуць гародніну, зелле. *Озьмі секача да посечы, онь два чугуны картоплёў я оццадзіла.* Кароцічы. Прылада, якой рыхляць глебу. *Коб хібе занёс секачэ ў кузню, нагострыў, а то ж вельмі тупые, ніяк не беруць сухое земле.* Кароцічы.

СЕКА'ЧКА *ж.* Тое ж. Аздамічы.

СЕКІ'-ТАКІ' *займ.* Сякі-такі. *Секі-такі мужычы́на — абы дрова і лучына* (прымаўка). Старажоўцы.

СЕ'КНУЦЬ *зак.* 1. Секануць. *Ек секне тым стрэпкачэм!* Лутకі. *Секнуў вэтліну, да отлецело ў від.* Мачуль. 2 *перан.* Лінуць. *Але ж секнуў дождж!* В. Малешава.

СЕ'КЦІ *незак.* Сячы. *Трэ секці зел'е кабану.* Кароцічы. *Буракі ке картоплі секуць або секачэ́м, або сечкою.* Тураў.

СЕ'КЦІСА *незак.* Сячыся. *Із своім сечыса, рубайса, а з чужымі не мешайса* (прымаўка). Луткі.

СЕЛЕЗЁН, СЕЛЕЗЕ'НЬ *м.* Качар. *Вон то — бела вўтоўка, а тот церэбіцца — селезён і почварквае, голос сіплы.* Кароцічы. *Ой, ты селезень, а я вутоўка, ой, ты поплоў, а я тутэка* (з песні). Знаменка.

СЕЛЕЗЁНКА *ж.* Селязёнка. *Селезёнка квокчэ ў коня.* Кароцічы. *Ляцеў конь, аж селезёнка грала.* Там жа.

СЕЛЕЗНЁВУ *прым.* Зялёны з пералівам (пра колер). *Селезнёвого цвету сподніца.* Пагост.

СЕЛЕНІ'Н *м.* Селянін, вясковы жыхар. *Сторожо́ўцы — воны селяне, а ў Турові і Дворцэ — мешчане навек.* Дварэц. *У нас зовуць дзеруга, а ў селян — просцілка.* Запясочча.

СЕЛЁДОК *м.* Селядзец. *Одзін селёдок із ікрою.* Альпень.

СЕ'ЛІШЧЭ *н.* Сядзіба. *З нашого селішча вугналі нас немцы.* В. Малешава.

СЕЛО' *н.* 1. Сяло. *Мо трошкі заведзеш, хоць за село.*

Запясочча. *Моя хата була на селе.* Луткі. *Это ўсе село — сорок хат було.* Кароцічы. *Така гразь, шо не можно до села достацца.* М. Малешава. 2. Старая частка сяла. *На селе само дзедоў і баб.* Пагост. *По ўсіх вуліцах вода пошла, дно по селу не.* Там жа. 3 *перан.* Жыхары вёскі. *Цягнуць вола ўсім селом.* Сямурадцы. *Не дадуць ему рады селом.* Луткі.

СЕЛЬНІ'К *м.* 1. Матрац, сяннік. *Сцерлосо сено ў сельніку, трэ свежого напхаць.* Верасніца. *Напхала сельніка ў кроваць.* Луткі. 2. Адгароджанае памяшканне ў хляве на сена або салому. *Сельнік без току і возы там стаўляюць.* Цераблічы. *Памянш.* с е л ь н і ч о́ к. Луткі.

СЕ'ЛЬСКІ *прым.* Сельскі. *Сельскі або дзерэвенскі чоловек — гэто ўсерэўно.* Аздамічы. △ С е л ь с к і е д з е ц і. Гатунак бульбы. *Картоплі — сельскіе дзеці, воны чырвоные і доўгіе.* Луткі.

СЕЛЮ'ЖКА *ж.* Сцёртая манета. Запясочча.

СЕЛЯ'НЬЕ *н. зб.* Сялянства. *Мы — селяньe, мужыкі, а воны паны, воны відны по халявах.* Луткі.

СЕМ *ліч.* Сем. *Семо́х пленных узялі.* В. Малешава. *Я на бору год сем пас товар.* Там жа. △ У с е м д о р о г. З усіх бакоў. *К вам попрыходзілі ў сем дорог молодзіцы.* Старажоўцы. С е м б о ч о к ё с е л ё ў. Вельмі многа. *Мар'я тожэ наговорыла б сем бочок ёселёў.* Старажоўцы.

СЕМА'ЧКА *ж.* Бёрда на сем пасмаў. *Семачка — самэ рэдке бердо.* В. Малешава.

СЕ'МДЗЕСЯТ, СЕ'МІСЯТ *ліч.* Семдзесят. *Ей мо трыццаць годоў не було, а мне семдзесят.* Старажоўцы. *Семісят.* Пагост.

СЕМЕЙСТВО' *н. зб.* Сямейства. *Одну короўку даюць на семейство.* Хільчыцы. *У мене не було веліке семейство.* Старажоўцы.

СЕМЕНА' *мн.* Насенне. *Семеноў не було картоплі сеяць.* Луткі. *У нас семеноў ніколі не бэруць* (з кукурузы). Рубель. *Этэ, лепшэ, оддзеляюць на семена.* Старажоўцы.

СЕМ'ЕНІ'Н *м.* Сем'янін. *Нема нашого сем'еніна, то му так перэрываліса!* Дварэц. *Ты шчэ не сем'янін? Ой, хлопчэ!* Пагост.

СЕМЕННЫ' *прым.* Насенны. *Колісь віку семенну жалі рукамі.* Дварэц.

СЕМЕРНЯ' *ж.* Семдзесят (снапоў). Цераблічы.

СЕ'МЕРО *ліч. зб.* Сямёра. *У його було семеро дзецей.* В. Малешава. *Семеро коней у повеці, на прыгуменку стояць.* М. Малешава. *Семеро свіней угодоўвае кажын год.* Хачэнь.

СЕМІРА'ДУГА *ж.* Вясёлка. *Семірадуга опусціласа, воду набэрайе.* Сямігосцічы.

СЕМНА'ЦЦАТКА *ж.* Семнаццацігадовая дзяўчына. Хачэнь.

СЕМНА'ЦЦАЦЬ *ліч.* Семнаццаць. Бярэжцы.

СЕ'М'Е *н.* Семя, насенне. *З сем'я чавілі ў ступах олеі.* Кароцічы. *У нас большынство робілі масло з семені, а з конопель — я не помню.* Там жа.

СЕ'МЕННІЦА *ж.* Расліна, пакінутая для рассявання насення. Хотамель.

СЕМЕРЫ'К *м.* Хустка сярэдніх памераў. *Семерык купілі ў цыганкі, таку хустку хорошу шэлінову, без мохроў.* Дварэц.

СЕМІГО'ДНЯ *прысл.* Сем гадоў узапар. *Шоб цебе подкідала под сема́ кожухамі семігодня хондзя!* Запясочча.

СЕМ'І'ШЧЭ *н. зб.* Вялікая сям'я. *О, сем'ішчэ, мах!* Альшаны. *Не месяцца, таке сем'ішчэ веліке.* В. Малешава.

СЕ'МОЧКІ *мн.* Семкі. *Семочкі — то со́нешнік, а зе́рнета ў гарбу́зе.* Старажоўцы.

СЕМ'Я' *ж.* 1. Сям'я. *У ее сем'я веліка: своіх чотыры сыны і чоловек.* Хачэнь. *Мо то дзеці дзержалі його, мо то сем'я?* Старажоўцы. *То була сем'я, то було весело́та.* Там жа. *А тоды була одна корова на эту се́м'ю, а цеперэка вунь сколько!* Пагост. 2. Рой пчол у вуллі. *Пропалі пчолы, осталосо дзве сем'е.* В. Малешава. *У його сто піісят семей пчол, то там сіла!* Дварэц. *Памянш.* семе́йка, семе́ечка. *Семейка ек у Омельке.* Запясочча. *Семеечка маленечка у нашого Омелечка: вон да вона, стары да стара, дзве Насці на басці і дзве Хрысці на вісці* (прымаўка). Старажоўцы.

СЕМ'ЯНІ'Н *м.* Сем'янін, сямейны чалавек. *Наш сусед — шо сем'янін!* В. Малешава.

СЕНЕНЫ' *прым.* Кормлены сенам. *Соло́м'еным волом не наорэ́ш, а сенены́м коне́м не наездзіш* (прымаўка). Цераблічы.

СЕ'НІ *мн.* Сенцы. *У сенях ніхто не жыве, одно цэбрэ́ свіням ставім да одзежа горша вісіць.* Кароцічы. *Сено*

*над сеньмі е ў чэшчы.* М. Малешава. *Гомона нейка ў сенях.* Старажоўцы. *Памянш.* сéнкі, сéнькі. *От зразу збудуйе хатку, дале сенкі і жыве.* Тураў. *Сенькі цекуць, а куры поўлéтаюць з йіх да на огород.* М. Малешава. *Ішоў, упаў у сеньках і пом'ёр.* В. Малешава.

СЕНІ'НА *ж.* 1. Сена (у малой колькасці). *У нас нема й сеніны, окрóм шчо целяці скосілі косцерэ́ву.* Пагост. *Трэбо ўсе ў суботу поробіць, коб у недзелю не бегаць ні по сеніну, ні по зеліну.* Хачэнь. 2. Адно каліва сена. *Не пропала ні одна сеніна, так хорошэ ела корова сено.* Дварэц.

СЕННІ'К *м.* Матрац, сяннік. Аздамічы.

СЕ'НО *н.* Сена. *Сена мало, а грэбці богато.* М. Малешава. *Воно едкé, тэ сено.* Старажоўцы. *До Юр'я шоб було сено і ў дурня, і на Міколу — подавай да вілы закідай* (прымаўка). В. Малешава. △ Собакам сено косіць. Бадзяцца невядома дзе. *Бацька собакам сено косіць.* Луткі.

СЕНО'ЖАЦЬ *ж.* Сенажаць. *Сенокос — ето цепер обшчый, а колісь того і того сеножаць була.* Запясочча. *Покажэ́це, дзе ваша та сеножаць.* Хачэнь. *Каліноў куст — то була колісь мого бацька сеножаць.* Бярэжцы.

СЕНОКО'С *м.* Тое ж. *На той сенокос неможно достацца.* М. Малешава. *За рэкою сенокос, а дома буў попас, а цепер зробілі за рэкой попас, а дома сенокос.* Хачэнь. *За Погостом наш сенокос.* Там жа.

СЕ'НЦЫ *мн.* Сенцы. Сямігосцічы.

СЕНЯ'К *м.* Матрац, сяннік. Хотамель.

СЕНЯНІ'К *м.* Тое ж. Аздамічы.

СЕНЯ'НКА *ж.* Тое ж. Альшаны.

СЕ'РА *ж.* Малодзіва. Альшаны.

СЕРБА'ЦЬ *незак.* Сёрбаць. *Петро сéрбае юшку ў шапцы, не скіне, глухі стане колі так.* М. Малешава. *От сербае, ужэ прыпаў к місі.* Дварэц.

СЕРБЕНУ'ЦЬ *зак.* 1. Сербануць. *Сербенуць стравы ложку не хочэ аніяк.* Луткі. 2 *перан.* Стукнуць, сцебануць. *Ге* (так) *ек сербену, то ты ў мене помніцьмеш!* Альшаны.

СЕРБІЯ'НОЧКА *ж.* Танец. *Танцовалі сербіяночку по двух, ногамі прыстуквалі.* Хачэнь.

СЕ'РГІ *мн.* Вушкі пад шыяй у свіней. *У моёй свіні поросли сергі.* М. Малешава.

СЕРДЗЕ'ЧНІК *м.* Сардэчнік, сінегаловік плоскі.

*Возле дорогі я одзін раз бачыла і на могліцах сердзечнік. Одна ў нас серцэм болела, то она парыла.* М. Малешава. *У сердзечніку вуросце таке бу сердцэ з цветочка.* Чэрнічы.

СЕ'РДЗІЦЦА *незак.* Злавацца. *Жонкі сердзяцца, шо на іх жыці не буў корогод.* Хачэнь.

СЕРДОВА'ЦЬ *незак.* Тое ж. *Не сердуйце, дзеду, я ж не назнарок.* Рубель.

СЕ'РКА *ж.* Малодзіва. *Серка — пéршэ молоко, шо хоць ножэм рэж.* Мачуль. *О, шчэ серка, не можна есці.* Альпень. *Мі кажом серка, здойваем да варымо, да емо.* В. Малешава.

СЕ'РНІКІ *мн.* Запалкі. *Не курыў, а сернікі ў его е.* Луткі. *Памянш.* се́рнічкі. Хотамель.

СЕРОЎНО', СЕРЭЎНО' *прысл.* Усё роўна. *Серэўно воны цепер не прыедуць.* Кароцічы.

СЕРП *м.* 1. Серп. *Ек дожном, то кідаём серпа чэрэз голову тры раз.* Хачэнь. *Бало, кажуць — не несі серпа ў хату, бо будзе дождж* (павер'е). Луткі. *Ішла Ганджа жыто жаць, забула серпа ўзяць, вернулас по серпа, хлеба не ўзела і весь дзень дома була* (з песні). Старажоўцы. 2 *перан.* Здобнае печыва, якое пяклі на саракі для дзевачак. Запясочча.

СЕРПОРЭ'З *м.* Крываўнік. *Серпорэз тожэ зелье, добрэ од жывота, од поносу.* Луткі. *Ек порэжэш, то серпорэз кроў утайвае.* Альпень.

СЕРПОРЭ'ЗНІК *м.* Тое ж. *Еслі больны чоловек сердзіною — серпорэзнік п'юць.* Хачэнь. *Помогае од жолудка серпорэзнік.* Луткі. *Ек порэжом палца, то прыкладаем серпорэзнік к рані.* Кароцічы.

СЕРУ'ХА *ж.* 1. Павітуха. *Серуха ў лне кожухом да поблутала лён.* М. Малешава. *Поскудне зелье серуха, круціць лён.* Пагост. 2. Від асакі. *Осока на купіні жыве, а серуха поўз ку́піну.* Цераблічы.

СЕ'РЦЭ *н.* 1. Сэрца. *Слабе, бабко, твойе серцо.* Дварэц. *От серца ў мене, го́лову кідае ў бок.* Старажоўцы. *Не, я с своім здоройем не жыціму: у мене й серцэ, і гэтые нерву, і даўленне — усе ў мене.* Сямурадцы. *Поплакала по том сыну, серцэ ослабело і сама пошла ў землю.* Сямігосцічы. 2. Асяродак, стрыжань. *У смороднiку серцэ велікэ, проткне — да й чубук готові.* Сямігосцічы. *Серцэ з рогозу, крохке таке елі.* Цераблічы. 3. Язык у звану. *Серцэ е ў зване.* Сямігосцічы. *У звóноку*

*серцэ кляпае*. Цераблічы. △ Серца не хватае. Пра невыносны боль, хваляванне. *От ліхо его голове, упікуліў так, шчо і серца не хватае, хоць ты плач*. Пагост.

СЕРЭ′Д *прыназ*. Пасярод. *То моя хата була серэд села*. В. Малешава. *Сядзь обедаць серэд поля, то нема холодка*. Там жа. *Я ж серэд ночы пошла*. М. Малешава. *Пошоў серэд ночы на рыбу і наловіў*. Луткі.

СЕРЭДА′ *ж*. 1. Серада. *Вона не знае ці серэда, ці п'ятніца*. Верасніца. *На сколько ву за мене старэйшы? На одну серэду!* (жарт). Там жа. *Прышоў госць да ў сероду* (прымаўка). Луткі. 2 *перан*. Скароміна. *А ты ўжэ серэду з'ела?* Верасніца. 3. Вельмі мала. *Мне серэда ў мешку остаецца*. М. Малешава. 4. Танец. Запясочча. △ Градо́ва серэда́. Свята пасля вялікадня. Хотамель.

СЕРЭ′ДЗІНА *ж*. 1. Цэнтр, сярэдзіна. *Дзе му седзімо, там серэдзіна света*. Мачуль. 2. Сяродак, унутраная частка чаго-небудзь. *Скоролюшча, а ў серэдзіне, ек дрыжка*. Буразі. *Соночнік, а ў серэдзіне зернета*. Хачэнь. *Шчо то там у середзіні ў вулы зробіцца, і пчолы поміраюць*. Старажоўцы. 3. Унутранасці, нутро. *Усю серэдзіну вукінуў с кабана*. Луткі.

СЕРЭ′ДНІ *прым*. Сярэдні. *Усе ў серэдніх годох, а молодых нема*. В. Малешава.

СЕРЭ′ДНІЦА *ж*. Сярэдняя частка чаго-небудзь. Аздамічы.

СЕРЭ′ДНОЧЫ *прысл*. Пасярод ночы, у поўнач. *Серэдночы ўстала*. Сямурадцы. *Прышоў серэдночы*. Запясочча. *Серэдночы само сон*. Пагост.

СЕРЭДНЯ′К *м*. Серадняк. Бярэжцы.

СЕРЭДНЯ′ЧКА *ж*. Серадначка. *Оны бednякі, а я серэднячка, одна ў мацер*. Бярэжцы.

СЕРЭДСЕЛО′ *н*. Цэнтральная частка сяла. *З конца я прышла замуж на гэто серэдсело*. Дварэц.

СЕ-СЁ *часц*. Тут. *От гэта хата се-сё стояла*. Верасніца.

СЕСТРА′ *ж*. Сястра. *А шчэ там у Верэсніцы есцека двоюродна сестра моя*. Хачэнь. *Брат любіць сестру багатую, а жонку здорову* (прымаўка). Старажоўцы.

СЕСТРЫНЫ′, СЕСТРЫ′Н *прым*. Сястрын. *Прышла сестрыная ўнука*. Луткі. *Сестрын чоловек то прыходзіў*. Пагост.

СЕСТРЫ′ЧЫН *м*. Сын сястры. *У мене одзін сестры-*

*чын.* М. Малешава. *Сестрычын прыехаў у госці дай скоро поедзе.* Там жа. *Жыву ў свого сестрычына.* Верасніца.

СЕСТРЫ'ЧЫНА, СЕСТРЫ'ЧНА *ж.* Дачка сястры. *Сестрычына мне купіла вўцежкі.* М. Малешава. *У мое сестрычыны чоловек зваўса Хведор.* Там жа. *Ек бач одчужаецца сестрычна, у госці не прыходзіць.* Луткі.

СЕСТРЫ'ЧЭНКА *ж.* Дачка сястры. *Моя сестрычэнка ездзіла ў город і прывезла хорошу хустку.* В. Малешава.

СЕ'СЦІ *зак.* Сесці. *Кот сядзе да седзіць на плечах.* Старажоўцы. *От сяду да отдышу.* Пагост. *Пчолы на Спаса ек сядуць до обеда, то перэзімуюць, а ек после обеда, не перэзімуюць* (прыкмета). Сямурадцы. △ С é с ц і  н а  с к ó р ц ы. Адстаць ад скарынкі. *Хлеб неўдачны, сеў на скорцы — гэто ек цесто спарыцца, то вон такі робіцца.* Луткі. С é с ц і  е к  у  б о с í н а х. Сесці насупіўшыся, у задуменні. *Ужэ мой дзед сеў ек у босінах.* М. Малешава.

СЕЎ *м.* Адзін праход сяўца. *Сколько тут севóў на полосе? Тры севý.* Запясочча. *Веліка рэзка — тры-чотыры севý, а ек мáлая, то два.* Хачэнь.

СЕ'ЎКАЦЬ *незак.* Злосна, крыўдна гаварыць. *Шо ты там сеўкаеш?* Запясочча.

СЕЎНІ'К *м.* Сявенька. *Сеўнік робілі с солому і з берэлозу.* Запясочча. *А ў вас ш чого сеялі? С сеўніка?* Цераблічы.

СЕЎРЭ'КАЦЬ *незак.* Злосна, крыўдна гаварыць. Запясочча.

СЕЦЬ *ж.* Сетка. *І сецямі, рэжоўкамі этымі можно поймаць ліноў.* Старажоўцы.

СЕ'ЧКА *ж.* 1. Дробна нарэзаная салома, сена. *Мўшу сено рэзаць на сечку.* Хачэнь. *У сечку намешае того корэнья.* Там жа. *Віш порэжу на сечку да с хлебом даю корові.* Цераблічы. *Вон есць цыбулю, ек конь сечку.* Дварэц. 2. Сякач. *Сечкою картоплі секом.* Цераблічы. 3. Рыжая палёўка. *Сечка — мыш, ека ушчэнт посечэ солому.* Хотамель. 4. Рыба шчыпоўка. *Сечка так укусіць, то печэ.* Дварэц.

СЕЧКА'РНЯ *ж.* Сячкарня. *Вон з сечкарнею попоездзіў, людзем сечку рэзаў.* Запясочча. *Сечку ў сечкарні рэжом, а вона ў гумне стоіць.* Луткі.

СЕ'ЧЭНКА *ж.* Шрот. *Сечэнка — ето с проволокі шрот.* Цераблічы.

СЕ'ЧЭНЬ *ж.* Дробна пасечаная бульба або трава. *Там у корыці сечэнь.* Тураў. *Поела сечэні, аж чэрэво трэшчыць.* Аздамічы. *Сечэнь — ек зелье посекуць.* Запясочча.

СЁ *займ.* Вось гэта. *Стары сё й то робіць.* Сямігосцічы. *Ні сёго́, ні того́ не говорыць.* Луткі.

СЁЛЕТА *прысл.* Сёлета. *Сёлета я наносіла ягод багато.* Хачэнь. *Пошчы не було жукоў сёлета.* М. Малешава.

СЁРБАЦЬ *незак.* Сёрбаць, есці прысмокваючы. *Ек стаў сёрбаць, аж усе вусёрбаў, увесь бульён.* М. Малешава.

СЁСТРЫК *м.* Зварот да жанчыны. *Не, мой сёстрык, брэхала б да не знаю сама.* Верасніца. *Сёстрык мой, соколік мой, прынесі ведро воды.* Там жа. *Памянш.* с е с т р ы́ ч ы к. Альпень.

СІВЕ'ЦЬ *незак.* Сівець. *Ек сівее, то шалее.* Бярэжцы. *Косы сівеюць і вум сохне.* Кароцічы.

СІВІ'ЗНА *ж.* Сівізна. *Сівізна появілас.* В. Малешава. *Молоды, а сівізна напала.* Альгомель.

СІВОВА'ТЫ *прым.* Сіваваты. *Сівоватэ жэрэб'я було, да порвалі воўкі.* Любавічы. *Сівоватые корове́.* Хотамель.

СІВОДРА'КА *ж.* Сіваваронка. *Ек прылецяць з поўрэю сіводракі, то цепліна.* Луткі. *Сіводрака больш по пры́канаўках жыве.* Старажоўцы.

СІВОЗЕЛЁЗЫ *прым.* Шэры. В. Малешава.

СІ'ВУ' *прым.* 1. Сівы. *Чоловеку годоў сорок, а сівы́.* Цераблічы. *У дзеда борода шырока да сіва.* Пагост. *Стаў сіву ек голуб.* Аздамічы. *Тады гуляць перастане, ек голова сіва стане* (прыказка). Старажоўцы. 2. Шэры. *Оглянуўса, аж такі ма́хіны сіву воўк бежыць.* Луткі. *Сіву — ек бу белы.* Альшаны. △ С і в а я г о л у́ б к а. Букашнік горны. Луткі.

СІВУ'Н *м.* Стары хлопец. Запясочча.

СІВУ'ХА *ж.* 1. Старая дзеўка. Запясочча. 2. Балотная трава. В. Малешава. *Памянш.* с і в у́ ш к а. Бярэжцы.

СІ'ЛА *ж.* 1. Сіла. *Шо ву думаеце, хочэцца дзержаць корову, але трэ ж сіла.* Пагост. *У пяцьдзесят годоў я маў сілу за коня.* Старажоўцы. *Лецелі, ек сілу малі.*

Чэрнічы. *Сіла закону не знае* (прымаўка). Запясочча. 2. Шмат, многа, велізарная колькасць. *Сіла народу ў гó-родзі.* В. Малешава. *Шо, плуве така сіла лесу!* Пагост. △ Брáць чэ́рэз сíлу. Рабіць празмерна. *Я по сілі, я чэрэз сілу не беру.* Хачэнь. Не ў сілáх. Не мець магчымасці. *Му не ў сілах купіць лодку.* М. Малешава. *Брат буў не ў сілах обробатваць зéмлю.* Сямігосцічы. Клáсці (поклáсці) сíлу. Рабіць вялікія намаганні. *Сколько ж вон на ее сілы поклаў, да вывучыў.* Старажоўцы. Брáць сíлу. Шукаць магчымасці. *Вонэ добрэ, коб було і годовалосо, але не знаю, як ужэ откуль сілу браць.* Пагост. Не бере́ сíла. Пра адсутнасць сілы. *Ужэ нас сіла не берэ, прысталі.* Пагост. Нечы́ста сíла. Чорт. Бярэжцы. *Памянш.* сíлочка. *Да сілочкі ў мене вуйшло з етым дзіцём.* Сямурадцы.

СІЛА′К *м.* Сілач. *Не то сілак, шчо коня ўдзержыць, а то сілак, што серцэ* (прыказка). Сямігосцічы.

СІЛА′Ч *м.* Тое ж. *Ну і сілач, такі груз несе!* М. Малешава. *Той не сілач, шчо коня здзержыць, а той сілач, шчо нерву здзержыць.* Аздамічы.

СІ′ЛЕГА *ж.* Лаза з сіняватым налётам на чырвонай кары. *Верба гнецца покорно, а сілега не гнецца.* В. Малешава. *Сілегі нарубай на дрóва.* Верасніца. *З сілегі севень сплеты.* Бярэжцы. *Сілега гнуткая, ек лоза, кошэле плетуць.* Запясочча.

СІ′ЛЕГОВУ *прым.* З сілегі. *Дубцы сілеговые покруцяць і зоўюць, ек волоку.* Сямігосцічы.

СІ′ЛЕЖЫНА *ж.* Асобны куст сілегі. *Вéрба і сілежына, іх важко розлíчы́ць.* В. Малешава.

СІ′ЛІЦЦА *незак.* Душыцца. *Ек воны дурные, то хай сіляцца.* Запясочча. *Сіліцца гвалт, коб скорэй замуж.* Там жа. *А цепер за тэю роботою сіляцца.* Сямурадцы.

СІЛІ′ЦЬ *незак.* Душыць. *Тую бабу за глотку давай сіліць.* Пагост.

СІЛКО′М *прысл.* Сілком. *Куры сілком у горóд да подгрэбаюць картоплі.* М. Малешава. *Сілком гліна ў прэс ідзе.* Аздамічы.

СІ′ЛНО, СІ′ЛЬНО *прысл.* Вельмі, надта. *Рэка не сільно острая.* В. Малешава. *Буякі ж так сілно ростуць.* Старажоўцы.

СІ′ЛНЫ *прым.* Ураджайны. *Да такі сілны, хорошы*

*хмель, бо багато шышочок.* Хачэнь. *Була ў мене от сілна антонойка, мо з пуд сем яблук знела.* Луткі.

СІЛО′, ШЫЛО′ *н.* Сіло, пятля для лоўлі звяроў і птушак. *Сіла стаўлялі на болоце.* Сямігосцічы. *Узелі етые коні на сіло́.* Запясочча. *Воўк сам засіліцца, ек попадзе ў сіло́.* Цераблічы. *Шыло́.* Альшаны.

СІ′ЛОВАЦЬ *незак.* 1. Прымушаць сілаю, насільна. *Ек хочэце, я вас не сілую.* Хачэнь. *Толю ніхто не сілуе, не волье ему ў рот, ек вон не хочэ.* Там жа. *Не трэ сіловаць замуж, хай сама своє шчасце найдзе.* Пагост. 2. Асільваць. *Воны одзін одного не сілуюць.* Цераблічы. *Молоды чоловек, вон шчэ сілуе себэ і залезе на дуба.* Рубель. *Вон не сілуе ёго повезці, того воза.* Луткі.

СІЛО′М *прысл.* Сілаю. *Сілом застаўляе купіць кухайку.* Хачэнь.

СІЛОМО′ЦЬ, СІЛОМО′ЦЬЮ, СІЛОМО′ЦЬЕМ *прысл.* Тое ж. *Сіломоць замуж уперлі.* Аздамічы. *От учора сіломоцью окно побіла сама собе.* Хачэнь. *А вона сіломоцьем лезе.* Альпень.

СІ′ЛОЮ *прысл.* Сілаю, супраць волі. *У пляшку льём адвар да сілою даемо целяці.* Луткі. *Сілою не будзеш мілы* (прымаўка). Старажоўцы.

СІНЕ′ЗНЫ *прым.* Вельмі сіні. *Сінезнэ небо.* М. Малешава.

СІ′НЕНЬКІ *прым.* Малы шчупак. *От этых сіненькіх налезло!* Луткі.

СІНЕО′КІ *прым.* Сінявокі. *Сінеока дзеўка така хороша.* Луткі.

СІНЕПО′РЭЦ *м.* Малы шчупак. *Сінепорцы на маленькіх кожўшкоў кажуць.* В. Малешава.

СІНЕ′Ц *м.* Сінец. *Сінец — уродзі лешч, уродзі не лешч.* Альшаны.

СІНЕ′ЦЬ *незак.* Сінець. *Почаў сінець ад холоду.* Бярэжцы.

СІНЁВАТЫ *прым.* Сіняваты. *Прокопай на корх, там глей сінёваты, а далей — рыжоваты.* В. Малешава.

СІ′НІ *прым.* 1. Сіні. *Барве́нок садову ек куколь цвіце, только сінім.* Дварэц. *У сінёй бумазі коліся голова цукру продаваласа.* Там жа. *О, сіня хмара ўжэ зноў ідзе, дождж будзе!* Верасніца. 2. Малы шчупак. Кароцічы.

СІНІГІ′РЧЫК *м.* Снягір. Альпень.

СІНІ′ЦА *ж.* 1. Сініца. Запясочча. 2. Сіваваронка. За-

пясочча. *Памянш.* с і н і́ ц к а. *Зімою ў селе сініцка.* Цераблічы.

СІНЬ *м.* Малы шчупак. Запясочча.

СІ′НЬКА *ж.* Валошка. *З сінькі веночок.* Пагост.

СІНЮХА′ *ж.* Сіваваронка. *Найшоў кубло сінюхі с сінімі яйцамі.* Сямігосцічы. *Сінюха яйца несе сініе.* Альпень.

СІНЮ′ХІ *мн.* Від ажын. *Е ожыны, а е сінюхі кіслые. Воны сініе с каменчыкамі.* Сямігосцічы.

СІНЯ′К *м.* Сіняк. *Сіняк, ек головешка.* Сямурадцы. *Посаджаў сінякі на цело.* Цераблічы.

СІНЯ′ЎКА *ж.* Малы шчупак. *Е пезкозоб, е ерш, е судак, е сіняўка.* Дварэц.

СІ′ПАЛКА *ж.* Жанчына, якая гаворыць сіплым голасам. *Онё сіпалка пойшла. Вона ек говорыць, то сіпіць.* Верасніца. *Сіпалка от сварок вечных.* Пагост.

СІ′ПАЦЬ *незак.* Сіпець. *Селезень голосу не мае, так одно сіпае.* Луткі.

СІПЕ′ЦЬ *незак. перан.* Рассыпацца, раскісаць. *От снег ужэ сіпіць, весна.* Аздамічы.

СІ′ПЛО *прысл.* Сіплым голасам. *Сіпло говóрыць, простыў да огаз.* Аздамічы. *Вуспеваў голос да сіпло говорыць.* Пагост.

СІ′ПНУЦЬ *незак.* Сіпнуць. *Ногі померзнуць, то і сіпну.* Бярэжцы.

СІ′ПО *прысл.* Сіплым голасам. *Зусім сіпо говорыў од тое воды холодное.* М. Малешава.

СІПОЦЕ′ЦЬ *незак.* Шумець, пеніцца (аб страве пры закісанні). *Ужэ сіпоціць той борш на столе.* М. Малешава.

СІ′ПЫ *прым.* Сіплы. *Вона навек сіпа.* Бярэжцы.

СІРО′СТВО *н.* Сіроцтва. *Собака чуствуе сіроство.* М. Малешава.

СІРОТА′ *м.* і *ж.* Сірата. *Буў такі хлопец, годоваўса сіротою, ні було нікого ў ёго.* В. Малешава. *Шкодуюць, шо целя остолосо сіротою.* Запясочча. *Сіроце доварыцца ў жывоце* (прымаўка). В. Малешава. *Сіроце жэніцца, то і ноч мала* (прымаўка). М. Малешава. △ К р у́ г л а с і р о т а́. Без бацькоў. *Узяў жонку, а вона кругла сірота, нема нікого.* Дварэц. *Кругла сірота: ні собакі, ні кота* (прымаўка). Старажоўцы. С і р о́ т ы п о ў с т а в а́ л і. Пра вялікі страх. В. Малешава.

СІРОЦІ′НА *м.* і *ж. экспр.* Тое ж. *Сіроціна, і трэ було*

*так пострадаць.* М. Малешава. *Нікому не горэ, як той сіроціні, ніхто не прыгорне пры ліхой годзіні* (з песні). Старажоўцы. *На чужыні — ек сіроціні* (прымаўка). Пагост.

СІ′ТНІ *прым.* Сітны. *Сітній хлеб не ўрэдзіў.* Запясочча.

СІ′ТНІК *м.* Сітнік. *Сітніку не хочэ корова. Гэто не сено.* В. Малешава. *Е сітнік жа́бячы, а е лугову.* Хачэнь. *Сітнік, му ж рвом ёго, вон солодкі.* Луткі. *Сітнік едзяць дзеці.* Цераблічы. *По болоцёх е того сітніка богато.* Мачуль. △ С і т н і к к о́ н ь с к і. Круглец. Бярэжцы.

СІ′ТО *н.* Сіта, рэшата. *Сеюць на сіто муку да хлеб пекуць.* Верасніца. *У нас сітэ старэ загінуло.* Сямурадцы. *Памянш.* с і т ц э. *Новэ сітцэ на колочку вісіць, ек остараецца, той под лаўкою поваляецца* (прымаўка). Старажоўцы.

СІТОВА′ТЫ *прым.* Трухлявы. *Дуба сітоватого на подваліну не положыш.* Верасніца.

СІ′ТОЧКА *ж.* Пліска. *Ек прылета́е сіточка, то цепло́ будзе.* Хачэнь.

СІ′ЦЕВУ *прым.* Трухлявы. *Вубіралі смоліну сіцеву.* Сямігосцічы.

СІЯ′ЦЬ *незак.* Ззяць, зіхацець. *Прамо сіяе той по́лог беленькі.* Сямігосцічы. *Усе на ему сіяе.* Запясочча. *Коб з куплёных клубочкоў ніток вуткаў дзеругу, то аж сіяло.* Луткі. *От сіяе, ек та кра́ска!* Бярэжцы.

СКАБА′, СКОБА′ *ж.* 1. Скаба. *Скобою ўкрэпіш да чэшэш.* Пагост. *Скаба.* Аздамічы. 2. Спускавы кручок. *За скобу спусковую торкну́ў — і бах!* Мачуль.

СКА′БУР *м.* Скаба. *У людзей забіваюць нарошно скабур, шоб ногі вуціраць коло ганка.* Сямурадцы.

СКАЗ *м.* Вымаўленне, гаворка. *Ужэ нема зубоў, то нема і того сказу.* Хачэнь. *Ек подужаў от дзедового сказу.* Пагост.

СКАЗАНУ′ЦЬ, СКАЗЕНУ′ЦЬ, СКАЗНУ′ЦЬ *зак.* Сказануць. *Ты так сказанеш, што не сюды, не туды.* Альпень. *Сказенуц.* Запясочча. *Шчо сказну, ужэ воны ў той блокнот.* Дварэц. *Сказануў не подумаўшы.* Пагост.

СКАЗА′ЦЦА *зак.* Вымавіцца, сказацца. *Ніколі не говору, а цепер сказалоса.* В. Малешава. *Як кому скажэцца: біскаць ці бізкаць.* Там жа.

СКАЗА′ЦЬ *зак.* Сказаць. *Сказала тэ, шчо було, а шчо будзе, то побачым.* М. Малешава. *Надо раз сказаць,*

*а два зробіць.* Хачэнь. *Скагі, покагі говораць у Малешэві.* Запясочча. *Я ўжэ спаў, спаў і годзі сказаў, я ўжэ вуспаўса.* Старажоўцы. *У нас, скажэмо, шляху не було.* Цераблічы.

СКАЗНІ'ЦЬ *зак.* Знявечыць. *Сказнілі його сына так моцно, шо ўсе-усе поотрэзалі.* Старажоўцы.

СКА'КАЛКА *ж.* Дзіцячая гульня. *У скакалцы дзесець колоў.* Цераблічы.

СКА'КАНКА *ж.* Тое ж. Альпень.

СКАКА'ЦЬ *незак.* Скакаць. *Кожушкі скакаюць уверх с комлі.* Цераблічы. *Ек удырыша, то по леду поўтора пейня, а ў вочах куры скачуць.* Луткі. *Два раз бачыла, ек на Купалного Івана скачэ сонцэ, трэ ранењко, шчоб не за хоромамі гледзець.* Там жа. *На похілэ дзерэўцэ й козы скачуць* (прымаўка). Сямурадцы. *Сухі стахей по хаце скачэ* (загадка). *Венік* (адгадка). М. Малешава. △ С к а к á ц ь у к ó н і к і. Хістацца (пра п'янага). *П'яны дзядзько скачэ ў конікі.* Запясочча.

СКАКУ'Н *м.* Конік. *Скакуны е велікіе, ці порэжэш, то его почавіш, кáпнеш і загойваецца рана.* Цераблічы.

СКАЛ *м.* Бяззубка. *Чэрэпаха, а ў серэдзіні скал.* Альшаны.

СКАЛА' *ж.* 1. Вялікі кавалак. *О, такіе скалы лежаць удобрэнья, порозбіваць мо.* Луткі. 2. Вялікія плямы ржаўчыны. *Вода постоіць суткі, і по ей скалы йдуць.* Дварэц.

СКА'ЛІЦЦА *незак. метаф.* Смяяцца. *Чого ты скалісса, згорнуў ліцэ?* Запясочча.

СКА'ЛІЦЬ *незак.* △ С к á л і ц ь з ý б у. Смяяцца. *Стояць да шчэ зубі скаля́ць.* Сямігосцічы. *І зубкі давай з ею скаліць.* В. Малешава. *Чого ты скаліць зубы почаў?* Мачуль. Вытарэшчваць. *Чо ты вурочыў очы да скаліш на мяне?* Сямігосцічы.

СКА'ЛКА, СКА'ЛЬКА *ж.* 1. Скалка, кропля тлушчу на вадзе. *От жырные крышаны, аж скалкі плаваюць!* М. Малешава. *Ек закруцілі качку, то й скалкі не було* (такая худая). Верасніца. 2. Бяззубка. *Скалькі цегаюць да свіням вараць.* Рубель. *Свіньня скалкі нáгле страшно любяць.* Альшаны. *Памянш.* с к á л о ч к а. *От борщч, ні скалочкі, худы.* В. Малешава.

СКАЛОО'КІ, СКАЛЕО'КІ *прым.* Прыжмураны. М. Малешава.

СКАМЕНЕ'ЦЬ *зак.* Скамянець, высахнуць. *Скаменела соль, ссохла.* Кароцічы.

СКАМЕ'ЧЫЦЬ *зак.* Скамячыць. *Так вон ёго скамечыў!* Рубель.

СКАНА'ЦЬ *зак.* Памерці. *Маці ўжэ сканала, а дзіця по нежывой цыцку ссала.* Люткі. *У час ночы почала канаць, ой, мучаласа!* Пагост.

СКА'ПАНЫ *прым.* Падобны, як дзве кроплі. *Вона уся Ева будзе, да ек скапана!* Люткі.

СКАПУ'ЦІЦЦА, СКОПУ'ЦІЦЦА *зак. метаф.* Памерці, здохнуць. *Скапуціўса дзед, а баба сама осталаса.* Люткі. *Скопуціўса конь, здох.* Пагост.

СКАРАБУ'НІЦЦА *зак.* Ускарабкацца. *Скарабуніўса вусóко.* Альшаны.

СКАРАЛЮ'ШКА, ШКАРАЛЮ'ШКА *ж.* Ракавіна малюска, бяззубка. *У голодоўку скаралюшок елі тые людзі.* Запясочча. *Бувае, шо ў той шкаралюшцы шо седзіць.* Там жа.

СКАРАЛЮ'ШЧЫНА *ж.* Створка ракавіны малюска. *Поба, екі цвет у скаралюшчыны, белая, але і розоватым і сінёватым отлівае.* Пагост. *Скаралюшчына расчэпваецца — і жаба выводзіцца.* Там жа. *Посохла рыбка на скаралюшчыну.* Дварэц.

СКАРАЛЮ'ШЧЭ *н. зб.* Ракавінкі малюскаў. *Пошлі, хлопцы, у друге место купацца, а то тут скаралюшча багато, ногі шчэ порэжом.* Пагост.

СКАРА'ЦЬ *зак.* Пакараць. *Скарай мане божэ, шчо коб у мане буў такі чоловек, ек одэто твой сын, да шоб я з ім ехала!* Мачуль.

СКАРБО'ЎКА *ж.* Будка, дзе захоўваецца ўвесь скарб плытагонаў. *У скарбоўцы прыкашчык еўрэйчык.* Запясочча.

СКАРГА', СКІРГА' *м. і ж.* 1. Прыдзірлівая, з'едлівая асоба. *Скарга крычыць, скаргачыць.* Альгомель. *От баба седзіць скарга, вона урэдна.* Тураў. *Ешчэ ўсе тая баба-скарга жыве?* Там жа. 2. Скупы чалавек. *Така скарга, шо с-под себе поела!* Верасніца. *Скірга ўсе ў панчоху хавае, а нічого не спажывае.* Там жа. 3. Сарока. *Скірга скэргэчэ.* Люткі.

СКАСОВА'ЦЦА *зак.* Згінуць, прапасці. *Ужэ скасоваласа та мошкара.* Хотамель.

СКАСОВА'ЦЬ *зак.* 1. Не зрабіць чарговага кроку ў гульні *ў цурку.* Запясочча. 2. Скасаваць, ліквідаваць.

*Скасовалі парцізаны старосту немецкого, шо глуміў людзей.* Пагост.

СКА'ЦЕРЦЬ, СКА'ЦЕРСЦЬ *ж.* Абрус. *Хорошые скацерцé позаслала.* Аздамічы. *По краёх шчэ карункі к скацерці прышыю.* Пагост.

СКАЧА'Г *м.* Малы язь. *Скачагі — молодые под'язічы.* Мачуль.

СКА'ЧВАЦЦА *незак.* Скочвацца, спадаць. *Трошкі бу скачваецца вода.* Запясочча. *Вода скачваецца хутко.* Мачуль.

СКА'ЧВАЦЬ *незак.* Скочваць, скручваць. *Скачваюць белэ полотно ў дзве сталкі.* М. Малешава.

СКА'ШВАЦЬ *незак.* Скошваць. *Скашвалі жыто косамі.* В. Малешава.

СКВА'РКА, ШКВА'РКА *ж.* Скварка. *Возьмі шкварку сала на работу.* М. Малешава. *Скварка — велікі кусочэк сала, а вускоркі — маленькіе.* Там жа. *Будзе чарка, будзе й скварка* (прымаўка). Там жа.

СКВЕРА'Ч *ж.* Івалга. *Скверач дзерэцца.* М. Малешава.

СКВЕРО'ТА *н. зб.* Плакса, капрыза. *Годзі, скверото, плакаць.* Лутккі.

СКВЕРЦІ'СА, ШКВЕ'РЦІСА *незак.* 1. Сквірчэць. *Коўбаса скверэцца на сковородзе, а му бером і закусваем.* Верасніца. *Скверацца сырые дрова, не горацЬ.* Цераблічы. *Шкверэцца сало ў печэ.* М. Малешава. 2 *перан.* Хныкаць, паціху плакаць. *Чого ты скверэсса, плачэш?* Запясочча.

СКВОЗНІ'ЦЬ *незак.* Прадзімаць, праймаць. *Еттыка сквозніць, посуньса.* Запясочча.

СКВОЗНЯ'К *м.* Скразняк. *Проняло сквозняком.* В. Малешава. *Сквозняк сквозніц.* Запясочча.

СКЕМ, ШКЕМ *м.* Лісіца. Хотамель. *Шкем.* Аздамічы.

СКЕ'МІЦЬ *зак.* Скеміць, зразумець. *Это можно скеміць, хто чым дышэ.* Сямурадцы. *Скеміла свіньяя лычэм зашчэпку подняць.* Пагост.

СКЕ'МКАЦЬ *зак.* 1. Скеміць, зразумець. М. Малешава. 2. Скамячыць. *Скемкаў, скурожыў, зробіў комок.* В. Малешава. *Скемкаў, а не здзелаў.* М. Малешава.

СКЕ'МОЦЕНЬ *м.* Вялікі мароз. Тураў.

СКЕ'ПКА *ж.* Трэска. *Скепкі горацЬ на коміні.* Верасніца. Лучыніна. *Кладзе дзве, тры скепкі на посвет да*

*горыць*. Старажоўцы. *Подай з чэрэна́ скепку, грубу буду подпальваць*. Пагост. *Скепку зогнаў медзведзь*. Аздамічы.

СКЕРГЕТА'ЦЬ, СКІРГЕТА'ЦЬ, СКАРГАТА'ЦЬ *незак*. 1. Скагатаць, прарэзліва крычаць (пра птушак, жаб). *Нешчо сорока скергечэ, на нейкі госць*. Бярэжцы. *Жаба скіргетала на негоду*. В. Малешава. *Сорока звесць дае, будзе госць, то вона скергічэ*. М. Малешава. *Е жаба, шчо скіргечэ, ек сорока*. Верасніца. *Ек сорока скіргечэ на дворэ, то знай — новіна будзе*. Хачэнь. *Скаргачуць жаворонкі*. Сямурадцы. *Сойка скаргачэ по лесу́*. Запясочча. *Вороб'е скоргочуць*. Аздамічы. 2 *перан*. Адрывіста смяяцца. *Чого ты скергечэш, ек сорока*. Хачэнь.

СКІ'БКА *ж*. Скібка. *Скібку хлеба отрэзала*. Запясочча. *На скібку хлеба*. Там жа. *Памянш*. скі́бочка. *Скібочку сала отрэзала*. Верасніца.

СКІ'ВІЦЫ *мн*. Сківіцы. *Даў кулаком у сківіцы ему*. М. Малешава. *По сківіцах ударыў*. Альпень.

СКІГІТА'ЦЬ *незак*. Скагатаць. *Сова скігітала, ужэ нехто ўмрэ* (павер'е). Хачэнь.

СКІДА'ЦЦА *незак*. 1. Падскокваць, ускідвацца. *Скідаласа веліка рыба*. Луткі. 2. Перарабляцца, ператварацца. *Ведзьму скідаюцца на Купалного Івана*. Луткі. *Чым попало, тым скідаецца, можэ і жабою*. Там жа.

СКІДА'ЦЬ *незак*. 1. Скідаць. *Я хоцеў чоботы скідаць*. Пагост. *А вона ўсе с того воза скідае*. Мачуль. *А, ліхо твоей мацеры, скідай штаны!* Кароцічы. 2. Адкідаць. *Сковороднікі два скінула*. Верасніца. △ Скіда́ць зу́бы. Мяняць зубы (пра каня). *Когда конь скідае зу́ба і хозяін продае коня, і вон его поворухае, то дзе б ні буў — то прыдзе*. Дварэц.

СКІ'НУЦЦА *зак*. 1. Падскочыць, ускінуцца. *Скінуласа недзе рыба, чуеш, брохнула*. Сямігосцічы. 2. Перакінуцца, ператварыцца. *Ваш бацько буў мо воўкулак, воўком мог скінуцца*. Сямігосцічы. *Пужа́ло нешчо, так скінулосо котом*. Запясочча. *Ведзьма скінулас у жабу*. Луткі. *Вумерзло жыто і ў метліцу скінулосо*. Мачуль.

СКІ'НУЦЬ *зак*. 1. Скінуць. *Не скінь целівізора*. Сямігосцічы. *Твой конь скінуў мене*. Хачэнь. *Ек скінеш яйца ластаўкі, то будзе рабоцінье* (павер'е). Старажоўцы. *Усе паны скінулі кафтаны, а одзін пан не скінуў кахтан* (загадка). *Сасна* (адгадка). Там жа. *Коты скінуць, поб'юць пляшку*. Бярэжцы. 2. Ускінуць. *Скінь масло на*

*сковороду да росплувецца хай.* Запясочча. *Там усе попоўшчына, ек оком скінуць.* Дварэц. *Одзін год воўк ухопіў поросятко, скінуў на спіну і попёр.* Пагост. 3 *перан.* Зварыць. *Скіну шо-небудзь собе, дай жыву.* Хачэнь.

СКІПЕ'ЦЬ *зак. метаф.* Прапасці. *Шчоб вона скіпела з гэтою мекіною!* Дварэц. *Хай вон скіпіць, гэты дождж!* Хачэнь. *Шчоб вона скіпела, така пекуча цыбуля.* Луткі.

СКІСА'ЦЬ *незак.* Скісаць. *Скісаць у печ молоко ставім.* Пагост.

СКІ'СНУЦЬ *зак.* Скіснуць. *Шоб не скісло молоко, то трэба суха посудзіна.* В. Малешава.

СКІТА'ЦЦА *незак.* Блукаць, бадзяцца. *Цалу жысць скітаўса.* Аздамічы. *Скіталіся людзі ў войну.* Сямігосцічы.

СКЛАД *м.* 1. Склад (памяшканне). *З гумен склад зробілі.* Дварэц. 2. Склад (пра ворыва). *Оруць на склад.* Запясочча.

СКЛАДА'НЫ *прым.* Складзены. *По дзве жменькі да петнаццаць раз, то гэто складаны дзесяток цертого лну.* Дварэц.

СКЛА'ДА'ЦЬ *незак.* Складаць. *Складае ў ворох, коб больш месца було.* В. Малешава. *Грэбці сено не варт, складаць копу не варт, а піць варт.* М. Малешава. 2. Адзяваць. *Скла́даем плацье.* Луткі. 3. Ускладаць. *На бýсько складаеш віну, шчо ціплета похапаў, мо так дзе загубілосо.* Луткі. 4. Ствараць. *Як жылі, так і песні складалі.* Сямігосцічы.

СКЛА'ДКА *ж.* Складчына. *Складку складаюць, коня купляюць.* Мачуль.

СКЛА'ДКІ *мн.* △ Скла́дкі склада́ць. Рабіць запасы. *Нашчо старой бабі складкі складаць.* М. Малешава.

СКЛАДНО' *прысл.* Складна. *Коб складно було, то кажуць: прыдзе вербіч — на плечы кожуха торбіч* (прымаўка). Верасніца.

СКЛАДОЎШЧЫ'К *м.* Кладаўшчык. *Вона була складоўшчыком на складзі.* М. Малешава.

СКЛА'ДОЧКА *ж.* Скарбонка. *У его е такая пýшэчка, то ўсе ў свою эту складочку складае грошы.* Кароцічы.

СКЛА'СЦІ *зак.* 1. Скласці. *Му згрэбалі, а воны пошлі склалі тэ сено ў стожок.* М. Малешава. 2. Перакласці. *Сам походжаў рэжоўку, а на мене склаў, ну й зараза!* Пагост. 3. Адзець, надзець. *Шапку чому не*

*склаў?* Бярэжцы. △ Скла́сці о́чы. Угледзецца. *Очы склаў на ее, шо вона така красавіца.* М. Малешава. *Усе очы склалі на Ульяну.* Луткі.

СКЛА'ЎШЫ *дзеепрым.* Склаўшы. *Седзіць рукі склаўшы.* Сямурадцы.

СКЛЕ'НДЗІЦЬ *зак.* Скруціць, скрывіць. *Склендзіло ногі.* М. Малешава.

СКЛЕ'НЧЫЦЦА *зак.* Сысціся, згрупавацца. *Собакі скленчыліса ў гойню́.* Цераблічы.

СКЛЕП *м.* Труна з шасці дошак. *Зробілі склепа Кірушу, а коліся робілі домовіну.* Луткі.

СКЛЕПОВА'НЬЕ *н.* Скляпенне, паднябенне ў печы. *Склепованне робяць.* Кароцічы.

СКЛЕ'ПОМ *прысл.* Падобна да склепа. *Домовіну робяць склепом, а колісь домовіна дошкою накрывалася.* Сямігосцічы.

СКЛЕЦЬ *незак.* Гібець, чэзнуць. *Хай воно склее, шоб его не було!* Рыдча. *Не жыве, а склее.* М. Малешава. *Зажэнуць у тупік вагоны дай склеюць там трое суток.* Мачуль.

СКЛОБІ'ЦЬ, ШКЛОБІ'ЦЬ *незак.* Скрэбці. *Недзе ў нас дошка була склобіць рыбу.* М. Малешава. *Колісь я склобіла подлогу, а цепер крашэна.* Там жа. *Пляхі склобіць трэбо.* Запясочча. *Склобілі кору з івіны да парылі і загоілосо опечэнэ.* Луткі. *А на той подлозі було, шо зелезніком склобі!* Старажоўцы. *Склобімо картоплі зразу, ек молодзе́нькіе.* Кароцічы. *Вона шклобіла ножэ́м стола.* Хотамель.

СКЛО'БКА, ШКЛО'БКА *ж.* Скобля. *Вісклобіў дзерэўцэ склобкою.* В. Малешава. *Склобка — склобіць дзерэво.* Бярэжцы. *Шклобка.* Хотамель.

СКЛОН *м.* Нахіл. *Уся вода сце́кае по склонах.* В. Малешава.

СКЛОНІ'ЦЦА *зак.* Пакланіцца. *А йшоў мужычок по дорозі, а йшоў вецёр і сонцэ і мороз, а мужычок склоніўс ім* (з казкі). В. Малешава.

СКЛЯ'КЦІ *зак.* Змарнець, згінуць. *Жыто на полі склякло, колосье спа́двае.* Запясочча.

СКМЕ'ТЛІВЫ *прым.* Кемлівы, прыметлівы. *Моя стара́ була скметлівая.* Запясочча.

СКМЕ'ЦІЦЬ *зак.* Прымеціць, заўважыць. *Скмеціў, як ты ховаў.* Альшаны. *Я скмеціла, шо воны пута́юцца Коўпака.* В. Малешава. *Скмеціла, шо на ее очы склаў*

*той пан.* М. Малешава. *Ішоў ховаўса, а я его скмеціў.* Запясочча.

СКНА'РА, СКНЫ'РА *м.* і *ж.* Скупы чалавек. *Жáдна, скупá така скнара, гвалт! Зéмлю п ту поела пот собою!* Бярэжцы. *Скныра, коб уміраў, то й воды не дасць чоловеку.* Луткі. *От скныра, шкодуе собе і поесці.* Там жа.

СКНЫ'РЫ *прым.* Скупы. *От скныры чолóвек, век нікому нічого не дасць.* Луткі.

СКНЫРНО'ТА *м.* і *ж.* Скупы чалавек. Луткі.

СКОВА'ЦЬ *зак.* 1. Цкаваць. *Сковаць собакою не можно чоловека.* Сямігосцічы. *Ты мне собаку не скуй!* М. Малешава. 2. Скаваць. *Скуй мне такі голосок, ек у бабкі* (з казкі). Запясочча. 3. Закаваць. *Прыехала міліцыя к ему, сковала і забрала.* М. Малешава.

СКОВОРОДА' *ж.* Скаварада. *Сковород тры наглых млінoў спеку і хваціць вам.* Дварэц. *А сковороду подмазаў, наліў да нехай печэцца.* Луткі.

СКОВОРО'ДНІК *м.* Скавароднік. *Ек хлеб пекуць да с цеста скіне на сковороду, да полёпае, да спечэ, то і сковороднік.* Запясочча. *Сковороднік спечэш на сковородзе, ек трэба хутко.* Сямурадцы.

СКОВОРО'ДНІЦА *ж.* Тое ж. *Колісь сковородніцу пеклі з жытнёго цеста.* В. Малешава.

СКОГЛІ'ЦЬ *незак.* Скавытаць. *Лісок скогліць бу собака, але не так.* Цераблічы. *Собака скогліць пыд хатою.* Мачуль.

СКОДА'Ў *м.* Клінок, мяшочак на сыр. *Оттопліваем молоко ў печы да ў скодаў.* Альпень. *Памянш.* с к о д á ў ч ы к. Рубель.

СКО'ІЦЦА *зак.* Адбыцца. *Полежы, сынок, вонэ скоіцца.* Дварэц. *Пока свадзьба скоіцца, то ваўка загоіцца* (прыказка). М. Малешава.

СКОЛОДНЕ'ЦЬ *зак.* Збуцвець, сапрэць. *Полено сколоднело, под корою стало слабец.* Запясочча.

СКОЛОЗУ'БУ *прым.* Скалазубы. *Сколозубі — это одзін правільны зуб, а другі на ёго лезе.* В. Малешава. *Сколозубы — ек неройно зубы поростуць, то туды, то сюды. У нас неколі брыгадзір сколозубу буў.* Луткі.

СКОЛОМУ'ЦІЦЬ *зак.* Скаламуціць. *Лінкі сколомуцілі воду коло броду.* М. Малешава. *Шо ты воду сколомуціў?* Запясочча.

СКОЛОО'КІ *прым.* Касавокі. Запясочча.

СКОЛОПЕ'ЦІЦЬ *зак. экспр.* Скаламуціць, змяшаць з граззю. *Сколопеціў воду, броўшы.* Пагост.

СКОЛОТНУ'ЦЦА *зак.* Скалануцца. *Ек грымнуло, я й сколотнуласа.* Запясочча.

СКОЛОЦІ'ЦЬ *зак.* Скаламуціць, змяшаць. *Сколоцілі гусі воду, вона стала нечыстая, коломутная.* Лутків. *Воду сколоціць трэба нагамі, тоды карасі рукамі беруць.* Мачуль. Збіць. *Было м'яко, дождж сколоціў, збіў землю, і нічого не росце.* Хачэнь. △ С к о л о ц і́ ц ь м а́ с л о. Збіць масла. *Быстро сколоціла масло.* Запясочча.

СКОЛО'ЦЦА *зак.* Скалоцца. Аздамічы.

СКОЛО'ЦЬ *зак.* Пракалоць, укалоць. *Уцекай, Васілько, бо корова сколе.* Тураў. *А вон воўка сколоў пéшнею.* Лутків. *Бугай хочэ сколоць, звером робіцца.* Цераблічы. *Я б, здаецца, сколоў того чоловека, шо ругаецца.* Мачуль. *Тупу-тупу ножкамі, сколю цебе рожкамі, хвосціком хату замету* (загадка). *Карова* (адгадка). Сямігосцічы.

СКОЛО'ЧАНЫ *дзеепрым.* Скаламучаны. *Сколочаная вода — каламутная, шчытайце.* Лутків. *Сколочана ўжэ долінка, рыбу тут не будзе.* Пагост.

СКОЛЬ *ліч.* Колькі. *Ек гуляюць у грошы, то догова́рваюцца на сколь ідзе, ек банкуе.* Чэрнічы.

СКО'ЛЬКО, СКО'ЛЬКІ *ліч.* Тое ж. *Сколько га́везу попіла́, страх!* Сямігосцічы. *А сколько се́м'я на полі!* Мачуль. *Колькі мэ́ншуй годоў?* Там жа.

СКО'МА *ж.* Аскома. *От у мене ўпала скома на зубу од яблок.* Лутків. *Скома напала от журавін.* Цераблічы.

СКОМЕ'КАЦЬ *зак.* Зразумець. *Бацькова голова скомекала, шо трэбо було сказаць!* М. Малешава.

СКО'МКАЦЬ *зак.* Скамячыць. *От одзежыну скомкала!* Аздамічы.

СКОНДЗЯ'БІЦЦА *зак.* Сагнуцца, зніякавець. *Ты ўжэ постарэла, скондзябіласа.* М. Малешава. *Скондзябіласа я, шо под ногамі только й бачу.* Пагост.

СКОНДЫ'БАЦЬ *зак.* Прайсці на хадулях. *Я стала на кондыбах і скондыбала скорэй за ўсіх.* М. Малешава.

СКО'НЧЫЦЬ *зак.* Закончыць. *Коб не цёткі, то не скончыў школу: і карандашы, і пера, і білеты — усе прыносіла Матруна.* Дварэц.

СКОПЕ'Ц *м.* Капец. *У скопец закопваюць бульбу на зіму.* Альшаны. *Загрэбла тры скопцэ картоплеў.* Луткі.

СКОПІ'ЦЦА *зак.* Сабрацца. *Вода скопіласа, а потóм пошла ўся.* В. Малешава.

СКОПУЦІ'ЦЦА *зак. экспр.* Здохнуць, памерці. *Аж вона до вечэра скопуціласа.* Запясочча. *Покропілі пашу, скопуцілосо сорок короў.* Пагост.

СКОПІ'ЦЬ *зак.* Скласці ў капу. *Учора нагроб і скопіў сено.* Старажоўцы. *Згрэблі сено ў валы да не справіліса скопіць у копу, дождж не даў.* Сямурадцы.

СКОРА' *ж.* Скарынка. *Хлеб сеў на скорэ́, не даўса.* Альпень.

СКОРБ *м.* Смутак. *Мо некі скорб будзе.* Запясочча.

СКОРБЕ'ЖЫЦЦА *незак.* Скруціцца ў скруткі. *Нітка скорбежыцца і не лезе ў голку.* Луткі.

СКОРБО'НКА *ж.* Скарбонка. *Скорбонка на копейкі була ў цэркві.* Аздамічы.

СКОРГАНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Сказаць (рэзка). *А той скорганув: «А твое ж там булі?»* Цераблічы.

СКО'РКА *ж.* Скарынка. *Скорка верхняя і ніжняя, а ў серэдзіне м'якіш.* Сямігосцічы. *Скоркі будуць пужаць уночы, ек не доесі* (зварот да дзяцей). В. Малешава. *Скоркі любіла, ек на лопату насцелю дубову ліст.* М. Малешава. *Осталаса скорка хлеба ды вельмо вусохла вона.* Там жа. △ Се́сці на скóрку (на скóрцы). Адстаць ад скарынкі. *Хлеб сеў на скорцы.* Запясочча. *Памянш.* скóрочка. *Рада б скорочку хлеба ўзяць.* Любавічы.

СКО'РО *прысл.* Скора, хутка. *Скоро на болонье погеном товар.* В. Малешава. *Йдуць оны, а дзеўка жне, так скоро жне, стараецца* (з казкі). Сямурадцы. *Полежала мо дзевець недзель дай умерла. Скоро, й не додзела вельмі вона нам* (пра маці). Там жа. *Скоро вўшчэрыцца соўнейко до поцеплее.* Хачэнь. *Эдзік, ходзі да поесі! Скоро! Чуеш?* Сямігосцічы. *А ўжэ скорэй побегла, да воды попросіла.* Пагост.

СКОРО'МНЭ *прым.* Скароміна. *Тепер мясоед, будем есті скоромнэ.* Альпень. *Это ўсе постнэе, а скоромного не давалі есці.* Старажоўцы.

СКОРОСПЕ'ЙКА, СКОРОСПЕ'ЛКА, СКОРОСПЕ'ЛЬКА *ж.* Скараспелка. *Скороспейку посеялі рано, то ўжэ й картоплі е ў бабы.* М. Малешава. *Хіба ў іх мо*

*нейка капуста-скороспелка?* Бярэжцы. *Скороспе́лька.* Запясочча.

СКОРОСПЕ′ШНО *прысл.* Раптоўна. *Вон скороспешно ўмер, віў вероўку да ўпаў, да ўсе.* Старажоўцы.

СКОРОХВА′ТОМ *прысл.* Хутка, паспешліва. *Скорохватом собраўса за п'яць мінют.* Аздамічы.

СКОРО′ЧЫЦЬ *зак.* Знявечыць, скруціць. *Скорочыць сам себе на векі.* В. Малешава.

СКОРПА′ЦЬ *зак.* Скалупнуць, спіхнуць. *Могуць скорпаць цебе свінья.* Старажоўцы. *Скорпаў коросту з раны, а шкура тонеька, ек плеўка.* Пагост.

СКО′РЫ *прым.* Хуткі, скоры. *О, скорые, захоцелі шчоб ім і квацеру далі за два годы!* Сямігосцічы. △ Н а с к о́ р о м ч а́ с і. У бліжэйшы час. *Одморозіць шчо, ек на скором часі, то снегом одціраe, ек потом — то гусінім салом.* Луткі. *Коб на скором часі спасаць, то спаслі б чоловека.* Сямігосцічы. Н а с к о́ р у р у́ к у. Хутка, з большага. *На скору руку зготовіла еешню да покорміла.* Пагост.

СКОС *м.* Валок скошанай травы. *Скосы потaлі, ек прышла вода.* Сямігосцічы. *Грэбуць скосы, а вода под скосы.* Альшаны. Пракос. *Іду другого займаць скоса.* Альшаны.

СКО′СА *прысл.* Коса. *Скоса гледзіць, злы.* Запясочча.

СКОСІ′ЦЦА *незак.* Перакасіцца. *Скосіліс дзверы.* Альшаны.

СКОСІ′ЦЬ *зак.* Скасіць. *Берэ́знікі ўжэ скосілі.* Бярэжцы. *Сено́жаць свою скосіў, згроб, скідаў стога і пометнік поклаў.* Дварэц.

СКО′СОК *м.* Абкосак касы, скосак. *Коса скосіласа, одно скосок остаўса.* Аздамічы.

СКОСО′ЎВАЦЬ *незак.* Знішчаць. *Годовалі лес і не сталі его скосоўваць.* Сямігосцічы.

СКО′ЎЗКО *прысл.* Слізка. *Скоўзко на гразе.* Аздамічы.

СКОЎЗНУ′ЦЬ *зак.* Саслізнуць. *Ву ніку́ды не можэце скоўзнуць?* Старажоўцы. *Скоўзнуў з кладкі да ў берэг полецеў.* Пагост.

СКОЎПАСІ′ЦЬ *зак.* Абрабіць з большага, абы-як. Запясочча.

СКОЎПА′ЧЫЦЬ *зак.* Паблытаць, пакалмаціць. *Тая машына скоўпачыла лён.* Бярэжцы.

СКОЦІ'НА *ж.* 1. Жывёла. *Первуй іней упадзе, то скоціна поедае ўсяку зелень.* М. Малешава. 2 *перан. лаянк.* Грубы, бяздушны чалавек. *Скоціна ты, а не чоловек!* М. Малешава.

СКО'ЦІСТО *прысл.* Спадзіста. *У мене хозяін поклаў подлогу і скоцісто ў хлёве — не гразко.* Луткі.

СКО'ЦІСТЫ *прым.* Спадзісты. *Гура така — і сюды скоціста і туды скоціста.* Хачэнь. *Там поле скоцістэе, вода не стояціме.* Луткі.

СКО'ЧКА *ж.* Скочка (расліна). *Скочка плецецца так на мóгліцах.* Луткі.

СКО'ЧОК *м.* Дзіцячая гульня ў класы. Запясочча.

СКО'ЧЫЦЬ *зак.* Скочыць. *Хоць урэзаўся, але і скочыў.* Луткі. *Воўк скочыў церэз кýста і схопіў овечку.* Там жа. *Праўда, тры разы́ скочыў угору, попáло, набуць, ему.* Мачуль. *От ганін до роздва — ек козе скочыць* (пра тэрмін). Цераблічы. *Скачы, кумо, траву віднó. Ек скочыла кума, то і дна німа* (прымаўка). В. Малешава. *А кісель не еда: с печы скочу да зноў есці захочу* (прымаўка). Старажоўцы.

СКО'ШКАЦЬ *зак.* Знайсці ў кубле. *Скошкаў качку.* В. Малешава.

СКО'ШЭНЫ *дзеепрым.* Скошаны. *Мой сенокос скошэны і згрэблены.* Старажоўцы.

СКРА'ГА *м.* і *ж.* Скнара. *Ек не даю, то ўжэ скрага, а чого свого не маеш?* Пагост.

СКРАГНА' *м.* і *ж.* Тое ж. *От скрагна, шкодуе оладка!* Альшаны.

СКРА'ІЦЬ *зак.* Абрэзаць край палоскі. *Скраіць кожу.* Луткі.

СКРОЗЬ 1 *прысл.* Усюды. *Було богато лозы скрозь.* М. Малешава. *Скрозь оболонье, а там кусты.* Верасніца. *Там загородж е скрозь.* Чэрнічы. *Скрозь по дубніку грыбу.* Хачэнь. *Шляхом едзь скрозь, не зблудзіш.* Луткі. *Таке корчэ булі скрозь.* Мачуль. *Скрозь е, і ў Століні, і ў Горыні.* Бярэжцы. 2 *прыназ.* Праз. *Скрозь дзверы і кýрніцы дым ішоў.* Цераблічы. *Осы скрозь стóлю ў шчыльку пролезлі.* Хачэнь.

СКРОМІ'ЦЬ *зак.* Ссячы верх хвоі. *Росце сосна, а я ее скромлю да вул'я постаўлю, скромлю, то вершка ссеку. А то ўжэ лічыцца мой кром.* Мачуль.

СКРОНЬ *ж.* Скронь. *Помажу скроні медом, да пройдзе чад.* М. Малешава.

СКРУ'ЦЕНЬ *м.* Скрутак лазовай кары. Запясочча.

СКРУЦІ'ЦЦА *зак.* 1. Звіцца, скруціцца. *Коўтун у хвосце ў коня скруціўса.* Альшаны. *Скруціліса ў калачэ коло огню.* Луткі. 2. Закруціцца. *Я скруціласа шукаючы, дзе тая кострулька.* В. Малешава. 3 *перан.* Разбэсціцца. *Коб колісь дзейка наклала короткі андарак, то сказалі б, шчо скруціласа.* Сямігосцічы. *Не надоўго стары ожэніўса — не ўмер, да скруціўса* (прымаўка). Сямурадцы. 4 *перан.* Згінуць. *Коб вон скруціўса, той хозяін!* Хачэнь.

СКРУЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Скруціць. *Трэба скруціць перэвесло, шоб звязаць сноп.* Верасніца. 2. Паралізаваць. *Скруціў радзікуліт.* Пагост. △ Скруціць голову (ногу). Пакалечыцца. *Шоб ты собе голову скруціў.* Цераблічы. *То захворэе, то дзе ногу скруціць.* Сямурадцы. Скруціць дўдку. Зняць кару з вярбовай галінкі і зрабіць свісток. Запясочча.

СКРУ'ЧВАЦЬ *незак.* Скручваць. *Скручвае кору з вербы, устаўляе колодочку да грае.* Сямігосцічы. *Скручвае дзве дроціны.* Пагост.

СКРЫВІ'ЦЦА *зак.* Скрывіцца. *Свой хоць не заплачэ, то скрывіцца* (прыказка). Хачэнь.

СКРЫ'ГАЦЬ *незак.* Скрыгаць. *Калёсы едуць і скрыгаюць, ек дроціна почэпіцца.* Бярэжцы.

СКРЫГЕТА'ЦЬ *незак.* Скагатаць. *Сорока скрыгечэ, мо на госці.* Луткі.

СКРЫЛЬ *м.* Губа на дрэве. *Еслі з дуба вўпрэ, то скрыль.* Запясочча.

СКРЫНЬКА *ж.* Шуфляда. Запясочча.

СКРЫ'НЯ *ж.* 1. Скрыня, куфар. *Клалі блізнюкі* (арэхі) *у скрыню, шоб грошы блізніліса, складваліса рубель к рублю.* М. Малешава. *Скрыня — то одзежа лежыць.* Запясочча. *Прыходзілі мою скрыню гледзець.* Дварэц. *Скрыню хорошэ оковалі.* Бярэжцы. *Пойну скрыню молодая везе добра, нельга на воз ее подняць.* Кароцічы. 2. Шуфляда для дзвярэй і акон. *Скрыні ў окна бацько поробіў сам.* Верасніца. 3. Зруб на дне ў калодзежы. Аздамічы. 4. Дамавіна з чатырох дошак. *Поклалі дзеда і бабу не ў адну скрыню, а ў дзве.* Чэрнічы.

СКРЫ'ПАЦЬ *незак.* Рыпаць. *Не скрыпайце дзверыма.* Запясочча. *Устанеш, у році горка, а ў грудзёх скрыпае.* Цераблічы.

СКРЫПА'Ч *м.* Скрыпач. *Скрыпач грае веселные песне́, а госці за столом.* Дварэц.

СКРЫПЕ'ЛЬ *м.* Губа. *Скрыпель — усерэдзіне бі грыб, м'яккі.* Хотамель.

СКРЫПЕ'ЦЬ *незак.* Скрыпець. *Ек дзерэво скрыпіць, то его не зрэзваюць на хату, кажуць, што нельга* (павер'е). Цераблічы.

СКРЫ'ПКА *ж.* Скрыпка. *Колісь пры Польшчы оно скрыпка і барабан.* Сямігосцічы. *Скрыпкою іграў Белко музыкант.* Запясочча. *Дзед ек скрыпка стаў.* Бярэжцы.

СКРЫПУ'ЧЫ *дзеепрым.* Скрыпучы. *Скрыпучэ дзерэво перэжывае здоро́вэ* (прыказка). М. Малешава.

СКРЭБЛО' *н.* Скрабніца, скрэбла. *Нашчо тэ скрэбло, дай оўса коню.* Сямігосцічы.

СКРЭБЦІ' *незак.* Чысціць, скрэбці. *Ек постарэюць картоплі, то лупім, ек молодзе́нькіе, то скрэбом.* В. Малешава. *Набрала я ў ямі буракоў і давай скрэбці.* М. Малешава. *Ішчэ картоплі можна скрэбці, не трэба лупіць.* Тураў.

СКРЭГНА' *ж.* Скнара. Запясочча.

СКРЭ'МВАЦЬ *незак.* Зразаць верх у сасне (для борці). *Ве́рха скрэмвае, шчоб хвоіна на тоўшч росла, шчоб вецёр ее не махаў.* Цераблічы.

СКРЭМІ'ЦЬ *зак.* Зрэзаць верх хвоі. *Ек скрэміш, то вецёр не оберне.* Цераблічы.

СКУБА'ЦЬ *незак.* Скубці, шчыпаць. *Не хоцела вуто́ў скубаць.* Хачэнь. *Да ўсе мене скубае так, да больно!* Старажоўцы.

СКУ'БЛЕНЫ *прым.* Ускалмачаны, падобны на гняздо. *Скублены ідзе, непрычэсаны.* Луткі. *Скублены стог, ямо́к колько.* Пагост.

СКУ'ГАЦЬ *незак.* Скуголіць, вішчаць, кугакаць. *Недзель дзве скугаў, болело.* Запясочча.

СКУГІ'КАЦЬ *незак.* Тое ж. *Сова скугічэ под окном.* Луткі. *Свінья скугічэ ў хлеву, седзіць да й усе.* Тураў.

СКУ'ГЛІЦЬ *незак.* Тое ж. *Скугліць собака за зверыною.* Альшаны.

СКУ'ГНУЦЬ *зак.* Завішчаць. *Скугне раз собака, ек пыжыка берэ.* Альшаны.

СКУДО'ШЫЦЬ *зак.* Скруціць, зблытаць. *Скудошылі той горох дзеці, одные кубла поробілі.* М. Малешава. *Картоплі так скудошыла!* Старажоўцы.

СКУЛА' *ж.* 1. Скула. *Бабі кажуць больш скула*

*ўместо болячка.* Сямігосцічы. *Скулы седзяць у корову́.* Запясочча. *Скулу вуперло.* Рамель. *Як тобе скула не сядзе* (праклён). Там жа. 2. Нарасць на дрэве. *От скула вулезла, таке тоўстэ наросце.* Альпень. 3 *экспр.* Нічога. *Скулу ўжэ ты побачыш.* Запясочча.

СКУЛЬ, СКУ'ЛЯ *прысл.* Адкуль. *Скуль ідзеш? — С Турова.* М. Малешава. *А скуль вон знае шо?* Бярэжцы. *Скуль не едзеш, то городок не мінеш.* Мачуль. *Хата пры краю стояла, скуль не скуль, а вускочыць воўк.* Там жа. *Я забулас, скуль той чоловек.* Хачэнь. △ Скуль хоч. Адкуль хочаш. *Я прыду скуль хоч по сонцу.* Хачэнь.

СКУЛЬБА'ЧЫНА *м.* і *ж.* Крывіна. Альшаны.

СКУЛЬБА'ЧЫЦЦА *зак.* Сагнуцца. *Скульбачылосо, согнулосо і пошло* (пра жанчыну). В. Малешава.

СКУНДЗЯ'БІЦЦА *зак.* Змарнець, зніякавець. *Так скундзябіласа, шо нікуды не варта.* М. Малешава.

СКУ'ПЕЛЕЦЬ *зак.* Згарэць. Запясочча.

СКУПЕ'ЛЬ *м.* Скупеча. Запясочча.

СКУПЕ'НДА *м.* і *ж.* Тое ж. *Скупенда — ек скажэ дай закурыць, а вон кажэ нема, а ў самого поўна запазуха.* Лутк.

СКУПЕНДЖА' *м.* і *ж.* Тое ж. *Скупенджа, дай лісапета покатацца.* Пагост.

СКУПЕНДЖА'КА *м.* і *ж.* Тое ж. *От скупенджака, не дае.* Пагост.

СКУПЕРДЗЯ'Й *м.* і *ж.* Тое ж. *То скупердзяй, снегу не вупросіш.* Верасніца.

СКУПЕ'ЧА *м.* і *ж.* Тое ж. *Скупеча не хочэ даць нікому нічого.* Аздамічы.

СКУПІ'ЦЬ *зак.* Выручыць. *Скупіў мэне з грэха, а то п пропала.* М. Малешава.

СКУ'ПКА *ж.* Група, гурт. *Скупка короў.* Кароцічы.

СКУ'ПЛЯ *м.* і *ж.* Скупеча. Запясочча.

СКУПЛЯ'ЦЬ *незак.* Даваць выкуп за маладую. *Маршалкі скупляюць дружок.* Запясочча.

СКУ'ПО *прысл.* Скупа, мала. *Запалкі булі, но тольком іх було скупо.* Сямігосцічы. *Воды ў нас не скупо.* Аздамічы.

СКУПОВА'ТО *прысл.* Скупавата. *Скуповато було жыць, шо трое дзецей.* Бярэжцы.

СКУПОВА'ЦЬ *незак.* Экономіць, скупіцца. *Богатыры коліся скуповалі, на іх усе порвецца да целепаецца.*

Сямурадцы. *Мне трэбо голос на старосць скуповаць.* Хачэнь. *Я век скупую, а вон любіць вупіць.* Луткі.

СКУПОТА′ *ж.* Скупасць. *Церэз свою скупоту загінуў.* В. Малешава.

СКУПО′ТА *м. і ж.* Скупеча. *От, така ты скупота, не дасі век!* Луткі.

СКУПО′ЎВАЦЦА *незак.* Збірацца ў купу. *Лёд скупоўвайса і не раставай.* В. Малешава.

СКУПО′ЎВАЦЬ *незак.* Скупліваць, выкупляць. *Скупоўваюць маршалкі дружок на веселы.* М. Малешава. *Скупоўвалі кору з дуба.* Альшаны. *Помешчык скупоўвай рыбу.* Сямігосцічы.

СКУПУ′ *прым.* Скупы. *А буў это Антось, ну вон такі скупы буў чоловек.* Хачэнь. *Хто скупі, то не глупі* (прымаўка). Сямігосцічы. *У скупого двойчы гіне* (прымаўка). Луткі.

СКУ′РА *ж.* Скура. *У його лой скуру под'еў* (пра поўнага). Цераблічы.

СКУ′РАЦЬ *незак.* Здабыць, атрымаць з хітрасцю. *Нічого вон не скурае з бабою.* Тураў. *Не скуралі нідзе рубля п'яніцы да ідуць назад.* Дварэц.

СКУРО′ЖЫЦЬ *зак.* Скруціць, знявечыць. *І як гэто бог цебе так скурожыў?* М. Малешава. *Скурожыў яблуню.* Аздамічы.

СКУРО′ЖЭНЫ *прым.* Знявечаны. *Скурожэна морда ў его жонкі.* Верасніца.

СКУТОВА′ЦЦА *незак.* Мучыцца, цярпець боль. *Боліць зуб у його — скутуецца, не можэ вытрымаць.* Хотамель.

СКУ′ЧНО *прысл.* Сумна. *Ходзеце, дзеткі, додому, бо скучно жыці самому* (з песні). Сямурадцы.

СКУ′ЧЫЦЬ *незак.* Сумаваць. *Ужэ ваша баба скучыць без вас.* Луткі. *Поехала моя дзейка, да гетак скучаю.* Азяраны. *Без мацеры скучыла.* Запясочча.

СЛАБА′К *м. экспр.* Нядужы, нясмелы чалавек. *Слабак проці мене.* Пагост.

СЛАБКІ′ *прым.* Аслаблены. *Корова слабка́, слабы́е цыцкі ў ее.* М. Малешава. *Буў чоловек слабкі, нешто з головою ў его стало.* Хачэнь.

СЛА′БО *прысл.* Слаба, мала. *Слабо чутно.* Аздамічы. *Рыбакі ўчоро слабо поймалі да не ідуць ловіць.* Верасніца. *На га́везу слабо пчолы достаюць меду.* Хотамель.

СЛАБОСІ′ЛЬЕ *н.* Слабасць. *Слабосільe застаўляе спаць.* В. Малешава.

СЛА′БОСЦЬ *ж.* Тое ж. *Я б слабосць свою продаў, а годы хай бу булі.* Дварэц.

СЛАБУ′ *прым.* Слабы, хваравіты, кволы. *Я така слаба зробіласа, шо хітаюса, го́лову ў бок ведзе.* М. Малешава. *Тому дзеду шчо робіць? Вон жэ слабы.* Мачуль. *Слабы от ветру валяецца.* Альпень. *Ек слабуе пчолы, то нападаюць осы.* Запясочча. *Зіма слаба будзе, як муха ў дубовом яблучку.* Аздамічы. *Фунтоўкі — грушы слабые.* В. Малешава. *Памянш.* с л а б е́ н ь к і. *Жыто росло слабеньке.* Мачуль.

СЛА′ВА *ж.* Слава. *Ек славу возьмуць, то пропала дзеўка.* Сямігосцічы. *Не так того барыша, ек слава хороша́* (прымаўка). В. Малешава. *Сколькі бабі не скачы, то ўжэ не дзевоча слава* (прымаўка). Старажоўцы.

СЛА′ВІЦЦА *незак.* Славіцца. *Бацько славіўса своею совесцью.* М. Малешава. *Славіўса Туроў колісь.* Пагост.

СЛА′ЎНЫ *прым.* Добры, слаўны. *Слаўна жонка.* Хачэнь. *Не слаўна хата вуглaмі, а слаўна пірогамі* (прымаўка). Сямігосцічы. *Богатырско то й ліхо слаўнэ* (прымаўка). Старажоўцы. *Памянш.* с л а́ ў н е н ь к і. *Вельмі маслята слаўненькіе цепер.* Хачэнь.

СЛАЦЬ *незак.* 1. Слаць, рассцілаць. *Полотна сцелюць на майну́.* Верасніца. *Трэ слаць лён, шчоб полежаў.* Запясочча. *Маці сцеле посцелю.* Луткі. 2. Пасылаць. *Сарахвіна шле хлопцам картоплі тры посылкі.* Дварэц.

СЛЕД *м.* След. *Боронуюць у два следы.* Любавічы. *Этым следом Наполеон і назад ішоў.* Там жа. △ У т о й с л е д. Адразу за гэтым. *З лодкі ў той след і вулецела.* Луткі. *Хозяін замеціў і ў той след прогнаў.* Там жа. *І ў той след пісьмо.* Хачэнь. Н і д а р о́ г і, н і с л е́ д у. Пра адсутнасць шляху. *Едомо, ні дарогі, ні следу.* Хільчыцы. С л е д п р о с т ы́ ў. Пра поўную адсутнасць. *А його і след простыў.* Луткі. У з я ц ь с л е́ д у. Сабраць зямлю са следу. *Мо вон следу ўзяў да нешчо прыробіў, да гэто вона более.* Хачэнь.

СЛЕДЗІ′ЦЬ *незак.* Асочваць. *Ек пошлі следзіць по следа́м, то нашлі.* В. Малешава.

СЛЕ′ДОМ *прысл.* Услед. *За імі ходзеце следом.* Хачэнь. *Оны ўсе побеглі следом.* Мачуль.

СЛЕЗА′ *ж.* Сляза. *А шо слёзы? Не йшлі, не ехалі!*

Старажоўцы. *Слезмі плакала, не хоцела продаваць.* Цераблічы. △ З а л і ц ц а  с л е з м і. Моцна заплакаць. М. Малешава. Т о п і ц ь  с л е з á м і. Моцна плáкаць. *Плачэ вона, слезамі топіць, шо дзеўка на фабрыку едзе.* Мачуль. С л е з á  с л е з ý  б'е. Пра часты плач. *Слеза слезу б'е, вона ек бу дзеўка якая.* Хачэнь.

СЛЕНЬ *ж.* 1. Луска ў рыбы. *Слень на рыбі пóверху.* Запясочча. *Не кідай наскрэбляноі слені ў рыбу.* Тураў. 2. Слізь. *Як рыба б'ецца, то така слень пойдзе з ее.* Дварэц. *Як кішкі чысцяць, то слень на ножэ.* Сямігосцічы.

СЛЕПА'К *м.* Сляпень. Альшаны. △ У  с л е п а к í. Дзіцячая гульня. *У слепакі очы кому завязваюць і вон ловіць.* Сямігосцічы.

СЛЕПЕ'НДА *ж. экспр.* Падслепаватая жанчына. *От баба слепенда, не бачыць, шо там е, а чого нема!* М. Малешава.

СЛЕПЕНДЖА' *ж. экспр.* Тое ж. *Слепенджа — така жонка нізкá на очы.* Цераблічы. *Жонка сварыцца, троха слеповата, то ее зовом слепенджа.* Там жа.

СЛЕ'ПЕТНІ *мн.* Дзікія пчолы. *Пчолы лецяць у бор да называюцца слепетні.* Запясочча. *Слепетні садзяцца ў дупле.* Бярэжцы.

СЛЕ'ПЕТЫ *мн.* Тое ж. *Бувае до дзесяці пудоў меду ў етых слепетóў.* Запясочча.

СЛЕПЕ'Ц *м.* △ У  с л е п ц á. Дзіцячая гульня ў хованкі. *У слепца гуляём, то дзін закрывае вочы рукамі да на лаўку голову кладзе, другіе хаваюцца, а дале вон шукае да закоўвае ці тые вукоўваюцца.* Пагост.

СЛЕ'ПЕЦЕНЬ *м.* △ Л é з ц і  с л é п е т н е м. Лезці нахабна, назойліва. *Прамо слепетнем лезуць дзеці к тому собацы.* М. Малешава.

СЛЕПІ'ЦА *ж.* △ Л é з ц і  с л е п í ц э ю. Тое ж. *Лезуць слепіцэю свіны ў огород.* Дварэц. П р ы с т а в á ц ь  с л е п í ц э ю. Тое ж. Аздамічы. І с ц і  с л е п í ц э ю. Перціся нахабна. *А мое вутвў слепіцэю домоў йдуць.* Верасніца.

СЛЕПНІ'ЦА *ж.* Газоўка. Хотамель.

СЛЕПОВА'ЦЬ *незак.* Сляпіцца. *Наташа пошла замуж, больш слеповаць над шыцьем не буду.* В. Малешава.

СЛЕПОТА' *ж.* Слепата. *Ек сонцэ зайдзе, то не выносяць смецье, бо слепота нападзе* (павер'е). Хачэнь. △

К у р ы́ н а  с л е п о т а́. Курыная слепата. *Дзе сажу вўсыпуць, то кажуць — не ступай там, бо курына слепота нападзе* (павер'е). В. Малешава.

СЛЕПО'ЦЬКО *м. экспр.* Чалавек, які мае кепскі зрок. *Ну і слепоцько, нічого не бачыць!* Верасніца.

СЛЕПУ' *прым.* 1. Сляпы. *А тые слепые коты, то я іх гідуюса.* М. Малешава. *Колісь, казалі, тут жылі слепые одные.* Знаменка. *Чоловек слепуй буў.* Хачэнь. *Там шчэ одна е ў кварціры, слепа неяка.* Старажоўцы. *Колупаецца, ек слепу ў торбі* (прымаўка). Старажоўцы. *На слепэ око і поруш'е леціць* (прыказка). Мачуль. *Слепому дорогу покажы, а вон усеро́ўно не бачыць* (прымаўка). Сямурадцы. 2 *перан.* Вузкі, малы. *Слепэ́ вушко ў іголцы.* В. Малешава.

СЛЁЗ *м.* Струменьчык вады, які б'е з крыніцы. *Дзе такі слёз воды дзе́ржыцца, то крыніца кажуць.* Альгомель.

СЛЁЗКА *ж.* Пакаёвая расліна. Верасніца. △ С л ё з к і  б о́ ж э й  м а́ ц е р ы. Палявы гваздзік. Луткі.

СЛІ'ВА *ж.* Сліва (простая, дробная). *Сліў нема і картоплёў не будзе* (прыкмета). Верасніца.

СЛІ'ВЕНЬ *м.* Слівень. *Слівень жоўты, ек вуж.* Сямігосцічы. *Слівень пасоваты.* Цераблічы.

СЛІВІНІ'НЫ *прым.* Слівавы. *Слівініны мед.* В. Малешава.

СЛІ'ВОШНЫ *прым.* Тое ж. *Слівошно варэнье забра́жылосо, мало сахару.* М. Малешава.

СЛІВЯ'НКА *ж.* Настойка са сліў. М. Малешава.

СЛІЖ *м.* Бервяно, па якім спускаюць на ваду лодку. Запясочча.

СЛІ'ЗЕНЬ *м.* Смоўж. *Слізень е по грыбох.* Хачэнь. *Памянш.* с л і з і к. Запясочча.

СЛІ'ЗІ'ЦЬ *незак.* Сачыцца. *По лужа́вінцы слізіць вода.* М. Малешава. *Вода слізіць з крыніцы.* Верасніца. *Баночка лопне і слізіць.* Запясочча. *Рэка тожэ только шо слізі́ць.* Луткі. *Бочка ў дне слізі́ць.* Аздамічы.

СЛІ'ЗКІ' *прым.* Слізкі. *Салому трэба ўкінуць у луг, шоб буў слізкі.* Запясочча. *Плёшнік до корову не добрэ, сено з ёго слізке́.* Сямурадцы. *Граб слі́жэйшы, вон на ўсе ідзе.* Старажоўцы.

СЛІ'ЗКО *прысл.* Слізка. *Морозік буў, да слізко.* Луткі. *Слізко зімою на верхолёдзіцы.* Аздамічы. *Блізко, да ісці слізко* (прымаўка). В. Малешава.

СЛІЗО'ТА *ж.* Слізгота. *Слізота, упасці можны.* Аздамічы. *Дошч нападае ды замэрзне, неможно выйті, така слізота.* Альпень.

СЛІ'МАК *м.* Смоўж. *Слімак на лісці.* Альпень. *Слімáк.* Запясочча.

СЛІ'МЕНЬ *м.* 1. Смоўж. *Слімень жэ ліпучы.* Запясочча. 2. Слівень. *Побі на кускі сліменя, усе одно ворушыцца.* Хачэнь. *Слімень ек укусіць, то чоловек помрэ.* Луткі. *Нэвэлічкі, красненькі той слімень, злы.* Мачуль.

СЛІ'НА *ж.* Сліна. *Шо то з'еў, плуве сліна.* Аздамічы. *Не здумляйце, бо так сліну коўтаём.* Старажоўцы. *Сліна леціць з рота.* Запясочча.

СЛІ'НІЦЬ *незак.* Слініць. *Ек прадуць, да сліняць нітку.* Запясочча.

СЛІНЬ *ж.* 1. Слізь. *А на рыбі слінь.* Запясочча. *На лозе слінь, дзе оводы разводзяцца.* Цераблічы. 2. Смоўж. *На грыбу слінь.* Запясочча.

СЛІ'НЬКО *м.* 1. Ёрш. *Слінько ў нас кажуць на ерша.* М. Малешава. *Слінько, бу окунь, колючы.* Там жа. 2. Слінявы чалавек. Луткі.

СЛІ'ПАЦЬ *незак.* Хліпаць, хныкаць. *Сліпала, сліпала, да оддала грошы.* М. Малешава.

СЛІ'ЎКА *ж.* Сліва (простая, дробная). *Слівóк — ек овечы хвост!* (пра вялікае мноства сліў). Луткі.

СЛІШЧ *м.* Смоўж. *Слішч на шчаверы седзіць.* М. Малешава.

СЛІ'ШЧЭ *н.* Сцелішча. *На слішчэ на том лежыць мо месяц лён.* Сямігосцічы. *У нас слішчэ на попáсі.* Альпень.

СЛОБО'ДА *ж.* Свабода. *Ужо слободзе оннó шэйсят год.* Тураў.

СЛОБО'ДНО *прысл.* Свабодна, вольна. *Ой, у клубі цепер слободно, танцовалі, сколько хоцелі.* М. Малешава.

СЛОБО'ДНЫ *прым.* Свабодны. *Слободные, хлопцы, гуляйце.* Пагост. *Памянш.* слобóдненькі. *Слобонненькіе тухлі ў мене.* В. Малешава.

СЛОВІ'НА *ж. экспр.* Слова. *Век на его словіны абуекое не сказала.* Запясочча.

СЛО'ВО *н.* Тое ж. *У цебе слово не вурвеш.* Запясочча. *Я скажу, і слово мое с'ято.* Хачэнь. *О, колько ў нас такіх слоў!* Старажоўцы. *Шо на свеці найлегчэйшэ і найважнейшэ?* (загадка). *Слово* (адгадка). Сямігосцічы.

СЛОЁВА'ТЫ *прым.* Слаісты. *Ясень — слоёватэ дзерэво.* М. Малешава.

СЛОЖЭ'НЬЕ *н.* Склад. *Сложэнье хорошэ на віду ў хлопца.* Хачэнь.

СЛОЙ *м.* Слой. *Слоямі отколваецца дзерэво.* Хільчыцы. *Памянш.* слóйчык. *Есцека слойчыкі такіе ў дзерэві.* В. Малешава.

СЛО'ІК *м.* Слоік. *У лодысцы молоко і ў слоіку.* Запясочча. *Памянш.* слойчык. *Прынесі мне слойчык молока, я даўно не піла его.* М. Малешава.

СЛО'КОТ *м.* Ласкатанне. Запясочча.

СЛОКОТА'ЦЬ *незак.* Ласкатаць. *Не трэбо мене слокотаць.* Запясочча.

СЛОН *м.* Услон. *Дзеці посядуць верхом на слон дай ездзяць.* М. Малешава. *За слон і за он того стола восем рублей заплаціла Матруна.* Дварэц. *Слон коло стола е.* Хотамель. *Скідай штаны, ложыс на слон.* Кароцічы. *Памянш.* слóнчык. Сямігосцічы.

СЛОНЕ'ЧНІК *м.* Сланечнік. *На веснянку едуць з семенамі, слонечніку навезуць.* В. Малешава. *З слонечніку ў нас не чавілі олею.* Кароцічы.

СЛО'НКА *ж.* Слонка. *Выежджаем на слонкі на цягу, воны там вэчэром шнуруюць.* Мачуль.

СЛО'НОК *м.* Услон. *Зробіў бу ты, стары, слонок, шоб було на шо вёдра з водою ставіць.* Пагост. *Ось, я собе слонка знайшла.* Цераблічы. *Памянш.* слóночок. *Сяду на слоночку і подаю корову.* Луткі.

СЛО'ТА, СЛЁТА *ж.* Слота. *Прывезаласа, бы слота.* Альпень. *Ек такі снег і дошч, то говораць слёта.* Там жа.

СЛУ'ДВА *ж.* Закалец у хлебе. *Нічогі хлеб, але седзіць слудвою.* Сямігосцічы. *Земля, ек слудва.* Запясочча. 2 *перан.* Шчыльны, спрасаваны іл. *Слудва у берэгу рэкі, чорна-чорна, вода не смувае.* Чэрнічы.

СЛУЖЫ'ЦЦА *незак.* Праводзіцца (пра набажэнства). *У той цэ́ркві раз у год служылосо.* Запясочча.

СЛУЖЫ'ЦЬ *незак.* Служыць. *Раз пошоў у армію, надо служыць.* Бярэжцы. *Я служыла там колісь наймічкою, у Во́льгемле.* Кароцічы. *Дасі мне коня — я буду ў цебе год служыць.* В. Малешава.

СЛУКА' *ж.* Слонка. *По звуку слуку ўзнаюць.* Запясочча.

СЛУ'ХАЦЦА *незак.* Слухацца. *Я прылепвала к*

*пальцу, дак вон не слухаецца, не гоіцца.* М. Малешава. *Слухаецца, ек прыказваю.* Пагост.

СЛУ'ХАЦЬ *незак.* Слухаць. *Таку да гэтаку маць — слухаць не можно!* Запясочча. *Вон тобе наговорыць, коб толькі слухай.* Пагост.

СЛУЧА'ЕМ *прысл.* Пры выпадку. *А вон мо і не достайся случаем, вода веліка.* Старажоўцы. *Случаем не бачыў хлопчака мого ў сілезі?* Пагост.

СЛУЧА'Й *м.* Выпадак, здарэнне. *Пры случаі можэш сказаць ему.* Сямігосцічы. *Такіе случаі буваюць.* Там жа. *Згорэло гумно — это буў случай.* Старажоўцы. *Ну, Яўрым, ек такі случай, на здороўе пользуйся дровамі.* Цераблічы.

СЛУ'ШКА *ж.* Чутка. *Е слушка, шо начальство меняцца будзе.* Запясочча. *У нас такое слушкі не було.* Цераблічы.

СЛЮДА' *ж.* Жылка для вуды. *На плотку тонка трэ слюда.* Пагост.

СЛЮЗ *м.* 1. Слізь. *У слюзў лінок.* В. Малешава. *Слюз змыў у колодзежы.* Кароцічы. 2. Шлюз. *Проці Погоста на Сцвізі слюз.* Пагост.

СЛЮ'ЗКІ *прым.* Слізкі. Альшаны.

СЛЮ'САК *м.* Язычок у клямцы. Запясочча.

СЛЮТА' *ж.* Слота. *Куры ек почуюць еку слюту зімою, то ідуць у одрыну.* Пагост. *Дошч і снег, слюта кажуць, усе неяке, мокрэ.* Мачуль. *Слюта ідзе, неможно на двор вуйці.* Старажоўцы.

СЛЯ'КОЦЬ *ж.* Тое ж. *Слякоць, хлюпота, а чоботы процёкаюць.* Пагост.

СМА'ГА *ж.* Смага. *Смагі нагнало, піць хочу.* М. Малешава. *Смагі нагнало на гўбу.* Бярэжцы.

СМА'ГЛЫ *прым.* Смуглы. *Смаглы, ек цыган, ее жэніх.* Запясочча. *Було ў мене чэцверо дзецей: два смаглые хлопцы і дзве белые дзёўкі.* М. Малешава. *А лось такі смаглы.* Хачэнь. *Грузіны чорные, смаглые.* В. Малешава.

СМАЖО'НІКІ *мн.* Смажаная бульба. *У макотрыку смажонікі ў печы.* М. Малешава. *Звараныя ў мўндзірах картоплі чысцяць, порэжуць на кусочкі, засмажаць сало с сметаною, поліваюць іх і ставяць у печ — то й смажонікі.* Там жа.

СМАЖО'НКІ *мн.* Тое ж. *Смажонкі робім — лупленые картоплі смажом.* Кароцічы.

СМАЖО'НЦЫ *мн.* Тое ж. Луткі.

СМАЖО'НЫ *прым.* Смажаны. *Там нас частова́лі гускамі смажонымі.* Пагост.

СМА'ЖЫЦЦА *незак.* Смажыцца. *Ужэ смажацца ладкі ў печэ, ужэ можна вуймаць, а то подгорацъ.* Пагост.

СМА'ЖЫЦЬ *незак.* Смажыць, пражыць. *Крышаны трэба смажыць.* Луткі. *На колочок сало да смажыць над огнем.* Пагост.

СМАК *м.* Смак. *Ек зогніе віноград, то нема смаку ніякого.* В. Малешава. *Шо ў той горэлцы смак? Огнём печэ!* Верасніца. *Ні ў якой рыбі нема такого смаку, ек у ліна.* Пагост. *Дзе нема крывé, там нема й смаку* (прымаўка). Сямігосцічы.

СМАКА'ТКІ *мн.* Прысмакі. *Однымі картоплямі, а не смакаткамі вугодаваліса.* Хачэнь.

СМАКОВА'ЦЬ *незак.* Смакаваць. *Смакуюць дзеці ягоды, шо нема рады.* Запясочча. *Света есць, а я смокую.* Аздамічы.

СМА'КОСЦЬ *ж.* Прысмакі. *От ласы дзед на ту смакосць, солодосць.* Цераблічы.

СМАКО'ТА' *ж.* Смаката. *Понаедаюцца смакоты́ тые дзеці.* Сямурадцы. *Сама лепша смакота́ мне, абу коб только курэніе було.* Луткі. *Така смакóта, шо не одорваць од рота* (прымаўка). Старажоўцы.

СМАКО'ТКІ *мн.* Прысмакі. *Вон цыбулькі і хлебца з'есць, ніякіх смакоткоў ему не трэба.* Луткі. *Вон прывезе пшэніцы, а вона будзе продаваць той хлеб на смокоткі.* Сямігосцічы.

СМАКО'ЦЬЕ' *н. экспр.* Смак. *У нас картоплі — смакóцье!* Старажоўцы. *Смакоцьé.* Запясочча. *Смакоцье ладкі, не от'есціса.* Пагост.

СМА'ЛЕЦ, ШМА'ЛЕЦ *м.* 1. Нагар у люльцы, муштуку. *Ой, гадзіна боіцца этого смальцу!* Луткі. *Вуж велмо боіцца того шмальцу.* Аздамічы. 2. Ператопленае сала. Кароцічы.

СМАЛІ'ЦЬ *зак.* 1. Смаліць. *Чоловек кабана смаліць.* Сямурадцы. *Ужэ не до поросят, колі свінью смаляць* (прымаўка). Запясочча. 2 *перан.* Курыць. *Вон бес конца смаліць табак.* Аздамічы.

СМА'ЛЬНУЦЬ *зак. экспр.* Стукнуць. *Под вухо смальнуў ему.* Запясочча.

СМАЧНЕ'ЗНЫ *прым.* Вельмі смачны. *Смачнезна маслёнка, шчэ е?* Пагост.

СМА′ЧНО *прысл.* Смачна. *Смачно есці лóкшыны.* Аздамічы. *Я хочў запутацца, ці смашно.* Запясочча.

СМА′ЧНЫ *прым.* Смачны. *От, наелась лісічак смачных!* Сямігосцічы. *Селезня трэба засекці, то смачнэ м'ясо.* Верасніца. *Такі хлеб смачны!* Запясочча. *За помпушкі да мочаём у сметану, а смачные!* Сямігосцічы. *Памянш.* с м á ч н е н ь к і. *У маленькім горшчыку смачненька кашка* (загадка). *Арэх* (адгадка). М. Малешава.

СМА′ЧОК *м.* Цэнтаўрыя. *Ено росце пры градзе і это зелье — смачок, ек нема апеціту. Ено вельмі горкее, і вона ўжэ спарыць і там раз коўтне ці сколько.* Хачэнь.

СМЕЖНІ′К *м.* Расліна. *Это смежнік, а на ем хмель.* Альпень.

СМЕ′ЛО *прысл.* Смела. *Смело брудзі, не бойса.* Пагост.

СМЕ′ЛОСЦЬ *ж.* Смеласць. *Трэ смелосць, шоб перэехаць рэку.* Пагост.

СМЕ′ЛЫ *прым.* Смелы. *Хто смелы, то і ўзяў.* Хачэнь.

СМЕРДЗЕ′ЦЬ *незак.* Смярдзець. *Будзе смердзець сено землею.* В. Малешава. *Ідзі от мене, шчоб не смердзеў тут.* Азяраны. *Лошыцка не пропацела, то й м'ясо з ее не смердзело.* Хачэнь. *Смердзіць у хаці, невестка воняе.— Да ее ж нема.— Да вон ее андарак вісіць* (жарт). Цераблічы. *Рыба ж жаберам пітаецца і плавае, і вона й смердзіць ім.* Дварэц. *Чапля та только рыбу есць. Вона рыбою смердзіць.* Старажоўцы.

СМЕРДЗЮ′К *м. абразл.* Неахайны, бедны чалавек. *Я свою дочку ему оддам, смердзюку? Вон жэ на обед кусок хлеба не мае!* Луткі.

СМЕРДЗЮ′ХА′ *ж.* 1. Палявы клоп. *Гэто та, шчо на ягодах, смердзюхá.* Хачэнь. 2 *перан.* Неахайны чалавек. *Ты смердзю́хо, моўчы!* Пагост. 3. Дрэнныя пахі. *Смердзюха, аж захлапваешса!* Пагост.

СМЕРДЗЮ′ЧЫ *дзеепрым.* Смярдзючы. *О падло, смердзючэ таке!* Сямурадцы.

СМЕРДО′ТА *ж.* Смурод. *У хаці вонь, смердота, дзевацца нейдзе.* Луткі.

СМЕРК *м.* Змярканне. *До смерку на робоці булі.* Дварэц. *Смерк — то колі смеркае.* Аздамічы.

СМЕРКА′ЦЦА *незак.* Змяркацца. *Смеркаецца, збіраймоса домоў.* Пагост.

СМЕРКА′ЦЬ *незак.* Змяркаць, цямнець. *Ох, у мене*

*работы навалом, а ўжэ смеркае.* М. Малешава. *Цемнее, смеркае, занімаецца на вечор.* Кароцічы.

СМЕ'РКНУЦЬ, ОСМЕ'РКНУЦЬ *зак.* Змеркнуць. *Тако смеркло троха.* Дварэц. *Ужэ смеркло да не попаў у тую дзірочку.* Луткі. *Смеркло — ні по волосу ў селе!* М. Малешава. *О смеркло, не бачно ўжэ копаць картоплі.* Пагост.

СМЕРКО'М, НАСМЕРКУ' *прысл.* Прыцемкам. *Смерком не ідзі к бацьку.* В. Малешава. *Перэд смерком трэба пойці.* Кароцічы. *Насмерку шчэ познаю, хто йдзе.* Пагост.

СМЕРЦЕ'ЛЬНО *прысл.* Смяротна. *Заклінае смерцельно, шоб цебе гром побраў!* В. Малешава.

СМЕРЦЬ *ж.* Смерць. *Ту бабу смерць не поймае ніколі!* Кароцічы. *Цебе только по смерць посылаць.* М. Малешава. *Клопот, хай мене смерць берэ.* Буразі. *Блізко до смерці, да не можно ўмерці* (прымаўка). Запясочча. *Лецела пціца, сіва-сівіца, ніхто не ўгадае — ні цар, ні царыца, ні шчука у моры, ні заец у норы* (загадка). *Смерць* (адгадка). Хачэнь. *Памянш.* с м е р т у́ л е н ь к а. *Ох не, смертуленько, не хочу поміраць!* Цераблічы.

СМЕТА'НА *ж.* Рэдкая страва з тоўчаных канапель. *Коно́пель намнуць, пото́м вараць, да зверху така сметана зберэцца, ее збіра́ём і кашу варым.* Пагост. *Коноплі смажаць да тоўкуць, вараць да загушчае, то сметана.* Бярэжцы. *Наварыла конопляное сметаны — да ў ту тоўканку.* Старажоўцы.

СМЕ'ТНІК *м.* Сметнік. *На сметнік окрайкі вунесь!* М. Малешава. *Голодны ходзіць, бу той пёс по сметніку.* В. Малешава. *От мое богатство — кошэля на сметніку знайшоў* (жарт). Дварэц. *Добрэе по сметніку не валяецца.* Старажоўцы.

СМЕХ *м.* Смех, усмешкі. *Рукі весла́ не дзержаць со смеху.* Дварэц. *Коб этые сме́хі да не плачом вушлі!* В. Малешава. *Шо тут за смех?* Бярэжцы. *От смехі, з пеўня!* М. Малешава. △ У з я ў  с м е х. Пра стан смеху. *Ну, мене ўзяў смех!* Кароцічы.

СМЕХОВІ'ШЧЭ *н.* 1. Вялікі смех. *Поднела смеховішчэ на ўсе село.* В. Малешава. *Вон говорыць у магнітофон, от смеховішчэ!* Цераблічы. *Шчэ ўб'е, то будзе смеховішчэ.* Луткі. 2. Насмешка, анекдот. *Я вам альшанское смеховішчэ роскажу.* В. Малешава.

СМЕХОТА′ *ж.* Смехата. *Смехота з тых вутоў!* Верасніца.

СМЕХОЎЕ′ *н.* Насмешка, анекдот. *Вона гетого не шчытае за смехоўе.* В. Малешава. *Лотку наколовалі хлопцы, дзеўкі попадалі ў воду, ну й смехоўе було.* М. Малешава. *Запісаласа ў лежні, трэ шчэ наймічку наняць. От смехоўе!* Кароцічы.

СМЕХО′ЦЬЕ *н.* Тое ж. *От смехоцье було з того дзядзька!* Сямурадцы.

СМЕ′ЦЬЕ *н.* Смецце. *Шоб смец'е не ўносіла на чужы сметнік.* Д.-Гарадок. *Наробіў смецья.* Луткі. *Ек хату меці, то й на двор смецье несі.* Старажоўцы.

СМЕ′ШКА *ж.* Насмешка, жарт. *Таку смешку строяць з ольшанцоў.* В. Малешава. *От смешку ты з мене зробіў.* Запясочча. *Хочэ смешкі зробіць, купіць горэлкі і ўпоіць цебе.* Дварэц. *Чого ты з мене смешку строіш?* Аздамічы. *Гэто не смешка тобе, злезай, бо ўрэжу.* М. Малешава.

СМЕ′ШНО *прысл.* Смешна. *Смешно стало Хведору.* Аздамічы.

СМЕШЫ′ШЧЭ *н. метаф.* Мізэрнасць. *То ж смешышчэ, а не плата!* Аздамічы.

СМЕЯ′ЦЦА *незак.* Смяяцца, усміхацца. *Як смеіцца, то скаліць зубы.* Альшаны. *З ёго смеяцца будуць.* М. Малешава. *А можэ ву будзеце смеяцца з мене? Можэ ву на магнітофон мотаеце?* Пагост. *Смейцеса, дзеўкі, цепер ваша пора!* Луткі.

СМО′КТА *ж.* Зябер. Хотамель.

СМОКТА′ЦЬ *незак.* Смактаць. *Смоктаў-смоктаў я косць дай кінуў.* Аздамічы. *Брала дзеньгі да купляла конфеты да смоктала.* Старажоўцы. *Увопрэ голушку дзіцяці, шоб не плакало, дай хай смокчэ.* Дварэц. *А поросят як подклікаюць? — Смоктаць: тс-тс-тс!* Сямігосцічы. *Чого ты смокчэш ету воду так?* Запясочча.

СМОКТУ′Н *м.* Смактун. Запясочча.

СМОКТУ′ШКА *ж.* Галоўкі канюшыны, коцікі на вярбе і інш. *Дзеці смоктушкі смокчуць, воны салодкіе.* Сямігосцічы. *Смоктушкі на вербі, верба смоктушкі пускае.* Там жа. *Смоктушкі жоўценькіе на вербі, дзеці беруць і ўсмактывайюць.* Там жа.

СМОЛА′ *ж.* 1. Смала (у сасне, елцы). *Вон вошчыць дратвіну смолою з воском.* Тураў. 2. Вішнёвы і слівавы клей. *На вішнях і на сліўках е мэд, а баба кажэ смола.* Мачуль. 3. Малодзіва. *Скоро оцеліцца корова, бо ўжэ ў*

*ім'і смола.* Азяраны. *А корова цельна, бо смола е ўжэ.* Цераблічы. 4. Гудрон. *Варацъ ее, гэту смолу, і мажуць лодку.* Запясочча. *Памяніш.* с м о́ л к а. *Значыць корова, смолка есцека.* Бярэжцы.

СМОЛІ'НА *ж.* Сасна. *То осіна, а то смоліна, возьмі смоліну да лучыны насечы.* М. Малешава. *Ек смоліна добра, то і з ее робілі чоўна.* Чэрнічы. *У лесі стоіць хвоя, а прывёз смоліну.* Луткі.

СМОЛІ'ЦЬ *незак.* Смаліць. *Смоліць дратву пікам.* М. Малешава.

СМО'ЛНЫ *прым.* Смалісты. *Вукопаем корча смолного на комін.* Верасніца. *Смолку сосну роспілуём на дошкі.* Пагост.

СМОЛО'ВЫ *прым.* Сасновы. *Булі смоловуе і дубовуе чоўны.* Аздамічы.

СМОЛО'ВІКІ *мн.* Лісічкі. *Смоловікі е на бору.* Аздамічы.

СМО'ЛЬНІ'К *м.* 1. Хвойнік (зараснік, драўніна). *Смольніку прывёз цэлу машыну.* Запясочча. *Смольнік важко колоць.* Дварэц. *Со смольніку корэнье дралі.* Хачэнь. 2. Шматок скуры з воскам для націрання нітак. Запясочча.

СМОЛЮ'ГА *ж. экспр.* Човен з хвоі. *Стань ехаць веслом, то гэту смолюгу нельга погнаць.* Цераблічы.

СМОЛЯ'К *м.* Смаляк. *Лучына, смолякі — гэтум му свецілі.* Бярэжцы.

СМОЛЯ'НЬЕ *н.* Удар палкай пры гульні *у цурку. Робі смолянье.* Велямічы.

СМОЛЯ'НКА *ж.* 1. Сорт асенніх груш. *Смолянкі — дулі, даўкіе, не можно йесці, прокоўтнуць.* М. Малешава. 2. Сорт яблыкаў. Аздамічы. 3. Яйцо, залітае смалой або воскам. *У цебе смолянка, я біцца не буду.* Аздамічы.

СМОЛЯ'НКІ *мн.* Лісічкі. *Затым і смолянкі, шчо смолою пахнуць.* Цераблічы. *Ек прокінуцца смолянкі, то ўжэ і грыбі шукай.* Хотамель.

СМОЛЯ'Р *м.* Смалакур. *Смолу гнаў смоляр с хвоі, а з берэсту — дзёгоць.* Цераблічы.

СМОЛЯ'РНЯ *ж.* Смалакурня. *Смолярня — де дёготь гналі.* Альпень.

СМОРКА'ТЫ *прым.* Смаркаты. *Чорт ты сморкаты!* М. Малешава.

СМО'РОД, СМУРО'Д *м.* Смурод. *Як воздух попорцяць, то і сморо́д.* Луткі. *Смурод пошоў по хаці.* Там жа.

*Не столькі мёду, сколькі смуроду* (прыказка). Сямігосцічы.

СМУГ *м.* 1. Палоска. *Смуг гразкі, не отмуўса.* Луткі. 2. Рад пакаленняў. *С того смуга цягнецца нашэ кодло.* Альшаны.

СМУ'ГА *ж.* Брудныя палосы на адзенні, на целе. *Смугі на коўнеру, не можно отмуць.* М. Малешава. *Осталіса смугі, хоць і посцірала.* Луткі. *От поту такі смугі на хусточках, не отмуеш порошком.* Цераблічы. *Смугі гразные на руках.* Рыдча. Мокрая вузкая нізінка. *Поўные этые смугі воды, перэйці не можно.* М. Малешава. *Смуга болото называюць: поцягла гэта смуга, нізіна, болоцвінка между лесом.* Хачэнь. *Смуга — дзе на нізіні процекае шчэ вода.* Хотамель. Цёмная або светлая палоска на небе. *О смуга, поцягло, то там ужэ погода.* Сямігосцічы. Пахмурнасць. *Смуга — ек дзень негодліву, до дожджа.* Крэмна. *Ек дзень на́вісны, цёмны, то смуга.* Там жа. *Памянш.* с м у́ ж к а. *Смужка цягне, вода прожымаецца на болоці, а кругом сухо.* Луткі.

СМУЖА'ВІНА, СМУГА'ВІНА *ж.* Тое ж. *Смужавіна — вона маленька, разоў два ступіць, тры.* Цераблічы. *Однэе смужавіны, нема доброе траву.* Старажоўцы. *На ліцэ смужавіны.* В. Малешава. *Смугавіна на штанах, як покалісса.* Альгомель. *Памянш.* с м у ж а́ в і н к а. *Там я бачыў смужавінку травы, болотчына така.* Луткі.

СМУ'ЖНІК *м.* Зараслі маладога лесу. *Дробны смужнік, кустарнік, шо не вулезеш.* Хачэнь.

СМУК *м.* Смык. *Вон на скрыпцы грае, ек поцягне смыком!* Сямігосцічы. *Памянш.* с м у ч о́ к. *Тонкі, як смучок.* Старажоўцы.

СМУКА'ЛІСТЫ *прым.* Кемлівы. *Конь вельмо смукалісты, шчо сказаў — вон знае.* Любавічы.

СМУ'КАЦЬ *незак.* 1. Смыкаць, скубці. *Сено і солому смукала со стога ды корові носіла.* М. Малешава. *Колісь верэс смукалі, тоўклі да сыпалі ў хлеб.* Хачэнь. 2. Струменіць, булькацець. *Смукае вода.* Сямурадцы. 3 *перан.* Торгаць. *У мене зуб смучэ.* Запясочча.

СМУКНУ'ЦЬ *зак.* 1. Скубнуць, пацягнуць. *Ек смукнеш, то готову і сторчака даць, так цвёрдо браць лён.* Луткі. 2. Зразумець, скеміць, сцяміць. *Вон і смукнуў, узяў да з сорома вуехаў.* Бярэжцы. *Он і смукнуў, шчо это.* Там жа.

*зу станка́ зробілі, а далей землянку*. Хотамель. 2. Стойла для каня ў хляве. *Станкі у конюшні, у іх коні стояць*. Запясочча. 3. Прыстасаванне або прылада. Запясочча.

СТАРА′ *прым. ж.* Свякруха, жонка сталых гадоў, старая. *А стара напала на старо́го, а на́шчо ты даў*. Дварэц.

СТАРА′ТЛІВУ *прым.* Старанны. *Вон такі старатліву, усе зробіц*. Запясочча. *Дзе булі людзі старатлівуе, там було*. Аздамічы.

СТАРА′ЦЦА *незак.* Старацца. *Стараесса прыціснуць ік собе*. Луткі. *А ек зожнуць, то стараюцца скорэй на семена*. Старажоўцы.

СТАРОБУ′ТНЫ *прым.* Старажытны. *Вы пішэце старобутные слова*. В. Малешава.

СТАРОВА′ЦЬ *незак.* Весці размовы, гутарыць. *Зобраліса да старуем тут*. Мачуль.

СТАРОДЗЕРЭ′ВІЦА *ж.* Стары лес. Аздамічы.

СТАРОДЗЕРЭ′ЎЕ *н.* Тое ж. *Там стародзерэўе було, не то шчо цепер*. Цераблічы. *Лес то́ўсты да здоро́ву, стародзерэўе*. Пагост.

СТАРОЖЫ′ТОЧНЫ *прым.* Старажытны. *Старожыточные слова*. Чэрнічы.

СТАРОКО′РЫ *прым.* З застарэлай карой. *Старокорэ дзерэво*. Сямігосцічы.

СТАРОЛЕ′СІЦА *ж.* Стары лес. *Шчэ хата здоро́ва, то старолесіца*. Альшаны.

СТАРОПО′ЛІЦА *ж.* Даўняе поле. *На старополіцы посеялі картоплі, то духо́м порослі*. Хачэнь.

СТА′РОСЦЬ *ж.* Старасць. *Не дай божэ под старосць товар пасці да дзеці гледзець* (прымаўка). Цераблічы. Старыя людзі. *Е старосць, шчо чуе і бачыць шчэ*. Верасніца.

СТАРЦОВА′ЦЬ *незак.* Жабраваць. *Ко́лісь було, е́жэлі нема на чом жыць, то старцуй*. Старажоўцы.

СТАРЦЭВО′Д *м.* Павадыр у жабрака. *Ты старцэвод хромы́!* Дварэц.

СТАРЧ *м.* Стырчак. Аздамічы.

СТАРЧА′НКА *ж.* Жабрачка. *Вона свой век старчанка була*. В. Малешава. *Одзеласа, ек старчанка, не можно вўйці*. Старажоўцы.

СТА′РЧАЦЬ *незак.* Хапаць, быць дастаткова. *Ужэ мне ста́рчыць, не хочу болей*. Альшаны.

СТАРЧА′ЦЬ *незак.* Жабраваць, прасіць, маліць. *Хадзілі усе да старчалі, шчоб коня далі*. Чэрнічы.

СТА′РШЫ *прым.* Старэйшы. *Днепр старша рэка за Прыпець.* Аздамічы. *Шоб у твоем хозяйстві не було ні старшого, ні меншого!* (пажаданне). Сямігосцічы.

СТАРШЫНА′ *ж.* Старшыня. *Сорок год Якубоўскі старшыною ў Верэсніцах.* Пагост.

СТАРЫ′ *прым.* 1. Стары. *Я шчэ не така стара, з дваццатого году.* Пагост. *Стара земля, то добра, чорнозём.* Аздамічы. *Старые шчэ мур повернуць у калгасі!* (прымаўка). Дварэц. *Старые і дзеці — усе на дзіеці* (прымаўка). 2 *м.* Месяц на сходзе. *Я шчэ цепер шчэ старого бачыла упорану, шчэ буў.* Старажоўцы. 3. Стары мужчына, муж у сталых гадах. *Мой стары, мой дружыночок, ходзі погомонім.* Запясочча. *Памянш.* с т а р э н е ч к і, с т а р у с е н ь к і, с т а р э н ь к і. *У дзеда старэнечка-старэнечка хата.* Хачэнь. *Дзед буў старусенькі, чуць ходзіў.* Хачэнь. *Ужэ старэнькі, але шчэ дрова сечэ.* Пагост.

СТАРЫ′ЗНА *ж.* Даўніна. *Гэто було ешчэ, ек старызною немец воеваў.* Верасніца.

СТАРЫ′К *м.* 1. Старыца. *А той старык ужэ остаецца, як рэка собе нового рова прорезала.* Хотамель. 2. Месяц на сходзе. *У старыку недобрэ сеяці.* Хотамель. *У старыку кабана колі, то сало будзе хорошэ.* М. Малешава.

СТАРЫКОВА′ЦЬ *незак.* Развавжаць сур'ёзна, па-старэчы. Аздамічы.

СТАРЫНА′ *ж.* Старызна. *Век не жэнаты, да ужэ старына.* Аздамічы. *Ек запішэце словы, то гэта старына будзе доўго цегціса.* В. Малешава. *Памянш.* с т а р ы н к а. *Воны хочуць даўнінку знаць, старынку.* Запясочча.

СТАРЫ′ННЫ *прым.* Старажытны. *Старыннэе цэняць дзерэўнянэ!* Альгомель. *Старыннэ нашэ воны усе пішуць.* Чэрнічы.

СТАРЭ′ЗНЫ *прым.* Вельмі стары. *Ох, вон старэзны да лысы!* Хачэнь.

СТА′РЭЦ *м.* Жабрак. *Бувало, хата от старцоў не зачыняласа.* Старажоўцы. *Дожыўса, хоць у старцы ідзі.* Запясочча. *У іх одзінаццаць дзецей, жывуць, бу старцы.* Там жа. *Ходзіць оборваны, ек старэц.* Старажоўцы. *Доедай куска, бо старцы прысняцца* (прымаўка). *Хоць за старца, абы за ольшанца* (прымаўка). Альшаны. *Старцэм буўшы да с перцэм есці!* (прымаўка). Сямігосцічы. *Шо му старцы доводзіць концы!* (прымаўка, пра спеў). В. Малешава. *За шчо старцэ б'юцца, шо ў торбі сухары мнуцца* (прымаўка). М. Малешава.

СО *выкл.* Вокліч, якім падганяюць вала. Хотамель.

СОБА'КА *ж.* Сабака. *Буў такі собака ў нас да з воўкóм бороўса.* Хачэнь. *Ідзеш з роботы, бы собакі рвуць за ногі, так заморышса.* Цераблічы. *Гаркáе, як собака.* Старажоўцы. *Боіцца, ек ліхого собакі.* Там жа. *Собака вуе ўгóру — пожар, уніз — нехто ўмрэ* (прыкмета). Там жа. *От боршч, хоч ты на собаку лі!* (пра нішчымны боршч). Сямурадцы. *Собака качаецца летом на негоду, а зімою на отлігу* (прыкмета). М. Малешава. *Не бойса того собакі, шо гаўкае, а того, шо нішком хóдзіць* (прыказка). Сямурадцы. *Жыве кот, жыве і собака, да жытка неоднака* (прыказка). Верасніца. *Памянш.* с о б а ч к а. *Ек малы, то собачка, а як жэ!* Верасніца. *Злезу на горку, отчыню коморку, коб не кульбачкі, з'елі б собачкі* (загадка). *Чоловек вульé ходжае і дым пускае от пчол* (адгадка). Сямігосцічы.

СОБАКА'РНІК *м.* 1. Пустазелле. *Морква полéгла, а собакарнік порос.* М. Малешава. *Собакарнік — таке зелье. Крýчэному собаку корня на хлеб даць, і вон перэстане дурэць.* Там жа. 2. Ахвотнік да сабак. Аздамічы.

СОБАКОВА'ТЫ *прым.* Хлуслівы, нядобразычлівы. *Чоловек вон буў собаковаты.* Сямігосцічы.

СОБАКРУ'Т *м.* Сцяпёр, маркоўнік. *Много собакруту у долінáх наросло, будзе мед у гэтом годý.* В. Малешава.

СОБАРНО' *н. экспр.* Вялізны сабака. *От этэ собарно прычэпілосо!* Луткі. *Собарно здоровéзнэ бежыць.* Пагост.

СОБА'ЧКА *ж.* Калок, які ўтрымлівае навойку. *Малэ вороціло у кроснах, там е собачка.* Цераблічы.

СОБАЧЛЯ' *н. метаф.* Валацуга, бабнік. *Таке собачля вон буў, ночоваў у жэнишчын кожну ноч.* Мачуль.

СОБА'ЧЫ *прым.* Сабачы. *Собачы розум, ек сорок год, праўду кажуць.* Цераблічы. *А от дурного собакі е собачая пóмоч, зелье. Як здурэе, то некотóры побежыць да з'есць, да поправіцца.* Хачэнь.

СОБАЧЭНЯ' *н.* Шчаня. *Собачэнята перэберэ, то ек собакі, то годуе, а сукі топіць, не хочэ годоваць.* Кароцічы.

СОБІРА'ЦЦА *незак.* Збірацца. *Мне ўжэ пора собірацца домоў!* (пра смерць). Хільчыцы.

СОБІРА'ЦЬ *незак.* Збіраць. *Собірае ўсе своé ў чумадан — поедзе уже.* Пагост.

СОБРА'ЗНЫ *прым.* Самавіты. *Ліцом не собразна зовіца.* В. Малешава.

СОБРА'ЦЦА *зак.* Сабрацца. *Собраласа пара: ні ў пана, ні ў цара* (прымаўка). Старажоўцы.

СОБРА'ЦЬ *зак.* Сабраць. *Соберу помўі, ці піцьме корова ці не.* Дварэц. *Под тоею я́блонею усе собралі яблука.* Мачуль.

СОВА' *ж.* Сава. *У сову́ головішчэ таке на́глэ, ек у кота!* Бярэжцы. *Як дзеці, то сова мо́жэ і чоловека ўбіць, вочы повылу́пвае.* Цераблічы. *Молода́, ек сова, седзіць і нічого не бачыць.* Запясочча. *Сова не родзіць сокола́, а таке са́мэ совеня, ек сама* (прыказка). Мачуль. *Ці сову пнем, то сове беда, ці сову об пень, то сове беда* (прымаўка). Сямігосцічы.

СО'ВАЛКА *ж.* Дзіцячая гульня ў класы. Хачэнь.

СО'ВАЦЦА, СО'ЎВАЦЦА *незак.* Соўгацца. *А ты чого ў таку по́ру тут соваесса?* Луткі. *Ноч мо совайса? — Але, трэба оддыхнуць.* Дварэц. *А вон шчэ соўваецца трохі?* Знаменка.

СО'ВАЦЬ *незак.* Соваць. *Одна у бердо совае, а друга́ совае у ніт.* Запясочча.

СО'ВЕСНЫ *прым.* Сумленны. *Вона то баба совесна, мо й вас возьме* (пра кватэру). Хачэнь. *Совесны, попросіш — навек поможэ.* Пагост.

СОГЛАСІ'ЦЦА *незак.* Згадзіцца. *За п'яцёрку согласійса розогнаць картоплі.* Пагост.

СОГЛА'СЬЕ *н.* Згода. *Воны жывуць у согласьі, не сварацца.* Велямічы.

СОГЛАША'ЦЦА *незак.* Згаджацца. *Я соглашаюса іці.* Пагост.

СОГНА'ЦЬ *зак.* Сагнаць. *Вода согнала плаў і стало чы́стэ озеро.* Луткі.

СОГНІ'ЦЬ *зак.* Згнісці. *Картошка ў прошлы год согніла.* В. Малешава.

СОГНУ'ЦЦА *зак.* Сагнуцца, згорбіцца. *І гэта баба согнуласа под ліхо.* Дварэц.

СОГРЭВА'ЦЦА *незак.* Саграваццa. *Лісце ольховое — онэ стане согрэваца ў колодзі і па́хці.* Запясочча.

СОГРЭШЫ'ЦЬ *зак.* Саграшыць. *Согрэшыў — с ста-ро́го да на нове перэшыў* (пры́маўка). Пагост.

СОДЗЕРЖА'ЦЦА *незак.* Стрымлівацца. *Хочу́ плакаць, да содзержа́юса.* Бярэжцы.

СОДЗЕРЖА'ЦЬ *незак.* Трымаць. *Надо себе так со-*

*дзержаць, шоб буў сыты, красівы.* В. Малешава. *Не могу содзержаць целя.* Бярэжцы.

СОДЗЕ'РЖВАЦЦА *незак.* Стрымлівацца, спыняцца. *Содзержваецца ужэ дождж.* Дварэц.

СО'ДУХІ *мн.* Канцы, смерць. *Думалі, шо содухі будуць ему, але ж атышоў.* М. Малешава. *Ек удыру, то содухі будуць!* Хотамель.

СО'ЙКА *ж.* Сойка. *Сойка — вона почуе, ек чоловек дзе трэсне!* Запясочча.

СОЙЦІ' *зак.* Сысці. *Со́йдуць хай на дзень з вочэ́й.* М. Малешава.

СОЙЦІ'СА *зак.* Сысціся. *Со́йдуцца і жывуць наповер зарэ* (без вянчання). Верасніца.

СОК *м.* Сок з дрэў (звычайна бярозавік). *Прожыў век і хлеба с соком не поеў: сок е — хлеба нема, хлеб е — сока нема* (прымаўка, пра старое жыццё). Верасніца. *Сок с крухі — от жэлудка увесну помочны́.* Пагост. *Бе-рэ́зову сок.* Бярэжцы. *Кленóву сок.* Запясочча.

СОКЕ'РА *ж.* Сякера. *Твоею сокерою только м'ясо рубаць — тупіца.* Тураў. *Пропала моя стара́ сокера на дровóтні.* В. Малешава. *Ек б'юць грудкі сокерамі на полі, то будуць картоплі, а ек мокро, то не.* Пагост. *Памянш.* с о к é р к а. В. Малешава.

СОКОВІ'СТЫ *прым.* Сакавіты. *Соковістые дулі по кулаку, да жоўтые, сма́чные!* М. Малешава.

СОКОВУ' *прым.* Тое ж. *Соковуе яблука з естое яблонкі, велізные да соковуе.* Запясочча. △ С о к о в ý к в а с. Квас з бярозавага соку. Запясочча.

СО'КОЛ *м.* Сокал. *Сова не прыведзе сокола́, а такого ж чорта, ек сама* (прыказка). Старажоўцы.

СОКО'ЛЕНЫ *прым.* Мярэжаны. *Соколена сорочка коцінымі лапкамі ў стану́.* Дварэц.

СОКО'ЛІК *м.* Ласкавы, пачцівы зварот да чалавека. *Седзіць вона за століком с своім соколіком* (з песні). Пагост.

СОКОЛІ'ЦЬ *незак.* Мярэжыць. *Рушнікі соколяць. Дзе шво, вона россокольвае да перэтыка́е красными ніткамі.* Запясочча.

СОКОЛКІ' *мн.* Мярэжка (на ручніку, на сарочцы і інш.). Цераблічы.

СОКОЛОВА'ЦЬ *незак.* Мярэжыць. Кароцічы.

СОКОТА'ЦЬ *незак.* 1. Сакатаць. *Мо некотóра знесла́са, ужэ сокочэ.* Луткі. *Сокочэ́це не сокочэце, а по тры*

*копў еец знесёце.* Старажоўцы. *Курка сокочэ, несціса хочэ.* Азяраны. ***Сокочуць дзеўкі, ек куры на сёдале!*** (пра смех). Верасніца. *Говораць, шчоб с папороці цвет зорваў, то ўсе б знаў бы, шчо куры сокочуць.* Луткі. 2 *перан.* Цурчаць. *Не перэбрудзеш, вода бўйстра, аж сокочэ.* Сямігосцічы.

СОКОТА'НЬЕ *н.* Сакатанне. *Таке ее, этой кўры, сокотанье ненормальнэ.* Старажоўцы.

СОКОТУ'ХА *ж.* Балбатлівая і смяшлівая жанчына. *Сокотуха тая молодзіца, гомонкая!* Верасніца.

СОКОЎЗНУ'ЦЦА *зак.* Саслізнуцца. *Сокоўзнуўса с того стоўпá да полецеў.* Пагост.

СОКРУШЫ'ЦЦА *зак.* Адчуць неабходнасць паспагадаць у бядзе. *Ніхто не зміловаўса, не сокрушыўса, не ўзяў у хату.* Хачэнь.

СОКРУШЫ'ЦЬ *зак.* Адчуць спагаду ў бядзе. *Вона можэ сокрушыць дўшу да ў хату пусціць.* Старажоўцы. *Мацер по ём сокрушыла свое серцэ.* Хачэнь. *Маці серцэ сокрушыла, сыну хату потушыла* (з песні). Пагост.

СОЛЕ'ЦЬ *незак.* Усольвацца. *А гуркі ўкіну, хай солеюць.* Чэрнічы. *Воно мокне і солее* (пра мяса). М. Малешава.

СОЛІ'НА *ж.* Драбок солі. Альшаны.

СОЛІ'ЦЦА *незак. перан.* Сыпацца. *Дзедзінец робяць, шчоб песок не соліўса ў вóду.* Сямігосцічы.

СОЛІ'ЦЬ *незак.* Саліць. *Гэто ўсе сушылі, а рыжкі солілі.* Хачэнь. *Его здорóву шлунок, шо так сóліць.* Там жа.

СОЛОВЕ'Й *м.* Салавей. *Солоўé е, только воно жыве найбольш у чорнолéсы, у олешыні, у дубах.* Запясочча. *Ек зайграе, то ек соловей.* Мачуль. *Песнямі солоўя сыты не будзеш* (прыказка). Хачэнь. *Дурного солоўя дурная песня* (прымаўка). Там жа. *Голос мае, а ў цеатры не спевае* (загадка). *Соловей* (адгадка). Сямігосцічы.

СОЛОВЕ'ЙКО *м.* Тое ж. *Сáма лóўка пташка соловейко.* Хачэнь. *Соловейко пое: «Цы-гáн, цы-гáн, цы-гáн, сало-пёк, сало-пёк, сало-пёк. Му-жык, му-жык, му-жык — бі-і, бі-і, бі-і-і-і, не-бо-ліць, не-бо-ліць, не-бо-ліць, ні-як, ні-як, ні-як».* Цераблічы.

СО'ЛОД *м.* Салодкая прыправа. *І солод тутока, усе онэ запраўленэ.* Бярэжцы.

СОЛОДА'ЦЬ *незак.* Рабіцца салодкім. *Опáрыш мукў, вона солодáе.* Хільчыцы.

СОЛОДЖА'ЦЬ *незак.* Тое ж. *Кваша солоджае, потом укісне.* Бярэжцы.

СОЛОДЗІ'НА *ж.* Нектар. *Солодзіну пчолы по цветох збірають на мед.* Пагост.

СОЛОДЗІ'ЦЬ *незак.* Саладзіць. *Компот трэ ж солодзіць.* Пагост.

СОЛО'ДКІ *прым.* Салодкі. *Солодкі хлеб, не ўкіс.* Кароцічы. *Сахар солодкі, а мед шчэ солодчы.* Луткі. △ С о л о д к е  м о л о к о. Малако, якое не скісла. Пагост.

СОЛОДКОЕ'ЖКА *ж.* Ласун. *От солодкоежка, любіць, коб што смáчне ухопіць.* Азяраны.

СО'ЛОДОСЦЬ *ж.* Салодкасць. *Оно несмачнэ, ні солодосці, нічого!* (пра піва). Кароцічы. *Прослі солодосці нема апеціту.* Пагост.

СОЛОДУ'ХА *ж.* 1. Залатуха. *Солодуха, то пузыркі вускáкають на ногах, руках, на ўсём целі, отрываюцца вушы, роскóлваюцца.* Запясочча. *Вона ўмела от солодухі шэптаць.* Луткі. 2. Кваша. *Ек солодка кваша, то солодуха, а менш солодка, то кваша.* Сямігосцічы.

СОЛО'ДЫЧ *ж.* Салодкасць. *Трэба, шчоб вон солодыч маў, як із берэзы сок* (пра саладуху). Луткі.

СОЛО'МА *ж.* Салома. *Я, бувало, ек соломою обуюса, дзень буду на дворэ, і чуць ногі не померзнуць.* Луткі. *Куль солому просцелеш на лóжок, а потом рогожу.* Запясочча. *Памянш.* с о л ó м к а. *Хай бу ты соломкі узяў да посмоліў кабана.* Сямурадцы.

СОЛО'МЕНІК, СОЛОМ'Я'ННІК *м.* Матрац, напханы саломай. *Пойду свежого солóменіка напхаю, ужэ гэты зом'я́ўса.* Цераблічы. *Солом'я́ннік.* Велямічы.

СОЛО'МЕНКА, СОЛОМ'Я'НКА *ж.* 1. Звычайна падушка, напханая саломай. *Под гóлову напіхалі соломою соломенку, а под бок просцілалі рогожу.* М. Малешава. Матрац, напханы саломай. Аздамічы. 2. Саламяная бочка для захавання насення. Запясочча.

СОЛО'МЕННЫ *прым.* Саламяны. *До войны одны солом'енные крышы булі.* Сямурадцы. △ С о л ó м е н н ы  ж э н í х. Стары кавалер. *Ек не жэ́ніцца до трыццаці год, то кажуць соломенны жэніх.* Аздамічы.

СОЛО'НІКІ, СОЛО'ДНІКІ, СОЛЕ'НІКІ, СОЛЁНІКІ *мн.* Вараная ў салёнай вадзе цэлая чышчаная бульба. *Прыстáў на вечэру солонікі ў печ.* Кароцічы. *На солонікі склобяць картоплі.* Аздамічы. *Солонікі мочалі ў сало да*

*елі.* М. Малешава. *Солоднікі.* Сямурадцы. *Наварыла солёнікоў, а вона не есць.* Мачуль. *Солёнікі — это картоплі чышчэные, перэрэзаные.* Тураў.

СОЛОНІ'НА *ж.* 1. Прасоленае сала. *Сало, сало, солоніна, будзе цыгану половіна, а ек цыган понесе, будзе цыгановэ ўсе* (прымаўка). Цераблічы. 2. Вельмі салёная страва, яда. *Ну і солоніна твой боршч, не можна есці!* Пагост.

СОЛО'НОСЦЬ, СОЛО'ДНОСЦЬ *ж.* Салёнасць. *Солодность дае хорошы апеціт.* Пагост.

СОЛО'НЫ, СОЛО'ДНЫ, СОЛЁНЫ *прым.* Салёны. *Боршч зусім не солоный.* Тураў. *Мо то солоднэ моцно сало? Трэба мочыць, бра.* Луткі. *Товарына солодное любіць.* Мачуль. *Солёнэ, шо не можно ў рот узяць.* Сямурадцы. *Памянш.* солóненькі, солóдненькі, солёненькі. *З'еж солоненькі гурóчок.* Верасніца. *Солодненькіе гуркі добрэ!* М. Малешава.

СОЛОПЕ'КА, СОЛОПЕ'ТА *м.* і *ж. экспр.* Чалавек, у якога не закрываецца рот і высоўваецца язык. Аздамічы. *Солопéта.* Запясочча.

СОЛЬ *ж.* Соль. *Рыбка добра на соль!* В. Малешава. *А салітра ж такая, ек соль.* Бярэжцы. *Ох на соль я ужэ змерзла!* Там жа. *Коліся, ек пойдуць бабу на еку роботу да часом багато зберэцца, да тые бабу кажуць на еку дзейку — от, ека хороша! То вона — соль-печына, да чорт с твоімі очыма! Шчоб не зурочылі да не занегожыць.* Хачэнь. *Ек будзеш мац хлеб да соль, то будзе і госць весёл* (прымаўка). Тураў. △ Соль тобé ў вóчы! Злое пажаданне чалавеку з нядобрым позіркам. Цераблічы.

СОЛЬНІ'ЦА *ж.* Салянка. *Сольніца коло печы вісела проці шыі.* Мачуль.

СОЛЯ'НКА *ж.* Тое ж. *Солянку вудоўбвалі, і стояла вона на столе.* М. Малешава. *Солянка була коло печы.* Сямігосцічы.

СОМ *м.* Сом. *Само сомý лоўляць, ек бліскáе.* Бярэжцы. *Сом загінуў у рэцэ полносцью, мо вода забруджэна. Раньшы було сомоў много.* Сямігосцічы. *Гледзі не лезь у воду, бо там сом седзіць з вушамі жэлезнымі да ухопіць* (застрашванне). Тураў. *Памянш.* сомóк. *Сомкі беруцца небольшые.* Луткі. *А мне колісь сомок пудоў два усýнуўса у жак.* Аздамічы.

СОМЕНЯ' *н.* Невялікі сом. Альшаны.

СО'МІ'НЕЦ *м.* Кароткае бярвенца паміж вокнамі. *У каждом сомінцы робяць дзірку, шчоб скрэпляць іх.* Альшаны. *Сомінец.* Сямігосцічы.

СОН *м.* 1. Сон. *Ноч і дзень сну там не було ніякого.* Старажоўцы. *У водзе на сон кідае.* Дварэц. *Куды ноч, туды і сон* (прымаўка). Луткі. 2. Тое, што здаецца ў сне. *Іншы сон ек у руку.* Луткі. *Напроці п'ятніцы і недзелі сон збуваецца до обеда* (павер'е). Там жа. *Ек прысніцца сон, шчо хозяін возіць гной, то обезацельно умрэ хто ў хаці.* Там жа. 3. Сон-трава. Бярэжцы.

СО'НБУС, СО'НБУШ *м.* Соня, санлівы чалавек. *Сонбус, не добудзіцца!* Пагост. *Сонбуш.* Альпень.

СО'НЕЙКО, СО'ЎНЕЙКО *н.* Божая кароўка. Запясочча.

СО'НКІ-ДРЭ'МКІ *мн. экспр.* Сон. *Сонкі-дрэмкі ў вочыцка, а здороўе у плечыцка* (з песні). Пагост.

СОНЛІ'ВУ *прым.* Санлівы. *О, я сонліва, навек спаць хочу.* Цераблічы.

СО'ННЫ *прым.* Сонны. *Жабу ей кідалі сонной, коб не трусіла хондзя.* Верасніца.

СО'НОЧНІК, СО'НЕЧНІК, СО'ЎНЕШНІК *м.* Сланечнік. *Сончнікі у нас саджаюць найбольш на розорах.* Тураў. *Вороб'е усе соношнікі подзёўблі.* М. Малешава. *Зогнуўса, ек соношнік на городзі.* Старажоўцы. *Сонечнік.* Тураў. *Мое сонешнікі ужэ цвітуць.* Луткі.

СОНОШНОКОВІ'НА *ж.* Сцябло сланечніка. *Соношноковіна горыць у печэ.* Дварэц.

СОНОШНОКОВІ'НЬЕ *н. зб.* Сцяблы сланечніка. Дварэц.

СО'НЦЭ *н.* Сонца. *Когда сонцэ заходзіць, не ложыса, побудзь немного.* Сямігосцічы. *Сонцэ грэе да дождж ідзе, то кажэмо — ведзьма масло колоціць* (павер'е). Старажоўцы. *До сонца да ворона крычыць — дождж будзе* (прыкмета). Луткі. *Казак не без долі, дзеўка не без шчасця, субота не без сонца* (прымаўка). *Бо перэсушваюцца, кажуць, у суботу на сонцы топленікі.* Там жа. *Сонцэ-колонцэ, а ў серэдзіні жывіца, хто не одгадае, той не будзе жэніцца* (загадка). *Свечка* (адгадка). М. Малешава. *Памянш.* с о н е й к о, с о ў н е й к о. *Сонейко купаецца на Купалного Івана і ў першы дзень на велікодні.* Хачэнь. *Просцелюць у майну да соўнейко одпарыць, то белэ полотно робіцца.* Сямурадцы. *Ох, Орыночко, ох, мое соўнейко!* (у звароце да дзіцяці). Цераблічы.

СОНЦЭХІ'ЦЬ *ж.* Сонцазварот. *Пропалі, братко Гаўрыло, назад сонцэхіць!* М. Малешава.

СО'НЯ *м.* і *ж.* Санлівы чалавек. *Людзі дзень розобралі, а соня дрыхне шчэ.* Верасніца.

СОП *ж.* Сажа. *У курной хаці соп на дзвéрах, дым!* Аздамічы.

СО'ПАЦЬ *незак.* Сапці. *Вон сопае — ужэ спіць.* Мачуль.

СОПЕ'ЛЬ *м.* 1. Лядзяш. Запясочча. 2 *экспр.* Ёрш. Аздамічы.

СО'ПКА *ж.* 1. Канапа. *Ек хочэш, то на сопцы ляж.* Хотамель. 2. Курган, грудок. В. Малешава.

СО'ПЛІ *мн.* 1. Соплі. *Соплі цекуць, не ўпраўляюса ссéкаць.* Пагост. 2. Ледзяшы. *Соплі вісяць с крышы.* Сямігосцічы.

СОПЛІ'ВЕЦ *м.* 1. Саплівы хлопчык. *Соплівец — у кого соплі цекуць.* М. Малешава. 2 *метаф.* Падростак. М. Малешава. 3 *экспр.* Ёрш. *Соплівец крыла ростопурыў.* Хотамель.

СОПЛІ'ВУ *прым.* Саплівы. *Марыя у мене була вельмо сопліва.* Старажоўцы. △ С о п л í в а б á б а. Міфічная істота, якая быццам жыве ў лесе і якой палохаюць дзяцей. *Ек перву раз ідзеш у лес, то трэба поцаловáц бабу сопліву, казалі. Подведуц до екого пня да цэлуй.* Тураў.

СОПЛІ'ЦЦА *незак.* Саплівіцца. *Скверэцца да сóпліцца дзіця.* Старажоўцы.

СОПЛЯ'К *м.* 1. Лядзяш. *Соплякі вісяць на стрэсé.* Люткі. 2. Газоўка. *Сопляк закопціў усю хату, постаўце ёгó под коміна, хай цягне туды.* М. Малешава. 3 *метаф.* Падростак. *Шчэ ты проці мене сопляк.* Люткі. 4 *мн. соплякі.* Соплі. *Сопляты, соплякі цекуць без перэрывы.* В. Малешава.

СОПЛЯ'ТЫ *прым.* Саплівы. *Сопляты той, то я б гідовалaса жыць з ім.* Сямігосцічы.

СОПОЧЫ'ЦЬ *зак.* Правесці час у адпачынку, сне. *Ночку сопочыці, дзень дзельцэ робіці. Прыдзе недзелька — у госцікі сходзіці* (з песні). Сямурадцы.

СОПРА'ЎДЫ' *прысл.* Сапраўды. *Шо, сопрáўды не знае?* М. Малешава. *Сопраўды́, коб я знала уперэ́д, то не пошла б.* Там жа.

СОПРОВОЖДА'ТОР *м.* Той, хто суправаджае. *Ты ж ему не сопровождатор.* Старажоўцы.

СО'ПУХА *ж.* Сажа, копаць. *Веніком сопуху змела ў коміні.* Мачуль. *Чорны, бу сопуха, такі ўмазаны да незгрэ́дны.* Запясочча.

СОПЦІ' *незак.* Сапці. *Котора гладка́, то сопе, ек мешок.* Сямурадцы. *От наесцёся да будзеце сопці.* Дварэц.

СОРА' *ж.* Зачэпы на дне ракі. *Плоў да цэпом зачэпіў за сорў.* Дварэц.

СО'РОК 1 *ліч.* Сорак. *У сорок год у мене булі шчэ усе зу́бу.* Пагост. *Я ў сорок дзед буў, а ты шчэ не бацько.* Там жа. 2 *м.* Самец сарокі. *Лецела сорока, а за ею сорок* (загадка). *Дзве пташкі* (адгадка). Дварэц.

СОРО'КА *ж.* Сарока. *Злецеліса, ек сорокі на кроў.* Запясочча. *Круціласа, ек сорока на кусту.* Старажоўцы. *Сорока скарга́чэ напрост окна — это госці* (павер'е). М. Малешава. *Сорока с куста, а дзве на куст* (прыказка). В. Малешава. *А сорока скок-скок, чорны хвосцік, белы бок* (прымаўка). Запясочча. *Сорока-ворона по сметнічку скакала, кашку збірала. І гэтому дам, і гэтому дам, а гэтому не дам. Кру́пу не драў, воды не носіў, хлеба не месіў, побег по водзіцу да ўпаў у крыніцу да і цепер там седзіць* (забаўка, займаюць малое дзіця, перабіраючы ў яго на ручцы пальчыкі). Кароцічы.

СОРОКОВУ'ШКІ *мн.* Лапці з вузкіх лык на многа вушак. *Лапці-сороковушкі обуеш — хороство!* М. Малешава. *Сороковушкі плелі дзеўка́м.* Сямігосцічы.

СОРОКОС'ЯТЫ'Е *прым.* Царкоўнае свята сарака велікамучанікаў. *Ужэ сорока сорок лома́чын прынесла́ на сорокос'ятые на кубло.* Луткі.

СОРОКО'ЎКА *ж.* 1. Манета 20 капеек. Дварэц. 2. Сорак снапоў збажыны. Запясочча. 3. Тоўстая дошка. *Сорокоўкі на подлогу і на домовіну воны.* Дварэц.

СО'РОМ *м.* Сорам. *Нема тобе сорома́, бесстыднік!* Луткі. *От бачыш, екіе людзі, ні стыда, ні сорама́.* Мачуль. *С сорома́ корысці нема* (прымаўка). Запясочча. △ Без сорома́ ка́зка. Пра праўдзівасць паведамлення. *Без сорома казка, шо я тут роскажу.* Верасніца.

СОРО'МЕЦЦА *незак.* Саромецца. *Дзеўкі соро́меюцца ў валёнках іці.* Сямігосцічы. *Соромеецца коло его седзець.* Пагост.

СОРОМЛІ'ВУ *прым.* Сарамлівы. *Хлопец соромліву до дзево́к.* Азяраны.

СО'РОМНО *прысл.* Сорамна. *Соромно так казаць.*

Аздамічы. *Соромно, то трэба пелену ў зўбу узяць*. Старажоўцы.

СОРО′МНЫ *прым*. Непрыстойны. *Як зачопны, то й соромны*. М. Малешава. *Соромнэ слово сказаў, ай-я-яй!* Пагост.

СОРОМНЯ′ГА *ж*. Саромніца. *Така була сцесніцельна, соромняга була*. Сямурадцы.

СОРОМОТА′ *ж*. Палавыя органы. *Еслі б у соромоту ударыў конь, то і конец!* Любавічы.

СОРОМОЦІ′ЦЬ *незак*. Сароміць. *Ты ж мене соромоціла пры людзя́х*. М. Малешава.

СОРОМ'Я′ЖЫ *прым*. Сарамлівы. *Вона не сором'яжа, не соромеецца есці*. Аздамічы.

СОРОТНЯ′, СОРОКНЯ′ *ж*. Сорак снапоў (укладка). *Нажала соротню за дзень*. Цераблічы.

СОРОЧА′НІК *м*. Хлопчык, які бегае у сарочцы без штаноў. Запясочча.

СОРО′ЧКА *ж*. 1. Сарочка. *Так робіць, шо ёму сорочка мокра*. Сямігосцічы. *Чужа сорочка не грэе* (прымаўка). Луткі. *І ў одной соро́чцы стожка́ хлеба з'ем* (прымаўка). Запясочча. *У ленівое до́чкі навек задрыпана сорочка* (прымаўка). Старажоўцы. 2. Злінялая скура гадзюкі. Бярэжцы. 3. Менструацыя. Аздамічы. △ Сорочок мерацьa. Браць мерку на адзенне для маладога перад вяселлем. *За недзелю до весельа мацi молодой і маці хросна, браціха і цётка ідуць до хлопца мерацьa сорочок, бо коліся давала матка хлопцу сорочку і штаны. Стол мераюць, шчоб скацерць пошыць*. Луткі.

СОРО′ЧЫ *прым*. Сарочын. *Сорочые ку́бла шука́ём по корчох*. Пагост.

СОРОЧЭНЯ′ *н*. Сарачаня. *У цёрну у кубле тры сорочэняці булі*. Хачэнь.

СО′СА *ж*. Соска (у размове з дзецьмі). Запясочча. *Памянш*. сósенька. *На́ сосеньку, Ленка!* М. Малешава.

СО′СІК *м*. Носік або трубачка для сцёку (алею, смалы і г. д.). *Пчола сосіком солодзіну з цветоў збірае*. Пагост.

СО′СКА *ж*. Соска. *Дзіця звукло к сосцы*. Пагост.

СОСКА′КВАЦЬ *незак*. Саскокваць. *Пас споўзае да соскаквае*. Пагост.

СОСКО′ЧЫЦЬ *зак*. Саскочыць. *Соско́чыў с крышы да вубіў но́гу*. Пагост. *Соскочыў цэп у перэдачы*. Там жа.

СОСНА′ *ж.* 1. Сасна, хвоя. *На Казаргаці такіе со́сны стоялі!* Буразі. 2. Хвоя з борцю. *На сосне одзёр од медзве́дзёў робілі.* Аздамічы. *Памянш.* с о с о́ н к а. Бярэжцы.

СОСНІ′К *м.* Хвойнік. Запясочча.

СОСНІ′ЦЦА *зак.* Прысніцца. *Сон сосніўса недобры.* Хачэнь.

СОСНІ′ЦЬ *зак.* Убачыць у сне. *Сосніў я ба́цька, на той бок лодкою перэежджаў.* Пагост.

СОСО′НКА *ж.* Хвошч (летні). *У мене на сотках одна сосонка!* Альпень. △ У с о с о́ н к у. У ёлачку (узор). *Плето́м у сосонку цыбулю.* Рубель.

СОСТРО′ІЦЬ *зак.* Згатаваць, зрабіць. *Вечэру трэба состроіць.* В. Малешава.

СОТВОРЫ′ЦЦА *зак.* Здзейсніцца. *Усе гэто сотворылосо даўно.* Дварэц.

СОТЛЕ′ЦЬ *зак.* Сатлець, ператварыцца ў труху ад гарачыні, ад гнілі. *Сотлело сено на пул!* Велямічы.

СО′ТНЯ *ж.* Сотня. *До сотні рублей воз сена!* В. Малешава.

СО′ЎГАЦЦА, СО′ЎКАЦЦА *незак.* Соўгацца. *Гусі соўгаюцца, пока сцемнее.* Верасніца. *Негода будзе, раз до э́тое поры́ соўкаюцца куры.* Луткі.

СО′ЎГАЦЬ, СО′ЎКАЦЬ *незак.* Совацъ, тыкаць. *Дулі одна однэй соўгаюць.* Запясочча. *Воны мне усе тые уколы соўгаюць.* Хачэнь. *Ідзе ек п'яны — то туды соўк, то сюды соўк.* Запясочча.

СОЎГЕНУ′ЦЬ *зак.* Рэзка сунуць. *Хоця б екого ножа́ не соўгенуў!* М. Малешава. *Ек соўгене плавок у во́ду, то ужэ рыба на вудцы.* Кароцічы.

СОЎМА′Н, СОЎМА′К *м.* Ціхі негаваркі чалавек, які паводзіць сябе незалежна. *У своей хаці ходзіш соўмаком, ні глянеш, ні скажэш.* Пагост. *Соўман.* Тураў.

СОЎМА′ЧЫШЧЭ *н. павел.* Тое ж. *Соўмачышчэ, шчо, ліхо твою мацер, моўчыш?!* Пагост.

СОЎНУ′ЦЬ *зак.* Штурхнуць, сунуць, асяніць. *Соўне́ш ей рыбы, і вона не ўмрэ з голоду.* Чэрнічы. *Мене соўнуло, шо то немцы.* Дварэц.

СОЎСЕ′М, СОЎСЁМ, СОЎСІ′М *прысл.* Зусім. *Не соўсем чырвоное.* Хотамель. *Соўсём нізко ле́тае.* Мачуль. *Соўсім другі строй жызні.* В. Малешава.

СОЎСУ′Н *м.* Пхатаўшчэнне на нітцы. Альпень.

СОФІ′Т *м.* Падшыўка дошак да столі. *Столя у іх под софіт.* Альпень.

СОХА′ *ж.* 1. Саха. Пагост. 2. Слуп з развілкай у пабудовах пад перакладзінай. *Стрэха була на сóхах у гумне.* Пагост. Слуп с развілкай у калодзежным жураўлі. Альпень. Слупок з абрэзанымі галінамі для прасушвання гаршкоў. Хотамель.

СОХА′Р *м.* Вельмі худы чалавек (ад прозвішча худога мясцовага яўрэя). Аздамічы.

СО′ХЦІ *незак.* Сохнуць. *Як не пошлі дожджэ̇, то стало сохці усе.* В. Малешава. *Шо ты будзеш сохці з этым дзіцем!* Сямурадцы.

СОЧЫ′ЦЬ *незак.* Сачыць, высочваць. *Я ужэ буду сочыць, шо з гэтого будзе.* М. Малешава. *Гэтой вуліцою стоялі немцы і сочылі тых людзей.* Верасніца.

СО′ШКА *ж.* Акучнік. *Сошка — то, шо картоплі розгоняюць.* В. Малешава.

СОШНІ′К *м.* Насок у сасе, плузе. Хачэнь.

СОШЫ′ЦЬ *зак.* Сшыць, пашыць. *Важнéцкіе чóботы сошыў.* Пагост.

СПАДА′ЦЬ *незак.* 1. Спадваць, скідвацца. *Воўкі ек завылі! Просто шапка з мене спадáе.* Мачуль. *Ечмень скоро спадае.* Цераблічы. *Лецяць коні, аж копута з ног спадаюць!* Запясочча. 2. Паніжацца па ўзроўню (пра ваду). *Як вода прыбувае, так і спадае помалу.* Сямурадцы.

СПА′ДВАЦЬ *незак.* Паніжацца па ўзроўню (пра ваду). *Спадвае вода, брусці можно.* Запясочча.

СПАДО′К *м.* Рыззё. *Одзежына ек порвáна, то спадок.* Сямурадцы.

СПАЁВА′ЦЬ *зак.* Знішчыць, стравіць, выталаваць дашчэнту, абабіць. *Вўтву гуркі спаёвалі ўсе!* В. Малешава. *Немцы село спаёвалі.* М. Малешава. *Спаёвалі яблоню.* Аздамічы.

СПАКОВА′ЦЬ *зак.* Упакаваць, укласці. *Учотырох на воз ледво спаковалі.* Л365 Лукі. *Спаковалі добро на машыну дай поехалі.* Пагост.

СПАЛІ′ЦЬ *зак.* Спаліць. *Весной на Міколу гром нашу хату спаліў.* Хачэнь. *Лежыць, пока гарачка спáліць, да помрэ.* Сямігосцічы. *Варыла, не варыла, ліш бы хвартухá спаліла* (прымаўка). Старажоўцы.

СПА′ЛЬВАЦЬ *незак.* Спальваць. *Ссохне бульнік — зношваём да спальваём.* Пагост.

СПАМУЛЯ'ЦЦА *незак.* Памыляцца. *Спамуляюцца, бувае, да трах цэп об цэп!* Луткі.

СПАНТЫ'ЧЫЦЦА *зак.* Здурнець. Хотамель.

СПАНЦЫ'РКА *ж.* Верхняя жаночая кароткая вопратка. *Спанцырка — ек січас кухайка, але шчэ корочэй.* Сямігосцічы. *Спанцырку у цэркву одзевалі, коб хорошэ було.* Луткі.

СПА'НЬЕ *н.* Спаннё. *Дзень і ноч дрыхне, а шо з гэтого спáнья будзе — не знаю!* Верасніца.

СПАРЫЖО'ВАНЫ *прым.* Паралізаваны. Луткі.

СПАРЫЖОВА'ЦЬ *зак.* Паралізаваць. *Спарыжовало ўязы́, то воно і зара не прошло.* М. Малешава.

СПАРЫКОВА'ЦЦА *зак.* Аб'яднацца. *У ее дзве дзеўкі і ў мене дзеўка, от мы і спарыковаліса да рáзом седзелі.* М. Малешава.

СПАРЫКОВА'ЦЬ *зак.* Аб'яднаць разам. *Ек добрэ спарыкуюць волоў, то воны поцягнуць.* Луткі.

СПА'РЫЦЦА *зак.* Спарыцца. *Спарылосо от сонца цело.* Бярэжцы. *Спарылосо сено.* Хотамель.

СПА'РЫЦЬ *зак.* Спарыць. *Кóрэня от конского шчавера спарыла од малярыі.* Верасніца. *Спарыш молока Мішы, шчоб не ўкісло.* Дварэц.

СПАС *м.* Рэлігійнае свята. *Міне спас, то беры рукавіцы про запас* (прымаўка). Сямігосцічы. *Прыдзе спас — не трэба квас, бо вода холóдна* (прымаўка). Хільчыцы. *Бýські кажуць: пройдзе спас — не будзе нас* (прымаўка). Хачэнь. *Як на спаса дошч пойдзе, то будзе іці до хрышчэнья* (павер'е). В. Малешава. *На спаса той не есць яблук, у кого хлопчык умер.* Там жа. △ Спасу нема (не було). Пра незвычайнасць, безвыходнасць. *Рэвуць воўкі, шчо спасу нема!* Любавічы. *Дзе брод, коровý вубілі яму, шчо спасу нема!* Альгомель.

СПА'СВАЦЬ *незак.* Страўліваць, пасучы жывёлу. *Іншы год урýн спасваюць, ек замерзне.* Цераблічы.

СПАСЕ'НЬЕ *н.* Паратунак. *Грэх у мех, а спасенье ў торбу* (прымаўка). Сямігосцічы.

СПАСЁННЫ *прым.* Якога выратавалі. *Як гром уб'е, то казалі спасённы чоловек.* Старажоўцы.

СПАСІ'БО *н.* Дзякуй. *Спасібо вам за дóбрэ слово.* Дварэц.

СПАСКУ'ДЗІЦЬ *зак.* Зняславіць. *Ні за шчó ні за якé зганіла, спаскудзіла мене.* Луткі. Зрабіць нікчэмным. *Спаскудзіў штаны новуе краскою.* Пагост.

СПА′СНЫ *прым.* Непераборлівы і добры да яды. *От спасна корова моя хоро́ша.* Запясочча. *Спасны ее чоловек, шчо ні дай, тэ з'есць.* Луткі.

СПА′СОЎКА *ж.* 1. Двухтыднёвы прамежак часу перад і пасля спаса. *Петровіца сушыць боло́та, а спасоўка — рэкі* (прыкмета). Цераблічы. 2. Груша, якая паспявае ў *спа́соўку.* Тураў.

СПА′СЦІ *зак.* 1. Ссунуцца. *По́йдзеш праць, то шоб кольцо́ не спало!* Кароцічы. *Буду носіць сорочку, покуль спадзе́.* Хачэнь. 2. Перайсці. *У нас земле́ багато було, то на ёго́ земля спала.* Аздамічы. *На чай спасці, то вон горкі стане.* Мачуль. 3. Панізіцца па ўзроўню (пра ваду). *Воды много, мо коло спаса спадзе́.* Цераблічы. △ С п а́ с ц і  с  к о́ л о с а. Асыпацца (пра зерне). *Хай вонэ б с колоса спало, то я не пошла б жаць.* Верасніца. С п а́ с ц і  з  г о́ л о д у. Зусім абяссілець. *Так спадзе́ пташка з голоду, шо збірае крышэчкі.* Хачэнь.

СПА′СЦІЦЬ *зак.* Стравіць пасучы. *Спасцілі товаром хоро́шу траву.* Пагост.

СПА′СЧЭНЫ *прым.* Страўлены жывёлай. *Там вонэ усе спасчэне, там товар пасуць.* Запясочча.

СПА′ТКІ *мн.* △ У  с п а́ т к і. У спадчыну. *Хату у спаткі сыну покінуў.* Альпень. Д р э м к і-с п а т к і. Сон. *Дрэмкі-спаткі у вочыцка, а здороўе у плечыцка* (з калыханкі). Пагост.

СПА′ТОШЫЦЦА *зак.* Знішчыцца, прапасці. *Нашэ усе тут спатошыцца — і сад і горо́д.* М. Малешава.

СПА′ТОШЫЦЬ *зак.* Знішчыць (збіць, стаптаць, сцерці і г. д.). *Спатошылі куры горо́да.* Рыдча. *Мушы спатошылі пашню́.* Хільчыцы.

СПА′ТУЛЬКІ *незак.* Спаць (у звароце да дзіцяці). *Спатулькі, Ленко, спатулькі!* М. Малешава.

СПАХА′НЫ *прым.* Спрацаваны (сцёрты ад ужывання, выпрацаваны і г. д.). *Венік спаханы, то дзеркач.* Аздамічы. *Жужэль вукіда́юць з горна, вон ужэ спаханы.* Луткі. *Шчэ не зусім спаханые дзеды́ і бабу́, шчэ хозяінуюць.* Пагост.

СПАХА′ЦЦА *зак.* Паступова спрацавацца, разбурыцца, перастаць існаваць, знікнуць. *Старые людзі воны спаха́юцца.* Старажоўцы. *Вон ужэ спахаўса, вон ужэ не чоловек.* М. Малешава. *Спахаўса мост у Мікашэвічах, нема.* Запясочча. *Усе спахалос, на другі строй перэшлі.* Аздамічы.

СПАХА'ЦЬ *зак.* Выпрацаваць да канца, вычарпаць усе сілы, багацці, змест. *Мы ужэ спахалі того колóдзедзя, шо дзеды́ нашы зробілі ёгó.* Луткі.

СПА'ХВАЦЦА *незак.* Спрацоўвацца, пераставаць дзейнічаць, існаваць. *Молодые с села з'ехалі, а старые спахваюцца.* Пагост. *Сорок год стоіць чэрэт, а тогды спахваецца і чэчэ́ крыша.* Цераблічы.

СПА'ЦЦА *незак.* Спацца. *Не спіцца вóўку под селом* (прымаўка). Аздамічы.

СПАЦЬ *незак.* Спаць. *Да ек заснуў, то спаў мо двое суток вон.* Хачэнь. *Спіць, хоць ты ёгó розберы!* Старажоўцы. *Коб не еў да не спаў, то за горáмі стаў* (далёка зайшоў бы, прыказка). Сямігосцічы. *Ужэ двонаццаць часоў пробіло, а ты спіш, дурыло!* (прымаўка). Запясочча.

СПА'ЦЬКІ, СПА'ТКІ *незак.* Спаць (у звароце да дзіцяці). *Спаткі, спаткі, мое дзéцятко!* Верасніца. *Спацькі мамонько хочэ!* М. Малешава.

СПЕВА'К *м.* Пясняр, ахвотнік і майстар пець. *От спевакі добрые воны!* Луткі.

СПЕВА'КА, СПЕВА'ХА *ж.* Добрая пяюха. *Я коліся спевака була, ек молодá була.* Цераблічы. *Ох, і спеваха вона!* Бярэжцы.

СПЕВА'НЬЕ *н.* Спяванне. *Спеванье ужэ не тэе, ужэ зацегáюць.* Старажоўцы.

СПЕВА'ЦЬ *незак.* Спяваць. *Хай Ніна спевае, а я подведу.* Азяраны. *Седзіць, бувало, кудзелю прадзе да песню спевае.* Сямурадцы. *Добрэ певень спевае.* Крэмна. *Ек кýра спевае, то кажуць недобрэ: трэба мераць кýрою од пóкуці до порога, і шчо прыпадзе, то отсекці — ці гóлову ці хвостá* (павер'е). Луткі. *Плакаў, плакаў — було усе однáко, стаў спеваць — стаў бог даваць* (прымаўка). Бярэжцы.

СПЕ'ВОТ *м. экспр.* Спяванне. *Коліcь спевот на вуліцы, а тепэр ні пóголосу не чувать.* Альпень.

СПЕ'ВУ *мн.* Спевы, спяванне. *Весною колько по вуліцах спевоў, а цепер не.* Хачэнь.

СПЕВУ'ХА *ж.* Добрая пяюха. *А спевуха, шо мо такое і ў селе не нáйдзеш!* Верасніца.

СПЕКЦІ' *зак.* Спячы. *Зачы́м ты такого хлеба хорошого не спечэш?* Цераблічы. *Спекці еешню трэ.* Дварэц.

СПЕКЦІ'СА *зак.* Спячыся. *І жонка згорэла, і дзіця*

*спеклосо.* Старажоўцы. *Палцамі за горачу сковороду́, да спекласа.* Пагост.

СПЕЛЕ'ЦКІ *прым. экспр.* Дастаткова спелы. *Не спелецкіе тые помідоры, не можно шчэ есці.* Сямігосцічы.

СПЕЛІ'ЦЬ *незак.* Спяліць. *Поклала на печы спеліць помідоры.* Лутні.

СПЕ'ЛЫ *прым.* Спелы. *Жыто ўжэ спе́ле, жацімо.* Запясочча.

СПЕ'НЕНЫ *прым.* У пене. *Конь вэсь спенены буў.* Мачуль.

СПЕНЬ *м.* Шпень, кароткі выступ, завостраная кароткая палачка і інш. *Ек спень у гарбузе одломаўса, то зогніе́.* Кароцічы. *На спень одзевае о́куня да до хвоста коб.* Дварэц.

СПЕ'РОДУ, СПЕ'РЭДУ *прысл.* Уперадзе. *Спероду стоімо да басуем.* Бярэжцы. *Хай багацее дай сперэду горбаце́е* (пажаданне маладой на вяселлі). Старажоўцы.

СПЕ'РЦІ *зак.* 1. Расперці. *Шоб цебе сперло, ек бочку!* Цераблічы. 2. Сагнаць у адно месца. *Усіх іх сперло разом тут.* Альшаны. 3 *экспр.* Адзець. *Осемнаццаць хусто́к на го́лову сперла!* Запясочча. 4 *метаф.* Разбудзіць. *Ложыса спаць, бо заўтра не можно будзе сперці.* Верасніца. 5 *экспр.* Знесці. *Поглядзі, екое ейцо сперла ку́ра!* Хачэнь. 6 *экспр.* Занесці, узнесці. *Сперла на го́ру той яшчык.* Пагост.

СПЕРША' *прысл.* Спачатку. *Сперша гной роскідай.* Аздамічы.

СПЕРЭЗА'ЦЬ, СПОРЭЗА'ЦЬ *зак.* Сперазаць, сцебануць. *Дубцэм спорэзаў, шоб вон опарыўса!* Старажоўцы.

СПЕЎ *м.*, СПЕ'ВУ *мн.* Спяванне. *Там з балалайкамі, з гітарамі ходзяць по селу, да гуляюць, да спеў!* Хачэнь. *Так воны за дзень нато́мяцца, так попоедзяць іх комары, а ноч-ноч — спе́ву!* Запясочча.

СПЕ'ЎНІК *м.* Песеннік. *Это с спеўніка эта песня.* Бярэжцы.

СПЕХ *м.* Хуткасць, поспех. *Спеху тобе ў робоці!* (пажаданне). Любавічы.

СПЕЦЬ *незак.* Спець. *Жыто полове́е і будзе спець.* Бярэжцы.

СПЕ'ШНО *прысл.* Хутка, паспешна. *Спорно, спешно, шчоб не було смешно, шчоб стало на ўток* (пажаданне пры снаванні красён). Цераблічы.

СПЕШЫ'ЦЬ *незак.* Спяшацца. *Хто спешыць, той*

*людзей смешыць* (прымаўка). Сямігосцічы. *Часы спешаць на дзесяць мінют.* Пагост.

СПЁКА *ж.* Спякота. *На дворэ паліць, спёка.* Дварэц. *Така спёка, шчо не можно вуйці на двор.* Пагост.

СПІВА'ЦЬ *незак.* Выклёўваць зерне. *Вороб'е співаюць і ечмень, і просо.* Дварэц.

СПІЛІ'ЦЬ *зак.* Спілаваць. *Спіліў п'яць пней сосны.* Старажоўцы.

СПІ'НА *ж.* Спіна, паясніца. *Багато вужала і спіна не заболела.* Дварэц. *І нога і спіна боліць.* М. Малешава. *Памянш.* спінка, спіночка. *У лескухі спінка вузкая.* Старажоўцы. *Перан.* Прадаўгаватая горка. *Такіе спіночкі коло рэкі, ек кобылі покачацца, не залівае.* Мачуль.

СПІНА'ЦЦА *незак.* Узнімацца. *Я спінаюся на палцах, шоб побачыць.* М. Малешава.

СПІРА'ЦЬ *незак.* Здушваць, напружваць дыханне. *Кашэль спірае, дыхаць важко.* Аздамічы.

СПІ'СВАЦЦА *незак.* Запісвацца. *Пошлі спісвацца молодожэні у сельсовет.* Запясочча.

СПІ'СВАЦЬ *незак.* Запісваць. *Ты, дзеду, сядзь коло мене, я буду спісваць.* В. Малешава.

СПІХНУ'ЦЬ *зак.* Спіхнуць. *Толькі воны спіхнулі ту лодку і самі поселі, а та лодка догоры дном!* Пагост.

СПІ'ЦА *ж.* 1. Адна з палачак, якую засоўваюць у вушы лапця пры яго падплятанні. *Постолы плелі на спіцах.* Альшаны. *То спіцы, шо закладваюць у вушы, а подплётаць — спіцак.* Цераблічы. 2. Спіца ў коле. *Двенанцаць спіц у колі.* Хотамель. 3. Кароткая дужка ў кошыку. Альпень. 4. Стрэмка. *От бач, спіца ў палец улезла.* Луткі. 5. Драўляны цвік, якім змацоўваюць бярвенне. Аздамічы. 6. Спічак, які забіваюць у хвою пад борць; спічак, на якім трымаецца ў вуллі вашчына і інш. Аздамічы. 7. Невялікі шчупак. *Наловяць дзеці тых спіц, шваюноў.* М. Малешава. *Памянш.* спіцка. Кароцічы.

СПІЦА'К *м.* 1. Прылада для падплятання лапцей. *Буў спіцак косцяны.* Аздамічы. 2. Невялікі шчупачок. Луткі. 3. Стары лось. *Спіцак называлі того лося, которы глаўны.* Хачэнь.

СПІЦУ'Н *м.* Малы шчупак. *Паба, спіцун на капелюшыну вускочыў да подскоквае, у воду хочэ.* Пагост.

СПІЦЬ *зак.* Выкляваць зерне. *Вороб'і спілі моё про-*

*со до зёрнета!* Мачуль. *Спілі пташкі рэдзьку.* Там жа. *Соўнечніка посадзі — зоп'юць вороб'е!* Верасніца.

Раней ад вераб'ёў пры замовах заклікалі нехрышчонае мёртвае дзіця сцерагчы проса. Луткі.

СПЛАКНУ'ЦЬ *зак.* Крыху паплакаць. *На весельі я сплакнула.* М. Малешава.

СПЛАЎ *м.* Плытніцтва. *На сплаві буў восемнаццаць год.* Сямурадцы. *На сплаў шлі робіць, шоб копейка була.* Пагост.

СПЛА'ЎВАЦЬ *незак.* Аплываць. *Грыб сплаўвае од росы.* Пагост.

СПЛАЎНІ'К *м.* Смецце на сенажаці ад веснавой вады. *Сплаўнік позгрэбаў, шчоб сенóжаць була чыстая.* Луткі.

СПЛАЎНЫ' *прым.* Плытніцкі. *Дзед і возрос і робіў у сплаўной брыгадзі.* В. Малешава.

СПЛА'ЎШЧЫК *м.* Плытнік. *Сплаўшчыком важка робота, на водзе.* Пагост.

СПЛЕ'НКА *ж.* Традыцыйнае асенняе свята. *У Ольпені на спленку с'етóк.* Луткі.

СПЛЕ'НЬЕ *н.* Тое ж. *На спленье готуй насенье* (прымаўка пра пачатак сяўбы жыта). Альпень.

СПЛЕСНУЦЬ *зак.* Пляснуць. *Я і рукі сплеснула!* Аздамічы.

СПЛЕСЦІ' *зак.* Сплесці. *Трэ з рэбрэю мату сплесці.* Аздамічы. *Ек дожынкі, то венка сплетуць брыгадзіру.* Хачэнь.

СПЛЕСЦІ'СА *зак.* Счапіцца. *І жонкі і чоловекі сплеліса біцца.* Аздамічы.

СПЛЕ'ТНІК *м.* Пляткар. Хільчыцы.

СПЛЕ'ТНІЦА *ж.* Пляткарка. Кароцічы.

СПЛЁТКІ *мн.* Плёткі. *Вона сплёткі пускала.* Тураў.

СПЛОДЗІ'ЦЬ *зак.* Спарадзіць. *Не любіў жонку, а дзеткі сплодзіў.* Сямігосцічы. *Дзіця сплодзілі і жывуць ладом.* М. Малешава.

СПЛО'ТКА *ж.* Звязванне лесу ў плыт. *Е однорадна і двухрадна сплотка.* Сямурадцы.

СПЛО'ТЧЫК *м.* Той, хто вяжа на вадзе плыты. *У сплотчыка ногі ў водзе, то простывае часто.* Пагост.

СПЛО'ЎВАЦЬ *незак.* Усплываць. *Это этые сплоўваюць зелёные ягоды, побач, екіе.* В. Малешава. *Нежыва рыба сплóўвае.* Пагост.

СПЛОША'ЦЬ *зак.* Пагоршаць. *Ці то ўжэ сплошалі годы на орэхі ці шчо?* Старажоўцы.

СПЛО'ШЫЦЦА *зак.* Зрабіць дрэнна, зрабіцца дрэнным. *Сплошыўса, не попаў.* Запясочча. *Сплошыўса я, ні на шо ужэ не варты.* Пагост.

СПЛОШЭ'ЦЬ *зак.* Зрабіцца дрэнным. *На старосць мо́жэ сплошэць.* Цераблічы. *Сплошэло здороўе, задышка.* Пагост.

СПЛУВА'ЦЬ *незак.* 1. Аплываць. *Стары грыб намокне да сплувае.* Дварэц. 2. Усплываць. *Топляк у водзе не сплувае.* Пагост.

СПЛУСЦІ' *зак.* 1. Усплысці. *Ек подняў колкі, і жак сплоў, ек полено, поўны рыбу!* Верасніца. 2. Сплысці. *У войну сплоў у нас млін.* Сямурадцы. 3. Ссунуцца (з клубка). *Чашка пражы сплула́ с клубка.*

СПЛЮ'СКНУЦЬ *зак.* Сплюшчыцца. *І эта кабіна уся і сплюскла.* В. Малешава. *Два позвонкі у ее сплюскло.* Дварэц. Сплюшчыць. *Вона сюды лінула, а вон скоро сплюснуў очы да цекло усе на грудзі.* Лутк.

СПНУ'ЦЦА *зак.* Падняцца, стаць, усперціся. *Ек на ногі спнуласа, то пошла на усяку роботу.* М. Малешава.

СПО'ВАГА *прысл.* Спакваля. *Коб жэ ты лёг сповага, а то упаў!* Цераблічы.

СПОВЕШЧА'ЦЬ *незак.* Даваць знаць. *Бацько сповешчаў мне, сніўса ко́жну ноч.* Луткі.

СПОВІВА'ЛО, СПОВІВА'ЙЛО *н.* Павязка на галаве ў маладой паверх чапца. Луткі. *Сповіва́йло.* Рыдча.

СПОВІВА'ЦЬ *незак.* 1. Спавіваць. *Год ёму, шчэ сповіваюць ёго́.* Кароцічы. 2. Абвязваць галаву маладой *на́меткамі* на вяселлі. *Сарпанком сповіваюць молоду́, як замуж ідзе.* Цераблічы.

СПОВІ'ВАЧ *м.* Спавівіч. *Сповівач — хто пошые, а хто ленту барэ.* Мачуль.

СПОВІ'ЦЬ *зак.* 1. Спавіць. *Ой, шо учора ды з вечо́ра ды сыночка́ родзіла, да вона ж ёго́ ды ў кіта́ечку сповіла* (з песні). Пагост. 2. Абвязаць галаву маладой *на́меткамі* на вяселлі. Альшаны.

СПО'ВОДУ *прысл.* Спрадвеку. *У нас этого не було і споводу.* М. Малешава.

СПОГАДА'ЦЬ *зак.* Праявіць спагаду. *Сыты по голодному не спогадае* (прымаўка). М. Малешава. *Ек ікнецца, то от это нехто мене спогадае* (павер'е). Бярэжцы.

СПОГНА'ЦЬ *зак.* △ С п о г н а́ ц ь з л о. Аблаяць, пабіць са злосці. *Хоць зло спогнала б, коб побачыла ёго́.* Хачэнь.

СПОД *м.* Ніз. *Вытры спод у сковородзе́.* Цераблічы. *Спод у сетцы.* Альшаны. *Спод лодкі.* Пагост.

С-ПОД *прыназ.* З-пад. *П'е с-под коровы молоко.* Луткі.

СПОДА'К *м.* Ніжні камень у жорнах. Хотамель.

СПОДЗЕВА'ЦЦА *незак.* Спадзявацца. *І медзведзь сподзеваўса на мед, дай так спаць лёг* (прымаўка). *На бога сподзевайса, а хлеб пашы* (прыказка). Хачэнь.

СПОДЗЕ'ЦЦА *незак.* Тое ж. *Вон не сподзеўса, шо так рано умрэ.* Сямігосцічы.

СПО'ДНІ *прым.* Ніжні, нацельны. *Сподня скорка то́ўста.* Верасніца. *Сподніе штаны шылі з мешкового полотна, а ў ём багато кострыцы.* М. Малешава.

СПОДНІ'ЦА, ШПОНІ'ЦА, СПОННІ'ЦА *ж.* Спадніца. *А баба у такой сподніцы шырокай на тые чыгуны села дай закрыла.* Сямурадцы. *Цепер меце сподніца по до́лу!* Сямігосцічы. *Шпоніца.* Альшаны. *Спонніца.* Верасніца. *Памянш.* с п о н і ц к а, ш п о н і ц к а. *Шпоніцка на мене не дзержаласа.* Альшаны.

СПОДНІ'ЧНО, СПОННІ'ЧНО *н. экспр.* Тое ж. *Спонnічно бе́ры да одзевайса.* В. Малешава.

СПОДНЯ'К *м.* Ніжні камень у жорнах. Альшаны.

СПОДОБА'ЦЦА *зак.* Спадабацца. *Мы сподобаліса однэ одному́.* Мачуль.

СПОДОБНЕ'Й *прысл.* Зручней. *Рушніком чумадана обмотай, сподобней будзе несці.* Пагост.

СПОЁВА'ЦЬ, СПОЛЁВА'ЦЬ *зак.* Выталаваць, спустошыць, знішчыць. *Куры споёвалі увесь огород, згрэблі.* Сямігосцічы. *Зрэзалі, сполёвалі дубу́.* Хільчыцы.

СПОЁШЫЦЬ *зак.* Тое ж. *Споёшылі хлопцы огород.* М. Малешава.

СПОЖЫ'ЦЬ *зак.* Выкарыстаць. *Ой, мо я і гэто не спожыву́.* М. Малешава.

СПОЗНА'ЦЬ *зак.* Устанавіць, пэўна дазнацца. *То вон спознаў гэто.* Дварэц.

СПОЗНІ'ЦЦА *зак.* Спазніцца. *Спозніласа на вечэ́ру.* Запясочча.

СПОКВАЛА', СПОКЛАВА' *прысл.* Няспешна, памяркоўна. *Мужчыны ж воны споквала робяць.* Луткі.

*Паровік сечэ, а водзяна́ мельніца чавіць і ме́ле споквала.* Дварэц. *Споклава ідзе дождж.* В. Малешава.

СПОКО'Й *м.* Спакой. *Спокою нема да ні той мацер, да ні жонцы.* Луткі. *Праз дурную голову і ногам спокою нема* (прыказка). Старажоўцы.

СПОКО'ЙНО *прысл.* Спакойна. *Ох, не седзелі спокойно у лесі.* Бярэжцы.

СПОКО'ЙНЫ *прым.* Спакойны. *Вон зроду спакойны, не крычыць.* Хачэнь.

СПОКУСІ'ЦЬ *зак.* Спакусіць. *Того хлопца споку́сіць вона, та дзеўка.* Луткі. *Спокусіў ее вон, вона і не хочэ с чоловеком своім жыць.* М. Малешава.

СПОЛ *м.* Коўшык для вылівання вады з лодкі. *Лөдка чэчэ, а му спол не узялі.* Пагост. *Спол з дзерэва робілі.* Чэрнічы. *Памянш.* с п о́ л і к. Пагост.

СПОЛА'СІЦЦА *зак.* Зрабіцца ласым, вельмі ахвотным да прысмакаў. *От споласіласа госцінцы получаць!* Запясочча.

СПО'ЛНІЦЦА, СПО'ЛЬНІЦЦА *зак.* 1. Збыцца. *Спольніўса мой сон.* 2. Зрабіцца поўным. *Потом ужэ жыто сполніцца і половее.* Бярэжцы.

СПОЛНЯ'ЦЦА, СПОЛЬНЯ'ЦЦА *незак.* Збывацца. *Спольняецца, шо мне цыганка нагада́ла.* Пагост.

СПОЛОЖЫ'ЦЦА *зак.* Пакласціся. *Сположылiса на тых свекрыве́й.* Цераблічы.

СПОЛОЖЫ'ЦЬ *зак.* Ускласці віну, абавязак. *Та світа уся бралі, а на Хведора сположылі.* Луткі.

СПОЛОКНУ'ЦЬ *зак.* Спаласнуць. *Возме́це гэтого та́за да сполокне́це чыстою водою.* В. Малешава.

СПОЛОНІ'ЦЬ *зак. экспр.* Захапіць, выбраць. *Сполонілі гуркі.* Аздамічы.

СПОМЕНУ'ЦЬ *зак.* Успомніць. *І цебе споменулі на беседзі.* Пагост. *Споменуў, шоб ёго́ кій не мінуў!* (прымаўка). Сямурадцы.

СПОМІНА'ЦЬ *незак.* Успамінаць. *Шодзе́нь вона ее спомінае.* Мачуль.

СПО'МНІЦЬ *зак.* Успомніць. *А як жэ я не спомніла повесіць сушыць шта́нікі!* М. Малешава.

СПОМУЛІ'ЦЦА *зак.* Памыліцца. *Слова вона не спому́ліцца, скажэ усе так, як е.* Цераблічы.

СПОР *м.* 1. Спарыння. *Шо-то цепер спо́ру ніде не ба́чно у жыті?* Альпень. 2. Спрэчка. *На спор ведро воды вупіў.* Пагост.

СПО'РКА *ж.* Спрэчка. *Разговор да спорка, да бувае, шчо б'юцца у іх.* Луткі.

СПО'РНО *прысл.* Спорна. *Спешно, спорно шоб сновалосо і на ўток оставалосо* (пажаданне). Пагост. *Спорно дождж пошоў.* Аздамічы.

СПО'РНЫ *прым.* 1. Умяшчальны. *Спорная дзежка, беру і беру сало, а воно на одном месці.* Луткі. 2. Хуткі і выніковы. *Спорна робота, здаецца помаленьку, а много.* Луткі. *Спорны дождж — густы.* Там жа. 3. Спрэчны. *Спорны, за ёго спорылі, за тэ порося, не будзе доб́рэ воно.* Луткі.

СПОРОХНЕ'ЦЬ *зак.* Струхлець. *Ек у земле́ лежаць будзе, то спорохнее.* Запясочча.

СПО'РЦІЦЦА *зак.* 1. Сапсавацца. *Нечым у вас тухлым пахне, мо мясо спорцілосо.* Азяраны. 2 *перан.* Скалечыцца. *Бояўса тато, коб я як не спорціўса руж'ём.* Мачуль.

СПО'РЫЦЬ *незак.* Спрачацца. *Давай спорыць не будом.* Бярэжцы.

СПОСЦІ'ГНУЦЬ *зак.* Прыключыцца. *Гэты год мене спосцігла хвороба.* Хотамель.

СПОТА'КАЦЬ *зак.* Зладкаваць, зрабіць. *Дзецям спотакала валёночкі, а сама у лапцех.* Запясочча.

СПОТЫКНУ'ЦЦА *зак.* Спатыкнуцца, збіцца з рытму. *Колі спотыкнешся, бувае, два раз кінеш* (пра сяўбу). Цераблічы.

СПОТЫ'ЛЕЦЬ *зак.* Струхлець. *Була Е́ўга спевўха, да нема, спотылела ужэ там.* Пагост.

СПОТЫ'ЧКА *ж.* Сутычка. *Малі большўю спотычку парцізаны і немцы у Букчэ́.* Хотамель.

СПО'ХАПУ *прысл.* Похапкам. Аздамічы.

СПО'ЦІЦЦА *зак.* Абліцца потам. *Ты споцісса, стомісса, то пчола́ і кусае.* Цераблічы.

СПРА'ВА *ж.* Справа. *Шо то у мене голо́ўная справа, шоб седзець!* Старажоўцы.

СПРАВА' *ж.* Уборы, адзенне. *Дзеўцы справы́ багато трэба.* Аздамічы.

СПРАВЕДЛІ'ВО *прысл.* Праўдзіва. *Товар справедліво по-хотоме́льску называюць коровы́.* Хотамель.

СПРАВЕДЛІ'ВУ *прым.* 1. Справядлівы. Аздамічы. 2. Праўдзівы, сапраўдны. *Сюда можно чаю укінуць грузінского і будзе справедлівы чай.* В. Малешава.

СПРА'ВІЦЬ *зак.* 1. Спагнаць. *Як ты справіш с п'яні-*

*цы грошы?* Старажоўцы. 2. Набыць. *Трэба і возіка справіць.* Хільчыцы. *Трэ шчэ чоботы як мне справіць.* Пагост. 3. Выправіць. *Справілі ногу трохі, а раней накульгвала.* Хачэнь.

СПРАГА'ЦЦА *незак.* Спрэгвацца. *Спрагаліса удвох коньмі орацц.* Тураў. *Спрэгáцца.* Дварэц.

СПРАГЦІ' *зак.* 1. Запрэгчы разам. *Дзве корóві спраглі у плуг.* Пагост. 2. Спрэгчы. *Спрагла сала сковороду́.* Пагост.

СПРАГЦІ'СА *зак.* 1. Запрэгчы разам. *У вас е конь, мы спрагóмса удвох і пашом.* Пагост. 2. Спрэгчыся. *Току нацекло з сала, спрэглосо.* Пагост.

СПРА'ДВАЦЦА *незак.* Сціраццa пры прадзенні. *Палцы спрадваюцца, роўчакі, кроў ідзе.* Хачэнь.

СПРАҚОВЕ'ЧНО *прысл.* Спрадвечна. *Спраковечно гэ́ттыка болото було — тут тобе і мох, і грыб, і ягода, да осушку зробілі, да пропало.* Пагост.

СПРАҚОВЕ'ЧНЫ *прым.* Спрадвечны. Запясочча.

СПРАҚО'ЛІСЬНІ *прым.* Вельмі даўні. *Қолісьне-спраколісьне гэтэ!* Запясочча. *Спраколісня ета капліца.* Пагост.

СПРА'СЦІ *зак.* Спрасці. *Ты сколько спрала мучок? Дзве?* Сямігосцічы.

СПРА'ЎДЗІЦЦА *зак.* Спраўдзіцца. *Усе спраўдзілосо, шчо мацер казала.* М. Малешава.

СПРА'ЎДЗІЦЬ *зак.* Спраўдзіць. *Сон не спраўдзіў, не пошла за єго.* Тураў.

СПРАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Спаганяць. *Ты позычыў грошы, то ідзі спраўляй.* В. Малешава. *Прыеждáў спраўляць податкі колісь.* Цераблічы. 2. Рабіць, арганізоўваць. *Жывуць у городзі, а веселля́ ім бацькі тут спраўляюць.* Пагост.

СПРА'ЎНО *прысл.* Зручна, да ладу. *У нас спраўно, хорошэ коло лесу.* Цераблічы. *На лаві спраўно біць мух.* Луткі.

СПРА'ЎНЫ *прым.* Здатны, прыдатны, лоўкі. *На кáзкі вон спраўны.* Қароцічы. *Қорова спраўнéйша, у которой ногі дóўгіе і шыя доўгая, а колі хвост доўгі, то молока много дае.* В. Малешава. *Такі буў коцік спраўны!* Аздамічы.

СПРО'ДАЦЬ *зак.* Прадаць. *А сын прыедзе да спрóдае усе да собе грошы заберэ.* Запясочча.

СПРОСО'НКУ *прысл.* Спрасонку. *Спросонку на печэ заблудзіласа!* Аздамічы.

СПРО'СТАЦЬ *зак.* Зраўняцца. *Так вона не вельмі на роботу, а на казкі ніхто з ею не спростае.* Лутні.

СПРУ'ЦІЦЦА *зак.* Апруцянець (памерці). *Ек спруціўса, то і ховай.* Мачуль.

СПРЫТНЕ'ЦКІ *прым. экспр.* Вельмі спрытны. *Вельмі спрытнецка жонка була!* Хачэнь.

СПРЫ'ТНО *прысл.* Спрытна, лоўка. *Ой, спрытно пошоў!* Сямурадцы. *Не колывайса, а ідзі спрытно.* Мачуль.

СПРЫ'ТНОСЦЬ *ж.* Спрытнасць, лоўкасць. *У мене е шчэ спрытносць!* Хотамель.

СПРЫТНУ'ХА *ж.* Спрытная, лоўкая, здатная, удалая жанчына. *Спрытнуха молодзіца тая, усе горыць у её!* Верасніца.

СПРЫ'ТНЫ *прым.* Спрытны, лоўкі, здатны. *Ты ж тожэ спрытна дзеўка!* Хачэнь. *Шчэ той дзед спрытны, онё побег!* Сямігосцічы.

СПРЫТНЯ'К *м.* Спрытны, лоўкі чалавек. *Ото ж спрытняк, поехаў — і устро́іўса!* Мачуль.

СПРЫ'ШЧЫЦЬ *зак.* Спапяліць. *По злобе́ мне гумно спрышчылі!* Альшаны.

СПРЭ'БА *ж.* Спроба. *На спрэбу так наліў мне горэлкі, то я і попому́чыўса!* М. Малешава.

СПРЭ'БОВАЦЬ *незак.* Запытваць. *Спрэбоваў то́е сахарное, да чуць не дойшоў, отрута!* Пагост.

СПРЭЧА'ЦЦА *зак.* Спрачацца. *Ты будзеш ешчэ со мной спрэчацца!* Дварэц.

СПУГ *м.* Спалох. *Ему от спу́гу зробілосо, вон спужаўса, шэсь год попострадаў!* Запясочча. *От було нам у войну́ спу́гу!* Дварэц.

СПУ'ДЗІЦЦА *зак.* Спалохацца і пабегчы. *Спудзіліса волы, да на Рыччу!* В. Малешава.

СПУ'ДЗІЦЬ *зак.* Спудзіць, спалохаць. *Спудзіў звера, да той потро́шчыўса по корчох.* Пагост.

СПУЖА'НЫ *прым.* Спалоханы. *Мое дзіця спужанэ, да хворэ́е.* Тураў.

СПУЖА'ЦЦА *зак.* Спалохацца. *Спужаўса, шо і шапка на голове выросла.* Старажоўцы. *Спужаласа, шо во за́ра ногі дрыжаць.* Азяраны. *І зацело́ мне ажны́, спужаласа гэтак!* Дварэц.

СПУЖА'ЦЬ *зак.* Спалохаць. *Воны ёго́ спужалі і с*

*пуду ему этэ зробілосо.* Луткі. *Напнула кожуха́, хочэ спужаці.* Пагост.

СПУ'ЛІЦЬ *зак.* Украсці. *Ідзе дале́ко да там шчо спу́ліць.* В. Малешава.

СПУ'ЛЬЧЫВУ *прым.* Запальчывы. *Вон вельмо спульчыву, скажы не так, то вон тобе усыпле.* Луткі.

СПУН *м.* Супын, супакой. *Коб на іх не було спу́ну, то воны б обіралі.* Пагост.

СПУНІ'ЦЬ *зак.* Спыніць, суняць. *Спуні ко́ней, злезу з воза!* Пагост.

СПУНЯ'ЦЬ *незак.* Спыняць, стрымліваць, сунімаць. *Цепер бацькі не спуняюць дзецей.* Запясочча.

СПУ'СКАЛКА, СПУ'СКАНКА, СПУ'СКАЎКА *ж.* Горка для катання зімой. *Зробяць спускалку да катаюцца на самотужках.* Запясочча. *Спускалка з горы, а коўзалка на лёду́.* Луткі. *Спусканка.* Хачэнь. *Спускаўка.* Луткі.

СПУСКА'ЦЦА *незак.* З'язджаць, сходзіць або злазіць уніз. *Пошлі на коўзалку, будом спускацца.* Крэмна.

СПУСКА'ЦЬ *незак.* 1. Спускаць. *Я оттуля да злезла, а Анэ́ля, то вероўкою спускалі.* Мачуль. 2. Скідаць (пра рогі, зубы). *Лось спускае рогі весною.* Мачуль. *Корова молода́ зу́бу спускае да плохо есь.* Запясочча.

СПУ'СКОВАТЫ, СПУ'СНОВАТЫ, СПУ'СКУЛОВАТЫ *прым.* Адхонны. *Спусковаты берэг у рэкі.* Верасніца. *Спусковаты нос, прамы́.* В. Малешава. *Спусноваты.* Аздамічы. *Спускуловаты.* Запясочча.

СПУСТ *м.* 1. Вялікі гэбель. *Спустом спускалі дно, ек лотку робілі.* Сямігосцічы. 2. Насціл для сцёку вады пад плацінай вадзяных млыноў. *Просто ек у спусці сокочэ вода.* Сямігосцічы.

СПУСТОВА'ЦЬ *зак.* Вынішчыць, зрабіць пусткай. *Лес спустовалі там.* Велямічы. *Худоба спусту́е усе на свеці.* Альшаны.

СПУСТО'ШЫЦЬ *зак.* Апустошыць. *У горо́д улезлі да усе спустошылі.* М. Малешава.

СПУСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Упусціць. *Спусціў язя. Спусціла ведро ў колодзезь і не достану.* Запясочча. 2. Спусціць. *Ту во́ду со жлу́кта спусцімо і оно прэе* (пра бялізну). Луткі. *Спусціць кроў ему бояцца, а п'еўгі за ёго не беруцца.* Хачэнь. 3. Зменшыць. *Усе-такі, дзе́ду, трэ спусціць за корову.* М. Малешава. 4. Прыпусціць, падагнаць. Аздамічы.

СПУ′ТАЦЬ *зак.* Спутаць. *На ноч коней спутаюць, шчоб абу-куды не пошлі.* Верасніца.

СПУТА′ЦЬ *зак.* Спытаць. *Мо кого спутаемо, як тэ було колісь.* В. Малешава.

СПУХА′ЦЬ *незак.* Успухаць. *От вонэ сейчас спухае.* Запясочча.

СПУ′ХКВАЦЬ *незак.* Успыхваць. *Спухквая с краю, да не горыць.* Пагост.

СПУ′ХНУЦЬ *зак.* Апухнуць. *Спухло горло, і собака подох.* Луткі.

СПУХО′ВАТЫ *прым.* Адхонны. Аздамічы.

СП'Я′НУ *прысл.* У п'яным стане. *Сп'яну розліў воду.* Аздамічы.

СП'Я′ЦЦА *зак.* Узняцца. *Хлопец абы ужэ сп'яўса, дай бацьку ужэ помогае.* Дварэц.

СРО′ДЗІЧЫ *мн.* Родныя. *Там нашы сродзічы жывуць.* Любавічы.

СРОК *м.* Тэрмін. *Ей срок оцельвацца.* М. Малешава.

СРО′ДКІ *мн.* Сродкі. *Маеш сродкі, то вучыса.* Дварэц.

СРЭ′ДСТВО *н.* Сродак. *Е срэцство, шо воды можно достаць.* Кароцічы.

ССА′ДЖВАЦЬ *незак.* 1. Ссаджваць. *Напраўду, а ее ссаджвалі вероўкою.* 2. Рабіць больш шчыльным. Кароцічы.

ССАДЗІ′ЦЬ *зак.* 1. Ссадзіць. *Ссадзі дзіця.* Пагост. 2. Зрабіць больш шчыльным. *Колком ссадзіць плецень, шчо і вецёр не продуне.* Цераблічы. 2. Падняць і пасадзіць. *Ссадзіць на лісапета мешок і прэ.* Запясочча.

ССАЦЬ *незак.* Ссаць. *Шо ты ела, шо така замурзана? Дзюдзіка ссала?* (жарт). Сямігосцічы. *Булі случаі, шо вуж ссаў корову.* Мачуль.

ССЕ′ДАНЫ *прым.* Скіслы (пра малако). *Сседанэ молоко не ворушы, хай стоіць.* Луткі.

ССЕКА′ЦЬ *незак.* Ссякаць. *Голоўкі ссекаемо, а кочаны остаюцца.* Хотамель.

ССЕ′КАЦЬ *незак.* Смаркацца. *Ссекаю сoплі етые, а воны цекуць!* Пагост.

ССЕ′КЦІ *зак.* Ссячы. *Пошла ссекці зелье на огородзі.* Хачэнь.

ССЕ′СЦІСА *зак.* Скіснуць (пра малако). *Я постаўлю, хай воно ссядзецца, да сметана будзе.* Бярэжцы.

ССТУПА'ЦЦА *незак.* Саступацца. *Не сступаецца з дорогі.* Цераблічы.

ССТУПІ'ЦЦА *зак.* Саступіцца. *Абу с поля сступіласа, вон той дзесяток і обернуўса. Жэня, сступіс, дай вечэру варыць!* М. Малешава. *Дай жабе рогі, то не сступіцца з дорогі.* Аздамічы.

ССУКА'ЦЬ *зак.* Ссукаць. *Іс пражы ссучуць — это мо́туз.* Запясочча.

ССУ'НУЦЦА *зак.* Ссунуцца. *Бабка с полу́кошком ссунуласа з воза.* Сямурадцы. *Ссунулосо сено з воза.* Пагост.

ССУ'НУЦЬ *зак.* Ссунуць. *Ссунулі жыто у во́рох.* Хачэнь.

ССУПО'НІЦЬ *зак.* Сцягнуць супоняй. Любавічы.

ССЫНІ'ЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць. *Я цебе ек ссыню́ разо́ў два по мордзі!* Цераблічы.

ССЫ'ПАЦЦА *зак.* Спасці. *Ссыпаліса ніткі с клубка.* Сямурадцы.

ССЫ'ПАЦЬ *зак.* 1. Ссыпаць. *Ссыпала картоплі ў хаці.* Сямурадцы. 2. Зрабіць разору паміж градак. *Ссыпала граду́ — построіла розору хоро́шу.* Луткі.

ССЫХА'ЦЦА *незак.* Ссыхацца. *Ток ссыхаўса і буў цвёрды.* В. Малешава.

ССЮ'ЛЬ, ССЮ'ЛЯ *прысл.* Адсюль. *На́дзя ссюль.* Любавічы. *Вон вўехаў ссюля.* Хачэнь.

СТАВА'ЦЬ *незак.* △ Н е с т а в а́ ц ь. Не хапаць. *Сокоў не стае́ у земле́, то й не родзіць.* Запясочча. *Мне ўжэ сілы не стае.* Там жа.

СТАВЕ'НЬ *м.* Штандара. *Стаўні закопваюцца зро́ўне з землею, а на іх кладуцца подру́бы.* Мачуль.

СТАВО'К *м.* Воз без колаў. Хотамель. Прыстасаванне на станінах у ставах. Бярэжцы. Рышт для насаджвання вашчыны у вуллі. Мачуль. *Памянш.* с т а в о́ ч о к. *Ставочок на чотыры сцельнічкі у голове вулья вешаюць.* Цераблічы.

СТА'ДНІК *м.* Бугай. Мачуль.

СТА'ДНІЦА *ж.* Свінаматка, якая з'яўляецца важаком у табуне свіней. *Стадніцу, дзержы, то маціме і плод і сало.* Старажоўцы.

СТАДНІ'ЦА *ж.* Выгараджаны загон для жывёлы на папасе. Аздамічы.

СТА'ДО *н.* Стада. *Я заберу тэ гусеня з вашого стада.*

Цераблічы. *Свіней бачыў две стáдзі.* Старажоўцы. *Цэлэ стадо полецело вороб'ёў.* Луткі.

СТА'ІЦЦА *зак.* Прыціхнуць, змоўкнуць. *У п'яць часоў стаіцца дзіця, да засну.* Цераблічы. *Ек палец óпух пусціў, то, відаць, стаіцца.* Кароцічы. *Ціхо як, стаілосо усе перэд дожджэм.* Пагост.

СТА'ЙЛО *н.* Неагароджанае месца на папасе, дзе адпачывае ўдзень жывёла. *Ек товар на стайло, то ву домоў.* Старажоўцы. *Загоняй товар на стайло.* М. Малешава. Стаянка. *Коло рэчкі стайло було у цыганóў.* Хачэнь.

СТАЙЛОВА'ЦЦА *незак.* Стаяць на стойле. *Стайлýецца товар коло берэлозу.* Запясочча.

СТАЙЛОВА'ЦЬ *зак.* Вытаптаць. *Там мо ўжэ коні стайловалі горóд.* М. Малешава. *Стайловалі, на стойлі ні зеліночкі!* Пагост.

СТА'ЙНЯ *ж.* Стайня. *Да поставіш коня ў стайню стояці* (з песні). Сямурадцы.

СТАКА'Н, ШТАКА'Н *м.* Стакан. Тураў.

Вымаўляць *штакан* зараз тураўцы пазбягаюць, але раней такое вымаўленне было пашырана.

СТА'ЛКА *ж.* Частка, столка ў вяроўцы. *Тры сталкі уместо скруціш, і волока.* Сямігосцічы. Частка, круг каўбасы. *Дзесяць стáлок коўбас зробіла.* Сямігосцічы. Частка складзенай вяроўкі. *Зложы, бабо, веройку у дзве сталкі, я буду сено ложыць.* Пагост.

СТА'ЛОВАЦЬ *зак.* Стайлаваць, вытаптаць. *Скот ворвайса і сталовай город.* Рэмель.

СТАЛЬ *ж.* Частка, столка. *Маці ручнік, бувало, згóрне у дзве сталі да і ўдарыць свогó дзіцяці.* Мачуль.

СТАН *м.* 1. Стан, пояс (талія). *А гэта бра дзеўка у плéчах і ў стану́ спрытнейша!* Хачэнь. *Шылі світкі з заборамі ў стану.* Луткі. 2. Стаянка, шалаш у полі, у лесе для адпачынку. Альшаны.

СТАНОВІ'ЦЦА *незак.* 1. Станавіцца. *Ек станóўляцца аўтобусы на пором, то вон потанае.* Хачэнь. 2. Пакрыцца ільдом. *Не можна достацца до Жытковіч, ек станóвіцца рэка.* Дварэц.

СТАНОВІ'ЦЬ *незак.* Ставіць. *Снопу станóвяць у кучкі, шоб просыхалі.* Старажоўцы.

СТАНОВІ'ШЧЭ *н.* Стаянка. *Тóўсты дуб буў, там у іх навек становішчэ було.* Луткі. *Му косім, а Пушок на становішчы лежыць, сорóк одгоняе.* В. Малешава.

СТАНО'К *м.* 1. Стаянка, шалаш у лесе, на лузе. *Зра-*

*зу станка́ зробілі, а далей землянку*. Хотамель. 2. Стойла для каня ў хляве. *Станкі у конюшні, у іх коні стояць.* Запясочча. 3. Прыстасаванне або прылада. Запясочча.

СТАРА′ *прым. ж.* Свякруха, жонка сталых гадоў, старая. *А стара напала на старо́го, а на́шчо ты даў.* Дварэц.

СТАРА′ТЛІВУ *прым.* Старанны. *Вон такі старатліву, усе зробіц.* Запясочча. *Дзе булі людзі старатлівуе, там було.* Аздамічы.

СТАРА′ЦЦА *незак.* Старацца. *Стараесса прыціснуць ік собе.* Луткі. *А ек зожнуць, то стараюцца скорэй на семена.* Старажоўцы.

СТАРОБУ′ТНЫ *прым.* Старажытны. *Вы пішэце старобутные слова.* В. Малешава.

СТАРОВА′ЦЬ *незак.* Весці размовы, гутарыць. *Зобраліса да старуем тут.* Мачуль.

СТАРОДЗЕРЭ′ВІЦА *ж.* Стары лес. Аздамічы.

СТАРОДЗЕРЭ′ЎЕ *н.* Тое ж. *Там стародзерэўе було, не то шчо цепер.* Цераблічы. *Лес то́ўсты да здоро́ву, стародзерэўе.* Пагост.

СТАРОЖЫ′ТОЧНЫ *прым.* Старажытны. *Старожыточные слова.* Чэрнічы.

СТАРОКО′РЫ *прым.* З застарэлай карой. *Старокорэ дзерэво.* Сямігосцічы.

СТАРОЛЕ′СІЦА *ж.* Стары лес. *Шчэ хата здоро́ва, то старолесіца.* Альшаны.

СТАРОПО′ЛІЦА *ж.* Даўняе поле. *На старополіцы посеялі картоплі, то духо́м порослі.* Хачэнь.

СТА′РОСЦЬ *ж.* Старасць. *Не дай божэ под старосць товар пасці да дзеці гледзець* (прымаўка). Цераблічы. Старыя людзі. *Е старосць, шчо чуе і бачыць шчэ.* Верасніца.

СТАРЦОВА′ЦЬ *незак.* Жабраваць. *Ко́лісь було, е́жэлі нема на чом жыць, то старцуй.* Старажоўцы.

СТАРЦЭВО′Д *м.* Павадыр у жабрака. *Ты старцэвод хромы!* Дварэц.

СТАРЧ *м.* Стырчак. Аздамічы.

СТАРЧА′НКА *ж.* Жабрачка. *Вона свой век старчанка була.* В. Малешава. *Одзеласа, ек старчанка, не можно вўйці.* Старажоўцы.

СТА′РЧАЦЬ *незак.* Хапаць, быць дастаткова. *Ужэ мне ста́рчыць, не хочу болей.* Альшаны.

СТАРЧА′ЦЬ *незак.* Жабраваць, прасіць, маліць. *Хадзілі усе да старчалі, шчоб коня далі.* Чэрнічы.

СТА′РШЫ *прым.* Старэйшы. *Днепр старша рэка́ за Пры́пець.* Аздамічы. *Шоб у твоем хозяйстві не було ні ста́ршого, ні ме́ншого!* (пажаданне). Сямігосцічы.

СТАРШЫНА′ *ж.* Старшыня. *Сорок год Якубоўскі старшыною ў Верэсніцах.* Пагост.

СТАРЫ′ *прым.* 1. Стары. *Я шчэ не така стара́, з двацатого году.* Пагост. *Стара земля, то до́бра, чорнозе́м.* Аздамічы. *Старые шчэ мур пове́рнуць у калгасі!* (прымаўка). Дварэц. *Старые і дзеці — усе на дзіе́ці* (прымаўка). 2 *м.* Месяц на сходзе. *Я шчэ цепер шчэ старо́го бачыла упора́ну, шчэ буў.* Старажоўцы. 3. Стары мужчына, муж у сталых гадах. *Мой стары, мой дружыночок, ходзі погомо́нім.* Запясочча. *Памянш.* с т а р э́ н е ч к і, с т а р у́ с е н ь к і, с т а р э́ н ь к і. *У дзеда старэнечка-старэнечка хата.* Хачэнь. *Дзед буў старусенькі, чуць ходзіў.* Хачэнь. *Ужэ старэнькі, але шчэ дро́ва сечэ.* Пагост.

СТАРЫ′ЗНА *ж.* Даўніна. *Гэто було ешчэ, ек старызною немец воеваў.* Верасніца.

СТАРЫ′К *м.* 1. Старыца. *А той старык ужэ остаецца, як рэка собе нового ро́ва прорезала.* Хотамель. 2. Месяц на сходзе. *У старыку́ недобрэ сеяці.* Хотамель. *У старыку кабана колі, то сало будзе хоро́шэ.* М. Малешава.

СТАРЫКОВА′ЦЬ *незак.* Разважаць сур'ёзна, па-старэчы. Аздамічы.

СТАРЫНА′ *ж.* Старызна. *Век не жэнаты, да ужэ старына.* Аздамічы. *Ек запішэце словы, то гэта старына будзе доўго цегціса.* В. Малешава. *Памянш.* с т а р ы н к а. *Воны хочуць даўнінку знаць, старынку.* Запясочча.

СТАРЫ′ННЫ *прым.* Старажытны. *Старыннэе цэняць дзерэўня́нэ!* Альгомель. *Старыннэ нашэ воны усе пішуць.* Чэрнічы.

СТАРЭ′ЗНЫ *прым.* Вельмі стары. *Ох, вон старэзны да лысы!* Хачэнь.

СТА′РЭЦ *м.* Жабрак. *Бувало, хата от старцо́ў не зачыняласа.* Старажоўцы. *Дожыўса, хоць у старцы́ ідзі.* Запясочча. *У іх одзіна́ццаць дзецей, жывуць, бу старцы́.* Там жа. *Ходзіць оборва́ны, ек старэц.* Старажоўцы. *Доедай куска, бо старцы́ прысняцца* (прымаўка). *Хоць за ста́рца, абы за ольшанца* (прымаўка). Альшаны. *Старцэм буўшы да с перцэм есці!* (прымаўка). Сямігосцічы. *Шо му старцы́ доводзіць концы!* (прымаўка, пра спеў). В. Малешава. *За шчо старцэ́ б'юцца, шо ў торбі сухары мнуцца* (прымаўка). М. Малешава.

СТАРЭ'ЦЬ *незак.* Старэць. *Не старэе баба! Так вутанцоўвае!* Бярэжцы.

СТАРЭ'ЧА *м.* Стары чалавек. *Ужэ старэча, а лезе!* Альпень.

СТАРЭ'ЧЫ *прым.* Старажытны. *Усе старэчэ перэпісваюць, шо му кажэмо.* Верасніца. *Ета старэча сподніца.* Запясочча.

СТАСОВА'ЦЬ *зак.* Змяшаць. *Зе́млю стасовалі тракторáмі.* В. Малешава.

СТАЎ *м.* Стаў. *Стаў просты, а верстаць такá вусóка.* Луткі. *Трэ стаў унéсці да кросна навіці.* Хотамель.

СТА'ЎБІШЧЭ *н.* Стаянка. Запясочча.

СТАЎКО'ВУ *прым.* △ С т а ў к ó в а п і л á. Лучковая пілка. Аздамічы.

СТА'ЎЛЯЦЬ *незак.* Ставіць. *Не стаўлей там, а тут.* М. Малешава. *Стаўляюць так капусту у нас.* Сямурадцы. *Стаўлейце снопу́ у бабкі.* Бярэжцы. *Бочкі з гуркамі і з капустою стáўляюць у сцёпцы.* Пагост. *Ву́лей ставілі на дзерэві.* Бярэжцы.

СТА'ЎМА *прысл.* Стаяком. *Поставілі стаўма.* Тураў.

СТАЦІ'ВІНА, СТАЦЬВІ'НА' *ж.* Бакавая частка ставаў. Запясочча. *Стацьвінá.* Аздамічы. *Стацьвіна.* Луткі.

СТА'ЦЦА *зак.* Давесціся. *От сталосо-склалосо і Семен пошоў у заработкі* (прымаўка). Запясочча.

СТАЦЬ *зак.* Стаць. *Прышоў да хоцеў за хозяіна стаці.* В. Малешава. *Стаў і стою, думаю: шчо ж гэто будзе?* Кароцічы. *Я стала плакаць, так немец целушэчку оставіў.* Хачэнь. *З ветру ему стало.* Луткі. *У рэцэ краé сталі, а серэ́дзіна бежыць.* Мачуль. *Спужаўса, аж сорочка полотном стала.* Аздамічы. △ С т а ц ь н а п о г ó д з і. Устанавіцца (пра пагоду). М. Малешава. С т а ц ь н а о д р ы н і. Перастаць пасвіцца. *Товар ужэ стаў на одрыні.* Хачэнь.

СТАЦЬ *ж.* Прычына. *А з екое стáці я цебе буду корміць!* Хачэнь.

СТАЧА'ЦЬ *незак.* Дастаўляць. *Стачáў сено той тыждзень.* Кароцічы.

СТАЧО'К *м.* Сточка, папярочка ў ставах. Запясочча.

СТАЧЫ'НА *ж.* Жывёліна ў статку. *То разві стачына заплуве до леса так далéко?* Цераблічы.

СТА'ЧЫНА *ж.* Складчына. *Давайце стачыну, то і я рубля даў бы.* Аздамічы.

СТА'ЧЫЦЬ *незак.* Быць дастаткова. *Ужэ мне стачыць, не хочу болей.* Альшаны.

СТВОЛ *м.* 1. Ствол (у дрэве). Сямігосцічы. 2. Цэнтральны корань. *Той ствол правéйшы, на ём корэнье одрáстае.* Сямігосцічы.

СТВОРЫ'ЦЦА *зак.* Зрабіцца. *А с чоловеком створылосо нешчо.* Сямігосцічы.

СТО *ліч.* Сто. *Шчэ, сказала, сто рублей е.* Пагост. *Собралі сто лін, вуцеглі баржу, і тэ место назвалі город Столін* (легенда). В. Малешава. *Крыкнуў вол на сто сёл, на сто рэчок, на сто печок, на сто городоў* (загадка). *Гром* (адгадка). △ Л о в í ц ь  с т о. Лавіць *цурку* (у гульні *ў цурку). Сто ловяць на кóрпалцы.* Хачэнь.

СТОГ *м.* Стог. *Коло лесу трохі вукосіў да прыцяг к стóгу.* Дварэц. *Ек зложаць снопы на пóда, то ужэ стог.* Аздамічы. *Ек іцімуць дождже у мае́, то будуць стояць стогі у крае́* (прыкмета). Сямурадцы. *Памянш.* с т о ж ó к. *Шануй стожкá з вершкá* (прымаўка). Сямігосцічы.

Існавала павер'е, што, збіраючыся складаць у стог збажыну, нельга было зранку есці і гаварыць. Тады ў стозе не будзе зусім мышэй. Запясочча.

СТОГНА'ЦЬ *незак.* Стагнаць. *Бувало, так заболіць голова, што я на ўсю хату стогнý.* М. Малешава. *Стóгне земля под ею, ек ідзе.* Сямурадцы. Падаваць гукі, падобныя да стогнаў. *Жабы зелёные стóгнуць.* Луткі.

СТОГНЕ'ЦЬ *незак.* Дрэнна захоўвацца, псавацца. *По месецу стогнее у яшчыку той віноград.* В. Малешава.

СТОГНО'ТА *ж. метаф.* Хваробы. *Шоб ёго стогнота з'ела!* В. Малешава. *Бояліса, бо стогнота будзе.* Аздамічы. *Стогноту вона донесе! Не донесе!* Альшаны.

СТОГОВА'ЦЬ *незак.* Класці ў стог. Запясочча.

СТОГОНЕ'ЦЬ *незак.* Гудзець. *Так леціць, толькі конь стогоніць!* Хачэнь. *Ек попер бугай за воўкóм — аж луг стогоніць!* Пагост.

СТОДО'ЛА *ж.* Вялікая пабудова. *Нáгла, як стодола, ёгó хата.* Дварэц.

СТОЖЫ'ШЧЭ *н.* Вялікі стог. *А стожышчэ мах!* М. Малешава.

СТО'ІЦЬ *незак.* 1. Каштаваць. *А по чом штука стóіць? — Двацца́ць копеёк.* Кароцічы. 2. Мець неабходнасць. *Ему стоіло, голову коб порэзалі.* Запясочча.

СТО'ЙЛО *н.* 1. Стаянка. *Прыгналі товар на стойло.*

Альшаны. *Есцека ямі, стойла, дзе рыбі стояць.* В. Малешава. 2. Дрэва з калодай пчол. Запясочча.

СТОЙЛОВА'ЦЦА *незак.* Стаяць на стаянцы. *Там воны стойлўюцца, у лесі.* Аздамічы.

СТОЙЛОВА'ЦЬ *незак.* Быць на стаянцы. *Стойлўе товар на стойлі.* Любавічы. *Мужчыны стойловалі коло магазіна дзень.* М. Малешава. *Серэд дня ешчэ товар не стойловаў.* Запясочча.

СТО'ЙМА *прысл.* △ С т ó й м а  с т о я́ ц ь. Стаяць нязрушна, упарта. *Вон стойма стояў мо час!* В. Малешава.

СТОК *м.* Месца, дзе сходзяцца канцы (вобада, абруча і г. д.). *Хату робілі, а тоды одрыну, то й сток у стрэсé.* Аздамічы.

СТОКЛОВА'ЦЬ, СТОКОВА'ЦЬ *зак.* Стайлаваць. *Стокловалі на ток посеў.* Аздамічы. *Стокўе за зіму жыто, ек гладко запашэш.* Дварэц.

СТОКОЛО'С *м.* Гірса. Альшаны.

СТОКОЛО'СА *ж.* Тое ж. *Стоколоса на плохом полі росце, ек вода тóпіць.* Сямурадцы. *У стоколосы на версі багато веточóк.* Бярэжцы. *Стоколоса хлебу полóса* (прымаўка). Цераблічы.

СТОЛ *м.* Стол. *У стола е крышка, ногі, поперэчка.* Хотамель.

СТОЛІ'ЦА *ж. метаф.* Цэнтр. *Буськáм тут століца!* В. Малешава. *Тут на ягоды самá століца!* Хачэнь.

СТОЛІ'ЧЫЦЬ *незак.* Закладваць дошкі ў столь. Хотамель.

СТОЛОВА'ЦЦА *незак.* Харчавацца. *Столўецца у мене кварцірант.* Альпень.

СТОЛОВА'ЦЬ *незак.* Тое ж. *Столовалі тут корэспондзенты.* Альшаны.

СТО'ЛОК *м.* 1. Услон. *Я сяду на столок, вон высóкі.* Хачэнь. *Столок трэшчыць од наедзеной бабы.* Дварэц. 2. Табурэтка. *І тэ зовецца столок* (паказвае на табурэтку). Дварэц.

СТОЛОКОВА'ЦЬ *зак.* Выталаваць. *Огород столоковалі собакі, у Грыца сучка е.* Старажоўцы.

СТОЛО'ЎНІК *м.* Той, хто харчуецца. *А там у іх столоўнік помешчаўса.* Запясочча.

СТОЛО'ЧЫЦЬ *зак.* Сталаваць. *Дзікіе свіньня страх як столочылі оўёс.* Мачуль. *Улезлі у огород дзеці, столочылі усе чысто.* Цераблічы.

СТО'ЛЬКО *прысл.* Столькі. *Боброў столько е, шчо усе болота́ затопілі.* Старажоўцы.

СТОЛЬНІ'ЦА *ж.* Шуфляда ў стале. *У стольніцы лежыць нож, брус нож точыць.* Луткі.

СТОЛЮ'ГА, ШТОЛЮ'ГА *ж.* 1. Козлы. *Столюга дро́ва рэзаць і столюга колоды на дошкі рэзаць.* Цераблічы. 2. Станок для апрацоўкі клёпак. *На столюзі спускаюць клепку.* Цераблічы. *Возьмі ту штолюгу, шо дро́ва рэзаць, у дзя́дзька.* Хотамель.

СТО'ЛЯ *ж.* Столь. *Пова́л — то не по-нашому, я под Брэстом чуў, а по-нашому столя.* Луткі. *Ого-го, у вас столя подшыта, а му свою потынковалі.* Тураў. △ Н а с т о л і. На вышках. *На столі багато усякого рахамо́сцья.* Тураў.

СТОМІ'ЦЦА *зак.* Стаміцца. *Ох, стоміўса, ледзь дышу́.* В. Малешава.

СТОНО'ГА *ж.* Мнаганожка. *Стоногі под картоплямі завеліса.* Луткі. *Стонога, дзе мокро́та, ліжэ ету мокроту, да і пітаніе ее.* Запясочча.

СТО'ПВАЦЬ *незак.* Затапляць. *Тут вода стопвала поле навек.* Запясочча.

СТОПІ'ЦЬ *зак.* Затапіць. *Вода не сто́піць стожка тут.* Хотамель.

СТО'ПОК *м.* Атопак. *Дзень збіра́емо стопкі класці ку́пало.* Аздамічы.

СТОПТА'ЦЦА *зак.* Стаптацца. *Окраўкі целепаюцца, ек сто́пчэцца ла́поць.* Хачэнь.

СТОПТА'ЦЬ *зак.* 1. Стаптаць. *Дзеці коло яблуні бульбу стопталі.* Мачуль. Затаптаць. *Нам п'яцеро гусей стоптаў да смеіцца.* Сямігосцічы. 2. Змарнаваць, страціць. *Вон сілы стоптаў на робоці.* Хачэнь. *Жытку ек у лапцях стоптаў.* Сямурадцы.

СТОРГОВА'ЦЦА *зак.* Старгавацца. *Сторговаўса за посе́лю шэсць тысяч.* Сямігосцічы.

СТОРГОВА'ЦЬ *зак.* Старгаваць, купіць. *Сторговаў сено, шчо ёго ні корові, ні коню не увопрэш!* Цераблічы.

СТОРМОЗІ'ЦЬ *зак.* Узбудзіць, расхваляваць. *Стормозілі жывота ему тымі порошкамі.* Дварэц.

СТО'РОЖ *м.* 1. Вартаўнік. *Вон сторожэм робіць у пчол.* Сямігосцічы. 2. Нацягнуты шнурок у рыбалоўнай прыладзе, які сігналізуе аб наяўнасці рыбы. *Сторож дзержы́ш у руцэ і вон показвае, шо рыба е.* Запясочча. 3. Стаўная вуда на шчупакоў. Луткі. 4. Першы колас у

жыце. *На Міколу доўжон буць сторож, колосок вуйці с трубкі у жыці.* Сямурадцы.

СТОРО′ЖА *ж.* Вартаванне. *Сторожа твоя по колейцы, беры клепа́ло.* Сямігосцічы.

СТОРО′ЖКА *ж.* Хатка для вартаўніка. Бярэжцы.

СТОРО′ЖНЯ *ж.* Стаўная вуда на шчупакоў. *На сторожню очэпіць жыўца і пускае.* Цераблічы.

СТОРОЖОВА′ЦЬ *незак.* 1. Сцерагчы. *Вон сторожу́е мага́зін.* Бярэжцы. 2. Пільнаваць. *Товар с пашы йдзе, пойду сторожоваць целушку, двора́ не ведае.* Пагост. 3. Вадзіць пры гульні ў схованкі. Аздамічы.

СТОРОЖЫ′ЦЬ *незак.* 1. Сцерагчы. *Сторо́жаць коні да куро́дым от музко́лі пускаюць.* М. Малешава. 2. Пільнаваць. *Сторожу́ю ездового, трэ дрова от рэкі прыве́зці.* Пагост.

СТОРОНА′ *ж.* 1. Бок, бакавіна. *Одзін ідзе по одну сто́рону кладкі, а другі — по другу́.* В. Малешава. 2. Край, мясцовасць. *Гэты год уся наша сторона зародзіла* (мае добры ўраджай). Хачэнь. △ Н а с т о р о н е́. Збоку. *Жыве, бы звер, на стороне.* В. Малешава.

СТОРЧ, СТЫРЧ 1 *м.* Стырчак. *На сторч пробіў ногу.* Аздамічы. *Одные стырчэ́ на картоплях.* Кароцічы. 2 *прысл.* Старчаком. *Полецеў у во́ду стырч головою.* В. Малещава. △ Д а ц ь с т ы р ч а́. Упасці галавой уніз. *П'яны даў стырча носом.* Аздамічы.

СТОРЧА′К *м.* △ Д а ц ь с т о р ч а к а́. Упасці старчма, галавой уніз. *Покоўзнешса — сторчака не дай!* Аздамічы. Расці ўніз. *Колі голіна сторчака дае на хвоі, то ў хату не бралі, а то зусім вурэзвалі кавалок.* Цераблічы.

СТОРЧАКА′ *прысл.* Старчаком. *А вон у эты колодзезь сторчака!* Старажоўцы.

СТОРЧА′Н, СТЫРЧА′Н *м.* Стырчак. *З'едзяць жукі усе, одные стырчаны́* (пра бульбу). Хотамель. *Пеклі сало на стырчану́.* Рубель. *Стырчаны́ от того мо́ста е ў рэцэ.* Дварэц. *Сторча́н.* Аздамічы.

СТОРЧА′ЦЬ, СТЫРЧА′ЦЬ *незак.* Тырчаць. *Сторчы́ць колоды кусок.* Цераблічы. *Обберуць усе, одзін стырча́нчык стырчыць.* М. Малешава.

СТО′РЧМА, СТЫ′РЧМА, СТЭ′РЧМА *прысл.* Старчаком. *Сторчма поставіў полено.* В. Малешава. *Выска́кае воўк з лозы́ да стырчма у ты́е овечкі.* Мачуль. *Стэ́рчма.* Там жа.

СТОРЧО'ВУ *прым.* Вертыкальны. *То сторчовуе корні, шо ідуць у зёмлю прамо.* В. Малешава.

СТОС *м.* Груд, капец. *Картоплі ў стóсы і закóпваем.* Запясочча.

СТОСОВА'ЦЦА *незак.* Адносіцца. *Рэшэтнікі стосуюцца к грыбóм.* Сямігосцічы.

СТОЎБА'ЛІЦЬ *незак.* Настойліва і шматразова даводзіць. *І от вона мне стоўбаліць: скоро будзе конец света!* Верасніца.

СТОЎБУ'Н *м.* 1. Высокая гаспадарчая пасудзіна (з металу, гліны). Сямігосцічы. 2. Цыбур (у морквы, капусты і інш.). Аздамічы.

СТОЎБУНОВА'ТЫ *прым.* Падобны на стаўбун. *Стоўбуноватые шапкі дзеды́ носілі зімою.* Луткі.

СТОЎП, СТОЎБ *м.* 1. Слуп. *Ек сталі укóла даваць, то вона і стоўпá попéрла, та корова.* В. Малешава. *Такі огонь, уродзі стоўп, бегаў вусокі* (пра шаравую маланку). Пагост. *Комары стоўпáмі лецяць!* Рубель. 2. Стаячы комін на гары. *Лежак і стоўп у коміні на горэ́.* Луткі. 3. Слуп пад столь каля печы, на які мацаваўся *перэсóў.* Луткі. 4. Цыбур (у морквы, капусты і інш.). Хотамель. 5. Укладка дошак. Талмачава. 6. Стос (грошай). Луткі. 7. Шыя. Запясочча. 8. Слупападобны смерч. Луткі. 9. Выцягнутая ўверх чырвань каля сонца. *Стоўп стоіць — на вéцёр* (прыкмета). Запясочча.△ У с т о ў п á. Дзіцячая гульня. Цераблічы. П о й ц і у с т о ў п. Даць семянную сцябліну (пра цыбулю, моркву, капусту і г. д.). *Рэдзька у стоўп пошла.* Цераблічы. *Памянш.* с т ó ў п і к. *На прыпечку — это стоўпік.* Сямігосцічы.

СТОЎПА'К *м.* Слупок. Луткі.

СТОЎПЕ'ЛЬ *м.* Нешта слупападобнае. *Нейкі стоўпель, а не стог, нема опýкі у ём.* Запясочча.

СТОЎПЕ'Ц *м.* 1. Слупок, аб які трапалі лён. *Поўз стоўпец бáбу стояць і трэплюць.* Луткі. 2. Падпорка пад комінам на прыпечку. Запясочча. *Памянш.* с т ó ў п ч ы к. Луткі.

СТОЎПІ'ЛО *н. абразл.* Няўклюда. Запясочча.

СТОЎПО'М *прысл.* Прама ўверх. *Гайсцёр, то той знізу стоўпом угору поднімаецца.* Рубель. *Ек пеўнé спеваюць, то будзе отліга, а ек дым стоўпом, то будзе мороз.* Хачэнь.

СТОЎПУНЕ'ЦЬ *зак.* Аслупянець. *Убачыла воўкá, стоўпунела.* Хачэнь.

СТОЎПЧА'К *м.* Слупок. *Догніў стоўпчак, да плот поваліўса.* Пагост.

СТОЧЫ'ЦЬ *зак.* Патачыць. *Точка сточыла помідоры, поба, а картоплі нішчо.* Дварэц.

СТОЧЫ'ЦЦА *зак.* Стачыцца. *Сточыўса нож на нішчо́!* Пагост.

СТОШЧА'ЦЬ *зак.* Схуднець. *Ужэ воны стошчалі, стоялі суток п'яць голодные.* Старажоўцы.

СТО'Я *дзеепрысл.* Стоячы. *Ты нагледай, як вон — стоя.* Запясочча. *У печэ стоя, картоплі посохлі.* М. Малешава.

СТОЯ'К *м.* Стаячы комін на гары. В. Малешава.

СТОЯ'Н *м.* 1. Тое ж. *То ў коміні стоян, а то — лежак.* Сямігосцічы. 2. Стойка (для дзіцяці). *Стоян — то стояць, а ходун — то ходзі́ць дзіцяці.* Хачэнь. 3. Падпорка пад комінам на прыпечку. Альшаны. 4. Стаячая лямпа. Хотамель. 5. Збожжавая расліна з пустым коласам. *Жыто уніз не спу́сціцца, то кажуць стояны́, плохе жыто.* Луткі. *Посядзьце, бо у нашом жыці стояны́ поростуць* (жартоўная прымаўка пры запрашэнні сесці). Хачэнь. 6. Стаяк для калыскі на полі. Запясочча. △ С т о я н о́ м с т о я́ ц ь. Стаяць нерухома. *Стоя́ном стоялі коло тое́ лаўкі поўдня, піва дожыдалі.* Пагост.

СТОЯ'НКА *ж.* 1. Стойка для дзіцяці. *Дзіця стоіць у стоянцы, як шчэ не хо́дзіць.* Цераблічы. 2. Стаячае матавіла. Хотамель.

СТОЯ'ЦЬ *незак.* 1. Стаяць. *Дурны я стояць, шоб вон мене поймаў!* Луткі. *Го́ды ж не стояць, а про́йдуць.* Бярэжцы. 2. Знаходзіцца. *Село з людзьмі стоіць і цепер.* В. Малешава. *Стояў два дне, а трэйцего дня ужэ перэд вечэром нашлі.* Бярэжцы. 3. Захоўвацца без змен. *По болота́х і по рэках вода стоіць.* Запясочча. *Стоіць по́д год і два, ек покладзены учо́ро.* Кароцічы. *Ідзі, ек стоіш.* Пагост.

СТОЯЧКА' *прысл.* Стаяком. *Іншы плуве стоячка, так, як ідзе.* Дварэц.

СТОЯ'ЧЫ *прым.* Стаячы. *Стояча вода мо лечэбна?* Чэрнічы.

СТРА'ВА *ж.* Страва. *Колісь, то перву страву ставілі на веселы, другую, трэцюю, а цепер, то усе одра́зу.* Дварэц. *Усяку страву, ека е, загадваюць на дзеды́, шоб я несла́ у Прыпець, дзе вон утопіўса.* Хачэнь.

СТРАВІ'НА *ж.* Тое ж. *Трэба шчэ ж на вечор еку стравіну зварыць.* Азяраны.

СТРАВІ'ЦЬ *зак.* Спажыць. *Нашчо́ сено мерацъ? Забераш да стра́віш да усе.* Дварэц. *Зайшлі корову́ ў жыто да стравілі ўсе.* Пагост.

СТРАДА'ЛЬНІК *м.* Бядак, гаротнік. *Екіе му страдальнікі булі у войну!* Рычоў.

СТРАДА'НЕЙКО *н.* Вялікае гора, мукі. *Шчо му страданейка бачылі, коб ву ведалі!* Рычоў.

СТРАДА'ЦЬ *незак.* Гараваць, мучыцца. *Стра́дом страдала, скоркі хлеба не було!* Запясочча.

СТРА'ДНІК *м.* Гаротнік, пакутнік. *От страднік буў, от попоцерпеў!* Лутκі.

СТРА'ДНІЦА *ж.* Гаротніца, пакутніца. *Вона ж така страдніца, больна́ сама, а ёго́ шкодуе.* Верасніца.

СТРА'ДНЫ *прым.* Гаротны, змучаны. *Я ж така́ страдна, така схво́рана!* Хачэнь.

СТРА'ДОЧКА *ж.* Гора, мука. *Така страдочка моймý дзіцяці була.* Хачэнь.

СТРАМІ'НА *ж.* Драбіна. Д.-Гарадок.

СТРАМІ'ЦЦА *незак.* Саромецца. *От поба́, пое́ і не страміцца.* Кароцічы.

СТРАМІ'ЦЬ *незак.* Сарамаціць. *Шчэ іх як страмілі!* Запясочча.

СТРА'МНО *прысл.* Сорамна. *Страмно так гово́рыць.* Аздамічы. *Страмно не даць ему сена, гороваў же на полі колько!* Дварэц.

СТРА'ТА *ж.* Страта. *Чыя хата, того́ і страта* (прыказка). В. Малешава.

СТРА'ТОК *м.* Тое ж. *Одзін страток буў у браціхі, сена не заробіў, то корову хоць вýжэнь, а ей строк скоро оцеліцца.* Дварэц.

СТРАХ *м.* Страх. *Коб до его дойці, то трэба перэнесці велікі страх, некіе гадзюкі поўзаюць, брэўно неке лежыць, але хто мае церпенье, перэнесе усе.* Луткі. *Ужэ ў таком страхý я була, то ніхто не буў і не будзе!* Хачэнь. *Так моцно но́гу порубаў, шо страх!* Азяраны. *Страх чого вон вуробляе!* Альпень.

СТРАХА'ЦЦА *незак.* Адчуваць страх момантам. *Я не страхаўса, шо высо́ко.* Рубель.

СТРАХІ'ДЛО *н.* Страшыдла. *А этэ таке страхідло, шо страшно гледзець.* Луткі.

СТРАХНУ'ЦЦА *зак.* Злякнуцца. *Еслі б ві бачылі*

*молодзіцу ту, то страхнуліса, колько вона есць.* В. Малешава. *Другі раз ек прыехала, то я страхнуласа — нека худая стала.* Луткі.

СТРАХОВА'ЦЦА *незак.* Баяцца. *Я страхўюса есці тые ракі, аж сцёпае мене.* М. Малешава.

СТРАХОВІ'ДЛО, СТРАХОВІ'ЛО *н.* Страшыдла. *От страховідло тая твоя хозяйка!* В. Малешава. *Пойду попрыбіраю тэ страховіло.* Луткі.

СТРАХОВІ'ШЧЭ *н.* Вялікі страх. *Страховішчэ, ек бомбяць рыбу мінамі!* Бярэжцы.

СТРАХОПУ'Т *м.* Страшыдла. *От страхопут, кóзы спужаліса!* Луткі.

СТРАХОТА' *ж.* Вялікі страх, жах. *Страхота божья, шоб ву бачылі!* Луткі. *На весь двор была свінья, страхота!* Хільчыцы.

СТРАХО'ЦЬЕ *н.* Тое ж. *Поб'юцца пеўнé, шо страхоцье, до крові!* Сямурадцы. *Ой, так бліскáло, так грімело у эту ноч, страхоцье!* Пагост.

СТРА'ЦІЦЬ *зак.* 1. Згубіць. *Ожэніўса і скоро жонку страціў.* Хачэнь. *Мне шкода, кéрмаша шчо я страчу.* Сямурадцы. 2. Страціць ачкі пры гульні. *Ек на лінію наступіў, то страціў.* Цераблічы.

СТРА'ШКО *прысл.* Страшнавата. *Пчолы гудуць, шо блізко страшко іці.* Мачуль.

СТРА'ШНО, СТРА'ШНЕ *прысл.* Страшна. *Гарбўза выросла, шчо дзежá, страшно було дзівіцца!* Сямігосцічы. *Очам страшно, а рукі робяць* (прымаўка). Там жа. *Стрáшне.* Тураў.

СТРА'ШНЫ' *прым.* Страшны. *Вой стрáшны, дзе закручвае.* Луткі. *Васіль вельмі стрáшный, толькі очы торчаць.* Тураў. *Страшнэ́ дзело було жукоў.* Сямурадцы. *Гóловы сомоў страшнейшые, страшнó варыць.* Там жа.

СТРАШЫ'ДЛО *н.* Страшыдла. *Головішчэ веліке, страшыдло таке!* Запясочча.

СТРАШЫ'ЦЬ *незак.* Палохаць. *Страшылі дзецей русаўкамі, шоб у жыто не лезлі.* Сямігосцічы.

СТРАШЭ'ЛНО *прысл.* Вельмі страшна. *Шо цыбулю есць, то ужэ страшэлно!* Дварэц. *Страшэлно высокі буў, под столю!* Пагост.

СТРАШЭ'ЛЬНЫ, СТРАШЭ'ЛНЫ *прым.* Вельмі страшны, вельмі значны. *Вочэрэдзь була страшэльна.* В. Малешава. *Страшэлны буран.* Пагост.

СТРО'ГІ *прым.* Суровы, дакладны, вытрыманы. *Кó-*

*ліся такіе строгіе зіму булі.* Сямігосцічы. *Строгі бацько буў, лупцоваў часом.* Пагост.

СТРО'ГО *прысл.* Вытрымана, сціпла. *Строго ведзе сам себе.* Аздамічы.

СТРОЕВО' *прысл.* У лад, зладжана. *Буў бацькоў брат, так лоўко, строево бубнеў.* Верасніца.

СТРО'ІЦЦА *незак.* Рыхтавацца, ладавацца. *Ты ідзі стройса, то пойдом.* Запясочча. *Чоловек строіўса до веселья, да гэто дзело сорваць ему? Недобрэ.* Сямігосцічы. *Я буду строіцца, а ву пішэце.* Аздамічы. *Строіліса на кérмаш у Перэроў.* Пагост.

СТРО'ІЦЬ *незак.* Рыхтаваць, ладаваць. *Ужэ баба стара́, не годзіцца так строіць вам обед, ек молода́.* М. Малешава. *Вон строіў радзіво, да не построіў, не говорыць.* Запясочча. *Стро́ймо мне торбу да я поеду.* Хільчыцы.

СТРОЙ *м.* 1. Лад, парадак. *Колісь на пуды́ да на хунты́ усе, а цепер зусім другі строй.* Аздамічы. 2. Лад, наведзенасць. *Строй хорошы ў піле, то рэзацьме.* Цераблічы. 3. Ткацкі станок з начыннем. *У ее строй е ткаць, побáчыце, бо вона навек тчэ.* Тураў.

СТРО'ЙНЫ *прым.* Убраны, даведзены да ладу. *Цыганы́ стройные такіе, одзетые.* Хачэнь. *Усе стройнэ у моторы.* Запясочча.

СТРОК *м.* Тэрмін. *Строк дадзен вам буць у нас.* М. Малешава.

СТРОМ *м.* 1. Спілаванае завіслае дрэва. *У нас ек застромленэ дерэво, то кажуць стром.* Альпень. 2. Схіл страхі. Альшаны. 3. Куча галля. *Склалі у стром гольé.* Кароцічы.

СТРОМГОЛО'Ў *прысл.* Срымгалоў. *Леціць стромголоў корова, ек шэрсні укусяць.* Цераблічы. *Уцекалі стромголоў немцы.* Сямігосцічы.

СТРОМЕ'Ц *ж.* Казёл, які прыціскае салому на вільчыку. *Стромцэ́ не положы, то вéцёр усе понесе.* М. Малешава.

СТРО'МКА *ж.* Стрэмка. *Ціплюкоў отгоняла, рукою махнула да стромку загна́ла.* В. Малешава. *Памянш.* с т р о́ м о ч к а. Мачуль.

СТРО'МКІ *прым.* 1. Круты. *Крыша е стромка і е плазова́та.* Альшаны. *Стромка стрэха́ доўжэй стоіць, бо дошч збегае і снег аб'ежда́е.* Хотамель. *Ек стро́мчэ́йша*

*хоро́міна, то соломы дзевець колод пойдзе.* Кароцічы. 2. Высокі і тонкі. *Стромкі сосняк, на жэрдкі добры.* Пагост.

СТРО′МКОСЦЬ *ж.* Круцізна. *Стромкосць веліка у моей стрэсе́.* Сямігосцічы.

СТРОМЧЫНА′ *ж.* Тое ж. *Под якой стромчыно́ю ставіць кроквы?* В. Малешава.

СТРОП *м.* Верх страхі пад вільчыкам. *Наклаў сена под самы строп.* Альшаны. *Воны под стропом булі, тые грошы.* Чэрнічы.

СТРО′ПІЦЦА *зак.* Спужацца, спудзіцца. *Побачыў, то стропіўса аж!* Чэрнічы.

СТРОСЦІ′ЦЬ *зак.* Страсціць. *Стросціла пражу у дзве ніткі.* Альпень.

СТРОЧКОВА′ЦЬ *незак.* Адцягваць неаднаразова час здзяйснення. *Ты любіш строчковаць, не спешыш.* Цераблічы.

СТРО′ШЧЫЦЬ *зак.* Патрушчыць, з'есці. *Шчэ малы́е яблука зорвалі, стро́шчылі.* Чэрнічы.

СТРУБ *м.* Зруб. *Там струб буў — сарай недороблены.* Бярэжцы. *Ек зробяць струба, то сцены конопацяць.* Аздамічы.

СТРУБІ′ЦЦА *зак.* Згінуць, прапасці. *Хай вон стру́біцца, той посве́т!* Пагост.

СТРУБІ′ЦЬ *зак.* Згубіць, знішчыць. *Мі ёй ве́хця зробім да подпалім. Та сучка полецела у гу́мна да і струбіла усе гумна.* В. Малешава.

СТРУГ *м.* Струг. *Стружуць жэртку, ек городзяць, струг е такі.* Запясочча.

СТРУ′ГА *ж.* Вельмі грузкая даліна, балоціна. *Струга — ек болото, да вельмо цяжко перэйці ее.* Луткі. *Конь у стру́зі утопіўса.* В. Малешава. *Памянш.* с т р у́ ж к а. Луткі.

СТРУГВІ′НА *ж.* Ажыны. *Стругвіна на колючом дзерэві росце.* Пагост.

СТРУ′ЖЫЦЬ *незак.* 1. Чысціць, стругаць стругам. *Берэлоз ко́лём да стружым.* Дварэц. *Полено стружэ на лучыну.* Запясочча. 2. Цячы паціху. *Там стружыць вода.* Велямічы. 3. Стрыгчы. *Нешчо мой конь почуў, бо ужэ ушы́ма стружэ.* Луткі. 4 *перан.* Есці. *Сечку коні стружуць усю ноч.* Запясочча.

СТРУЙ *м.* Струмень. *Вода струе́м чэчэ с стрэ́хі.* Альшаны.

СТРУК *м.* Струк. *Струкі е у горпы́.* Луткі. *Струко́ў бобу напараць і едзяць.* Хотамель.

СТРУ'МЕНЬ *м.* Рукаў ракі. Пагост. *Памянш.* с т р у м е н ё к. *Дзе була глубо́ка рэчка, то там хоць струменёк слізіць.* Талмачава.

СТРУ'НЫ *мн.* Доўгія вяроўкі, якімі ўвязваюць калоду на санях і падсанках. *На струны такіе уюць воло́чкі, а потом тросцяць іх у тры.* Луткі.

СТРУПОВА'ТЫ *прым.* У глыбокіх трэшчынах. *Берэст такі струповаты.* Сямігосцічы.

СТРУПЧА'СТЫ *прым.* Тое ж. Луткі.

СТРУСІ'ЦЦА *зак.* Страсянуцца. *Ходзіш, каб не струсіцца.* В. Малешава.

СТРУСІ'ЦЬ *зак.* Стрэсці. *Струсе́це трохі яблук да возме́це собе.* Дварэц.

СТРУСНУ'ЦЬ *зак.* Страсянуць. *Я ее не біў, а онно струснуў.* Цераблічы. *Струснуў яблуко запута́ць.* Пагост.

СТРУХНЕ'ЦЬ *зак.* Струхлець. *Хата стара́, зусім струхнела.* Запясочча.

СТРУ'ХНУЦЬ *зак.* Тое ж. *Стояў на горэ доўго крэст, а потом струх.* М. Малешава. *Ек бач струхло у земле дзерэво неоко́рэнэ.* Луткі.

СТРУЯ' *ж.* Струмень. *Кроў цурчыць струе́ю!* Аздамічы. *Струя́мі цурліць вода, гэттакі дождж!* Пагост.

СТРЫВО'ЖЫЦЦА *зак.* Растрывожыцца. *Стрывожыцца серцо от пу́ду.* Кароцічы.

СТРЫ'ГА *ж.* Коратка пастрыжаны хлопец або дзяўчынка. *Стрыга — цвелілі так, як обстрыгуць кого.* Верасніца. *Стрыга-марыга, люльку курыла, у дудку трубіла!* М. Малешава.

СТРЫ'ГНУЦЬ *зак.* Торгнуць. *Нешчо так ек стрыгнуло ў спіне!* Пагост.

СТРЫГЦІ' *незак.* Стрыгчы. *Овечок стрыгуць весною.* Аздамічы.

СТРЫЖНЁВА'ТЫ *прым.* Які мае стрыжань. *От стрыжнёватый дуб!* Сямігосцічы.

СТРЫЖНЁВУ *прым.* Тое ж. *Не попаў стрыжнёвого лесу, да одзін крэж.* Луткі.

СТРЫ'ЖЭНЬ *м.* 1. Асяродак, стрыжань у дрэве. *Стрыжэнь белы, а оболо́на сіня.* Луткі. *Есцека на два санціметры оболона, а то усе стрыжэнь.* В. Малешава. 2. Моцны струмень у цячэнні ракі. *Стрыжэнь у рэцэ доўго не замерзае.* Луткі. 3. Стрыжань у нарыве. Запясочча.

СТРЫК *м.* Прыстасаванне ў возе для прыпрэжкі другога каня. Запясочча.

СТРЫ'КАЦЬ *незак.* Пстрыкаць. *Стрычкі стрыкаюць у лоб.* Пагост. *Прыціснуў жука́, а вон головою стры́кае.* Там жа.

СТРЫ'МВАЦЬ *незак.* Стрымліваць. *Не стры́мвае і говорыць про свое горо.* М. Малешава. *Стрымвае плач на лю́дзях.* Пагост.

СТРЫПЛЁЎКІ *мн.* Чарацінкі ў страсе, напоўненыя сумессю мёду і пылку (наношваюць нейкія адзіночныя пчолы для сваіх лічынак). Хачэнь.

СТРЫЧ *м.* Сцябло без лісця. *Одные стрычэ булі на картоплях.* Запясочча.

СТРЫ'ЧКА *ж.* Пстрычка. *Цішце, а то дам стрычку!* Цераблічы. *Стрычкою у во́ду прызывалі сомо́ў.* Лутюкі.

СТРЫЧА'Н *м.* Сцябло без лісця. *У клеверы одны́ стрычэны́, голоўкі поотпадвалі.* Запясочча.

СТРЭБКІ' *мн.* Махры. *Стрэбкі подвязвалі к поесу.* Альшаны.

СТРЭ'ДНІ *прым.* Дваюрадны. *Стрэдні брат — ма́церного брата сын.* Бярэжцы. *Стрэдні брат і двоюродны брат — однэ і тэ.* Цераблічы. *У вас двою́родна, а му кажом стрэдня сестра.* Рычоў.

СТРЭДНЯ'К *м.* Дваюрадны брат. *Нашые мацерэ́ ро́дные, а мы с тобою ужэ стрэднякі.* Тураў.

СТРЭЛ *м.* Страляніна. *Мой собака ек стаў стрэл, то туды.* Мачуль. *Думалі, стрэл будзе, то под лавою не заб'е.* Дварэц.

СТРЭЛА' *ж.* 1. Пярун, маланка. *Попала ў дзерэво стрэла.* Запясочча. *Стрэла ўдарыла ў сто́га, онно я злез оттуль.* Цераблічы. 2. Крамнёвы завостраны цыліндрык. *Я стрэлу знайшла на полі.* Хачэнь. *Стрэлою от хондзі лечыліся.* Там жа. *Стрэла ек у зе́млю ўво́йдзе, то церэз сем год вухо́дзіць.* Сямурадцы.

СТРЭ'ЛЕНЫ *прым.* Выстралены, зроблены выстрал. *Сюды стрэлено ему і ў потыліцу.* Бярэжцы.

СТРЭЛЕ'Ц *м.* Паляўнічы, трапны стралок. *Такого стрэльца́ на вутву́, ек я, мало дзе е.* Кароцічы.

СТРЭ'ЛІЦЬ *зак.* Стрэліць. *Стрэліў і с першого разу забіў.* Пагост. *П'яць раз стрэліў — і одзін раз не попаў!* Мачуль. *На го́рэ і палка стрэліць* (прыказка). М. Малешава.

СТРЭ'ЛКА *ж.* 1. Кветаносная сцябліна ў цыбулі.

*Не задымілася цыбуля, то пошла ў стрэлкі.* Кароцічы. 2. Ніз капыта ў каня. Запясочча.

СТРЭЛО'К *м.* Паляўнічы. *Вон стрэлок добры на вутву.* Аздамічы.

СТРЭ'ЛЬБА *ж.* Стрэльба. *У Віктора ўзяў я стрэльбу.* Мачуль.

СТРЭЛЯ'ЦЬ *незак.* Страляць. *А воны стрэляюць, а я думала, то на мене, ек спужаласа!* Дварэц.

СТРЭ'ПАНЫ *прым.* Апантаны. *Леціць, ек стрэпаны!* М. Малешава.

СТРЭПКА'Ч *м.* 1. Трапкач. *От возьму стрэпкача́ да ек усыру!* Луткі. 2 *мн. стрэпкачэ́.* Махры. *Ото рушнік с стрэпкачамі.* Старажоўцы.

СТРЭ'ПКІ *мн.* Ніткі, пакінутыя на канцы палатна пры датыканні. *Дзе стрэпкі, отрэзаю і роблю рушніка, стрэпкача.* Луткі. Матузкі ў фартуху. Альпень. Акраўкі у стоптаным лапці. Хотамель.

СТРЭСЕНУ'ЦЬ *зак.* Страсянуць. *Я ча́плю стрэсену́ў, а з ее кожу́шок вупаў.* Луткі. *Стрэсені шапку, у снезі ўся.* Пагост.

СТРЭ'СЦІ *зак.* Стрэсці. *Вол не мог стрэсці воўка́ з рог, так заколоў!* Бярэжцы.

СТРЭ'ХА' *ж.* Страха. *Стрэха́ соломенна, а крыша чэрэпічна.* Луткі. *На стрэ́сі порос мох.* Тураў. *Нашу стрэ́ху трэба перэкрыць, бо вона ужэ стара́я і проце́кае.* Верасніца. *Хомут у стрэ́сі, дуга у лесі, а вожкі на ліпі да шчэ не віты* (прымаўка). Запясочча. Застрэшак. Бярэжцы.

СТРЭХА'ЛКА, СТРЭХА'ЎКА *ж.* Грэбень для падбівання саломы пры крыцці страхі. *Солому попраўляём стрэхалкою.* Дварэц. *Стрэха́ўка.* Там жа.

СТРЭХЕНУ'ЦЬ *зак.* Трасянуць. *Узяў за плечы да як стрехенуў!* Запясочча.

СТРЭХОВА'ЦЬ *незак.* Раўняць салому грэбенем пры крыцці. Хотамель.

СТРЭ'ЦЦА *зак.* Сустрэцца. *Стрэ́ўса с тым чортом да нельга отчэпіцца.* Цераблічы. *Вон не стрэ́нецца с чоловеком і не поговорыць.* Луткі.

СТРЭЦЬ 1 *зак.* Сустрэць. *Стрэць не поспела на ганку, а вон ужэ ў хату ідзе.* Луткі. *Беры піро́га́, ідзі по дорозі й кого стрэ́неш, того і зьмеш за кума.* Сямурадцы. *Екі ехаў, такі й стрэў* (прыказка). М. Малешава. 2 *ж.* Ступень роднасці. *Стрэдні — то перша стрэць.* Хотамель.

СТРЭ'ЧА *ж.* 1. Сустрэча. *Стрэча будзе у клубі.* Ха-

чэнь. 2. Ступень роднасці. *Брат вон ее у трэцюй стрэчы.* Запясочча.

СТРЭЧА'ЦЬ *незак.* Сустракаць. *Стрэчаюць мене і ведуць прамо к колодзедзю.* Луткі. *Стрэчае молода своіх бацька й мацер.* Пагост.

СТРЭ'ЧНЫ *прым.* Сустрэчны. *Стрэчна машына едзе.* Хотамель.

СТРЭ'ЧЭНЬЕ *н.* Пэўны дзень у лютым месяцы, калі, паводле традыцыйных уяўленняў, зіма сустракаецца з вясной. *Як на стрэчэнье нап'ецца певень воды с стрэхі, то на благовешчэнье корова пашы наесца ў болоці.* Бярэжцы.

СТРЭ'ШНІЦА *ж.* Грэбень для падбівання саломы пры крыцці страхі. Пагост.

СТУ'ГА *ж.* 1. Саламяная (або лазовая) бочка з крышкай. *Стугу з соломы на збожье робілі, на два-тры пуды.* Цераблічы. *Стуга робіласа з лозы, пуката, ек бочка, і дзверца булі.* Там жа. 2 *перан.* Нешта падобнае да *стугі. Поставіла стугу на голове* (аб прычосцы). Луткі. *У ёго жонка така стуга!* Хачэнь.

СТУ'ГАЦЬ *незак.* Стукаць, важка біць, збіваць. *Стугае, ек ідзе.* Бярэжцы. *Сту́гаемо полотно.* Сямігосцічы.

СТУГО'НІЦЬ *незак.* Тое ж. Бярэжцы.

СТУ'ЖА *ж.* Сцюжа. *Бу́сько морозу не так боіцца, ек стужы.* В. Малешава.

СТУЖА'ЦЬ *зак.* Зрабіцца цвёрдым, тугім. *Молока нема, то ужэ стужало ў жывоце* (пра сырое жыта, якое елі ў вайну ў лесе). В. Малешава. *Нехай стужа́е, зробіцца гушчэ́йша.* Дварэц.

СТУ'ЖНЫ *прым.* Халодны, дажджлівы. *Стужна така погода, ненасна.* В. Малешава.

СТУЗА'К, СТУСА'К *м.* Грымак. *Стусака́ даў міжы плечы.* Аздамічы. *Стуза́к.* Луткі.

СТУЗА'Н, СТУСА'Н, ТУЗА'Н, ТУСА'Н *м.* Тое ж. Пагост.

СТУЗНУ'ЦЬ *зак.* Моцна штурхнуць. *Так ек стузнула мене, і я через порог назад упала.* Луткі.

СТУК *м.* Стук, ляпанне. *Ні стуку, ні груку, повезлі, ек суку* (прымаўка). Сямігосцічы.

СТУ'КАЦЦА *незак.* Стукацца. *Стукаецца ў хату нехто.* Пагост.

СТУ'КАЦЬ *незак.* Стукаць, ляскаць. *Стукаюць дзеці*

*у косы, шчоб вороб'і просо не пілі.* Сямігосцічы. *Дзяцёл стукае у дзерэво да достае чэрві.* Мачуль.

СТУ'КНУЦЬ *зак.* Стукнуць, ляснуць. *Грыміць, грыміць доўго, потом сту́кне.* Лутксі. *Шо-то стукнуло ему у дурну го́лову, шо поехаў!* Старажоўцы.

СТУКОНЕ'ЦЬ *незак.* Стукацець, ляпаць. *Вона ей стуконіць у вокно і крычыць, шчо войне конец!* Мачуль.

СТУ'КОТ *м.* Працяглы стук, ляпанне. *От наробіла стукоту на ўсе село!* Луткі.

СТУ'ЛЕНЫ *прым.* Прыгнуты, з апушчанай галавой. *Так вон ідзе стулены, ек шо на плёчах несе.* Старажоўцы.

СТУЛІ'ЦЦА *зак.* Прыгнуцца, апусціць галаву і плечы. *Вона сту́ліцца да зробіць.* Дварэц. *Змерзла да стуліласа.* Хачэнь. *Корова стуліласа на дождж.* Угнуцца. *Верэнька пустая стуліласа.* Хотамель.

СТУЛІ'ЦЬ *зак.* Сціснуць. *Стуліла рот, шчоб крый божэ не попало шчо.* Луткі.

СТУ'ЛОК *м.* Крэсла. *Так багато госцей, шо сту́лкоў не хопіло.* Пагост.

СТУ'ЛЬВАЦЬ *незак.* Прыгінаць. *Стульвае вушы конь і на мене!* Дварэц. Звужаць. *Воны стульваюць ему вуліцу.* Запясочча.

СТУ'ПА *ж.* 1. Ступа. *Ступа та, шо просо тоўкуць.* Запясочча. *Е і ножная ступа.* Хотамель. 2. Прэс для выціскання алею. *У кошме́я була ступа, шо оле́і чавілі.* Сямігосцічы. 3. Калода каля кузні для акоўвання колаў. Хотамель. Прылада для збівання сукна. Запясочча. 4. Ход у гульні у каменьчыкі. Сямігосцічы. 5 *перан.* Таўстуха. *Тая ступа подско́чыла, мо біцца хоцела!* Верасніца. △ Тоўкці сту́пу. Мітусіцца ў паветры кучаю на адным месцы (пра камароў). *Комарэ́ ступу тоўкуць на погоду.* В. Малешава. Носіцца ек ду́рэнь со сту́пою. Пераносіць з месца на месца грувасткую рэч. Сямурадцы.

СТУПА' *ж.* Ступня ў назе. Луткі.

СТУПА'К *м.* Тое ж. *Ступакі набіў, покуль по этой каменной дорозі йшоў, болящь.* Пагост. *Но́гу поломаў — ступак целепа́ўса.* Там жа.

СТУПА'ЦЬ *незак.* Ступаць. *Ша́гом ступае конь.* Запясочча.

СТУПЕ'НЬ *м.* Крок. *На ступень одступі од колка.* Мачуль. *Шчо ступень, то й лупень* (прымаўка). М. Малешава.

СТУПІ'ЦЬ *зак.* Шагнуць, наступіць. *А вона ек ступіла, так і повернула ногу.* Хачэнь. *Сту́піш, так ла́міцца.* М. Малешава. *На По́ўчыні не сту́піш, одные вужэ́!* Хачэнь. *От варвар до ганён як ку́ры ступіць.* Сямурадцы. *Шчо ступі, то лупі* (прымаўка). Луткі.

СТУ'ПКА *ж.* 1. Самаробная пастка. Мачуль. 2. Бабка для кляпання. Там жа.

СТУПО'Ю *прысл.* Няспешным крокам. *Конь ідзе ступою помалу.* Луткі.

СТУ'ПТАЦЬ *зак.* Патаптаць, вытаптаць. *Ступтаў товар пашу, анічого нема.* Запясочча.

СТУРБА'Н *м.* Старчак. *Загледзе́ўса на орэшнік да на той стурбан прамо і шты́рхнуў.* Старажоўцы.

СТУРЫ'ЦЬ *зак.* 1 *экспр.* Падняць, раскатурхаць. *Я заўтра цебе рано стуру́.* Луткі. 2. Сагнаць. *Стурыў іх з горы.* Пагост.

СТУС *м.* 1. Круглы капец бульбы. *Загроб сту́са картоплеў.* Аздамічы. *У стусі на зіму картоплі закрываюць.* Цераблічы. *Стус ладок напекла.* Дварэц.

СТУХА'ЦЬ *незак.* Затухаць. *Ек стуха́е у грубі, то цміць.* Аздамічы.

СТУ'ХНУЦЬ *зак.* Затухнуць. *Положу ломаку, шоб не стух огонь.* Луткі.

СТУШКОВА'ЦЬ *зак.* Стушыць. *Каліны особенно вараць. Нарвуць, стушку́юць, процэ́дзяць на рэ́шэто і вараць з мукою.* Сямігосцічы.

СТУШЫ'ЦЬ *зак.* 1. Патушыць. *Той новы дом стушылі.* Крэмна. 2. Стушыць. *Наложыла ры́бу у чугунчык да стушыла.* Чэрнічы.

СТЫД *м.* Сорам. *Мне ж буў бы такі стыд!* Мачуль. *У нас нібыто стыд мацер под ру́ку узяць.* Запясочча.

СТЫДЗІ'ЦЦА *незак.* Саромецца. *Вон стыдзіўса з людзьмі есці.* Луткі. *Хто бога не боіцца, то і людзей не стыдзіцца* (прымаўка). Сямігосцічы.

СТЫ'ДНО *прысл.* Сорамна. *І не стыдно, буга́й ты, шо бацько з мацер'ю кормяць!* Пагост.

СТЫКА'ЦЦА *незак.* 1. Бываць. *Два дні дома не стыкаласа.* М. Малешава. *Брата́нка днямі не стыкаецца дома.* Там жа. 2. Межаваць, судакранацца. *Нашы сенокосы стыкаюцца от так.* Дварэц. *Концы о́бода стыкаюцца.* Аздамічы.

СТЫКНУ'ЦЦА *зак.* Сутыкнуцца. *Гора́ з горою не*

*сходзяцца, а чоловек з чоловеком стыкнецца.* В. Малешава.

СТЫКНУ'ЦЬ *зак.* Усторкнуць. *На́-ка стыкні сало на рожон.* Луткі. *Стыкні на ногі тые окраўкі да збегай.* Верасніца.

СТЫ'ЛЫ *прым.* Застылы, мёртвы. *Шоб цебе му́лі стылого да холодного!* (праклён). Хачэнь. *Чо поворо́чваешса, бы стыла?* Запясочча.

СТЭП *м.* Стэп. *У лесі зробілі ужэ стэп у нас, нема лесу.* Хачэнь.

СТЭ'РНЯ *ж.* Сцерлядзь. *Стэрня не наша рыба, заплуўна́.* Пагост.

СУБО'ТА *ж.* Субота. *Будзеце до суботы у нас?* Сямурадцы. △ К р а́ с н а с у б о́ т а. Субота перад вялікаднем. *Прышоў вон перэд самым велікоднем, у красну суботу.* Сямурадцы. П о м і н а́ л ь н а с у б о́ т а. Субота памінання продкаў. *Помінальна субота перэд Міхайлом.* Альпень. С у б о р н а с у б о́ т а. Першая субота ў вялікі пост. *На суборну суботу пралі ніткі на жакі, коб рыба ловілаcа.* Дварэц.

СУВЕ'РТОК *м.* Скрутак пакроеных лык. *Суверток робяць у крэсты, белым на спод.* Луткі. *Суверток — покро́ена лоза, а верч — это не покроена.* В. Малешава.

СУ'ВОЛКА *ж.* Вельмі тоўстыя ніткі. Цераблічы.

СУГЛІ'ЧЭНЫ *прым.* Няскладны, нязграбны. Сямігосцічы.

СУГЛІ'ЧЫЦЬ *зак.* Зрабіць ненармальным фізічна. *От суглічыло чоловека, стаў худы, страшны.* Сямігосцічы.

СУГРУ'Б *м.* Скрутак палатна і інш. *Сугруб сукна цалы понёс.* Мачуль. *А ваты от екі сугруб!* Дварэц.

СУДА'К *м.* Судак. *Судак шэршáву, ек окунь, але бóльшы і светлейшы і голова, ек у остромýсіка.* Пагост.

СУ'ДЖОНЫ *прым.* Вызначаны лёсам. *Суджонэ дзіця — невестка.* Пагост.

СУДЗЕ'РЖОВАЦЦА *незак.* Стрымлівацца. *Шоб вода судзержоваласа, робілі шлюзы.* В. Малешава.

СУДЗЕ'РЖАЦЦА *зак.* Утрымацца. *Часамі цельна худобіна хочэ звергáць, то напáраць наводкі, дадуць напіцца, то оно судзéржыцца.* Бярэжцы.

СУДЗІ'ЦЬ *незак.* 1. Асуджаць. *Коб я судзіла ее, коб говорыла об ее, ішла нішком.* Запясочча. *Сам себе не бачыць, а другóго сýдзіць.* Хачэнь. 2. Прадвызначаць. *Не судзіў мне бог, кого я любіла.* Пагост.

СУДЗІ'МЫ *прым.* Вызначаны лёсам. *Однэ дзіця родзімэ, а друге — судзімэ* (прыказка). Старажоўцы.

СУДЗЬБА' *ж.* Лёс. *Е судзьба, по ее ўсе вуходзіць.* Пагост. *Не судзьба ета дзеўка тобе.* Там жа.

СУДЗЬЯ' *м.* Суддзя. *Наш пан буў судзьёю на округ.* Лuткі.

СУДО'М *м.* Нешта нядобрае, непрыемнае. *Судом ее возьмі, дзе вона дзеласа, тая шапка!* Пагост.

СУ'ДОРГА *ж.* Сударга. *Судорга вӧзьме за нӧгу, шо і палцамі не можно пошэвеліць.* М. Малешава.

СУЗДРО'М *прысл.* Поўнасцю. *Ты собе дожджэш, з'есць жук картоплі суздром.* Сямігосцічы. *Купяць хату суздром, поўностю.* Альпень.

СУК *м.* 1. Пянёк на дрэве ад галіны. *Ек отломіцца голіна, то остаецца сук.* Луткі. 2. Хвосцік у гарбузе. *Сукі ў гарбӯзах поодбіваліса. Ек хӧндзя, то імі подкӯрваліса.* Луткі. 3. Кастрычына ў прадзіве. Верасніца.

СУ'КА *ж.* 1. Сука. *Это ж наша сука брэшэ да ўсе!* М. Малешава. 2 *перан.* Вельмі сварлівая жанчына. *Та жонка була цьфу, сука дай годзі!* Хачэнь.

СУКА'ЙЛО, СУКА'ЛО *н.* Сукала, станок для скручвання нітак. *Ніткі на сукайле на цэлкі насукваюць.* В. Малешава. *Сукало ж таке було, да долӧнею бі да цэўкі гэтые сучы́.* Хачэнь.

СУ'КАНЬ *ж.* Суканая пража. *Сукань була у мӧточках, а гӧрын у куклӓх.* Луткі.

СУКА'ЦЬ *зак.* Сукаць. *Трэ на сукало сукаць ніткі на цэўкі.* Цераблічы. *Сӯчуць свечку ўвечэры цепер, а ўзӓўтра веселье.* Луткі. △ С у к а́ ц ь  с в е́ ч к і. Рыхтавацца да пахавання. *Бабӯ собіраліса свечкі по ёй сукаць, а вона жыве.* Запясочча.

СУКНО' *н.* Сукно. *Козачыну шылі з чорного сукна.* Запясочча.

СУ'КНЯ *ж.* 1. Суконная спадніца для дарослых. М. Малешава. 2. Сукенка для малых. М. Малешава. *Памянш.* с ӯ к о н ь к а. *Марӯсько, наложы́ трохі доўжэйшу суконьку, мо цеплёй будзе.* Кароцічы.

СУКНЯ'НКА *ж.* Анучка з сукна. *Самӓ воўніна була на сукнянкі.* Альшаны.

СУКНЯНЫ' *прым.* Суконны. *Сукнянэ усю зіму усе носілі.* Верасніца.

СУКОВА'ТЫ *прым.* 1. Сукаваты. Луткі. 2. Гузакаваты (пра пражу). Верасніца.

СУКОВА'ЦІЦА *ж.* Сукаватая палка. *Трэ ссёкці суковаціцу гладышкі сушыць.* Луткі.

СУКО'НКА *ж.* Ануча з сукна. *З ондарака́ суконкі цёплые.* Луткі.

СУКО'ННІКІ *мн.* Суконныя штаны. *Суконнікі на мороз.* Пагост.

СУКО'ННЫ *прым.* Суконны. *Суконнэе вороціло оно шыро́кее.* Луткі. *От я у штано́х суконных.* Мачуль.

СУ'КРОВІЦА *ж.* Сукравіца. *Сукровіца з носа пошла.* Пагост.

СУКРУ'Т *м.* Закрутка на нітцы. *Сукрут схапваецца, ек нітка крута́я.* Сямігосцічы. Клубок накроеных лык (у выглядзе васьмёркі). Пагост.

СУКРУ'ТА *ж.* Тое ж. Аздамічы.

СУКРУ'ТНІК *м.* Тое ж. Луткі.

СУ'КРУ'ТОК *м.* Тое ж. *Ек крутая нітка да змота́ецца, то сукру́ткі будуць.* Сямігосцічы. *Су́круток.* Мачуль.

СУ'КРУ'ЦЕНЬ *м.* Тое ж. *Ніткі покручэные схапваюцца у сукру́тні.* Луткі.

СУКРУ'ШЛІВУ *прым.* Спачувальны. *Для людзей вона не сукрушліва, не шкодуе іх, усе собе грэбе.* Сямурадцы. *Сукрушліва до дзецей стала, ек свой хлопчык утопіўса.* Пагост.

СУКРУ'ШНЫ *прым.* Тое ж. *Е чоловек, шчо сам не з'есць, а тобе половіну оддасць і собе половіну, такі сукрушны.* Луткі.

СУЛА'ГОДА *ж.* Згода. *Ко́лісь на Запесо́чье була сулагода.* Тураў.

СУЛА'ДНО *прысл.* Зладжана, у згодзе. *Суладно жывуць молодые.* Аздамічы.

СУЛЕНУ'ЦЬ *зак.* Сунуць. *Я ему ек сулену кочэргою!* Альшаны.

СУЛІ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Соку з люлькі сулі у рот вужу́, да і здохне.* Мачуль.

СУЛЯ'ЦЬ *незак.* Соваць. *Там завеліса о́сы, а я тычку ўзяў да ўсе туды суляў, суляў, хоцеў той мешок іх оборваць.* Луткі. *Веслом у во́ду суляе да суляе, кручок отчэпвае.* Мачуль.

СУ'МА *ж.* Жабрачая торба. *А я за су́му да далей посунуў* (прымаўка). В. Малешава.

СУМЕ'СНО *прысл.* Разам. Аздамічы.

СУМЕ'СНЫЙ *прым.* Сумесны. *Уро́чышча булі сумесные.* Запясочча.

СУМІРЫ'ЦЦА *зак.* Уціхамірыцца. *Сумірыліс воны, перэсталі бунтоваць.* Верасніца.

СУМІРЭ'НЬЕ *н.* Уціхамірванне. *Вуехаў отрад на сумірэнье.* Верасніца.

СУМЛЕВА'ЦЦА *незак.* Сумнявацца. *Позыч, не сумлевайса, отдам.* Кароцічы.

СУ'МНО *прысл.* Сумна. *Ек сам жыве чоловек, то сумно.* Хачэнь.

СУНДА'ЧЫЦЬ *незак. экспр.* Набіраць многа. *Рыбу сундачыць і сундачыць — цэлы мех насундачыў!* Верасніца.

СУНДУ'К *м.* Сундук. *Наклáла поўны сундук крáму!* Хачэнь. *Сундукі плелі с сілегі.* Аздамічы.

СУНІМА'ЦЬ *незак.* Супакойваць. *Сунімі дзіця, шоб не брышковáло.* Аздамічы.

СУНІ'ЦЫ *мн.* 1. Суніцы. *Суніцы, ек клубніка, только меншые.* Знаменка. 2. Клубніцы. *Купіў суніц ведро за восем рублей.* В. Малешава.

СУНІ'ЧНІК *м.* Расліны суніц, клубніц. Альпень.

СУНОЖА'ЦЬ *незак.* Світаць; цямнець. *Устала, ек почалó суножаць.* Аздамічы. *Начынае ужэ суножаць на вечор.* Там жа. *Суножае, як онно на дзень занімае.* Цераблічы.

СУНО'ЗА, СУНО'ГА *ж.* Штыр, спіца, засаўка (у ярме, лапці пры пляценні, вушах бочкі і інш.). Аздамічы. *Сунóга.* Луткі. *Памянш.* с у н ó з к а. Запясочча.

СУ'НУЦЦА *незак.* Сунуцца, паволі рухацца. *Копіца сунецца по куп'ю к стожку уся.* Альпень. *Ох, хмара сунецца веліка!* Верасніца.

СУ'НУЦЬ *зак.* Сунуць, пайсці грамадой. *Ешчэ месец, да зáрэ сунуць у журавіны.* Бярэжцы. *От цёмно, хот ты у óко сунь!* Луткі.

СУНЯ'ЦЦА *зак.* Спыніцца. *А шохвёрочко мілы, сунíміса, я вўлезу!* Сямігосцічы.

СУПЕРЭ'ЧЫЦЬ *незак.* Супярэчыць, ставіцца адмоўна. *Мамо, не суперэчце, нехай берэ.* Хачэнь.

СУПЕСКОВА'ТЫ *прым.* Супясчаны. *Ек у сівом глёю е сўпесок, то тэ поле супесковатэ.* В. Малешава.

СУ'ПЕСОК *м.* Зямля з прымессю пяску. *Есць у нас чорнозём і есць супесок.* Луткі.

СУ'ПІЦЦА *незак.* Хмурыцца, змрачнець. М. Малешава.

СУ'ПІЦЬ *незак.* Насупліваць, нахмурваць. *Супіць вочы малэ̀, а не плачэ, такі характер.* Пагост.

СУПО'ЛЬНІЦА *ж.* Агульная работа, суполка. Хотамель.

СУПО'НЯ *ж.* Супоня. *Супоня порваласа, возмі волочку да засупонь хомута́.* Верасніца. *Запрог, а супоні конь не дае зацегнуць.* Луткі.

СУПО'РЫШЧЭ *н.* Задышка з хрыпам у малога дзіцяці. Запясочча.

СУПЯ'ЧЫЦЦА *незак.* Працівіцца, пярэчыць. *Шо ты супячысса, серайно нічого не докажэш.* Сямурадцы. *Даём ёму́ поручэнье, а вон супячыцца.* Рамель.

СУПЯ'ЧЫЦЬ *незак.* Пярэчыць. Луткі.

СУР'ЁЗНЫ *прым.* Суровы. *Вона — ах мой Іва́ночко! А вон такі сур'ёзны да б'е ее.* В. Малешава.

СУРМІ'ЛО *м. экспр.* Непрыветны, змрочны, павольны чалавек. Альшаны.

СУРОВУ' *прым.* Нябелены (пра ніткі, палатно). *Суро́вою ніточкою обкруцім панчоху, коб не спадала, і добрэ.* Хачэнь.

СУРО'ВУ *прым.* Сур'ёзны. *Сурову чоловек не скажэ гэ!* Цераблічы.

СУРО'ЧЫЦЬ *зак.* Сурочыць. *Можэ хто сурочыў таку красавіцу!* М. Малешава.

СУРНО' *н. экспр.* Сука. Луткі.

СУСЕ'Д *м.* Сусед. *Сусед на коровая́ зва́ла с кажно́е хаты.* Пагост. *Грошы позы́чыў у суседоў. Суседы блізкіе — ворогі цяжкіе* (прымаўка). *Пусці суседа у хату, а сам з хаты* (прымаўка). *Як сам спіш до обеда, то чого зловаць на суседа* (прымаўка). Хачэнь.

СУСЕ'ДЧЫН *прым.* Суседаў. *Суседчыные йдуць качкі коло двора.* М. Малешава. *Суседчын сын браў косу.* Пагост.

СУСЕ'ДКА *ж. У го́родзі суседка з суседкою не бачацца.* М. Малешава.

СУ'СЛА *ж.* Лядзяк. *Намерзло сусло́ў на стрэ̀хах.* Запясочча. Соска з хлебнага мякішу. *Поссаў, а дале су́слы не схоцеў.* Сямігосцічы. Зблытаны лён. Запясочча.

СУСТА'ВЕЦ *м.* Костачка. *Суставцы перэбіла на руках.* Аздамічы.

СУСТО'ІЦЦА *зак.* Адстаяцца. *Нехай сустоіцца молоко, не воруш́эце ёго́.* Кароцічы.

СУСТРЭЧА'ЦЬ *незак.* Сустракаць. *Сустрэчае его екі-то чоловек.* Бярэжцы.

СУ'ТКІ, СУ'ДКІ *мн.* 1. Вузкі прамежак паміж будынкамі, хатай і плотам. *Як хоро́мы блізко стояць, то ў серэ́дзіне суткі.* Лукі. *У судкі запрэцца конь да не вўвернецца аніяк.* Там жа. 2 *суткі.* Суткі. *Стояло сено трое су́ток у копах.* М. Малешава.

СУТО'Н, СУТО'НЬ, СЫТО'Н *м.* Тонкі лядок на вадзе. *Ек сутон становіцца, то поло́мімо той лёд да мо́чом коноплі.* М. Малешава. *Сонцэ подымаецца, то сутон ростае.* Пагост. *Стаў сытон поўз берэгі.* Аздамічы. *Суто́нь.* Рамель.

СУТОНЕ'ЦЬ *незак.* Цямнець. *Под вечор ужэ сутоне́е.* В. Малешава. Святлець. *Только почынае сутонець раніцою.* Запясочча.

СУ'ТОРГА *ж.* Сутарга. *Суторга схопіць у холодной водзе і готоў утонуць.* Альшаны. *Ек суторга, то зробіцца рука ці нога, ек пра́нік.* Сямурадцы.

СУТУ'ЛЫ *прым.* Сутулы. *Сутулы, колі голова у плечы от жызні.* Пагост.

СУХІ' *прым.* 1. Сухі. *У сухіе го́ды уюн зашываецца у грязь.* Лукі. *Сыну послала посылку сухо́е ры́бу.* Пагост. 2. Худы. *Вон сухі-суху́сенькі, ек на вінту круціўса.* Лукі. *Сухі Стахей по хаці скачэ* (загадка). *Венік* (адгадка). Старажоўцы. △ С у х і в о р о т о к. Прыстасаванне для сцягвання ў ваду бярвення і выцягвання іх з вады. *Сухі вороток веліку сілу мае.* Дварэц.

СУХМЕ'ЛЬ *ж.* Суша. Хотамель.

СУ'ХО 1 *н.* Суша. *По суху ехаў і прыехаў до рэкі.* Лукі. *Конь ужэ выскочыў на сухо.* Дварэц. *Уся земля у іх у су́сі, у рэме́льцоў.* Мачуль. *Ложы́це конец поўз сухо.* Альшаны. 2 *прысл.* Суха. *Летось поўлета було сухо.* Тураў.

СУХОВЕ'Я *ж.* Сухавей. *Веліка жара, суховея така.* Верасніца.

СУХОЕ'ЖКА *ж.* Сухамятка. *Это у цебе сухоежка, шо жолудок боліць.* В. Малешава.

СУХОПУ'ЦЬЕ *н.* Суша. Аздамічы.

СУХОРЭ'БРЫ *прым.* Кашчавы, вельмі худы. *Лешч сухорэбры, тонкі соўсім.* Цераблічы.

СУХОСТО'Й *м.* Сухастой. *Сухостою наломім, шы́гі, накладом огню.* Хачэнь. *Сухостой у строй не ідзе, только дро́ва.* Запясочча.

СУХО'ТЫ *мн.* Сухоты. *Кажуць, багон помогае, ек етые сухоты нападаюць.* Бярэжцы.

СУХОЎЯ'ЛКА *м.* і *ж.* Хударлявы чалавек. Запясочча.

СУХО'ЦКІ *прым.* Вельмі худы. *Сухоцкі — у кого чэрэва нема.* Сямігосцічы.

СУХОШЧЭЛЕ'ПУ *прым.* Тое ж. *Такі сухошчэлепы, аж страшно гледзець.* Луткі.

СУЧА'РЫНА *ж. экспр.* Сука. Луткі.

СУ'Ч'Е *н. зб.* Галіны, скруткі на крута спрадзенай нітцы і інш. Луткі.

СУ'ЧКА *ж.* Сучка. *Я не хочў, коб на мене собакі брэхалі, хай хоць одна сучка* (жарт). Старажоўцы. *Хлопцы дзело робілі, чэрвіву сучку лупілі, забулі ножа́ ўзяць, да мусілі зубамі рваць* (жартоўная песенка да забіякаў). Пагост.

СУЧО'К *м.* 1. Хвосцік гарбуза. *У гарбўзе сучок одбіўса.* Луткі. 2. Скрутак на крутой нітцы. Верасніца.△ З г о р н у́ ц ц а у с у ч о́ к. Скурчыцца. Запясочча. У с у ч к у́. Курчам. *Ужэ думала, шо вона у сучку, зморозіў мороз.* Запясочча.

СУЧЫ'ЦЬ *незак.* Сукаць. *Это сукайло сучыць цэўкі.* М. Малешава.

СУ'ЧЭНЫ *прым.* Суканы, кручаны. *Одзін дубец у одну сторону сучэны, а другі у другў сторону.* Запясочча.

СУЧЭНЯ' *н.* Шчаня. Альшаны. *Памянш.* с у ч э н я́ т к о. *Сучэнятко вішчыць коло ног.* Луткі.

СУШ *ж.* 1. Сухое надвор'е. *Там у Казастані суш, сп'ёка, дыхаць нечым.* Луткі. 2. Вашчына без мёду. Запясочча.

СУ'ША *ж.* 1. Сухое надвор'е. *У Белорўсі век сушы не було.* В. Малешава. *Ліпа воды боіцца, а ўяз не боіцца ні воды, ні сушы.* Хачэнь. 2. Суша. *Нема болот, суша ужэ стала.* Сямігосцічы.

СУ'ШНЯ *ж.* Сушылка. *Сушня — дзе лён сушаць.* Запясочча.

СУ'ШЧЫ *прым.* △ С у́ ш ч а п р а́ ў д а. Вельмі дакладныя звесткі. *Я роскажу вам сушчую праўду.* Сямігосцічы.

СУ'ШЧЫК *м. экспр.* Хударлявы чалавек. Луткі.

СУШЫНА' *ж.* Вялікая суш, вельмі сухая мясціна і інш. *У нас і одзін дошч не ўпаў, сушына зробіласа!* В. Малешава. *Просто до Крэмного іці сушына!* Дварэц. *Там сушына, а гэтты о коло канавы гразе́!* Мачуль. *Се-*

*верна Белорусь, перэдаюць, дожджэ, а у нас сушына.* Старажоўцы.

СУШЫ'ЦЦА *незак.* Сушыцца. *Это золото уходзіць сушыцца* (з казкі). Бярэжцы. *На дворэ повесіла сушыцца.* Пагост.

СУШЫ'ЦЬ *незак.* Сушыць. *У гумне не було сýшні, то зерно сушылі на дзеругах.* Дварэц. *Перш дождж пóйдзе, далей сýшыць.* Бярэжцы.

СХА'ВАНЬ, СХО'ВАНЬ *ж.* Захаванне, схованка. *Мáня дала грошы на схавань мне.* Хотамель. *З Мáлешова завезлі у Корóчычы на схавань.* Луткі. *Под лóжком не схoвань.* Хачэнь.

СХА'ВАНЬЕ *н.* Схованка. *Етэ схаванье у мене таке.* Запясочча.

СХА'ВАНКА *ж.* Тое ж. Аздамічы.

СХА'ВАНЫ *дзеепрым.* Схаваны. *Акраз половіну схаваны месец.* Запясочча.

СХАВА'ЦЦА *зак.* Схавацца. *Нема дзе од дождждж схавацца — однэ гáло.* Верасніца. *Нема сховацца дзе от сонца.* Цераблічы.

СХАВА'ЦЬ *зак.* Схаваць. *Ну, побачыў, шо немцы йдуць, так узяў да схаваў у курэнé того аўтомата.* Бярэжцы. *На могліцах у краéчку ёгó сховалі.* Луткі.

СХА'ПАЦЦА, СХА'ПВАЦЦА, СХО'ПВАЦЦА *незак.* 1. Усхопліваццa. *Дождж ідзе, то бýльбашкі схапаюцца, доўго будзе дождж.* Сямурадцы. *Дзеці схапваюцца рано.* Луткі. *Ніткі крутые, сукруткі схопваюцца.* Сямігосцічы. 2. Збірацца, згушчацца хутка. *Пры удару кроў схопваецца ў грýдку, то боліць.* Луткі.

СХВА'ТВАЦЦА *незак.* Тое ж. *Бунькі схватваюцца на калюгах.* Рубель.

СХВО'РАНЫ *дзеепрым.* Збалелы. *У схвораного чоловека нема ужэ аніякого клёку.* Луткі.

СХІ'ЛІСТЫ *прым.* Пахілы. *Цветы некіе схілістые ростуць.* Хачэнь.

СХІНДРЫ'ЦЦА *зак. экспр.* Зрабіцца худым, мізэрным. *Я цебе еле познала, вельмі схіндрыласа.* М. Малешава.

СХІЛІ'ЦЦА *зак.* Схіліцца. *Вéрба схіліласа, а я, молода, зажурыласа* (з песні). Сямурадцы.

СХІЛІ'ЦЬ *зак.* Схіліць. *Кінуў кóсу на травоньку, схіліў, склоніў голóвоньку* (з песні). Пагост.

СХОД м. 1. Усход (сонца). Запясочча. 2. Апошняя квадра месяца. Тураў.

СХО'ДЖВАЦЦА *незак.* Пачынаць дзейнічаць, шумець. *Погода будзе, вéцёр сходжваецца.* Старажоўцы.

СХОДЗІ'ЦЦА *незак.* Сыходзіцца. *Схóдзяцца, дзівяцца, як ее зробіць, ту бóрону.* Мачуль. *От у нас ото схóдзіцца рэка з Сцвігою ў однэ место.* Пагост. *Наш розговор іс полескім не схóдзіцца.* Запясочча.

СХОДЗІ'ЦЦА *зак.* Пачаць дзейнічаць, шумець. *А сходзіўса вéцёр, а грымóта, а плескóта!* Дварэц.

СХО'ДЗІ'ЦЬ 1 *незак.* Узыходзіць. *Сонцэ ужэ схóдзіць.* Хотамель. *Попадáе просо у той роўчак да не схóдзіць.* Мачуль. Узнікаць. *Не сходзí перэд вочыма!* Запясочча. 2 *зак.* Схадзіць. *Кажну ноч схóдзіць у рыбу і сходзіць.* Старажоўцы.

СХО'ДКІ, СХО'ДЦА *мн.* Прыступкі (у ганку). *По сходцах на берэг зыйдзі, не плыгай.* Пагост. *Схóдкі.* Альпень.

СХО'ДНО *прысл.* Сходна. *Сходно оны хату купілі.* М. Малешава.

СХО'ДУ *прысл.* Адразу. *І сходу чоловека обгнюсіць, зганіць нізашчó.* Лутmember.

СХО'ДЫ *мн.* 1. Прыступкі. *Сходы у лёх с каменю пороблены.* Мачуль. 2. Менструацыя. *От схóдоў душыца, ромашкі.* Лутmember.

СХОПІ'ЦЦА *зак.* 1. Усхапіцца. *Ох, схопіласа я, аж ужэ товар гóняць.* Азяраны. *Бура веліка схопіласа.* Хачэнь. 2. Збегчыся, сесці. *Молоко схопілосо, скіпелосо ужэ.* Дварэц.

СХОПІ'ЦЬ *зак.* Ухапіць, узяць. *Мы своє сено схопілі до дожджá.* В. Малешава. *А хай ёгó хоп схопіць!* М. Малешава. *Мороз схопіў хóрошэ!* Сямігосцічы.

СХОРЭ'МАЦЬ *зак.* Зрабіць рэч абы-як. *Сякý-такý кошыцу схорэмалі і пошлі у тую канаву, то за час наловілі мо пуд уюноў.* Лутmember.

СХОЦЕ'ЦЦА *зак.* Захацецца. *Схоцелоса і мне купіць вýлея.* Мачуль.

СХОЦЕ'ЦЬ *зак.* Захацець. *Надо схоцець — і навýчысса.* Цераблічы. *А схóчэ помогці, то поможэ.* Мачуль. *Кáжнэ слово ек схóчуць, то пропусцяць у пласцінку.* Запясочча.

СХУДНЕ'ЦЬ *зак.* Пахудзець. *Шось ты схуд, стано-*

*віса на весы!* Запясочча. *Схудней, аж шчэлепу сухіе* (жарт). М. Малешава.

СЦВЕ'РДЗІЦЬ *зак.* Пацвердзіць. *Я пойду его слова́ сцве́рджу.* Сямігосцічы.

СЦЕ'БЕЛЬ *м.* Ручка ў вясле. Запясочча.

СЦЕБЕНУ'ЦЬ *зак.* Сцебануць. *Раз сцебенула і доволі.* Альшаны.

СЦЕБЛО' *н.* Сцябліна, ствол расліны, дрэва. Запясочча. Частка снапа без каласоў. Аздамічы. Ручка ў веніку. Цераблічы. *Памянш.* сцебе́льцэ. Хачэнь.

СЦЕГА'ЦЦА *незак.* 1. Здоўжвацца. *Перву раз ехала, то так не сцега́лоса; гледжу у вокно то туды, то сюды.* Запясочча. *Седзець на лавочцы урэм'е не сцегаецца, а як пасці, то доўгі дзень.* Мачуль. 2. Сцягвацца, скарачацца. *Жолудок у старо́го сцегаецца і меншае.* В. Малешава.

СЦЕГА'ЦЬ *незак.* Сцягваць. *Мох со стрэхі два раза́ сцегаў.* Хотамель. *Вон сядзе на той крова́ці, да вона ему ўжэ чоботы сцегае.* Запясочча. *Сцегаюць кроў п'я́ўгі.* Там жа.

СЦЕГНО', СЦЁГНО' *н.* 1. Сцягно. *Но́гу міною оторвало коніку по сцегно.* Бярэжцы. *С сцёго́н м'ясо у міндру́к клалі.* Запясочча. 2. Верхняя або ніжняя палачка у ніце. М. Малешава. 3 *перан.* Вельмі тонкі, худы чалавек. *Чо твой Коля таке сцегно?* Сямурадцы.

СЦЕГЦІ' *зак.* 1. Сцягнуць. *Я була на грудо́х, то сцегло́ ужэ во́ду.* Бярэжцы. *Вона с печы той лён на тые дзеці сцегла́.* Сямігосцічы. *Сцяг соломы з ву́шок подосланць.* Аздамічы. *Но́гу моцно сцегло́.* Там жа. 2. Пацягнуць, аперазаць, ударыць. *Зара ек сцегну палкою по плёчах!* Луткі. *Хай но іней сцене́, то прыдзе на мух помо́рок.* Там жа. 3. Усцягнуць. *На хвою сцегнёце!* Сямурадцы. *Надо дзерэво сцегці на зруб!* Старажоўцы. △ С ц е г ц і к р ы ш к і. Быць вельмі падобным. *І крышкі сцегло́ з ма́цер дзіця!* Аздамічы.

СЦЕГЦІ'СА *зак.* Здоўжыцца. *Вы говорылі зо мной, то мне сцеглосо.* Альгомель. *Зіма сцега́ецца, а лето не сця́гнецца.* Аздамічы.

СЦЕЖА'РОК *м.* Адонак пад стог. *Сцежарок робілі з лозы.* Мачуль.

СЦЕ'ЖКА *ж.* Сцежка. *Сцежкою ідзі, то вуйдзеш на дорогу.* Аздамічы.

СЦЕЖЭЯ' *ж.* Задняе шула ў варотах. В. Малешава.

СЦЕ'КАЦЬ *незак.* 1. Сцякаць. *Перэверну, хай сцекае.* Бярэжцы. *По рову вода з села у Тур сцекае.* Пагост. *З волынскіх болот сцекае вода, мах вода бувае.* Цераблічы. 2. Марнець ад ценю (пра расліны). *От, не прополола, і ўсе сцекае ў траве.* Запясочча. 3. Слабець, млець (ад напружання). *Рукі сцекають, як цягнеш невода.* Дварэц.

СЦЕКЛЯ'НКА *ж.* Шкляная банка. *От, сцеклянок дзве я назбіраю, то сцеклянка масла.* Бярэжцы.

СЦЕКЦІ' *зак.* 1. Сцячы. *Вода сцекла по роўчаку ў роў.* Пагост. 2. Змарнець ад ценю (пра расліны). *Картоплі пуд яблонею сцеклі.* Сямігосцічы. 3. Аслабець ад напружання. Дварэц. 4. Ахапіць. *П'ядзя — это сколько пальцы сцекуць.* Запясочча.

СЦЕ'ЛЬБІШЧЭ *н.* Сцелішча. *Із сцельбішча той лён складаём у стожкі.* Цераблічы.

СЦЕЛЬНІ'К, ШЧЭЛЬНІ'К *м.* Пласт вашчыны з мёдам (у калодзе). *Сцельнікі до самой пóдкі.* В. Малешава. *Шчэльнік.* Мачуль. *Памянш.* с ц е л ь н і ч ó к. *Чмéлікі робяць сцельнічок.* В. Малешава.

СЦЕМНЕ'ЦЬ *зак.* Сцямнець. *Куда ж ты пóйдзеш, ужэ сцемнело.* Хачэнь.

СЦЕНА' *ж.* Сцяна. *Воны дзержацца за свое, ек за каменну сцену. Цепер вона глухá, ек сцена.* В. Малешава. △ П л е ч о в á  с ц е н á. Задняя сцяна без акон і дзвярэй. Хотамель. Д в о р о в á  с ц е н á. Сцяна ад вуліцы. Там жа.

СЦЕ'НКА *ж.* 1. Вузкая дарожка паміж палеткамі, агародамі. *Сценка, шо на сéно ходзілі. Не, не ездзілі, онно шлі.* Хачэнь. 2. Сценка у будане. *У курэнé, дзе спалі, сценка.* Цераблічы. Навес ад дажджу ў полі. Сямігосцічы. Плот у выглядзе сцяны. Альшаны.

СЦЕНУ'ЦЦА *зак.* Здрыгануцца, сцепануцца. *Зімою корова вуйшла і сценулася — холод будзе.* В. Малешава. *Лежыць сом нішком, коб сценуўса, а тогды як лясне хвастом!* Мачуль.

СЦЕНУ'ЦЬ *зак.* 1. Ахапіць холадам, марозам. *Іней сценуў віноград, то не вуспеў.* Любавічы. *Як іней сценé каліну, тогды мы рвом ее.* Дварэц. *У рубашцы на двор, мороз сценуў мене, то я бегóм!* Пагост. 2. Калатнуць. *Озьмі сцені ту яблоню, то поб'юцца яблука.* Цераблічы.

СЦЕП *м.* Стэп. *Снегу, бу у сцепý.* Кароцічы. *Лéсу нема, зробіўса степ такі.* Альпень.

СЦЕ'ПАЦЦА, СЦЕ'ПВАЦЦА *незак.* Уздрыгваць.

*Вон дрыжыць і сцепаецца, простыў.* Луткі. *Сце́пвацца.* Там жа.

СЦЕ'ПАЦЬ *незак.* Калаціць. *Сце́пае мене і ўсе, моцно простыў.* Луткі.

СЦЕПЕНУ'ЦЦА, СЦЕПНУ'ЦЦА *зак.* Калатнуцца. *Собака тры раз но сцепенуўся і здох.* Сямігосцічы. *Аж сцепенуласа, ек злілі воды на мене холодное.* М. Малешава. *Сцепну́цца.* Цераблічы.

СЦЕПЕНУ'ЦЬ *зак.* Калатнуць. *Аж сцепенуло мене, так спужаласа.* Сямурадцы. *Ходзе́м да сцепено́м кро́сна.* Хотамель.

СЦЕП'ЁР *м.* Маркоўнік. Хотамель.

СЦЕПЛЕ'ЦЬ *зак.* Пацяплець. *Сцеплело под ве́чор на дворэ́.* Цераблічы.

СЦЕ'ПЛІЦЦА *зак.* Нагрэцца. *Затоплю гру́бу, хай сце́пліцца ў хаці.* Цераблічы.

СЦЕ'РВО *н.* Падла. *Сце́рво воняе.* Запясочча. *Вон воняе сцервом.* Тураў. *Поклалі туды сцерво, шчоб воўк упаў у воўчу яму.* Любавічы.

СЦЕРВІ'НА *ж.* Тое ж. *Пчола́ сядзе і на сцервіну.* Аздамічы.

СЦЕРВЯКО'ВІНА *ж.* Тое ж. *Закопалі сцервяковіну под осокор.* Цераблічы.

СЦЕ'РЦІ *зак.* Сцерці. *Трапкою мокрою пул зотры́.* Луткі. *За дзень тры во́за лёну зотру.* В. Малешава.

СЦЕРЦІ'СА *зак.* Сцерціся, прапасці. *Сцерласа чотыры вулье, маткі сцерліса.* Аздамічы. *Сцерліса подошву і халяву.* Пагост.

СЦЕРЭГЦІ' *незак.* Сцерагчы. *Цебе бралі, шоб ты мото́ра сцерог.* Запясочча. *Ніхто не пошоў іх сцерэгці.* Хачэнь.

СЦЁБКА, СЦЁПКА *ж.* Кладоўка. *У сенях это сцёбка. У той сцёбцы капуста, гуркі, квас.* Сямурадцы. *Сцёпка у хоромах, а варыўня окром на дворэ.* Сямігосцічы.

СЦЁБНУЦЬ, СЦЁГНУЦЬ *зак.* Ударыць. *Сцёбнуў кулаком под ухо моцно!* Альшаны. *Бізуном сцёбну!* Аздамічы. *Сцёгнуў ему по спіне.* Там жа.

СЦЁК *м.* Сцёк. *У нас такіе сенокосы, шчо нідзе нема сцёку.* Хачэнь. *Трэ сцёк дожджово́й водзе з двора.* Пагост.

СЦЁКЛІСТЫ *прым.* Худы, тонкі. *Екіе доўгіе, сцёклістые жонкі ў То́нежы!* Луткі.

СЦЁКЛЫ *прым.* Тое ж. Запясочча.

СЦЁС *м.* Счэс (на бервяне). *Сцёс зробі бо́льшы, шоб луччэй лежало.* Верасніца.

СЦІНА′ЦЬ *незак.* Кідаць у дрыжыкі. *Так змерзла, аж сцінае.* Сямурадцы. *Кіслого возмеш у рот, то сцінае.* Там жа.

СЦІНУ′ЦЬ *зак.* Ахапіць. *Градзішча гуркоў, што оком не сцінуць!* Сямурадцы.

СЦІРА′ЦЦА *незак.* Сціраццa, прападаць. *У його короў сціраюцца, ужэ котора!* Дварэц.

СЦІША′ЦЬ *незак.* Сцішваць. *Трошкі сцішы радзіво!* Луткі.

СЦІ′ШЫЦЦА *зак.* Суняцца. *Чого ты гікаеш, сцісса!* Аздамічы.

СЦІРА′ЦЬ *незак.* Сціраць. *Хто будзе стол сціраць?* Хотамель.

СЦІСНЕ′НІЕ *н.* Цесната. *Як гэто годуецца тая худобіна ў таком сцісненії?* Хачэнь.

СЦІ′СНУЦЬ *зак.* Сціснуць. *Сцісло под грудзіма, не дыхнуць.* М. Малешава. *Узяў да сціс у руках яблуко і рошчавіў.* Аздамічы.

СЦІ′ХНУЦЬ *зак.* Сціхнуць, перастаць, суняцца. *Сціх дождж, і не грыміць.* Луткі. *Ковене́ю по спіне́, то сціхне!* Пагост.

СЦІША′ЦЬ *незак.* Змяншаць, сунімаць. *Вона сцішае боль.* Сямурадцы. *Хто б сцішыў етого бугая?* Пагост.

СЦУКРОВА′ЦЦА *зак.* Зацукравацца. *Вон жэ сцукру́ецца, зробіцца, бу колода, той мед.* Хачэнь.

СЦУ′ПІЦЬ *зак. экспр.* Узяць, схапіць. *Ека його́ холера сцупіла?* Кароцічы.

СЦЭ′ЖВАЦЬ *незак.* Сцэджваць. *Шмотку на чугун, да сцэджваю.* Пагост.

СЦЭП *м.* Вясельны поезд. *Ужэ поўеў усёго сцэ́па ў хату.* Старажоўцы.

СЦЯ′ГА *ж.* Нізіна са сцёкам. Запясочча.

СЦЯ′МІЦЦА *зак.* Скеміць, дадумацца. *І ніхто не сцяміцца, колі тые язе́ уцекуць.* Мачуль.

СЦЯ′МІЦЬ *зак.* Скеміць. *Я не сцяміла да уліла кіслого молока ў кашу.* В. Малешава.

СЦЯЦЬ *зак.* 1. Сціснуць. *Сцяў зубу дай нежывў!* Цераблічы. 2. Ссячы. Луткі.

СЧА′ХНУЦЬ *зак.* Атухнуць (пра полымя, жар). *Счахло ў печы, рыба не запечэцца, не посохне.* М. Мале-

шава. *Нехай шчахне, а то погорацъ яблука ў печы.* Хачэнь.

СЧОХРЫ'ЦЬ *зак.* Счасаць (пра воўну). *Ек е своя воўна, то понесом да счохрым у чохáрні.* Кароцічы.

СЧЫКНУ'ЦЦА, ШЧЫКЕНУ'ЦЦА *зак.* 1. Счапіцца. *Пеўнé ек шчыкенуцца біцца, то не розвэдзеш.* Мачуль. *Коб Іван не шчыкнуўса біцца!* Альшаны.

СЧЭ'ЗА *ж.* Пагібель. *Хай ёму шчэза да згаса!* Аздамічы. *Шоб на вас шчэза!* М. Малешава.

СЧЭЗА'ЦЬ *незак.* Знікаць. *Мошкі шчэзáюць, ек пшэніца вы́сыплецца.* М. Малешава.

СЧЭ'ЗНУЦЬ *зак.* Згінуць, прапасці. *Набрáла конюшыны, накорміла, і шчэзло целя.* В. Малешава. *Шчэз за собаку: ці вон утопіўса, ці вон так пропаў, да ніхто не знае.* Там жа. *Пропала, шчэзла і на руках, і на відў ў мене* (пра рабацінне). М. Малешава.

СЧЭПІ'ЦЦА *зак.* Счапіцца. *Счэпіліса біцца удвох, ек пеўнé.* Аздамічы. *Жонка тая, ек з рóдными, шчэпіласа з намі.* Старажоўцы.

СЧЭПІ'ЦЬ *зак.* Абхапіць. *Як ужэ счэпіў половіну дуба, то залезеш.* Рубель. Сашчапіць. *Мы і рукі счэпілі, шо вон ее узяў.* Луткі. *Ек даў ему под пету, так вон ужэ упаў да шчэпіў зу́бу.* Пагост.

СЧЭ'ШЧЫЦЬ *зак.* Зрабіць ласку, выказаць павагу. *Як это вон счэшчыў дацъ тобе гэтого рубля́?* Тураў. *Навет дзіцяці не счэшчыў дацъ чого у ру́ку.* Там жа.

СШЫ'НДЗІЦЦА *зак.* Моцна пахудзець. *Шо то ёму зробілосо, зусім сшындзіўса.* Сямурадцы.

СШЭПТА'ЦЬ *зак.* Пашаптаць. *Як вона сшэпчэ, то ек рукамі зніме.* Хачэнь.

СЫ'КАЦЦА *незак.* Абараняцца пагрозлівым шыпеннем. *От поганы, сыкаецца, ек яшчэрка!* Старажоўцы. *Малы́, а сыкаецца, ек звер* (пра кацяня). Там жа.

СЫ'КАЦЬ *незак.* Шыпець. *Гусь сыкае, хочэ нас покусацъ.* Хачэнь. *Вуж сыкае.* Бярэжцы.

СЫ'КОЦЕНЬ *м. экспр.* Гад, змей. *Не зя́ця, а некого гáда, сыкотня узяў!* Хачэнь.

СЫН *м.* Сын. *От, мо й моему́ сыну нехто там есці дасцъ.* Сямурадцы. *Буў бы сын, а невéсток будзе* (прымаўка). Хачэнь. *Хто годуе дóчкі, той ходзіць без сорочкі, а хто годуе сыны́, той готовіць сумы́* (прыказка). Старажоўцы. *Снег белы, да не сыр, зяць добры, да не сын* (прымаўка). Там жа. *Памянш.* с ы н ó к, с ы н ó ч о к.

*Ты, сынок, поседзі ў хаці, погледзі этых дзецей.* Бярэжцы. *Ох, сыночок мой! Ох, баценько мой!* (зварот да дзіцяці). Цераблічы.

СЫ'НОВУ *прым.* Сынаў. *То сыновуе дзеці, мое ўнукі.* Хотамель.

СЫПА'К *м.* △ Д а ц ь  с ы п а к á. Добра паспаць. *Далі сыпака со своім старым!* Пагост.

СЫ'ПАЦЦА *незак.* 1. Сыпацца. *Сыплецца мукá у под.* Мачуль. *Зоры сыплюцца з неба.* Запясочча. 2 *перан.* Дохнуць, прападаць. *Гусі ў мене сыплюцца.* М. Малешава.

СЫ'ПАЦЬ *незак.* Сыпаць. *А сы́плюць у гуру ягоды, дзе прымаюць, насыпа́юць, як отá хата!* Луткі. *Тут сып, тут вулéтае воно у гусей!* В. Малешава.

СЫПЕНУ'ЦЬ, СЫПНУ'ЦЬ *зак.* Моцна пайсці (пра дождж). *Дошч сыпенуў, от сыпенуў!* Цераблічы. *Сыпнуў добры дождж!* М. Малешава.

СЫР м. Твораг. *Ек оттóпіцца кіслэ молоко, то гэто ужэ сыр.* Дварэц. *Будзеш ты у мене помніць, по чом сыры ў Мозыры* (прымаўка). Луткі. *Жджы Петрá — наесіса сы́ра* (прымаўка). Старажоўцы.

СЫ'РНОСЦЬ *ж.* Сырасць. *Тобе у сырносці не стояць!* Верасніца.

СЫРО'ВАТКА *ж.* Сыроватка. *Сыроватка — ек оттопяць кіслэ молоко.* Кароцічы. *Сыроводку п'е, а сыр продаé!* Дварэц. *Добрайса, ек поросят до сыроводкі!* М. Малешава. Страва з сыроваткай. *Коліся сыровадку с крупамі готовілі.* Цераблічы. *Прымаку́ сыроватка ў глеку́* (прымаўка). Дварэц. *Памянш.* с ы р ó в а т о ч к а. В. Малешава.

СЫРО'ВУ *прым.* 1. Сырны. *Сырова торба, дзе сыр.* Альшаны. 2. Суровы, нябелены (пра ніткі, палатно). М. Малешава.

СЫРОДО'Й *м.* Сырадой. *Іншые не могуць піць сыродой.* Кароцічы. *Памянш.* с ы р о д ó й ч ы к. *От, сыродойчыку на вупі!* В. Малешава.

СЫРОЕ'ЖКА *ж.* Сыраежка. *Сыроежка крохкенька, як зажарыць ее.* Запясочча. *Сыроежка наверсе така чырвоненька.* Луткі.

СЫ'РОСЦЬ *ж.* Сырасць. *Стонога у сыросці жыве.* Сямурадцы.

СЫРО'ЎКА *ж.* Неабпаленая цэгла. *У мене груба з сыроўкі.* Сямурадцы. *Сыроўку колісь самі которые робілі.* Пагост.

СЫРОХВА′ТОМ *прысл.* Са свежага, непадышоўшага цеста. *Сырохватом скорэй сковоро́дніка спечэш.* Бярэжцы.

СЫРЫ′ *прым.* 1. Сыры, мокры. *Шо скосілі, то шчэ сырэ́ сено.* Запясочча. 2. Сыры, недавараны, недапечаны. *От вуцегла хлеб, да сыры.* Кароцічы. *Ек сырые, то гідкіе ракі.* Цераблічы. *Шо це́плэ, сырым не зовуць* (прымаўка). Чэрнічы. *Сырэ молоко не п'е, па́ранэ п'е.* Запясочча.

СЫРЫ′ЦА *ж.* Сырамяць. *Выробіў скуру на сырыцу.* Пагост.

СЫРЭ′Ц *м.* Тое ж. *Сырэц с скоціны ці конячыны — на гужэ.* Любавічы,

СЫ′САЎКА *ж.* Соска. Альшаны.

СЫСУ′Н *м.* Сысун. *Сысун под коровою ме́кае.* Альгомель. *До году лічыцца сысун.* Цераблічы. *Памянш.* сысуно́к. В. Малешава.

СЫТА′ *ж.* Засаладжаная вада цукрам. *Сыта — мэд росколо́чвалі: мэду наколоцяць з водою і хлеба накрышаць і едуць.* Хотамель. *На по́мінкі, на дзеды́ сыту розводзяць з меду.* Сямігосцічы. *Во ўсіх жэ меду немашэка, то сыту і з сахару робілі.* Пагост.

СЫ′ЦІЦА *ж.* Напітак з сыты, якая атрымліваецца з вашчыны пасля перагонкі мёду (наліваецца ў закрытую пасудзіну, дзе сыта пераброджвае і ператвараецца ў слабае хмельнае пітво). Бярэжцы.

СЫ′ТНЫ *прым.* Тлусты. *Лінок — сытна рыба, толькі ёго не вельмі поймаеш.* Цераблічы. *Гэта паша лепша за ту, шчо веліка, вона сытнейша.* Там жа.

СЫ′ТЫ *прым.* 1. Тое ж. *Сытэ м'ясо не хочэ есці.* М. Малешава. *Картопля́нікі сытые, цекуць, а вон шчэ з молоком!* Там жа. *Екіе у цебе, цётко, рукі сытые!* (у тлушчы). Луткі. *Сы́тэ у печ уставіць, то чад будзе.* 2. Сыты, не галодны. *Сыты по голодному не спогадае.* Сямігосцічы. *Ек сы́та, то і старосць покрыта* (прымаўка). В. Малешава. *Памянш.* сы́ценькі. *Сковорода шоб була сыценька, подмазкою мазнуць трэба.* Запясочча.

СЫЦІНА′ *ж.* Вялікая тлустасць. *Да коло того хвоста́ у сома́ сыціна, што губі зліпаюцца!* В. Малешава.

СЫЧ *м.* Калок у вуллі, на якім трымаліся пляйстры з мёдам. В. Малешава. Калок, які трымае пругло ў сілку на дзікіх качак. Альшаны.

СЫ′ЧЫК *м.* Трубачка, якую ўстаўлялі ў дзірку ў

бочачцы пры наліванні гарэлкі у кілішкі. Луткі. Дэталь у сілку на дзікіх качак. Альшаны.

СЮ-СЮ-СЮ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць карову. В. Малешава.

СЮД-НЕ-ТУД *прысл.* Сюды-туды, у момант. *Сюд-не-туд у вутвóў перэгорае!* Буразі.

СЮДО'Ю *прысл.* Сюды, гэтай дарогай, сцежкай і г. д. *Поедом сюдою напрост.* Кароцічы. *Пан пошоў сюдою дорогою, а вон знаў напраму дорогу.* Сямігосцічы.

СЮД-ТУ'Д, СЮД-ТО-ТУ'Д *прысл.* Сюды-туды, хутка. *Сюд-туд да вода прыбудзе.* Альшаны. *А пока вон сюд-туд, то вона і ўцекла.* В. Малешава. *Ты сюд-то-туд — і прыедзеш, а воны — не!* Пагост.

СЮДЫ' *прысл.* Сюды, у гэта месца. *Марусе!—Шчо?—Ходзі сюды!* Кароцічы. *Міша, ходзь но сюды!* Мачуль. *А чого ж гэто моя маці попала сюды?* Сямурадцы.

СЯДРО' *н.* Палатно ў сетцы. Альшаны.

СЯК-ТА'К, СЯ'КО-ТА'КО *прысл.* Сяк-так, абы-як. *Сяк-так перэбраласа.* М. Малешава. *Баба сяк-так прожыве, а чоловек — не-э!* Хачэнь. *Шчэ ек брат, то сяко-тако.* Луткі. △ Т о  с я к,  т о  т а к. Усяляк. *То ногі боляць, то спіна боліць, то сяк, то так.* Сямурадцы. С я к  н е  т а к. Неяк. *Да сяк не так ту каліну прыцеглá.* Старажоўцы.

СЯМ-ТАМ *прысл.* Сям-там, дзе-нідзе. *Пшэніцы сям-там колос, не запытаеш, шо то за пшэніца.* Сямігосцічы.

С'Я'ТО *н.* Свята. *Багато с'етóў невелікіх, а вялікіх— мало.* Луткі. *С'ято — гэто малэ, а веліке — гэто празнік.* Там жа.

# Т

ТАБУ'Н *м.* Статак жывёл, чарада птушак. *Табун ворон полецело.* Запясочча. *Ідзі, Ксеня, займай товар, бо ззаду другі табун ідзе.* Кароцічы. *Товар розбіўса на два табуны.* Там жа. *Прыгналі табун короў на стойло.* Мачуль.

ТАБУНІ'ЦЦА *незак.* Збірацца ў чараду (пра птушак). *Табуняцца буські.* Аздамічы. *Лецяць веселцы з поўра, крýком табуняцца.* Сямігосцічы.

ТАГАНЫ′ *мн.* Трыножнік для падвешвання ў полі люлькі, катла. *Таганы — гэто тры колкі, коб розвесіць колысочку, та й вецёр коб колыхаў дзіця.* Дварэц. *Беруць таганы на поле да дзеці з собою.* Запясочча.

ТАІ′ЦЦА *незак.* Скрывацца, трымаць пры сабе, хавацца. *Вона таіцца, не хочэ говорыць.* Запясочча. *Негожы? Э! Таіцца вон.* В. Малешава. *Воны туды таіліса.* Альпень.

ТАІ′ЦЬ *незак.* Таіць, утойваць, трымаць пры сабе. *Чому іншы та́іць свое годы, а іншы не?* Дварэц. *Таіць хворобу, не показвае.* Пагост.

ТА′ЙКА *ж.* Даверлівы зварот да дзяўчыны, жанчыны аднаго ўзросту. М. Малешава. *Памянш.* т а́ е ч к а. *Ох, моя таечко, я тобе скажу.* М. Малешава. *Т а́ е н ь к а.* М. Малешава.

Т′АЙНО *прысл.* Таемна, тайна. *Тайно к ей ходзіць, не ўдзень, а ўночы, не круз дзверы — круз окно, не ў чобо́цях — у лапцях, шоб не рыпнуло, не бразнуло* (з легенды). Пагост.

ТА′ЙНОСЦЬ *ж.* Тайна, таямніца. *Тайносці подругі не говоры.* М. Малешава. *Рожа́ць — жоно́ча тайносць, йдзеце, мужчыны, с хаты!* Пагост.

ТАК 1 *прысл.* Так, гэтак. *Як му, так і ву будзеце жыць.* М. Малешава. *То так дурному і трэ?* Чэрнічы. *Оччыні дзверы, то так, ек вулей* (пра мух). Хачэнь. *І так Потап, і так Потап* (прымаўка). Аздамічы. 2 *часц.* Так, гэтак. *Так додзене эта робота!* Чэрнічы. 3 *злучн.* Дык. *Шчэ я коліся товар пас, так було таке озеро!* Цераблічы. *Як дух велікі, так і воск і зварыцца.* Дварэц. △ Т а к с о б е́. Нішто сабе. *Жыву так собе.* В. Малешава.

ТАКЕ′ЗНЫ *займ. павел.* Такі. *От такезные дзеці велікіе!* Тураў. *Шчэ здор порвеш подымаючы, такезна гарбуза́, давай удвох.* Пагост. *Такезны сом, у чоловечы рост.* Там жа.

ТАКІ′ 1 *займ.* Такі, падобны, вельмі вялікі або прыгожы. *А шо ето за рыбу ты поймаў, ніколі такое не бачыла?* Пагост. *Спужаласа, буду віновата, така пам'ець дзецка ў мене була.* М. Малешава. *Екіе людзі, такіе корову да свіньня.* В. Малешава. *Шо таке, нашых з сенокоса нема?* Сямурадцы. *Што то за таке? Хто такі?* Бярэжцы. *Екі Хомка, така і жонка* (прыказка). Старажоўцы. *Екі дуб, такі клін, екі бацько, такі й сын* (прыказка). Там жа. 2 *часц.* Такі. *Такі перэйшоў у Хочэнь.* Хачэнь. *А такі рано*

*воно показувало, вот-вот вісело* (на дождж). Луткі. *Ужэ згрэблі такі сено.* Старажоўцы. *Да такі утопіў у етой гразе його* (сабака ваўка). Бярэжцы. *У нашом селе да такіе дзеўкі!* М. Малешава. *Прышоў да задрыпаны такі, у гразе!* Сямурадцы. *Зорко небо — заўтра такі мороз будзе!* Луткі. *Такі град — крыж'е!* Там жа. *Памянш.* т а к е ч к і. *Вон буў от такечкі хлопчык.* Старажоўцы.

ТА'КОСЯ *прысл.* Таксама, гэтак. *І тута такося такое е.* М. Малешава. *Такося колісь не танцовалі.* Пагост.

ТАКСА'МО *прысл.* Тое ж. *Курные хаты булі таксамо со шчытом.* Сямігосцічы. *Таксамо тчэ, ек і я, у варцэпкі.* Пагост.

ТАК-СЯК *прысл.* Як-небудзь. *Я так-сяк вулейкою вуліў воду з лодкі.* Сямігосцічы. *То дождж, то хвороба, але ж так-сяк докопала картоплі.* Пагост.

ТАЛАГО'НІЦЬ *незак.* Лапатаць, балбатаць. *Зобраліса поўна хата да талагоняць, шо нічого не розобраца — шумота ў хаці.* М. Малешава.

ТАЛАЛА'Й *м.* △ *За сценою косценою брэшэ талалай* (загадка). *Язык* (адгадка). М. Малешава.

ТАЛАЛО'Й *м.* Крык, гам, шум. *От цепер на весельі талалой зобраўса.* В. Малешава. Гармідар, беспарадак. *У мене былі госці, трэбо тололой прыбраць.* Аздамічы.

ТАЛА'МКАЦЬ, ТАЛЯ'МКАЦЬ *незак.* 1 Лапатаць, балбатаць. *То ж я вам мешаю, сяду дай таламкаю.* Цераблічы. *Хопіць ты таламкаў, надоело цебе ўжэ слухаць.* Пагост. *На язык то вона б талямкала добра, а на роботу то не.* М. Малешава. 2 *экспр.* Несці. *Я ек іду з роботы, то хлеб таламкаю назад.* В. Малешава.

ТАЛА'НІЦЬ *незак.* Шчасціць. *Бачыш, як таланіло дзеўцы.* Сямігосцічы. *Можэ буць так таланіць чоловеку.* Старажоўцы.

ТАЛА'НТ, ТАЛА'Н *м.* Лёс, шчасце, удача. *Такі талант у ее: дзіця ўпало ў вірок і за дну мінюту заліпосо.* М. Малешава. *Ек нема таланту, то горуе чоловек.* Сямігосцічы. *Талант такі его.* Хотамель. *Нашому Івану нема нідзе талану* (прымаўка). Сямігосцічы. △ М е ц ь т а л а́ н т у г о л о в е́. Быць разумным. Запясочча.

ТАЛА'НТА *ж.* Другі крок у гульні *у цурку.* Запясочча.

ТАЛАТО'НІЦЬ *незак.* Плявузгаць, гаварыць. *Люба талатоніла, шо гэто ее.* Хачэнь. *Талатоніць, ек заводна.* Пагост.

ТАЛА'ХКАЦЬ *незак.* Стукаць, грукаць. *Корытцэ, та-*

*кі прыв'язанэ, воно талахкае об ту шэсцерню.* Мачуль. *А корытцэ у млiне талахкае, пашню подсыпае.* Там жа.

ТАЛЕБЕ'НІЦЬ *незак.* Гаварыць адно і тое ж, балбатаць. *Вона талебеніць однэ і тэ саме.* М. Малешава. *Соберуцца молодзіцы да талебеняць то се, то тэ.* Лутыкі. *Талебеніць езык, шо цэп по нішчымной соломі.* Пагост.

ТАЛІНА' *ж.* Праталіна. *Снег ростане — да таліна.* Аздамічы. *Весна, ужэ по таліне едзеш.* В. Малешава. *От нема дорогі, таліна.* Бярэжцы.

ТА'ЛО *н.* Тое ж. *По та́лу трэба воза, саньмі не поедзеш.* Цераблічы.

ТА'ЛОВАЦЬ *незак.* Таптаць, мяць. *Талуе, талуе, а потум задушыць кот муш.* Запясочча. *Як сталі таловаць, мо час, мо два ратовалі* (пра чалавека). В. Малешава.

ТАЛОГУ'НІЦЦА, ТОЛОГУ'НІЦЦА *незак.* Марудзіць, валаводзіцца. *Ой, хлопцы, складзеце сено ў копу да не талогуньцеса.* Хачэнь. *Чо вы тологуніцеса, пошлі!* Любавічы.

ТА'ЛЬКА *ж.* Самая тонкая пража. *Додому* (з прыгону) *давалі тальку прасці, такіе тоненькіе ніточке.* Сямігосцічы.

ТАМ, ТА'МА, ТА'МЕ, ТА'ММА *прысл.* Там, вунь там, у тым месцы. *Онь там булі кусты, а онь там булі дубы.* Хачэнь. *Шчо там рыбу!* Кароцічы. *Там кловосто ў рэцэ!* Аздамічы. *Домой як занесе, то там дома бацько б'е ке маці.* Старажоўцы. *Да тама й дзеўка е того чоловека.* Мачуль. *Дзе вона кура?— Онё тама.* Сямігосцічы. *М'ясо храніцца таме.* Любавічы. *Воны тамма ночуюць.* Пагост.

ТА'МБОР *м.* Вялікі і малы барабаны ў ваўначосцы. Запясочча.

ТА'МЕКА, ТА'МЭКА, ТА'МАКІ *прысл.* Там, вунь там, у тым месцы. *Тамека доўго стоялі копы.* Хачэнь. *Тамека буў перэміл, тамека перэбродзілі.* Там жа. *У кожного булі тамэка хлеву.* Там жа. *Жывеш тамека і нічога не знаеш.* В. Малешава. *Гэтта вон седзеў, а тамека Олена.* Там жа. *Тамека собака, коб гусі не позьмешваліса.* Цераблічы. *Сказалі тамэка, у том целефоні.* Буразі. *Тамэка будзе й косіць, дзе жыве.* Сямігосцічы. *Тамакі ек захочэш, то ўсе можно купіць.* Мачуль.

ТА'МОЧКА *прысл.* Тое ж. *Тамочка-тамочка мамка, Йванко, ідзі.* Пагост.

ТАНДЭ'Т *м.* △ Н а т а н д э́ т а. На скорую руку,

абы-як. *На тандэта роблена, неку кучку зробілі і жывом.* Мачуль.

ТА'НУЦЬ *незак.* Раставаць. *Зімою поцерушыць снежок да до вечора тане.* Старажоўцы.

ТАНУ'ЦЬ *незак.* Тануць. *От он затым і тане, шчо сціскаеш* (нагамі каня, як пераплываеш на ім раку). Луткі. *Ужэ тане, ужэ ў рот набраў булькоў, жмурыць.* Альгомель. *Ек чоловек тане, то булькі ідуць.* Там жа. *Зажэном коровы на плаў, а плаў тане, тане.* Цераблічы.

ТАНЦОВА'ЦЬ *незак.* Танцаваць. *Пошоў дзед танцоваць.* В. Малешава. *Чэрці ў болоці танцуюць.* Бярэжцы. *Веселье було, танцовалі на току.* Цераблічы.

ТАНЦУ'ХА *ж.* Танцорка. *Ох і танцуха ж Галя! Мо ў ее косцей нема ў целі.* Верасніца. *Да тупне, да вісне, да крутне́цца — танцуе аж горыць, шо танцуха!* Пагост.

ТА'РА *ж.* Плыток для пераезду. *Робяць с колод такіе тары да едуць.* Тураў.

ТАРАБА'Й *м. жарт.* Трактар. Аздамічы.

ТАРАБА'НІЦЬ, ТАРАБО'НІЦЬ, ТОРОБЕ'НІЦЬ *незак.* 1. Барабаніць, бразгатаць (пра дождж, стук і г. д.). *А дожджык ек тарабаніць, то добрэ спаць.* М. Малешава. *Не тарабаньце, дзеці.* Альшаны. *Тарабоніць дождж у ведро.* Верасніца. *Горошок торобаніць у серэдзіне* (у дзіцячай цаццы). Луткі. *Торобаніць воз, нехто недзе едзе.* Аздамічы. *Жойна торобаніць, проб'е, да пчолы вуедае.* Там жа. *Бегом коні бегуць да торобеніць воз.* Пагост. *А самотужкі за легковушкой торобеняць.* Луткі. 2. Абыякава, неахайна несці, везці. Запясочча. 3 *перан.* Тараторыць, балбатаць, малоць языком. *Ума нема доброго, так тарабаніць езыком абу-шчо.* Запясочча. *Шчо я тарабаню?* Аздамічы. *Стоіць тарабоніць дзень на колодзі.* Верасніца. *Торобаніць, бы то колесо, упустую.* В. Малешава. *Ужо ніхто не слухае, а ты торобаніш.* Там жа. *Хопіць ты торобаніў.* Там жа. *Не ка́жэце, шо я торобоню.* Старажоўцы.

ТАРАБА'НЬКАЦЬ *незак.* 1. Тарахцець, стукаць. *Тэе ведро тарабанькало, і той спужайса.* Бярэжцы. 2. Гаварыць безупынна. *Тарабанькае не спуніцца, хоць ты ему соску ў рот.* Пагост. *Езыком тарабанькае, а дзела не робіць.* Там жа.

ТАРА'БКАНЬЕ *н.* Пустая размова. *Шчо з ее гэтого тара́бканья, шчо з ее той говоркі.* Дварэц.

ТАРА'БКАЦЬ *незак.* Барабаніць, тарахцець, звінець.

*Нека шоночка вухвацілас да тарабкае.* Дварэц. *Чую, тарабкае звонец далеко.* Бярэжцы.

ТАРА′БНУЦЬ *зак.* Стукнуць, загрымець. *Нехто цэпом ужэ тарабнуў, отмукае лотку.* Дварэц.

ТАРАБОСІ′ЦЬ *незак.* Тараторыць, гаварыць абы-што. *Вона тарабосіць гетак, а шо с того?* Дварэц.

ТАРАДА′ЙКА *ж.* 1. Чатырохвугольная каробка на ягады, грыбы, зробленая з дранкі. *Тарадайка з смолового дзерэва робіцца.* Сямігосцічы. 2. Трашчотка. Альшаны. 3 *перан.* Двухкалёсны вазок. Аздамічы. *Памянш.* т а р а д á е ч к а. Мачуль.

ТАРАГАНЕ′ЦЬ *незак.* Тарахцець. *Позно ў вечэры шчэ тараганелі канбайны на полі.* Мачуль.

ТАРА′МКАЦЬ *незак.* 1. Званіць (пра царкоўны звон). *Тарамкаў звон у цэркві на розные голосы.* М. Малешава. 2 *перан.* Гаварыць, расказваць абы-што. *Тарамкаюць то тэ, то тэ.* М. Малешава.

ТАРА′НКА *ж.* Таран. Альшаны.

ТАРА′НЬ *ж.* Тое ж. Альшаны.

ТАРАТО′РЫЦЬ *незак.* Балбатаць, тараторыць, гаварыць абы-што. *Тараторыць, бы старэ ведро на колку.* В. Малешава. *Тараторыць шо тобе сорока.* Пагост.

ТАРА′ХКАЦЬ *незак.* 1. Тарахцець, бразгацець, брынчаць. *Етые бірулькі тарахкаюць.* Запясочча. *Тарахкаць будзе воз по храпі, далеко чутно.* Лутківі. *Онно тарахкае нож об голову кожушка.* Там жа. *У кожной хаці гэтые берульке тарахкалі.* Кароцічы. *Шо то? Тарах-тарах... Аж лось йдзе, а я й не бачу.* Хачэнь. 2. Трашчаць, гаварыць упустую. *Тарахкаць не можно так.* М. Малешава. *Шчо ты тарахкаеш, ек молоцілка, неек цебе розобраць.* Цераблічы.

ТАРАХНЕ′ЦЬ *незак.* Тарахцець, бразгацець. *Так свішчуць, тарахняць.* Цераблічы.

ТАРАХЦЕ′ЦЬ *незак.* Тое ж. *Будзе тарахцець воз по храпі.* Луткі. *Прыдзе вечор, да тарахцяць етые мацікле́ты по селу́.* Пагост.

ТАРКОВА′ЦЬ *незак.* Драць на тарку. *Трэба тарковаць картоплі.* Буразі.

ТАРМСА′ЦЬ *незак.* Тармасіць. *Як выскочыць жонка, ек почне ёго тармсаць.* Сямігосцічы.

ТАСО′ВАНЫ *дзеепрым.* Перамешаны, пераблытаны. *Тасованые дзеці* (дзеці ад розных бацькоў у адной маці). Верасніца.

ТА'СОВАЦЬ *незак.* Тасаваць (карты). *Тасуй, шоб розышліса масці по колодзі.* Пагост.

ТАСЬМА' *ж.* Тасёмка. *Очэпка з тасьмы ці з верэўчыны.* Аздамічы. *Памянш.* т а́ с ь м о ч к а. Аздамічы.

ТАТА' *ж.* △ Е к н а т а т э́. Як на зло. *Ек на татэ і дошч не йдзе.* Запясочча.

ТАТА'РНІК *м.* Аер. *Татарнік і плешнік — то однэе.* Велямічы.

ТАТА'РШЧЫНА *ж.* Нашэсце татар. *Дзед казаў, што до татаршчыны було трыста двороў у Цэрэблічах.* Цераблічы.

ТА'ТО, ТА *м.* Тата, бацька. *Мой тато прыехаў з Турова і мамі хустку шелінову прыўёз.* М. Малешава. *Моя мама тожэ хоцела вуйці за пана, да ледзьве тато ўзяў* (прымаўка). Хачэнь. *Та.* М. Малешава. *Памянш.* т а́ т к о. Сямурадцы. Т а́ т о н ь к о. *Татонько, не бі, не бі, не буду больш!* Пагост.

ТА'ТОВУ *прым.* Бацькаў. *Мое очы хорошые, татовые.* Цераблічы. *У татовой кухайцы цепло.* Пагост.

ТАТУ'СЬ *м.* Хросны бацька. *Коліся мой татусь, хрышчоны бацько, прышчэпіў.* Рубель.

ТА'ХЛЯ *ж.* Вялікі ліст шкла. *Дзве тахлі сцекла на дзве окне хопіць.* Пагост.

ТВАНЬ *ж.* Багна, твань. *Твань, драгва, не можна ўвогнать чорта.* Альпень. *Здоровейшэ болото, там твань, по гэтулькі воды.* Цераблічы. *Тут по куп'яку не йдзі, под ім твань вечна.* Пагост.

ТВАР 1 *м.* Твар. *Від звалі і твар старые людзі.* Цераблічы. *Помуй твар.* Бярэжцы. 2 *ж.* Стварэнне. *Усякая гіда, розна твар бегае по земле.* Альпень.

ТВОЙ *займ.* Твой. *Ходзем до твое хозяйкі.* Мачуль.

ТВО'РБА' *ж.* Прыманка для пчол. *Творба — гэто ягода з крухі, вошчына, солодзяць і кропяць колодку.* Аздамічы. *Вучаўкі з меду перэварваеш да варыш творбу для вулея.* Цераблічы. *Творбою трэба покропіць вулей.* Луткі. *Тво́рба.* Запясочча.

ТВО'РЫЦЬ *незак.* 1. Пырскаць, крапіць вулей прыманкай для прываблівання пчол. *Творым вулья, ложым ольху, багон.* Запясочча. *Пошоў творыць вулье.* Луткі. 2. Прыбіраць (у хаце). *Шчэ тобе хату твораць?* Кароцічы.

ТВОРЫ'ЦЬ *незак.* Вытвараць. *Цепер почалі такое творіць!* Альшаны.

ТКА′ЛЬНІЦА *ж.* Ткалля. *Хороша ткальніца сама робіла ніт.* Чэрнічы.

ТКАЦЬ *незак.* Ткаць. *Ччы да накладзі скрыню кажной* (дачцэ). Луткі. *Тком на мешка тоўстэ полотно.* Кароцічы. *Наметкі тчэ маці до самой тройцы.* Сямігосцічы. *Жыць — не ўміраць і кросна не ткаць* (прымаўка). Старажоўцы. *Ой, шо это ты говорыш? Я прасці не буду, ткаць не буду? Усе буду робіць!* Пагост.

ТКАЧЫ′ХА *ж.* Ткалля. *Ек хороша хозяйка, то й хороша ткачыха, вона напрадзе хорошэ і вуччэ хорошэ.* М. Малешава. *Твоя ткачыха ткала дзеругу ў чотыры ніты́.* Верасніца.

ТКНУЦЬ *зак. метаф. груб.* Даць. *А мне не коня, да жэрэбя ткнулі.* Верасніца. *Ткнула дулю ў нос.* Пагост.

ТЛЕЦЬ *незак.* Тлець, гарэць без полымя. *Надо, шоб воны тлелі больш, а горэць не горэлі.* Старажоўцы. *Дрова не гораць, онно тлеюць.* Тураў. Гніць. *Тлеюць у земле.* Луткі.

ТЛУМА′ЧЫЦЬ *незак.* Тлумачыць. *Колькі тобе можно тлумачыць?* М. Малешава. *Тлумачыць, чого ёго косу на чужы ўчасток поцягло.* Пагост.

ТЛУМІ′ЦЦА *незак.* Тлець. *Дзерэво ў печы тлуміцца.* Хотамель. *Тлумяцца дрова, покі огнем схопяцца.* Пагост.

ТЛУ′НІЦЬ *незак.* Збіраць грошы. Рыдча.

ТЛУ′СТЫ *прым.* Тлусты, жырны. *Прыдзе сем волоў тлустых, а сем голодных, і тые едзяць і не наедзяцца* (прытча). Цераблічы.

ТО 1 *злучн.* Дык. *Вон ідзе, то не стугне, не стукне і росы не зоб'е.* Мачуль. *Бусько як несе віш, то будзе дождж.* Там жа. *От, цёточка, ваша Олена хорошэ спевае: коб не чула, то і не бачыла.* Там жа. *Ек побачу Петруся, то й убокі возьмуса* (з песні). М. Малешава. *То хто его ўсе занесе на пожню?* Луткі. *Хто не знае дорогі, то заедзе мотором.* Сямігосцічы. *Пока целя напою, то ўжэ муку получаць.* Цераблічы. *Пропаў мех, то на бацька грэх* (прыказка). Сямігосцічы. *Ек прышлі жніва, то лежу ек не жыва; прышла покрова, то я жыва і здорова* (прымаўка). Мачуль. 2 *злучн.* То. *То тэ, то се порысса.* Хотамель. 3 *часц.* Гэта. *А кого то ўздумалі?* Запясочча. *Да шо ето таке з твоім воком зробілосо, мо то пчола ўкусіла?* Пагост. *А куды то? Поеду у дорогу.* М. Малешава. *А шчо то вон робіць й ротом не ляпае?* Кароцічы. *А чого то ты усе крычыш?* Аздамічы. *А чого то голова боліць?* Мачуль.

4 *часц.* Дык. *Летом откуль дуне то дуне, то ўседно цепло.* Буразі. *Шо ў той год була вода, то вода!* Сямурадцы.

ТОБАКЕ'РКА *ж.* Табакерка. Запясочча.

ТОБО'ЙТО *прысл.* Вось іменна, так. Запясочча.

ТО'БТО *часц.* Няўжо. *Тобто воны знаюць, шо я поехаў ці не?* Запясочча. *А тобто собак не муюць?* Дварэц. *Тобто будзе пьяць часоў?* М. Малешава. *Тобто цепер пойдзе туда ночоваць?* (на вышкі ў хляве). В. Малешава. *Тобто открыта там хвортка?— Открыта.* Пагост. *Так вон на ноч собаку сюды.— Тобто?— Сюды!* Луткі. *Тобто мое часы йдуць правільно?* Там жа. *Тобто буў вон там ці не?* Там жа. *Топто воны поедуць цепер у грыбу?* Кароцічы. *Тобто заўтра прыедзе аўтобус?* Там жа. *Тобто дождж будзе?* Сямігосцічы. *Погода будзе тобто не?* Аздамічы. *Тобто твой бацько?* Там жа. *Тобто іціме дошч ці не?* Там жа. *Хозяін у хаці, тобто?* Цераблічы. *Тобто не будзе ветру цепер?* Там жа. *Тобто вона ті хто другі?* Альпень.

ТОВА'Р *м.* Каровы. *Прыміса, там товарэ йіцімуць.* Луткі. *Товар ідзе іс пашы, вон цепер добрэ наеўса.* М. Малешава. *Брод получаўса, шо товара много ходзіло.* Альгомель. *Обзывайса, родня богата, перэпівай товар рогаты* (прыгаворка на вяселлі пры перапоі). В. Малешава. *Памянш.* т о в а́ р э ц. *Товарэц пасуць дзеці і сало едзяць.* М. Малешава.

ТОВА'РЫНА *ж.* Адна карова. Мачуль. *Памянш.* т о в а́ р ы н к а. *Оўёс нема тое товарынкі, шоб не ела.* Мачуль.

ТОВА'РЫШ *м.* Сябар. *То мого хлопца товарышэ.* Аздамічы. *Наехало госцей, товарышоў!* Чэрнічы. *Попросіў бу товарыша, то й товарыш заведзе* (з песні). Сямурадцы. *Собака коту не товарыш* (прымаўка). Старажоўцы.

ТОВА'РЫШКА *ж.* Сяброўка. *І я з товарышка́мі хоцела робіць.* Сямурадцы.

ТОВАРЫШОВА'ЦЦА *незак.* Сябравацъ. *Товарышоваўса з Іваном вон.* Пагост.

ТОВАРЫШОВА'ЦЬ *незак.* Тое ж. *З малых год — дзе дзік, там і другі, товарышуюць.* Пагост. *І ў школу разом, і ко́пу цегаць, і з вудкамі, і ў грыбу, і ў ягоды — товарышуюць.* Там жа. *Товарышова́ть.* Альпень.

ТОВАРЫШЫ'ЦЦА *незак.* Выдаваць сябе за сябра. *С Колей вон това́рышыцца.* Бярэжцы. *Товарышыцца, шоб спісваць даваў.* Пагост.

ТОВАРЫШЫ′ЦЬ *незак.* Сябраваць, дружыць. *Вон товарышыць з ім.* Хачэнь. *Нашы бацькі товарышылі.* Аздамічы.

ТОВА′РЭЧЫ *прым.* Каровін, каровячы. *Товарэчэ с'ято у нас у дзерэўні було от Петра одзінаццатого дня.* Цераблічы. *Товарычэ м'ясо.* Аздамічы. *Сцервя́ковіну возілі на товарэчы могліцы.* Цераблічы.

ТОГДЫ′ *прысл.* Тады. *Тогды робылі мендрука, бо тогды поняція не було копчэнья.* Тураў. *Й дзе б ты не буў — под поўдзень нельзя купацца, тогды поцягне ў воду.* Пагост. *Снег тогды круціў.* М. Малешава. *Ужэ днело, тогды заснула.* Мачуль. *Ек пісьмо получыў, тоўды й прыехаў наш дзядзько Коля.* М. Малешава.

ТОГДЫ′-СЁГДЫ′ *прысл.* Час ад часу. Тураў.

ТОЖ, ТО′ЖЭ *прысл.* Таксама. *Я тож не молодзе́нька.* Цераблічы. *Я тожэ воўка забіў.* Хачэнь. *Бабо, гэто тожэ кошэле браць?* Мачуль. *Тожэ полола і вуполола буракі.* Аздамічы.

ТОЙ *займ.* Той. *Той трэцяк скосіў, а шчэ не далі.* Хотамель. *Так мне шкода тое кніжкі.* В. Малешава. *Тоей вербою корову ўдарыць.* Там жа. *Той поедзе ў поле, той рыбу ловіць.* Чэрнічы. *Як той казаў, не трэ ге робіць.* Пагост. *Мо тому е коло двох год.* Цераблічы. *Тоей землею ўладеў.* Рубель. *Однэ і тэе і та говорыць і та.* Луткі. *І тэ не гэтак і тэ не так.* М. Малешава. *От просім того, чого нема.* Там жа. *За тоею горою пасуцца.* Буразі. *Доска та, шчо крыць стрэху.* Сямігосцічы. *А це мале осталосо.* Дварэц. *У кого мамка, у того й голоўка гладка* (прымаўка). Хачэнь. *Тым жэ салом да по той жэ шкуры* (прымаўка). Хотамель. △ Той год (дзень), того́ го́ду (дня). Наступны або папярэдні год. *Той год лучша пашня будэ на шчыжі ек поорэцца.* Рубель. *Йшчэ на той год у школу пойдзе Міша.* Дварэц. *А я того дня буў у Оздамічах.* Кароцічы. Тым часом. Тады, тым часам. *Тым часом прышоў шчотчык.* М. Малешава.

ТОК *м.* 1. Глінабітная пляцоўка. *Ток робіцца з м'якіны і глею.* Луткі. *Нову ток зробіла да паском посыпала.* Мачуль. *Му мотыковалі, а вон утоптаў, як ток.* Запясочча. 2. Гумно. *Клуня ў Турові, а ў нас ток, дзе молоцяць.* Дварэц. 3. Месца такавання і само такаванне цецерукоў. *Ек станyць токі, то і з двора чутно!* Аздамічы. *Ток, дзе токуюць цецерукі.* Цераблічы. *Цецерукі ек возьмуцца болботаць на току, то можно усе перэбіць.* Старажоўцы.

4. Тук. *Увесь ток хлебом вулізаў, а вускарку ні одну не зьеў.* Пагост.

ТОКО'ВАСТЫ *прым.* Цвёрды, як ток. *Брод, дзе можно ехаць, дно токовастэ, цвёрдэ.* Лутні.

ТО'КОВА'ТО *прысл.* Цвёрда, крэпка. *Ходзем туды, там перэбрудом, там токовáто.* Сямігосцічы. *Там тóковато і можно ехаць дажэ.* В. Малешава.

ТОКО'ВАТЫ *прым.* Цвёрды, як ток. *Токоватэ дно на серэдзіні озера, а коло берэгоў топке багно.* М. Малешава.

ТОКОВА'ЦЬ *незак.* 1. Такаваць. *Як заведуцца токоваць, той не шманаюць выстрэлу.* Аздамічы. 2 *перан.* Балбатаць, гаварыць, даказваць. *Поба, вон нешчо ему токуе.* Лутні.

ТОЛІ'ЦЬ *незак.* Збіраць, хаваць. *Толіць тые грошы да ходзіць ек соўмак, ні сам ні вуп'е, ні людзям ні дасць.* Сямігосцічы.

ТОЛК *м.* Карысць, сэнс. *Трэбо зложыць, шоб воно доходзіло до толку.* Бярэжцы. *Од сну толку нема ніколі.* Цераблічы. *Говорыць не к толку, абы шчо.* Там жа. *Екі розум, такі і толк* (прымаўка). Старажоўцы.

ТОЛКОВА'ЦЬ *незак.* Размаўляць, абмяркоўваць. *Не хочу я толковаць з ім плохого ўрэмя, а не то доброго.* Сямігосцічы. *От толкуём, як цебе ожэніць, дурня, сам ты век не жэніша.* Пагост.

ТОЛМА'ЧЫЦЬ *незак.* Тлумачыць. *Я тобе добрэ толмачу.* Сямігосцічы.

ТОЛОБА'НІЦЬ *незак.* Гаварыць, балбатаць. *Такіе бабы зобраліса да толобаняць.* Цераблічы. *Толобаніш днэ ж і тэ, надодзело.* Пагост.

ТОЛОГУ'НІЦЦА *незак.* Марудзіць, не спяшацца. *Ходзем скорэй, а то тологуніцца там ззаду.* Бярэжцы.

ТО'ЛОК *м.* Трамбоўка. *Толоком збівалі ток.* Пагост.

ТО'ЛОКА' *ж.* Група людзей, запрошаных на дапамогу. *Сенокос косілі, богатырэ бралі тóлоку.* Запясочча. *Толокі збіралі богатыры: наймалі працї на жакі й на волокі.* Там жа. *Збіралі толоку да возілі дзерэво* (на хату). Хачэнь. *Толоку зобраў картоплі ўбіраць, і працї толоку збіралі, у кого хлопцоў богато, а дзевок нема.* Лутні. *Колі чоловек не наймае, а попросіў лес вывесці, то толокóй кауць, потом угошчаюць.* Альшаны. *Як покліча на толоку працї, то ішлі, а шчо ж будзеш робіць?* Мачуль. *Коліся толóкі робілі, свадзьбу.* Там жа. △ Бéркова

т о л о к á. Талака, якая каштавала больш, чым дала прыбытку. Аздамічы.

ТОЛОКНО′ *н.* Страва з аўсянай мукі. *Колісь посцілі вельмо, то толокно робілі, квашу і жур.* Бярэжцы.

ТОЛОКОВА′ЦЬ *незак. метаф.* Таўчыся; бубнець. *Шоб не вугнаў, то б вона недзелю толоковала б на одном месці, тая качка; загрэбе тые яйца да толокуе на том месці.* Хачэнь. *От стоімо да толокуем, покуль брыгадзера нема.* Пагост. *Толокуюць этые бабу под окном да гвалт!* Старажоўцы.

ТОЛОНІ′ЦЬ *незак.* Гаварыць недарэчнае. *Шо ты это толóніш?* Старажоўцы.

ТО′ЛЬКО 1 *прысл.* Столькі. *Колько задумаю, только вужну.* Хачэнь. *Баба, только й только дай грошы, і баба дае.* Там жа. *А ты вужала только й только?* Сямігосцічы. *Только мне богато насыпаў тое цыбулі на стол!* Бярэжцы. 2 *прысл.* Толькі. *Склоб только кору склобіць.* Мачуль. 3 *злучн.* Толькі. *Только позачыняла, а вона ужэ гукае* (пра суседку). Хачэнь.

ТОМІ′ЦЦА *незак.* Не гарэць агнём. *Трэбо шчоб вон томіўса, той берест, то дзёгоць сцекае ў ніжні коцёл.* Пагост.

ТОМОВА′ТЫ *прым.* Дурны. *Екіе воны томоватые.* Тураў.

ТОН *м.* Вір, загон. *Два тона ў Чорным Острове* (урочышча). Кароцічы. △ У т о н у т о н ý ц ь. Прапасці, згінуць. *От пошла, ек у тон утонула.* В. Малешава.

ТО′НКІ *прым.* Тонкі. *Ежэлі тонка шыя, то добра корова.* В. Малешава. *Ек тонкі плаў, то проваліцца і потане чоловек.* Луткі. *Кажуць: тонкі, ек смучок.* Старажоўцы. *Корова, ек гайсцёр, тонка.* Крэмна. *Тончэйшы чэрот хорошэ крыць.* Сямігосцічы. *Кошэ плесці трэ тончэйшые дубцэ, шоб гнуліса й не ломаліса.* Пагост. *Памянш.* т ó н е н ь к і, т о н к л я́ в е н ь к і, т о н ю́ л е н ь к і. *Лісток тоненькі.* Луткі. *Гэта тонклявенька шых — і пошла.* Сямура́дцы. *Тонюленькі голосок, ек у дзеўкі-малолеткі.* В. Малешава.

ТО′НКО *прысл.* Тонка. *Так пралі, шоб багато напрасці і тонко.* Пагост. *Тонко прала, беленько беліла, за дзін вечор роскоціла* (з песні). Там жа.

ТОНКОМЕ′Р *м.* Лесаматэрыял таўшчынёй да 16 см. *Тонкомер буў лес у той дзелянцы.* Луткі.

ТОНКОНО'Г *м.* Травяністая расліна з высокім цвёрдым сцяблом і вузкімі лістамі. Хачэнь.

ТОНКОПРАДУ'ХА *ж.* Пра тую, якая тонка прадзе. Хачэнь.

ТО'НЧЫК, ТО'НЬЧЫК *м.* Тонкі канец берввяна, жардзіны і інш. *Сам берэ под комель, а мене — под тончык.* Луткі. *На хорошом дубі голье только на самом тончыку е.* Там жа. *Колода лежыць тончыком туды, а комлем сюды.* Аздамічы. *То́ньчык.* Хотамель.

ТОНЬ *ж.* Затон, вір. *След кабана пошоў церэз тонь у этые берэлозы.* Луткі.

ТО'НЯ *ж.* 1. Затон, вір. *Дзе чыста ямка, то тоня, а дзе заростанэ, то озеро.* В. Малешава. 2. Адзін заход пры лоўлі рыбы сеткай. *Одну тоню кінулі неводом.* Верасніца. 3. Колькасць рыбы, злоўленай сеткай за адзін заход. *Дна тоня була нічого, кошэль плоткі ўзялі, а тые ўсе пустые.* Пагост.

ТОПА'Ч *м.* Той, які тоне. *Е дуб топач, у котором стрыжня больш, а ў котором оболоны больш, той плавае.* Верасніца.

ТОПЕ'ЛЬНЯ *ж.* Гразкае месца. *Людзей й короў потопілосо ў етой долінцы, топельня.* Пагост.

ТОПІ'ЛО *н.* Тое ж. *Булі такіе топіла непроходзімые, да сітнік, чэрэт, лоза.* Верасніца.

ТОПІ'ЦЦА *незак.* 1. Паліцца. *Дзень топіцца печ, к веселью пекуць, вараць.* Пагост. 2. Тапіцца. *Топельня* (затон ад Прыпяці) — *там багато людзі топіліса.* Чэрнічы. *Ек топіцца, то й за травіну ўхопіцца* (прыказка). Старажоўцы.

ТОПІ'ЦЬ *незак.* 1. Паліць у печы. *Вона шчэ шныпорыцца да топіць печ.* Дварэц. *Гіра* (казачная істота) *топіць печ.* Запясочча. *Не було іх, то я ў печэ ніколі не топіла.* Хачэнь. *Увечоры не топімо печ.* Хотамель. 2. Тапіць, плавіць. *Топіць сало ў печэ.* Луткі. 3. Залліваць, затапліваць вадою. *Топіло ўсе поля кажын год.* Дварэц. 4. Тапіць, губіць. *Дзеці ў воду сыпляць і топяць жукоў* (каларадскіх). Луткі. *Да понесу ж я горкую долю ў рэчку топіці* (з песні). Сямурадцы. △ Т о п і ц ь  с в е т. Вельмі моцна плакаць, заліваццa слязамі. *Ужэ плачэ, свет топіць.* В. Малешава. *Ек сын ішоў у армею, то свет топіла.* Хачэнь.

ТО'ПКІ' *прым.* 1. Плаўкі. *Варваро, чэрпака хопіць,*

*сало топке́.* Хотамель. 2. Гразкі, багністы. *То́пке болото у нас.* Хачэнь. *Топке́ болото, не перэ́йдом.* Пагост.

ТО′ПЛЕНІК *м.* Тапелец. *Седзіць, ек топленік, нічого не знае.* Сямурадцы. *Вуклаў вочы, ек топленік!* Там жа. *Субота не бувае без сонца, бо топленікі на сонцы перэсушваюцца, так старые казалі.* Запясочча. *Та рэка недобра, топленік і топленік!* Луткі.

ТО′ПЛЕНІКІ *мн.* Патоплены ў вадзе лесаматэрыял. Аздамічы.

ТО′ПЛЕНІКОЎ *прым.* Тапельцаў. *Трэба поліць топленікового крэста водою, як нема дожджу, як засуха, то пойдзе дождж* (павер'е). Старажоўцы.

ТОПЛЕ′НЬЕ *н.* Паленне. *Яке не топленье, то нагрэласа б.* Хачэнь. *Нашо мне гэто топленье!* Кароцічы.

ТО′ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Топлены. *Топленэ масло смачнэ і доўго будзе ек свежэ.* Запясочча.

ТОПЛО′ *н.* Гразкае месца. *Топло таке, гразь, дна нема, там одна нікву́.* Тураў. *От топло, возім, возім песок і не ўмо́сцім.* Пагост.

ТО′ПЛЯ *ж.* Паленне. *Нешчасна така топля, кірдзіць у той печэ.* Цераблічы.

ТОПЛЯ′К *м.* Патанулая калода. *Коло вусця ўсе дно у топляках.* Пагост. *У топляках окунёў е, под імі ховаюцца.* Там жа.

ТО′ПОЛЬ *м.* Таполя. *Шо б воны знали да одзін тополь поткопалі, так от тут пошла б вода* (з казкі). Кароцічы.

ТОПО′ЛЯ *ж.* Тое ж. *Тополя перэд хатою росла — порубалі.* Хачэнь.

ТОПОНІ′ЦЬ *незак.* Тупацець. *Конь топоніць.* Запясочча.

ТОПОРЫ′ШЧЭ *н.* Тапарышча. *Ясеня ссеком на топорышчэ.* Луткі. *Бачыла граба хорошого на топорышчэ.* Там жа.

ТОПТА′ЙЛО *н.* Той, хто ходзіць без мэты, без пэўных заняткаў. *Мо вона з дзерэўні, не з города, топтайло дзерэвенскэ, усё топчэцца дзень.* В. Малешава.

ТО′ПТА′НКА *ж.* Тоўчаная бульба. *Дайце мне то́птанкі!* Старажоўцы. *Топта́нка з вускаркамі смачна.* Пагост.

ТОПТА′ЦЬ *незак.* 1. Утрамбоўваць, утоптваць, ушчыльняць. *Пошлі топтаць сено на вушкі.* Луткі. 2. Таптаць. *То́пчэце мене ногамі, то я домоў не пойду.* Сяму-

радцы. *Лапець кажэ: ну шо ву мене навéк тóпчэце? Неўжэ мене не можна узяць за плечы і поносíць, а не только топтаць?* (з легенды). Старажоўцы. 3 *экспр.* Есці. *Попругу роспраг і шчэ топчэ, й куды вонэ лезе.* Пагост. *А вон прыдзе, да ўсе ў рот топчэ таблеткі, шоб не ўмерла.* Сямурадцы.

ТОПТУ'ХА *ж.* 1. Рыбалоўная прылада. *Нашлапіш ту топтуху, туды зверху руку да мацаеш, ці е рыбіна.* Пагост. 2. Непаваротлівы, павольны ў працы (пра чалавека). *Топтуха, топчэцца, а толку мало.* Пагост.

ТОПУ'Н *м.* Тапляк. *Топун подвязваўса между сухімі.* Запясочча.

ТО'ПЦІ *мн.* Тапачкі. *Топці забула дзеўчыні ўзяць.* Хачэнь.

ТОПЧА'Н *м.* Канапа. Альпень.

ТО'РБА *ж.* Торба, мяшок. *Очэпіў торбу ек старэц!* Аздамічы. *Коціласа торба з велікого горба, а ў той торбі хлеп, пшэніца — з кім ты хочэш ожэніцца?* (дзіцячая лічылка). Бярэжцы. *Торба не мех, а праўда не грэх* (прымаўка). Верасніца. *Ані мешок, ані торба* (прымаўка). Сямігосцічы. *Ніхто не такі, ек пастух, прокляты — і дома жэрэ і у торбу берэ* (прыказка). Старажоўцы. *Дзецей годуй і торбу готуй* (прыказка). Там жа. *Добрэ було, добрэ й будзе, хто носіў мешка, тому торба будзе* (прыказка). Там жа. *Памянш.* т ó р б о ч к а, т о р б é ш к а. *Она подняла ту торбочку.* Пагост. *Пойду торбешку свою возьму.* Сямурадцы. △ Д о т ó р б у д о в е с ц í. Прывесці да беднасці, разарыць. *Што ты зробіў? Ты ж мене до торбы довёў!* Сямігосцічы. П а с т у х ó в у е т о р б о ч к í. Пастухова сумка. Запясочча. Т ó р б у ж а б п р ы в é с ц і. З'явіцца без заробку, прыехаць ні з чым. *Торбу жаб прывёз з Амерыкі.* Запясочча.

ТОРБЕ'НЕ *н.* Целяпень. *От торбене ты!* (на дзіця). Хачэнь.

ТОРБІ'ЧЫЦЬ *незак.* Апранаць. *Прыдзе вербіч, то кожуха торбіч!* (прымаўка). Пагост.

ТОРБУ'ЦЬ *выкл.* Кінуць, скінуць. *Зогнуўса і торбуць ту просцілку.* Пагост.

ТОРГ *м.* Базар. *У Турові колісь торг такі буў — шуміць, гудзе, шо хоч купіш.* Пагост. △ Т ó р г о м т о р г о в á ц ь. Даваць выкуп. *Васіль дзевочок торгом торгуе, а своей Ленцы даром даруе. Ой, дай жэ божэ сторговаці да на лето Ленку ўзяці* (з песні). Пагост.

ТО′РГАЦЬ *незак.* Торгаць. *Торгаў трактор трактора з ямы.* В. Малешава. Кляваць. *Рыба добрэ торгае на рэцэ.* Рычоў.

ТО′РГНУЦЬ *зак.* Торгнуць. *Я ўзела, а вонэ ек торгне.* В. Малешава.

ТОРГОВА′ЦЦА *незак.* Таргавацца. *Заходзіць вон до ёго — да торгуюцца.* В. Малешава. *Торговаласа мо час з коленцэм за порося, п'яць рублей збавіў.* Пагост.

ТОРГОВА′ЦЬ *незак.* Гандляваць. *На ярмолок едуць торговаць і купляць.* Луткі. *Вон торговаў венікамі.* Кароцічы.

ТО′РЗАЦЬ *незак.* Торгаць, тузаць. *Зуб торзае.* Рубель.

ТОРКА′ЦЦА *незак.* Варушыцца, калывацца. *Броківа торкаецца раненько, то будзе негода* (прыкмета). В. Малешава. *Корыто ў ветрэніку под кошэм торкаецца.* Цераблічы.

ТОРКА′ЦЬ *незак.* 1. Чапаць, кратаць. *Шчо ёго торкае, цегае, вон ужэ тогды бежыць.* Сямігосцічы. *Вон нас не торкацьме.* Там жа. *Торкать.* Альпень. 2. Кляваць. *По верху поплавок погнало, его верховод так торкае.* Пагост.

ТОРКЕНУ′ЦЬ *зак.* Таўхануць, штурхнуць. *Я за тэ торкенула окно, я за тэ — зашчэплено.* Хачэнь.

ТОРКЛІ′ВО *прысл.* Дрогка. *До пэрэправы торкліво, подкідае.* Сямігосцічы.

ТОРКНУ′ЦЬ *зак.* Крануць, таўхануць, штурхнуць. *Я тых коржаной торкнуў, дак воны з вулья!* Запясочча. *Торкнуло раз і перэстало, мо то кручок вулез з чэр'яка.* Пагост.

ТОРМОЗІ′ЦЬ *незак.* Узбуджаць, хваляваць. *Тормозілі жывота ему тые порошкі.* Дварэц.

ТОРМОЗОВА′ЦЬ *незак.* Тармасіць. *Берэ тормозоваць ее, хай поднімаецца.* Аздамічы.

ТОРОДА′ЙКА *ж.* Двухколка. Аздамічы.

ТО′РОК *м.* Праход. *Охотнік садзіцца на тороку, ожыдае звера.* Буразі. *На торокох стань, дзе росходные дорогі звера, то вон не міне.* Любавічы. *Бувае, рыбак рыбу ловіць на тороку, знае, дзе рыба проходзіць.* Там жа. *Бувае, чоловек место зойме да продае там, дзе людзі проходзяць, і ў ёго гендзель ідзе, то кажуць на тороку седзіць.* Там жа. *По тороку обезацельно іціме звер.* Кароцічы. *Гонцэ жэнуць, а охотнік стоіць на тороку.* Аздамічы. *По тороку і воўк ідзе жыроваць.* Мачуль. *Одзін торок*

*ды вас сорок* (прымаўка). Цераблічы. *Одзін торок не варт сорок* (прымаўка). В. Малешава. *Памянш.* т о р о ч о к. *Іх торочок там, воны перэбегаюць у роў.* Луткі.

ТОРО'К *м.* Невялікі плыт для пераправы праз возера, ваду ў паводку. *На той вуліцы вода, то торкі позбівай да колкамі пхайса.* Пагост. *Торкі робілі з дошчок. Дзве полені положыў да дошчок наслаў да пошоў!* Запясочча.

ТОРОКОВА'ЦЦА *незак.* Такаваць. *Поглєдзі, цецері торокуюцца.* Запясочча.

ТОРОКОВА'ЦЬ *незак.* Снаваць, рабіць праходы. *Там тороковалі зверы.* Буразі.

ТОРОТА'ЙКА *ж.* Балбатуха. Аздамічы.

ТОРО'ЧЫЦЬ *незак.* Гаварыць абы-што, задурваць галаву. *Да й годзі торочыло!* Запясочча. *Шо ты торочыш, бра?* Там жа. *Годзі мне торочыла.* Там жа. *Шо ві, бабі, торочыце тут?* В. Малешава. *Хоміч, шчо то ву торочыце ерунду некую.* Луткі. *Шо ты мне голову торочыш!* Альшаны.

ТОРХОВА'ТЫ *прым.* Тарфяны. *Там земля торховата.* Луткі.

ТОРЧА'ЦЬ *незак.* 1. Тарчаць. *Бу с корча торчыць голова.* Запясочча. *Сомок пудоў два улез у жак, хвост торчаў.* Там жа. *Онно рогі торчаць, бродзіць корова.* Луткі. *У неўдалухі загон торчыць* (з песні). Бярэжцы. *На том болоці да нешчо торчало.* Велямічы. 2 *перан.* Знаходзіцца. *Пойду, торчу-торчу ў том городзі.* Запясочча. *Дзе харчы, там і торчы* (прымаўка). М. Малешава.

ТОРЧКА' *прысл.* Тарчма. Запясочча.

ТОРЫ'ГАЦЬ *незак.* Торгаць. *Торыгае лектрыка.* Запясочча.

ТОСКОВА'ЦЬ *незак.* Тужыць, нудзіцца. *Тосковаў суткі, етаку кошэчку убіў.* Запясочча.

ТО'ЎБА *ж.* Тоўсты, нязграбны чалавек. *Гладзезна, бы тоўба!* Аздамічы. *От тоўба пошла!* Запясочча. *Ек неповоротнэ дзіця, лемеховатэ, кажуць тоўба.* Хачэнь.

ТО'ЎБАЛІЦЬ *незак.* Укладаць у памяць, убіваць у галаву. *Тоўбаліш бес перэстанку ему, а вон не цяміць усе роўно.* Альшаны.

ТОЎКАНІ'ЦА *ж.* Камы. *Замешала на одзін раз тоўканіцы з картоплёў і м'екіны льняной гусям.* М. Малешава.

ТОЎКА'НКА *ж.* Тое ж. *То тоўканку тоўклі з этым маком.* Старажоўцы.

ТОЎКА'ЦЬ *незак.* Кляваць, торкаць. *Аніяк не тоўкае, нічого і не пошэвеліць.* Тураў.

ТОЎКА'Ч *м.* Таўкач. *Тоўкачэм забіла кабана.* Запясочча. *Лысы, ек тоўкач!* Старажоўцы. *Тоўкачэм у ступі тоўклі просо.* Пагост.

ТОЎКЕНУ'ЦЬ *зак.* Штурхнуць, таўхануць. *За грудзі як тоўкене ее!* Запясочча. *Тоўкенуў бу того горшка, хай бу россыпаўса с кашэй.* Хільчыцы.

ТОЎКНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Тоўкні ему, нехай не спіць.* Альшаны.

ТОЎКОЦЕ'ЧА *ж.* Таўкатня. *Нашчо там тобе ісці, там на веселы тоўкоцеча, узаўтра, позаўтра пойдзеш.* Хачэнь. *Тоўкотéча.* Хотамель. *Тоўкочэ́ча.* Тураў.

ТОЎКУ'ШЧЫ *прым.* Працавіты, бесперапынна заняты работай. *Тоўкушчые этые жонкі!* В. Малешава.

ТОЎКЦІ' *незак.* Таўчы. *Колісь сеялі просо да тоўклі ў ступах.* Хачэнь. *Просо лёгко тоўкці.* Там жа. Біць, штурхаць. *Ззаду тоўчуць у бокі.* Запясочча. *Качэнят куры тоўкуць, дадуць у голову і заб'юць.* Кароцічы. Раіць, тлумачыць. *Ей тоўкуць, шо не едзь, а вона поехала.* М. Малешава. △ Т о ў к ц í  с т ý п у. Снаваць на адным месцы, лятаць роем, кучай (пра камароў). *Комарэ ступу тоўкуць — будзе цепло* (прыкмета). Хачэнь.

ТОЎКЦІ'СА *незак.* Тоўпіцца. *У одной хаці було веселье, а на двор неможно було вуйці, дожджы ішлі, і два дні людзі тоўкліса ў хаці.* М. Малешава. *Тоўчэцца ек Марко ў пеклі.* Мачуль. *Тоўкуцца коло порога куры.* Луткі.

ТОЎМУ'ГА *ж.* 1. Бязрогая карова. Дварэц. 2. Неахайны чалавек. Дварэц.

ТОЎПЕ'НЯ *ж.* Камы. Хотамель.

ТОЎПІ'ЦЦА *незак.* Змяшчацца. *От гладкі, вон ужэ ў своей шкуры не тоўпіцца.* Луткі. Тоўпіцца. *Людзі коло лаўкі тоўпуцца.* Луткі.

ТО'ЎСТА. Цяжарная. *Тоўста прыехала от его да родзіла сына, увесь баценя.* М. Малешава. *I сама тоўста, і дзіця ў повіточку.* Кароцічы.

ТОЎСТОКО'РА *ж.* Галавень. Запясочча.

ТОЎСТОКО'РКА *ж.* Тое ж. *Тоўстокорка росце подходзяшча, грам на дзвесці.* Дварэц. *Такіе плоткі хорошые тоўстокоркі.* Хачэнь. *Памянш.* т о ў с т о к ó р о ч к а. *Тоўстокорочка — тоўста спінка ў ее.* Дварэц.

ТОЎСТОПРА'ДУХА *ж.* Тая, якая тоўста прадзе. *Тоў-*

*старадуха возом везе, а тонкарадуха под рукою несе* (прыказка). Хачэнь.

ТОЎСТОШКУ'РЫ *прым.* Таўстаскуры. *Е солодкіе, тоўстошкурые яблука, то доўго лежаць.* Хачэнь.

ТОЎСТУ'Н *м.* Таўстун. *Пошоў ваш тоўстун, схоцеў можэ пройці.* Луткі. *Не лезе на машыну тоўстун, подсобце, бабу.* Пагост.

ТО'ЎСТЫ' *прым.* 1. Тоўсты. *Воны булі екіе-то тоўстые і цвет не такі* (археалагічныя чарапкі). Пагост. *Буў тоўсты осьнік, то на пілораме на одрыну роспусцілі на дзве часце.* Дварэц. *Тоўсты ек лепех, гладкі, поўноцельны.* Там жа. *Тоўсты, ек іспечаны.* Там жа. *Тоўсты ек колода.* Там жа. *Вероўка тоўста, на ногу накручваюць у лапцех.* Сямурадцы. *У Сашы горох хорошы, тоўсты.* В. Малешава. *Тоўстая е лоза, шо плесці лапці.* Мачуль. 2. Грубы (пра голас). *Корова тоўстым голосом рыкае.* Луткі. *Тоўсты голос добро басуе.* Там жа. *Тоўстым голосом той рэвэ.* Цераблічы. *От ужэ у мое дочкі тоўсты голос.* Старажоўцы.

ТОЎСЦЕ'ЛЕЗНЫ *прым.* Таўшчэзны. *Тоўсцелезны екі стаў, ушыр шо ўвусь, а молоды худы буў.* Пагост.

ТОЎЧ *н.* Прасяное шалупінне. Хотамель.

ТО'ЎЧАНКА *ж.* Камы. *Тоўчанкі с салом понаедаліса.* Любавічы.

ТОЎЧЫ'СА *незак.* Таўчыся. *Чого ты, Параско, тоўчэсса дзень і ноч?* Старажоўцы.

ТОЎШЧ *ж.* Таўшчыня. *Костра, тоўшч, падае.* В. Малешава.

ТО'ЎШЧЫК *м.* Камель. *Беры за тоўшчык, а я за тончык.* Пагост.

ТОЎШЧЫНА' *ж.* Таўстуха. *Тоўшчына, шо ек вулей!* М. Малешава. *От ідзе тоўшчына!* В. Малешава. *Ну, бра, і тоўшчына твоя жонка!* Аздамічы. △ На тоўшчыну. Таўшчынёй. *Язе от такіе на тоўшчыну.* Хачэнь.

ТОЎШЧЭ'ЗНЫ *прым.* Таўшчэзны. *От тоўшчэзный да махінезный!* Аздамічы. *Тоўшчэзны да вусозны буў дуб, цар-дуб казалі, немцы спалілі.* Пагост.

ТОЎШЧЭ'ЙШЫ *прым.* Таўсцейшы. *Тоўшчэйшые дрова рубай, а то рубаеш ек трэскі, схопіць огнем і нема.* Пагост.

ТОЎШЧЭ'ЛЕЗНЫ *прым.* Таўшчэзны. *Вон тоўстова-*

*ты, а жонка тоўшчэлезна — страхота, на дзве табурэткі мало, ек сядзе!* Луткі.

ТОЎШЧЭ'ЛНЫ *прым.* Тое ж. *Вона така тоўшчэлна!* Цераблічы.

ТОЎШЧЭ'ЦЬ *незак.* Таўсцець. *То ўжэ вона будзе тоўшчэць.* Аздамічы. *После первого дзіцяці жонка тоўшчэе.* М. Малешава. *Ее не жэне ўгору, а она тоўшчэе.* Мачуль.

ТО'ХКАЦЬ *незак.* Тахкаць, стукаць, торгаць. *Тохкае нога бу смычэ.* Запясочча. *До Чэрніч зайду, дак ужэ ў голове тохкае.* Дварэц. *Уцекаў од дожджу да тохкае серцэ.* Пагост.

ТОЦ △ Т о ц у т о ц. Вельмі падобны. *Ну тоц у тоц такіе.* Запясочча.

ТО'ЦМА *прысл.* △ Т о́ ц м а с т а ц ь. Застыць ад страху. *Спужаўса, аж тоцма стаў!* Альшаны.

ТОЧА' *ж.* Незамярзаючае месца на рацэ, прамыіна. Аздамічы.

ТОЧА'ЦЬ *незак.* Соваць. *Не точай рукі к ножу.* М. Малешава.

ТО'ЧКА *ж.* 1. Мядзведка. *Капуста точкой скорпана і пуд'едзена.* Запясочча. *Точка рые ў городзі.* Там жа. *Ходзіць кот по сотках, да набуць гетых точок наеўса.* Пагост. *Поточыла точка помідоры.* М. Малешава. *Точка на градах корэнь под'едае.* Хачэнь. *Іх два сорты, точок.* Цераблічы. *Точка жоўценька така, пэрэв'язіста.* Альшаны. *Старые не давалі есць, шоб іх точка поела* (праклён). Сямігосцічы. 2. Крот. Сямігосцічы. △ Т о́ ч к а ў т о́ ч к у. Вельмі падобны. Запясочча.

ТО'ЧНО *прысл.* Нібы, быццам, якраз. *Точно бі матка.* Хотамель.

ТОЧЫ'ЛО *н.* Тачыла. *Шо ты зробіў з точылом?* Азяраны. *Точыло коло кузні е гострыць шо.* Пагост.

ТОЧЫ'ЦЦА *незак.* 1. Сачыцца. *Дзе крыніца, там точыцца вода.* Пагост. *Вода точыцца з-под грэблі.* Бярэжцы. *Песок точыцца ў хату.* Аздамічы. 2 *перан.* Лезці, чапляцца. *Не точыса ко мне.* Хільчыцы. *Точацца дзін на другого з-за дзеўкі.* Пагост.

ТОЧЫ'ЦЬ *незак.* 1. Грызці, рыць, тачыць. *Да вісіць этэ м'ясо, да вендзіцца, да мухі ёго не точаць.* Запясочча. *Точаць чэр'які, порохна наробяць.* Луткі. *Ек не сееш проса, у чужэ хозяйство не точы носа* (прымаўка). Старажоўцы. 2. Тачыць, сточваць. *Лоза не такая доўгая, то вон ее точыць.* В. Малешава.

ТОШНЕ′ЦЬ *незак.* Ныць, млець (пра ногі). *Тошняць мое ногі.* Альшаны.

ТО′ШЧО *прысл.* І да таго падобнае. *Ек му прышлі, то ў свата ўжэ седзелі Кайдалы, Вільнюкі, Саеры тошчо.* Тураў. *Овады да тошчо нападае.* Лутві.

ТОШЧУ′ЛЯ *ж.* Худая, сухая жанчына. *Така була тошчуля, я зімою бачыла.* М. Малешава.

ТО′ШЧЫ *прым.* Худы, сухі з выгляду. Запясочча.

ТО′Я *ж.* Рагулькі. *Тоя ў пшэніцы росце, сіненькім цветом цвіце, перэд Купалным Іваном рвалі.* Дварэц. *Чорт кажэ: «Шоб не буркун і не тоя, то ты б була, дзеўка, моя»* (з казкі). М. Малешава. *Буркун і тою свецяць да ў одрыні вешаюць.* Луткі. *Тою рвалі бабу, збіралі ее на смерць под голову.* Хачэнь. *Клалі под голоўку зелья: зверобой, скочку, тою, шоб дзіця добрэ спало.* Старажоўцы.

ТПРУ, ТПРУЦЬ! *выкл.* Вокліч, якім спыняюць каня. *Тпру! Куды пошоў!* Сямігосцічы. *Тпру, тпруць! конік!* Там жа.

ТПРУ′ЦІ *прысл.* На вуліцу (у размове з дзецьмі). *Тпруці мама ходзіла, Ленка.* В. Малешава.

ТР-Р-Р *выкл.* Выгук, якім спыняюць каня. Азяраны.

ТРАВА′ *ж.* Трава. *Зверэ ў лесі траву едзяць.* Бярэжцы. *Косіць так, шчо трава, ек лён, стоіць.* Старажоўцы. *Козе трава ў лозе* (прыказка). Там жа. *Красовік з водою, май з травою* (прыказка). Хачэнь. *Памянш.* т р а в і ц к а. *Дзе травіцка мала ў водзе, там слалі полотно.* В. Малешава. △ Л ю д з і о д н о́ й т р а в і́. Людзі аднаго асяроддзя. В. Малешава.

ТРАВЕ′НЬЕ *н.* Кармленне. *Сена будзе на цэлы месяц травенья.* Запясочча.

ТРАВІ′ЦЬ *незак.* 1. Спажываць. *Прыдбаў на здороўе, хай травіць на здороўе* (пра сена). Бярэжцы. 2. Рабіць патраву. *Травяць коньмі жыто.* Цераблічы. 3. Труціць. *У войну людзі чухалі коросту, травілі вошы.* Запясочча.

ТРАМ *м.*, ТРА′МА *ж.* Апорная бэлька, якая падтрымлівае столь (у старых будынках). *Будом цегці трама, то будом горэлку піц.* Запясочча. *У Турові ешчэ й цепер е хаты з трамом.* Чэрнічы. *Була хата да трам, то маці туды сховала той сахар.* Хачэнь. *Трам проходзіў поўз усю хату.* Луткі. *Цепэр ужэ не робяць хаты з трамом.* Аздамічы. *Тра́ма.* Альпень.

Ускладванне *трама́* пры будаўніцтве хаты заўсёды ад-

бывалася як пэўны рытуал і завяршалася пачастункам усіх яго ўдзельнікаў. *Як цягнуць этого тра́ма, то обматаюць світку да по́есом подпаражуць, такім поесом красным, булі такіе. Хозяін помо́ліцца богу, коб ему бог даў добрэ, і цягнуць трама́ як чоловека. А там жэ буў трам ого́! І цягну́ць гэтого трама бегуць усе, хто бачыць, помогці. Да бувало, й дзеці бегуць гледзець. А ўжэ його сця́гнуць, то вупіўка і закуска.* Старажоўцы.

ТРА'ПІЦЦА *зак.* Трапіцца, сустрэцца, напаткацца. *Екраз трапіўса там фельчэр мне.* Запясочча. *Трапішса ты мне ў цёмном месці!* (пагроза). Пагост.

ТРА'ПІЦЬ *зак.* 1. Знайсці, трапіць. *А дзе ты трапіў іх? Мо дзе под лесом?* Дварэц. *Заросля така, шо корова ўвойдзе і не трапіш.* Там жа. *Мы такіх платкоў не трапілі.* Запясочча. *Леснік ішоў да трапіў еты мешок іс сотнямі.* Там жа. *Мо екого ўзбека собе трапіла?* Там жа. *Трудно трапіць той тур.* Там жа. *Так усе запустовало, шо не трапіць нідзе нікого.* Чэрнічы. *Да зайшлі да трапілі його одзежу.* Сямурадцы. *Коб его трапіла хвороба!* (праклён). Хачэнь. *Нейдзе таку траплю людзіну, шо скажэ.* Лутκі. *Як пошоў куды, да не знаеш дорогі, то добрэ шчо б трапіў.* Сямігосцічы. *Отсюль вулезе, а назад не трапіць.* Цераблічы. 2. Паспець, управіцца. *Я трапіла два раз прынесці солому.* Чэрнічы.

ТРА'ПКА *ж.* Ануча. *Узела трапку, трэ муць посуду.* Лутκі.

ТРАПКА'Ч *м.* Вялікі ручнік з махрамі на канцах. Запясочча.

ТРАПЛЯ'ЦЦА *незак.* Трапляцца. *А хлопчыкі траплялісa, тому рубашочку посціраць, тому тэе.* Дварэц. *І грыбу трапляюцца, на сковороду е ўжэ.* Пагост.

ТРА'ПТА *ж.* Від плыта для сплаўлення шпал. Запясочча.

ТРА'ПТЫ *мн.* △ Х о д з і ц ь  н а  т р а́ п т ы. Займацца лесасплавам. Альшаны. Б у ц ь  н а  т р а́ п т а х. Знаходзіцца на лесасплаве. *Оні век на траптах булі, земле не мелі ні на крок.* Сямігосцічы.

ТРА'П'Е *н.* Рыззё, лахманы. *Рыба залезе ў гэты закобэнь, у гэтэ трап'е, вонэ зажаберэе, то нема дзе ўлезці.* Цераблічы.

ТРАСА'ЧКА *ж.* Ліхаманка. *Так змерз на дворэ, аж трасачка трэсе.* М. Малешава.

ТРАСУ'НЬКА *ж.* Расліна дрыжнік. *Трасунька, вона хоць бесцветна, і ее мешаемо, ек плетом венка.* Лутқі.

ТРА'СЦА *ж.* Лаянкавае слова. *Худы ек трасца!* Старажоўцы. △ Тра́сца твоёй (ёго) ма́тары (ма́цер). Выраз, якім выказваецца незадавальненне, абурэнне і інш. *Трасца твоёй матары, шо ты мене б'еш.* Хачэнь. *Трасца твоёй мацер.* Мачуль. *Гуркі мое потоптаў, трасца ёго мацер.* Пагост.

ТРАСЦА' *ж.* Траста. Запясочча.

ТРАСЦІ'СА *незак.* Трэсціся. *Кутасы трасуцца о то так на іх.* Дварэц. *Танцуюць — упінаюцца, трасуцца, цьфу!* Пагост.

ТРА'СЦІЦЬ *незак.* Прасейваць. *Муку трасцім свіньям.* Хачэнь.

ТРА'ТВА' *ж.* 1. Від плыта для невялікіх рэк. *Ек шо, то пройдзе тратва до Погоста.* Дварэц. *Тратва.* Пагост. 2. Кладка для мыцця бялізны на рацэ. Кароцічы.

ТРАЎЛЕНЫ', ТРА'ЎЛЯ'НЫ 1 *прым.* Травяны. *Дзе пожня траўлена́, то на корма скосіць, а ек чыста солома, то на посцёл.* М. Малешава. *Траўля́ны лён, траву багато.* Там жа. 2 *дзеепрым.* Атручаны. *Тра́ўлянэ картоплінне од жукоў, гледзі, шоб корову не зайшлі.* Пагост.

ТРАХА' *прысл.* Трохі. *Траха пойшла б, пособіла б бабі.* Сямігосцічы.

ТРАХА'ЦЬ *незак.* Трэсці. *Хай полешукоў траха́е.* Старажоўцы.

ТРА'ХАЦЬ *незак.* Страляць. *Дзень трахаюць з стрэльбоў по тых вутвох бедных.* Пагост.

ТРА'ХНУЦЬ *зак.* Стукнуць; упасці. *А воўк мне, нечыста сіла, трахнуў под ногі.* В. Малешава.

ТРАХОМО'ЦЬЕ *н. экспр.* Лахманы, манаткі. *Беры свое трахомоцье да йдзі, а то трэсе тут світкамі, лахамі.* М. Малешава.

ТРО'Е *ліч.* Трое. *Тые трое дзецей коло ее.* Запясочча. *С троіма дзецьмі жыве.* Там жа.

ТРОЕНЯ'ТА, ТРОЙНЯ'ТА *мн.* Трайняты. *Хай у вас будзе трое троенят, двое двоенят, чэцверо по (о)дном, Тарас, Опанас дай хваціць з вас!* (вясельнае пажаданне). Сямурадцы. *І тройнята буваюць у овечкі.* Старажоўцы.

ТРОЕ'ЦКІ *прым.* △ Трое́цкі гры б. Ранні, веснавы баравік. Мачуль.

ТРОЕ'ЧНЫ *прым.* △ Трое́чны ты́дзень. Тыдзень, на які прыпадае свята сёмуха. Бярэжцы.

ТРОЁВУ *прым.* Трайны. △ Т р о ё в у е в і л к і. Трохзубыя вілкі, тройні. *Троёвумі вілка́мі робілі на току, колі молоцілі.* М. Малешава.

ТРО'ЙКА *ж.* Трэці ход (пасаж) у гульні *ў каменцэ́.* Сямігосцічы.

ТРО'ЙКО *ліч.* Трое. *У ее тройко дзецей.* Аздамічы. *Тройко дзеток стрэлі его.* Сямурадцы. *Да своіх тройко дзецей було.* Сямігосцічы.

ТРОЙНІ'К *м.* Бёрда на 13 пасмаў. *Кое-хто праў у тройнік.* М. Малешава. *У тройнік вельмі тонко напрасці трэба.* Луткі.

ТРОЙНЫ' *прым.* Трайны. △ Т р о й н ы́ е в і л к і. Трохзубыя вілкі, тройні. Хотамель.

ТРОЙНЯ' *ж.* Трайня. *Тройня — между оплёнамі, ростопурвають палку на две і правіло трэцце, за то тройня.* Аздамічы.

ТРО'ЙЦА *ж.* Традыцыйнае свята сёмуха. *На тройцу на подлогу плешнік сыплють.* Альпень. *На тройцу клён у вокна утыкаемо.* Пагост. *Тру́йца.* Запясочча.

ТРОЙЦОВА'ЦЬ *незак.* Святкаваць традыцыйнае свята сёмуху. Аздамічы.

ТРОЛЕВА'ЦЬ, ТРОЛЁВА'ЦЬ, ТРАЛЁВА'ЦЬ, ТРЭЛЯ'ЦЬ *незак.* Выносіць, вывозіць, выцягваць, дастаўляць з цяжкадаступных месц нарыхтоўкі (пра лес, ягады і інш.). *От, вон мае не лотку, а дуба, дрова тролёваць добрэ.* В. Малешава. *Я на плечах ягоды тролюю.* Хачэнь. *Валілі, коньмі тралёвалі з леса, до канаву, а там у грэбенкі да плавілі.* Пагост. *Трэляюц лес на бор, на грэду, а там на машыны грузяц.* Запясочча. Сноўдацца без пэўных заняткаў. *Месец тролюе чоловек у Сочах.* В. Малешава.

ТРОЛЁВАЦЬ *незак.* Раздаваць, разбазарваць. *Тролёваеш молоко чужым дзецям.* В. Малешава.

ТРОМЦЕ'ЦЬ *незак.* Трымцець. *Так наценулі, аж тромчыць.* Луткі.

ТРО'НОК *м.* Тронак. Рубель.

ТРО'НУЦЬ *зак.* Крануць, зачапіць, рушыць. *Ек горло троне, то не будзе жыў* (пра жарабя, параненае ваўком). Любавічы. *І коўша абу-куды не троне его.* Верасніца.

ТРОП *м.* △ У з я́ ц ь (у х о п і́ ц ь) т р о́ п у. Зведаць, убачыць, заўважыць след. *Не возмеш тропу, куды пой-*

*шоў.* Запясочча. *Не ухопіла тропу, куды пошоў.* Альшаны.

ТРОПА′ЧКА *ж.* Трапло. *Тропачка, шо лён тропаць.* Запясочча. *Тропачкою тропалі лён, вона ек весло, только мала.* Там жа.

ТРОПІ′НКА *ж.* Сцяжынка. *Ідзі гэтою тропінкою до рэкі.* Лутκі.

ТРОСА′ *ж.* Трос, да якога прывязваецца якар. Запясочча.

ТРОСК *м.* Нізка ўюноў для продажу. *Троск мо то сто мэток будзе.* Мачуль. *Троск уюноў — 12 мэток, як продаваць.* Хотамель.

ТРО′СКА *ж.* Мера палатна ў 100 метак. *Троска мо сто меток?* Велямічы.

ТРО′СТКА *ж.* Нізка ўюноў для продажу. *Тростку уюноў продаў.* Лутκі.

ТРОСЦІ′НА *ж.* Трысцінка (у бёрдзе). *Трэ набіраць у бердо по дзве ніткі ў одную тросціну.* Запясочча. *Тросціна́.* Аздамічы.

ТРОСЦІ′ЦЬ *незак.* Трысціць. *Трошчыш ніткі, а потом іх сучыш.* Лутκі.

ТРОСЦЬ *ж.* Трысцінка (у бёрдзе). Запясочча.

ТРО′ХА, ТРО′ХІ, ТРО′ХУ *прысл.* Трохі. *Дождаў жыткі — розжыўса троха.* Пагост. *Там троха людзей стоіць, у другім месцы троха.* Кароцічы. *Троха від промуў да ўсе.* Мачуль. Аздамічы. *Дай і мне трохі орэхоў забавіцца.* Пагост. *Мо трохі откосіцца.* Бярэжцы. *Прокінуўса трохі.* Аздамічы. *Пойду поем трохі.* Сямігосцічы. *Троху булі ягоды.* Бярэжцы. *Скрыпач грае, мотлюхае троху.* Кароцічы.

ТРОХРО′ЖКА *ж.* Рогі лася, прыстасаваныя пад вешалку. *Трохрожка лосіна.* Хотамель.

ТРОХСЦЕ′НКА *ж.* Трысцень. *У трохсценцы сцёбка е.* Дварэц.

ТРО′ШКА, ТРО′ШКІ *прысл.* Трохі. *Трэ коровам сена положыць трошка.* Цераблічы. *Газулька горыць і відно трошкі.* Сямурадцы. *Ек з'есі трошкі, то хочэцца курыць.* Лутκі. *Трошкі поспаў.* Аздамічы. *Памянш.* тро́шэчка. *Трэба багато, а ты думала трошэчка.* Сямігосцічы.

ТРОШЧО′БА *ж.* Гушчар, нетра. *Убіўса ў таку трошчобу, шо ледзь-ледзь вулез.* Буразі.

ТРОШЧЫ′ЦЬ, ТРУ′ШЧЫЦЬ *незак.* Трушчыць. *Косці ломіц, трошчыц цебе, і тэ боліц, і тэ боліц, і не зна-*

*еш, шо боліц*. Запясочча. *Вуліўкою голову кожушкам трошчыў, а то вускакваюць з лодкі*. Там жа. *Собака косці трошчыць*. Аздамічы. *Сундукі трошчылі, ломалі*. Мачуль. *Оны того собаку трошчаць*. Там жа. *Не трэ трушчыць боцьвінье*. М. Малешава. Есці што-н. са смакам. *Трошчыць яблука-зеленчукі*. Пагост.

ТРО'ШЧЭНЫ *дзеепрым*. Стрышчаны. *Дзве разом трошчэные, сучуць потом*. Луткі.

ТРОЯНЫ' *прым*. △ Т р о я н ы́ е в і л к і. Трохзубовыя вілкі, тройні. *Трояные вілкі дерэвяные трусіць солому набок*. Хотамель.

ТРОЯ'ЧКА *ж*. Трохрублёўка. *Троячка зароблена*. Бярэжцы.

ТРУБ *м*. Крык, гвалт. Запясочча.

ТРУБА' *ж*. Пастухова труба. *Быліі трубы круховые і з осіны*. Альшаны. *Труба з коровечого рога*. Цераблічы. *Труба із крухі робіцца*. Аздамічы. *Абу-шчо, короўзно, труба!* (тут — пражора). Там жа.

ТРУ'БЕС *м*. Галашэнне, моцны плач. *Я ў голос, да ў трубес, да стала плакаць!* М. Малешава.

ТРУБЕ'Ц *м. экспр*. Канец, капцы. *Коб дзесець шэршнёў ушпіліло, то трубец!* Аздамічы.

ТРУБІ'ЦЬ *незак*. 1. Трубіць. *Вон трубіць, товар згуквае, а му гукаем: «Ого-го-го»*. Бярэжцы. *От параход трубіць — скорэй шчоб стараліса бегці*. Там жа. 2 *перан. экспр*. Піць, ссаць. *Вон у бочку з рэкі нальe воды, да жонкі труб'яць*. Запясочча.

ТРУ'БКА *ж*. Сувой. *Горном трубку полотна*. Цераблічы. Кулёк. *Зробі трубку собе, чэрніц дам*. Аздамічы. △ У т р у б к у. Пра збожжа, якое яшчэ не высыпала. Альпень.

ТРУДЗІ'МЫ *прым*. Працавіты. *Век у нішчоце жыла, трудзіма вона*. М. Малешава.

ТРУДЗІ'ЦЦА *незак*. Працаваць. *Трудзіцца будзе, то будзе усе: і есці, і носіць*. Луткі.

ТРУДЗЯ'ШЧЫ *прым*. Працавіты. *Трудзяшчы бацько робіў, а нетрудзяшчы сын спожывае*. Верасніца.

ТРУ'ДНО *прысл*. Цяжка, трудна. *Ой, брат, трудно удзержаць*. Пагост. *Трудно було з войны*. М. Малешава. *Трудно одному жыць*. Луткі. *Трудно попасць івіну, усе подзерлі да поскобілі*. Там жа. *Тэ старэ, тэ малэ, то трудно*. Сямігосцічы. *Воны цепер само трудней робяць*.

Верасніца. *Колісь то без машын, то трудней робілі.* Пагост.

ТРУ'ДНОСЦЬ *ж.* Цяжкасць. *Така трудносць була после войны, беднота, голота.* Верасніца.

ТРУІ'ЦЦА *незак.* Труціцца. *О, вона ж дурная, труіласа з-за його!* Мачуль.

ТРУІ'ЦЬ *незак.* Труціць. *Сталі труіць этые траву.* Луткі.

ТРУМ *м.* Трум. Запясочча.

ТРУ'МКАЛО *н. экспр.* Скрыпка. Запясочча.

ТРУ'МКАЦЬ *незак.* Трынкаць. *Коля трумкае на скрыпцы.* Запясочча. Плакаць, раўці, ныць. *Не трумкай, раз не хочэш!* М. Малешава. Невыразна вымаўляць. *Ходзіць за чоловеком да ўсе трумкае.* М. Малешава. *Молодые не поюць, а трумкаюць.* Старажоўцы.

ТРУНА' *ж.* Труна. *Покойніка кладуць у труну.* Альпень.

ТРУПА'РНЯ *ж.* Морг, трупярня. *Морх кажуць, а по-нашому зовуць трупарня.* Сямурадцы.

ТРУ'ПЕСОК *м.* Друз, трэскі і інш. *Трупесок, як розбіла посуду у хаці.* Тураў. *Така земля, трупесок, не песок і не глей.* Старажоўцы. *Столочылі оўёс — трупесок.* Дварэц. *Надзелаў трупеску* (тут — разлад у сям'і). Запясочча.

ТРУПНЕ'ЦЬ *незак.* Бразгатаць, брынчаць (пра надтрэснутую пасуду). *Ек глёк поколаты, то трупніць, а ек цэлы, бу звон звоніць.* Верасніца.

ТРУС *м.* Баязлівец. Запясочча.

ТРУ'СЕНЬ *ж.* Трасянка. *Подавай коровам трусені.* Аздамічы.

ТРУСІ'ЦЦА *незак.* Трэсціся. *Той конь чуе, шо подходзяць воўкі, трýсіцца.* Мачуль. *Так дрыжу, так дрыжу, шо дзержу грудзі, а оны трусяцца.* Бярэжцы. *Як почнуць воны, тые молодые, трусіцца да опгінацца.* Сямігосцічы.

ТРУСІ'ЦЬ *незак.* 1. Трэсці, растрасаць. *Натрусілі мешок яблук і йшчэ будом трусіць.* Тураў. *Годзі трусіла, ты іх у картоплях не пособіраеш.* Луткі. *Уставай, давай будом трусіць сено!* М. Малешава. 2 *перан.* Шукаць. *Пошоў трусіць по одрынах старшына.* Луткі. △ Т р у с í ц ь к ó м і н а. Ачышчаць комін ад сажы. *Ек я трусіла коміна, то буў поўны жужэлю.* Луткі.

ТРУСК *м.* Дробныя галінкі. *Малы голубец робіць кубло іс труску дзе на голінцы.* Мачуль.

ТРУ'СКА *ж.* Трэска. *Укіньце труску ў печ да спечэце собе еешню.* М. Малешава. *Памянш.* т р у́ с о ч к а. *Ек не зырко, то трусочку тоненьку кінеш дай запечэцца хлеб хорошэ.* Верасніца.

ТРУСКА'ЎКІ *мн.* Клубніцы. *А чэрвоны ягоды, то трускаўкі.* Мачуль.

ТРУСЛІ'ВУ *прым.* Баязлівы. *Наша сем'я вобшчэ труслівая.* В. Малешава.

ТРУ'СНІК *м.* Друз, трэскі. *Там е труснік, ломач'е дробнэе, роспальваць.* Старажоўцы.

ТРУ'СОК *м.* Тонкія галінкі, трэскі і г. д. *У розліў наплувае багато труску ўсякого, это палкі, да посохнуць, тоды оны на подпал добрые.* Верасніца. *Я розобрала старого плота, да будзе труску на цэлу восень.* М. Малешава. *Труском печы не натопіш, але его добрэ подкідаць, ек печэш млінцы.* Тураў.

ТРУСЯ'НКА *ж.* Трасянка. *Коровам натрусіў сена з соломою, то называюць трусянка.* Лутکі. Страва з некалькіх прадуктаў. *Натоўчы картоплі з крупою да з салом, то будзе трусянка.* Луткі.

ТРУ'ХА *ж.* Картачная гульня. Пагост.

ТРУ'ХАЦЬ *незак.* Трухаць. *Лось лінею трухае, а я тут беру ягоды.* Хачэнь. *Трухае, ек конь.* Бярэжцы.

ТРУХЛІ'НА *ж.* Трухляк. *Прынеслі того чоловека ек трухліну дзерэво* (пасля пакарання розгамі пры паншчыне). Верасніца.

ТРУ'ХЛЫ *прым.* Трухлявы, крохкі, нямоцны. *Летом хрэн такі трухлы, нема ў ём моцы.* Сямігосцічы. *Стане трухлэ дзерэво.* Аздамічы.

ТРУХНІ'ВУ, ТРУХНЯ'ВУ *прым.* Тое ж. *Поломалі гэта шуедзь трухніву плот.* М. Малешава. *Старэ трухніве, шо чоловек, шо дзерэво.* Пагост. *Трухнівуе стоўпу, можэ поваліцца плот.* Там жа. *Стары трухняву дуб свеціцца цалу ноч.* М. Малешава. *Трухня́вы.* Запясочча.

ТРУХНЕ'ЦЬ *незак.* Брынчаць, брынкаць, бразгацець (пра надтрэснутую пасуду). *Горшчок трухніць, колі побіты.* Луткі. *Вона бу гнілая ветла, да не трухніць* (тут — пра старую поўную жанчыну). М. Малешава.

ТРУ'ХНУЦЬ *незак.* Трухлець. *Дуб трухне — гэто зогніе.* Кароцічы.

ТРУ'ХОМ *прысл.* Трушком, трухам. *Трухом побег*

*конь за село на пожню.* Луткі. *Трухом бегае на двор, гоніць.* Пагост. *Трюхом.* Альшаны. *Бежыць конь трушко́м.* Верасніца. *Едзе трушко́м на коні.* Аздамічы.

ТРУ'ЦЕНЬ *м.* Труцень. *Рой без трутнёў не можэ лецець.* Луткі. *Пчолы трутня за крыла да вон.* Альпень.

ТРУЦІ'ЗНА *м.* Атрута. *Усяка труцізна сыплецца.* В. Малешава.

ТРУЦІ'ЦЬ *незак.* Труціць. *Бульбу труцяць, колі жукоў богато.* М. Малешава. *Нашчо мне труціць іх?* Бярэжцы.

ТРУШЧА'ВІНА *ж.* Трэска. *Укіньце трушчавіну ў печ да спечэце собе сало на покос.* М. Малешава.

ТРУЯ' *ж.* 1. Пацяруха. *Труя насыплецца, ек сено кідаюць у одрыну. Беруць гэту трую, парацъ і кладуць до ног.* Сямігосцічы. *Посеклі мушы снопы на трую!* Там жа. *Труя сыплецца, як сено прывезеш.* Альшаны. 2. Атрута. *Ох, птху! Не еда там, да труя!* Луткі. *Труя ты!* Аздамічы.

ТРЫ *ліч.* Тры. *А бо́льшых это тры, а я меньша* (пра сясцёр). Пагост. *Накосіў, будзе коп тры.* Хачэнь. *Тры раз ходжаў і находжаў дзесець бітоноў меду.* В. Малешава. *Тры граночкі дзялка.* Бярэжцы. *Було іх трох, пошлі ў горох, одзін слепі, другі крыві, трэці глухі. Одзін ка — бежыць, другі ка — стучыць. А крывы ка — уцекаймо!* (з казкі). Там жа. *Добра баба і тром госцям рада* (прыказка). Старажоўцы.

ТРЫБЛА'ТЫ *прым.* Трыбухаты. *Трыблата корова, трыбло ледво цягне.* Запясочча. *Трублата корова, гладка, чэрэво веліке мае.* Там жа.

ТРЫБЛО' *н. экспр.* Пуза, трыбух. Тураў.

ТРЫБУШНО' *прысл.* Сытна, трывала. *Зелье свіньям не трыбушно, едзяць і крычаць.* Луткі.

ТРЫБУШЫ'ЦЬ *незак. экспр.* Тармашыць, будзіць. *Трыбушы ее, хай устае.* Пагост. Падварушваць. *Трібушіць сено, а потым давай грэбці.* Хотамель.

ТРЫВА'ЦЬ *незак.* Трываць, вытрымліваць, стрымлівацца. *Як ты трываеш, так холодно?* Аздамічы. *Ужэ гэто трэбо трываць, не перэбіваць* (маецца на ўвазе магнітафонны запіс). Луткі.

ТРЫВО'ГА *ж.* Трывога. *Усе на трывозі зарэ.* Сямурадцы.

ТРЫВО'ЖЫЦЦА *незак.* Трывожыцца. *Трывожыцца нешчо вон.* Кароцічы.

ТРЫВО'ЖЫЦЬ *незак.* Трывожыць, непакоіць. *Як спа-*

*лі, як ночовалі, шо трывожыло?* Сямурадцы. *Трывожыть.* Альпень.

ТРЫ'ЗНА *ж.* Памінальны абрад па нябожчыку. *Мы ужэ трызну справілі по бацьку.* Мачуль.

ТРЫЗНІ'ЦЬ *незак.* Трызніць. М. Малешава.

ТРЫ'КАЛО *н. экспр.* Той, хто картавіць, не вымаўляе гука *р.* Аздамічы.

ТРЫ'КАЦЬ *незак.* Невыразна вымаўляць словы, картавіць. *Ек чоловек зацінаецца, не можэ слово добрэ вумовіць, то кажуць вон трыкае.* Кароцічы.

ТРЫ'КОВЫ *прым.* Картавы. Аздамічы.

ТРЫМА'ЦЬ *незак.* 1. Трываць. *Час холоду трымаць важко!* Сямурадцы. 2. Трымаць. *О так о трымаю.* Кароцічы.

ТРЫМКОЦЕ'ЦЬ *незак.* Трымцець, трэсціся, калаціцца, дрыжэць. *Той бацько трымкоціць усей.* Сямурадцы. Тромкаць, няўмела іграць. *Трымкоціць на гітары, шо вушы заложвае.* Пагост.

ТРЫНДЫ'КАЦЬ *незак.* Ледзьве хадзіць ад хваробы. *Моя зовіца ледзь трындычэ, трэбо ў больніцу везці.* М. Малешава. Гаварыць абы-што. *Вот гэтые бабы абышчо трындычуць.* Хотамель.

ТРЫ'НКА *ж.* 1. Картачная гульня. Пагост. 2 *экспр.* Худая жанчына. Запясочча.

ТРЫ'СТА *ліч.* Трыста. *Ему ў жак улезло трыста круглёў.* Верасніца. *На трыста кіло бучок, шчэ малы здаваць.* Пагост. *Тры́сто.* Кароцічы.

ТРЫЦЦА'ТКА *ж.* Трыццатка. *Трыццатка дошчка крышу подшываць.* Дварэц.

ТРЫ'ЦЦАЦЬ *ліч.* Трыццаць. *Водзяны млін як добро меле, то пудоў трыццаць змеле.* Мачуль.

ТРЫ'ШТЫ *мн.* △ У т р ы ш т ы. У тры разы. *Ілюша мой больш у трышты коўтнуў за вас.* Дварэц.

ТРЭ'БА, ТРЭ *прысл.* Трэба. *Усім трэба, то мо й мне трэба.* Сямурадцы. *Говорыць тэ шо не трэба.* Там жа. *Ек богу трэба, так і собе трэба.* Там жа. *Кому вона трэба з двума дзецьмі?!* Пагост. *Я ім трэба, бо я своя ім.* Хачэнь. *Трэба попутаць.* Аздамічы. *Трэбо зробіць допрос.* Там жа. *Вот гэтак ему і трэ.* Там жа. *У больніцу трэ ему ложыцца, а вон не хоче, сено трэ робіць.* Пагост. *Вілкі тобе трэ?* В. Малешава. *Заўтра субота, то трэ будзе подлогу помуць.* Кароцічы. *Корову доіць трэ.* Бярэжцы. *Йдзі, як тобе трэ.* Хотамель. *Вода ж трэ, ек хлеб, без воды ж не*

*будзеш.* Старажоўцы. *Тобе гэто трэба, ек лысому грэбёнка* (прымаўка). Там жа.

ТРЭ'ЙКО *н.* Тры разы. *Я только трэйко сёлета була у ягодах.* Мачуль.

ТРЭЛЬ *ж.* Высокае месца, куды звозяць спілаваны лес у час лесараспрацовак. *Вувезлі лес на трэль: одну колоду, другу.* Запясочча.

ТРЭЛЯ'ЦЬ *незак.* Траляваць. *Трэляюць лес на бор.* Запясочча.

ТРЭМБУ'ЛКА *ж.* Азімая цыбуля. Альпень.

ТРЭПА'ЛКА *ж.* Трапло. *У цебе вельмі веліка трэпалка.* Азяраны.

ТРЭПА'ЦЬ *незак.* Трапаць. *Жменю трэпаеш і складаеш у пукі.* Луткі. *Узяць кусок дзерэва, зробіць з его трэпашку і трэпаць лён.* М. Малешава. *Осталосо вельмі мало лёну ўжэ трэпаць.* Азяраны. *Не брат, не брат, да сестры косоньку трэпаў* (з песні). Луткі. *Не брат коску трэпле, а чуж-чужыніца* (з песні). Пагост.

ТРЭПА'ШКА *ж.* 1. Трапло. *Трэпашка мае два канты гострые і ручку.* М. Малешава. *Одноею рукою лён на стоўпцэ дзержу, а другою — трэпашку, да так і трэплём.* Кароцічы. 2 *перан.* Трапло (пра чалавека). *Трэпашка, мо б сціхла ты, а то менціш езыком, ек корова помелом.* Верасніца. *Ой трэпашка, шо ты трэплеш!* М. Малешава.

ТРЭПЕСТА'ЦЬ *незак.* Трапятаць. *Трэпешчэ, трэпешчэ крыламі певень да заспевае.* Бярэжцы.

ТРЭПЕСТУ'Н *м.* Трапло. *Трэпестун вельмі багато трэпешчэ езыком.* Аздамічы.

ТРЭПЕСТУ'ХА, ТРЭПЕТУ'ХА *ж.* Тое ж. *Трэпетуха вельмі бувало трэпешчэ езыком.* Аздамічы. *Трэпетуха, трэпешчэ езык, ек онуча од ветру.* Пагост. *Трэпестуха.* Аздамічы.

ТРЭПКА'Ч *м.* Трапкач. *Трэба его трэпкачэм вудзюжыць.* Тураў.

ТРЭ'ПКІ *мн.* Канцы ў кроснах. *Трэпкі посучэмо, да трэпкач.* Сямігосцічы.

ТРЭПЛО' *н.* Трапло. *Найшла кому верыць, то ж такое трэпло — і слова праўды нема!* Верасніца.

ТРЭПНУ'ЦЦА *зак.* Уздрыгнуцца, страпянуцца. *Трэпнецца рыба, я зноў бліжэй.* Луткі.

ТРЭПНУ'ЦЬ *зак.* Стукнуць, ударыць. *Як трэпне ногою товарына ў ведро з молоком!* Цераблічы.

ТРЭ'СКА *ж.* Трэска. *На дворэ валяліса трэскі смол-*

*ные і дубовуе.* Верасніца. *Возьмі трэскі на огонь.* Бярэжцы. *Заколола ногу трэскою.* Альшаны. *Памянш.* т р э́ с о ч к а. *Трэбо іці зобраць трэсочкі.* Аздамічы. *Обчэсаеш колоду, то трэскі, а жэрдку — то трэсочкі.* Пагост.

ТРЭ'СКОТ *м.* Трэск. Запясочча.

ТРЭ'СКОЦЕНЬ *м.* Траскучы мароз. *Сегодні такі трэскоцень.* М. Малешава. *Не мороз, а трэскоцень!* Любавічы. *От трэскутень мороз, шо не выйдеш.* Рубель.

ТРЭСКУ'ЧЫ *прым.* Траскучы. *Трэскучы мороз на дворэ.* Запясочча.

ТРЭСКУ'ШКІ *мн.* Дзіцячая гульня: дзеці бягуць гуртам па маладым лёдзе, які моцна ўгінаецца і трашчыць. *Трэскушкамі строшчылі лёд дзеці.* Пагост.

ТРЭ'СНУЦЬ *зак.* Трэснуць. *Бувае, стакан трэсне.* Бярэжцы. *Эта понімае, коб вона трэснула!* (праклён). Сямурадцы. *Пей хоць трэсні, да есці не просі* (прыказка). Хачэнь.

ТРЭ'СЦІСА *незак.* Трэсціся. *Ланцемі трэсецца, з его людзі смеюцца.* Сямурадцы.

ТРЭ'ЦІ, ТРЭ'ЙЦІ *ліч.* Трэці. *Тылько трэце лето, ек вона тут замужэм.* Хачэнь. *Воны ужэ на трэцім месці жывуць.* В. Малешава. *Ек будуць ехаць того то того купца, я з імі поеду трэці* (з казкі). Кароцічы. *А трэці бегае за другім целям.* Бярэжцы. *Трэйцего дня нашлі, два дні стояў.* Там жа. *Ек вуйдзе тры недзелі молодзіку, то кончаецца трэйця квадра.* Верасніца. *Першы дзень — госць срэбро, а другі дзень — медзь, а трэйці — домоў едзь* (прымаўка). Старажоўцы.

ТРЭЦІ'НА *ж.* Трэцяя частка зямельнага надзелу. *У моей мацер землі трэціна була.* М. Малешава.

ТРЭЦЯ'К, ТРЭЙЦЯ'К *м.* 1. Трацяк (пра жывёлу). *Трэцяка ужэ запрэгаць можна.* Запясочча. *От корова трэцім годом — трэцяк.* М. Малешава. 2. Трэцяя частка ўраджаю. *Мой бацько там шчэ сеяў на трэцяк.* Цераблічы. *На трэцяк пашэ землю.* Там жа. *Трэйцяк земле пану, а остатне нам.* Пагост. 3. Трэці пастух. *З одного конца ідзе трэйцяк, а з другого подпасовіч.* Старажоўцы. △ Н а т р э й ц я к. З аддачай трэцяй часткі ўраджаю, сабранага з арандаванага ўчастка. *На трэйцяк колісь дзелілі.* Хачэнь.

ТРЭЦЯ'КА, ТРЭЙЦЯ'КА *ж.* 1. Трацяк (пра жывёлу). *Трэцяка целушка у мене. Целушка другі год по пашы хо-*

*дзіць — то трэйцяка.* Луткі. Цераблічы. 2. Трэці пастух. Аздамічы.

ТРЭШЧА'ЦЬ *незак.* Трашчаць. *Велікі мороз аж трэшчыць на дворэ.* Луткі. *Осіна моцно трэшчыць, это чэр'які трэшчаць у ей.* Там жа. *Ек весна, трэшчыць усе* (ад спеваў птушак). Хачэнь. *Ек у печэ будзе трэшчаць, то ліха пора на дворэ будзе* (прыкмета). Цераблічы. *Да будзе голова трэшчаць.* Запясочча. *Пошыла таке цеснэ, шчо і трэшчыць.* Бярэжцы.

ТУ'БОЛЕЦ, ТУ'ПАЛЕЦ *м.* Карэнны жыхар. *Му тут век жывом, му тут тубольцы.* Аздамічы. *Мы гэттыка годоваліса і нашы деды, то мы тубольцы.* Рубель. *Ляшкевічы самые тубольцы, а етые усе прыволокі.* Альпень. *Тубольцы — это Дорошко, а другіе — навозные.* Буразі. *Туболец тут жыве век.* Старажоўцы. *Буў Занко да Марко, тубольцы у селе, остатніе прымакі.* Чэрнічы. *Тупалец — гэто постояннік, а тые ляхі называліса.* Хачэнь. *Тупалцы воны тута, не прыежджые.* Луткі.

ТУ'БОЛІЦА *ж.* Карэнная жыхарка. *Я туболіца, а вона прыволока.* Запясочча.

ТУ'БОЛКА, ТУ'ЛУБКА *ж.* Тое ж. *Вона туболка, а я—наволоч.* Верасніца. *Гэля ж тулубка лічыцца, а му — прыплоўнікі!* Крэмна.

ТУГА' *ж.* Туга. *Жыву дзед, у тузе вон жыве, бо сын з войны не прышоў.* М. Малешава.

ТУ'ГАЦЬ *незак.* Гайдаць, вагаць, штурхаць. *Не тугайце там лодку!* Кароцічы. Насіцца з вугла ў вугал, тупацець. *Овечкі тугаюць по одрыні.* Запясочча. *Ужэ нехто йдзе к нам, ужэ нехто тугае коло хаты.* Старажоўцы.

ТУГІ' *прым.* Тугі. *У корову здоровые цыцкі, туга вэльмо.* М. Малешава. *Як доіць важко, то туга корова.* Цераблічы. *Под Хільчыцы туга земля.* Запясочча. *Целом туга корова, поцяні, то ек з воўчых зубоў* (пра вымя). Старажоўцы. *Тугі кашэль, не проходзіць.* Там жа.

ТУ'ГНУЦЬ *зак.* Тупнуць, стукнуць, загрымець. *Вон ідзе ні тугне, ні стукне.* Мачуль.

ТУ'ГО *прысл.* Туга. *Зусім туго веранда одчыняецца ў мого суседа.* М. Малешава.

ТУГОНЕ'ЦЬ *незак. экспр.* Тупацець, грукацець. *Толькі ўлез у хлеў — тугоняць за ім воўке.* Мачуль.

ТУД, ТУДЫ' *прысл.* Туды. *Ідзе туд, до его.* Мачуль. *От туд, от сюд грыбы по два седзяць!* Цераблічы. *Абу вушла на той ганок, то очы мое туды позіраюць* (у бок

роднай вёскі). Хачэнь. *Полешукі навек туды на Украіну везуць грыбу!* Дварэц.

ТУДО'Ю, ТУДЭ'Ю *прысл.* У тым кірунку, у той бок. *Ік дзядзьку я йшоў тудою, а назад — сюдою.* Тураў. *Правільно здзелаў, шо я послухаў да не поехаў тудою.* Кароцічы. *Скрозь шоша ў Слепцы пошла тудэю.* Пагост.

ТУЖЫ'ЦЬ *незак.* Тужыць, нудзіцца, гараваць. *Ек хто помрэ, то от вона тўжыць, красного не ўскладае.* Бярэжцы.

ТУЖЭ'ЦЬ *незак.* Тужэць, станавіцца тугім. *Жыто тужэе.* В. Малешава.

ТУ'ЗНУЦЬ *зак.* Тузануць. *Як тузне — кверху подымай* (сетку). М. Малешава. *Ек тузне рыба того мотуля, то трэ цегці.* Верасніца.

ТУК *м.* Дух. *Од старого й тук неважны йдзе.* Пагост.

ТУЛІ'ЦЦА *незак.* Туліцца. *Туліцца, коб не кольнула корова рогом.* Хачэнь. *Нада було туліцца к кожному.* Старажоўцы.

ТУЛІ'ЦЬ *незак.* Утойваць, скрываць. *Так ужэ тулю, шчоб своім дзецям оставіць молоко.* Дварэц.

ТУ'ЛОБ, ТУ'ЛУБ, ТО'ЛУБ *м.* 1. Тулава. *Тулоб тут, а душа дома* (з казкі). М. Малешава. *З войны прышоў — остаўса одзін тулоб* (без рукі і нагі). Старажоўцы. *Тўлуб, тóлуб.* Запясочча, Альшаны. 2. Вялікі доўгі кажух. *То той сторож буў у тулобе да ўпаў, да накріўса, то вон ёго пом'яў дай пошоў далей* (пра мядзведзя). Бярэжцы. *Тўлуб.* Альшаны. *Тóлуб.* Запясочча. 3. Аснова лапця. *Вуплеў тулоба, а трэ шчэ подплесці подо дном.* Аздамічы. 4. Аснова жака (венцера). *Жачок с крыламі, с тулубом.* Цераблічы. *Памянш.* т у л у б ó к. *Пошыў собе маленького тулубка.* Луткі.

ТУ'ЛЮ-ТУ'ЛЮ *выкл.* Выгук, якім перадаецца ігра на дудцы. *На болоці росла бы просінка, зрэжэ ее, грае ў дудку тулю-тулю.* Цераблічы.

ТУЛЯ'ЦЦА *незак.* Туляцца. *Як прыдзе леснік, то тые, хто без квітка, ховаюцца да туляюцца!* Цераблічы. *От усего туляецца, хаваецца, не хочэ робіць.* Аздамічы. *Туляецца, ек той собака, без роботы.* Луткі.

ТУМА'ЖЫЦЦА *незак.* Хмарыцца. *Небо тумажыцца.* Верасніца. *На дворэ тумажыцца, пойдзе дождж.* Старажоўцы.

ТУМА'К *м.* Цёмны, неадукаваны чалавек (?). *Тумак ты, шчо ты гакаеш!* Сямурадцы.

ТУМА′Н *м.* 1. Туман. *Молочны туман, да грібу будуц.* Запясочча. *По логах туман ек молоко.* Пагост. 2 *перан.* Неадукаваны, цёмны чалавек. *Тоды людзі туманы булі, нічого не ведалі.* Крэмна. △ Тума́н напусціць. Адурманіць, абмануць. *Ужэ вон еты туман напусціў і на іх, на этых жонок.* Бярэжцы. *Цыганка туман напусціць, то жонка сама усе оддае.* Тураў.

ТУМА′НІЦЦА *незак.* Туманіцца. *Туманіцца ў вочох од слёз.* Пагост.

ТУ′МНО *прысл.* Змрочна, няясна, мутна, туманна. *Тумно, нічого не відно.* Мачуль. *Як туман, то тумно.* В. Малешава. *Ек добро очы не гледзяць, то тумно.* Старажоўцы. *Сонца нема, хмарно, тумно.* Луткі. *Зарэ нема погоды, тумно.* М. Малешава. *От мне і сейчас уродзі туман, тумно.* Буразі. *Мне тумно ў вочах стало, зоры посыпаліса.* Сямурадцы. *Тумно, тумно, только відзен зелёны дубочок* (з песні). Аздамічы.

ТУ′МНЫ *прым.* Мутны, няясны, матавы, без бляску. *Его муй не муй — усе одно неке таке тумнэ дзерэво* (пра стальніцу). Верасніца. *От екіе тумные фотокарточкі, нічого не відно.* Цераблічы. *Блёкот цвіце тумным і чорнэ насенье ў голоўках.* Там жа.

ТУПАНІ′НА *ж.* Тупанне, хаджэнне. *Там столько тупаніны коло его!* Сямігосцічы.

ТУ′ПАЦЬ *незак.* Таптацца, тупаць. *Тупаймо, шоб ногі не змерзлі.* Пагост. *Тупай, бо зарэ будзеш у зубах воўка.* Луткі. *Шчо вон тупае, дай і ему шчо-небудзь* (пра сабаку). В. Малешава.

ТУПЕНІ′ЦЬ *незак.* Тупацець. *Так етые коні так тупеняць!* Запясочча.

ТУПІ′ЦА *ж. экспр.* 1. Тупая сякера, нож і інш. *От тупіца, а не нож, і на чоловека кажуць тупіца.* В. Малешава. *Ек добрэ плечэ, то і тупіца сечэ* (прыказка). Сямігосцічы. *Добрэ плечэ і тупіцэю сечэ* (прыказка). Луткі. 2. Неадукаваны, абмежаваны чалавек. *Така тупіца його бацько!* В. Малешава.

ТУПІ′ЧЫЦЬ *незак.* Тупаць. *Дубовые робяцца да на дном месці тупічуць.* Хачэнь.

ТУПОВА′ТЫ *прым.* Разумова абмежаваны, някемлівы. *Я вельмо туповата була.* В. Малешава. *Вон такі туповаты чоловек!* Там жа.

ТУ′ПОЛО *н.* Від рыбалоўнай снасці. Бярэжцы. Той, хто моцна грукае нагамі пры хадзьбе. Запясочча.

ТУПРУ'ЛЬКАСЬ-ТУПРУ'ЛЬКАСЬ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць каня. Азяраны.

ТУПТАНІ'НА *ж.* Тупаніна, тупанне, хаджэнне. *Ні воддыху, ні роботы, одна туптаніна.* М. Малешава.

ТУ'ПТАЦІ *незак.* Хадзіць, тупаць. *Свое веселье не чужэ — будзеш туптаці.* Сямігосцічы.

ТУПУ' *прым.* Тупы. *Погостры об прыпечок нож, тупу, мяса не рэжэ.* Пагост. Лянівы, ціхі. *У ёго тупу конь буў.* Запясочча.

ТУ'ПЧАЦЬ *незак.* Бясконца пераступаць з нагі на нагу, тупаць, таптацца. *Целя тупчэ, тупчэ, а коб ему хлевушок цёмны, то не так бу мухі кусалі.* М. Малешава. *Тупч дай тупч у хаці цалу зіму.* Мачуль. *А мне тупчы і тупчы.* Там жа. *Тые коні тупчуць, тупчуць.* Старажоўцы.

ТУР *м.* Купальнік (расліна). *Од жолудка, ек зорвесса, то добрэ тур піць.* М. Малешава. *Тур ек шчавер росце.* Там жа. *Тур такім жоўтым цветом цвіце.* Луткі. *На Купалного Івана ходзяць по тур.* Кароцічы. *Тур як бобоўнік, дзе бобоўнік, там і тур росце.* Альшаны. △ Т у р-з е л ь е, з е л ь е-т у р. Купальнік (расліна). *Гэты тур-зелье п'юць, як жывот боліць.* Бярэжцы. *Тур-зелье ўецца на сенокосах, купалі голоў, як коўтун.* Д.-Гарадок. *Зелье-тур.* Бярэжцы.

ТУРБОВА'ЦЬ *незак.* Турбаваць. *Дажэ ей трохі не турбуе, шо сором нейкі.* М. Малешава.

ТУРБУШЫ'ЦЬ *незак.* Тармасіць, тузаць. *Вон ее турбушыць.* Хачэнь.

ТУ'РЗАЦЬ *незак.* Тузаць (лейцамі). *Не турзай коня.* Альшаны.

ТУ'РЗНУЦЬ *зак.* Тузануць. *Ек коні турзнуў, да зачэпіў* (плот). Верасніца.

ТУ'РКАЎКА *ж.* Дзікі голуб. *Туркаўка — ге голубэц у нас зовэцца.* Мачуль.

ТУ'РКАЦЬ *незак.* Буркаваць. *Туркаўка не спевае, не чырыкае, а туркае.* Пагост.

ТУРЛЯ'ЦЦА *незак.* Штурхацца, піхацца. *Мамо, Ваня турляецца.* Запясочча. *У лоцці да на рацэ турляліса.* Там жа. *Турляюцца ў кучы хлопцы, шуткуюць.* Пагост.

ТУ'РНУЦЬ *зак.* Турнуць, штурхнуць. *Трэбо коней тýрнуць, хай бегуць.* Аздамічы. *Гуленько подышоў да турнýў стола ногою.* Запясочча.

ТУРОВЕ'Ц *м.* Жыхар Турава. *З туроўцамі знайса, а*

*хаты не показвай* (прымаўка). Сямурадцы. *Туроўцэ задавастые з колісьнёго.* Пагост.

ТУ′РОК *м.* 1. Турак. *Турок на коне ехаў, уваліўса, утопіўса, да Тур зовуць.* Пагост. 2 *перан.* Той, хто мае разумовыя недахопы. *Турок малы ты!* Бярэжцы.

ТУ′РОЎ *м.* Тураў. *Дзе шапку кінуў турок, да Туроў зовуц.* Запясочча.

ТУ′РОЎШЧЫНА *ж.* Тураўшчына, наваколле Турава. *Як уступілі ў гэту туроўшчыну, як гахнулі на Туроў* (пра фашыстаў). Верасніца. *Освободзілі Туроўшчыну у мае.* Сямурадцы. *Оттуля з Туроўшчыны воны.* Цераблічы.

ТУРУ′КАЦЬ *незак.* Падаваць гукі (пра жаўну). *Коло колоды пчолоў жоўна турукае: турр-турр.* Мачуль.

ТУРУРУ′КАЦЬ *незак.* Падаваць гукі, турчаць. *Увесну по ночох турурукае нешчо ў водзе кругом села.* Пагост.

ТУ′РЫЦЬ *незак.* Турыць. *Тур его отсюль.* Аздамічы. *А кура курыць, а дзед бабу да домоў турыць: «А йдзі, бабо, да домоў, домоў, да напечы мне мліноў, мліноў»* (з песні). Сямурадцы.

ТУРЭ′ЦКІ *прым.* Турэцкі. △ Т у р э́ ц к і  б а г о́ н. Нейкая расліна. Бярэжцы.

ТУТ, ТУ′ТА *прысл.* Тут. *Чуеш, як блёхнуло? Тут рыба е, да узяць ее важко.* Пагост. *Тут усё добро росце.* Аздамічы. *Я тут годоваласа, я тутэйша.* Мачуль. *Шчо б твоя й нога тут не була!* Бярэжцы. *Хто ты такі тута?* Запясочча. *Каця пошла ў лес, а я тута збірала.* Хачэнь. *Ці ўсе ві тута е?* В. Малешава. *Это ж вон мне так устроів тута.* Кароцічы. *Була тута баба, якая мела прашчура.* Там жа. *Тута так не скажуць.* Альгомель. *Тута о град цветы побіў.* Аздамічы. *А тута було трохі хатоў, только мало.* Бярэжцы.

ТУ′ТКА, ТУ′ТОКА, ТУ′ТЭКА *прысл.* Тое ж. *Воны будуць дзве недзелі тутока.* Хачэнь. *Му тутока Езда зовом.* Кароцічы. *Вам жэ тутэка нема задання?* Старажоўцы. *Усе вонэ стояло ў цебе тутэка.* Бярэжцы. *Тутэка большэ зыру.* Луткі. *Тутэка ему було цепло седзець.* Кароцічы. *Ту́тка.* Хільчыцы.

ТУТУ′КАЦЬ *незак.* Падаваць гукі (пра музычны інструмент). *Ой, дудкі булі, шо дулі, шо тутукалі!* Тураў.

ТУТЭ′ЙШЫ, ТУТЭ′ЙСЬНІ, ТУ′ТЭШНІ, ТУТЭ′ЙШНЫ *прым.* Тутэйшы. *Я тутэйша, гэто вона не здзешня.* Сямігосцічы. *Я одсюль, я тутэйшая.* Хачэнь. *Я родом не*

*тутэйшы*. Цераблічы. *Вон не тутэйсьні, не туроўскі жытэль*. Хачэнь. *Вон тўтэшні, а не познаеш*. Дварэц. *Дзе ты жывеш?— Я тутэшня*. Верасніца. *Мой бацько тутэшні, здайна тут жыве*. В. Малешава. *Му тўтэшні*. Бярэжцы. *Не тутэйшные людзі воны*. Запясочча. *Дзеўкі не тутэйшные*. Там жа.

ТУФТА′ *ж*. Хлусня. Верасніца.

ТУ′ХЛІ *мн*. Туфлі. *Зусім порваліса тухлі, ты не одзевай іх, я занесу построіць*. Верасніца. *У цебе тухлі ўсе ў гразе*. Сямурадцы.

ТУ′ХЛОСЦЬ *н*. Тухласць. *Тухлосць воды*. Хачэнь.

ТУ′ХЛЫ′ *прым*. Тухлы. *Нечым у вас тухлым пахне: мо мясо спорцілосо*. Азяраны. Задушлівы. *Тухлы́, глаткі чоловек, ужэ й не варты дыхаць*. Сямігосцічы.

ТУ′ХНУЦЬ *незак*. Тухнуць. *Лампа тухне*. Бярэжцы. Доўга спаць. Запясочча.

ТУ′ЧА *ж*. Залева, праліўны дождж. *Да гроза була, да туча зліла!* М. Малешава. *Ек уліла туча!* Там жа. *Як вулезе оттуль хмара, то знай, шо туча будзе*. Там жа. *Такі дошч, туча лье!* Луткі. *Як туча лье нешчотне веліка*. Талмачава. *Була туча да поўнэ кубло наліло воды, да заліліса бусенята*. Буразі. *От на дворэ туча, лье!* Мачуль. *Туча — махіны дошч*. Аздамічы. *Як дошч такі сільны, то гэто туча*. Альпень. *Не боіцца ні тучы, ні грому*. Сямурадцы. Чорная хмара. *Як наступае чорна хмара, то кажуць туча*. Любавічы. *Ох тучы ішлі нешчыслёные!* Верасніца. *Туча захопіла, да така чорна, да бліскае, да грыміць, да ек уліло, то й рубца сухого не осталосо*. М. Малешава.

ТУ′ЧКА *ж*. Мядзведка. *Тучка корэньчыкі под'едае*. Кароцічы.

ТУ′ЧЫСТЫ *прым*. Праліўны. *Тучысты дождж зліў*. Любавічы.

ТУШ *ж*. Туша. *Залезе бусало у закуток, бу тая туш!* Азяраны.

ТУШКО′ВАНЫ *дзеепрым*. Тушаны. *Елі тушкованые картофлі*. Мачуль.

ТУШКОВА′ЦЬ *незак*. Тушыць. *М'ясо тушкуем, а потом розмешаем з оточынамі*. Альшаны. *М'ясо тушкуем у духу бэз огню*. Мачуль. Пячы бабку. *Поцеруць на тарцы і тушкуюць*. Рамель.

ТУШО′НІКІ, ТУШЭ′НІКІ, ТУШО′НЦЫ *мн*. Тушаная бульба. *Мо ж не картоплі, шоб з іх тушонікоў ці крыша-*

*ны зготовау́.* Дварэц. *Іван, у пече тушонікі у́ чугуне стояць, у обед з кіслым молоком поесці.* Пагост. *Тушонікі тушацца у́ чугуне.* Буразі. *Я цепер тушонікоу́ прыставіла.* Знаменка. *Тушонцы тушкованые.* Цераблічы. *Тушэнікі.* Сямігосцічы.

ТУШО'НЧЫКІ *мн.* Смолка лугавая. *Тушончыкі — воны розовенькіе, кошлаценькіе, хорошые.* Хачэнь.

ТУШЫ'ЦЦА *незак.* Тушыцца. *Колісь баконшчык огне на рэцэ под вечор запальвау́, а цепер воны самі запальваюцца і самі тушацца, вон толькі пітанне меняе.* Пагост.

ТУШЫ'ЦЬ *незак.* 1. Тушыць, гасіць. *Уся вуліца хату тушыла.* Пагост. *Тушы лампу, спаць трэ.* Там жа. 2. Тушыць, смажыць. *І так тушаць гарбузу тую, у печ ставяць.* Луткі.

ТХНУЦЬ *незак.* Тхнуць. *Тхне і сама не ведаю чым.* Аздамічы. *Мед тхне сцепёром.* Хотамель.

ТХОР *м.* Тхор, шашок. *Тхор меньшэ за кота, тоньшэ.* Запясочча. *Тхор курэй вельмо любіць.* Луткі. *Тхор — то курача смерць.* Там жа. *Тхорь.* Альшаны.

ТЦ-ТЦ-ТЦ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць парасят. Запясочча.

ТЫ *займ.* Ты. *Ты б езыком усе зробіла.* Пагост. *А ты нічого не еу́?* Сямурадцы. *Ты не йдзі зо мною!* Любавічы. *І ты зара будзеш плуць.* Бярэжцы. *Там, дзе конь, там і ты.* Кароцічы. *Ты будзеш доу́бешкою у ее.* М. Малешава. *Хто тобе дау́ этых зернет?* Буразі. *І я тобе прау́ды не скажу, шоб я умёр.* Бярэжцы. *Дурочку у́зяу́ — ні бог з тобою, ні чорт з тобою.* Старажоу́цы. *Не дасі корове, то й корова тобе не дасць* (прыказка). Там жа.

ТЫ'ЖДЗЕНЬ, ТЫ'ЖДЖЭНЬ, ТЫ'ЗДЗЕНЬ *м.* Тыдзень. *Ей можно не давац тыждзень есці.* Запясочча. *Шчо тыжня мы ходзім у баню.* Турау́. *Да нема ветру тыждзень.* Мачуль. *У тыжні усякіе дне буваюць.* Луткі. *Пасціла два тыждні.* Сямурадцы. *Мо тыжджэнь плакала по том коне.* Мачуль. *Шо я дурна седзець там тыздзень.* Старажоу́цы. *Едзеш на дзень, а хлеба беры на тыждзень* (прымау́ка). Там жа. *Як тыжджень не поесі, то за булку хлеба оддасі* (прымау́ка). В. Малешава. *Памянш.* т ы ж н ё к. *Шчэ тыжнёк побудзь у нас, сынок.* Пагост. △ Т ы ж д з е н ь х р э с н ы, т ы ж д з е н ь п о х в а л ь н ы, т ы ж д з е н ь в е р б н ы, т ы ж д з е н ь б е л ы. Назвы тыдняу́ посту перад вялікаднем. Цераблічы.

ТЫЖДНЁЎКА *ж.* Тое ж. *Ек шчэ полье з тыжднёўку, то не будзе ходзіць аўтобус.* Цераблічы.

ТЫЖНЁВА'ЦЬ *незак.* Знаходзіцца тыдзень у пэўным месцы. *Хто ж говорыць, коб ты там тыжнёваў?* Луткі.

ТЫ'КАЦЦА *незак.* 1. Імкнуцца. *Іван той і не тычэцца сюда.* М. Малешава. 2 *груб.* Звяртацца на «ты». Луткі.

ТЫ'КАЦЬ *незак.* 1. Тыкаць. *Прыехаў у госці, а людзі ўжэ мне тычуць: беры его.* М. Малешава. *Усе тычэ на градў.* Там жа. 2. Уторкваць, утыкаць. *Клечанье і клён, і орэшнік, і дубка наломяць, тычом перэд порогом по одрынах.* Аздамічы. *Копейкі ў шышку тыкаюць.* М. Малешава. *Сыр тычэм у кору* (на *гу весну*). В. Малешава. 3 *груб.* Звяртацца на «ты». Луткі.

ТЫ'КНУЦЬ *зак.* Ткнуць, сунуць. *Вуж не кусае зубамі, а жолом тыкне да усе.* Мачуль. *Тыкну ў рот яготку, обліжу, обліжу і назад положу* (загадка). *Ложка* (адгадка). М. Малешава.

ТЫКО'ЦЬ *выкл.* Тыц. *Я тыкоць на хату, а вон крычыць: свое, свое!* М. Малешава.

ТЫКУ'Н *м.* Балотны кулік. *Тыкун крычыць: «Тыку, тыку, жонку спеку, дзеці поем, сам уцеку».* Альшаны.

ТЫЛ *м.* Сцяна ў хляве насупраць варотаў. *Плечова шула ў тылу стояла.* Хотамель.

ТЫЛІ'МКАЦЬ *незак.* Няўмела іграць, пілікаць. *Ему хоць языком тылімкай, то будзе танцоваць.* Хачэнь.

ТЫЛО'К *м.* Зад. *Перав'язіста оса як ніточкою, тылок і перэдок у ее.* Мачуль.

ТЫЛЬЁ *н.* Тыльная частка нажа. Рыдча.

ТЫЛЬМА' *ж.* Бабка ў каня. *Тыльмы коню обрэзае на зіму, коб не намерзалі, коб не буў улог.* Цераблічы.

ТЫМ *злучн.* △ Т ы м   ч а с о м. Тады, тым часам. *Тым часом прышоў шчотчык.* М. Малешава.

ТЫ'МБЕР *м.* Чатырохметровая часаная хваёвая калода. Пагост.

ТЫН *м.* 1. Від агароджы. Хотамель. 2. Дранка. *Колочкі под тын б'ём, а по тых колочках тынкуем.* Верасніца. 3. Абкладка калодзежа з плашак. *Шчотку запусцілі ў колодзезь, а на ту шчотку тын закідваецца.* Крэмна.

ТЫ'НБРА *зб.* Тоўстае бярвенне, абчэсанае з чатырох бакоў. *Гонялі плыты лесу: кораўкі, тынбры, шпалы, крэж'е.* Цераблічы.

ТЫ'НБРЫНА *ж.* Тоўстае бервяно, абчэсанае з чаты-

рох бакоў. *Тынбрына — тоўста колода на чотыры бокі чэсана.* Цераблічы.

ТЫНК *м.* 1. Тынк. *А тынк робіцца з гліны і песку.* Тураў. 2. Штакет. *Плот огородіў тынком.* Альпень.

ТЫНКОВА'ЦЬ *незак.* Тынкаваць. *Ужэ і му свою хату тынковалі.* Тураў. *Хату тынкуюць летом.* Дварэц.

ТЫ'НЯ *ж.* Густыя балотныя зараснікі. *А то тут була така тыня, така воўкоўня, онно воўкі бегалі.* Цераблічы. *Зашла у таку тыню, шчо не вубрусці.* Там жа.

ТЫ'РЗАЦЬ *незак.* Тузаць, торгаць. *Дзень будзеш стояць і не бачыць, ці тырзае карась, ці не.* Луткі. *Тырзаюць основу* (пасля вымочвання). Там жа.

ТЫ'РКАЛО *н.* △ У ты́ркало. Дзіцячая гульня ў вайну; у час гульні крычаць «ты-рр!» — страляюць. Запясочча.

ТЫРСА' *ж.* Пілавінне. *Колонку тырсою обсыпала, і зімою не замерзае.* Чэрнічы. *У тырсе лёд лето лежыць.* Пагост.

ТЫРЧА'ЦЬ *незак.* Тарчаць. *Убачыў, шо голова тырчыць.* Хачэнь.

ТЫРЫ'ГАЦЬ *незак.* Трэсці (пра электрычнасць). *Свет тырыгае.* Запясочча.

ТЫ'СЕЧА *ліч.* Тысяча. *Дзве веселы робілі, то поўторы тысечы пошло на однэ.* Луткі. *Тысеча людзей у Погосці, а тысеча мо з'ехала.* Пагост.

ТЫ'ЦНУЦЬ *зак.* Тыцнуць. *Я тыц на двор!* Запясочча.

ТЫ'ЧАЦЬ *незак.* Соваць, усоўваць, тыкаць. *Не тычай пальца ў воду.* Альшаны.

ТЫ'ЧКА *ж.* Тычка. *Тычкі на хвосолю ставяць.* Запясочча. *Поставілі тычкі на тычкову боб.* М. Малешава. *Вуросла дзеўка, ек тычка!* Там жа. *Тычок нарубай на помідоры.* Пагост. Малады парастак ад пня. *Тычка на пню выросла.* Альпень.

ТЫ'ЧЫЦЬ *незак.* Торкаць, уторкваць. *Трэба тычкі тычыць.* Альшаны.

ТЭ'БЕЛЬ, ТЭ'БЕЛ, ТЭ'БОЛ *м.* 1. Тэбель. Хотамель. 2. Драўляны цвік, шпунт. *Тэбель з дзерэва сціраецца* (на полазе). Верасніца. *Забіць тэбля ў тоўстэ дзерэво, шоб однэ одного дзержало.* Сямігосцічы. *Здоровуе шчэ тэблы ў капліцы, бо смолістые.* Пагост. *Ту́бол.* Там жа. 3. Выступ у бервяне, які заходзіць у паз другого бервяна пры складванні зруба. *Тэ́бел.* Кароцічы.

ТЭБЛЁВА'ЦЬ *незак.* Рабіць тэблем дзірку ў бервяне, *Трэба бруса тэблёваць.* Аздамічы.

ТЭЖ *часц.* Таксама. *У бору тэж лоза е.* Цераблічы.

ТЭ'КІНСКІ *прым.*△ Т э́ к і н с к і е  к ý р ы. Парода белых курэй. Кароцічы.

ТЭ'ЛЬБУХ *м. экспр.* 1. Жывот, бруха ў чалавека, жывёлы і г. д. Альшаны. 2. Тоўсты чалавек. Альшаны.

ТЭ'НКАЦЬ *незак.* Гаварыць бяссэнсна. *Тэнкала, тэнкала і пошла, і ніхто нішчо не поняў.* Луткі.

ТЭ'НЧА *ж.* Вясёлка. *Колісь була тэнча, а зарэ радуга.* Сямігосцічы.

ТЭРЭБО'НІЦЬ *незак.* Барабаніць. *Хай тэрэбоніць той дождж.* Верасніца.

ТЭ'ТТА *часц.* Вось там. Запясочча.

# У

У 1 *прыназ.* У (месца, мэта, час і інш.). *Соткі дале́ко ў полі.* Сямігосцічы. *Крутаны́ ў воде сівенькіе е.* Хотамель. *Бага́то воды ўпало ў рэцэ́.* Мачуль. *У той ха́ці волне́й.* Кароцічы. *Воны́ у Ту́роў ездзілі.* Бярэжцы. *У печ ла́зілі лечы́цца ко́лісь.* Хотамель. *Прышоў у са́му глу́пу ноч.* Хачэнь. *Унукі, пра́ўнукі і пра́шчурэ у нашого дзеда.* В. Малешава. *Шо бачыць у цебе, бeрэ.* Бярэжцы. *Прышо́ў ста́рэц у ста́рцы ў село.* Цераблічы. *Покалілас у гразь свіньа́.* Там жа. *У ступах чавілі з се́м'я оле́і.* Кароцічы. *Ценько́м навулёт по́йдзеш — на доро́зе ў вэ́рбах, бы ў вэнку́.* Мачуль. На. *Лотка поплула́, а вон пошоў у дно.* Сямігосцічы. *Бобе́р ек ухваціў голіну, то ў дно, по верху́ не цягне.* Верасніца. *Высо́ко у сто́га кла́сці.* Аздамічы. Каля. *У нас у плоту́ той перэ́ступ росце.* Хачэнь. *Шчо ты стоіш у поро́зі, хочэш, шчоб я замуж не пойшла?!* Луткі. *Хвошч у ку́п'е росце, а хвойка на полі.* Сямігосцічы. *Дзень товар стоіць у этой Прыстані* (возера). М. Малешава. *Галя ў гуся́х, а дзед на со́тках.* Цераблічы. Падчас. *Хоць і ў прычы́не, усе не люблю́ самого́ну.* В. Малешава. *Нёс ее ў обе́дзі на по́ле.* Сямурадцы. Па, за (мэта). *Ходзіла ў орэ́хі.* В. Малешава. *У ягоды, то цепер едуць машыны, а у грыбы́ ніхто не хочэ ехаць.* Там жа. Па (вышыня). *Поверце, кортоплíннік у по́ес чолове́ка!* Пагост.

*Жыто у волокі, урунілосо.* Запясочча. На, пры дапамозе. *Одзін ум'ёр, такі велікі, у гормóніка грай, товар пас.* Цераблічы. *Валілі сукнó у ногáх.* Хачэнь. 2 *выкл.* Пры здзіўленні. *У, кажэ, здороўцэ́ тут ходзілі* (пра сляды дзікоў). Верасніца. А, га. *Ма! — У!* Сямігосцічы.

УБАГАЦЁХ *прысл.* Вялікім гуртам, шмат. *Убагацёх булі, то не вýпілі.* Запясочча.

УБАНДЫ'ЖЫЦЬ *зак. экспр.* Упіхнуць, усунуць. *Куклу убандыжыць у рот дзіцяці і воно ссе.* Альшаны.

УБЕ'ГЦІ *зак.* Уцячы. *Думае, мо упадý, то убегý.* Старажоўцы.

УБІ'РАТЫ *дзеепрым.* Убраны, адзеты. *Я ж была убірата.* Запясочча.

УБІРА'ЦЦА *незак.* Апранацца. *Дóчэчко, уставай да ўбірайса — пожэнеш целя на болóнье.* Тураў. Прыбірацца, адзяваць уборы. *Убірáецца, як попóўна зáмуж* (прымаўка). Альпень. *Я ўбіраласа ў молодые годы, як ішло под восемнаццаць год.* М. Малешава.

УБІРА'ЦЬ *незак.* 1. Прымаць, умяшчаць. *Земля не ўбірае водьí, наліло мóцно.* Цераблічы. 2. Прыбіраць, убіраць. *Шчоб вона мне накамлáла да я буду ўбірáць?!* Бярэжцы. *Картоплі убірала ковалю за клямку.* Дварэц.

УБІ'ЦЦА *зак.* 1. Забіцца; моцна стукнуцца. *Не лезь на дзерэво — не ўб'écca.* Талмачава. *А гэто ж убіўса да ба: як дáўса, то онемеў і оглух да і цепер нéмец.* Бярэжцы. 2. Улезці. *Не можна нідзé убіцца, ек ехаць у суботу аўтóбусом.* Пагост. *А шчоб ето ў гóлову убілоса попутáць!* Дварэц. △ Убіцца мóжно. Пра нешта абуральнае. *Ой, ето ж убіцца можно, подпаліў мáцерыну одрьíну!* Пагост.

УБІ'ЦЬ *зак.* 1. Забіць. *Тых двох убіло, а гэтого хлопца откінуло.* В. Малешава. *Хай іх ліхо увоб'é!* (праклён). Запясочча. *Зговорьíліс да кажэ, шчо за два дні перэд роздвóм Гром* (прозвішча чалавека ў Альшанах) *убіў кобанá, а тьíе кажуць, шчо не можэ такого быць* (т. зв. *смехоўе*). М. Малешава. 2. Выбіць, вытаптаць. *Безугáву бегае по дворý, так убіў такý сцéжку.* Верасніца. 3. Усадзіць, усунуць. *Не ўбіць плýга ў ту землю.* Тураў. △ Убіць вочы. Стаміцца, назіраючы. *На дзецей убіў вóчы.* Кароцічы. Убіць ногі. Стаміцца, ходзячы. *Ногі убілі, а рьíбы не зловілі.* Старажоўцы. *Ногі убіў хóдзя.* Дварэц. Шчо убіў, то уехаў. Пра тупаватага, малаініцыятыўнага. *Ат, чоловернó, шчо убіў, то уехаў.*

Луткі. П а́ л ц а н е ў б і ц ь. Пра надзвычайную цеснату. *А ў том клубе палца не убіць, кішма́ кішыць.* Дварэц.

УБЛІ′ЗЕ *прысл.* Непадалёку, блізка. *Е озера́ ўблізе— Векшэ́, Громнэ́.* Мачуль.

УБЛУ′ТАЦЦА *зак.* Звязацца. *Ублу́таўса на свой век* (пра няўдалую жаніцьбу). М. Малешава. *Хло́пец мой ублу́таўса з п'я́ніцамі.* Хачэнь.

УБО′ГІ *прым.* Убогі, варты жалю. *Такі нешчасны, убогі вон.* М. Малешава.

УБО′Й *м.* Сала і мяса з забітай свінні. *Пусты убой з етое свінне́ будзе.* Пагост. *Корова не давала, убо́я тожэ не было — чым людзей корміць будзеш?* Мачуль.

УБО′К *прысл.* Убок. *Да́ле так о ўбок перэкруціласа я.* Мачуль.

УБРА′ЖЫЦЦА *зак.* Закіснуць. *Ох укісло, убра́жылосо!* Сямурадцы.

УБРА′НЬЕ *н.* Вопратка, адзенне. *А вон нішчэчком узяў одного́ убранья отрэзаў кусочок і од друго́го.* Кароцічы.

УБРА′ЦЦА *зак.* 1. Апрануцца, адзецца. «*Возьмі да ўберыся*»,— *кажэ ему жонка, а вон лежыць і не дбае.* Мачуль. 2. Забрацца, улезці. *Бувае, ліңькі ў жак уберу́цца, ек калі́на зацвіта́е.* Цераблічы. △ У б р а́ ц ц а у п у х. Пакрыцца пухам (пра качак, гусей). *Ужэ як у пух убэрэ́цца ву́тва, то бы́стро бэжы́ть.* Рубель.

УБРЫКНУ′ЦЬ *зак.* Ударыць капытом, нагой. *Конь убрыкну́ў.* Луткі.

УБРЭ′ДЗЬ, УБРО′ДЗЬ *прысл.* Уброд. *Любіў ракі ловіць рукамі под корчамі, а сам убрэдзь бродзіць по водзе.* М. Малешава. *Убрэдзь бродзіць, як ловае рыбу.* В. Малешава. *Ходзяць убродзь.* Запясочча. △ У б р э́ д з ь п о й ц і. Разладзіцца. *Ужэ тут усе пошло убрэдзь, усе помеша́лосо.* Хачэнь.

УБРЭ′ДЗЬКІ *прысл.* Тое ж. *По болоту побродзіш убрэ́дзькі, то й мо́кры.* М. Малешава. *Убрэ́дзькі рыбу ловіў, а не з лоткі.* Там жа.

УБУ′РЫ′ЦЬ *зак.* Адваліць. *От, каа, убу́рыў бацько ніву, даў шыро́ку рэ́зку.* Луткі. Укінуць. *Молоды́ наплецё лапце́й, пры́носіць у хату і кажэ: «Шу́ры-бу́ры, у хату ўбу́рым»* (пры самастойным сватанні, без сватоў — даўні звычай). Запясочча.

УБУ′ЦЦА *зак.* △ У с е л і́ с а-у б у́ д з ь с а. Пра фана-

бэрыстасць, беспярэчнасць. *Уселіса-убўдзьса, ек царыца, прыступіцца не можно!* Дварэц.

УБЫ'ТКІ *мн.* Згуба, страты. *Такіе ўбыткі ў мого брата, остаўса голы, ек бізун.* Старажоўцы.

УВА'БІЦЬ *зак.* Уцягнуць, завабіць. *Увабілі хлопца тэ дзело робіць.* Сямурадцы.

УВАЖА'ЦЬ *незак.* 1. Звяртаць увагу. *Не ўважа́й на урожа́й, а жыто сей* (прыказка). М. Малешава. 2. Паважаць. *Хоць ты прыле́піста, но і цебе ўважа́юць.* Старажоўцы. 3. Любіць. *Я ка́шу с пшона ўважаю.* Сямурадцы.

УВА'ЖЫЦЬ *зак.* Прыняць пад увагу, улічыць. *Нехай бы вы ува́жылі, шчо я одна як па́лец.* Хачэнь.

УВАЛІ'ЦЦА *зак.* Уваліцца, праваліцца. *Уваліўса ў поло́нку на рэцэ́.* Пагост. *Увалілосо ўсе, весь берэг.* Там жа.

УВАРТОВА'ЦЬ *зак.* Падпільнаваць. *Коб увартоваць ее да попута́ць.* Пагост.

УВАРЫ'ЦЬ *зак.* Уварыць, давесці да гатоўнасці. *От крўпы цвёрдые, важко уварыць.* Аздамічы.

УВЕЗА'ЦЬ *зак.* Увязаць, прывязаць. *Ек вўйдзеш, а соро́ка скэрге́чэ, то говораць: «Ек до́брэ, то кажы́, а ек пло́хе, то ў хвост увежы́ да своім дзе́цем несі!»* Луткі.

УВЕРА'ЦЦА *незак.* Чапляцца, надаядаць прычэпкамі. *От увера́ецца, п'я́ны прышо́ў.* Верасніца.

УВЕРСЕ' *прысл.* Зверху. *Конь кажэ: «Як цебе́ везці: уверсе́ ці унізў?»* (з казкі). Кароцічы.

УВЕ'РХ *прысл.* 1. Уверх, дагары. *Пошла, а там вуценята увэрх чэрэ́вамі на водзе ўжэ плаваюць.* Цераблічы. 2. Уверх па цячэнню. *Уверх лодка плыве.* Верасніца.

УВЕРХУ' *прысл.* Зверху, уверсе. *Лой уверхў у ро́це зноў закожа́веў, ек охоло́даў.* Дварэц.

УВЕРЦЕ'ЦЦА *зак.* Укруціцца, загарнуцца. *Дзе мне дзе́цца, тре́ба ў ключ'е уверце́цца* (прыгаворка). Тураў.

УВЕ'РШОК *м.* Вусце (у жаку або кашы). *У жаку е куль, крыла і увершок.* Луткі. *Коша забраў, уве́ршка вўломіў да давай ловіць.* Там жа.

УВЕ'РЫЦЦА *зак.* Апрацівець, надакучыць. *Уве́рыласа во́ду но́ся.* Запясочча. △ У в е́ р ы ц ц а ў к о́ с ц і. Тое ж. Запясочча.

УВЕРЭ'ДЗІЦЦА *зак.* 1. Надарвацца, напрацавацца. *Шкодуе жо́нкі, коб не ўвэрэ́дзілас.* Мачуль. *Там робо́ты бога́то, уверэ́дзіўса.* Луткі. 2. Унадзіцца. *От уверэ́дзіўса ходзіць туда́!* Аздамічы.

УВЕ′СНУ *прысл.* Вясной. *Дорогою до Чэрніч на чо́ўні ездзіла ўвесну.* Пагост.

УВЕСЦІ′ *зак.* Увесці, прывесці. *За сонцэм трэ молодў увесці ў село* (звычай). Луткі.

УВЕ′СЬ, ВЕСЬ *займ.* Увесь. *Вон увесь ба́цько: вон не знае не даць, вон не зна́е ўзяць.* Дварэц. *У Тоне́жах уся наша родня.* Бярэжцы. *А вон усёго́ жыве тут яко́го поўгода.* Кароцічы. *Ва́лево яблок, усёго́.* Буразі. *А мне моя мацер погодовала усе трое дзеці.* Запясочча. *Лес богаты на ўсе.* Сямурадцы. *Да по усіх голова боліць, да по ўсіх се́рцэ дрыжыць!* Там жа. *Я хату поставіў за ўсіх луччу.* Кароцічы. *Як нап'еццa, вон з усіма́ б'еццa.* Хачэнь. *От цепер будзе ў нас: усім голым по запа́зусі* (прымаўка). Старажоўцы. *Які ні Панцелей, а усе бабі веселе́й* (прыказка). В. Малешава. *Му усе́ во усе́* (прыказка). Хачэнь. △ В о ў с ю н о ч. Позна ноччу. *Цепе́р занеду́жаеш, то во усю ноч повезуць опера́цею робіць.* Сямігосцічы. Д а у с е п о у с ё м. Пра канчатковы вынік, канец нейкай справы. *Попраду́ць ноч, повечэраюць, да ўсе по усём, больш нема нія́кое чэ́сці.* Цераблічы. У с ё г о ў с я́ к о г о. Чаго хочаш, абы-чаго. *А воны ў колодзезе́ понапіхалі усёго ўсякого, шоб во́ду не бралі.* Бярэжцы.

УВЕ′ЧЭР *прысл.* Вечарам, вячэрняй парой. *Не ўдзень, то ўвечэр прыдзеш.* Кароцічы. *Мо ты шо уве́чэр варыла?* Луткі.

УВЕ′ЧЭРЫ, УВЕ′ЧОРЫ *прысл.* Тое ж. *Увечэры попла́чэ, пока́ не засне́.* Цераблічы. *Як увечоры корова ідзе, то ка́жэ Рома́н, а як удзень — то Восі-і-ль!* Аздамічы.

УВІ′НКА *ж.* Падоўжны край бёрда. *Ніяк не попаду тросці́ной у увінку.* Верасніца.

УВІСОЧКІ′ *прысл.* Ростам, на рост, у вышыню. *Вон будзе з вас увісочкі.* Пагост.

УВІ′ХВАЦЦА *незак.* Завіхацца. *Так бра ўвіхваецца з косо́ю, шо аж пар ідзе́.* Верасніца.

УВО′ *прыназ.* У. *Ішоў уво поўдні на стойло товар.* Луткі.

УВОБРА′НЫ *дзеепрым.* Прыбраны, убраны. *Маці ўме́рла і ўжэ увобра́на лежа́ла.* Сямігосцічы. *Ву́йшла ма́ці сы́на познава́ці. Не познала сына, бо хо́рошэ увобра́ны* (з песні). Пагост.

УВОБРА′ЦЦА *зак.* 1. Прыбрацца, апрануцца. *Убра́ласа ў но́ве.* Запясочча. *Устаў, увобраўса, помуўса і стаў есці.* Сямігосцічы. *От га́рна увобра́ласа, а хме́лем потпе-*

*рэза́ласа* (прыказка). В. Малешава. 2. Усяліцца. *Вона ў но́ву ха́ту шчэ увобра́цца не поспе́ла.* Сямігосцічы. 3. Улезці, залезці. *Свіні́шчэ увобра́лосо ў огоро́д.* Сямурадцы.

УВОБРА'ЦЬ *зак.* 1. Увабраць, змясціць. *Увобра́ў у рот гаму́лку да хай цягне.* Запясочча. *Хто ходзіў по лесу́, то ў ведро́ ме́ду не убере́ — бага́то по лесо́х було́ пчол.* Дварэц. *Шо було ко́лісь, то і ў ву́шы не уберэш.* В. Малешава. 2. Сабраць, прыбраць. *Увобраць не успеём? — Управімса увобраць.* Запясочча. 3 *перан.* Зжэрці, з'есці цалкам. *Жоўна́ увобрала лоўкіе пчолы.* Аздамічы. *Увобрала учора рыбіну кошка.* Пагост. *Уберэ кіло цубу́лі да ходзіць і пу́хкае.* Дварэц. Апаражніць. *Ежэлі еты горшчок уберэ, то можэ до ве́чора косі́ц.* Запясочча. 4 *перан.* Прыбраць да рук, уладзіць, прыкончыць. *Увобра́ў лося́ за ноч, облупі́ў, одно ро́гі оста́ліса.* Мачуль. *Поліца́і увобралі того́ бугая́.* В. Малешава. *Чому вона́ не ўвобрала того́ бандзі́та?* Хачэнь.

УВОГНА'ЦЬ *зак.* △ Увогнаць у кра́ску. Засароміць. *Увогна́лі ў краску бабы́ мужчын.* В. Малешава.

УВОГРЭ'ЦЦА *зак.* Сагрэцца. *Покі ўвогрэ́ешса, то лекоціш у той кле́ці.* Цераблічы. *Легла спаць, увогрэласа да не схоцела вухо́дзіць.* Сямурадцы.

УВОГРЭ'ЦЬ *зак. экспр.* Ударыць, стукнуць. *Грыша ему так поленом увогрэ́ў, шо аж согну́ўса.* М. Малешава.

УВОЙЦІ' *зак.* 1. Увайсці. *Коло пе́чы постою́, ужэ у мой від увойдзе ўся́ краска, уся кроў у го́лову.* Сямурадцы. 2. Выйсці, сысці, пайсці. *Увойшоў з тым кожухо́м і сам крычыць: «Лові зло́дзея!»* Кароцічы. *Сухо, вода з вэсны́ увойшла.* Мачуль. *Я ўвойшла замуж у семнанцаць год.* В. Малешава. △ Увойсці́ у пух. Пакрыцца пухам (пра качак, гусей). *Увойдзе у пух і сечы́ качо́к на м'ясо.* М. Малешава.

УВО'ЛЮ *прысл.* Уволю, удосталь. *Уволю наеўса.* Аздамічы. *Накупляй хлеба ўво́лю, еш ско́лькі хоч.* Цераблічы.

УВОМЛЕ'ЦЬ *зак.* 1. Абамлець. Пагост. 2. Упарыцца, распарыцца, стаць мяккім ад гарачыні. *Картоплі аж увомлелі, до того утушыліса!* Цераблічы. *Капуста увомлела ў печэ, шо можно губамі есці.* М. Малешава.

УВОПАКІ' *прысл.* Наадварот, у адваротны бок. *Кру́ціць увопакі волоку.* Луткі.

УВОПЕ'РЦІСА *зак.* Уперціся, заўпарціцца. *Праўду кажэ: увопёрса, ек вол.* Дварэц.

УВОПХНУ'ЦЬ *зак.* Упіхнуць, увапхнуць. *Мне увопхнўлі сілою.* Дварэц. *Нашу корову увопхнулі ў станок.* Дварэц.

УВОРВА'ЦЬ *зак.* Урваць, украсці. *Варвáры половіну нóчы уворвалі* (прымаўка). Хачэнь.

УВОРОЧА'ЦЬ *зак. экспр.* Налічаць, штрафаваць. *Пройшоў час ці два, ек не прыведзеш коня, то ўворочае грошы немовéдзь екіе!* Луткі.

УВО'СЕНЬ *прысл.* Увосень, восенню. *Кóлісь увосень по усёму селў бóйкі стўкалі, лён да конóплі жонкі білі.* Пагост. *Лéтось увóсень було мáло гразé.* Тураў. *Зімніе свіньe, шо то увосень покуплялі да зімовáлі.* Хачэнь.

УВОСНУ'ЦЬ *зак.* Заснуць глыбокім сном. *Усе увоснулі, то напалі і вубілі.* Старажоўцы. *Да сільненько ўвоснула на трэцю ноч, а барын нагуляўса* (з песні). Пагост.

УВОСПА'ЦЦА *зак.* Разаспацца. *Увоспаласа дзеўка і спала позно.* М. Малешава.

УВОТКНУ'ЦЬ *зак.* Усунуць, прасунуць. *Вузенька шчэлка, только шоб голову увоткнуць.* Кароцічы.

УВОЧА'Х *прысл.* На вачах, тут жа. *Худоба ўвочáх тоне.* Запясочча. *Собака разорваў гусь увочáх.* М. Малешава. *У вочах говорыць, шо прыдумае.* Дварэц.

УВОЧЭВІ'ДКІ, УОЧОВІ'ДКІ *прысл.* Тое ж. *Вода леціць увочэвідкі, прыбувае.* Верасніца. Нахабна. *Уочовідкі брэшэ.* Цераблічы.

УВО'ШЧЭНКУ *прысл.* Ушчэнт, дарэшты. *Стрепалі воза увошчэнку.* Цераблічы. *Увошчэнку склаў чоловека.* Там жа.

УВ'Я'ЗНЫ *прым.* Моцнага складу. *Була ўв'язна така, здорова, сама ек каліна, ек кроў з молоком.* Сямурадцы.

УГА' *выкл.* Пабач (з абурэннем). *Уга! То я такое прэступлéніе зробіла?!* Хачэнь.

УГАДА'ЦЬ *зак.* Здагадацца, вызначыць дакладна. *Золою не ўгадаеш, колько трэба золіць кросна.* Луткі. *А цепер ужэ не могу ўгадаць, сколько хлебу седзець у печы.* В. Малешава. △ У г а д á ц ь с о б é. Абдурыць лікам, вагой, мерай. Бярэжцы.

УГА'ДВАЦЬ *незак.* Адгадваць, прадказваць. *Праўду говорыць, угадвае.* Бярэжцы. *Угадвають, а шоб знаць точно, то не.* Цераблічы. *От та солóм'яна баба ўрóдзі ўгадвала, казалі.* В. Малешава.

УГА′ДНІК *м.* Варажбіт, адгадчык. *Я нічого не знаю, воны ж мене угаднікам зробілі.* Верасніца. *Я угаднік хіба, коб знаць, шо будзе дождж?!* Хачэнь. *Такіе ўгаднікі, усе знаюць!* Тураў.

УГА′ДНІЦА *ж.* Варажбітка, адгадчыца. *О, каа, е там угадніца, добрэ на карты гадае.* Лутці. *Угадніца сказала, еслі ты будзеш у старой хаці, то у цебе будуць дзеці мерці.* Там жа. *От добро ўгадвае, бу ўгадніца.* Цераблічы. *Козўлька угáдніца* (пра божую кароўку). Альшаны.

УГА′МАЦЬ *зак.* Укусіць (у размове з дзецьмі). *Не йдзі, ато цю́ця угáмае, цюця укусіць.* Лутці.

УГА′НЬБІЦЬ *зак.* Зняславіць. Пагост.

УГА′РВАЦЬ *незак.* Выгараць. *Песок не ро́дзіць — угáрвае ўсе.* Сямурадцы. Высыхаць. *Лепеха ўгарвае понемногу ў копцы.* Запясочча.

УГІНА′ЦЦА *незак.* Гнуцца, прагібацца; *перан.* адчуваць празмерную нагрузку. *Дзецей у Рогох — аж рэка угінаецца!* Лутці.

УГЛЕДА′ЦЦА *незак.* Углядацца, прыглядацца. *Бегла бегом да ўгледаласа, ці не пробегла міма тое хаты.* Сямігосцічы.

УГЛЕ′ДЗЕЦЬ *зак.* Убачыць, заўважыць. *І ніхто его не ўгледзеў, дзе вон дзеўса.* Цераблічы. *Да як ето ву не ўгледзелі, шо коровў ў жыто йдуць?* Пагост. *Нідзе не ўгледжу ромашкі, шчэ нема ні одного́ цвета.* Лутці. Разгледзець. *А ужэ цепер угледзелі, што нічогі вон.* Сямурадцы.

УГЛЫБА′ *прысл.* Углыб, углыбіню. *Рыба пошла углыба.* В. Малешава.

УГНЕВІ′ЦЬ *зак.* Угнявіць, разгнявіць. *Угнéвіш бацьку, дасць попругі.* Азяраны.

УГНІСЦІ′ *зак.* Згніць, перагніць. *Трава угніе добро, то можно сеяць.* Мачуль.

УГОВОРА′ЦЬ *незак.* Угаворваць, упрашваць. *Ты маці — должна уговораць его.* Мачуль.

УГОВОРЫ′ЦЬ *зак.* Угаварыць. *Сяк-так уговорылі его людзі.* Сямігосцічы.

УГО′ДА *ж.* Зручнасць (?). *Як корова, то й угода* (прымаўка). Сямурадцы.

УГОДЖА′ЦЦА *незак.* Частавацца. *Наташа прывезе конхвет, то дзеці дзень угоджаюцца.* В. Малешава.

УГО′ДЖВАЦЬ *незак.* Дагаджаць. *Вона ім уго́джвала, а воны ёй нічого не помоглі.* М. Малешава.

УГОДЗІ'ЦЬ *зак.* Дагадзіць. *Гэтым людзям не ўгодзіш аніяк.* Мачуль. *Воны мне ўгодзілі, а я іх не обідзела* (прыгаворка). М. Малешава. *Холера ей угóдзіц!* Запясочча.

УГО'ДНО *прысл.* Добра, падыходзяча. *Ні угодно гето!* Запясочча.

УГО'ДНЫ *прым.* Добры, даспадобы. *Колі своей доццэ не ўгодна, то кому ж трэба та мáцер?* Хачэнь. *Ему не угодна еда була.* Там жа.

УГОЛОДА'ШКУ *прысл.* Надгаладзь, галаднавата. Хачэнь.

УГОЛО'П *прысл.* Галопам. *Конь бежыць уголоп.* Верасніца.

УГО'ЛОС *прысл.* Уголас, голасна. *Трэба сказаць, шоб вон уголос, моцно говорыў.* Запясочча.

УГО'ПТАЦЬ *зак. экспр.* Знішчыць, забіць (?). *І гэтого шпіёна нашы угоптали.* В. Малешава.

УГОРНУ'ЦЬ *зак.* Загарнуць, закруціць. *Сорочку на пелёнкі подру да угорну да годую.* Сямігосцічы.

УГОРТА'ЦЬ *незак.* Загортваць, закручваць. *Нічого не ўгóрталі ў ту газету.* Сямурадцы.

УГО'РУ *прысл.* Уверх, угору. *Дым пошоў угору.* Хачэнь. *Угору не йдзе ліст.* Запясочча.

УГОРЭ'ЦЦА *зак.* Узяцца полымем, разгарэцца. *Не ўгорэласа хата, да ўтушылі.* Цераблічы.

УГОСЦІ'ЦЬ *зак.* Пачаставаць. *Той угосціць, той угосціць, да зробілі п'яніцэю.* М. Малешава.

УГОТО'ВІЦЬ *зак.* Згатаваць, прыгатаваць. *От ее уготоў, сáмі укýс з гетое рыбі.* Сямігосцічы.

УГРОЖА'ЦЦА *незак.* Пагражаць. *Угрожаецца мсціць мне.* Бярэжцы.

УГРОЗІ'ЦЬ, УГРАЗІ'ЦЬ *зак.* Развярэдзіць, ненарокам зачапіць (пра рану). *Ой, угрозіў вáўку! Не ўгразі, бо ў мене ваўка.* Лутկі.

УГРУ'ЗНУЦЬ *зак.* Загрузнуць, засесці. *Угрузнеш у болоце і носілкі кінеш.* Бярэжцы.

УГРЫ'ЗЦІ' *зак.* Укусіць, угрызці. *Сáла тобе дáти? Сырэ̑ не угрызéш.* Альпень. *Ек ухвáціць за шкуру чоловека, то угрызе конь.* Сямігосцічы.

УГРЭ'БАЦЬ *незак.* Загрэбваць. *Угрэ̑баем гной у борознý.* Сямігосцічы.

УГРЭ'БЦІСА *зак.* Закапацца. *Она угрэбласа ў сено да спала.* Луткі.

УГРЭВА'ЦЬ *незак.* Парыць, запарваць. *Зелье угреваемо ўсяке.* Аздамічы.

УГРЭ'ЦЬ *зак.* Агрэць. *Коб троха, то угрэла б по плечах.* Мачуль.

УДАВА'ЦЦА *незак.* Даваць плён, добра расці. *У нас удаецца навек пшэніца.* Аздамічы. *Ей удаюцца буракі.* Старажоўцы.

УДАВА'ЦЬ *незак.* Здавацца, выдавацца. *С пу́ду ёй і ўдае́—коб гэто не́хоця случылос, то ёй бу не ўдавало.* Кароцічы. △ У д а в а ц ь у в о ч а́ х. Тое ж. *Нам удае ў вочах, шчо гэта не така бела мука.* Лутксі.

УДАВІ'ЦЦА *зак.* Падавіцца. *Селі вечэраць да удавіўса карто́плямі.* Аздамічы.

УДАВІ'ЦЬ *зак.* Задушыць. *Удавілі вероўкою того сэсоўца людзі.* Пагост.

УДАЛЕ'Ц *м.* Удалы чалавек. *Удалец на усе здатны.* Запясочча.

УДА'ЛЫ *прым.* Добры, харошы, удалы. *Вэльмі ўдалы быў вэпручок.* Рубель. *Буханкі ўдалые на чэрэні спекліса.* Альшаны.

УДА'Р *м.* Хвароба ад удару. *Удар ходзяць да шэпчуць; о, ў мене удар у колено.* Сямігосцічы. *Удар замоўляюць дзевець раз.* Хачэнь. *Пры удару схáпваецца кроў у грýдку, то боліць.* Луткі.

Замова ад удару: *Го́сподy богу помо́лімса, да прэчы́стой покло́німса. Да йдзе прэчы́стая божа маці удар одговора́ці. Не я одговора́ла — прэчыстая божа ма́ці до по́мочы стала. Удар, удару, ясен месяц, по ко́сцях не ходзі, косце́й не ломі.* Хачэнь.

УДА'РЫЦЬ *зак.* Ударыць, стукнуць. *Ко́лісь казалі, шчо ў гэту хату гром не ударыць, дзе бу́ськовэ кубло́.* Старажоўцы.

УДА'ТНО *прысл.* Удала, трапна. *Удатно попаў ка́менем у дзерэво.* Сямігосцічы. Выгадна. *Позвука́лі плакаць, удатно ім — поплачэ й дадуць.* Дварэц.

УДА'ТНЫ *прым.* Удачны, удалы. *Удатны буў буцо́к: наесца, нап'ецца да лежыць собе.* В. Малешава. *Удатны такі хлеб получыўса.* Цераблічы. Здатны, прыгожы. *От пошоў удатны хлопец.* Цераблічы. *Постаўна́ корова, а на чоловека кажуць удатны.* Там жа.

УДА'ЦЦА *зак.* 1. Удацца, выдацца. *Хлеб не ўдаўса.* Аздамічы. 2. Урадзіцца падобным на каго-небудзь. *У его удаўса, копія.* М. Малешава. *Толя ўдаўса ў Рэзо́ў, у его*

*таке постаноўлёнье, ек у дзеда.* Верасніца. *Чысты бацько, удаўса ў бацька.* В. Малешава. *Свое свінча́ удасцца, бувае, усе одно, як дзіке, поджарэ.* Цераблічы. △ У да́цца ў сне. Прысніцца. *Ліцэ́ твое ў сне удало́со.* Хотамель.

УДА'ЦЬ *зак.* Выдаць, выдацца, паказацца. *А мне удало, немоўга́ды екіе это людзі.* Хачэнь.

УДА'ЧА *ж.* 1. Удача, удалы вынік. Сямігосцічы. 2. Падабенства, супадзенне. *Удаўса ў бацька і кроплі побраў, от удача!* Сямігосцічы.

УДВОЙЗЕ' *прысл.* Удваіх. *Удвойзе пасо́м, трэба коб товар буў не голо́дны.* Мачуль. *З ба́бою удвойзе́ но жывуць.* Там жа.

УДВОЙНЕ' *прысл.* У два разы, удвайне, удвая. *Удвойне перэплоціў.* Аздамічы.

УДВО'СТАЛЬ *прысл.* У дзве столкі, удвая. *Одзеяло удвосталь склаў.* Аздамічы.

УДВО'Х, УДВОІ'Х *прысл.* Удвух, удваіх. *Удвох хо́дзілі ў Городок.* Аздамічы. *А удвох на дворы, на этом ганку седзяць.* Кароцічы. *Му ўдвоіх цягном ценето.* Пагост. *Парыку́юцца удвоіх.* Лутківі.

УДЗЕВЕЦЁ'Х *прысл.* Удзевяцёх. *Удзевецёх ходзілі ў Городок.* Аздамічы.

УДЗЕЛІ'ЦЬ *зак.* Выдзеліць, даць частку пры падзеле. *Шо ты мне удзеліў, то я і маю.* В. Малешава. *Ох, шо мне удзелілі, одных кошо́ў!* (пра дрэнны сенакос, зарослы лазой). Старажоўцы. *А Козако́м удзеліў лося́ ву́шы, шчо не мелі ні хлеба, ні колоту́шы* (з вясковага вершаванага падання). Цераблічы.

УДЗЕ'НЬ *прысл.* Днём, удзень. *Удзень нішчо́ було.* Хачэнь.

УДЗЕ'РЖАЦЬ *зак.* Утрымаць, вытрымаць. *А коро́ву не удзе́ржаць, коб які мушчына помог.* Пагост. *Мало удзе́ржало, шоб на Івана не покропіў дождж.* Бярэжцы. *У одным мешку́ два коты́ не ўдзержыш* (прыказка). Старажоўцы.

УДЗЬВО'Х *прысл.* Удзвюх. *Оны удзьвох і на рэцэ́ і ў кошары.* Старажоўцы.

УДЗЯ'БІЦЬ *зак. экспр.* Выцяць, ударыць. *Трэба ўдзябіць пу́гою, то полеціць!* Тураў. *Удзябіў пугоўёшком по рэ́брыках!* Там жа.

УДО'БА *ж.* Добрая, прыдатная зямля. *А поля у нас — хоро́ша удоба, як сушэ́й, то лу́чшэй росце.* Аздамічы.

УДОВА' *ж.* Удава. *Як сірота і ўдова, то чоловек не-*

*шчасліві*. Мачуль. *Вудбў богато у нас*. Хільчыцы. *Люблю цебé, удовé, а дзеці твое* (прыказка). Хачэнь.

УДОВЕ'Ц *м*. Удавец. *Жонка ў его помéрла, удоўцóм зостáўсо*. Альпень.

УДО'ВІН *прым*. Удовін. *Вóўчэ, куды ты йдзеш? — Поўдовінэ́ порося́.— Так у ее ж однэ́.— Як однэ, то хай і тогó не будзе* (прытча). Сямурадцы. *Сéно Ільінэ́ — то ўдовінэ́* (прымаўка). Хачэнь.

УДО'ВОЛЬ *прысл*. Уволю, удосталь. *Удоволь наéўса*. Аздамічы.

УДОГО'Н, УДОГО'НКІ *прысл*. Наўздагон. *Удогон погнаўса*. Аздамічы. *Удогонкі пошоў і не догнаў*. Там жа.

УДО'Д, ВУДО'Д *м*. Удод. *Удод жоўты, дзюбаты*. Запясочча. *Вудод з гребнем*. Альшаны. *Удóду, удоду, вулі з вуха вóду* (дзіцячая прыгаворка пасля купання, калі скачуць на адной назе). Верасніца. *Памянш*. у д ó д з і к. *Удодзік як бу дзяцел, у его чубок*. Запясочча. *Удодзікі вонючые такіе!* Там жа.

УДО'Й *м*. Удой. *Ні лою, ні удою* (прымаўка). Мачуль.

УДО'МА *прысл*. Дома. *Коб удома не вучыў, то не навучыласа б*. Хотамель. *То я учора удома была!* Аздамічы.

УДО'СВЕТА, УДО'СВІТА *прысл*. Надосвітку, досвіткам. *Удосвета ек побачыш маленькі серпок, то шчэ стары месец, а пройдзе тры дні — ўвечэры побачыш серпок, то молодзік*. Сямурадцы. *Удосвета молодý ўвозяць*. Пагост. *Устаюць удосвіта, коб не проспаць*. Верасніца.

УДОЎБЦІ'СА *зак*. Удзяўбціся; *перан*. уесціся, учапіцца. *От ужэ удоўбласа, як той дзяцёл у дзерэво*. Старажоўцы.

УДО'ЎЖ 1 *прысл*. Удоўж. *Трэба удоўж бороноваць*. Аздамічы. *Хата так удоўж стоіць*. Чэрнічы. 2 *прыназ*. Уздоўж, удоўж. *Тоўсты перэсоў от печы до сцены удоўж хаты, а на печы жэртка*. Луткі. *Удоўж рэкі пошоў домоўкі*. Аздамічы.

УДО'ЎЖВАЦЬ *незак*. Выцягваць, выпручваць *Кагý: уміраю угé, удоўжвае нешчо менé*. Сямігосцічы. Рабіць даўжэйшым. *На таку тóню короткіе пóпускі, то ўдоўжваю*. Пагост.

УДО'ЎСКІ *прым*. Удовін. *От, знаеце, така жытка ўдоўска!* Пагост.

УДРАПНУ'ЦЬ *зак*. Драпнуць, дзерануць. *Як удрапнé, то робіцца нарыў*. Сямурадцы.

УДРУЖЫ'ЦЬ *зак.* Дапамагчы, падсобіць. *Мо нешчо і ўдружыў соседзям?* Дварэц. Пазычыць. *Удружы косу́, сусед, увечэры оддам.* Пагост.

УДРЭ'БЕЗ *прысл.* Ушчэнт, на друзачкі. *Упаў да розбіўса горшчок на дробны мак, удрэбез.* Луткі.

УДУ'БЕЛТ *прысл.* Удвая, удвайне. *Вон жэ не купіў тые свінья по государсцвенной цэне, вон жэ за іх заплаціў удубелт.* Старажоўцы.

УДУ'НУЦЬ *зак.* Дунуць, павеяць. *Росшпіліса, хай трохі у душу́ уду́не* (за каўнер, у выраз на грудзях). Луткі.

УДУ'ХА *ж.* Удушша, астма. *Удуха богато була ў кого, да шчэ с ціху мерлі — таке нічоге ліхо було.* Аздамічы.

УДУ'ШЛІВУ *прым.* Задушлівы, астматычны. *Петро удушлівуй змалку.* Тураў. *Удушлівы дзед, і спіць седзечы, марны дзед.* Луткі.

УДУ'ШЫСТА *ж.* Задышка, астма. Аздамічы.

УДУШЫ'ЦЦА *зак.* Упарыцца, спацець. *Удушы́ласа, уся сорочка мо́кра.* Цераблічы. *Сільно ўдушыласа, да вецер холодны буў, і занедужала.* Бярэжцы. *Ой, удушыўса я, утоміўса моцно.* Мачуль. *Эдзік удушыўса од пла́чу.* Сямігосцічы. *Я удушыласа ў ху́сцы.* Хачэнь.

УДУ'ШЭНЫ *дзеепрым.* Упараны, спацелы. *Спаў удушэны.* Бярэжцы. *Удушэны на вецёр вускочыш—дай охват.* Луткі.

УДЫ'РЫЦЦА *зак.* Стукнуцца, ударыцца. *Моцно мой Іван удырыўса голоўкою.* В. Малешава. *Як ударысса, то чорны сіняк.* Альпень.

УДЫ'РЫЦЬ, рэдка ЎДА'РЫЦЬ *зак.* Стукнуць, у́дарыць. *Так ударыў по голове, аж зоры посыпаліса.* Хачэнь. *Ужэ вон, стары́, знае, як удырыць этым молотком по косе.* Старажоўцы. *Корова удырыла рогом. Уцекай, бо удырыц!* Запясочча. *Дубец моцней удырыць за стрэпкача́.* Луткі. *Стояў корч, а я не бачыла да ўдырыла но́гу.* М. Малешава. Ударыць, трапіць (пра маланку). *Ко́лісь казалі, шчо у ту хату гром не ударыць, дзе бу́ськовэ кубло.* Старажоўцы. *У комін ударыло, у хату.* В. Малешава. *Удырыў гром—і хата загорэласа.* Там жа. △ У д ы́ р ы ц ь ц е л е г р а́ м у. Паслаць тэлеграму. *Як прыедзе, то удырыць целеграму.* Сямігосцічы.

УЕДА'ЦЦА *незак.* Наядацца, пераядаць, есці да адвалу. *Трэ есці абу-шчо, не уедацца.* В. Малешава. *Не*

*ўедайса, а то ты рожжырэла.* Там жа. *У кого е корова, то лўччэй уедаецца.* Сямурадцы.

УЕДА'ЦЬ *незак.* 1. Выядаць. *Наварыла захолóду з рыбу, то ўсе ўедай, не кідай.* М. Малешава. 2. Лаяць. *І малэ дзіця знае, шо мене ўедаюць.* Буразі. Папікаць. *Вон і так мене уедаць будзе пальтом.* Запясочча. Скардзіцца, лаяцца. *Усе тые, хто ў его сеялі, то ўедалі на его.* Сямурадцы.

УЕ'ДВАЦЦА *незак.* Выядацца, наядацца. *Апыра! Шо ўедваюцца тые гороб'ё коло курэй!* В. Малешава.

УЕЖДА'ЦЬ *незак.* Ад'язджаць. *Брат уеждаў на ее рóдзіну і продаў лóтку.* М. Малешава.

УЕ'ЖНО *прысл.* Сытна. *Хоць не ўежно, то ўлежно* (прыказка). Аздамічы.

УЕ'СЦІСА *зак.* 1. Раз'есціся, адкарміцца. *Вутвў ўедзяцца, то можно будзе круціць.* Верасніца. *От уеўса дзядзько, бы кабан.* Аздамічы. 2. Звыкнуць есці. *Кабан уеўса жóлудом, нічого больш не хочэ есці.* Хачэнь. *Дзеці так уеліса ў козіне молоко!* Запясочча. Унадзіцца, панадзіцца. *Як уедзяцца ў просо вороб'е, не отгрэсціса.* Сямігосцічы. *Уеўса тхор, то вона ў бочку кідае курэнята.* Дварэц. *Уеўса курыць.* Аздамічы. 3. Надакучыць, абрыдзець. *Ох, уеўса эты дошч!* Сямурадцы. *От уеліса мухі!* Луткі. *Кура уеласа хўжэй чорта.* Пагост.

УЕ'ХАЦЬ *зак.* 1. Уехаць, заехаць. *Уехаў у пенькі, затóб не выехаў.* Мачуль 2. Выехаць. *Громы уехалі ў Сібер у дзесятом годў.* Сямурадцы.

УЁ'ДАЦЬ *зак. экспр.* Прыбраць да рук, захапіць. *Золото усё уёдалі, а бумажкі оддалі.* Запясочча.

УЖА'ЛІЦЦА *зак.* Упасці ў скруху, аддацца жалю. *Ужаліласа, то не могла утамовáць её, так плáкала.* М. Малешава.

УЖА'РЫЦЬ *зак.* Упячы, ужарыць. *Ек ужарыць пчола!* Луткі. *Гáдзіна Антóся за рўку ужарыла.* Там жа.

УЖЫВА'НЕЦ *м.* Аматар смачна паесці, ласун. В. Малешава.

УЖЫВА'НКА *ж.* Аматарка смачна паесці, ласуха. *Она така ужыванка була, эта купчыха!* В. Малешава.

УЖЫВА'ЦЬ *незак.* Ужываць, спажываць. *Сало не вельмі ўжывае вон.* Запясочча. Добра, смачна есці. *Не ўжывалі, у кого сем'я веліка була.* Чэрнічы. *Корова ўжывае, то й молока дае.* В. Малешава. Скарыстоўваць. *У нас, конешне, гэтого не ўжывалі.* Сямігосцічы.

УЖЫ′ЦЦА *зак.* Ужыцца, прыжыцца. *Не ўжыўса вон з ею.* Луткі. *Онно одна ўжыласа, а тые поўцекалі.* Там жа.

УЖЫ′ЦЬ *зак.* Тое ж. *П'яць до́чок — і нідзе не ўжыла.* М. Малешава.

УЖЭ′, УГЭ′, УГЕ′ *прысл.* Ужо. *Ужэ поўмесяца нема, ек корова з'ела.* Луткі. *Я ўжэ знаю, дзе вона, та полянка.* В. Малешава. *Са́мі хорошы сенокос покосілі, а гэты ўжэ не такі.* Там жа. *Угэ́ усе́ е — і гво́здзье і шыфер.* Чэрнічы. *Уге прыходзіць до нас.* Мачуль.

УЖЭ′ГНУЦЬ *зак.* Парыжэць ад гарачыні. *Ужэ́гла от огню сорочка.* Хотамель.

УЖЭ′ Ж *часц.* Так. *Ужэ скосілі? — Ужэ ж.* Бярэжцы.

УЖЭ′ЛЕ *часц.* Ці, ці ўжо. *Ужэ́ле ла́ва готова?* Луткі.

УЗАБУЗА′Н *прысл.* Да смерці. *Узабузан забіваюць.* В. Малешава.

УЗА′Д *прысл.* Назад. *Воны самые прые́халі узад.* Запясочча. *Узад поцягнем воза ці колоду?* Бярэжцы.

УЗАМЕ′Н *прысл.* Узамен. *Узамен за сало ўзяў цыбулю.* Аздамічы.

УЗАПА′ШВАЦЦА *незак.* Набірацца ў запас, назапашваць. *Немове́дзь на сколькі булі людзі узапа́шваліса солью.* Луткі.

УЗАТЫ′Л *прысл.* Адзін за другім. *Людзі ўзатыл стоялі, шоб добіцца до машыны.* Мачуль.

УЗА′ЎТРА, УЗА′ЎТРЭ *прысл.* Заўтра. *Заўтра недзеля. Узаўтра пойдуць на роботу.* М. Малешава. *Узаўтра як погода, то прыдзецца тобе товар пасці.* Пагост. *До́брэ, я ўзаўтрэ прынесу́.* Хачэнь.

УЗАХВАТКІ′ *прысл.* Навыперадкі, наўзахваткі. *Бегалі рано ўзахваткі, шчоб роботу получыць у колхозе.* Луткі.

УЗБРУСЦІ′ *зак.* Прыйсці ў галаву. *Як кому ўзбрудзе, той так скажэ.* Сямурадцы.

УЗБУНТОВА′ЦЬ *зак.* Узбударажыць, патрывожыць. *Вон мене́, а я ужэ узбунтоваў пчол.* Альпень.

УЗБУРЫ′ЦЦА *зак.* Усхапіцца, усхадзіцца. *Узбу́рацца — комбікорм прыве́злі, а его нема.* Альпень.

УЗВА′Р *м.* Кампот, адвар з сушаных груш. Запясочча.

УЗВЕ′СІЦЦА *зак.* Павіснуць, устаць (на небе). *Еслі узвесіласа радовіца — пото́пу не будзе* (прыкмета). Хотамель.

УЗДАРА′ЦЦА *незак.* Мроіцца, усплываць перад ва-

чыма. *Ляжэш спац — да уздараюцца у вочах тые грыбу́.* Запясочча.

УЗДО′ЎЖ *прыназ.* Уздоўж, наўсцяж. *Уздоўж берэга ішоў.* Аздамічы.

УЗДРО′ІЦЦА *зак.* Распарыцца, размякнуць (пра ягады). *Поставіла каліны на дзень у печ з водою кіпячоною, шоб уздроіліса.* М. Малешава. *Уздроіліса каліны ў печэ́, і к тым калінам мешаем муку́, то зробіцца солодуха.* Цераблічы.

УЗДРО′ІЦЬ *зак.* Распарыць (пра ягады). *Уздроіць каліну ў печэ́.* Аздамічы.

УЗДУ′МАЦЬ *зак.* Успомніць. *А кого то уздумалі жонкі, шо етак робіла?* Запясочча.

УЗДУМЛЯ′ЦЬ *незак.* Успамінаць, прыпамінаць. *Я не хочу́ і уздумляць его* (чорта). Запясочча. *Узду́маў, шо родзіны ее́, а то не уздумляў.* Лутк і.

УЗДУХОВА′ЦІНА *ж.* Дрыгва, дрыгвяністае месца. *Уздуховатіна — не боло́то і не груд, тако́е ро́ўное ме́сто, як ідзеш — воно́ рого́жэю робіцца.* Альпень.

УЗДЫХА′ЦЬ *незак.* Уздыхаць, шкадаваць аб нечым. *Не ўздыхай, чого́ нема́, то неха́й.* Дварэц.

УЗІМО′Ю *прысл.* Зімой, узімку. *Узімою лезуць у жакі этые ментузы́.* Старажоўцы.

УЗІ′МУ *прысл.* Тое ж. *Узіму замуж вуйшла.* Пагост.

УЗІРА′ЦЦА *незак.* Узірацца, углядацца. *Так пільненько ўзіра́ецца, мо не познаў?* Сямурадцы.

УЗІРА′ЦЬ *незак.* Пазіраць. *Не ўзірай нават, не пушчу́!* Бярэжцы. *До ве́чора ўзіра́ла, а іх нема з обе́дом.* М. Малешава.

УЗЛЕ′ЗЦІ *зак.* Узлезці, падняцца ўверх. *Коб до́лі булі пчолы, а то узлезці трэ.* Цераблічы.

УЗЛІ′ЦЦА *зак.* Узлавацца, раззлавацца. *Вон на его узліўса за тэ, шо вон сказаў праўду.* Сямігосцічы.

УЗЛІ′ЦЬ *зак.* Раззлаваць. *Узліў свою жонку.* Кароцічы.

УЗНАВА′ЦЬ *незак.* Пазнаваць, разумець. *Сцёпа трохі узнае́, шчо не маці.* Лутк і.

УЗНІМА′ЦЦА *незак.* 1. Узнімацца, уздымацца. *Горыць, прама пла́м'е таке́е знімаецца.* Старажоўцы. 2. Паказваць узбуджанасць перад цечкай (пра жывёл). *Корова толькі узнімаецца полёва́ць.* Хачэнь.

УЗНО′СЫ *мн.* Хвароба ў выніку выпадковай сустрэчы немаўлят (павер'е). *У нас до го́ду, пока зубоў нема ў ро-*

*це, по-колішнёму дзіця́ з дзіця́ не стрэча́ліса, бо зносы будуць, а як заболеюць — несуць баба́м шэпта́ць.* М. Малешава.

УЗНЯ′ЦЦА *зак.* Узняцца, падняцца. *Поку́ль уздо́ймецца корова, то попого́йдаецца то туд, то сюд.* Мачуль.

УЗНЯ′ЦЬ *зак.* Падняць. *Ты ее не узды́меш, а дзецей осіроціш.* Запясочча.

УЗОБРА′ЦЦА *зак.* Узабрацца, забрацца. *А іншы то й на міны узберэ́цца, злезе, да ненайме і та еда́.* Бярэжцы.

УЗОЙЦІ′ *зак.* Узысці, з'явіцца. *Ужэ сонцэ узышло́, прышлі ўжэ на свой курэнь.* Бярэжцы. Даць усходы, прарасці. *А й одна картопля не узойшла!* Сямурадцы. Усплыць, падняцца на паверхню. *Ек утоне чоловек, то на трэці дзень вон узойдзе.* Сямігосцічы.

УЗОПРЭ′ЦЬ *зак.* Упрэць, спацець. *Пяцьсот кіль положы, то вон узопрэе, той конь.* Сямігосцічы.

УЗО′Р *м.* Узор, малюнак. *Узор хорошчы на хустка́х.* Лyткі.

УЗОРА′ЦЬ *зак.* Узараць. *Ой, узорай?! Одных огрэ́хоў наробіў!* Хачэнь. *Вола запрэжэ́ да того́ уча́стка узорэ́.* Старажоўцы.

УЗОРНУ′ЦЬ *зак.* Вынырнуць, паказацца з вады. *А та дзеўка то узорне́, то на дно.* Запясочча.

УЗО′ХМАЦЦА *зак.* Усхадзіцца, узбунтавацца. *Як усё село́ ўзо́хмалось, то ву́ехаў жытковіцкі отрад на суміро́ньe.* Верасніца. *Як узохмаўса, як заходзіўса!* Там жа.

УЗРУ′ЗНУЦЬ *зак.* Угрузнуць. *Як узру́знеш, то не можно но́гу вурваць.* Луткі.

УЗРЫНА′ЦЬ *незак.* Падымацца ўгору. *По́ножы не ўзрына́юць ужэ́; не ўзрына́е ніт, не можэ подняцца.* Пагост.

УЗЫ′РЫЦЬ *зак.* Сцебануць, выцяць. *Провініўса, то ек узырыў пугою, то й прысеў од болю.* Луткі.

УЗЫ′СКІВАЦЬ *зак.* Спаганяць. *Позыку ўзысківатъ.* Альпень.

УЗЯ′ТКА *ж.* Ношка. *Е сціп'ёр сво́йскі, з ёго пчо́лы узятку бэру́ць.* Хотамель.

УЗЯТО′К *м.* 1. Тое ж. *Ужэ цепер ме́ду не мае, нема узятку.* Велямічы. 2. Прыбытак. *Землі много, а узятку ніякого нема.* Аздамічы.

УЗЯ′ТЫ *дзеепрым.* Узяты; замацаваны. *А дзверы на тры крукі узятые.* Чэрнічы.

УЗЯ'ЦЦА *зак.* 1. Узяцца, ухапіцца. *Не можно узяцца, гора́чэ.* Цераблічы. *Узяўса за хвост коня і перэплўў.* Хачэнь. Учапіцца. *Узяўса кожўшок за вўдку.* Сямігосцічы. 2. Дакрануцца. *Узяцца не можно за ее, така́ доліка́тна дзеўка.* Луткі. *Так боліць, узяцца не можно.* Там жа. 3. Узяцца, распачаць, пачаць. *Думаю ужэ: перш б'е ее, а далей ужэ мене́ зьмецца біць.* Бярэжцы. *Узеліса за дзело, як вошы за цело.* Сямурадцы. 4. Нечакана з'явіцца, наляцець. *Ба, с кры́ламі мура́шкі, откўля воны узя́ліса?* Дварэц. *Нейкі велікі крык узяўса.* Хачэнь. *Гроза веліка ўзела́са, выступіла хма́ра і збіла усю чысто пшэніцу.* В. Малешава. *Скуль еты мороз узяўса?* Тураў. 5. Усталявацца. *Хай озме́цца погода, то й до ве́чора вусохне.* Цераблічы. 6. Прыняцца, пайсці ў рост, вырасці. *Таке ўжэ ўзялосо жыто!* Хачэнь. *Узяліса буракі, а цыбулі нема.* Там жа. 7. Абрасці, пакрыцца. *Камень жабером узяўса.* Бярэжцы. 8. Выдаць сябе за каго-небудзь, назвацца. *Раз узяўса гры́бом — полеза́й у коробку* (прымаўка). Сямігосцічы. △ У з я́ ц ц а ж ы ц ь. Прыжыцца. *Пошла замуж да не ўзеласа жыць.* Бярэжцы. У з я́ ц ц а з а п о́ д к у. Пра добры збор мёду ў калодачным вуллі, калі вашчына дастае да пода. Бярэжцы. У з я ц ц а з а р о з у м. Паразумнець. Азяраны.

УЗЯ'ЦЬ *зак.* 1. Узяць. *Возьме́ць кошэля́ да я́йца збіра́йце.* Луткі. *Озьме́ дзесяток ее́ц да зварыць.* Хачэнь. *Воны́ рэшы́лі, коб не драпаласа сова́, узяць ее за кры́ла: одзі́н за одно́, а другі ольша́нец за друге́, і ведуць* (з казачнага апавядання, т. зв. *смехаўя́*). В. Малешава. *У нас нібыто стыд мацер под рўку узяць.* Запясочча. Схапіць, злавіць. *Думаю: цепер мене полякі не зьмуць.* В. Малешава. Купіць, набыць. *Дранто́цья гэтого дома хватае, трэба шо-нібудзь толковэ ўзяць.* Старажоўцы. Украсці, сцягнуць. *З одрыны ўзелі гусі.* М. Малешава. *Воўк із хлева́ узяў порося.* Сямігосцічы. Знайсці, набраць. *По грыбу ходзілі, да не ўзелі нічого.* Хачэнь. 2. Пачаць, стаць. *Ну, вон узяў зноў его робіць, тое поле.* В. Малешава. 3. Намерыцца, сабрацца. *Трэба узяць вўмесці контору.* Запясочча. *Узяў да уцёк оттулека.* Сямігосцічы. *Зусім оццю́ль уехалі узелі́.* Бярэжцы. Узяцца. *А ты возьмі да поеж, і будзе добрэ.* Луткі. *Во́зьмом да сыра розомнём.* Запясочча. 4. Ажаніцца. *Ходзіў, а ўзяць не ўзяў, цепер сама́ годуе дзеўку.* Цераблічы. *От узяў, куды́ тые очы гледзе́лі!* М. Малешава. *«А я хочу вашу дочкў*

*узяць»,— кажэ* (з казкі). Кароцічы. 5. Здарыцца, нечакана зрабіцца, напасці (пра хваробу). *Завóй узяў — да ўмёр чоловек.* Старажоўцы. Схапіць. *Коб цебе берэлóга узелá!* (праклён). Сямігосцічы. △ Узя́ть лíшнее. Напіцца, перапіцца. Альпень. Узя́ць за жóнку. Ажаніцца. *Мáмо, кажэ, от як я виросту, то я эту Марыну возьму собе за жонку.* Бярэжцы. Узя́ць на швóрку. Прывязаць, узяць на прывязь. *Собаку узяў на шворку да іду.* Верасніца. Узя́ць на кóська. Пасадзіць на плечы (дзіця). Альшаны. Узя́ць под нагнёт. Прыціснуць, палажыўшы груз. *Сыр узелі под нагнёт.* Луткі. Холéра (не) (в)озме. Пра шчаслівы зыход. *Холера іх озьме тых курэй!* Запясочча. Упáдкі не вóзьмуць. Тое ж. Бярэжцы.

УКАЗА'ЦЕЛЬ *м.* Указальны палец. Запясочча.

УКАЗА'ЦЬ *зак.* Паказаць. *Будзе іці, то ўкáжэм його!* В. Малешава. *Укажы́це гэтому чоловеку дорогу.* Запясочча.

УКА'ЗВАЦЬ *незак.* Указваць, навучаць. *Знаю я, шчо ты указваеш!* Чэрнічы.

УКАЛІ'ЦЦА *зак.* Забрудзіцца, замазацца. *Вон укаліўса ў гразь.* Бярэжцы.

УКАЛІ'ЦЬ *зак.* Забрудзіць, замазаць. *Ты і мене укаліў і сам укаліўса.* М. Малешава.

УКА'ПВАЦЬ *незак.* Абкапваць, абпырскваць. *Укапвае пальто.* Дварэц.

УКАРА'ЦЬ *зак.* Аштрафаваць, пакараць штрафам. *Ры́бу зобралі да шчэ укарáлі на п'ятнаццаць рублёў.* В. Малешава.

УКАСА'ЦЦА *зак.* Умяшацца. *А цепер мне укасацца, то неведóма шо будзе.* Запясочча.

УКАЧА'ЦЦА *зак.* Укачацца, вымазацца. М. Малешава.

УКВА'СІЦЦА *зак.* Укіснуць. *А вонэ́, ек кіслэ, да зробіцца холóднэ, да укваcіцца, да разом усе з сметаною, то онэ хорóшэ.* Бярэжцы.

УКВА'СІЦЬ *зак.* 1. Заквасіць, зрабіць кіслым. *Так уквасіць зовіца жур, шо óчы дзерэ́.* Верасніца. 2 *перан.* Задажджыцца. *От чорт, уквáсіло, лье і лье!* Бярэжцы.

УКІ'НУЦЦА *зак.* 1. Нечакана з'явіцца, наваліцца. *После войны голод укінуўса.* Пагост. 2. Перакінуцца, прытварыцца. *Бачыць, шчо беда, да ўкінуўса ў собаку, стаў брэхаць.* Цераблічы.

УКІ'НУЦЬ *зак.* Укінуць, кінуць. *Пойду коценя укіну у хату.* Аздамічы. *Вона* (зязюля) *дзецей не водзіць, а кому-небудзь у кубло свое ейцо укіне.* Хачэнь. *Мене укінуло у холод да узело да положыло.* М. Малешава. Усадзіць. *От, некі лёпок замесіла да ўкінула у печ.* Цераблічы.

УКІРОВА'ЦЬ *зак.* Выкіраваць, скіраваць. *Бука́ не можно укіроваць, а вон упрэцца ў куст і стоіць.* М. Малешава. *Не ўкіроваў воўк, да як даўса ў ту оле́шыну.* Цераблічы.

УКІ'СНУЦЬ *зак.* Скіснуць, укіснуць. *Да укісне вон* (квас), *да варым боршч.* Сямурадцы.

УКЛАДА'ЦЬ *незак.* 1. Укладаць, класці. *Одна воро-ня́ка прынесе́, а друга́ ўкладае у кубло.* Верасніца. *Под-ло́гу укладаюць.* Хотамель. *Укладаю спаць уну́чыка, то спеваю: «Дрэ́мкі-дрэ́мкі ў вочы́цка, а здоро́ўе ў плечы́ц-ка».* Пагост. 2 *экспр.* Есці. *Друго́го кожу́шка уклада́е, едо́к!* Пагост.

УКЛА'ДЗІСТЫ *прым. экспр.* Умяшчальны. *Укла-дзісты вон до́бро на горэ́лку.* Дварэц.

УКЛА'СЦЬ *зак. экспр.* З'есці. *Сеў на тротоары дай уклаў той окраец з тою булочкою замест сала.* Сямігосцічы.

УКЛЕПА'ЦЦА *зак.* 1. Памыліцца. *Вон з час прыгле-да́ўса, шоб не уклепа́цца.* Сямігосцічы. *Я ма́ло уклеплю́-са, з часу не вы́лезу* (пры вызначэнні часу па сонцы ці зорках). Аздамічы. Не так сказаць, агаварыцца. Там жа. 2. Уліпнуць, трапіць у непрыемнае становішча. *От уклепаўса з етымі молодзіцамі, хоць ты з'езджай!* Пагост.

УКЛІБІ'ЦЬ, УКЛІБЛІ'ЦЬ *зак.* Утлумачыць, убіць у галаву. *Як ему́ уклібіць, шоб воно́ понял́о?* Цераблічы. *Уклібілі, шоб не булі злодзе́і дзеці.* В. Малешава. *Ей трэ́ба до́брэ укліблі́ць, шоб вона розбіралаcа.* Луткі.

УКЛІБЛЯ'ЦЬ *незак.* Тлумачыць, убіваць у галаву. *Я ўсе дзіцяці слова́мі укліб́ляю, шоб не браў, то вон і не зачэпіць.* М. Малешава. *Уклібля́ць трэ слова́ ко́лішніе.* Альшаны.

УКЛЮ'НУЦЦА *зак.* Раптоўна пачацца. *До войны было добрэ жыць, але ўклю́нуласа война.* Дварэц.

УКНОВА'ЦЬ *зак.* Насварыцца, вылаяць (?). *Укно-вала я ему нема́ло!* Сямігосцічы.

УКОВА'ЦЬ *зак.* Скаваць лёдам. *Некотóрые гóды, то укуé дóбрэ морóз рэкý.* В. Малешава.

УКОЛОПЕ'ЧЫЦЦА *зак. экспр.* Выкачацца, упэцкацца. *Уколопéчыласа у гразь свіньá!* Мачуль.

УКОЛУПІ'ЦЬ *зак.* Усадзіць, упусціць. *Нóгці тыé ў воўкá, ек уколýпіць, дак знáцімеш!* Дварэц.

УКО'МАЦЬ *зак.* Умяць. *Укóмаў кожýшка, ек і не було!* Пагост.

УКОРА'ЦЬ *незак.* Дакараць, папікаць. *Чоловек буў засуджóны да цепéр укорáе её.* Запясочча.

УКОРМІ'ЦЬ *зак.* Укарміць, адкарміць. *От укорміў коня, да гладкі!* В. Малешава. *Ой, худéе сало, слáбо укорміла!* Альпень.

УКОРЫ'ЦЬ *зак.* Зрабіць закід, папікнуць. *Это просто укорыла там одна пейсáта емý.* В. Малешава.

УКО'С *м.* Укос. *Другі укос скосілі ужэ.* Цераблічы. *Другі укос — отава.* Запясочча.

УКО'СІКІ *прысл.* Хістаючыся, зігзагам. *Напіліса да ідуць по вýліцы укóсікі.* Лутκі. *Кóло пошло укосікі.* Аздамічы. *Вона ведзе укосікі, та канáва.* Цераблічы.

УКО'ЎЗАЦЬ *зак.* Выкачаць, забрудзіць. *Узела з собою коценя спаць, то так одзеяло укóўзало.* Сямігосцічы.

УКО'ХАЦЬ *зак. экспр.* Забіць. *І ў мене укохалі дзве гусé.* Пагост.

УКО'ЦАЦЬ *зак. экспр.* Тое ж. *Вон мене укоцае, бо я ужэ старá.* Хачэнь.

УКОЦІ'ЦЦА *зак. экспр.* Улезці, трапіць. *Штук восем у сéтку укоцілосо лінкóў.* Луткі.

УКОЦІ'ЦЬ *зак.* Укаціць, закаціць. *Е така рыба, шо чоловек лед у лотку укоціць.* Тураў.

УКО'ШКАЦЬ *зак. метаф.* Ашукаць, абкруціць. *О, éта Вáся цебé укóшкала б!* Запясочча.

УКРА'ДКІ' *прысл.* Крадком, скрытна, употай. *Ужэ було укрáдкі жаць ходзілі.* Цераблічы. *Украдкі пошоў к молодзіцы, шчоб ніхто не бачыў.* Аздамічы. *Украдкі корову подою.* Бярэжцы. *Украдкі давáла грóшы.* Кароцічы.

УКРАІ'НА *ж.* 1. Украіна. *Е шчэ дочкá ў мені на Украíне.* Запясочча. 2. Мясцовасць без дакладнай лакалізацыі за межамі Беларусі, куды ездзяць на заработкі. *Чэ́цверо дзецей, дóчка ўжэ замужэм, а вон шчэ ходзіць по украíнах.* Кароцічы.

УКРАСІ'ЦЬ *зак.* Аздобіць, упрыгожыць. *У ўсіх лю-*

*дзе́й картоплі не цвілі, а ў мене цвілі так, шчо усё по́ле украсілі.* Луткі.

УКРА́СЦІ *зак.* Украсці, сцягнуць. *Нехто жака́ украў, дай но́вого.* Луткі. *Укра́дзе од мене́ і попрэ́, оддасць кому.* Бярэжцы. *Зяць любіць узяць, а дочка укра́сці* (прымаўка). Тураў. *Добро укра́сці, як есць к чому прыкла́сці* (прымаўка). Цераблічы.

УКРА́СЦІСА *зак.* Падкрасціся, зрабіць крадком. *Тут гоня́юць, а там укра́дзецца, нап'е́цца молока собака і пошоў.* Луткі.

УКРО́Й *м.* Пасудзіна з клёпак на мёд. *Укрой, бу дзежа́ на мед.* Альшаны.

УКРО́М *м.* Хвоя са спілаванай ці зламанай верхавінай. Верасніца.

УКРО́МІСТЫ *прым.* Раскідзісты, са спілаванай ці зламанай верхавінай. *Поваліли тры хвоі укро́містые.* Верасніца.

УКРО́П *м.* 1. Вар, кіпень. *У рука́х плацье отожме́ш, а потым у жлукто да засыпа́лі попелом і лілі укро́п.* М. Малешава. *Прыйшоў Проко́п, кіпіць укро́п; як пры Проко́пу кіпеў укроп, так без Проко́па кіпіць укро́п* (скорагаворка). Сямігосцічы. 2. Кроп. *Укроп на градках росце для стра́ву.* М. Малешава.

УКРОПІ́ЦЦА *зак.* Абпырскацца. *Беліла хату да ўка́паласа, да укропіласа.* Запясочча.

УКРУГА́ *прысл.* Вакол, кругом. *Сповіва́ла зав'яжуць — з сарпа́нку робілі такіе, шоб укруга́.* Луткі.

УКРУГОВУЮ́ *прысл.* Кругом. Запясочча.

УКРУ́ЖКІ́ *прысл.* Тое ж. *Ро́біш пол укру́жкі ду́ба.* Цераблічы. *Пойшла́ Хрысціна укружкі.* Запясочча. *Трэба ехаць укру́жкі за гусьмі.* Чэрнічы.

УКРУ́ТКА *ж.* Мяшочак з паперы. *Даць се́мя у ўкру́тку ці ў кішэ́ню?* Дварэц.

УКРУЦІ́ЦЦА *зак.* Укруціцца, закруціцца. *Вон узяў ту шкуру, зайшоў на росходніе дорогі, лёг, укруціўса ў шкуру, лежыць* (з казкі). В. Малешава.

УКРУ́ЧВАЦЬ *незак.* 1. Укручваць, закручваць. *Паны бараніцэю ногі укручвалі.* Сямігосцічы. 2. Прыкручваць, прывязваць. *Трэбо укручваць сілегой, шоб моцно трыма́лосо.* Бярэжцы.

УКРЫВА́ЦЬ *незак.* Укрываць, пакрываць. *Вороня́кі ўкрываюць поле.* Сямурадцы.

УКРЫ'ЎДЗІЦЬ *зак.* Пакрыўдзіць, абдзяліць. *Дзеліў, дзеліў цукéрок, а себе укрыўдзіў.* Цераблічы.

УКРЫ'ЦЬ *зак.* 1. Пакрыць. *Дзерэзá — это зелье такóе жоўтовáтэ, воно укрые лён, кажуць: дзерэза напала.* Альгомель. *Мо було сто штук вутóў, ек прыгналі, то увесь двор укрылі.* Верасніца. 2. Закрыць. *І так укрые, а еслі хорошо не укрыеш, то бóхне так, як з руж'я, та бутэлька з мухомóром.* Запясочча.

УКРЫШЫ'ЦЬ *зак.* Пакрышыць. *Як не укрышыш хлеба, то не берэ молока моя целушка.* Луткі.

УКРЭПО'ЎВАЦЬ *незак.* Умацоўваць, замацоўваць. *Гэтые крукí укрэпóўваемо, шоб моцнéй було.* М. Малешава.

УКУПІ'ЦЦА *зак.* Прымазацца. *У чужэ шчасце не укýпішса* (прымаўка). Запясочча.

УКУСІ'ЦЬ *зак.* Укусіць, угрызці. *У хаце і на раз нема укусіць хлеба.* Дварэц. *От, кажэ, моя маці хлеб печэ, як укусіш, то зубы седзяць!* Цераблічы. *Е шэршэнь, двананцаць іх укýсіць, то чоловек умірáе.* М. Малешава. *Собакі укусяць, не йдзі!* Сямігосцічы.

УКУ'СНЫ *прым.* Тлусты, жырны (?). *Хвост у сомá надто укýсны, сáло однэ, як у кобанá.* Старажоўцы.

УКУ'ТАНЫ *дзеепрым.* Закручаны, ухутаны. *Положыла дзіцá укýтанэ у кольбéль.* Кароцічы.

УКУ'ТАЦЬ *зак.* Ухутаць, захутаць. *Укутай дзіця, бо змерзне.* Цераблічы.

УЛА'ДЗІЦЦА *зак.* Давесці сябе да хваробы, выбіцца з сіл. *От улáдзіласа на робóці, зáрэ хворэ́ю.* Сямігосцічы.

УЛА'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Устроіць, зрабіць нешта дрэннае. *Сам собе уладзіў — буў дождж, то охолóдаўса.* Хачэнь. 2. Дабіць, сапсаваць. *Вон твое здоройе уладзіць.* М. Малешава. Знішчыць дашчэнту. *Спаёвалі картоплі, уладзілі.* М. Малешава. *Летось уладзілі мой сад, да ўсёй сад уладзілі!* Хачэнь. Знасіць, страпаць. *Ішла, ішла, до вечора і лапці уладзіла.* В. Малешава. Змарнаваць, давесці да непрыгоднасці. *Рукі уладзіла, лён браўшы.* Запясочча. Давесці да хваробы, бяссілля, смерці. *Мене лес уладзіў, як у войну там ховаліса.* Хачэнь. Загубіць. *От сам себе уладзіў чоловек!* В. Малешава. Забіць (эўфемізм). *Кóлісь у нас чоловек прыбіў бýська, то вон прышоў у двор, прыдыбаў, шоб вон его улáдзіў.* Хачэнь. *Не, ужэ грошы забраць, то трэ́ба й чоловека уладзіць!* Ся-

мурадцы. *Война ўладзіць людзей, одно звер будзе.* Мачуль.

УЛАДОВА′ЦЬ *зак.* Уладкаваць, размясціць. *Только уладовалі худобу ў шопе, ужэ коні на току топіць вода.* Сямігосцічы.

УЛА′ЗІНЫ *мн.* Уваходзіны, наваселле. *Тепер улазіны спраўлять почалі.* Альпень.

УЛА′СНО *прысл.* Уласна. *Уласно церэз ёго не хочў жыц тут.* Запясочча.

УЛА′СНЫ *прым.* Уласны, свой. *Церэз уласну дочку поехала отсюль.* Лутні.

УЛА′СЦЬ *н.* Улада, дзяржава. *Богазно ў ее дзецей, шоб не ўласць, то не погодовала б.* Пагост.

УЛЕ′ВО *прысл.* Улева, злева. *Ек улево побачыш молодзік, гэто, кажуць, не добрэ.* Лутні.

УЛЕГА′ЦЬ *незак.* 1. Палягаць. *Дзе коровай ходзіць, там жыто родзіць, а дзе не бывае, там улегае* (з песні). Хачэнь. 2. Прыпускаць, заўзята гнацца. *Але і улягае собака за мотоцыклом, бач як попёр.* Лутні. Ганяцца, прападаць. *Я за рыбою не вельмі улёгаю.* Бярэжцы. *Вот вон за нашою Гален улегае!* Сямурадцы. 3. Настойліва дабівацца, настойваць. *Ужэ колі так ты улегаеш, шоб твой сын покінуў, то нехай.* Лутні.

УЛЕГЦІ′ *зак.* 1. Наваліцца. *На поле дзе-нібудзь як уляжэ да вўкопае яму вода, то кажуць вір.* Сямігосцічы. *Гаўрылоўна ек улегла, то вўдубіла машыну.* Лутні. *Солодушны буў, а солодўха у вочы, у голову як уляжэ, то нема рады.* М. Малешава. 2. Прыпусціць, кінуцца. *Свіньа як уляжэ зо мною, прэ і ўсе!* Лутні. *Не можно перэняць, як уляжэ корова.* Дварэц. *Як улёг за мною із друком!* Бярэжцы. 3. Панадзіцца, заўзята пачаць рабіць нешта. *Собакі там бегаюць да уляжуць і поедзяць тых вуценят.* Дварэц. *Чого ві улёглі чэрэз ноч у ту хату ходзіць?* Хотамель.

УЛЕЖА′ЦЬ *зак.* Улежаць, вылежаць. *Як это я улёжу не спаўшы?* Бярэжцы.

УЛЕ′ЖНО *прысл.* Выгодна, ёсць умовы адпачыць. *Клопот, хоць не улежно, да уежно!* (прыказка). М. Малешава.

УЛЕ′ЗЦІ *зак.* 1. Залезці, забрацца. *Дзе буваюць пожары, то туды не улезці, бо там грузке багно.* Хачэнь. *Улез у грязь, бы свінча.* Альшаны. *Рыба у жакў заліваецца, у воко улезе і зальецца.* М. Малешава. *Ек улезлі*

*воны ў Росе́ю, то там іх пом'ялі, усе под Ленінградом леглі* (пра фашыстаў). В. Малешава. *Я ў повуцье уле́зла, а повук на хустцы, то серэд недзелі і госці прыехалі* (павер'е). Дварэц. 2. Увайсці, зайсці (у памяшканне). *Звалі, звалі ў хату, то не ўлезла.* Аздамічы. *Прышлі мы ў ту школу, улезлі ўсе, нема нідзе ніко́го.* Кароцічы. *Як бога́ты ў хату уле́зе, то і ла́вочку протруць, а як бедны, то ў міскі́ посадзяць* (прымаўка). В. Малешава. 3. Перасяліцца, перабрацца (у новае памяшканне). *Только у сороковом году улезлі у ту хату.* Хачэнь. *Улезлі у свою хатку к весне́.* Кароцічы. 4. Змясціцца, улезці. *Шо я еў? Кусочок хлеба моча́ў у вадрэ́, да не ўлезло* (жарт). Д.-Гарадок. △ У с л а в у у л е з ц і. Праславіцца, вызначыцца. *Кожна жонка, усе жанчыны хоцелі у славу улезці: бога́то напра́сці, коб похваліцца.* Аздамічы.

УЛЕЛЕ'ПІЦЦА *зак. экспр.* Моцна закахацца. Пагост.

УЛЕЛЮ'ШЧЫЦЬ, УЛЯЛЮ'ШЧЫЦЬ *зак.* Улупіць, уліць. *Улелю́шчыло воды́ у се́но!* Запясочча. *Шчо улялю́шчу, то улялю́шчу, будзеш помніць.* Бярэжцы. *Як улялюшчыць дождж!* Пагост.

УЛЕЛЯ'ПІЦЦА *зак. экспр.* Зацягнуцца (пра дождж). *Дождж улеляпіцца, то еты ечмень намокне да згніе.* Пагост.

УЛЕ'ПВАЦЬ *незак.* Умазваць. *Улепвалі у серэ́дзіну.* Запясочча.

УЛЕПІ'ЦЦА *зак. экспр.* Узяць за звычку. *Уля́піўса кажну ве́сну ездзіць на цэлі́ну.* Аздамічы.

УЛЕПІ'ЦЬ *зак.* Уляпіць, усунуць. *Трэбо наскрэбсці рога́ да улепіць у хлеб, да даць корове, то не будзе уцека́ць* (павер'е). Луткі. *Улепіў бог ду́шу — ні ў пня, ні ў гру́шу* (прымаўка). Сямурадцы.

УЛЕ'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Запэцканы, замазаны. *Уся улеплена грaзе́ю.* Аздамічы. *Усе уле́плено у гліну.* Сямігосцічы.

УЛЕ'ТКУ *прысл.* Летам, улетку. *Уле́тку свето́к у нас.* Аздамічы. *Зімою — это кру́ча, а уле́тку — гроза́.* Верасніца. *Нема зімо́ю сне́гу, то не будзе улетку дождж́у* (прыкмета). Цераблічы. *Шчо улетку ного́ю, то зімою губо́ю* (прымаўка). Сямігосцічы.

УЛІ'ЦЦА *зак. метаф.* Уступіць. *Ек уліл́са ў колхоз, то цу́ркою ешчэ снопу в'язалі.* Дварэц.

УЛІ'ЦЬ *зак.* Уліць. *Трэ коту уліць, да нема баночкі.* Сямурадцы. *Ек уволье дождж осенью, то не вулезці.* М. Малешава. *От, кажэ, уліло, така́ лёя була!* Луткі.

УЛІЧЫ'ЦЬ *зак.* Улічыць, прыняць пад увагу. *Улічыў солому у мешку шчо, а ў но́шцы не улічыў.* Дварэц.

УЛОВІ'ЦЬ *зак.* Злавіць, налавіць. *Уловілі богато рыбы.* Запясочча.

УЛО'Г *м.* Рэўматызм (у коней). *Тыльмы коню обрэза́е на зіму, коб не намерза́лі, коб не буў уло́г.* Цераблічы.

УЛО'ГАСТЫ *прым.* Хворы на ногі (пра каня). Запясочча.

УЛО'ГІ *мн.* Манжэты на рукавах у футры. Альшаны.

УЛО'ГОВАТЫ *прым.* Хворы на ногі (пра каня). Запясочча.

УЛОЖЫ'ЦЬ *зак.* Укласці, улажыць. *Кольцо тэ узяла да уложыла ў платок.* Кароцічы. *Уложіў бог ду́шу — ні ў пень, ні ў гру́шу* (прымаўка). Хачэнь.

УЛО'ПАЦЦА *зак. груб.* Закахацца. *Улопаўса у тую Грыцу́лю і часіны до́ма не побу́дзе.* Верасніца.

УЛОХОВА'ЦЬ *незак.* Панстваваць, раскашаваць. *Уло́хуе век за чоловеком до́брум.* Запясочча.

УЛУ'ЧЫЦЬ *зак.* Пацэліць, папасці. *Бо ты не ўстрэліш, бо ты не ўлучыш, только жызнь мою розлучыш* (з песні). Сямурадцы.

УЛЮ'ДНЫ *прым.* Прыстойны, варты. *Хоць чоловека одбіла б улю́дного, а то абы́-шчо.* Хачэнь.

УЛЯ'ГА *ж.* 1. Брус. *Ко́лісь ба́лькі, а цепер уля́гі кажуць.* Аздамічы. 2. Прыстасаванне ў выглядзе спецыяльнага бруса з крукамі, пры дапамозе якога сцягвалі з мелі самаплаўныя судны *(гончакі, барліны* і інш.). Пагост.

УМА'ЗАНЫ *дзеепрым.* Запэцканы, брудны. Запясочча.

УМА'ЗАЦЬ *зак.* Вымазаць, запэцкаць. *Умазала горшка.* Кароцічы.

УМА'ШЫЦЦА *зак.* Перакінуцца, перабрацца. *Пройдзі коло норы, так вона ума́шэцца у друге место.* Аздамічы.

УМЕЛУ'ШЧЫ *прым.* Умелы. *Не ўсе роўные, не ўсе спраўные, не ўсе умелушчые.* Верасніца.

УМЕ'ЛЫ *прым.* Вучоны, адукаваны, спрактыкаваны. *Уме́лому рукі не боля́ць* (прымаўка). Запясочча. *Уме-*

*лые воны́, шчо умéрлі на крэшчэ́нье, одразу у рай пóй-дуць* (жарт). Цераблічы.

УМЕ'НДРЫЦЦА *зак.* Уладзіцца, умасціцца. *От ты еле умендрыўса сесці.* Верасніцы. *Не умендрыцца нідзе, то стоіць.* Луткі.

УМЕ'РЗЦІ *зак.* Замерзнуць, стаць мёрзлым. *Як вéль-мі земля́ умéрзне, посей картоплі там, на тых полёх, то не побачыш.* Аздамічы.

УМЕ'РЛЫ *прым.* Абмерлы, непрытомны (са страху). *Ву стрэлілі, то я була умэ́рлая за э́тымі дубáмі.* Дварэц.

УМЕРЦВІ'ЦЬ *зак.* Пазбавіць жыцця. *Могуць чоло-века умерцвіць ек хоч.* В. Малешава.

УМЕ'РЦІ *зак.* Памерці. *Бацюхно умёр, а я спеваю— так я тогды цяміла.* Сямігосцічы. *Уге і Паўлюк ум'ёр?* В. Малешава. *У нас одзін чоловек купаўса у чысты чэц-вер дай умёр.* Там жа. *Нічого б не хоцела, коб умéрці.* Запясочча. *Год пополучáў пéнсію, да, бедны, умéр.* Ма-чуль. Загінуць, вымерці (пра пчол). *Умерлі пчолы, ву-лей пусты.* Луткі.

Згодна з традыцыяй, толькі пра чалавека і пра пчол можно сказаць, што яны *умéрлі,* усё астатняе жывое *здыхáе.*

УМЕ'СЦІ *прысл.* Разам. *Умесці жывом з цесцем.* Аз-дамічы. *Облёнкі з я́зем умесці б'юцца у одном месці.* Там жа.

УМЕ'ЦЬ *незак.* Умець, магчы. *Умелі строіць пілу, то добро рэзалі колоды.* Цераблічы. *Добро за добрым чо-ловеком жыць, а ты за абу́-екім умей пожыць!* Стара-жоўцы. *Дай божэ усе умець, да не усе робіць* (прымаў-ка). Верасніца.

УМІ'Г *прысл.* Умомант, ураз. *Уміг зробіў.* Аздамічы.

УМІ'Ж *прысл.* Уперамешку, разам. *Уміж з лозóвымі дрóва берóзовы — другé дзéло!* Аздамічы

УМІРА'ЦЬ *незак.* Паміраць. *Жыць важко, а уміраць як хоч, то не умрэш* (пра старэчае жыццё). Сямурадцы. *Колі не уміраць, то дзень церáць* (прымаўка). Сямігос-цічы. *Умірáе не хто худ, а ўмірае, кому суд* (прымаўка). Пагост.

УМІРУ'ШЧЭ *н.* Смерць, паміранне. *Вупісалі його з бóльніцы на умірушчэ.* Сямурадцы.

УМЛЕ'ЦЬ *зак.* 1. Самлець, абамлець, страціць пры-томнасць. *Умлéць можно от чáду.* Аздамічы. *Умлеў от*

*страху.* Там жа. 2. Распарыцца, разбухнуць. *Ла́дкі умлеюць у печэ́ да смашные.* Дварэц.

УМО'КНУЦЬ *зак.* Змокнуць, намокнуць. *Була́ на огоро́дзе да умо́кла, умо́кла!* М. Малешава.

УМОЛО'Т *м.* Умалот. *Грэчка і мала́, да умолот е.* Цераблічы. *Грэчка под год ма́е до́бры умолот.* Там жа.

УМО'Р *м.* △ На умор (біць). Да смерці, на смерць (біць). *Гусі одно гусеня на умор б'юць.* Цераблічы.

УМОРА'ЖВАЦЦА *незак.* Замарожвацца, замярзаць. *Вода з лесоў цеплейша і не так умора́жваецца.* Верасніца.

УМОРО'ЗІЦЬ *зак.* Умарозіць. *Уморозяць ко́ло у лёд і вінду́юць.* Цераблічы.

УМОРЫ'ЦЦА *зак.* Змарыцца, стаміцца. *Ты ужэ уморыўса, поседзі!* Старажоўцы.

УМОСЦІ'ЦЦА *зак.* Прыладзіцца, прымасціцца. *От, хочэ умосціцца коло дзеда і бабы.* Цераблічы.

УМО'ТЛОХ *прысл.* Ушчэнт, дашчэнту. *Порваў умотлох.* Аздамічы. *А прошлу ноч воўкі з'елі лошо́нка, з'елі умо́тлох.* Верасніца.

УМОЧЫ'ЦЦА *зак.* Намачыцца, намокнуць. *Трава така́, умо́чысса по по́ес,— нешчаслі́ва іх прэ на лён!* Луткі.

УМУДРОВА'ЦЬ *зак.* Схітрыць, ухітрыцца. *Ёўхім і ў войне умудроваў да не буў на фронці.* Старажоўцы.

УМУ'РЗАНЫ *дзеепрым.* Замурзаны, запэцканы. *Ох, му́рза, умурзаны, не му́есса!* В. Малешава.

У'МУ'СНЕ *прысл.* Наўмысна, спецыяльна. *Умысне зробіў.* Мачуль. *Умы́сне.* Запясочча.

УМУ'ЦЦА *зак.* Умыцца. *Устань да умы́йса, да байкі бай лю́дзям!* Хачэнь.

УНАГО'Н *прысл.* Наўздагон. *А хлопцы унаго́н за ім!* М. Малешава.

УНА'ДЗІЦЦА *зак.* Унадзіцца, узяць звычку. *Уна́дзілас моя корова ў оўёс, вона ужэ запута́ла его.* Луткі. *Уна́дзіўса к дзеўцы ходзіць да не отчэ́піцца.* Аздамічы. *Уна́дзіліса ла́зіць, горо́х увесь зоглумілі.* Запясочча.

УНА'ДЗІЦЬ *зак.* Звыкнуць, узяць звычку. *Уна́дзіла, коб цебе́!* (на свінню). Сямігосцічы.

УНА'ЗІРКІ *прысл.* Прыглядваючыся. *Трэ ўна́зіркі жыць, не ззаду і не спе́рэду: зза́ду — смея́цімуцца, спе́рэду — надорве́шса.* Пагост.

УНЕДА'НЫ *прым.* Няўдалы. *От унеда́нэ дзіця, сухэ́, не росце.* Сямігосцічы.

УНЕ'СЦІ *зак.* Унесці, прынесці. *Унесі ў хату стаў да бу́дам навіваць кро́сна.* М. Малешава.

УНЁ', УНЁО' *часц.* Вунь, вунь там. *Унё корова, о!* Бярэжцы. *Унёо.* Запясочча.

УНІ'З *прысл.* Уніз. *А онэ з горы́ да ўніз!* Пагост. *Дале з боку ужэ, зноў перэкруціласа, ужэ моя голова пошла ўніз, а ногі угóру.* Мачуль. Уніз па цячэнню. *Лодка плыве ўніз.* Верасніца.

УНІЗУ' *прысл.* Унізе. *А тут унізу нема ўжэ зубо́ў.* Пагост. *Унізу́, у доліні прыцяга́е гром.* Сямігосцічы.

УНІ'М *м.* △ Без уніму. Бесперапынна. *Говору́ без уніму.* Запясочча.

УНІ'ШКНУЦЬ *зак.* Заціхнуць. *Цепер вона ўжэ уні́шкла, а то ра́ды не было.* М. Малешава.

УНІ'ШЧЫЦЦА *зак.* Прыціхнуць, сцішыцца. *А вон собе уні́шчыўса і седзіць — мо спіць?* Луткі.

УНО'ВО *прысл.* Нанава. *Дава́й уно́во рожжыва́цца после войны́.* Старажоўцы.

УНО'СЛІВУ *прым.* Злапамятлівы. Луткі.

УНОЧЭ' *прысл.* Уночы, ноччу. *Уночэ́ на Піцкого я́ме зашэ́рхло.* Сямігосцічы. *Уночэ́ хло́пцы ўсю клубні́ку порва́лі, пом'я́лі.* М. Малешава.

УНУ'К *м.* Унук. Запясочча.

УНУ'КА *ж.* Унучка. *Это унука моя, сынова дзёвочка.* Старажоўцы. *Моя уну́ка бацька не бачыла і не зна́е.* Сямігосцічы. *Прыходзіла з уну́кою.* Запясочча.

УНУ'КОЎ *прым.* Унукаў. *Уну́ковых дзеце́й догледа́ю.* В. Малешава.

УНУ'РЫСТЫ *прым.* Натурлівы, упарты. Верасніца.

УНУ'РЫЦЦА *зак.* Панурыцца, апусціць галаву. *Унурыўса і седзіць, нічого не говорыць.* Рыдча. *Унурыўса ў кніжку.* Альшаны.

УНУ'РЭНЫ *прым.* Пануры, змрочны. *Як не ву́п'е, то ўжэ уну́рэны хо́дзіць.* Тураў.

УНУЧА'ТА *мн.* Унукі. *У мене унучата і праўнучата ужэ большые.* Сямігосцічы.

УНУЧЭНЯ' *н.* Унучак, унучка. Бярэжцы. *Памянш.* унучэня́тко. *Унучэнятко, сва́ха, твое́?* Луткі.

УНЫВА'ЦЬ *незак.* Сохнуць, усыхаць, чахнуць. *Унывае хвоя, бач ека́ зробіласа.* Цераблічы. *Чоловек унывае, шо покінула жонка.* М. Малешава. *Унушы́ў собе́, то уны-*

*вае*. Там жа. *Осіну ек обцерэ́бваеш, остае́цца сучо́к, вон то́ўсты, а пото́м уныва́е*. Старажоўцы.

УНЫ'РЫЦЦА *зак*. Унурыцца. Бярэжцы.

УНЫ'ЦЬ *зак*. Усохнуць, высахнуць, страціць жыццёвыя сілы. *От ужэ уныла, над гэтой машыною се́дзя!* Кароцічы.

УНЬ *часц*. Вунь. *Унь то ролья́, а там бор*. Цераблічы.

У'НЬНЕНЁ *часц*. Тое ж. *Уньненё дзе вон!* Пагост.

УОБЕ'ДА *прысл*. Пад абед, у полудзень. *Прышоў уобе́да з рэкі*. Хачэнь.

УПАДА'ЦЬ *незак*. Упадаць, уліваццa. *Пры́пець, тому шо тры п'яць рэчо́к упада́е*. В. Малешава.

УПА'ДОК *м*. Згуба, страта. *Упадок бува́е ў хазя́йстві: упа́дкі у свіня́х стары́х, або поросятка ву́мерзлі — то упа́док*. В. Малешава. Паморак, пошасць (у праклёнах, лаянцы). *Кыш, шчоб вас упадок побраў!* Альпень. *Бежы́ш — бежы к упа́дку!* Лутmedian. *Ну, на упа́дка гэтые соба́кі?!* Мачуль. *Упадок его ве́дае, шчо вон за чолове́к!* Там жа. *Упа́дкі цебе не во́зьмуць!* Бярэжцы.

УПАКОВА'ЦЬ *зак*. Утаптаць, уперці. *Кухайку упакова́ла ў гразь*. Сямігосцічы. *А вон усе упаковаў у тую бу́дку*. Хачэнь.

УПА'РТО *прысл*. Упарта, настойліва. *Як захочэ упарто, то справіць*. Дварэц.

УПА'РТЫ *прым*. Упарты. *Вот упарты, хоць колка́ гостры́ на голове́*. М. Малешава. *Вон такі неупрошо́ны, упарты такі!* Аздамічы. *От вона упарта, нату́рліва, анішчо́ не хочэ послу́хаць*. Бярэжцы. Настырны. *Упартэ дзіця було, бушоўні́к буў, по́дскаком бегаў*. Бярэжцы.

УПА'РЦІЦЦА *незак*. Праціўіцца, упарціцца. *Бацько упарціцца, не пускае ехаць туды*. М. Малешава. *Вона упарціцца і есць не есць, така́ нічо́га дзе́ўка*. Там жа.

УПА'РЫЦЦА *зак*. 1. Упрэць, разварыцца. *Ек упа́рацца я́блука, то воны м'я́ккіе*. Хачэнь. 2 *перан*. Спацець. Аздамічы.

УПА'СЕНЫ *дзеепрым*. Укормлены. *Лось такі упасены, велікі*. Альшаны. *А шчо ему, упасеному быку́, робіць?!* Цераблічы.

УПА'СЦІ *зак*. 1. Упасці, зваліцца. *Учоро за дзень мало упало яблок*. Хачэнь. *Не ідзі, шчэ упадзе́ш у во́ду!* Дварэц. *Хлеб як упадзе з рукі, то кажуць: нехто голо́дны спешыць додо́му*. Луткі. *Прышоў Петро́к, упаў лісто́к, а як прышоў Ілья́, то упало два* (прымаўка). Кароцічы.

*Упала баба з горы́, чорт ее беры* (прымаўка). Старажоўцы. 2. Паваліцца. *У мене уся загородзь упала.* Сямурадцы. *Добро мало́му падаць, беда старо́му упа́сці* (прыказка). Кароцічы. 3. Прызямліцца, сесці. *На болотцы да на чыстом упалі вэселцэ́.* Рубель. 4. Спасці. *Вода упала, скоро почном на болоці косі́ць.* Пагост. 5. Зайсці, апусціцца. *Вон не гледзіць, шоб скорэй сонцэ ўпало, а шоб доўжэ́й було́.* Старажоўцы. 6. Здохнуць. *Та корова упала, а эта покры́ласа.* Луткі. 7. Папасці, трапіць. *Любэ́е зверá могла упáсці ў воўкоўню.* Мачуль. *Качка упала ў пругло́.* Альпень. 8. Выпасці, здарыцца. *Шчо ж мне упадзе́ на кáрты, побáчу от.* М. Малешава. *Такіе прыпáдкі упаду́ць, шо нема, шо хот ты шо хоч робí.* В. Малешава. 9. Выпасці, пайсці (пра дождж і інш.). *Дожджэ́ упаду́ць, то й се́но бу́дзе.* Цераблічы. *Буў некі снег упаў, екрáз перэд Міко́лою.* Хачэнь. *З весны́ одзін дождж упаў.* Запясочча. *Поро́шка упадзе́, собірáюцца на охо́ту ісці́.* Бярэжцы. *Упаў іней.* Луткі. *Такая него́да упала.* В. Малешава. 10. Напасці, наваліцца. *Ко́ршак упаў на ку́ры.* Хачэнь. *Екá-то ву́сень була упáла на лён.* Луткі. *Ек упалі тые оводы, так волы́ уцекáць!* Там жа. *Нека ленá упала на нас, ленуюса дзело робіць.* Цераблічы. △ У п а с ц і д у х о м. Прыйсці ў роспач, адчаяцца. *Упала духом по сыночку, не хочэ жыць.* Чэрнічы. У п а с ц і з д у б а. Нечакана з'явіцца. *Вон з дуба не упаў — е ж родня нейкая.* Луткі.

УПАСЦІ' *зак. метаф.* Падпільнаваць. *Нехто ў Рэчы́цы його ўпас да узяў убіў.* В. Малешава.

УПАХА'ЦЦА *зак.* Прапахнуць. *Воно ж у печэ упахáецца ды́мом, лепш на газу́ вары́ці.* М. Малешава.

УПАХА'ЦЬ *зак.* Вырасціць. *Усю картошку з'едзяць, шо я упахáў, тые свіньа.* Мачуль. *Трэба сто пядзесят пудо́ў хле́ба ўпахáць.* Хільчыцы.

УПА'ШЧОНЫ *дзеепрым.* Адкормлены. *Цэлы рублёвáты, упáшчоны, у кружкі.* Любавічы.

УПЕ'ЙКАЦЬ *зак. экспр.* Загубіць, згубіць. *Упейкала фрэнч.* Бярэжцы.

УПЕКЦІ' *зак.* Выпячы, спячы. *Шоб упекці шо смачнэ.* Пагост. *Упеку сама на весе́лье пірогí.* Там жа.

УПЕКЦІ'СА *зак.* Уесца, надакучыць. *Вот упёкса — на нічо́гого так кажуць.* Аздамічы. △ У п е к ц í с а з а г о́ р к у я́ г о д у. Страшэнна надакучыць. *І трэ́ба ж так упекцíса за го́рку я́году!* В. Малешава.

УПЕ́РВЕ *прысл.* Упершыню. *Упе́рве чую.* Запясочча.

УПЕ́РВО *прысл.* Спачатку. *Пота́пцы едзя́ць уперво на по́мінках.* Цераблічы. Першым разам. *Стоўкла ступу уперво.* Верасніца.

УПЕ́РЦІ *зак.* 1. Уперці, усунуць. *О таку коло́дку одному чоловеку за ноч уперлі ў коло́дзедзь.* М. Малешава. *Аж уперло такого сома, мо кілограмоў п'яць.* В. Малешава. 2 *перан.* З'есці. *Гладышку молока вопрэш с хлебом дай пошоў!* В. Малешава.

УПЕ́РЦІСА *зак.* 1. Уперціся, натужыцца. *Волы́ як вопру́цца, оно́ сопу́ць!* В. Малешава. 2. Заўпарціцца. *Бацькі уперліса, не хочуць ее отдаць.* Лутні. △ У п е́ р ц і с а б ы ч о р т у г р э́ б л ю. Пра ўпартасць, настырнасць. *Увопрэ́цца бы чорт у грэблю, упарты такі.* Аздамічы.

УПЕ́РЫЦЬ *зак. экспр.* Даць, урэзаць. *Уперыў дождж до́брэ.* Лутні. *Лну цэлы гектар уперыў, шоб я полола.* В. Малешава.

УПЕРЭ́Д, УПЕРО́Д *прысл.* 1. Наперад. *Назад не йдзе, толькі уперэд.* В. Малешава. *Уперод попхні воза.* Аздамічы. *Уперэд поехаў.* Там жа. 2. Спераду, папярадзе. *Чоловек бежыць уперэд.* Запясочча. 3. Раней, упярад. *Уперод за́сухі такое не було, як заре.* Пагост. *Шоб уперэд сказаў, то мо б пошла.* Тураў. *Повёз змолоць у Ольша́ны, а уперэд возілі ў Ма́лешоў.* Сямігосцічы. *На дзень уперод почалі косіць.* Аздамічы. Спачатку. *Бувало, світку у хату укінеш, коб блохі улезлі, да потом выкінеш.* Аздамічы. *Грыбу булі паказаліса ўперэд, дзе нарве́шса, то наберэш.* Пагост. Даўней. *Уперэд було богато гэтых прочок.* Хачэнь. *Уперод, у первых века́х, чэрэпкі не такіе булі, як у нас.* Пагост. *Уперэджэ́й кладоўшчык буў добры.* Лутні. 4. Загадзя. *Нічого не стараюцца уперэд.* Сямурадцы. 5. У будучым. *Уперэд его сцерэжыса!* Аздамічы.

УПЕРЭДЗЕ́, УПЕРЭДЗІ́, УПЕРЭ́ДЗЬ *прысл.* 1. Спераду. *Вон уперэдзе́ буў, больш вуроба́тваў ка́жны год.* Сямігосцічы. *Ідзе уперэдзі́ воўк, ге поглэдзе́ў і пошоў у корчы́.* В. Малешава. *Одного́ ззаду покінуў, а дру́гого упере́дзь.* Запясочча. 2. Напярод. *Ты ж не знаеш уперэдзе́, ека будзеш ты.* М. Малешава.

УПЕРЭ́ДОК *прысл.* Раней, упярод. *Уперэдок кіна не було ў клубе.* В. Малешава.

УПЕРЭ́К *прысл.* Упоперак. *Уперэк загона на прыго-*

*ло́вачы посеялі картоплі.* М. Малешава. *Як уперэк жнуць, то кажуць: по́стаць жнуць.* Дварэц. *Уперэк перэрэ́заць трэба.* Аздамічы.

УПЕРЭ'КІД *прысл.* Скасабочана. *Гру́бка стоіць уперэкід, обе́рнецца.* М. Малешава. *Як ду́нуў вецер, так той стог уперэ́кід.* Луткі.

УПЕРЭ'КІДКУ *прысл.* Куляючыся, стрымгалоў. *Уперэкідку дзеці перэкіда́юцца.* М. Малешава. *Ек даў ему, то вон полецеў уперэкідку.* Там жа.

УПЕРЭМЕ'ШКУ *прысл.* Упярэмешку. *Уперэ́мешку добро з'есць.* Аздамічы.

УПЕ'ЎНІЦЦА *зак.* Дамовіцца, атрымаць згоду. *Упе́ўніўса й пошоў.* Аздамічы.

УПЕ'ЦКАЦЦА *зак.* Запэцкацца. *Упецкаўса у гразь, угнусіўса.* В. Малешава.

УПІВА'ЦЦА *незак.* Упівацца, прысмоктвацца. *П'еўга́ не ухопіць, шоб укусіла, вона як улезе, то ўпіваецца туды, да ўжэ як оторве́ш, то крыве́ ко́лько вульецца.* Хачэнь. *Клешч упіваецца ў цело, дзе м'якчэйшэ.* Старажоўцы.

УПІКУ'ЛІЦЬ *зак. экспр.* Моцна ўкусіць, уцяць, урэзаць. *От пчола́ упіку́ліла за нос!* Сямігосцічы. Падкусіць, даняць. *От ліхо его голове́, упікуліў так, шчо і се́рца не хватае, хоць ты плач.* Бярэжцы. *От упікуліць, скажэ: таке ўрэднэ.* Альшаны. Утаропіць. *Чого ты очы ўпікуліў?* Рэмель.

УПІЛІ'ЦЦА *зак. экспр.* Утаропіцца. *Упіліцца ў однэ́, у кніжку дай седзіць.* Альшаны.

УПІНА'ЦЦА *незак.* Упірацца, падходзіць блізка. *Ве́йка упінаецца о сюды́.* Старажоўцы.

УПІ'ТЫ *дзеепрым.* Які стаў алкаголікам. *Вон упіты, вон екі год ужэ п'е.* Дварэц.

УПІ'ЧЫЦЦА, УПІ'ЧКАЦЦА *зак.* Усунуцца, улезці. *От народу, не можно упічыцца.* Цераблічы. *Не упічкаюцца ўсе ў тобус.* Пагост.

УПЛА'Ў *прысл.* Уплаў. *Уплаў коро́вы пошлі.* Аздамічы.

УПЛЕ'НІ'ЦЦА *зак.* Прывязацца. *Блізко к корова́м не подыходзь, бугай упле́ніцца.* Пагост. *Эта свіньҗ як упленіласа за намі!* Верасніца.

УПЛЕСЦІ'СА *зак.* Уплесціся, заблытацца. *Ву́тва на во́ду садзіцца да сама туды у тую сетку уплеце́цца.* Це-

раблічы. Учапіцца, прычапіцца. *Пчолá як уплетецца, то не мóжны отогнáцца.* Альпень.

УПЛЕ'ТКА *ж.* Стужка, каснік. *Уплёткі ў кóсы.* Лутківі.

УПЛЁ'ХАЦЦА *зак.* Абхляпацца, абпырскацца. Пагост.

УПЛО'Д *м.* Ураджай. *З гэ́стой гарбузы́ зёрнета даюць дóбры ўплод.* Цераблічы.

УПЛУ'ЦЬ *зак.* Заплысці, трапіць. *Сомóк уплоў у цéнето.* Аздамічы.

УПЛЮ'СКАЦЦА *зак.* Уцерціся, улезці. *Уплюскаўса ў цэ́ркоў стáростою.* Дварэц.

УПОВА'ЦЬ *незак.* Звяртаць увагу, прымаць пад увагу. *Я негодзя́шча, а ніхто не уповáе на тэ.* Луткі. Разлічваць (?). *Не уповай на урожай, а жыто сей* (прымаўка). Дварэц.

УПОДОБА'ЦЬ *зак.* Упадабаць. *Вона ўподобала тое место да росте́!* Рубель.

УПО'ДСКАК *прысл.* Галопам, наўскапыта. *Уподскак коні лецяць.* Сямурадцы.

УПОІ'ЦЬ *зак.* Упаіць, напаіць да беспрытомнасці. *Іх упоíла, дóбрэ упоíла, а самá не п'е* (з казкі). Кароцічы.

УПОКО'Т *прысл.* Покатам, упокат. *Усе поля́гуць упокóт на полу́: чоловéк, кабéта, дзéці, дзéду, бáба.* Цераблічы. *Спáлі упокóт однэ́ поўз однэ́, кóжнэ по собé.* Аздамічы.

УПОЛЕ'ТУ *прысл.* Летам, улетку. *Уполету ходзілі праць на озеро, а зімой — у полóнку.* Луткі. *Гэто такі чоловек, шо воды холодное не дасць уполету.* В. Малешава. *Я свою Надзю родзіла уполету.* Хачэнь.

УПОЛОВІ'НУ *прысл.* Напалавіну; удвая (?). *Солóменна кры́ша уполові́ну лу́чшэй за шыферну.* Верасніца.

УПОПЕРЭ'К, УПО'ПЕРОК *прысл.* Упапярок. *Зложыў упóперок.* Луткі. *Упоперэ́к трэба бороноваць пашню́ — жы́то, пшэніцу, оўёс, ечмень, просо.* Там жа.

УПОРА'ДКОВАЦЬ *зак.* Прывесці да ладу, дагледзець. *Упорадковаў ужэ, кончыў роботу.* Запясочча.

УПОРАДКО'ЎВАЦЬ *незак.* Прыводзіць да ладу, даглядаць, упраўляцца. *Пошлі свою жывёлу упорадкоўваць.* Запясочча.

УПОРА'НУ, УПОРА'НО *прысл.* Зранку, рана, раніцай. *Пропáла ку́рочка, то ж упорáну шчэ була.* Дварэц. *Упорано не хочэцца éсці.* Запясочча. *Упорану замесяць*

*коровай.* Бярэжцы. *Цвіце доўго упорано, а далей заплюшчваецца тая мацiёла.* Старажоўцы.

УПО'РОВЕНЬ *прысл.* У адзін бок, галава да галавы. *У кольбель клалі упоровень дзецей.* Пагост.

УПОРОЖНЕ' *прысл.* Паражняком. *Вон упорожне поехаў за вамі?* Сямігосцічы.

УПОСЛЕ'ДКУ *прысл.* Потым, пасля. *Одўмаўсь упослёдку і назад зобраў, і зара жыве з ёй.* Аздамічы.

УПО'ТАЙКІ' *прысл.* Употай, тайком. *Употайкі робіць дзёло.* Аздамічы. *Стоіць употайкі, слўхае, ці нема мужчыны у хаце.* Дварэц.

УПО'ЦЕМКУ, УПО'ЦЕМКАХ, УПОЦЁ'МКІ *прысл.* Папацёмку. *Упоцемку цёрлі лён коліась.* В. Малешава. *Упоцемках копаецца.* Аздамічы. *Упоцёмкі седзіш?* М. Малешава.

УПОЦЕ'ЦЬ *зак.* Спацець, пакрыцца потам. Аздамічы.

УПОЦІ'ЦЦА *зак.* Тое ж. *Ек чоловек упоціцца, то пчолы на его гамузом.* Цераблічы.

УПРА'ВІЦЦА *зак.* Справіцца, здолець. *Вон не ўправіцца ее понесці.* В. Малешава. *Кажуць, шо гадзюка як вувoдзіць, то залезе на голінку і хватае дзецей, которого не ўправіцца, то той будзе жыць* (павер'е). Старажоўцы. Управіцца, ухадзіцца. *Не управіўса з сеном у погоду, да дожджэ пошлі.* Луткі.

УПРА'ВІЦЬ *зак.* Дагледзець. *Упраў гэтые свінья, да целя, да корову подой.* Луткі. *Коб Олена управіла свое п'яць штук дзецей.* Сямігосцічы.

УПРА'ВО *прысл.* Справа, управа. *Управо возеро Кострўбель.* Сямігосцічы. *Ек побачыш молодзік управо або прамо — гэто, кажуць, добрэ* (павер'е). Луткі.

УПРАВОВА'ЦЬ *зак.* Укіраваць, скіраваць. *Вола не ўправўеш, его ласка — по дорозе йдў, его ласка — у рэку везў.* Дварэц.

УПРА'ТАЦЬ *зак. экспр.* Украсці, узяць. *Хто упратаў мешок?* М. Малешава.

УПРАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Даглядаць. *Вечор, упраўляй хозяйство, корову дой, свінья кормі, вутвы зажэні, дзёці покормі і спаць покладзі.* Луткі.

УПРА'ЎНЫ *прым.* Спраўны. *Упраўны і так вон, ему не трэба помогаць.* Старажоўцы.

УПРОЛО'М *прысл.* Напралом, не зважаючы ні на што. *Кўры йдуць упролом у город.* Верасніца. Нахабна,

насуперак усяму. *Упролом еду, не боюс і берý дрóва.* Хотамель. Без увагі. *Мы ёгó не рвом, тое зелье, воно так ідзе, упролом.* Хачэнь.

УПРОСІ'ЦЬ *зак.* Упрасіць, умаліць. *Шо то за дзеці, і не упросіш іх узяць* (пачастунак). Запясочча.

УПРО'СЦІ *прысл.* Напрасткі, напрасцяк. *Іці ўпросці, то болядь косці* (прымаўка). Аздамічы.

УПРО'СЦЬ *прысл.* Напрост, не звязваючы ў снапы. *Зжаў упросць просо.* Аздамічы.

УПРО'ЦІЎ *прыназ.* Насупраць. *А той канавою упроціў воды́ трэба ехаць.* Луткі.

УПРО'Ч *прысл.* З дому, прэч. *Заплачэ і пойдзе упроч, ек посварыцца з чоловéком жонка.* Цераблічы.

УПРО'ЧКІ *прысл.* Тое ж. *Молодзіца ідзе к своей мацеры от чоловека упрочкі.* Запясочча.

УПРУ'ДЗІЦЦА *зак.* Намачыцца ў ложку (пра дзіця). *От, упрудзіўса, да несі сушыць сельнікá, усе шмацьé, дзерýгу.* Луткі.

УПРЫКЛА'ДКУ *прысл.* Спосаб пляцення. *Упрыкладку кóшыка плеце.* Запясочча.

УПРЫ'ПУСТ *прысл.* Непасрэдна з застаронка. *Коні, як е у ходзяіна, упрыпуст едзяць сено.* Аздамічы.

УПРЫ'СЕДКІ, УПРЫ'СЕДКУ *прысл.* Упрысядкі, прысядаючы. *Трэ упрыседкі прысесці, картоплі лупіць.* Луткі. *Едзь з горы упрыседкі* (на санках). Хачэнь. *Скачэ упрыседку.* М. Малешава. △ П о й ц і у п р ы с е д к і. Пайсці ў скокі. *Узяўса за слона да ек пойдзе упрыседкі!* Верасніца.

УПРЫ'ШЧЫЦЬ *зак.* Улупіць, ударыць. Старажоўцы.

УПРЭВА'ЦЬ *незак.* Разварвацца, рабіцца мяккім. *М'ясо со старое корову не ўпрэвае.* Сямурадцы.

УПРЭ'ЦЬ *зак.* Разварыцца, зрабіцца мяккім, набухнуць. *Каліны роспарыць, воны упрэюць і такіе хорошые!* Чэрнічы.

УПРЭШЧА'ЦЬ *незак.* Забараняць. *І зроду ніхто не упрэшчаў того робіць.* Луткі.

УПУНІ'ЦЬ *зак.* Спыніць, затрымаць, не пусціць. *А ты іх упуніш піць?!* Верасніца. *Хай упыняць тые вучоные, як ідзе дождж!* Луткі.

УПУ'РЫЦЦА *зак.* Апусціць вочы. *Упурыласа і на нікого не гледзіць.* Азяраны.

УПУСТО'ПАШ *прысл.* △ П о й ц í у п у с т ó п а ш. Застацца без нагляду, прыйсці ў запусценне. *Ек узелі*

*тых хазяінóў, то ўжэ і мéльніцы тые пошлі ўпустопаш.* Старажоўцы.

УПУСЦІ'ЦЬ *зак.* Выпусціць. *Жáба зовуть тогó, шо упýсціць м'ячыка.* Альпень. △ Упусціць у шýлу. Замацаваць канец бервяна ў шуле. Аздамічы.

УПУ'ШЧОНЫ *прым.* Запушчаны, закінуты. *Дзе земля упушчона, там даюць участок, то людзі вýробяць.* М. Малешава.

УРА'Г *м.* Вораг, непрыяцель. *Собé ўраг, жывé урагóм самá собé, éсці шкодýе.* Дварэц. *На урагóў кáзано* (засцерагальная формула). Азяраны. *Скочы́, урáжэ, ек пан скáжэ* (прымаўка). Чэрнічы.

УРАДЖА'ЦЬ *незак.* Упрыгожваць, прыбіраць. *Ураджáюць коровай на веселы і несуць на стол до молодое.* М. Малешава.

УРА'ДЖВАЦЦА *зак.* Прыбірацца, прыхарошвацца. *Я любіцель сама ўраджвацца.* Сямурадцы.

УРАДОВУ'Ю *прысл.* У адзін рад, шарэнгай. *Хáты ўрадовую стоялі коліcь.* Хачэнь.

УРА'З *прысл.* Умомант. *Вона ураз свет потушы́ла.* Цераблічы.

УРА'ЗІЦЦА, УРА'ДЗІЦЦА *зак.* Надарвацца. *Урáдіцца можно, як тяжко брать.* Хотамель.

УРА'НО *прысл.* Раніцай, ранкам. *Да нешчо ў лесі ў недзельку урано гукáе, бацько дзецей шукае* (з песні). Сямурадцы.

УРОБІ'ЦЦА *зак.* 1. Стаміцца, змарыцца. *Урóбісса так, як певень.* Бярэжцы. 2. Запэцкацца, забрудзіцца. *Вельмі уробíўса.* Аздамічы.

У'РОВЕНЬ *м.* Грунтвага, ватэрпас. Аздамічы.

УРО'Д *м.* 1. Тое, што родзіць, дае добры ўраджай. *Чым хрэн не урод, да сеяць не бýдам* (прымаўка). Запясочча. 2. Спадчыннасць, род. *Рабоціны по урóду е ў людзéй.* Сямурадцы.

УРО'ДА *ж.* 1. Парода, склад цела, канстытуцыя. *От урода плотная ў ёгó.* Сямурадцы. 2. Ненармальны чалавек, вырадак. Бярэжцы.

УРО'ДЗІ *прысл.* Здаецца, як быццам. *Уродзі вон пошоў.* Аздамічы. *Вонэ уродзі так лецело.* Пагост. *Цягнеш, уродзі ніхто не бачыць.* В. Малешава.

УРОДЗІ'ЦЬ *зак.* 1. Нарадзіць. *Шо ж мне робіць, як я дурня уродзіла?* Хачэнь. 2. Зарадзіць, даць ураджай. *Уродзіло, як росы́, яблок.* Аздамічы. *Хорошые яблука*

*уродзілі, шо й собе й суседам хапало.* М. Малешава. *Як только уродзіць, то будзе.* Сямурадцы.

УРОДЛІ′ВУ *прым.* Урадлівы, ураджайны. *У Во́глемлі булі поля́нкі ўродлі́віе, а так болото, да таке болото, шо не ву́лезці.* В. Малешава. *Туроўшчы́на са́ма уродлівейша.* Любавічы. *Уродлівы год на ўсе чысто, шчо на свеці е.* Лутні. *Квасоля уродліва, стру́ч'е вісіць бага́то.* Цераблічы. *Ек по́хмаркі по небу ходзяць, то гарбузы́ добрэ уродлівы будуць.* М. Малешава.

УРОЖА′Й *м.* Ураджай. *Урожай, шчо с поля лезе.* Аздамічы. *Як на рожэство бывае навісь, то добры урожай буде* (прыкмета). Альпень.

УРО′ЗВАЛ *прысл.* Перавальваючыся. *Ідзе урозвал.* Аздамічы.

УРО′ЗНАК *прысл.* У памяці, памятна. *Будзе век урознак, ек му грыбоў набралі под радка́мі, здоровые, ек рэ́піна.* Цераблічы. *Як малы́ буў, то пам'ятаецца, а як цепер робіш, то й забуў. А малому ўсе ўрознак.* Лутні. *Шчэ мне трошкі ўрознак, шчо его веселье було.* Там жа. *Мне сегоння урознак, шо я там буў.* Там жа.

УРО′ЗНЬ *прысл.* Асобна, у розныя бакі. *Гузырэ́ кладуць урознь, шоб лу́чшэ сохлі.* М. Малешава.

УРО′КІ *мн.* Урокі, хвароба або няшчасце ад дрэннага слова ці думкі. *Е подзі́ў, то з очэ́й, а урокі — то друга́ болезнь. Беня шэптаў і урокі і божэ ліхо.* Сямігосцічы. *Урокі, бо нехто зуро́чыў.* Бярэжцы. *Соль тобе ў очы, а дзіцяці без уроку* (замова супраць ліхога вока). Старажоўцы. △ Р о б і ц ь у р о́ к і. Уракаць. *Ідзе і робіць урокі — берэ ву́голь і кі́дае у во́ду да шэпчэ.* Альшаны.

УРОСІ′ЦЦА *зак.* Абрасіцца, вымакнуць ад расы. *А я учора ходзіла по зелье дай уросіласа ў кукурузе.* Сямігосцічы.

УРОСІ′ЦЬ *зак.* Абрасіць, намачыць у расе. *По городзі ходзіла, халата́ уросіла* (з песні). В. Малешава.

УРОСКО′Т *прысл.* Уроскідку, вольна, далёка адзін ад аднаго. *Дзеці уроскот лягуць на полу і роскошу́юцца.* М. Малешава.

УРО′ССЫП *прысл.* Уроссып, асобна, не разам. *Холера іх подгоніць з огорода — усе ціпленя́та ўроссып.* М. Малешава.

УРОСЦІ′ *зак.* 1. Змагчы вырасці, развіцца. *Пешчова́ полянка, ніяка зеліна не уросце́.* Запясочча. 2. Урасці,

урэзацца, шчыльна прыліпнуць. *Тые штаны урослі ў ёго.* Луткі.

УРО′ЎНЕ *прысл.* Нароўні. *Пруточок узрўзне да уроўне з вороцілом пра́жным.* Верасніца.

УРО′ЧЛІВУ *прым.* Якога можна лёгка ўрачы. *Нейкі хло́пец уро́члівы родзіўса!* Верасніца.

УРО′ЧЫСКО *н.* Урочышча. Дварэц.

УРО′ЧЫЦЬ *незак.* Уракаць. Запясочча.

УРО′ЧЫШЧЭ *н.* Урочышча, пэўная мясцовасць з уласнай назвай. *То урочышч у нас мо́рэ е!* Хільчыцы. *Урочышчэ таке́ Олёс е.* Сямурадцы. *Год посеюць, а на другі год на друго́м урочышчы даюць соткі.* Сямігосцічы. *У нас і цепер е урочышчэ Гае́, а ужэ тые гае́ звелі.* Цераблічы.

УРУКОПА′ШНУЮ *прысл.* △ Г н а ц ь у р у к о п а́ ш н у ю. Гнаць плыт пры дапамозе шастоў. Хачэнь.

УРУ′Н, ВРУН *м.,* рэдка *ж.* 1. Рунь, азімыя ўсходы. *Урун хорошы, зелёны. Іншы год урун спасваюць, ек замерзне земля.* Цераблічы. *Коні выжэнем да пасуцца на том ўруне́.* Мачуль. *Коро́вы хоілі по уруну́.* Альшаны. *Урун хорошы.* В. Малешава. *Гусі на тую врун лецяць да такіе поотпа́сваюцца!* Хачэнь. 2. Мера воўны, настрыжанай з адной авечкі. Запясочча.

УРУ′НІ′ЦЦА *зак.* Зарунець, добра ўзысці (пра жыта). *Уво́сень жыто урунілоса.* Бярэжцы. Укусціцца, зрасціся расткамі. *Жыто у воло́кі, урунілосо.* Запясочча. *От уру́ніліс картоплі дай не можно зорва́ць.* Цераблічы.

УРУ′НО *н.* Рунь. *На уруно у нас кором не пускаюць.* Дварэц.

УРУЧНУ′Ю *прысл.* Уручную, без дапамогі механізмаў. *Просо м'ялі ногамі і жалі уручную.* Дварэц. *Вілі вароўкі уручную.* В. Малешава. *А тогды не так, ек цепер, уручную з лесу плавілі.* Пагост.

УРЫ′ТЫ *дзеепрым.* Укопаны. *Стоіць ек урыты.* Луткі.

УРЭДЗІ′ЦЬ, ВРЭДЗІ′ЦЬ *незак.* Шкодзіць, прыносіць шкоду. *Вон часцяком спомінае, мо вонэ й цепер урэдзіць.* Пагост. *Стала горэлка врэдзіць, надо прыдзержа́цца.* В. Малешава.

УРЭ′ДНІК *м.* Злыдзень, шкоднік. Хільчыцы.

УРЭ′ДНЫ, ВРЭ′ДНЫ *прым.* Нядобры, шкодны. *Гу́сень урэ́дны то́жэ, капу́сту поеда́е, ек гэты жук картоплі.* В. Малешава. *Врэдны чоловек, ёго очы плохіе, добра́ не ду́мае ніко́му.* Там жа. *Урэ́дна хма́ра з Каза́ргаці навек.* Дварэц.

УРЭДНЯ́ГА *м.* Шкоднік. *Дрэнны той поганюка, урэдняга.* Хачэнь.

УРЭ́ЗАЦЬ *зак. экспр.* Ударыць, выцяць. *Мене маці чэплеёю урэзала.* Луткі.

УРЭ́ЗОК *м.* Невялікая бочка, шырэйшая зверху. *Трэбо насекці капусты во ўрэ́зок.* Аздамічы.

УРЭКЦІ́ *зак.* Урачы, сурочыць. *Урэклі дзіця́.* Запясочча.

УРЭ́М'Е *н.* 1. Час, адрэзак часу. *Урэм'е е, то я послухаю, шо вы тут говорыце.* М. Малешава. *Недзе́лю урэ́м'я будзеш носіць ее.* В. Малешава. *Шчэ ско́лькі урэм'я вон лежаў у больніцы.* Пагост. *Да вот седжу тут которэ урэм'е.* Верасніца. 2. Пара, пэўны перыяд. *Такім урэ́м'ем увечэры спевалі дзе́ўкі ко́лісь.* Пагост. *Урэм'е ужэ ложы́цца спаць.* Любавічы. *Прыдзе урэм'е, то самі очы заска́львоюцца.* В. Малешава. *Танке́тка ідзе усякое урэм'е по боло́ці* (у любую пару года). Буразі. *До урэ́м'я у збане́ во́ду но́сяць: та ду́жка порвецца і вода́ разольецца* (прыказка). Сямурадцы. 3. Пэўны стан прыродных (часцей за ўсё астранамічных) умоў, спрыяльных ці неспрыяльных для розных тыпаў работы. *Каза́лі, шчо на п'ятой недзе́лі е таке́ урэ́м'е, шчо не трэба капусту сажа́ць, бо вона не завя́жэцца ці ву́сень ее з'есць.* Хачэнь. *Бувае таке врэ́м'е, шо, як кот драпне, нарыў получаўса.* Цераблічы. *Не бі кобана, бо не таке урэм'е.* Рыдча. 4. Надвор'е. *От ліхо его, от урэм'е!* М. Малешава. *А я знаў, шо будзе таке урэм'е? Хто гэто надзееўса, шо така пора будзе?* Луткі. *Такі дождж, таке урэм'е, шо не робо́та.* Цераблічы. Клімат, кліматычныя ўмовы. *Там здоровейшэ урэм'е на чорно́зем'е, а на песку — жэрчэ́йшэ.* Мачуль. △ Д о́ б р э у р э́ м'е. Час, спрыяльны для пачатку сельскагаспадарчых работ (сяўбы і інш.). *Трэбо сеяць, то прыдзе до мене і пытае: «Яке́ цепер урэм'е?» Я погледжу да кажу: «До́брэ».* Буразі. *Узаўтро са́мо до́брэ урэ́м'е сеяць ці шчо робіць.* Луткі. Г н і л э́ (г н і л о́ е) у р э́ м'е. Час, не спрыяльны для пачатку некаторых відаў работ (салення капусты, сала і інш.). *Як с по́ўного ру́шыло, то ужэ гнілэ урэм'е.* Любавічы. *Гнілое урэм'е — не колюць кобаноў, не почынаюць ніякіх робот.* Чэрнічы. З д о р о́ в э у р э́ м'е. Час, спрыяльны для пачатку некаторых відаў работ, у першую чаргу звязаных з запасаннем прадуктаў. *У здоровэ ўрэм'е кабана́ забіў, доўго сало лежа́ць бу́дзе.* Луткі. П л о х е́ у р э́ м'е. Ня-

года, дрэннае надвор'е. *Плохé урэм'е, хлопцы, попомéсіце у нас гразé.* В. Малешава. *На плохіе урэменá на зáходзе здорово чырвóнэ* (неба). Верасніца. У стáрое урэ́м'е. Даўней, калісьці. *Е урочышчэ Воўкоўня́, там воўкі у стáрое урэм'е збірáліса.* Любавічы.

Згодна з павер'ем, жакі трэба было пачынаць вязаць у суботу перад вялікаднем, тады ў іх будзе добра лавіцца рыба: *Я здзéлаў шэсць жакóў, а два не ловілі — урэ́м'е не тóе былó, ек везáў.* Запясочча.

УРЭ'МСТОВАЦЬ *незак.* Злавацца. *От урэ́мстуе, уедáе, шчо я ёй зробіла?* Бярэжцы.

УСАДЗІ'ЦЬ *зак.* Усадзіць, усунуць. *Лісіца усадзіла ў полóнку хвоста* (з казкі). Запясочча. *Поленіцу на ўсю скóвороду усадзіла ў печ.* М. Малешава. Асадзіць, пасадзіць. *Усáдзіць роя́ у вýлей да заткнé дóбрэ.* Мачуль. Ускінуць, пакласці. *Вóсем рогóж усáдзім на горб да несóм у Городóк.* Цераблічы.

УСВО'ІЦЦА *зак.* Асвойтацца, прызвычаіцца да некага ці нечага. *Воўк ужэ як усвоіцца, дзецей не боіцца.— Дзе ву бачылі, шчоб звер усвóіўса, прысвóіўса да не бояўса когó?* Кароцічы.

УСЕГДА', УСЕГДЫ' *прысл.* Заўсёды. *Усегда вон нам пахáе горóд.* Старажоўцы. *Не ўсегды́, ек на дзеды́* (прымаўка). Запясочча.

УСЕДНО' *прысл.* Усё роўна. *Уседнó трэ́ба помірáць.* Пагост. *Уседно пойду.* Аздамічы. *У нас усеннó е, хоць вон і украў.* Цераблічы.

УСЕЕ'ДНА *ж.* Назва аднаго з тыдняў перад вялікім постам. *Усеедна, помінáлна, мáслена недéля, а потом веснá.* Хотамель.

УСЕКЦІ' *зак.* Усячы, урэзаць. *Хоць усечэ, да не до косцéй.* Дварэц.

УСЕМО'Х *прысл.* Усямёх, усемярых. *Словом, усемох і я.* В. Малешава. *Воны усемох седзяць.* Цераблічы. *Буў невод, шчо усемох цягнуць.* Дварэц.

УСЕРО'ЎНО' *прысл.* Усё роўна. *Помрý, а ўсероўнó тобе мое не попадзе.* Хачэнь. *А вона усерóўно як гуляла, то й гуляць будзе.* Старажоўцы.

УСЁ'Й, УСЕ'Й *займ.* Увесь. *Усёй гэты конéц згорэ́ў.* Чэрнічы. *Усёй лес зністóжылі.* Запясочча. *Усей народ.* Там жа. *А тут весною плувé усёй товáр.* Пагост. *Ороб'і з'едзя́ць усей слонéчнік.* В. Малешава. *На ўсёй рад одзін хвонáр.* Луткі.

УСІ′ЛУ *прысл.* Не больш, насілу. *Вон хоцеў браць пшэна́ кілограм дваццаць усілу.* Цераблічы.

УСҚА′ҚАЦЬ, УСҚА′ҚВАЦЬ *незак.* Ускакваць, усхопліваццa. *Прыежда́е домоў, жонка ускаквае напро́ціў його так, як усегда устрэча́е* (з казкі). Қароцічы. *Булькі ускакваюць, то будзе дождж іці* (прыкмета). Дварэц.

УСҚАЛАМУ′ЦІЦЬ *зак.* Ускаламуціць, замуціць. *Ускаламу́цяць во́ду дзеці — і рыбкі голо́ўкі уго́ру вусо́ўваюць.* М. Малешава.

УСҚАРА′БҚАЦЦА *зак.* Ускарабкацца, узлезці. *Ле́дво ускарабкаласа на тую ле́ску.* Запясочча.

УСҚО′ЧКІ, УСҚО′ЧҚУ *прысл.* Галопам, наўскапыта. *Ускочкі.* Аздамічы. *Скачэ конь уско́чку.* Луткі.

УСҚО′ЧЫЦЬ *зак.* Ускочыць, хутка ўстаць. *А вон як ускочыць!* Бярэжцы. Уляцець, убегчы. *У село ускочыў, а вон з-под того сена ўста́е.* Бярэжцы. Уваліцца. *Була на болоці невеліка ме́сцінка, а як ускочыш, то не ву́скочыш.* Луткі.

УСҚРО′ЗЬ 1 *прысл.* Скрозь, на ўсёй працягласці. *Ідзе́ць ускрозь, ускрозь, да прову́лочок там е, ее́ пе́рша хата.* Қароцічы. *Гледзяць ко́су* (як заб'юць кабана): *як ро́ўна ускро́зь, то, кажуць, зіма́ ро́ўна будзе, а як неро́ўна — то нероўна будзе зіма.* Луткі. 2 *прыназ.* Қругом, усцяж. *Ускрозь плоты понаме́тае сне́гу і не відно́ частоко́лу.* Луткі. Пасярод, уздоўж. *Ускрозь Рубля рэка́ цечэ, моста́ нема, да паро́м е.* Луткі.

УСҚУБЦІ′ *зак.* Укусіць (пра сабаку). *Мене́ ускуб свой соба́ка.* Сямігосцічы.

УСЛУГОВА′ЦЬ *незак.* Прыслужваць, рабіць паслугу. *Я ўсім не угоджу́, хай вона ему услугу́е.* М. Малешава.

УСМЕРЦІ′ЦЬ *зак.* Пазбавіць жыцця. *Усмерціла ножэ́м тую жонку за свого́ чолове́ка.* Цераблічы.

УСМОҚТА′ЦЦА *зак.* Усмактацца. *Ро́вэр усмоктаўса ў зе́млю, уцягло́ его́ ў зе́млю.* Мачуль.

УСМОЛІ′ЦЦА *зак.* Стаць смольным, набрацца смалы. *Тая хвоя крэмлёная так усмо́ліцца, шо одна го́ла смола́.* Мачуль.

УСОЛІ′ЦЬ *зак.* Прасаліць. *Усо́ліць до́брэ то́рбу с коруко́м.* Любавічы.

УСПАХА′ЦЬ *зак.* Абрабіць, узараць і засеяць. *Успахаем яку́ полянку у лесе.* Қароцічы.

УСПЕ'РЦІ *зак.* Усперці, ускласці. *На го́лову узопрэ́ то́го калача́ і пошла́.* М. Малешава.

УСПЕ'РЦІСА *зак.* Наскочыць, наляцець. *А ва́лны, а ве́цёр! Бо́йса, коб на пень не успе́рціса, ву́шэй нас ва́лны!* Дварэц.

УСПЕ'ЦЬ *зак.* Паспець. *Не ўспе́ло родзіцца — ужэ с поро́ком се́рца!* Сямурадцы. *Успе́ём шчэ.* Кароцічы.

УСПЛЕ'НЬЕ *н.* Традыцыйнае свята успенне. *Прышло́ успле́нье — цегні́ карто́плі за корэ́нье* (прыкмета). Сямігосцічы.

УСПЛО'ЎВАЦЬ *незак.* Усплываць, паднімацца на паверхню. *Усплоў́вае чоловек* (тапелец), *ек жоўць ло́пне.* Дварэц.

УСПЛЫСЦІ' *зак.* Усплысці, падняцца на паверхню. *Трэ́цего дня ўсплыве́ дзе́ўка, як не на́йдуць.* Запясочча.

УСПОВІТКУ' *прысл.* У пялёнках, немаўлём. *Усповіткy буў меншы сын, ек почаласа война.* Дварэц.

УСПОМЕНУ'ЦЬ *зак.* Успомніць, памянуць. *Трэба зайці на тые мо́гліца успомену́ць свой род.* Чэрнічы. *Нехто важко успомену́ў, шоб его кій не міну́ў* (прымаўка). М. Малешава.

УСПОМІ'НОК м. △ *Н а  у с п о м і́ н о к.* На успамін, на доўгую памяць. *От, бра, да грай, на успомінок!* В. Малешава.

УСПО'МНІЦЬ *зак.* Успомніць, прыпомніць. *Ну, от побачыце, успо́мніце мое слово!* Пагост.

УСТА'ВА *ж.* Пастанова, звычай. *Шчо то за уста́ва была́, шчо на тобе́ гро́шы і робі, шчо хо́чэш?* Сямігосцічы.

УСТАВА'ЦЬ *незак.* Уставаць, паднімацца. *Як сядзем, то ліхо уставаць.* Аздамічы. *Стала уставаць да на другі бок упала.* Кароцічы. *Я удо́света устаю доіць коро́ву.* Мачуль. *Вон ужэ не ўстае, не есць.* Хачэнь.

УСТА'ВІЦЬ *зак.* Уставіць, паставіць. *Трэбо уставіць окна у хаце.* Сямігосцічы.

УСТАЎЛЯ'ЦЦА *незак.* Устаўляцца, умацоўвацца. *Е росошка, екая ўстаўляецца ў колоду.* Хотамель.

УСТА'ЦЬ *зак.* 1. Устаць, падняцца. *Я шчэ одно устала, а ты ужэ на роботу ідзеш.* М. Малешава. *Удырыўса об зе́млю, шо не ўста́не.* Старажоўцы. *Хто зара́ней устае, тому́ і бог дае* (прыказка). Луткі. *Не кайса, шчо рано устаў і рано ожэніўса* (прымаўка). Там жа. 2. Узысці, з'явіцца. *Зоры усталі.* Запясочча.

УСТРАВА'ЦЬ *незак.* Увязвацца. *Не буду устравацьу будоўлю хаты.* Лутκі.

УСТРА'ЦЬ *зак.* Увязацца. *Я устрала ткаць кросна ў цветы́, да було цёмно і ніяк не можно було ткаць пры лампі.* Цераблічы. *Хоць і устране лецець той бу́сько, але не долеціць.* Запясочча. *Шэсць жонок устралі за імі да і тые понабіралі грыбоў.* Луткі. Задумаць, намерыцца. *Вона устрала за того глухого замуж іці.* Луткі. Узяцца. *Устралі біцца одно з одным.* Цераблічы.

УСТРО'ЕНЫ *дзеепрым.* Падрыхтаваны, наладжаны. *Набілкі устро́еные з бердом.* Верасніца.

УСТРО'ІЦЦА *зак.* 1. Сабрацца, падрыхтавацца. *Пока я устроюса іх покорміць, то ужэ цёмно стане.* Луткі. *Пока ты устроісса, вона прыдзе.* Бярэжцы. 2. Прывесці сябе ў парадак, прыбрацца. *Жонка устро́ілас, зобра́ліс, пошлі.* Кароцічы. *Пе́йсы роспусціла да не устроіцца, так і ходзіць.* Аздамічы.

УСТРО'ІЦЬ *зак.* 1. Наладзіць, прывесці да ладу. *Буў старычок такі, а ко́су устроіць добрэ і косіць гуляючы.* Старажоўцы. Прыладзіць. *Вон жэ не можэ ні выклепаць косы́, ні косья́ устроіць.* Луткі. Паправіць. *Устроіла рубашку, а то була попо́рана і гу́зікоў не було.* В. Малешава. 2. Зрабіць, парабіць. *Устро́ілі будани́.* Запясочча. *Бумагі накладуць, устроящь такого чу́ба, вумотають шаліновою хусткою, ву́плетуць.* Кароцічы. *Вот вон роботаў год, вуробіў ему той чоловек, усе устроіў* (з казкі). В. Малешава. 3. Прыбраць, убраць. *Скосі да устрой тое сено, а не беры, не твое!* Мачуль. 4. Дагледзець. *Шчэ козу́ свою не ўстроіла, трэба отвезаць, хай постоіць на сонцы.* Хачэнь. 5. Прыбраць, адзець. *Ну, да ужэ ж этые устроять молодую.* Бярэжцы.

УСТРО'ЙВАЦЬ *незак.* 1. Прыладжваць. *Дручка устройвалі ў бальку да гэтак і круцілі жорна.* Пагост. 2. Прыбіраць, упрыгожваць. *Цепер вельмі хаты устройвають.* Хотамель.

УСТРОМІ'ЦЬ *зак.* Усунуць, усадзіць. *Устро́міць коро́ва ро́гі ў со́хі да здохне.* Хачэнь.

УСТРО'ПАЦЬ *зак.*, звычайна з адмоўем *не.* Заўважыць. *Я не ўстропала, шо побегло.* Дварэц. *Не ўстропалі, у котору сто́рону поехалі.* Луткі. *На́выць і не устропаю, як наве́рсе на сосне седзіць той лесовы́ бу́сько.* Там жа. *Вона не устропала, а вон машыной наехаў.* Цераблічы. Адчуць, зразумець. *Вона не устропала колі і шчо,*

*а вон, облуда, облутаў ее.* Старажоўцы. Сцяміць. *Бувае, не устропаеш, як сказаць: або «кыш», або «кыша», або «акыша».* Дварэц. *Вона ее цегала, да не устропае цекці, то замучыла зоўсім тую муш кошка.* Хачэнь. Упільнаваць. *Як розбрыдуцца коні, то й не устропаеш.* Аздамічы. *Гледзі, бо учэчэ, шо не устропаеш!* М. Малешава.

УСТРЭНЧА'ЦЦА *незак.* Уцягвацца, далучацца. *Зміцёр у карты не устрэнчаецца.* Цераблічы.

УСТРЭ'ЦЬ *зак.* Сустрэць. *Екі ехаў, такóго устрэў* (прымаўка). М. Малешава.

УСТРЭЧА'ЦЬ *незак.* Сустракаць. *Чыя сáма лучча жонка, та будзе устрэчаць.* В. Малешава.

УСТУПІ'ЦЦА *незак.* Уступіцца, выступіць у абарону. *Людзі уступіліса за зёмлю.* Цераблічы.

УСТУПІ'ЦЬ *зак.* Наступіць, ступіць нагой. *От, кажэ, уступіла у кóнске кáчэло і шэрсці набрала, то ногá заболéла* (павер'е). М. Малешава.

УСТЫКА'ЦЬ, СТЫКА'ЦЬ *незак.* Натыкаць. *Стыкае на рожэнчык сало і печэ.* В. Малешава.

УСТЫКНУ'ЦЬ *зак.* Наткнуць. *Устыкне шо на нóгу.* Верасніца. Уваткнуць. *Устыкнуў нóгу ў сандалі і пошоў.* Верасніца.

УСУКА'ЦЬ *зак. экспр.* Урэзаць, уліць. *Усукало дóбро моім помідором.* Дварэц. Даць, уваліць. *Тольки ім грóшэй усукáлі!* Запясочча.

УСУ'КВАЦЬ *незак.* Усукваць. *Ее* (шчаціну дзіка) *сопожнікі куповалі і у дратву усуквалі.* Лутки.

УСУ'СІ *прысл.* У сухім месцы. *Год можэ вудзержаць, еслі усýсі.* Дварэц.

УСУТЫ'Ч *прысл.* Насуперак, уразрэз. *Усутыч з ім ідзе.* Аздамічы.

УСХЛІ'ПВАЦЬ *незак.* Усхліпваць. *Плачэ, усхліпвае.* М. Малешава.

УСХОДЗІ'ЦЦА *зак.* Усхадзіцца, разбушавацца. *Усходзіласа блісковіца, усходзіласа грымóта.* Дварэц.

УСХОДЗІ'ЦЬ *незак.* Узыходзіць. *Не сходзілі картоплі, не сходзілі, ледзьві узышлі.* Бярэжцы.

УСХО'ДЫ *мн.* Усходы. *Екіе семена, такіе і ўсходы.* Хачэнь.

УСХОПІ'ЦЦА *зак.* Падхапіцца. *Той вол усхопіўса і побег.* Лутки.

УСЦЕГЦІ'СА *зак. экспр.* Падняцца, усцягнуцца. *Сяк-так трохі рано усцеглáса.* Дварэц.

У'СЦЕЛЬКА *ж.* Вусцілка. *Под усцельку подкладвалі бéрэст.* Запясочча.

УСЦЕРЭБІ'ЦЦА *зак. экспр.* Узлезці. *На лóжок ледво усцерэ́біцца.* Запясочча.

УСЦЕРЭГЦІ' *зак.* Упільнаваць. *Гледзела, гледзела і не усцерэглá.* В. Малешава.

УСЦІЛА'ЦЬ *незак.* Высцілаць. *Му усцілалі дорогу хворостом да засыпáлі землéю.* М. Малешава.

УСЦЯ'Ж *прысл.* Прама, наўсцяж. *Усцяж по дорóзе побéг.* Аздамічы. *Цепéр цеплó, на селé б зробій весéлье, усця́зь столы́.* Хачэнь. Адзін за адным. *Усцяж корóвы ідуць з попасу.* Аздамічы. *Побраліса ўсе усцяж, і йдуць по вуліцы дзеці.* Луткі. Цугам. *Усцяж тры пары коней у пана.* Верасніца.

УСЫ'ПАЦЬ *зак.* 1. Усыпаць, насыпаць. *Посцéлю кобану усыпала — опілок.* Дварэц. 2 *перан.* Пабіць, пакараць. *Вот я ему усыпаў, будзе помніць.* Хільчыцы.

УСЫ'РЫЦЬ *зак. экспр.* Набіць, адлупцаваць. *Зáрэ дóбрэ усы́ру тобé!* Луткі.

УСЫХА'ЦЦА *незак.* Рабіцца сухім, цвярдзець. *Усыхаецца грýдзье тэ, хоць сокéрою сечы!* Дварэц.

УСЫХА'ЦЬ *незак.* Высыхаць. *У крыніцы вода не ўсыхае.* Луткі. *Жыто просто стéлюм, воно усыхае.* Альпень.

УСЮ'ДЫ, УСЮ'ДОЙ, УСЮ'ДОЮ, УСЮ'ДЭЙ *прысл.* Усюды. *Куды ні гляні, усюды это поле.* Сямігосцічы. *Усю́дой воны понасельваліса.* Аздамічы. *Дзед жыў усю́дэй.* Там жа. *Ек проедзеш тэ село, шо гусей багато, то усю́дою проедзеш.* М. Малешава. *Вон усю́дою буў.* В. Малешава.

У'СЯ *выкл.* Выгук, якім адганяюць свіней. *Аці! ацю! ýся! — унáдзіласа ходзíць на двор чужá свіньá!* Сямігосцічы.

УСЯ'КІ, УСЯ'К *займ.* 1. Кожны, любы. *Вéру усякому звéру, только тобé не вéру* (прыказка). Старажоўцы. *Цепер Купальны Іван, можно усяке зелье рваць.* Чэрнічы. *Усяк можэ быць пастухом.* Аздамічы. 2. Розны, усялякі. *По свéту уся́кіе лю́дзі е.* Кароцічы. *Булі ж усякіе, богатые і бедные, кóлісь.* Бярэжцы. *Собáча м'ята е ў лесý, зайчыкова капуста — е ўсякіе зельá, воны лечэбные.* Старажоўцы.

УТАІ'ЦЦА *зак.* Замоўкнуць, спыніць размову. *Чому мне не было утаíцца?* Бярэжцы.

УТА'ЙВАЦЬ *незак.* Спыняць, затрымліваць. *Серпорез добро утайвае кроў, як порежеш.* Альпень.

УТА'ЛОВАЦЬ *зак.* Заціскаць, замучыць. *Уталуе ее кот дай не жыва, тая мыш.* Запясочча.

УТАМОВА'ЦЬ *зак.* Утаймаваць, суняць, супакоіць. *Утамоваць не можна, так льецца кроў.* Бярэжцы. *Так плакала, шчо не могла утамоваць ее.* М. Малешава. *До того розрэўлосо дзіця, шчо не можно утамоваць.* Луткі.

УТАХТО'РЫЦЬ *зак.* Запіхнуць, запраторыць. *Утахторылі того дзеда, то і заре нема.* М. Малешава.

УТА'ЦЬ *зак.* Увагнуцца, прагнуцца. *Шоб не утала подошва, то берэст кладуць.* Дварэц.

УТО'Қ, ВУТО'Қ *м.* Уток, пража для натыкання асновы. *На уток купіла белі.* Аздамічы. *Ек зайдзе суседка к суседцы, то кажэ: «Скоро, спешно шоб сновалос і на вуток оставалос»* (калі снуюць кросны). М. Малешава.

УТОЛІ'ЦЬ *зак.* Задаволіць, насыціць. *Его не ўтоліш, аніяк не под'есць.* Сямігосцічы.

УТОЛМА'ЧЫЦЬ *зак.* Растлумачыць, вытлумачыць. *Мама утолмачыла пўсточку, чому вона так называецца.* Хотамель.

УТОЛЯ'ЦЬ *незак.* Супыняць, супакойваць. *Чорніцы утоляюць понос.* Сямігосцічы.

УТОМІ'ЦЦА *зак.* Стаміцца, змарыцца. *А той дзед ішоў, ішоў да ужэ утоміўса.* Бярэжцы. *Баба утоміласа, ходзіла далеко.* В. Малешава.

УТО'МЛЕНЫ *дзеепрым.* Стомлены, зموраны. *Не жэні коня, вон утомлены.* В. Малешава. *Наверно, буў утомлены, да ёго схопіла сўторга.* Там жа.

УТО'МЛІВО *н.* Стома, змора. *Машына не знае ніякого утомліва.* Дварэц.

УТО'МЛІВОСЦЬ *ж.* Стомленасць, зморанасць. *Утомлівосць е, бо далеко ходзілі.* М. Малешава.

УТОНУ'ЦЬ *зак.* Патануць, утапіцца. *Не йдзі на воду — не утонеш* (прымаўка). Талмачава.

УТОПІ'ЦЦА *зак.* Утапіцца. *Ехаў дўбом і утопіўса.* Хотамель. *Думалі, шчо не перэплавімо корову, думалі, шчо утопіцца.* Пагост. *Свіньяутопіцца, поплыла ў Печышчэ!* Старажоўцы. *Дзе хто утопіцца і пужае там.* Бярэжцы. *Қажуць, шо некі король утопіўса за кладбішчэм, там буў бродок, то звалі Королёў брод.* Луткі.

УТОПІ'ЦЬ *зак.* Утапіць. *Қажэ, Дзеніс шчэ сем год*

*будзе жыць на свеці да, кажэ, ёгó ў рэцэ́ утóп'яць* (з казкі). В. Малешава.

УТО'ПЛЕНІК *м.* Тапелец. *Уся рыба утóпленікоў любіць.* Запясочча.

УТО'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Затоплены, заліты вадой. *Болóнье усе чысто утоплено водою.* Кароцічы. *Толькі гурпáнчык буў без воды, а то усе утоплено.* Сямурадцы.

УТО'ПЛІВАЦЬ *незак.* Затапляць, заліваць. *Я жыву на гóстрові, кругóм мое хаты вода; то вона менé утóплівае і неможно вуйці на двор.* М. Малешава.

УТО'ПНУЦЬ *зак.* Утапіцца. *Купайса дай утоп.* Пагост.

УТОПТА'ЦЬ *зак. экспр.* Загнаць, запіхаць. *Той стары́ куды́-нібудзь утопчэ корóў, шоб поелі.* Луткі.

УТО'РА, ОЎТО'РА *ж.* Утора (у бочцы). *Утóры.* Аздамічы. *Трэ́бо ойторы зарéзаць.* Пагост.

УТОРГОВА'ЦЬ *зак.* Утаргаваць, выручыць. *Продалі поросят, рублей пяцьсот уторговалі.* Кароцічы. *Вон, бало, больш уторгуе, чым купец.* Там жа.

УТО'РНУЦЬ *зак.* Уторкнуць. Запясочча.

УТОРО'ПІЦЦА *зак.* Утаропіцца, уставіцца. *Шчо ты уторопіласа на мене?* Запясочча.

УТО'РЧВАЦЬ *незак.* Выторкваць, высоўваць. *А кожýшкі голóву уторчваюць.* М. Малешава.

УТО'РЧЫЦЬ *зак.* Уторкнуць. *У берег утóрчылі палку.* Альшаны.

УТО'РЫЧ *м.* Уторнік (бондарская прылада). Запясочча.

УТО'ЎШЧ *прысл.* У таўшчыню. *Вéрха скрэ́мвае, шоб утоўшч хвоя росла, шоб вéцёр ее не махаў.* Цераблічы.

УТОЧЫ'ЦЬ *зак.* Усунуць, уціснуць. *Така густá травá, шо рукі не утóчыш.* Бярэжцы. *Дурнá голова і нóгі уточыць* (прымаўка). Аздамічы.

УТРАВІ'ЦЬ *зак.* Вывучыць, вымуштраваць (маладога паляўнічага сабаку). *Утравіць ёго трэба, каб вон стаў, як стары.* Аздамічы.

УТРА'ТА *ж.* Страта. *У его утрáта — пропáла корóва.* Крэмна.

У'ТРО *н.* Раніца, ранак. *Дóбро ýтро!* (ранішняе вітанне). Запясочча.

УТРО'БЕЦЬ *ж.* Панос, бягунка. *Проківу напар, напіса і пройдзе одразу утробець.* М. Малешава.

УТРО'БЫ *мн.* Унутранасці, вантробы. Мачуль.

УТРО́Й *прысл.* Утрая. *Ужэ утрой наплодiлоса людей после войны́.* Альпень.

УТРО́Н *м.* Страта, шкода, урон. *Як шо зробiцца, поцёра ека́, то утрон кажуць.* Рыдча. *Уценя пропало, гэто мне утрон хазяйства, конь захворэў — утрон хазяйства.* Буразi. *Утрон у хозяйстве робiцца, як на празнiк огню позычыць* (павер'е). Луткi.

УТРО́НА *ж.* Тое ж. *Шо я тобе утрóну якý наробiла? Укра́ла?* Мачуль. *Утрона велiка, трэбо было узяць мешок, а досталi пуд.* Аздамiчы. *Метлiца соломе помочнiца, а хлёбу утрона* (прымаўка). Цераблiчы.

УТРО́НIЦЦА *зак.* Страцiцца. *Утрóнiлосо у менé нéшчо.* Тураў.

УТРО́НОК *м.* Страта, шкода, урон. *Нiякого утронку вон мне не зробiў.* Старажоўцы.

УТРОПА́ЦЦА *зак.* Схiбiць, трапiць у няёмкае становiшча. *О, коб не утропацца, сóромно не сказаць шчо!* Хачэнь.

УТРО́Х *прысл.* Утрох. *Утрóх ора́лi: одзiн за плýга, одзiн за вóжкi, а трэ́цi за поводца́.* Чэрнiчы.

УТРУБÍЦЬ *зак. экспр.* Згубiць, страцiць. *От утрубiў сокéру!* Альшаны.

УТРЭ́СКАЦЦА *зак. экспр.* Закахацца. *Утрэскаласа ў ёгó, а вон насмеяўса, то цепер лóкцi собе кусае, да позно.* Верасніца.

УТУ́ЛКА *ж.* Утулка (у коле). *У колодзiцу утулкi убiвалi.* Цераблiчы.

УТУПÍЦЬ *зак.* Затупiць. Запясочча.

УТУШЫ́ЦЦА *зак.* Утушыцца, спячыся. *Дóбро утýшацца ла́дкi картопля́ные!* Пагост.

УТУШЫ́ЦЬ *зак.* 1. Утушыць, спячы. *Берэш м'ясо да у печэ ёго так утушыш.* В. Малешава. 2. Затушыць, патушыць. *Трактор цэл остаўса, там нешчо пообга́рвало, але утушы́лi.* Сямурадцы.

УТЫКА́IХА *ж.* Указчыца. *Усю́ды улёзе эта утыкаiха.* Верасніца.

УТЫКНУ́ЦЬ *зак.* Усунуць, схаваць. *Да усегó шча́сця, шо хорóмы от войны осталiса, да е дзе гóлову утыкнýць.* М. Малешава.

УТЫ́ЛОК *м.* Утулка (у коле). *Колодка з утылком.* Бярэжцы.

У-У-У *выкл.* Пра адчуванне здзiўлення, захаплення.

*За два годы — у-у-у! І корова, і свіньяя, і хата нова!* Хачэнь.

УХ *выкл.* Пры захапленні. *Ух ты, большу́н, колі такі ву́рос?!* Пагост.

УХА'БІСТЫ *прым.* Крывы, няроўны. *Ухабістэ дзерэво росце́ у́ лесе, буває і так воно абы-дзе.* Сямігосцічы.

УХАМЕНУ'ЦЬ *зак.* Ухапіць, выхапіць; убраць. *Ухаменулі угé, немá сéна.* Альшаны. *Ухаменулі сéно од дожджá.* Там жа.

УХВА'ТКА *ж.* Звычка. *Такá ухватка була у його біцца.* М. Малешава. Спрыт, выхадкі. *Вот мае зверы́ную ухвáтку!* М. Малешава.

УХВАЦІ'ЦЦА *зак.* Ухапіцца. *Так этой бóльшы ухваціу́са за кусты недалеко коло берега.* Пагост.

УХВАЦІ'ЦЬ *зак.* Схапіць. *А вон серэд ночы як ухваціу́ за глотку да хоцеу́ задушыць.* Пагост.

УХВОРОСЦІ'ЦЬ *зак. экспр.* Моцна ударыць, сцебануць. *Як ухворóсцяць снопу́, так одно леціць зéрнета!* Старажоўцы.

УХІ'ЛІСТЫ *прым.* Выгнуты, крывы. *Ухілістые ногі— то корочун.* Аздамічы. *І мачэ булі такіе ухілістые, подколу́піць да отогне пласт гною.* Кароцічы.

УХЛЮ'ПНУЦЬ *зак.* Запасці, праваліцца. *У его перэносье ухлюпло.* В Малешава.

УХМУ'ЛЬВАЦЦА *незак.* Ухмыляцца, усміхацца. *Кáжны ухмульваецца, ек загадвае загадку.* Верасніца.

УХНА'ЛЬ, ОХНА'ЛЬ *м.* Вухналь. *На лето обрэзáюць копы́та по ухналé, шчоб булі хорошые копыта.* Цераблічы. *Охналь.* Аздамічы.

УХОВА'ЦЬ *зак.* Схаваць, захаваць. *Од злóдзея не ухова́еш.* Старажоўцы.

УХО'Д *м.* Догляд. *Шчо не дзержы, то ухóд трэба.* Сямурадцы.

УХО'ДЖВАЦЬ *незак.* Заходзіць. *От, рады́ у́ годы́ я сюды́ ухóджваю.* Сямурадцы.

УХО'ДЗІНЫ *мн.* Уваходзіны, наваселле. *Уходзіны хто робіць, а хто не.* Дварэц.

УХОДЗІ'ЦЬ *незак.* Уваходзіць, упадаць. *Дзеды́ кажуць, шчо у́ Прып'яць петнаццаць рэчок уходзіць — тры раз по п'яць, то й прозвалі Пры́п'яць.* В. Малешава. *Возеро уходзіць у сенокóс і у́ Пры́п'ець.* Дварэц.

УХОПІ'ЦЦА *зак.* Схапіцца, успыхнуць. *Огонь ухó-*

*піцца за чэлюсці да ў сáжу, вона і загорыцца*. М. Малешава.

УХОПІ'ЦЬ *зак*. 1. Ухапіць, схапіць. *А воўк ухопіў овéчку да несé*. Хачэнь. *Ухопіла ёго за рукі, шоб не стрэляў*. Бярэжцы. *Не лезь у воду, бо там змея ухóпіць за нóгу да поволочэ́*. Старажоўцы. 2. Дастаць, здабыць. *Хто не спаў да устаў заранéй, то ухопіў*. Цераблічы. *От, ухóпіць коня́ дай прывезе вóзом*. Там жа. *Дзе то вы ухопілі етые словá?* Сямігосцічы. 3. Успець, змагчы. *За дзень усегó й не ўхóпіць зробіць*. Сямігосцічы.

УХОРМІ'ЧЫЦЬ *зак. экспр*. Забіць. *Ухормічылі большого кабанá*. Аздамічы.

УЦЕГЦІ' *зак*. Зацягнуць, уцягнуць. *Не можэ уцегці нітку у голку*. Запясочча. *Сома ледво уцяг у лодку*. Альшаны.

УЦЕҚА'ЦЬ *незак*. Уцякаць. *Қорова блудзя́шча уцекае од тáбуна і ходзіць, дзе хочэ*. В. Малешава. *Цепер усе дзеці з села уцекають у свет*. М. Малешава. *Уцекай, дождж ідзе!* Сямігосцічы. *Этые ужэ жонкі побеглі уцекаць*. Бярэжцы. *Сóнцэ прыпечэ́, то й хозяін уцечэ́* (з песні). Қароцічы.

УЦЕҚЦІ' *зак*. Уцячы, збегчы. *Қажэ: давай уцекóм у лес у парцізаны!* Запясочча. *А куды ж учэчэш з села?* Лутківі. *Вон пошоў у свет, уцёк*. В. Малешава. *Уцёк — то сіла, а не уцёк — то шы́я* (прымаўка). Сямігосцічы.

УЦЕ'ПЛЕНЫ *дзеепрым*. Уцеплены. *Қомора для спанья́ у сéнях була уцепленая*. Лутківі.

УЦЕ'РЦІСА *зак*. Уцерціся, выцерціся. *Да перэночовалі тые хлопцы, да ўсталі, да умуліса, да нема чым уцерціса, о!* Сямурадцы.

УЦЕРЭБІ'ЦЦА *зак*. Улезці, дастацца. *Гледзі, коб гусі не уцерэбіліса ў квасолю*. Хачэнь. *Ніяк не ўлезеш, не уцерэбішса ў грады*. Қароцічы.

УЦЕХОВА'ЦЦА *незак*. Мець уцеху. *Як это так: я годоваў да уцеховаўса, а вон смерць сыну мойму зробіў, да ему нічого не будзе?!* Старажоўцы.

УЦЕ'ШЫЦЬ *зак*. Супакоіць, суцешыць. *Уцеш ёго, ек крычыць*. Қароцічы.

УЦІ'Н *м*. Аскабалак, адбіты кавалак дрэва. Хотамель.

УЦІРА'ЛЬНІҚ *м*. Ручнік для твару. *Уціральнікі ткуць сáмі, воны дóбрэ сцірáюцца*. В. Малешава. *І уці-*

*ральнікі, рушнікі ткалі.* Запясочча. *У хвойкі і у гаплючкі уціральнікі ткалі.* Луткі.

УЦІРА'ЦЬ *незак.* Уціраць, выціраць. *А дале очы мочыць унýчцы, а та баба уцірае пáльцамі, шоб прыбувáло молоко* (звычай). В. Малешава.

УЦІСКА'ЦЬ *незак.* Прыціскаць, увязваць. *Е верóўка уціскáць вóза.* Бярэжцы.

УЦІХА'ЦЬ *незак.* Сціхаць, пераставаць. *Старáя плáчэ, плáчэ, не ўціхáе.* Кароцічы.

УЦІ'ХНУЦЬ *зак.* Сціхнуць, замаўчаць. *Хоцеў плакаць, адáлей уціх.* Кароцічы. *Уціхні, тобé кажу!* Аздамічы. *Уціхла вона, і нічого сказаць нема.* Дварэц. *Вы́лі, вы́лі, а потым уціхлі.* Мачуль.

УЦЬ *выкл.* Выгук, якім адганяюць свіней. *Уть, коб тебе дох забраў!* Альпень.

УЦЭ'ЛІЦЬ *зак.* Трапіць, пацэліць. *А розбойнікі узелі уцэлілі тых двох купцоў* (з казкі). Кароцічы. *А ты уцэліш у хату?* Хотамель.

УЦЮ'Г *м.* Прас. *Уцю́г тожэ цягне свет* (электрычнасць). Запясочча.

У'ЦЮ-У'ЦЮ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць свіней. Альшаны.

УЦЯ'ГВАЦЬ *незак.* Зацягваць, уцягваць. *Старá шчэ ў гóлку уцягвае нітку.* Любавічы.

УЧА'ДЗЕЦЬ *зак.* 1. Учадзець. *От чáду учáдзеў.* Запясочча. *Як хто учáдзее, то грэюць вóду і прыкладваюць к голове компрэс, а колісь соль у вýшы клалі.* Сямігосцічы. *Колі чоловек учадзее, то мед к віскáм лóжаць.* М. Малешава. *Учадзець од багнý можно.* Дварэц. 2. Замарочыцца, адчуць млоснасць. *Жара була на полі, то моя дзеўка учадзела.* Луткі. 3. Ачмурэць ад недахопу кіслароду, затхнуцца (аб рыбе). *Учадзее рыба да подходзіць дзе ека полóночка.* Цераблічы.

УЧА'ХНУЦЬ *зак.* Падсохнуць. *Нехай учáхнуць дорóгі, то поéдом.* Сямігосцічы.

УЧАШЧА'ЦЬ *незак.* Заходзіць, наведвацца. *Вон мало до мене учашчáе.* Дварэц. *Казаў: ма, я буду к вам учашчаць,— да нема.* Там жа.

УЧВА'Л *прысл.* Галопам. *Учвал коня погоняе.* Аздамічы. *Учвал лецéлі коні, як та бры́чка додзéржала, шчо не россы́паласа.* Тураў. Бягом. *Вуйшоў на дорогу да ўчвал!* В. Малешава.

УЧВОРА'ЦЦА *незак.* Сваволіць, гарэзаваць. *Селі да учворáюцца там, дурэ́юць.* М. Малешава.

УЧВОРЫ'ЦЬ *зак.* Выкінуць штуку, вытварыць. *Учвóраць тобе ге, шчо й не подумаеш.* Хотамель.

УЧКУ'Р, ЧКУ'Р *м.* Учкур, шнурок у штанах. *Учкурóм пóдпорáзвалі старые штаны.* Кароцічы. *Чкура ў штаны трэбо зацегці.* Запясочча.

УЧО'РА, УЧО'РО *прысл.* Учора. *Учора паслá товар на Сóлом'і.* Луткі. *От пекло учоро, моцно жарко было!* Мачуль. *Не ўчóро, да уперод казаў.* Цераблічы.

УЧОРА'СЬ *прысл.* Тое ж. *Учорась ходзілі ў Городóк.* Мачуль.

УЧО'РОКА *прысл.* Тое ж. *Учорока я накладáў кухайку, бо холоднó було.* Альгомель.

УЧОТЫРО'Х *прысл.* Учатырох. *Вы учотырох зóйдзеце на поле да там бáрздуеце!* Луткі.

УЧОЎПЦІ' *зак.* Учыніць. *Моя суседка учоўплá свáрку на селé, да мне сóромно за ее булó.* М. Малешава.

УЧУ'ЦЬ *зак.* Учуць, пачуць. *Як учуў вон эты розговóр, то улезло ёму ў гóлову.* Кароцічы. *Вона учула, шо ужэ ёго ховаць будуць.* Верасніца. Адчуць, заўважыць. *Ты не ўчула, як чóбот прорэ́заўса?* Дварэц. *Жонкі спалі і не ўчулі, як вона пошла.* В. Малешава. Унюхаць. *Як коты учуюць сметану?* М. Малешава.

УЧЫКО'НІЦЬ *зак. экспр.* Зрабіць, вытварыць. *Моя цепéр головá абу-шчо учыконіць, я ж забуваюса.* Сямурадцы.

УЧЫ'НА *ж.* Пачатак пры снаванні кроснаў (?). В. Малешава.

УЧЫНІ'ЦЦА *зак.* Зрабіцца, стацца. *Шо з ёго зробілосо, шо учынілосо?!* М. Малешава.

УЧЫНІ'ЦЬ *зак.* 1. Зрабіць, нарабіць. *Шо ты, мамко, учыніла, шо мене не ожэніла* (з песні). Пагост. 2. Рашчыніць. *Трэбо учыніць цесто.* Бярэжцы.

УЧЭМРЭ'ЦЬ *зак.* Здурэць, страціць прытомнасць. *Учэмрэ́ць можне от чаду.* Хотамель.

УЧЭПІ'ЦЦА *зак.* Учапіцца. *Гэ́тэ малэ учэпіцца за цыцку і леціць з ім, з тым казанóм* (кажаном). Хачэнь.

УЧЭРО'ПІЦЦА *зак.* Учапіцца, учарэпіцца. *Як учэропіцца вон за ее: гэто моя бáба і ўсé!* Хачэнь.

УЧЭСТОВА'ЦЬ *зак.* Зрабіць гонар, ушанаваць. *Будзе багато госцей, мо я ужэ ні учэстýю добрэ вас.* Пагост.

УШКО′ *н.* Адтуліна ў прыладзе збоку. Аздамічы.

УШУ′ЛО *н.* Шула. *Ушулы со шпара́мі дубовые поставіў.* М. Малешава.

УШЧЫКНУ′ЦЬ *зак.* Ушчыпнуць. *Так ушчыкне, бы уку́сіць.* Запясочча.

УШЧЫЛЬНУ′Ю *прысл.* Шчыльна, усутыч. *Ушчыльную положыў дошкі.* Аздамічы.

УШЧЫНА′ЦЬ *незак.* Пачынаць, зачынаць. *Я навек ушчынаю ім песні.* Бярэжцы.

УШЧЫПНУ′ЦЬ *зак.* Вырваць, адшчыпнуць. *Цыбулі трэбо було ушчыпнуць.* В. Малешава.

УШЧЫ′Т *прысл.* Падрад, ушчыльную. *Журовіны ушчыт лежа́ць — одна поўз одненькой лежаць.* Хачэнь.

УШЧЭ′З *прысл.* Ушчэнт, дашчэнту. *Ушчэз поломалосо ўсе.* Аздамічы.

УШЧЭЛО′ПОК, УШЧОЛО′ПОК *м.* Невялікае ўзвышэнне. *Ушчэлопок далі косіць.* Дварэц. *Ушчолопок некошэны, зала́па осталаса.* Там жа.

УШЧЭ′НТ *прысл.* Зусім, поўнасцю. *Така породня́ э́ты пе́вень, убівае ушчэнт друго́го пе́ўня.* Тураў.

УШЧЭПЕ′РЫЦЬ *зак.* Ашчаперыць, абхапіць. *Той собака тымі пазурамі ек ушчэперыў, той вол усхопіўса і побег, а так лежаў і не хоцеў уставаць.* Луткі.

УШЫВА′НЬЕ *н.* Устаўка з мярэжкі ці вышыўкі ў жаночай сарочцы. *Ушыванне поўшывала з боко́ў.* М. Малешава.

УШЫВА′ЦЬ *незак.* Зашываць, ушываць. *Дзе́цям ушывалі у ла́точку я́ркус, шоб ёго нішто не спужа́ло, не зуро́чыло.* Старажоўцы.

УШЫ′РКІ *прысл.* У шырыню. *Як ушыркі, так і упопе́рэ́к.* Аздамічы. *Шлях ушыркі велікі.* Бярэжцы.

УШЫ′ЦЦА *зак. экспр.* Улезці, уціснуцца. *Проспевалі мі, потом нейкіе жончы́ны ушы́ліса.* В. Малешава.

УШЭПТА′ЦЦА, УШОПТА′ЦЦА *зак.* Тое ж. *Некі украінец ушэптаўса сюды дай жыве.* В. Малешава. *Чому екіе зло́дзеі не ушопталіса туды?* Запясочча.

УШЭ′СЦЕРО *прысл.* Ушасцярых, шасцёркай. *Ушэсцеро ко́ней запрэ́глі.* Аздамічы.

УШЭ′СЦЬ *н.* Традыцыйнае рэлігійнае свята ушэсце. Аздамічы.

УШЭТА′ЦЦА *зак.* Вымазацца, *перан.* улезці ў непрыемную гісторыю. *Можэш так ушэта́цца, шчо й ушы́ма не пообхло́пваесса.* В. Малешава.

УЮ′Н *м.* Уюн. *Уюноў то тут до холéры былó.* Велямічы. *Етые ўюны́, ек вужэня́та, я іх гідýюса éсці.* Пагост. *Уся пóстаць у его, як у рыбы, во ўюнá.* Луткі. *В'юн — то двадцатое поколéнье вужá* (вераванне). Бярэжцы. *Пры́йдзе іюнь, то круціса, ек в'юн* (прымаўка). Альпень. *Дзе осóт плавае по водзе, там оны, тые уюны́.* Сямігосцічы.

УЮ′НЧЫК *м.* 1. *Памянш.* да ў ю н. Хотамель. 2. Адна пасмачка валасоў пры захворванні на каўтун (?). Хотамель.

УЮРО′К *м.* Прыстасаванне для матання нітак. *Да ручáёк дзесець, да ўюрок, да мотаюць на клубок цы́лы вéчор.* Запясочча. *В'юрóк.* Цераблічы.

УЯ′ПА *ж.*, УЯ′П *м.* Нарасць. *Выгнало ўяпу на вербé.* Альшаны. *Е в'япа на осíне.* Там жа. *В'яп збівалі з дзéрэва, нарвé бы скýла ў в'язі.* Там жа.

# Ф

ФАЙРА′Н *м.* Канец працы. В. Малешава.

ФАЙТО′Н *м.* Фаэтон. *Прыехаў пан файтоном.* Пагост.

ФАНАБЕ′РЫСТЫ *прым.* Фанабэрысты. Альпень.

ФАНАБЕ′РЫЯ *н.* Фанабэрыя. Альпень.

ФАРА′Н *м.* Сорт бульбы. М. Малешава.

ФА′СОЧКА *ж.* Невялікая дзежка. *Фасочка була самодзелкова, сыр, масло клалі.* Дварэц.

ФАШЫ′НЫ *мн.* Звязкі з лазы. *Фашыны в'язалі з лозы і грэблю робілі.* Аздамічы.

ФІ′ГА *ж.* Фіга. *Я не хочу з кішэні фігі даваць.* М. Малешава. *Нá фігу под саму нос.* Там жа.

ФІ′КНУЦЬ *зак. экспр.* Уцячы. *Фікнулі за граніцу воны.* В. Малешава.

ФІЛЬЦІКЛЮ′ШКА *ж.* Фінціклюшка. *Дзед будзе говорыць ўсякіе фільціклюшкі, гето так наўпоперэкі, а мо прыдумае шчо.* Дварэц.

ФІРА′НКА *ж.* Фіранка. *Тоўста голка коло шкапу ў фіранцы.* Запясочча. *Фіранкі трэ на вокна повесіць.* Хотамель.

ФЛЁКСЫ *мн.* Флёкс. Д.-Гарадок.

ФЛЯ′ГА *ж.* Дрэннае надвор'е, пляга. *Така фляга, шчо не можно вуйсці.* Кароцічы.

ФРАКТ *м.* Заробак на сплаве лесу. Запясочча.

ФУГА′НОК *м.* Фуганак. Запясочча.

ФУТРОВА′ННЕ *н.* Пакрыццё будынкаў саломай або чаротам. *Футроване чэрэтом.* Хотамель.

# Х

ХА′БАЛЬ *м.* Распуснік. *То такі хабаль буў, меў жонку і дзеці, а сам прыв'ёз п'ятнаццатку.* Мачуль.

ХА′БРЫ *прым.* Ганарысты, фарсісты. Сямігосцічы.

ХА′БРЫ′ЦЦА *незак.* Ганарыцца, фарсіць. *От хабрыцца, грумечае, з намі не хочэ есці.* Рубель. *Хабрыцца.* Сямігосцічы.

ХАБРЭ′Ц *м.* Фарсун, франт, моднік. *Хабрэц чваніцца, шо то я, хворсіць, хабрыцца.* Цераблічы. *От хабрэц, у такі холод без шапкі ідзе.* Сямігосцічы.

ХА′ВАНКА *ж.*, ХА′ВАНКІ, ХО′ВАНКІ, ХА′ВАЛКІ, ХО′ВАЛКІ *мн.* △ Г у л я́ ц ь  у  х а́ в а н к у (х а́ в а н к і, х о́ в а н к і, х а́ в а л к і, х о́ в а л к і). Гуляць у хованкі. *Поразбегаліса хто куды да хаваюцца, у хаванку гуляюць.* Пагост. *У хаванкі гулялі, то дзецей з лепешні не відно.* Сямігосцічы. *Мі пойдом у хованкі увечоры гуляць.* Там жа. *Дзеці граюць у хавалкі ці палку-застукалку.* Кароцічы. *Давай гуляць у ховалкі.* Верасніца.

ХАВА′ЦЦА, ХОВА′ЦЦА *незак.* Хавацца. *А там із Бурэзей тожэ хаваліса, ў том лесі.* Бярэжцы. *Ек грыміць, то под дубом не ховаюцца.* Сямурадцы. *По хатох хаваўса, ек зеўзюля по капусці.* Верасніца. *Туча вуйдзе, то ховаемса уже под тые снопу.* Хачэнь. *Од чоловека ўсякі звер хаваецца.* Пагост.

ХАВА′ЦЬ, ХОВА′ЦЬ *незак.* 1. Хаваць. *То я от полякоў воза тут ховаў.* Буразі. *Хаваю ключа под трэскамі.* Пагост. 2. Хаваць нябожчыка. *Прыехаў того брата ховаць.* Сямурадцы. *Побралі грошы і побеглі ту бабу ховаць.* Там жа. *Ховайце мене разом з ею, ек она отравілаbooса* (з казкі). Хачэнь. *Колісь шчэ ховалі мертвых у «головах».* Кароцічы. *Ек умер мужычок, ховаў поп і дзячок, ек умер богатыр, то собраўса увесь мір* (прымаўка).

Старажоўцы. △ Ховáй бóжа. Крый бог. *Дзед, вы обіжаецеса на нас? — Ховай божа, не.* Аздамічы.

ХАЙ *часц.* Няхай, хай. *Хай воўк несе твою козу й козла!* Дварэц. *Хай бы тогды сказала, шо пойду за его.* Мачуль. *Хай на цебе ліхо нáйдзе!* (праклён). М. Малешава. *Здохла короўка, хай пропадзе й вероўка* (прыказка). Старажоўцы. *Не ўздыхай, кого нема, то хай* (прыказка). Там жа. *Хай седіть, абы моўчыть* (прымаўка). Альпень.

ХАЙЛУ'К *м.* Часовая пабудова, курэнь. *Косарэ, трэ хайлука екого зробіць.* Пагост. *Ек прыедом у лес, то кажуць: екого-небудзь хайлука закідаць трэба, то значыць курэня зробіць трэба.* Там жа.

ХАК *м.* Інструмент для наразання палос на ствале сасны пры збіранні смалы. *Хак нарэзаць сосну.* Бярэжцы.

ХАЛАБУ'ДА *ж.* 1. Прымітыўнае збудаванне для жылля. Цераблічы. 2. Цыганскі воз. Цераблічы.

ХАЛАБУ'ЛКА *ж.* Прымітыўнае збудаванне для жылля. Запясочча.

ХАЛАБУ'РЦА *м.* Пустаслоў. Аздамічы.

ХАЛА'Ш *м.* Цыганская палатка; часовая пабудова. *Халашэ цыгані роспоструць на болоні і седзяць.* Дварэц. *Ліж бу мілы по душэ, хорошо і ў халашэ* (прыпеўка). Хачэнь. *Прыехалі цыгані да поўстройвалі халашэ.* Верасніца. *Некого халаша повесіць да ўкіне тое дзіця, да й пошла цыганка, і здоровуе дзеці.* Луткі.

ХА'ЛЕПА *ж.* Слата, хлюпота. *О цепер на дворэ така халепа, выйці не можно.* Сямігосцічы.

ХАЛІ'-ХАЛО' *выкл.* Выгук у дзіцячай гульні, калі адзін ігрок адгадаў, каму ў рукі матка паклала спецыяльны прадмет. Альпень.

ХАЛУ'ЖКА *ж.* Халупа. *А вона за пана да до бацька у тую халужку завозіць* (з казкі). Цераблічы.

ХАЛУ'ПА *ж.* Тое ж. *Сына отсадзіў, халупу поставіў, пляц далі і жыві.* В. Малешава. *Памянш.* халýпка. Там жа.

ХАЛЬБО'НЫ *мн.* Фальбоны. *У такіх хальбонах шырокіх ходзіць, як кош.* Мачуль.

ХАЛЯ'ВА, ХОЛЯ'ВА *ж.* Халява. *Льецца вода за халяву, ледво стою.* Дварэц. *От, каа, рот, бу халява, без зубоў.* В. Малешава. *У гэту тучу мокрусенька прышла, поўные холяві воды нацекло!* Сямігосцічы. *Лапці рэмен-*

*ные с старых холяў.* Лутксі. *Холява вузенька у чобоцех.* Хотамель. *Чого крычыш, холяво керзова!* Цераблічы. *Пана відно по холявах* (прымаўка). Сямурадцы.

ХАМ *м.* Хам. *Воны ж первуе людзі, ім усё первэ, а мы хамы.* Дварэц.

ХАМЕРЭ́ЧА *ж.* Гушчар у лесе. *Воўча хамерэча.* Пагост.

ХАМЗА́ *ж.* Глухое зараслае месца. *Хамза — ек глуха заросша месціна.* Цераблічы. *Зав'ёз у хамзу да вукінуў пан тых церэблюкоў.* Там жа.

ХА́МЗАЦЬ *незак.* Гугнявіць. *І чого вона так хамзае?* М. Малешава.

ХАМЗІ́ЦЬ *незак.* Тое ж. Кароцічы.

ХАМЗЛІ́ВУ *прым.* Гугнявы. Запясочча.

ХАМІ́ЛІЯ, ФАМІ́ЛІЯ *ж.* Прозвішча. *Называюць у нас по-улічному, а не по хаміліях.* Аздамічы. *У нас багато разных хамілій, мо сто.* Пагост.

ХА́МКАЛО *м.* Той, хто гугнявіць. Аздамічы.

ХА́МКАЦЬ *незак.* Гугнявіць. *Вон не умее говорыць, онно ге хамзіць, хамкае.* Цераблічы. *Твой чоловек хамкае навек.* Луткі.

ХАМЛІ́ВУ *прым.* Гугнявы. Луткі.

ХАМРЫ́ВІЦЬ *незак.* Гугнявіць. *Вона змалку хамрывіць.* Тураў.

ХАМРЫ́ВУ *прым.* Гугнявы. Тураў.

ХАМРЫ́ЦЬ *незак.* Гугнявіць. *Хамрыць собе под нос, похамрэла, похамрэла, да нічого не розобралі.* Пагост.

ХАМУ́ЛА *м.* і *ж.* Хамула. *Гэто хамула старая, а не чоловек!* В. Малешава.

ХАМУ́ЛОВАТЫ *прым.* Няўклюдны. Альшаны.

ХАМУ́Т, ХОМУ́Т *м.* 1. Хамут. *Коліся як дзеўка замуж пойдзе не чэсна, то мацер хомута на шыю клалі.* Старажоўцы. *Хамут малы коню, то й не лезе.* Верасніца. *Одзін конь остаўса, дай той без хамута.* Кароцічы. *Коб шыя, то хамут будзе* (прымаўка). Сямурадцы. 2. Нізка, звязка лісця. *Я ужэ собе тры ці чотыры хомуты лісту дубового набрала.* Верасніца. *Хомут з лістоў нав'яжэм да печэм хлеб.* Хачэнь. *Хамут лістоў дубовых на сцене вісіць, увосень ек падае, збіралі на хлеб.* Чэрнічы. *Хамуты понанізваюць того капусценого, дубового лісту, да под хлеб ложылі.* Луткі. 3. Прывязка з гужвы ў плоце. *Хомуты по вуглах гонкі с тоўстое гужвы.* Запясочча.

ХАМУЦІ'НА *ж.* Хамуціна. *Хамуціна прышываецца к клёшчам.* Верасніца.

ХАНА' *м.* Канец. *Хана гарбузам, не поростуць, позно ўжэ.* М. Малешава.

ХАП *м.* Чорт, міфічная істота (у праклёне). *Хап его не ôзьме!* Хотамель.

ХАПА'ЦЦА *незак.* Хапацца. *І ў цэркві за різы поповыє хапаюцца.* М. Малешава. *Хапайса, то й тобе будзе чарка* (прыгаворваюць, калі чалавек папярхнецца ў час яды). Луткі.

ХАПА'ЦЬ *незак.* 1. Хапаць. *Шо ты поперэд невода рыбу хапаеш?* В. Малешава. *Прадуць, прадуць да хапаюць, шчоб хуччэй.* Верасніца. *Начынаеш жаць, то не хапай, бо нажменіш руку.* Хачэнь. *Я Купало, шо дзевок хапало!* (прымаўка). Пагост. 2. Быць дастатковым. *Долі не хапае той жонцы.* Сямурадцы.

ХАПЕ'Ц *м.* Міфічная істота; хапуга. *Хапец цебе понесе з тое комнаты без света.* Луткі.

ХА'ПНУЦЬ *зак.* Хапануць, хапнуць. *А воўк ек хапне мене за ногу!* Сямігосцічы.

ХАПУ'-ХАПУ' *выкл.* Хап. *А я жала да хапу-хапу, да нажала одну копу-копу* (з песні). Пагост.

ХАПУ'Н *м.* Хапун, хапуга. *Хапуны сеткі забралі.* Пагост.

ХАПУ'ЧЫ *дзеепрым.* Хапучы. *Вон такі хапучы.* Цераблічы.

ХА'РА *ж. экспр.* Твар. *Ну й хара ў его, плёваць хочэцца.* Верасніца.

ХАРАБО'НІЦЦА *незак.* Прыбірацца, чапурыцца. *Харабоньса не харабоньса — постарэла ужэ.* М. Малешава.

ХАРАБУ'ЦІЦЦА *незак.* Скручвацца. *Дзелаеш спіцы ў вушы, шо б не харабуціліса ў кучу.* Цераблічы.

ХАРА'МКАЦЬ *незак.* Плявузгаць. *Начне харамкаць: моя баба ге й ге, а баба зусім умэрла.* Мачуль.

ХА'РКАЦЬ *незак.* Харкаць. *Харкаюць пулом да дымом.* Запясочча.

ХАРМА'ТНЫ *прым.* Спрытны, прыгожы. Запясочча.

ХАРЧ *м.* Харч. *Чоловек на пяць того харчу, шо набрау.* Луткі. *Собака сакоўскі есць харч свінячы.* Мачуль. *На болото і харч бером, недзелю там будом, покі сено кончымо.* Пагост. *Гуляй, голота, коля болота — які харч, така і робота* (прыказка). Бярэжцы.

ХАРЧОВА'ЦЬ *незак.* Харчаваць, даваць харч. *Дай тэ, шчо слабо харчують, то попрыстають.* Лутки.

ХАРЧО'ЎКА *ж.* Харч, корм. *Корові добра харчоўка.* Альпень.

ХАРЧЫ', ХАРЧЭ' *мн.* Харчы. *Занесла трохі харчоў ей.* М. Малешава. *Бацько прынесе харчоў да ідзе домоў.* Цераблічы. *Трэба чорт ёго ведае колько харчоў тым коровам.* Пагост. *Харчэ́.* Там жа.

ХА'ТА *ж.* Хата. *Моя хата стояла, а людзкіе погорэлі.* Чэрнічы. *То так хата поўз хату стояла, сцесненье.* Пагост. *Роскажы ж ты мне, покажы ж ты мне, дзе міленького хата* (з песні). Там жа. *Чыя хата ў огородзі, моя ж под горою* (з песні). Сямурадцы. *Просім у хату, сваткі.* Верасніца. *У Толмачове було озеро у самом селе поўз хаты.* М. Малешава. *Ек трэба перэбірацца у новую хату, то занесе на ноч хлеба і кота у хату.* Хачэнь. *То мо п'еўговуе хаты, з іх п'еўгі вуводзяцца.* Там жа. *У своей хаці і ковеня мацер* (прымаўка). Сямігосцічы. *Ек у гумне молоціцца, то ў хаці весело* (прыказка). Старажоўцы. *Памянш.* х а́ т к а, х а́ т о ч к а. *Ой, шоб не було і з лешчыночкі хаточкі* (з песні). Пагост. *Да зробілі таку маленечку хаточку.* Кароцічы. *У своей хацці добро й собацці* (прыказка). Цераблічы. *Маеш дзіцятко, то май жэ і хатку* (прыказка). Старажоўцы.

Пры пабудове новай хаты вялікае значэнне надавалася выбару месца. Для гэтага гаспадыня *ек саджа́е у печ хлеб, кладзе́ дзве баха́ночкі: ек хлебцы́ зойду́цца, то до́брэ место на ха́ту, ек не, то плохе́.* Нельга было будаваць хату там, *дзе кла́дзьбішча булі́, дзе сады́ зрэ́звалі.* Пры будаванні дома *покопа́юць штанда́ры, на штанда́ры кладу́ць дзе́рэво; поло́жаць одзі́н вено́к, другі трэ́ба кла́сці, то на пе́ршы вено́к на покутно́м вугле́ кладуць хлеб, грошы і жыто.* Пры засяленні ў новую хату першым заходзіў гаспадар; ён уносіў стол, ікону і бохан хлеба: *цэ́лы бо́хон хле́ба поклaдо́м на стол, это ж само осноўное.* Існавала традыцыя заўсёды ў хаце падтрымліваць пэўны парадак. Калі гаспадыня *ні перэд одны́м сья́том хату не прыбрала, то от у ее і рэ́зка такая засорана зельем абу́-якім.* Нельга было тры дні месці хату *як у доме покойнік, як хто ідзе ў а́рмею, як од'ежджае хто ў дорогу. Гэто коб воро́чаліса.* Калі ў доме каго-небудзь хавалі, то хату мялі толькі пасля таго, *як ужэ́ понесуць покойніка. І того веніка ховають. Ім подме́тають с капусты*

*вýсень, і воны подохнуць. А смéцье і трэскі несуць на воду або запаляць, шоб згорэлі.* Старажоўцы.

ХА'ТНІ *прым.* Хатні. *Е блошчыца полевая, е і хатняя.* Альпень. *Сусед вон хатні нам, коліся воны просто нас жылі.* Дварэц. △ Х á т н і л á п у х. Қаланхое. Старажоўцы.

ХА'ТНІ'ШЧЭ *н.* 1. Месца, дзе стаяла хата. *Дзе панскее хáтнішчэ, там сеюць буракі цепер.* Луткі. *Пойду на свое хáтнішчэ.* Там жа. *Там було хáтнішчэ — там хата стояла.* Қароцічы. 2. Вялікая хата. *А тут таке хатнішчэ, таке домішчэ!* М. Малешава. *Хáтнішчэ.* Аздамічы.

ХАТНО' *н.* Вялікая хата. *Нашэ хатно ек морэ!* Старажоўцы. *Хатно шо гумно колхознэ!* Пагост.

ХА'УТ *м.* Дрэва з гнілым стрыжнем. *Ек губа на боку, то хаут будзе дзерэво.* Пагост. *Хаут попаў мне, недобрые дошкі, зогніе лотка скоро.* Сямігосцічы. *З губкі заходзіць у серэдзіну загной і хаўт робіцца.* Мачуль.

ХА'УТНЫ *прым.* Які з гнілым стрыжнем (пра дрэва). *Шукаюць только хаутное, віворот, ужэ похіла, корэнь подняўса, обопрэцца об другу.* В. Малешава. *Хавутна хвоя, можно жлукто робіць.* Рычоў.

ХА'ЎҚАВІЦА *ж.* Пазяханне. *Хаўкавіца напала на мене.* Запясочча.

ХА'ЎҚАЦЬ *незак.* Пазяхаць. *Хаўкаць уродзі позор.* Бярэжцы.

ХАЎРУ'СНО *прысл.* Супольна, сумесна, разам. *Шо хаўрусно, то і гнюсно* (прыказка). Альшаны.

ХАЦІ'НА *ж.* Хаціна. *Той маў хаціну да продаў.* Цераблічы. *Попрошу дзіцяці, хай хаціну тут неку купіць.* Пагост. *Памянш.* х а ц í н к а. *Мамо, я тобе хацінку постаўлю оддзельно.* Хачэнь. *Му собе хацінку купілі да жывом.* Там жа.

ХАШЧ *м.*, ХА'ШЧА *ж.* Нетра, гушчар, густыя зараснікі. *Зблудзілі му да зайшлі у такі хашч, шчо без сокеры не пройці.* Тураў. *Гэты за корову да ў хашчў, зарэзалі.* Верасніца. *У хашчы у таком, у цемноце.* М. Малешава. *Хашч, гушча така, не вулезці!* Луткі. *Усе заросло хашчэм.* Аздамічы. *Була хашча, шчо не пройті.* Альпень. *Хашча, шо пройці не можно!* Сямурадцы. *У такой хашчэ було, ледзь нашоў.* Любавічы. *Одна хашча, одные воўкі да гэтые поганые.* Луткі.

ХАШЧА'ГА *ж.* Тое ж. *Така була хашчага непроходзімая!* Верасніца.

ХАШЧО'ЎНІК, ХОШЧО'ЎНІК *м.* Тое ж. *Хошчоўніку було, дзе воўкам одзержыцца, така гушча.* М. Малешава. *Хашчоўнік.* Там жа.

ХА'ЯЦЬ *незак.* Адходжваць, лячыць. *С коня упаў да ўжэ нежыву, да хаялі, дак отхаялі, жыву зробіўса.* Запясочча. *Только хаялі кіслым молоком да сароваткою.* Бярэжцы. Бэсціць, лаяць. *Не хай его, не ругай.* Запясочча. Ачышчаць. *Воны хаяцьме той лубін.* Мачуль.

ХВА'БРЫ *прым.* Фарсісты, модны. *Хвабры хлопец.* Запясочча.

ХВАЙДА' *м.* і *ж.* Ганарысты чалавек. *Ну й хвайда, носа круком не достанеш!* М. Малешава.

ХВАЙДЗІ'ЦЬ *незак.* Ганарыцца, выхваляцца. *Так ужо хвайдзіць, шо не подходзь!* М. Малешава.

ХВА'ЙНО, ФА'ЙНО *прысл.* Прыгожа, добра. *Так хвайно плацье пошыто.* Кароцічы. *Обрэжэ файно ножычком.* Аздамічы.

ХВА'ЙНЫ *прым.* Прыгожы, добры, ладны. *Воны хвайные вельмі, смуродзіны.* Хотамель.

ХВАЛА' *ж.* Хвала. *Хоць з'еж вола, то одна хвала* (прымаўка). Сямурадцы.

ХВАЛІНДЗЕ'Й, ХВАЛЕНЦЕ'Й, ХВАЛІСЦЕ'Й *м.* Хвалько. *То хваліндзей, кажды дзень новое одзее.* Верасніца. *Не хваліса, хвалендзей, шо багато поймаў рыбу.* М. Малешава. *Хваленцей такі!* В. Малешава. *Ну і хвалісцей ты, Архіп!* Тураў.

ХВАЛІ'ЦЦА *незак.* Хваліцца. *Хваліцца, а нема нічого.* Аздамічы. *Хваліласа да коровайніца, шо веліка да роботніца* (з песні). Пагост. *Каліна хваліласа, шо я з медом добра* (прымаўка). Мачуль.

ХВАЛІ'ЦЬ *незак.* Хваліць. *Дзякуй вам, шо вы ўсе хваліце.* Цераблічы. *Цыган свое пот плот валіць, а усеодно хваліць* (прыказка). Мачуль. *Не хвалі дня зранку, а жонку — ззамолоду* (прыказка). Сямігосцічы. *П'яны плот валіць да себе хваліць* (прыказка). Старажоўцы. *Коня можэш не хваліць, а корміць — кормі добрэ* (прымаўка). Пагост. *Картоплі прыказвалі: нас пекуць, нас і вараць, нас едзяць, нас і хваляць, а шчэ дождом у бога ласкі, шчо напекуць і з нас і паскі* (прымаўка). Старажоўцы.

ХВАЛЬБО'НКА *ж.* Фальбона. Альпень.

ХВАЛЬКО' *м.* Хвалько. Аздамічы.

ХВА'НДЫ, ФА'НДЫ *мн.* Складкі, фалды. *У світках*

*усёдно ж хванды булі.* Верасніца. *У свіццы белой з фандамі ззаду йдзе.* Сямігосцічы. *Сві́та пошыта ў фанды.* В. Малешава.

ХВАНЕ'Р, ФАНЕ'Р *м.* Фанера. *Там робілі хванер.* Пагост. *Фанер.* Цераблічы.

ХВАРТУ'Х *м.* Фартух. *Ек я ходзіла ў цэркоў, то прыпнула нового чырвоного хвартуха.* Кароцічы. *І ты, хвартушэ, злы душэ, просі бога я і ты, шоб прышлі сваты* (прымаўка). Хачэнь.

ХВАРТУШЫ'НА *ж.* Тое ж. *Шчо му, пане, просцелемо? Я просцелю жупеніну, а ты, дзеўко, хвартушыну* (з песні). Пагост.

ХВА'СТОВАЦЦА *незак.* Хваліцца, выхваляцца. *А ты рад, хвастуесса рыбою.* Луткі.

ХВАТАНУ'ЦЬ *зак.* Хапануць. *Штухнуў ёго, а вон хватануў за ногу дай отсёк носка.* Верасніца.

ХВАТА'ЦЦА *незак.* Хапацца, хватацца. *Да плуві ж, плуві, да сыночок, рэкою, да не хватайса за берэжочок рукою* (з песні). Пагост.

ХВАТА'ЦЬ *незак.* 1. Хапаць. *Молодых хватае, дзевок і хлопцоў.* Хотамель. *Хата то веліка, места ў ей хватае, да холодна.* Пагост. *Хватае на зіму дроў.* Там жа. 2. Лавіць, хватаць. *Шышкі кідаюць на стрэхі, а дзеці хватаюць.* М. Малешава. △ Не хвата́ць го́рла. Не быць у дастатковай колькасці. *От ужэ мелочная, не хватае з ее горла, усё мало, свет заняло б і шчэ мало.* М. Малешава.

ХВА'ТКІ *прым.* Хвацкі, хуткі, рухавы. *Ленуецца чоловек, до роботы не хваткі.* В. Малешава.

ХВА'ТОМ *прысл.* Спешна. *Перэд святом — хватом* (прымаўка). Запясочча.

ХВАЦІ'ЦЬ *зак.* Хапіць. *Ох, цёточко, голубонько, боронь божэ хваціць одного чоловека, не трэ двананцаць.* Луткі. *Хваціць часу, зро́біць шчыта.* Дварэц. *Хваціло б ім!* Там жа.

ХВА'ЦКІ *прым.* Хвацкі, хуткі, рухавы. *Хвацкі хлопчак росце ў Вулі, нікого не боіцца.* Верасніца.

ХВІ'КУС, ФІ'КУС *м.* Фікус. *Хві́кус.* Пагост. *Фі́кус.* Верасніца. *Хвіґус.* Хотамель.

ХВІ'ЛЯ, ФІ'ЛЯ *ж.* Непагадзь, снежны буран. *Така хвіля зробіцца, слізота, вецёр.* Аздамічы. *Хвіля з мора, вецёр с поля* (з песні). Альпень. *Філя — буран з дошчэм.*

Там жа. *Хвіля — бура така на дворэ, ек вецёр зо снегом, да меце так.* Луткі.

ХВІСЛЕВА'ЦЬ, ФІСЛЕВА'ЦЬ *незак.* Паводзіць сябе легкадумна. В. Малешава.

ХВІ'СЛЯ, ФІ'СЛЯ *ж.* Жанчына лёгкіх паводзін. *Фісля фіслевала, не слухала ні бацька, ні мацер.* В. Малешава. *Хвісля.* Там жа.

ХВІСТ *м.* Вяха. *Хвісты стаўляць на лузі.* Аздамічы.

ХВОІ'НА *ж.* 1. Хваёвы лес. *Хвоіна росте.* Хотамель. 2. Хвоя (дрэва). Альпень. 3. Хваёвы матэрыял. *Човен з хвоіны вудоўбаны.* Аздамічы.

ХВО'ЙКА, ХО'ЙКА *ж.*, ХВОЙКІ' *мн.* 1. Хвошч палявы. *Зарослі соткі хвойкою, трэ полоць.* Сямурадцы. *Ек прынесу попонку хвойкі, да ек дам корові, то ўміг розмеце.* М. Малешава. *Хойка гладзенька і голоўка гладзенька.* Бярэжцы. 2. Хвошч балотны. *У хвойкі чорна головочка гладзенька.* Бярэжцы. *Хвойкі мн.* Сямігосцічы. *Памянш.* хвоечка. Луткі. △ У хвойку (хвоечку) повіць, у хвойкі ткаць. Віць, ткаць пэўным узорам. *Да шчэ тые оборкі у хвойку поўюць.* Верасніца. *А ўжэ бацько ў хвоечку поўе волокі.* Луткі. *У хвойкі ткалі.* Запясочча.

ХВО'ЙНІК *м.* 1. Сасоннік. *От хвойнік росце, аж з небом говорыць.* Луткі. *Дзе хвойнік, там і грыбу ростуць.* Хачэнь. 2. Хвошч палявы. Цераблічы. *Памянш.* хвойнічок. *А по том болоту такі нізенькі хвойнічок, лесу нема там, вон не росце, лес.* Хачэнь.

ХВО'КУСНЫ *прым.* Выраблены хітра, лоўка, замыславата. *Така палочка хвокусна, булаўка* (у бубне). Верасніца.

ХВОНА'Р, ФОНА'Р *м.* Ліхтар. *Дай хвонар у хлеў сходзіць.* Пагост. *Фонáр.* Хотамель.

ХВОРА'ЧКА *ж.* Хвароба. *За перэбірачку бог дае хворачку* (прыказка). Мачуль.

ХВО'РМА *ж.* Форма. *Хворма з песка ці гліны для ложкі.* Бярэжцы. *Пірогі ў хвормах пекуць.* Пагост.

ХВО'РНЫ *прым.* Хворы. *То хворна она добіцца, дзе она?* (пра дачку). М. Малешава.

ХВОРО'БА *ж.* Хвароба. *Хворобы такое не будзе велікое, але будуць гінуць людзі* (з казкі). Хачэнь. *Ек скажуць про хворобу, то мое ўсе цело морозом ідзе!* Старажоўцы. *Хвороба ходзіць не по лесу да по людзях* (прыказка). Луткі. *Маеш худобу, то май і хворобу* (прымаў-

ка). Аздамічы. *От хворобу не откупісса!* (прыказка). Пагост. *А воўку — хворобу, шоб не давіў худобу* (прымаўка). М. Малешава.

ХВОРОБУ *прысл. экспр.* Нічога. *Купілі ёму валёнкі, а вон і кажэ: «Цепер хворобу воны, тые ногі, померзнуць!»* Хачэнь. *Хворобу на тобе!* М. Малешава.

ХВОРО'СТ *м. зб.* Хвораст. *Прыв'ез хворосту і плот плеце.* Сямігосцічы. *Хворост з сілегі.* Пагост. *Под хворостом догоры хвостом* (загадка). *Огурок* (адгадка). Запясочча.

ХВОРОСЦІ'ЦЬ *незак.* Біць, лупцаваць. *Палкою того давай хворосціць, давай хворосціць!* Мачуль.

ХВОРСА', ФОРСА' *ж.* Форс. *З хворсы говорыць.* Аздамічы. *Форса такая була, лапці носілі ліповые.* Там жа.

ХВОРСІ'ЦЬ *незак.* Фарсіць, моднічаць. *Хворсіць, шо то я, хабрыцца.* Цераблічы.

ХВОРСУ'Н *м.* Фарсун. *Вон хлопец быў хворсун.* Сямігосцічы.

ХВО'РТКА, ФО'РТКА *ж.* Веснічкі. *Хвортка ходзіць е, вона коло вешніцы.* Пагост. *Іду я, а дзядзькова фортка то отчыніцца, то зачыніцца, аж ідзе тая жонка, шчо ўмерла.* Луткі. *Памянш.* х в о́ р т о ч к а, ф о́ р т о ч к а. *Зачынеце форточку, а то отдзянілі, свінней поўны огород будзе.* Верасніца. *Хворточка у окне воздух напускаць.* Пагост.

ХВО'РЫ *прым.* Хворы. *Ек хворы чоловек — ўсе ўліяе.* В. Малешава.

ХВОРЭ'ЦЬ *незак.* 1. Хварэць. *Вон хворэе вельмі доўго.* Бярэжцы. *І есці добрэ, і ні хворэеш от жолуду.* Там жа. *Дай шчэ пошла замуж, дай вон захворэў, да тры годы хворэў.* Сямурадцы. 2. Быць, існаваць, жыць, знаходзіцца. *Можэ цэлу зіму хворэць на чечцы та качка* (г. зн. не адлятаць у вырай, а жыць на незамярзаючай вадзе). Верасніца. *Рыба уткнуласа ў траву і хворэе.* М. Малешава. *Облепіла обоямі і так вона й хворэе* (пра хату). В. Малешава. *Доліна з водою, там вода хворэе.* Там жа. Гібець, прападаць, псавацца (?). *Вонаназлівала, да так молоко собе тут хворэе.* Хачэнь. *Тая вода хворэла там у тых болотах.* Сямігосцічы.

ХВО'СНУЦЬ *зак.* Стукнуць, хвастануць. *Узела б палку да ек хвоснула!* М. Малешава.

ХВОСО'ЛЯ *ж.* Фасоля. *Тычкі на хвосолю ставяць.* Запясочча.

ХВОСТ *м.* 1. Хвост у жывёл, птушак і інш. *Свінья потопіліса, одно хвосты торчаць.* Сямурадцы. *Не по кобулі хвост* (прымаўка). В. Малешава. *Як Піліп под хвост корові залезе, то і Петро не вужэне* (прымаўка). Хачэнь. *Прычэпі кобулі хвост — колі вон у ее свой есць* (прымаўка). Старажоўцы. *Хвостом корова накрылас — дошч будзе* (прыкмета). Мачуль. 2 *перан.* Хатняя жывёліна. *А у мене одзін хвост* (пра карову). В. Малешава. *Дзержым хвоста, то й сено трэ.* Бярэжцы. *Одного хвоста жэнеш, а другі ў шкоду* (пра авечак). Луткі. *Му вуменялі на кобулу корову — і у нас е хвост.* М. Малешава. 3. Канец участка. *Конец дзялкі, то ў нас хвост называюць.* Луткі. *Мне здаецца, шо я хвоста на буракі велікого одмерала, аж у людзей большые.* Сямурадцы. *Поп берэ не з хвоста загона, а з серэдзіны загона* (прымаўка). Дварэц. 4. Высеўкі з жыта. Бярэжцы. 5 *мн. хвосты́.* Недатканыя канцы нітак асновы. *Хвосты одрэзалі од полотна.* Аздамічы. 6 *мн. хвосты́.* Матузы ў фартуху. Запясочча. △ Хвосто́м (у хвост) бе́гаць. Заляцацца да каго-н. *Хвоста даюць есці дзеўцы, шчоб хлопцы бегалі хвостом* (народны звычай, калі заб'юць свінню). Луткі. *За ею хлопцы хвостом бегаюць.* Дварэц. *За ім дзеўкі ў хвост бегаюць.* М. Малешава. Не по коту́ хвост. Пра неадпаведнасць. М. Малешава. Хвоста́ откі́нуць. Памерці. *Хвоста ткіне стары.* Хотамель. *Памянш.* хво́сцік. Верасніца.

У мінулым існаваў звычай гадаць на серп адносна працягласці свайго жыцця. *Беру́ць се́рпа так о за хвост і так о качаюць. Ек упадзе вон уверх гострымі зубамі, то дожду на той год жаць жіто, а ек упадзе ніцком, то засохну.* Хачэнь.

ХВОСТА'ЦЬ *незак. экспр.* Моцна струменіць, ісці (пра дождж). *Хвошчэ, і нема кому перевезці!* М. Малешава. Хвастаць, лупцаваць. *Хвошчэ свінью дубцэм, отвучвае ў город лезці.* Пагост.

ХВОСЬ *выкл.* Выгук, якім перадаецца гук удару. *У біткі білі: то ў носок, то ў пуху — хвось по еечку!* М. Малешава. *Хвось пугою по гадзюцы — і россёк.* Пагост.

ХВОШЧ, ХВОШЧА'Й *м.* 1. Хвошч. *Хвошч такі у лесі, нарвеш да добрэ шароваць ложкі.* Хачэнь. *Хвошч на багне́ росце, а на куп'і осока.* Луткі. *Хвошчай коровам хо-*

*рошэ.* Мачуль. 2. Тлушчавая залоза ў хатняй птушкі. Верасніца.

ХВО'Я *ж.* 1. Хвоя. *Урочышчэ Хвойнік, хвоі рослі.* Чэрнічы. *Коб гэту хвою порэзаў, то було б чотыры колоды.* Верасніца. *Прывязалі Галю к хвоі вочыма, а к полю плечыма* (з песні). Пагост. *Ека хвоя, така дошка, ека матка, така дочка, екі дуб, такі клін, екі бацько, такі сын* (прымаўка). Аздамічы. 2. Каравайнае дрэўца. *Ек ідуць по дзеўку, то несуць коровай з хвоею.* Сямігосцічы. △ Л і п о в а  х в о́ я. Смалістая хвоя. Аздамічы. *Памянш.* х в о́ й к а. *Я седжу на той хвойцы.* Бярэжцы.

ХЕ'МАЦЬ *незак.* Дрэнна рабіць, вырабляць. *Годзі ты хемаў!* М. Малешава.

ХЕ'НЦЫЯ *ж.* Ахвота. *О, хенцыя узела і мне туды іці.* Луткі.

ХЕ'ЎРА *ж. экспр.* Кампанія. *Зобраласа хеўра. Як компаніцца удвох-утрох чоловек, то хеўра, схеўроваліса.* Альшаны. *Оборвала хеўра яблока.* Там жа. *Хевра.* Хотамель.

ХЕЎРОВА'ЦЬ *незак. экспр.* Быць у хаўрусе. *Я с тобой хеўрую даўно.* Альшаны.

ХІБ *м.*, ХІБА' *ж.* 1. Хіб у свінні, каня. *Хіб — то сама спіна ў свіні; погледзі, ці тлустэ сало на хібу?* Луткі. *На самом хібу шэрсць ек дрот!* Там жа. *Саме сало тоўшчэйшэ на хібу.* Альшаны. *За хібу коня узяўса.* Альшаны. 2. Узвышша на зямлі. *І толькі по гэтому хібу будзе іці.* Луткі.

ХІ'БА', ХІ'БО, ХІ'БЕ, ХІ'БЕЛ, ХІ'БЕЛЬ, ХІ'БЭЛЬ 1 *часц.* Хіба. *Хіба́ шо нейдзі будзе за Жытковічамі?* Луткі. *Хіба́ вон проволку оторве?* Там жа. *А хіба́ я не говорыў тобе, шо там яма?* Пагост. *Хіба́ дзе гармоніст зайграе?* Сямурадцы. *А шо воны хіба дзеці?* Любавічы. *Хіба німа колі?* Кароцічы. *Коб як хібо пасынкі обломаць, як сядуць пчолы.* Мачуль. *Хібе коб браў ковешку да гнаў тых молодых, шоб ішлі робіць.* Сямігосцічы. *Хібе я ўжэ сама пойду ў лаўку по хлеб?* Кароцічы. *Мо хібе не схоцеў?* Хільчыцы. *Хібель мо на весне можно заробіць дваццаць рублей?* Цераблічы. *Хібель я цебе не пускаю?* Там жа. 2 *злучн.* Хіба. *Сто лет стоіць, хіба згорыць.* Дварэц. *Шлях буў, то не було ужэ нам спокою, хібель то цепэр не будуць просіцца то воды, то жэлезняка.* Цераблічы. *Хібэль нора буде да ў нору, а так не*

*утечэ тая крыса од буська.* Рубель. 3 *выкл.* Хіба. *Я ходзіў тудэю.— Хіба так!* Аздамічы.

ХІБЕ'Т-ДЗЕ'ЎКА *ж.* Дзяўчына прываблівая, спакуслівая. *Хібет-дзеўка, так і шыхуюць коло ее хлопцы.* Пагост.

ХІБЕ'ТНЫ *прым.* Спакуслівы, прываблівы. *Хібетна дзеўка — ето шо цело ў ее зовўшчэ, не сорóмнэ.* Пагост.

ХІБКІ' *прым.* Гнуткі. *Тросць у жэлезном бердзе хібка вельмі, не чутно, ек ччы.* Луткі.

ХІБО'ВЫ *прым.* Крывы (?) *Хібовэ дерэво.* Хотамель.

ХІ'ЖА *ж.* Кладоўка, клець. *У сенях була хіжа спаць молодым.* Луткі. *Хоць хіжа згорэла, але й мушы погорэлі* (жарт). Там жа. *У селян хіжа, з дошчок перэбітые сені.* Дварэц.

ХІЖО'К, ХІЗО'К *м.* Кладоўка. *А молодые нашы спяць у хіжку.* Тураў. *Колісь була така комора, то казалі на ее хізок.* Луткі.

ХІ'ЖЫНА *ж.* Хаціна. *Подважыў свою хіжыну, коб вушэй була, бо села.* В. Малешава.

ХІЛІ'ЦЬ *незак.* Хіліць. *Куды маці хіліла, туды я хіліласа, нехай будзе так.* Луткі. *Помалу хіліць стог, можэ обернуцца без подпоры.* Пагост. *Хіліць сон голову.* Там жа. Нахіляць. *Подрэзаём сосну, хілім дай пошла падаць.* Пагост.

ХІ'ЛЫ *дзеепрым.* Пахілы, схілены. Альшаны. Хілы, слабы, знясілены. *С хворобу хілы, сокеру ў целеш не ўгоню.* Пагост.

ХІЛЬНУ'ЦЦА *зак.* Хістануцца. *Хільнуўса по колодзі йдучы, але устояў, не брохнуў у воду.* Пагост.

ХІ'МОРОД *м.*, ХІ'МОРОДА, ХІМО'РА *ж.*, ХІ'МОРОДЫ *мн.* Жарты, фокусы, выбрыкі, выдумкі. *Годзі ўжэ запраўляла тые хімороды.* Запясочча. *Воны нас нешчо на хімороды, усе нешчо поддзеюць.* Луткі. *Не показвайса зо своімі хімородамі.* Там жа. *Я знаю усе вашы хіморы.* В. Малешава. Падліза, ліслівы чалавек. Аздамічы. △ Хíмороды стрóіць. Капрызіць, рабіць на свой лад, не слухацца. *Загадала хлопцу картоплі копаць, а вон хімарады свое строіць: копае зусім помалу, шпурляе дубцэм картоплі ў небо.* Пагост.

ХІ'РАЦЬ *незак. экспр.* Жыць. *Пока му хіраемо шчэ, то і унукоў поможэм годоваці.* М. Малешава.

ХІ'РКАЛО *н.* Хворы, слабы чалавек. *Грудзі застудзіў да хіркае й хіркае, стаў хіркало.* Пагост.

ХІ'РКАЦЬ *незак.* Кашляць (не моцна, але глыбокім брынклівым кашлем). *Успоцеў дзед моцно, ек полонку рубаў, простудзіўса на холодзі да цепер хіркае.* Пагост. *Хіркаў, хіркаў дай пом'ёр.* Хачэнь.

ХІСТ *м.* Тычка, вяха. *Бачылі там хісты, то ужэ конскі вупас.* Цераблічы. *На палку намотае солому на вершок і понастаўляе хістоў на сеножаці.* Луткі. *На рэццы хіст поставіў баконшчык.* Сямігосцічы. △ Н а в і ц ь (з р о б і ц ь) х і с т а́. Зрабіць вяху. Аздамічы.

ХІТА'ЦЦА *незак.* Хістацца, калывацца, вагацца. *Сядзь, бабко, да не хітайса ў том чоўні, бо перэкулішса.* Чэрнічы. *Удоўбаны човен хітаецца вельмо.* Луткі. *Вона да седзець не можэ, хітаецца.* В. Малешава. Хавацца, бадзяцца. *Хітайса, коб не бачылі.* Мачуль.

ХІТЛЯНЫ' *прым.* Злосны, няшчыры чалавек. *Хітляны чоловек.* Дварэц.

ХІТНУ'ЦЦА *зак.* Хіснуцца. Аздамічы.

ХІ'ТРО *прысл.* Хітра. *А тые подышлі хітро да воны й запелі.* Мачуль. *Хітро заец уцекаў, петлямі да ў свой след.* Пагост.

ХІТРОВА'ЦЬ *незак.* Хітраваць, чараваць. *Була тут така, хітровала, вона вуцегла клоч'е з сцены, з вугла, то дзіця крычало крыком. Пошла я, вуцегла тое клоч'е ў ее, і перэстало крычаць.* Хачэнь. *Хітрue, шо ногі боляць, грыбу збіра́цімо — по́перэду ўсіх будзе.* Пагост.

ХІТРО'К *м.* Хітрун. *Другі такі хітрок, поцягне чкура да чудака устроіц.* Запясочча.

ХІ'ТРОСЦЬ *ж.* Розум, дасціпнасць. *Молода була, невеліка хітросць.* В. Малешава.

ХІ'ТРОШЧЫ *мн.* Хітрасць. *Другі лісошчамі, хітрошчамі, а потом цебе обсмеіць.* Луткі.

ХІ'ТРЫ *прым.* 1. Хітры. *Вон буў розумны, а жонка була хітра.* Цераблічы. *Е людзі розумные, е людзі хітрые, а е людзі лукавіе.* Сямігосцічы. *Рускі солдат хітро́шчы за немецкого.* Пагост. *Зміцер хіцёр да й Саўка не дурак* (прыказка). Цераблічы. 2. Разумны. *Хітры, то розумны, толковы чоловек, это почот, ек кажуць.* Луткі. *Хітры, бо вон мене обдзелаў.* Бярэжцы. *Булі хітрые волы.* Сямурадцы. *Куды не е, то трэба хітра голова.* Дварэц. *У нас е хітры чоловек.* Хотамель. 3. Прайдзісвет, пралаза. *Гэто чоловек хітры, падкі, усюды попадзе.* Луткі. 4. Дальнабачны, празорлівы, прадбачлівы. *І заец хітры, ідзі, здаецца спіць, а вон схопіўса да побег.* Лут-

кі. 5. Замыславаты. *На хітры вузел й остра швайка* (прымаўка). Сямурадцы.

ХІХІ'КАЦЬ *незак.* Хіхікаць. *Хіхічэ нішком.* Бярэжцы. *Хіхікаюць дзеўкі, хлопцоў обсмейваюць.* Пагост.

ХІЦ *часц.* Або. *А кажэ: «На однэ рэшуса: хіц вуйграў, хіц пройграў».* Луткі.

ХЛАМ *выкл.* Выгук, якім перадаецца чмяканне ў час яды. *Хлам, хлам да ек бач накоўталіса качкі.* М. Малешава. *Кабан хлам на ўвесь рот!* Кароцічы. *Хоцеў собаку полашчыць, а вон думаў, шчо цвеліць да хлам его за руку!* Луткі.

ХЛА'МАЦЬ *незак. экспр.* Есці гучна, чмякаць. *От хламае, бі свіня!* Сямігосцічы.

ХЛА'МНУЦЬ *зак. экспр.* З'есці, ухапіць, чмякнуць. *Собака муху хламне.* Запясочча. *Еты конь як хламне, то цебе і прокоўтне!* Там жа. *Не гледзі ў колодзезь, там нешчо седзіць, хламне цебе і з'есць.* Аздамічы.

ХЛЕБ *м.* 1. Хлеб. *Неколі хлеб пеклі з веросу, а цепер хватае хлеба во ўсіх і екого хоч — і белого, і серого.* Бярэжцы. *Багато прожыла, але і хлеба поела!* Там жа. *Сякі-такі абу буў, абу хлеба роздобуў* (прымаўка). М. Малешава. *Зімою елі хлеб з кострыцэю, а летом — з песком* (прыказка). Там жа. *Серпа ўзяла, хлеб забула, ўвесь дзень дома була* (з песні). Сямігосцічы. *На войну ідзі, а хлеб пашы* (прыказка). Там жа. *На тройцу пекуць і ідуць на свое полоскі земле, шоб вусокі багаты хлеб рос* (народны звычай). Верасніца. *Ек упадзе хлеб, то подымі да поцолуй* (народны звычай). Пагост. *Хлеб онно як упадзе з рукі, то кажуць: нехто голодны спешыць домоў* (народнае павер'е). Луткі. *Дваццаць п'яць у дзереві седзяць, хлеб пашуць, а хлеба не едзяць* (загадка). *Борона* (адгадка). Запясочча. *Чоловек не ўміpae без хлеба, да з хлеба* (прымаўка). Цераблічы. *Хлеб і ў старца е* (прымаўка). Хачэнь. *Як стоколоса, то хлеба будзе полоса, а як метліца, то гола поліца* (прыказка). Там жа. *У чужой верэньцы не хлеб, а папка* (прымаўка). Старажоўцы. *Буў бы хлеб, то дзеці збегуцца* (прымаўка). Там жа. *Хлеб буў і будзе, а нас не будзе* (прымаўка). Там жа. 2. Збожжа. *У Бережцах самы хлеб буў, бо земля добра.* Бярэжцы. *Хлеб будзе умолотны, ек не поляжэ.* М. Малешава. 3. Печыва хлеба. *У мене мукі на тры хлебу.* Дварэц. △ З а о д н ы́ м х л ё б о м. Аб ад-

ным хлебе (жыць). *Тры дочкі, хоць ты за одным хлебом оддавай.* М. Малешава. Пойсці ў свой хлеб. Пачаць жыць самастойна. *Пошла ў свой хлеб дзевочка.* Сямурадцы. Лежачы хлеб. Лёгкі, дарэмны здабытак. Там жа. Свой хлеб. Асабісты заробак. Там жа. Ні есці хлёба, ні до хлёба. Галадаць. *Така жонка негодзяшча, шо ек ні ела ні хлеба, ні до хлеба.* Хачэнь. *Памянш.* хлёбец. *Хлебец е, то усе е.* Верасніца. *Колісь я напекла хлебца з м'екіны, то вон бу гразь буў.* Сямурадцы. *Людзі за хлебец хаты постаўлялі.* Буразі. *Есце хлебец свой, хлопцы.* В. Малешава. *На недзелю хлебец і соль на столе трэ, шоб лежалі.* М. Малешава. *Хлебец у кожного, а сало у заможного* (прымаўка). Верасніца.

Па традыцыі хлеб для яды нельга было ламаць, а толькі рэзаць нажом. *Хлеб ломáлі только на канýн, а так рэзалі.* Існаваў і пэўны парадак наразання хлеба. *Почынáе бóхана рэзаць — похрэ́сціць ножэ́м, а тоды отрэ́жэ кра́йчыка і ўжэ рэжэ такімі скібкáмі.* Нельга было *почынáць бóхона ўвéчэры нáноч.* З хлебам звязана нямала розных культавых дзеянняў. Маладыя незамужнія дзяўчаты гадалі: *звáлі у хату собаку і клалі хлеб. Которое дзеўкі хлеб поперэ́д ухопіць, то та попéрэду замуж вуйдзе.* Адразу пасля таго, як ацеліцца карова, *несуць скібку хлеба, посоляць і зробляць пóйлечка хорóшого, і дзве ейцэ розбіваюць. Бувáло, корова не очышчáецца, палілі сіто і эты попелéц давалі ей с хлебом, шоб з'ела.* Прысутнічаў хлеб і ў абаронных дзеяннях. *У нас як побачаць, шо ідзе хмара і будзе дождж, шоб не булó грáду, вуносяць на двор лопату і хлеба кусочок кладуць на лопату.* Звычайна хлеба нельга было нідзе пакідаць. Адступленне ад гэтага правіла здаралася толькі ў некаторых выпадках. *У лéсі хлеб остаўлялі, як ірвáлі зелья дзерэв'я́нку і воронéц. Вурвуць да там положаць на ту мéсцінку хлеба, шоб росло. А то не будзе росці, як не полóжыш хлеба.* Яшчэ хлеб пакідалі ў полі, калі рабілі дажынкі. *Дожынáём і так от остаўляём дзевець колосоў. Гэтые колоскі з'язваём крáсною трапочкою і тут коло корэньчыкоў вýполем чысценько-чысценько. Отрэ́зваем кусочок хлеба і положым. І ўжэ на нашой рэ́зцы віднó, шо дожынкі. То гэто бóроду покідалі, шоб не зводзіўса і родзіў хлеб. Шо ж, покінуць, шоб хлеб звёўса?* Старажоўцы.

ХЛЕ'БАСТАЦЬ *незак.* Хлябтаць, сёрбаць. *Хлебастаюць боршч і з онучэю.* Дварэц.

ХЛЕБЕНУ'ЦЬ *зак.* Сербануць, хлёбнуць. *Хлебенуць чого й побеглі.* Кароцічы.

ХЛЕБІ'НА *ж.* Хлеб. *Хлебіна ў кого була яка.* Мачуль.

ХЛЕБНУ'ЦЬ, ХЛЁБНУЦЬ *зак.* Сербануць, хлёбнуць. *А вон хлебнуў да пошоў.* Сямурадцы. *Но хлёбнула раз того супу дай побегла к сестрэ.* Дварэц. *Вон можэ і горачое стравы хлёбнуць ложку.* Луткі.

ХЛЕБТА'ЦЬ *незак. экспр.* Хлябтаць, сёрбаць. *Ек ласа жонка, то сыр схопіць, а ты хлебчы сыроватку.* В. Малешава. *Хлепчуць голу воду.* Там жа. *А хто шэпчэ, той хлепчэ* (прыказка, пра нібыта лёгкі заработак знахароў). Луткі.

ХЛЕЎ, ХЛЁЎ *м.* 1. Хлеў. *Я ўжэ стою под хлевом.* Мачуль. *Пожэном у хлёў.* Бярэжцы. *Хата як хлёў, ні відно ні гардзін, ні запінок.* Луткі. *Ек у хлеве водзіцца, а на полі родзіцца, то і дурэнь хозяін* (прыказка). Старажоўцы. 2. Адгароджаная частка хлява для свіней, авечак і г. д. *У одрыні для целя хлеў і для свіней і гусей хлеў.* Дварэц. *У одрыне хлевы одгороджаны.* Альшаны. *У одрыне дзве хлеве.* Луткі. *Памянш.* х л е в е́ ц, х л ё ў ч ы к, х л е в у́ ш е ч е к. *Алюшкі-люшкі у хлевец!* Рубель. *Трэбо у хлевец насыпаць мекіну.* Дварэц. *Хлевец одгородзі для овечок.* Хотамель. *У одрыні былі хлёўчыкі з жэрдзя.* Сямігосцічы. *Хлевушечек малюсенькі.* Луткі.

Існаваў спецыяльны звычай першага ўвядзення каровы ў новы хлеў. *От як зробіш но́вого хлева́ для коровы і стано́віш у эты хлеў ее, на́перво посе́еш жытом і подсцілаеш соло́мою. Як ведзе́ш корову у хлеў — пха́еш ее за́дом і прыгова́рваеш: «Шо з головы — то людзям, а ззаду — то мне». І так задом пхаеш перву раз у эты хлеў. Это, кажуць, шоб ведзьмы этые не прыстава́лі.* Цікава, што калі *обму́юць поко́йніка, то ту воду не можно ліці, дзе сонцэ свеціць, а вубіраюць ме́сцінку, дзе сонцэ не свеціць — хлеў. Вукопаюць ямку ў хлеве, ву́льюць воду і закопваюць.* Старажоўцы.

ХЛЁБАЦЬ *незак. экспр.* Хлябтаць, сёрбаць. *Увоткне носа у місу і хлёбае.* Луткі. *Хлёбай квас!* Кароцічы.

ХЛЁПА *ж.* Жанчына лёгкіх паводзін. *Ека ты жонка, хлёпу кусок!* Луткі.

ХЛЁСНУЦЬ *зак. экспр.* Выпіць. *Пошоў воду піць да хлёснуў, а то самогонка.* Дварэц.

ХЛЁСТ *м.* Падліза. Аздамічы.

ХЛЁСТКІ *прым.* Вёрткі, жвавы, энергічны. *Моя Наташка хлёсткая.* В. Малешава.

ХЛІ'ПА'ЦЬ *незак.* Хліпаць, шморгаць. *Целята ўсе сталі хліпáць да кашляюць.* В. Малешава. *Хліпае носом от плачу.* Пагост. *Хліпаць.* Бярэжцы.

ХЛІСНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Хлёбнуць, ухапіць трошкі. *Очэрпнуў ложэчку і хліснуў.* Верасніца. Выпіць. *Як получка, то хлісне дзе.* Дварэц.

ХЛІ'СТА'ЦЬ *незак. экспр.* Піць, хлёбаць. *Хлістайце крышаны!* Верасніца. *Хлішчэ булён, только ложка мільгоціць, вучухаўса на робоці.* Пагост. *Хлішчэ езыком кот молоко, прамо ек чэчэ з міскі ў рот.* Там жа.

ХЛО'ПЕЦ *м.* Хлопец. *У пéлену песок назьбіралі і хлопец понёс.* Луткі. *Було тры хлопцы і дзве дзеўкі — Ева і Куліна і Ефім, Сергей і Якоў.* Там жа. *Колісь жэ і хлопцы не гулялі да плелі лапці: лапці плетуць, волокі в'юць, жакі плетуць.* Хачэнь. *А мо ето ты жака мого похажаў, хлопчэ?* Пагост. *Раз дзе вечоркі, е й хлопцы.* Там жа. *Тогды я невэлікі буў хлопэц.* Рубель. *Лепш полюбі старого вола, чым молодого хлопца* (прымаўка). Старажоўцы. *Памянш.* х л ó п ч ы к. *А той медзьведзь зноў на того хлопчыка нападае* (з казкі). Хільчыцы. *І одное жонкі не пораніў, да того хлопчыка.* Бярэжцы. *Шо ж зроблю з двума хлопчыкамі?* Хачэнь.

ХЛОПЕ'ЧЫ, ХЛОПО'ЧЫ *прым.* Хлапечы. *Уся беседа хлопеча зобіраецца да ідзе по дзеўку* (у час вяселля). Цераблічы. *Ек зобіраецца по дзеўку хлопеча беседа, то маршалкі б'юць горшкі на поліцы.* Луткі. *Ек хлопцы ходзілі на коледы, то хлопочые песні спевалі.* Хачэнь. *Хлопочы чобóці.* Запясочча.

ХЛО'ПІЦЦА *незак.* Слацца, клубіцца. *Дым хлопіцца.* Запясочча. Задыхацца, адчуваць недахоп паветра. *Хлóпіцца, не хапае воздуху, ето астма ў ёго.* Пагост. *Закашляюс да воздуху не ўхоплю, хлоплю́са.* Там жа.

ХЛОПЧА'К *м.* Хлапчук. *Вон такі хлопчак добрэчы.* Хачэнь. *Чужы хлопчак пас коней.* Луткі. *Хлопчак спокойны ек мешэчок.* Старажоўцы. *Дайце убранне ёму таке, як на хлопчака на дзвенаццаць лет.* Кароцічы.

ХЛОПЧУ'РКА *ж.* Дзяўчынка, якая любіць хлапечыя

кампаніі. *Хлопчурка гвозда б'е, а не гуляе ў лялькі.* Луткі.

ХЛОПЧУ'РНІЦА *ж.* Тое ж. *Хлопчурніца, дзе хлопцы стояць, там і вона верціцца кру́жко іх.* М. Малешава.

ХЛОПЧЫ'НА *м.* Хлопец (пры звароце). *Хлопчыно, да воны ж помурзаные.* Сямурадцы. *Памянш.* хлопчы́нко. *Да не куй, хлопчынку, золотого ножа, да подкуй вороного коня* (з песні). Пагост.

ХЛОПЧЫ'ШЧЭ *н. экспр.* Хлопец. *От этые хлопчышча віндуюць по садох!* Луткі. *Мое хлопчышчэ кажэ, хай воно згорыць, этэ сено! Луччэй бу седзеў под ветлой.* Бярэжцы. *Аж тэ хлопчышчэ навело дзецей.* Запясочча. *А тые хлопчышча п'яные не ідуць.* В. Малешава.

ХЛОПЧЭНЯ' *н.* Хлапчаня. *Куды ему козу пасціць, хлопчэня шчэ.* Пагост. *Мое хлопчэня ўжэ саме ўмуваецца і одзеваецца.* Там жа.

ХЛУД *м.* Палка. *Узяў хлуда да так даў!* Аздамічы.

ХЛУДЗЕ'Ц *м.* Пруток у чаўнаку. *На хлудзец накладаецца цэўка.* Аздамічы. *Это хлудзец, шо ў чоўнік кладуць.* В. Малешава. *У чоўнік хлудзец з рокіты робяць.* М. Малешава. *Хлудзец накладаецца на цылку, шчо б вона не спадала со шпеня.* Сямігосцічы.

ХЛУСТ, ХЛЫСТ *м.* Хлыст дрэва. *Хлустом выцяг.* Аздамічы. *Хлыстом поцягаў угуру лес.* Там жа.

ХЛУТНЯ' *ж.* Хлусня. *Усяку хлутню згородзіць, нахлуціць.* Аздамічы.

ХЛУЦІ'ЦЬ *незак.* Хлусіць. *Шо ты хлуціш, непраўду кажэш?* Аздамічы.

ХЛЮ'ПАЦЬ *незак.* Хлюпаць. *Набраў воды ў чоботы да хлюпае.* Пагост.

ХЛЮПКІ', ХЛЮПЛІ'ВУ *прым.* Грузкі, хлюпкі. *Глініста дорога, трохі дождж, да хлюпка́ робіцца, коўзка́.* Пагост. *Хлюпка гразь, бо хлюпае под ступакамі.* Там жа. *Свінья любіць у хлюплівой гразе лежаць.* Там жа. *Та гразь хлюпліва, брусці можна.* Там жа.

ХЛЮСТ *м.* Франт, франтавата апрануты чалавек. Альшаны.

ХЛЯ'БА *ж.* Пахвіна ў каровы. *Як корова голодна, то хлябу позападалі.* Кароцічы. *Як наесца корова, то права хляба ўверх подымецца, а як нап'ецца воды, то обедзьві хлябі ўгору.* В. Малешава. △ Хля́ба ў хля́бу погоня́ць. Быць вельмі худым. *Перэхлябіўса Пушок: хляба ў хлябу погоняе.* В. Малешава.

ХЛЯ′БІСТЫ *прым.* З запалымі бакамі (пра карову). *Хлябіста корова.* Кароцічы.

ХЛЯ′КОЦЬ *ж.* Слата, хлюпота. *Хлякоць — як снег ростане да ісці нельга.* Цераблічы.

ХЛЯ′НУЦЬ *зак.* Хлынуць, паліцца. *Кроў хлянула, зышоў кроўю.* М. Малешава. *Усе тэ раптом хлянуло, пропало!* Цераблічы. Дунуць, падуць. *Зноў вецёр хлянуў.* Запясочча. Шуснуць. *Ек ступі на лёд, так і хлянуў туды* (пад лёд). Верасніца.

ХМА′РА *ж.* 1. Хмара. *З заходу устае веліка хмара.* Тураў. *Выходзіць хмара, а воны косяц.* Мачуль. *Не з усякое хмары дождж бувае.* Старажоўцы. *З велікое хмары да малы дождж* (прымаўка). Хачэнь. 2 *перан.* Куча машкары. Альшаны. *Памянш.* х м а́ р о н ь к а. *Перэнесі божэ хмароньку, да дай божэ погодоньку да на нашу роботоньку* (з песні). Пагост. △ Х м а́ р а ў с т у п а́ е. Хмурыцца. Аздамічы. Х м а́ р а с т у́ ч о ю. Хмара з праліўным дажджом. Аздамічы.

ХМА′РЫЦЦА, ХМУ′РЫЦЦА *незак.* Хмарыцца. *Хмарыцца кругом, поблісквае, погрымвае, можэ й на сенокос наш насунуць.* Пагост. *Хмурыцца нешчо, мо до́ждж будзе.* Сямігосцічы.

ХМА′РЫЦЬ *незак.* Тое ж. *Хмарыць, мо будзе дождж.* Кароцічы. *Хмарыць светову зару, негода будзе.* Пагост.

ХМАТАНУ′ЦЦА *зак.* Кінуцца, накінуцца імгненна. *Гэты кабан, ек хматануўса на его!* Верасніца.

ХМЕЛЬ *м.* Хмель. *Хмель бувае ў лесі, на хмелю хорошы хлеб.* Кароцічы. *Ой, посею хмелю вусокого, дай поклічу роду далёкого* (з песні). Пагост. *Ек первы раз коміна жэняць, то обвязваюць хмелем, к коміну ковеню ставяць і маком обсупаюць.* Луткі.

ХМІС *м.* Сухія сцяблы хмелю. Хотамель.

ХМУЗА′ *ж.* Гушчар, хмыз. *Ек була хмуза, то воўкі цэлу ноч ходзяць.* М. Малешава.

ХМУРНЕ′ЦЬ *незак.* Хмарыцца, цямнець. *От хмурнее, можэ дождж будзе.* Бярэжцы. *От половое хмары на вочах хмурнее.* Пагост. Станавіцца сумным, смутным, журботным. *З жыткі хмурнее, бо неўдалая.* Пагост. *Хмурнее дзеўка, ек вон мімо пройдзе, неўжэ от любошчэ́й?* Там жа.

ХМУ′РНО *прысл.* Хмурна, пахмурна. *Трэ шчо б хмурно на краску було, ек жыто красуецца.* Цераблічы. *Зарэ то хмурно.* Аздамічы.

ХМУ′РНЫ *прым.* 1. Пахмурны, хмурны. *Хмурны дзень, то спаць хочэцца і товар добрэ пасці.* Луткі. *Як хмурны дзень, то шо хоч робі с товаром.* Там жа. *Хмурная погода.* Запясочча. 2 *перан.* Хмурны, пануры. *Чого ты такі хмурны?* М. Малешава.

ХНАЛЬ *м.* Вухналь. Запясочча. *Памянш.* х н а́ л і к. Запясочча.

ХНА′РА *ж.* Скнара, жмінда. *От, кажуць, хнара гэта, скупы, век нікому нічого не дасць!* Бярэжцы.

ХНЫ. △ Х о ц ь б у х н ы. Усё ні па чым. *Дзеці не дбаюць, а ім хоць бу хны!* М. Малешава. *У хаці гразота, а ёй хоць бу хны!* Пагост.

ХНЫ′КАННЕ *н.* Хныканне. *От мне ужэ гетэ хныканне надоело.* Азяраны. *Да возьмі ёго на тэ сено, а то хныканнѧ да слёз на дзень будзе, уесца тут.* Пагост. *От хныканнѧ цело здрыгваецца, томіцца да обіда проходзіць.* Там жа.

ХНЫ′КАЦЬ *незак.* Хныкаць, плакаць, ныць. *Годзі ты хныкаў, стары!* Запясочча. *Хныкае, хныкае — і зарэве, ето шо босому не далі по вуліцы побегаць.* Пагост.

ХО *выкл.* Ого. *Хо, там лес з небом говорыць!* Старажоўцы.

ХОВА′НЕЦ *м.* Бадзяга, скіталец. Аздамічы.

ХОД *м.* Праход. *Мабіць, нейдзе найшлі ход голубы.* Хачэнь. *Нема ходу ніякого лодкою у доліну заехаць, трэ по земле цегці.* Пагост. △ Б ы ц ь н а х о д у́. Быць падрыхтаваным. *За тыждзень хату зробілі, бо ўсе було на ходу.* М. Малешава. З н а ц ь х о д ы́ і з а́ х о д ы. Ведаць усё. *Ты усе знаеш ходы і заходы.* М. Малешава. З е л е́ з н ы х о д. Хадавая металічная частка воза. *Воз у мого бацька буў на зелезном ходу.* Старажоўцы.

ХОДА′ *ж.* 1. Хада. *Ходзіць вон, але ека его хода.* М. Малешава. *Ай, шчо б ты, Марко, пропаў со своей ходою!* Рубель. *За бегою і ходу погубіла* (прымаўка). Луткі. 2. Паходка. *Чую, шчо не Васілёва хода, а Петрова.* Альшаны. 3. Пераход. *Туды два дні ходы.* Аздамічы. 4 *перан.* Хадок. *Хода ходзіць, віса вісіць, віса ўпала, хода з'ела* (загадка). *Свінья і жолуд* (адгадка). Пагост. △ Х у́ т к і н а х о д у́. Хуткі ў хадзе. *Прамо мільгоцяць ногі, хутка на ходу!* Пагост.

ХОДА′КА *ж.* Хадок. *Я ужэ знаю ее ходаку.* Старажоўцы.

ХОДАКІ′, ХОДОКІ′ *мн.* 1. Выбарныя асобы, хадакі.

*Ходакі ездзілі на оглядку.* Пагост. 2. Хадулі. Пагост. *Ходокі.* Аздамічы. 3. Атопкі. Альпень. △ Пойсці у ходакі. Стаць валацугай. *Як людзі лягуць спаць, вона йдзе ў ходакі, красьці.* М. Малешава.

ХО'ДАРЭМ *прысл.* Ходырам. △ Хóдарэм ходзíць. Быць у руху, моцна хістацца. *Ходарэм коло цыцкі у мого чоловека залезо ходзіць, вон ранены.* Пагост.

ХОДА'ЧКА *ж.* Хадок. *Була й здорова, й ходачка, й робóціха.* Верасніца.

ХОДЖА'ЦЬ, ХАДЖА'ЦЬ, ХОЖА'ЦЬ, ХАЖА'ЦЬ *незак.* Падглядаць пчол. *Пчол раз у год осенню ходжаюць.* Аздамічы. *У той хвоі ніхто не хаджае пчол.* Цераблічы. *Хожаў ты свое пчолы?* Запясочча. Даставаць рыбу са стаўных прылад. *Пойду жакі хаджаць.* Альшаны. *Дзед там рыбу ходжае.* В. Малешава. *Хажац.* Хотамель.

ХО'ДЗЕЧЫ, ХО'ДЗЯ *дзеепрысл.* Ходзячы. *Ходзечы по болоту, перэрваласа — да еке ж там ягоды!* Хачэнь. *Чоботы потоптаў, ходзя за тобой!* М. Малешава. *А на полі на ролье, там ходзілі два жураўле, воны ходзя говораць, шо рання ролья луччa жаць* (з песні). В. Малешава.

ХОДЗІ'ЦЬ, ХОІ'ЦЬ *незак.* Хадзіць, перамяшчацца. *Ходзець есьці, а то вухолодае!* Луткі. *На Гвозд ходзяць за журавінамі.* Цераблічы. *Як ходзіш, то ўсе трэбо, а ляж на дзень, то ўсе не трэбо.* Дварэц. *Ходзь, Пушык, ідзі шукай!* В. Малешава. *Оле, ходзі, тут грыбоў багато!* Хачэнь. *То воны стояць на купіне, а я ходжу й ходжу, й ходжу. Не так жэ воно змерзнеш ходзячы.* Там жа. *Надзе, хоі на роботу.* Альшаны. *Як увечэры куры доўго ходзяць, то будзе дождж* (прыкмета). Там жа. *У водном ходзіш — маці ўмрэ* (прыкмета). Бярэжцы. *Праўду кажуць, шчо сорок дней душа ходзіць* (народнае павер'е). Сямігосцічы. *Перэпіваю жоўтые грошы, шоб не ходзіла жонка боса* (вясельнае пажаданне). Старажоўцы. *Оддала рукамі, а буду ходзіць ногамі* (прымаўка). Там жа. *Пахмурок ходзіць — дождж будзе* (прыкмета). Буразі. △ Ходзíць у кóнікі. Знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення. *Мішка ходзіць у коніκі.* Хачэнь.

ХОДЗЯЁВА'ЦЬ, ХОЗЯЁВА'ЦЬ *незак.* Гаспадарыць.

*Усёго е, але не ўмеюць хозяёваць.* В. Малешава. *Этые там ходзяюють.* Там жа.

ХО'ДКІ *прым.* Хуткі ў хадзе. *І ходкі конь і бегучы буў!* Луткі. *Ходкі конь скоро ходзіць, а не ходкі лапае.* Там жа. *Ходкі конь, любо орацъ.* Аздамічы. *За два дне ходкі зайдзе ў Мозыр.* Дварэц. *От ходка корова.* Запясочча.

ХО'ДНІК *м.* Палавік. *Тэ полотно, шчо сцелецца под ногі, называецца ходнік.* Кароцічы.

ХО'ДОМ *прысл.* 1. Пешшу, шагам. *Вон ніколі ходом не йдзе, а ўсе бегом.* Цераблічы. *Як бы ходом ходзілі.* Бярэжцы. *Конь ідзе ходом.* Верасніца.

ХОДУ'Н *м.* 1. Хадункі. *Зразу седалка, потом стоянка, а потом ходун.* Луткі. *Е таке ходуны ходзіці малым дзецям.* Цераблічы. 2. Хадок, пасланец. *Ходуны, посланцы ў Сіберы дзесець семей жывуць.* М. Малешава. 3. Палавік. *Я зарэ ходуны поўтрасаю.* Рубель. *Памянш.* ходу́нчык. *А у нас робяць дзіцяці такого ходунчыка.* В. Малешава.

ХОДУ'ШКА *ж.* Хадункі. Альшаны.

ХОЗЯЕНОВА'ЦЬ, ХОЗЯІНОВА'ЦЬ *незак.* Гаспадарыць. *Хазяін хозяенуе коло дому, домашніе дзела робіць.* Сямурадцы. *У дваццаць год паровацца ўрэм'е, хозяіноваць.* Пагост.

ХОЗЯ'ІН, ХОДЗЯ'ІН, ХАДЗЯ'ІН, ХОЗЯ'Й *м.* Гаспадар. *Госці ў хату, а хозяін с хаты.* Сямігосцічы. *Я ходзяін і ты ходзяін.* М. Малешава. *Ее сын дома да шчэ хадзяін.* Верасніца. *Я сам хозяй собе!* Альпень. *Багато хозяёў загоняло свіней у лес.* Хотамель. *Будзьце хозеямі, рэжце хлеб.* Хотамель. *Кажный своёму полю хозяін.* Луткі. *Неколі казалі — з его хозяіна не будзе, бо ў чоботах ходзіць.* Там жа. *Хто ў лесі не злодзей, той дома не хозяін* (прыказка). Сямігосцічы. *Памянш.-ласк.* хозя́інко. *Хозяінко, спасібо вам за вашые цёплые журы!* Сямурадцы.

ХОЗЯІНО'ВУ *прым.* Гаспадароў. *А шчэ була маці ў мене, ото хозяінова маці.* Хачэнь.

ХОЗЯ'ЙКА *ж.* Гаспадыня. *Ходзем, хозяйко, домоў!* Дварэц. *Ек улезеш у хату, то убачыш ека хозяйка.* Старажоўцы. *Пока хозяйка горшчок зварыць, то сем раз хозяіна обмане* (прыказка). Там жа. *З доброе дзеўкі добра хозяйка* (прымаўка). Там жа. *Ека хозяйка, такі і*

*порадок!* (прымаўка). Там жа. *Як бочка поўна, то й хозяйка моўна* (прыказка). Сямігосцічы.

ХОЗЯЙКОВА'ЦЬ *незак.* Гаспадарыць, выступаць у ролі гаспадыні. *Хозяйкуе ужэ Тамара.* Хачэнь. *Ты хозяйкуеш, бо жонка поліць.* Аздамічы.

ХОЗЯ'ЙЛІВУ *прым.* Гаспадарлівы. *Ёго бацько быў такі хозяйліву.* Пагост. *У хаці й коло хаты — ўсёго е, хозяйлівуе!* Там жа.

ХОЗЯ'ЙСТВО *н.* Гаспадарка. *Нічого у хозяйство не прыдбаў.* Хачэнь. *Вона мне додзела ужэ, гэта печ, этэ хозяйство.* Сямурадцы. *Не спі ў шапку, бо проспіш хозяйство.* Старажоўцы.

ХОЗЯ'ЙЧЫН *прым.* Гаспадынін. *Хозяйчыное дзело месці.* Луткі. *Там хозяйчыны коні побралі.* Хачэнь.

ХОЗЯ'ЙШЧЫНА *ж.* Уся гаспадарка і маёмасць плытагона. Запясочча.

ХО'ЙРА *ж.* Назва танца. *Хойра танцуюць удвух. Одна на одну позіраюць, выкручваюць голову і рукі на плечы кладуць, подпеваюць: «Дзеўчыночка, хойра, хойра...»* М. Малешава.

ХО'ЛА *ж.* Зарослы і навіслы над вадою бераг ракі. *Я ловіў рыбу і седзеў у холах.* Мачуль. *Хола — обросша лоза зельем, туды рыба ховаецца.* Там жа.

ХОЛА'НКА *ж.* Драўляная міска. *Робілі холанку з ўяпы.* Пагост.

ХОЛЕ'РА *ж.* Халера. *Набэруць грошэй, шчо холера знае шчо!* Хотамель. *Хто про іх думацьме, про гэтых бабоў, на холеру воны.* Дварэц. *Я думаю, на холеру ты мне здаўса, за такого бедняка іці мне!* Бярэжцы. *А шчо б холера з'ела!* (праклён). Луткі.

ХОЛЕ'РНЫ *прым.* Халерны, чортаў. *Нека холерна жонка ходзіць по картоплях.* М. Малешава.

ХО'ЛКА *ж.* Карак у каня. *Карка е ў чоловека, а ў коня холка.* Запясочча.

ХО'ЛОД *м.* Холад. *У земле холод дзержыцца.* М. Малешава. *О, шо то за холод да нічого не росце.* В. Малешава.

ХОЛО'ДА'ЦЬ *незак.* 1. Астываць. *Хай воно холо́дае, то укуснейшэ будзе.* Мачуль. *Еж, холо́дае ж усе.* Пагост. 2. Халаднець. *Холода́е под вечор, пойду кухайку надзену.* Пагост.

ХОЛОДЗЕ'ЧА *ж.* Халадэча. *От холодзеча!* Аздамічы.

ХОЛОДЗІ′ЛО *н.* Студзень. *Холоділо робять з головы, з ног.* Альпень.

ХОЛОДЗІ′НА *ж.* Халадэча. *Ужэ дожджу не будзе, холодзіна стала.* Пагост. *Нема радочкі, холодзіна!* Там жа.

ХОЛОДЗІ′ШЧЭ *н.* Тое ж. *Холодзішчэ на вуліцы цепер.* Старажоўцы. *Ой і холодзішчэ, полезу на печ грэцца.* Пагост.

ХОЛОДНЕ′ЧА *ж.* Тое ж. *Холоднеча, шо проймае церэз кухайку!* Пагост.

ХОЛОДНІ′ЦА *ж.* Выцвярэзнік. *Посадзілі ёго ў холодніцу і кожуха не далі.* Альшаны.

ХОЛОДНІ′ШЧЭ *н.* Халадэча. *Ідзеш по галі — холоднішчэ, ветрышчэ.* М. Малешава. *Ой, некэ цепэр холоднішчэ!* Там жа.

ХОЛОДНО′ *прысл.* Холадна. *Холодно-холодно було на дворэ!* В. Малешава. *Неек холодно стало после этого дожджыку.* Бярэжцы. *Зіма-зіма, шчэ холодно було.* Луткі. *От холодно, аж сіроты ўстаюць!* Аздамічы. *Як кот у печ лезе, то холодно будзе* (прыкмета). Сямігосцічы.

ХОЛОДНОВА′ТО *прысл.* Халаднавата. *Холодновато на дворэ, одзевайса.* Луткі. *Холодновато, кухайку одзень.* Пагост.

ХОЛОДНОКРО′ЎНЫ *прым.* Спакойны, паважны. Сямігосцічы.

ХОЛО′ДНЫ *прым.* Халодны. *І холодное воды ў іх не достанеш.* Сямурадцы. *У году два Юр'і, одзін холодны, а другі голодны* (прыказка). М. Малешава. △ Х о л о́ д н ы е  п о с т р о́ й к і. Гаспадарчыя будынкі. Аздамічы.

ХОЛОДО′К *м.* Цянёк, прахалода. *Ужэ сонцэ за дубком, за дубком, добрэ жаці холодком, холодком* (з песні). Пагост. *Стояло дзве ліпі махіные, шчо як ідзеш, то холодок, чыста така травіцка.* Луткі. △ П о д  х о л о д о́ ч о к. Спосаб завязвання хусткі накругла. Хотамель.

ХОЛОСЕ′ІЦЬ *незак.* Шкадаваць. *Не холосею об етум, шо пропала.* Запясочча.

ХОЛОСЦЯ′К *м.* Халасцяк. *Дзеўкі з'ехалі, то й холосцякоў у селе е.* Пагост.

ХОЛСТ *м.* Палатно. *Былі парусы з холсту у тым млыне.* Запясочча.

ХОМЕІ′ЦЬ *незак.* Хаўкаць, гаварыць дрэнна. Запясочча.

ХОМЕНУ'ЦЦА, ХАМЕНУ'ЦЦА *зак.* Адумацца, схамянуцца. *Хоменіса, обдумай другі план.* В. Малешава. *От вон хоменуўса скоро дай пошоў.* Пагост.

ХОМЕ'ЎКАЦІСА *незак.* Поркацца; таўчыся. Запясочча.

ХОМУТОВА'ЦЬ *незак.* Увязваць хамутамі канцавыя бярвенні ў плыце. *Хамутовац концы.* Запясочча.

ХОМУ'ЦІК *м.* Жалезны хамуцік у возе. Хотамель.

ХОМУЦІ'НА *ж.* Хамуціна. *На такого велізного жэрэбца і хомуціна ж трэ!* Пагост.

ХОНДЗЮ'СТА *ж.* △ Капуста-хондзюста. *экспр.* Капуста. *Шо ты варыш, капусту-хондзюсту або крышаны-хоньдзяны?* М. Малешава.

ХО'НДЗЯ *ж.* Малярыя. *Іх семдзесят сем хондзёў е: е така, шо ек чоловек спіць, е така, шо гнеце, е така, шо трэсе...* Луткі. *На мне такая хондзя була, шчо не трасла, а просто гніла.* Там жа. *Стрэлу стружаць і даюць од хондзі піць ці ек жывот боліць.* Там жа. *Колісь у мого дзядзькі була хондзя, то заморылі жабу ў горэлцы да далі, то покінула.* Там жа. *І ў мене хондзя була, то поехаў да на Кормані завез да покінуў тую хондзю.* Там жа. *Хондзя була нейка, то беруць этэ ліновішчэ да заматвалі ў шчо-небудзь да пры собе носілі, то хондзя кідае от ёго.* Хачэнь. *Хондзя була, то сказалі, споймай жабу да на росходные дорогі пусці.* Там жа. *Мене і так колоціц за сем хондзей!* Запясочча. *Коб на цебе хондзя напала на сем год!* (праклён). Кароцічы. *Ек хондзя, то дохлым коням зубу цоловалі.* Бярэжцы.

ХОПІ'ЦЬ *зак.* 1. Забалець раптоўна і моцна. *Мо ў суботу хопіло голову, думала лопну.* Мачуль. 2. Прагна з'есці. *Гусі хопілі сутону, то воны вельмі гладкіе.* Кароцічы.

ХО'ПІЦЬ *дзеясл.* Досыць. *Хопіць я бегаў ужо!* Запясочча. *Хопіць ты спаў!* Там жа.

ХО'ПНУЦЬ *зак.* Ухапіць, хапнуць. *Ек хопну за косы, то й зоры побачыш.* Сямурадцы. Украсці, знесці. *Оставіў на лаўцы гебла да нехто хопнуў.* Пагост.

ХОПЭ'Ц *м.* Той, хто крадзе, хапае. *От коп цебе хопэц схопіў!* (праклён). Хотамель.

ХО'РКАЦЬ *незак.* Фыркаць, пыркаць. Запясочча.

ХО'РМА *ж.* Форма. *З бляхі поробілі, позгорталі хормы, постановім, сеном запалім, а дале у прыс — пахучы той хлеб!* Запясочча.

ХОРМА'ТНЫ *прым.* Акуратны, пэўнага памеру. *Жылы ў мене не хорматные.* М. Малешава. *Така не хорматна вона була.* Дварэц.

ХОРМІ'ЧЫЦЬ *незак. экспр.* Біць, забіваць. *Заўтра хормічыць будзе кабана свойго.* Аздамічы.

ХОРОБУ'СЦІЦЦА *незак.* Маршчыніцца. *Хоробусціцца від, моршчыны робяцца.* Сямурадцы.

ХОРО'М *м.*, ХОРО'МА *ж.*, ХОРО'МЫ *мн.* Жыллёвыя збудаванні. *Як парыло зацвіце, то вуж уцекае ў хором.* Хачэнь. *Несуцца не ў сваёй хороме куры.* Аздамічы. *Это не чоловек, шо продаў бацьковые хоромы.* М. Малешава. *Вона ночуе у своіх хоромах.* Мачуль. *Надо у хоромах сушыць сыроўку.* Цераблічы. *Коровы понаедаліса да пошлі у сады под хоромы.* Альшаны. *Як хороша хата і гумно, то кажуць — от хорошы хоромы.* Кароцічы. *Мало старых хором.* Рубель. *Якіе там у мене хоромы?!* Запясочча. *У чужой хороме пашню не положыш* (прыказка). В. Малешава. *Хоро́мі.* Сямігосцічы.

ХОРО'М'Е *н. зб.* Тое ж. *Ла́стоўкі водзяцца ў хором'і.* Пагост.

ХОРО'МІНА *ж.* Пабудова, хароміна. *Хата есцека хата, усе роўно хороміна.* В. Малешава. *О так до хороміны прыстаўлена.* М. Малешава. *Кобулка прывезла к хороміні, а воны пообдыманые да спяць.* Чэрнічы. *Як стромчэйша хороміна, то дзевець колод пуйдзе соломы.* Кароцічы. *Памянш.* х о р о́ м і н к а. *Зусім роскідаласа хоромінка.* Запясочча.

ХОРОНІ'ЦЕЛЬНЫ *прым.* △ У х о р о н і ц е л ь н о г о м я ч ы к а. Дзіцячая гульня. Верасніца.

ХОРОНІ'ЦЦА *незак.* Хавацца, ратавацца. *Хороніліса і гэто зробілосо.* В. Малешава. *По лесох хороніліса од сэсоўцоў, бо палілі й білі.* Пагост.

ХОРОНІ'ЦЬ *незак.* Хаваць нябожчыка. Луткі. Бараніць, ахоўваць. *Хороні цебе божэ, раз ты мацер ударыў!* Пагост. *Там здзелалі хату, дзе воны пчол хороняць.* Стражоўцы.

ХОРОСТВО' *н.* Хараство. *Зробіцца хороство та гусь!* Дварэц. *Навыкідаў тры мешкі лінкоў, хороства такого!* Альшаны. *Накладка на хомут для хороства.* Запясочча. *Хороство той хлопец! Да добрына́!* Тураў. *Хороство той овёс!* Рубель. *Нашчо мне тое хороство, як я с полу не можу злезці.* Аздамічы. *Мне не трэба хороства, я й так абу-як буду.* М. Малешава. *Барвенок для хороства, за-*

*байляцца.* Хачэнь. *Грыбы хороство да хороство!* Там жа. *Мало хороства ў ём, такі шчупленькі.* Там жа.

ХОРОСЦВІНА′ *ж.* Тое ж. *А жыць хоросцвіна ге!* Цераблічы. Надта прыгожы чалавек. *От хоросцвіна човек!* Аздамічы.

ХОРОСЦВЯ′ННЫ *прым.* Вельмі прыгожы. *І больніца была такая хоросцвянна.* Дварэц.

ХОРОША′Й *м.* Канавал. Альпень.

ХОРОШКОВА′ТЫ *прым.* Харошы, прыгожы, прывабны. *Хорошковата була.* Сямурадцы. *Нічого дзеўка, хорошковата, хлопцам наравіцца.* Пагост.

ХОРОШО′ *прысл.* Добра. *Это хорошо мне у памецé.* Бярэжцы.

ХОРОШУ′ЛЕНЬКІ *прым.* Вельмі прыгожы, добры. *Такі хорошуленькі, хоць у вухо кладзі.* Старажоўцы.

ХОРОШУ′ЛЕНЬКО *прысл.* Вельмі хораша. *Венок то хорошуленько оденуць, а гэто ўжэ зусім нека наплесканка, той велён.* Аздамічы. *Хорошуленько росказаў казку.* Цераблічы.

ХОРОШУ′Н *м.* Прыгажун. *От мой хлопец хорошун!* Аздамічы. *От хорошун, от удалец!* Запясочча. *У Донілегах е цар-дуб, у вершэчку тры голінкі, ай, хорошун, хорошун!* Старажоўцы. *Хорошун Ганнін хлопец, усе дзеўкі его!* Верасніца.

ХОРОШУ′ХА *ж.* Прыгажуня. *Шо то за хорошуха, ек цвет!* Запясочча. *Хорошуха дзеўка на ўсе бокі: і робіць, і гуляць!* Верасніца. *Цепер хто не згледзіць, то кажэ: шчо это с тое хорошухі зробілосо?* Сямурадцы. *Була ек каліна, хорошуха!* Там жа. *От дзеўка хорошуха, хоць воды напіса!* Старажоўцы. *У хорошухі да дзіця крычыць, у неўдалухі да загон торчыць. Хорошусі да пірог з маком, у неўдалухі чоловек Якоў* (з песні). Пагост. *Ох, мое хорошухі!* (пра курэй, якія добра нясуцца). Сямурадцы. Любая. *Хорошуха вона ёму, а шчо людзям не наравіцца, то это мало важно.* Лутківі.

ХОРО′ШЧЫ, ХОРО′ШШЫ *прым.* Лепшы, прыгажэйшы. *Конопель хорошчы участок вубрала.* Дварэц. *Мамо, купемо еты крам, вон хорошчі на осенне плацце.* Пагост. *Наша Марына хорошша да молодша за ее.* Запясочча.

ХОРО′ШЧЭЙ *прысл.* Зручней, лепш. *Мне хорошчэй ісці ў наймічкі.* Сямурадцы.

ХОРО′ШЫ *прым.* Добры, прыгожы. *Ну і хороша у*

*ее дзейка, прамо красавіца, хоць воды з ее напіса!* Азяраны. *Плоток нам такіх хорошых узелосо!* Луткі. *Хорошу лодку дзед зробіў, не процёкае, гонкáя.* Пагост. *Под лаўкою поседжу да на хорошого погледжу* (з песні). Хачэнь. *Як на першы дзень посту хорошы дзень, то будзе весна хороша, як другі хорошы, то будзе лето хорошэ, як трэці хорошы, то будзе восень хороша* (прыкмета). Верасніца. *Е хорошы, да чорту на грошы* (прыказка). М. Малешава. *Такі хорошы, ек у старца калошы* (прыказка). Старажоўцы. *Ох, красіва, а коб говорыць — і хороша!* (прымаўка). Сямігосцічы. △ Хорóшый звон. Добры, мілагучны звон (пра пілу). *Еслі хороша піла і хорошый зуб, то говорылі — от піла хорошый звон.* Сямігосцічы.

ХОРОШЫ'ЦЦА *незак.* Прыбірацца, прыхарошвацца. *Дзейкі хорошацца бадзягою.* Сямурадцы. *Муюцца і хорошацца і дзевок бояцца!* (прыказка). Старажоўцы.

ХОРОШЫ'ЦЬ *незак.* Чысціць, патрашыць (пра рыбу і інш.). *Ты ўжэ хорошыла рыбу?* Луткі. *Лінка не хорошаць у нас.* Цераблічы. *Як ты свінью ні хорошы, і шэрсць е і сало гразнэ.* Бярэжцы.

ХО'РОШЭ *прысл.* Прыгожа, добра, пекна. *Кулікі танцуюць хорошэ.* Запясочча. *Смоловэ так хорошэ горыць!* Луткі. *Которые хорошэ копкі клала, то тые осталіса.* Сямурадцы. *Хорошэ грае, аж душа ўяне!* Пагост. *Дубейко хорэшэ спеваў на пару з жонкою.* Там жа.

ХОРОШЭ'ЗНЫ, ХОРОШЭ'ЎНЫ *прым.* Вельмі добры, высакаякасны, прыгожы. *Бруква така хорошэзна росце!* Луткі. *Хорошэзного хлеба напечэ, пýшного!* Чэрнічы. *От хорошэзна да спраўна дзеўчына!* Азяраны. *Хорошэўные грэбені і борода ў пеўня.* Кароцічы.

ХОРОШЭ'НЬКО *прысл.* Хораша, добра, акуратна. *Обрэзаў бу ёго хорошэнько, зробіў бу з естого лесу хату добру.* Кароцічы. *Хорошэнько говоры.* Аздамічы.

ХОРТ *м. перан.* Паляўнічы сабака. *Собака і хорт — одзін чорт* (прыказка). Кароцічы.

ХОРЭ'МАЦЬ *незак.* 1. Гаварыць абы-што. Аздамічы. 2. Нячыста вымаўляць. Аздамічы.

ХОЎХУ'ЛЯ *н.* Неахайніца. *От хоўхуля, захоўхулена седзіць.* Верасніца. *Стара хоўхуля, шчо вона понімае?* Кароцічы.

ХО'ХЛІК *м.* Падшыванец. Мачуль.

ХО'ХЛЯ *ж.* 1. Жэрдка, якую прапускаюць ад палон-

кі да палонкі, працягваючы вяроўку невада ў час рыбнай лоўлі. *За хохлю прывязваюць кодо́л.* Запясочча. 2. Шуфель. Хотамель.

ХОЦЕ'ЦЦА *незак.* Хацецца, вельмі жадацца. *Хочэцца і села свого побачыць, дзе годоваўса.* Хачэнь. *Так не хочэцца, да трэба іці.* Там жа. *Плохіх не хочэцца, а добрых не знаходзіцца* (прыказка). Старажоўцы. *Дзедко, мне не хочэцца коло печы ворочацца* (прымаўка). Сямурадцы.

ХОЦЕ'ЦЬ *незак.* Хацець, мець жаданне, намер. *Чому так усе хочуць у вучоные?* Запясочча. *Кладзі сколько хоч на воз, вол везе.* Луткі. *А я хоцела за його дочку оддаць, боком лежала, хоцела.* М. Малешава. *Вот беда! Дома колісь жонка біла, а то ўжэ купец хочэ біць* (з казкі). Кароцічы. *У лесі шо хоч есць.* Сямурадцы. *Перву певень пое, а курка сокочэ, клічэ мацер вечэраць, а дочка не хочэ* (з песні). Любавічы. *Я ж вас годовала по двое, по трое, ву ж мене не хочэце одное* (з песні). Пагост. *Церпі, душэ, хоць не хорошэ!* (прымаўка). В. Малешава.

ХОЦЬ, ХОЦЯ', ХОЦЯ'МСЕ *часц.* Хаця. *Хоця мо езы́кі позакольваюць.* Дварэц. *Коб хоця дней тры йшоў дождж.* Сямігосцічы. *Хведор, хай бы ты хоця екіх бы снопоў дзесець даў.* Бярэжцы. *Погледзіш на його — хоць ты воды напіса!* Хачэнь. *Хоць і ох, то бэды нема.* Мачуль. *Цепер хоць мала хата, то говорaць дом.* Пагост. *Ты не мешайса хоцямсе, вон скажэ луччэй.* Сямігосцічы. *Хоць не елі, то пелі!* (прымаўка). Старажоўцы.

ХРАК, ФРАК *м.* Кныр. *У нас хракоў німа.* Запясочча. *Фрак у колхозі е.* Кароцічы.

ХРАКА'ЦЬ *незак.* Харкаць. *Хракае з кашлю.* Аздамічы.

ХРА'ПА *ж.*, ХРА'ПЫ *мн.*, ХРАП'Е' *н.* 1. Груда, замерзлыя камякі зямлі. *Як гольцэм замэрзне, то храпа!* Аздамічы. *Гоняюць на посеў товар, ек дзержыць храпа.* Луткі. *Храпа е ў жару: доліна вусохне і росколецца, то там е храпа.* М. Малешава. *Храп'е, аж ногі выкручвае.* Альшаны. *Хра́пы.* Пагост. *Хря́пы.* Хотамель. 2. Храпка. *Бувае, для забаву облуплю ножем храпу да ем, вона соковіта, солодковата.* Пагост. 3. Храпа ў жывёлы. *Нешчо на храпах зробілосо у моей коровы.* Альпень.

ХРА'ПІНА *ж.* Храпка. *Храпіну елі дзеці, лоўка вона.* Любавічы. *На храпіне стоіць качан.* Бярэжцы.

ХРА'ПКА *ж.* Часткі бохана, выступаючыя па краях. Сямігосцічы.

ХРАПОВА'ТЫ *прым.* Прыкры, непрыемны, няроўны. *Гідке храповатэ таке.* Запясочча. *Зверху храповаты той нанас, а смачны.* Пагост.

ХРАСТ *м.* Хруст. *Посохла рыба на храст, аж хрусціць.* М. Малешава.

ХРА'СТАЦЬ *незак.* Хрумстаць. Бярэжцы.

ХРАСТО'К *м.* Храсток у хвасце. *Вубіралі корову, коб храсток буў ніжэй колен на тры пальцы.* В. Малешава. *Одрэзаў коню хвоста по самы хрэсток.* Альпень.

ХРОБУСЦЕ'ЦЬ *незак.* Хрыпець, цяжка дыхаць. *Хробусціць, як важко дышэ.* Луткі.

ХРО'КАЦЬ, ХРУ'КАЦЬ *незак.* Рохкаць. *Свінье хрокаюць.* Аздамічы. *Сытые поросята однэ хрукаюць.* Луткі. *Хрокае храк на свінью.* Пагост.

ХРОМ *м.* Хром. *У мене буў хромову прытобáк, я з хрому пошыў.* Сямігосцічы.

ХРОМОВІКІ' *мн.* Хромавыя боты. *Хромовікі на с'ято обуваю.* Пагост.

ХРО'МОК *м.* Стрэмка. *Захроміў хромка.* Рамель.

ХРОМУ' *прым.* Сляпы. *Вон і цепер хромы на воко.* Цераблічы. *Вона на очы хромая; за землю ее і хлопцы чуць не ўзелі замуж, адале посумневаліса — земля землею, а жыць трэбо з жонкою.* Луткі.

ХРОПЕНУ'ЦЬ *зак.* Храпануць, захрапці. *Попужаліса усе людзі, ек храпенула!* Цераблічы.

ХРОПЕ'ЦЬ, ХРОПЦІ' *незак.* 1. Храпці. *Хропуць коні, сена не едзяць.* Луткі. *А тые мушчыны шчэ хроплі.* Бярэжцы. *Хропе, аж шыбкі дрыжаць!* Пагост. 2. Свістаць, моцна дзьмуць (пра вецер). *Ну й вецёр, аж хропе!* Луткі. *Як у кругу месяц, то здорово будзе вецёр хропці* (прыкмета). Верасніца.

ХРО'ПНУЦЦА *зак.* Захрапці. *Ночу ек конь хропнуўса, значыць воўк на дорозі.* Дварэц.

ХРОПОСЦЕ'ЦЬ *незак.* Хрыпець, пяршыць. *Онно хропосціць у горлі, заболело горло.* М. Малешава.

ХРУ'МАЦЬ *незак.* Хрумстаць. *Хрумае мел, як сахар.* Цераблічы. *А вонэ таке нічоге, таке проціўнэ, стоіць і хрумае* (пра вярблюда). Там жа. *Хрумае конь капусту.* Луткі. *Хрушчэ хрумаюць, ек зварыш.* Буразі. Хрусцець (пра рыбу). *Вусохла шоб хрумала.* Верасніца.

ХРУ'ПНУЦЬ *зак.* Пераламацца, лопнуць. *Положыла дровы на руку, а она і хрупнула.* Хачэнь.

ХРУ'СТАЦЬ *незак.* Хрумстаць, хрусцець. *У кішэ́ні зернет наберуць дай хрустаюць.* Луткі. *Хрустае сухара.* Аздамічы.

ХРЫ'ПЕЛЬ *м.* Хрыплівы чалавек. Аздамічы.

ХРЫПЕ'ЦЬ *незак.* Хрыпець. *Ек канаў, хрыпеў нагле!* Пагост. *Спевае, ек хрыпіць, хто його вупусціў безголосого?* Там жа. △ Хры́пом хрыпе́ць. Моцна хрыпець у вялікай злосці. *З гарачкі хрыпом хрыпіць, доняло так.* Пагост. *Хрыпом хрыпіць, ек розозліцца, уб'е, здаецца.* Там жа.

ХРЫПЛІ'ВУ *прым.* Хрыплы. *Вон быў удушліві, хрыплівы.* Цераблічы.

ХРЫ'ПНУЦЬ *незак.* Траціць чыстату голасу. Бярэжцы.

ХРЫПНУ'ЦЬ *зак.* Хрыпнуць. *Хрыпнула — і сціхла, кончылас.* Пагост.

ХРЫПОСЦЕ'ЦЬ *незак.* Хрыпець. *Хрыпосціць у горле.* Аздамічы.

ХРЫПУ'ХА *ж.* Хрыпуха. *А ета хрыпуха шчо?* Луткі.

ХРЫ'ПЦІ *мн.* Вантробы, унутранасці. *Можна одбіць хрыпці.* Запясочча.

ХРЫСТОПОКРО'ЎНІК *м.* Святаяннік. *Хрыстопокроўнік Настаха показала на Купалного Йвана.* Луткі.

ХРЫСТО'Ў *прым.* △ Хрысто́ва кроў. Тое ж. Бярэжцы.

ХРЫСЦІ'НЫ *мн.* Хрысціны. *Перэпіваю кошэль гліны, шоб попала на хрысціны* (пажаданне на вяселлі). Верасніца. *Ідом ужэ на хрыстіны з міскою.* Альпень.

ХРЫСЦІ'ЦЦА *незак.* Хрысціцца. *Я хрышчуся.* Бярэжцы.

ХРЫСЦІ'ЦЬ *незак.* 1. Хрысціць. *Му його не хрысцілі і не знаём, ці вон хрышчэны ці не.* М. Малешава. 2 *перан.* Біць, лупцаваць. *Возьму трапкача да хрышчу-хрышчу, то залезе на печ, не на ўме й хлопцы.* Верасніца.

ХРЫШЧЭ'НІК *м.* Хроснік. *А вон то ее хрышчэнік, той хлопэц.* Луткі. *На весельe ехала, ек хрышчэнік жэніўся.* Дварэц. *Сын мое куму хрышчэнік мой.* Там жа.

ХРЫШЧЭ'НІЦА *ж.* Хросніца. *Ето мого чоловека хрышчэніца замуж ідзе.* Запясочча. *Моя хрышчэніца прышла з города.* Там жа.

ХРЭБЕТНУ'ЦЬ *зак.* Паваліць, падужаць. *Воны здоройцы таке, а я і здоройца хрэбетнуў.* Аздамічы.

ХРЭН *м.* Хрэн. *У гэтого зельяя ліст, як у хрэну.* Хачэнь. *Хрэн зразу, як не грыміць гром, то крэпкі-крэпкі!* Там жа.

ХРЭНЧ, ФРЭНЧ *м.* Пінжак. *Ужэ холодно, одзень хрэнча.* Бярэжцы. *Занесла фрэнча шыць да пошылі малого.* М. Малешава. *Одзін скінуў фрэнча да надзеў на дзіця.* Хачэнь. *Памянш.* х р э́ н ч ы к. Бярэжцы.

ХРЭ'СЕНЬ, ХРЭ'СЬНІК *м.* Абрадавы хлеб, які пяклі напярэдадні вялікадня. *Пекуць хрэ́сне на крэст, на гэтом крэсце хлопцам борону пекуць, а дзеўкам серп.* М. Малешава. *Хрэсны тыждзень, то пекуць хрэснікі такіе.* Хачэнь. *Да пекуць тые хрэснікі, да з імі заорваюць, да товар вугоняюць; як перву дзень боронуюць, беруць той хлеб.* Там жа. *Як першы дзень вугоняеш корову, того хрэсніка одломіш да положыш на порог, да корова поўз його ідзе.* Там жа. *Як орац едуць первы раз, то беруць хрэсніка і коню оддаюць.* Луткі.

ХРЭ'СНЫ *прым.* △ Х р э́ с н а н е д з е́ л я. Апошні тыдзень перад вялікаднем. *У велікі пост на хрэсну недзелю пеком хрэсня да ўжэ даём корові первого дня* (пры выгане на пашу). Луткі.

ХРЭСТ *м.* Крыж. *Як прывезуць молодую до молодого, то хрэст з соломы запаляць, да стрэляюць.* Хачэнь. *На могілу хрэста ставяць.* Альпень.

ХРЭ'ШЧЫК *м.* Насенны парастак. *Зелье у хрэшчыках маленьке, а заре поўскакало веліке.* М. Малешава.

ХТО *займ.* Хто. *Хто його знае, як його найці!* Бярэжцы. *Хто сем дзержаў кароў, а хто нігодное ні!* Там жа. *Не було кому поддзержа́ць.* Сямурадцы. *Так етые, старшы і серэдні сын, пошлі браць богатых дзевок, хто даваў много посагі.* Кароцічы. *Нема й кому поўчыць і ораць.* Пагост. *Сцепаноўна, хто ў кого е?* Мачуль. *Молодых хто іх знае, воны ж ростуць, як сілега.* В. Малешава. *По ком поедзе? По тобе!* (На каго падзе віна? На цябе!). Там жа. *Вухом слухае, коб хто не цёрса коло його.* Там жа. *Хто рано ўстае, тому й бог дае* (прыказка). Там жа. *Хто робіць, той і мае* (прыказка). Старажоўцы. *Хто б його здумаў, коб не його дзюба* (прыказка). Там жа. *Хто копейкі не шкодуе, той сам себе не шкодуе* (прыказка). Сямігосцічы. *Хто з езычко́м, то й з пірожком* (прыказ-

ка). Там жа. *Хто ходзіць напросці, то боляць косці* (прыказка). Там жа.

ХТО-НІБУ'ДЗЬ *займ.* Хто-небудзь. *А воны ото поймають кого-нібудзь на дорозі да ведзі туды й туды* (пра фашыстаў). Бярэжцы.

ХТО-НІХТО' *займ.* Хто-ніхто. *Кого-нікого просій да поцягса домой.* М. Малешава.

ХТОСЬ *займ.* Хтосьці, нехта. *Хтось постукай поціхоньку у Орыніно окно* (з песні). Сямурадцы.

ХУ'ДЖЭЙ *прысл.* Горш, горай. *Шчо вон знае, худжэй бабу.* М. Малешава. *Похмелька худжэй п'янкі* (прымаўка). Аздамічы.

ХУДЖЭ'ЙШЫ *прым.* Горшы. *Худжэйша там трава.* Хачэнь.

ХУДЗЕ'ЗНЫ *прым.* Вельмі худы. *Я Змітра знаю — горбаты, худзезны, нехлем'яжны, і цепер бачу.* Верасніца.

ХУДЗЮ'ШЧЫ *прым.* Тое ж. *Була худзюшча, во така тонюсенька!* М. Малешава. *Прыдзе худзюшчы, хлёсткі, бу дошка.* В. Малешава.

ХУДНЕ'ЦЬ *незак.* Худзець. *Корова от ее худнее, от рэпы.* Сямігосцічы. *Худнée і нічого не есь.* В. Малешава.

ХУ'ДНУЦЬ *незак.* Тое ж. Дварэц.

ХУДО'БА *ж.* Худоба. *Колісь худоба кожного хазяіна стояла у гумне, дома толькі свіньe, а гумна от хат булі далеко.* Тураў. *Лось і вол — сама здоровейша худоба.* Старажоўцы. *С худобой то було трудно, худо було.* Луткі. *А худобу дзержалі багато.* Любавічы. *Качкі — гэто такая худоба, шо без оддыху можэ есць.* Кароцічы. *Іхня худоба нека інцерэсна, нека кошлата.* В. Малешава.

ХУ'ДО-БЕ'ДНО *прысл.* Ледзь-ледзь. *Я худо-бедно, да дзержу цеплюкой.* В. Малешава.

ХУДО'БІНА *ж.* Худобіна. *Худобіну мо крые домовы.* Аздамічы. *Худобіна важна ў его.* Цераблічы. *Усяка худобіна знае хозяіна.* Запясочча.

ХУДОРЛЯ'ВУ *прым.* Сухарлявы, хударлявы. *Е такіе худорлявые, як петухі!* Хачэнь. *У нас е худорлявые людзі.* Там жа.

ХУДЫ' *прым.* Худы. *Она ж худа, куды ж вона варта!* Луткі. *Худы як рожон!* Запясочча. *Не ўмрэ хто худ, а хто суд* (прыказка). Дварэц. *Не ўмірае хто худ, а кому суд* (прыказка). Сямігосцічы. Не тлусты (пра сала).

*Ой, худэе сало, слабо ўкорміла.* Альпень. Сурочлівы. *Худы на слово — то сурочлівы.* В. Малешава.

ХУ'КАЦЦА *незак.* Пячы. *От перцу насыпала, аж ў році хукаецца.* Луткі.

ХУ'КАЦЬ *незак.* Хукаць. *Хукае ў рукі, шоб зогрэліса.* Пагост.

ХУНДА'МЕНТ *м.* Фундамент. *Колісь штандары, цепер хундамент.* Пагост.

ХУНТ *м.* Фунт. *Да по дзесець хунтоў клубок намотаюц.* Запясочча. *Пуд — шэснаццаць кіло, а кіло — два хунты с половіною.* Дварэц.

ХУНТО'ЎКА *ж.* 1. Сорт вялікіх груш. Луткі. 2. Сорт яблыкаў. *Хунтоўка — і не ранные і не позные яблука.* Дварэц.

ХУ'РМАН *м.* Фурман. *Ехаў хурман, стрэў Огапку, вурваў шкурку, пошыў шапку* (жартаўлівая прыпеўка). Сямігосцічы.

ХУРМА'НКА, ФУРМА'НКА *ж.* Падвода. *Хурманкі поехалі по шляху.* Запясочча.

ХУ'СТА, ХУ'СТКА *ж.* Хустка. *Скідае опошнюю хусту да оддае.* Запясочча. *Усем хусты прыв'ёз такіе хорошые!* Бярэжцы. *Ох, ека хуста бледá!* В. Малешава. *У нас хустка, а на Полесьі зовуць хуста.* Дварэц. *Хустка шо обкрывацца.* Луткі. *Памянш.* хусці́нка. *По плечу хусцінка от слёз мокрэнька* (з песні). Пагост.

ХУ'ТКІ *прым.* Хуткі. *А хуткая ее ведае, дзе вона дзеласа.* Запясочча.

ХУ'ТКО *прысл.* Хутка. *Я хутко прыдумаю.* М. Малешава. *А чо ты хутко йдзеш?* Цераблічы.

ХУТЛЯ'Р *м.* Футляр. Аздамічы.

ХУ'ТОР *м.* Хутар. *Хутор Озьніна, там було дзесець хат.* Верасніца. *Увесь хутор згорэў у таку сушыну!* Там жа. *Быстрэй, быстрэй пошлі воўкі, а тут жэ за моім хутором.* Мачуль. *Памянш.* хуторэ́ц. *У нас тут буў хуторэц Лопéчоў, там з Волыні людзі седзелі.* В. Малешава.

ХУТОРА'НЕЦ, ХУТОРА'НІН *м.* Хутаранін. *Там хуторанцы жылі.* Аздамічы. *У нас булі хуторане волынцы.* Луткі.

ХУ'ТРО, ФУ'ТРО *н.* Футра. *Футро подшываецца чорным сукном.* Хотамель. *Хутро.* Аздамічы.

ХУЧЭ'Й, ХУТЧЭ'Й, ХУЧЧЭ'Й *прысл.* Хутчэй. *Хучэй, хучэй да ворохáмі сено за жонкамі лежыць.* Два-

рэц. *Коб хутчэй побачыц.* Запясочча. *Хуччэй печы корж.* Чэрнічы. *Хуччэй коб весна да на сонцы погрэцца.* Пагост.

ХЫ *выкл.* Хе. *Хы, мо ты думаеш, як ты пошла ўжэ за пана да ўжэ ты така пані?* Мачуль.

ХЭ'ЎРУСНА *прысл.* Па-кампанейску. Тураў.

# Ц

ЦАБА', ЦОБА' *выкл.* Выгукі, якімі паварочваюць валоў направа. *На волы кажэ цаба, ек верне до себе.* Дварэц.

ЦАДЗЁЛКА *ж.* Цадзілка. *На цадзёлку сцадзі.* Велямічы.

ЦАДЗІ'ЛКА *ж.* Тое ж. *Раньшэ цэдзілка була полотняна, а тепер марлева.* Альпень.

ЦАДЗІ'ЛО *н.* Вялікая міска з дзірачкамі ў дне. *Сходзі, дочко, к бабі да цадзіло прынесі, трэ цесто расчыніць.* Пагост.

ЦАДЗІ'ЛОК *м.* Цадзілка. *Подояць корову і молоко процадзяць праз цадзілок.* М. Малешава. *Цадзілок — то это, шо молоко цадзіш.* Запясочча.

ЦАДЗІ'ЛЬНІК *м.* Тое ж. *Цэдзільнік — молоко цадзім.* Запясочча.

ЦАДЗІ'ЦЬ *незак.* Цадзіць. *У осковень льем і цадзім.* Луткі. *З конопель цадзім сметану.* Бярэжцы. *У нас цадзяць на марлю.* Хачэнь.

ЦА'ЖЭНЫ *прым.* Цэджаны. *Шчэ молоко не цажэнэ.* Запясочча.

ЦАЛЁЎКА *ж.* Цалёўка. *Цалёўка на вороты е ў мене.* Хотамель.

ЦА'ЛКОМ *прысл.* Цалкам. *Цалком ее оброблялі і чэсану колоду называлі баля.* Пагост. *Цалком кошэль беры, мне гуркоў шчэ наросце.* Там жа.

ЦАЛКО'М *прысл.* У цэлым выглядзе. *Цалком лён ложылі на печ.* В. Малешава. *Насоліў малых кочаноў цалком.* Аздамічы.

ЦАЛЬ *ж.* 1. Цаля. *Гэта дошка на дзве цалі.* Хотамель. 2. Частка плыта. Верасніца.

ЦА'ПКА *ж.* Матыка. Тураў.

ЦАПКОВА'ЦЬ *незак.* Матычыць. *Заростае город — беры цапку і цапкуй.* Луткі.

ЦАП-ЛАП *прысл.* Спехам. *Я скорэй цап-лап, кошэлька выняў — звэрху сухі.* Луткі.

ЦА'ПЛЯ *ж.* Чапля. *Чуб е ў цаплі, вона чубатая.* Запясочча. *Цапля веліка, ек бусько, шэра, шыя крыва, вусоко летае, пужліва.* Пагост. *Цапля ў водзе вустойвае, шоб рыбіну ўхопіць.* Там жа.

ЦА'ПНУЦЬ *зак.* Цапнуць. *Свіньея лычо́м цапнула за горшка, вон і полецеў на подлогу.* М. Малешава.

ЦАПО'К *м.* Зуб у драўлянай баране. Аздамічы.

ЦАР *м.* Цар. *Жыў цар Батута да не жыў вон тута* (прыказка). Луткі. △ Ц а р - з е́ л ь е. Падбел. *Царзелье по лесох. Од жывота своему хозяіну собірала его.* М. Малешава. *Часом порэжэ ці шчо, то прыкладваюць цар-зелье.* Луткі. *Цар-зелье от грудзей добрэ, ек беркулёз, то его п'юць.* Там жа.

ЦАРО'Ў *прым.* Цароў. △ Ц а р о́ ў к р э с т. Сузор'е Лебедзь. Запясочча.

ЦА'РСКІ *прым.* Царскі. *З царское войны була ўдова, і ей плаціли жалованье.* Луткі. △ Ц а́ р с к а к о р о́ н а. Чырвоны гарлачык. Запясочча. Ц а́ р с к і е к у́ д р ы. Тое ж. Запясочча.

ЦА'РСТВО *н.* Царства. *Да ўжэ на его царство напало друге государство* (з казкі). Бярэжцы.

ЦАРЭ'ВА *ж.* Царэўна. *Прыгожа ек царэва!* Старажоўцы.

ЦАХЛІ'ЦЬ, ЦАХНІ'ЦЬ *незак.* Брахаць (бегучы па следу звера). *Ек бежыць собака, то цахліць.* Хачэнь.

ЦА'ЦА *ж.* 1. Цацка. *Зробіў ёму трэшчотку за цацу, то з рук не вупускае.* Пагост. 2 *перан.* Харошы, добры (у размове з дзецьмі). *Ася — цаца.* Запясочча.

ЦАЦА'РКА *ж.* Цацарка. *Е така кура цацарка, несе крэпкіе яйца.* Цераблічы.

ЦА'ЦКА *ж.* 1. Цацка. *Дасі, бало, ложку жэлезну, то й цацка.* Хотамель. *От булі порослі, шо цацкі!* В. Малешава. 2 *перан.* Кветка, упрыгожанне. *Екіе цацкі на вуліцы ростуць!* Кароцічы. *Коровай бумагамі радзяць, цацка́мі.* Бярэжцы. *Памянш.* ц а́ ц э ц к а. Альшаны.

ЦА'ЦКАЦЦА *незак.* Цацкацца. *Нема ж колі з імі цацкацца.* Старажоўцы.

ЦАЦКО'ВАТЫ *прым.* Стракаты, яркі. *Змеі такіе цацковатые.* Бярэжцы.

ЦВАК *ж.* Слонка. *Цвак — невяліка пташка по траве бегае, цвак-цвак себе доказвае.* Альшаны.

ЦВЕЛІ́ЦЦА *незак.* Цвяліцца, дражніцца. *І вон цвеліцца з Любою.* Мачуль. *З жонкамі молодшымі цвеліцца да поскаквае.* Бярэжцы. *Ек будзеш цвеліцца, то подам у суд* (жарт). Запясочча.

ЦВЕЛІ́ЦЬ *незак.* Цвяліць, дражніць. *У нас говораць «мі ходзілі», а воны говораць «му ходзілі» і воны за гэто нас цвеляць.* В. Малешава. *Да бувало, цвеляць его.* Луткі. *Звалі Даніліха, цвелілі Ульяна.* Там жа. *«Тумба» — цвеляць его бацька.* Бярэжцы. *А ён нас не бій, а толькі цвілій: вось возьму поленяку і собію.* Аздамічы. *Так цвеляць нас «кіркуны».* Цераблічы. *Нашчо ты цвеліш собаку?* Мачуль. *Цвеліць віхра не положэно.* Дварэц.

ЦВЕ́ЛЬВАЦЬ *незак.* Тое ж. *Раё, ты ее не цвельвай!* Цераблічы.

ЦВЕРДЗІ́НА *ж.* Вялікая цвёрдасць. *Не пойду спать, такая цвердзіна!* Хотамель. *Цвердзіна хлеб стаў, нож не берэ, розмочыць мо.* Пагост.

ЦВЕТ *м.* 1. Кветка. *Эта плевень ешчэ з цветом яблукі поз'едала.* М. Малешава. *Нарвуць цвету гуркоў, да кропцу, да солькі — і росол.* Там жа. *Коб узяў того цвета з папороці, тоб знаў бу ўсе.* Луткі. *Ек цвіце хвоя, той цвет параць і п'юць от простуды.* Там жа. *Цветоў нарвала на лузі.* Аздамічы. *Цвітуць гуркі да пусты цвет.* Рубель. 2. Колер. *Жаба веліка, зелёна, як цвет лісту.* Верасніца. *Памянш.* ц в е т о́ к. *Усякіе цветкі ў сенокосах.* Сямігосцічы.

ЦВЕТОВА́ТЫ *прым.* Квяцісты. *Просцілка цветовата, вельмі хороша.* Кароцічы. *Цветоватые обоі ў краме.* Старажоўцы.

ЦВЁРДО, ЦЬВО́РДО *прысл.* Цвёрда. *Цвёрдо спаць — бокі болящь.* Аздамічы. *Цвёрдо, ек сталь, не можно плуга ўбіць.* Там жа. *Але, цьвордо косіць.* Луткі.

ЦВЁРДЫ, ЦЬВО́РДЫ *прым.* 1. Цвёрды. *Дайка і цверда груша, покуль не полежыць.* Запясочча. *І цьвордэ таке, шо не можно полоць.* Там жа. *Омела така кругла, цвёрда трава.* Старажоўцы. *В'яз — цвердэ таке дзерэво, ек м'ясо.* Тураў. 2. Устойлівы, трывалы. *Воны за нас у веры цьвордзей.* Аздамічы. *Вон хоць і творды, но откровенны.* Дварэц. *Ек п'яны, то я цвёрды.* Мачуль.

ЦВІ́КНУЦЬ *зак.* Сцебануць, махнуць. *Пугою ек*

*цвікне, ек вусвітне по земле, то корову боіцца.* М. Малешава.

ЦВІ'ЛЫ' *прым.* Цвілы. *З'есць сена екого цвілóго, і здуне корову.* Любавічы. *Маці казала, шчоб цвілы хлеб елі, то научыцес плаваць* (павер'е). Хачэнь. *Як будзеш хлеб цвілы есці, то не будзеш грому бояцца* (павер'е). Луткі.

ЦВІЛЬ *ж.* Цвіль, плесня. *Цвілю хлеб узяўса.* Запясочча. *Кортоплі цвілю воняюць.* Там жа.

ЦВІ'НТАР *м.* Цвінтар. *Попоў хоронілі ў цвінтары.* Верасніца.

ЦВІСЦЕ'ЦЬ *незак.* Цвыркаць. Альшаны.

ЦВІСЦІ' *незак.* 1. Квітнець. *У маю цвіце божое мацер сон.* Луткі. *Понапукваецца — ужэ будзе цвісці.* Бярэжцы. *Белые кортоплі цвітуць.* Кароцічы. 2. Пакрывацца белымі плямамі. *Цвітуць ногці, бо шчэ молоды.* Сямігосцічы. *У кого ногці цветуць, той шчасліву.* Луткі. 3. Пакрывацца плесняй. *Хлеб цвіце.* Запясочча.

ЦВІЧА'ЦЬ *незак.* Пішчаць, ныць. Хотамель.

ЦВЫ'РКАЦЬ, ЦВІ'РКАЦЬ *незак.* Цвыркаць. *Воробей кота побачыць да цвіркае.* Хотамель. *Под печ'ю седзіць да цвыркае цвыркун.* Цераблічы. *От, кажэ, шчаслівая хата, цвыркун цвыркае.* Старажоўцы.

ЦВЫРКУ'Н, ЦВІРКУ'Н *м.* Конік; цвыркун. *Цвыркун доўгенькі, зеленьковаценькі.* Кароцічы. *Цвыркуноў у хаце было много коліся.* Цераблічы.

ЦЕ-ЦЕ-ЦЕ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць гусей. *Я позвала це-це-це, і воны зо мною пошлі.* Сямігосцічы. *Гусонькі, це-це-це!* Хільчыцы.

ЦЕГАНІ'НА *ж.* Цеганіна. *Сколько було тут цеганіны.* Запясочча. *Застрэль лося, то будзе цеганіна!* Хачэнь.

ЦЕГА'ЦЦА *незак.* Цягацца. *Чого ты нічого не робіш, а цегаеса по хатох?* М. Малешава. *Ву ўсе работаеце дай годзі, одна баба цегаецца.* Чэрнічы. *Ленуецца робіць да цегаецца по сэлі.* Луткі. *Ужэ ж мы старые, то мы ледзьво цягаемсо.* Кароцічы.

ЦЕГА'ЦЬ *незак.* Цягаць. *Копі носілі носілкамі ў О'льгомле, а ў нас коньмі цегалі.* В. Малешава. *По рэцэ цегалі людзя́мі ў Пінск лес.* Чэрнічы.

ЦЕГА'Ч *м.* Прылада, якой выцягвалі лёд з палонкі (пры лоўлі рыбы). Запясочча.

ЦЕГЛО' *н.* Цяглавая сіла. *После войны не було ж*

*цегла, не було на чом прывезці лесу, жылі ў бункерах людзі.* Старажоўцы.

ЦЕГНУ'ЦЦА *незак.* Цягнуцца. *У нас цегнецца колісьнее полотнянэе.* Запясочча. *Цегнуўса поўз мою хату з кошэлем некуды удосвета.* Пагост.

ЦЕГНУ'ЦЬ *незак.* Цягнуць. *Мене цегло с того лесу.* Запясочча. *Цягне ў воду там, дзе хто ўтопіцца.* Бярэжцы. *Іншы говорыць хутко, а другі цягне.* В. Малешава. *А сам ек вуж цягне ту горэлку.* Старажоўцы. *Бурлак баржу цягнуў з Турова ў Чэрнігоў, од лёду до лёду на рэцэ.* Тураў. *Цегні, чорце, за попом!* (прымаўка). Сямігосцічы.

ЦЕГОВЕ'ЙШЫ *дзеепрым.* Больш цягавіты. *Жэнщчыны цеговейшые за мужчын.* М. Малешава.

ЦЕГЦІ' *незак.* Цягнуць. *Ек воды меншэй, то цеглі на плёцях.* Альшаны. *Радуга цягне воду, будзе негода.* Сямігосцічы. *Цяг-цяг бусько птушэня да не сцяг.* ЛутKі. *Не хочу тых чобот цегці.* Цераблічы. *Ежэлі я справу вуйграю, то з кого я буду цегці, ек стары помрэ?* Мачуль.

ЦЕГЦІ'СА *незак.* Цягнуцца. *Усе так цеглосо церэз лето.* М. Малешава. *Трэба цегціса обедаць.* Дварэц.

ЦЕГОВІ'ТЫ *прым.* Цягавіты, вынослівы. *Конь вон слабейшы, а чоловек цеговіты.* Цераблічы.

ЦЕ'ЙЦЯ *ж.* Цукерка (у размове з дзецьмі). *Дам цейцю.* Запясочча.

ЦЕКНУ'ЦЬ *зак.* Скалануць. *Так мене і цекнуло! Неўжэ мого чоловека ўбіло?* В. Малешава.

ЦЕКЦІ' *незак.* Цячы. *Замотай руку, кроў не будзе так цекці.* Аздамічы. *Чэчэ жыжа гноёва да прамо мне под яблоню, усохне.* М. Малешава. *Чэчэ ўжэ дранка на стрэсі.* Там жа. *Не еж, оробей, проса, бо цекціме з носа* (прымаўка). Знаменка.

ЦЕЛЕ-ВО'З, ЦЕЛЕ-ВО'З, ЦЕЛЕ-ВО'З *выкл.* Выгукі, якімі перадаюць крык перапёлкі. *Целе-воз, целе-воз, кідай сані, беры воз.* Аздамічы.

ЦЕЛЕ'МАЦЬ *незак. экспр.* Разумець. *Раз-два паказаў, да нехай целемае.* Запясочча. *Му гетого не целемаем.* Дварэц. *Нічого не целемае дзіця.* Любавічы.

ЦЕЛЕМЕ'Ш *м.* Поўнае дзіця. *От целемеш важкоцелы!* Рубель.

ЦЕЛЕ'НЬЕ *н.* △ Н а  ц е л ё н ы і. Перад цяленнем. *Корова на целены ў мене.* Верасніца.

ЦЕЛЕПА′НІКІ *мн.* Смажаная бульба. М. Малешава.

ЦЕЛЕ′ПАНКІ *мн.* Тое ж. *Навараць картопляў з лупайкамі да полуп'яць іх, кладуць масла ці сметаны і ставяць у печ, то целепанкі.* М. Малешава.

ЦЕЛЕПАХА′ЦЦА *незак.* Целяпацца. В. Малешава.

ЦЕЛЕПА′ЦЦА *незак.* Тое ж. *Наталка седзіць, целепаецца.* В. Малешава. *У дзеўкі коса целепаласа.* Запясочча. *Ледво, ледво целепаецца серцэ.* Дварэц. *Бачыла чорта с одным рогом, і штаны целепаюцца порватые на ём.* Хачэнь. *Целепаецца ў того п'яного голова.* Луткі. *Нога не работала, толькі целепаласа.* Кароцічы. *Воўк ек намокне, то така шэрсць целепаецца.* Старажоўцы.

ЦЕЛЕПА′ЦЬ *незак.* Целяпаць. *Так буйстро целе́пае езыком.* Запясочча. *Вон собе стане і головою целеп, целеп.* Луткі. *Не целепай ногамі под лавою!* Цераблічы.

ЦЕЛЕПУ′ХА *ж.* Студзень. Аздамічы.

ЦЕ′ЛЕСО′ *н.* Цела, тулава. *Усе кроме голову, то це́лесо.* Запясочча. *У ее це́леса малые.* Луткі. *Ногі длінные, а целесо́ коротке.* Альшаны. *Целеса́ особенно оторвало.* Запясочча. *Той жонцы трэбо було голову одсечы, шчоб целесо́ по земле валялосо, шчо дзецей кінула.* Хачэнь.

ЦЕЛЕСОВА′ТЫ *прым.* Поўны, у целе. *Целесовата пошла молодзіца.* Альшаны.

ЦЕЛЕ′Ш *м.* Цялеж. Запясочча.

ЦЕЛЁПОТА *ж.* Неакуратная жанчына. Кароцічы.

ЦЕЛІ′СТЫ *прым.* Поўны, у целе. *Вон шчэ такі целісты мушчына, вон трактора плечэм подойме.* Дварэц.

ЦЕЛІ′ЦА *ж.* Цёлка. *Я седжу коло поліцы, перэпіваю вам целіцу* (з вясельных пажаданняў). В. Малешава.

ЦЕЛІ′ЦЦА *незак.* Цяліцца. *Моя шчэ не целіласа целіца.* Аздамічы.

ЦЕ′ЛО *н.* Цела. *Вашэ дзело зробіць цело, а бог душу дасць* (прыказка). Старажоўцы.

ЦЕЛО′Х-ЦЕЛО′Х-ЦЕЛО′Х, ЦЕЛО′-ЦЕЛО′-ЦЕЛО′ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць кароў. Дварэц.

ЦЕЛУ′ХНА *ж.* Цялушка. *У мене була целухна первым целятком.* Старажоўцы. *На роздво, ек перву зрана прыдзе чоловек, то корова оцеліць буцка, а ек жонка — то будзе целухна* (прыкмета). Там жа.

ЦЕЛУ′ШКА *ж.* Тое ж. *Целушка шчэ не оцеліласа.* Сямігосцічы. *Целушкі два го́ды поспо́л целіліса, а цепер бук.* В. Малешава. *Целушка покрыласа.* Хільчыцы.

*Памяніш.* ц е л у́ ш э ч к а. *Корова шчэ ў мене побула год, шчэ мне прывела целушэчку.* Кароцічы.

ЦЕ′ЛЬБУХ *м.* 1. Высушаны страўнік у цяляці. Кароцічы. 2. Цялеж. Сямурадцы. 3 *перан.* Таўстун. Сямурадцы.

ЦЕЛЬБУХОВА′ТЫ *прым.* Брухаты. Альшаны.

ЦЕ′ЛЬНА, ЦЕ′ЛНА *прым.* Цельная. *Целна корова, шчэ не росцеліласа.* М. Малешава. *Наша карова можэ, бог дасць, целна будзе.* Дварэц. *Менш стала даваць молока, бо, мусіць, цельная.* Аздамічы.

ЦЕ′ЛЬНЫ *прым.* Нацельны. *Небожчыку одзенуць сорочку цельну, да світку, да лапці.* Верасніца.

ЦЕЛЬПА′К *м.* Цялеж. *П'яць цельпокоў одрэзаў.* Велямічы.

ЦЕЛЬПЕ′Ш, ЦЕЛЬПЕ′Х *м.* 1. Цялеж. *Цельпех такі хорошы остаўса от колоды.* Цераблічы. 2 *перан.* Таўстун (пра дзіця). *От ты цельпеш малы!* Верасніца. *Памяніш.* ц е л ь п е́ ш ы к. △ І в а́ н к о - ц е л ь п е́ ш ы к. Хлопчык, зроблены з дзерава (з казкі). Запясочча.

ЦЕЛЬПУ′К *м.* Тое ж. Альпень.

ЦЕЛЮ′-ЦЕЛЮ′-ЦЕЛЮ′ *выкл.* Выгук, якім падклікаюць цялят. Дварэц.

ЦЕЛЮЛЮ′КАЦЬ *незак.* Спяваць (пра птушак). *Шпак целюлюкае, свішчэ.* Бярэжцы.

ЦЕЛЯ′ *н.* 1. Цяля. *Целя по горо́ду галяе.* Луткі. *Корова другім целям і ўжэ ву бачылі.* В. Малешава. *Бог даў целя, да не даў хлева* (прымаўка). Старажоўцы. 2 *перан.* Дурніца. *Ба, целя нічого не цяміць.* Верасніца. *Памяніш.* ц е л я́ т к о. *Целяток на хвермі доглeдаю.* Пагост.

ЦЕЛЯ′ЧЫ *прым.* Цялячы. *Целячэ мясо — ек с целяці.* Хотамель.

ЦЕЛЯ′ЧЫНА *ж.* Цяляціна. *Целячыну хто будзе есць?* Самігосцічы.

ЦЕ′М'Е *н.* Цемя. *Ек бу цем'ем упала, тоб й умерла.* Сямурадцы. *Ек даў пляшкою, то пляшка ў цем'е ўехала.* Луткі. *Цем'е не зоросло, м'якусенька голоўка.* Аздамічы.

ЦЕМНІНА′, ЦЁМНІНА′ *ж.* Моцная цемната. *Ек полечу ў погрэб, а там цемніна!* Цераблічы. *Цёмніна ў сенях, мацаю, дзе там клямка.* Пагост.

ЦЕМНЕ′ЦЬ *незак.* Цямнець. *Ужэ цемнее, трэба домоў збірацца.* Верасніца. *Ужэ сонцэ заходзіць, цямнее.* Бярэжцы.

ЦЕ′МНЕЦЬ *незак.* Рабіцца цёмна. *Полотна хватае, трэба шыць простыні, воны не цемняць.* В. Малешава.

ЦЕ′МНО, ЦЁМНО *прысл.* Цёмна. *Цемно, ужэ вечор.* Сямігосцічы. *Не ідзі на Ніву, а то цемно.* Там жа. *Ужэ і цемно шыць, а вон шые.* Мачуль. *Ужэ цёмно зробілосо.* Хачэнь. *Цёмно сусім прыдзе Сцёпа з роботы.* Лутκі.

ЦЕМНОТА′, ЦЁМНОТА *ж.* Цемната. *Цемнота на дворэ, хоць воко вуколь.* Запясочча. *Не загубіць бу сцежку ў цёмноце етой.* Пагост.

ЦЕ′МНЫ, ЦЁМНЫ *прым.* Цёмны. *Цёмна, ек ноч, ты, Зіна!* Сямурадцы. *Ек ходзяць куры до цемного по двору, знай дождж і не путай* (прыкмета). Мачуль.

ЦЕМРУГА′ *ж.* Цемната, цемра. *Цемруга страх, не відно хат, анічого.* Пагост.

ЦЕ′МРЫВО *н.* Тое ж. *Цепер цемрыво на дворэ, нічого не відаць.* Пагост.

ЦЕМЦЕЛЕВА′ТЫ *прым.* Цельпукаваты. *Такі буў цемцелеваты чоловек.* Цераблічы.

ЦЕМУ′ШЧЫ *дзеепрым.* Кемлівы. *Не цемушчая баба, нішчо не знае.* Цераблічы.

ЦЕ′НЕТО *н.* Сетка ў рыбалоўных прыладах. *Чотурохвугольные більца обшувае ценетом або полотном — то кульбе́ль.* Запясочча. *Ценето густэ було.* Там жа. *Вукідаў малых рыб, то дзесець раз попадаюць у ценето.* Мачуль.

ЦЕНЬ *м.* Цень. *Два ступене́ цень, то на обед погоняем.* Луткі. *Посадзіла какарузу да цень зробіла мойму огороду.* Старажоўцы. *Памянш.* ценёк. *Ек бумагі паляць, то бегае такі ценёк* (пры гаданні). Бярэжцы.

ЦЕНЮШЫ′ЦЬ *незак.* Церушыць. *От ценюшыць снег на дворэ.* Верасніца. *Дождж ценюшыў.* Хотамель.

ЦЕНЯ′ *ж.* Цень. *Ценя метаецца.* Аздамічы.

ЦЕНЯ′ЦЦА *незак.* Хадзіць без справы. *Не ўстроіцца нідзе да ценяецца по селу.* Пагост.

ЦЕ′ПАЦЦА *незак.* Уздрыгваць. *Уся я цепу́са, дрыжу от страху.* Запясочча.

ЦЕПЕ′Р *прысл.* 1. Сёння.— *Колі воны, учоро поехалі? — Не, цепер.* Дварэц. *Дзеда сховалі цепер, а бабу заўтрэ.* Чэрнічы. *Осталосо шчэ на цепер.* М. Малешава. *Два дне пасці: цепер і заўтра.* Луткі. *Учоро бедоваў на цепер, а цепер на заўтрэе.* Там жа. *У мене цепер у вечоры госціна.* Аздамічы. 2. Цяпер. *У мого дзеда й цепер стояць у лесі вульe.* Луткі. *Цепер поважаць, а тые годы*

*не важылі.* Там жа. *Цепер добрына: сеў да поехаў.* Аздамічы. *Цепер не прыбером, шчо даваць каждому тарэлочку.* Пагост. *Цепер думá чоловека ўбівае.* Там жа.

ЦЕПЕ'РА *прысл.* Тое ж. *Ужэ цепера молодые такіе грэб'ёнкі робяць.* Сямурадцы. *Не було іх ні ўчора, ні цепера.* Хотамель.

ЦЕПЕ'РЭКА *прысл.* Тое ж. *Цепера і малым і старым — роскош.* Старажоўцы. *А цеперэка скрозь там населілі хаты.* Пагост. *Цеперэка нешчотне дзень хорошы буў.* Кароцічы.

ЦЕПЕ'РЭЧЫ *прысл.* Тое ж. *Цеперэчы я накосіў на цэлы воз.* Любавічы.

ЦЕПЕ'РЭШНІ *прым.* 1. Сённяшні. *Мо б ты мне позычыла на цеперэшні дзень бойку, а то моя ўчора побіласа, да немашэка на чом побіць льну.* Кароцічы. 2. Сучасны. *Я не цеперэшня, але й раней ніколі не бачыла етого.* Хачэнь. *Пошоў у прымы цеперэшнёе поры.* Рубель.

ЦЕПЛІНА' *ж.* Цяплынь. *Там жэ цепліна ў той копцы.* В. Малешава. *Суткі цепліна ў хаці.* Там жа. *У лесі цепліна, не то шчо на галі.* Хачэнь. *Така цепліна! Да хорошэ, да ціхо на дворэ!* Луткі. *Ужэ цепло, цепліна, май месец!* Там жа.

ЦЕПЛО', ЦЁПЛО *прысл.* Цёпла. *Краснуло, ужэ цепло будзе.* Луткі. *Ек цёпло, то за шэсць дней вумокнуць коноплі.* Дварэц. *Хоць под жак подбіса, то цеплей будзе.* Старажоўцы. *Весельцэ лецяць нізко, будзе цепло блізко* (прымаўка). Бярэжцы. *Ек на Покрову цепло і ціхенько, то не будзе снегу зімой, будзе цепло* (прыкмета). Верасніца.

ЦЕПЛОГРЭ'ЙКА *ж.* Целагрэйка. *Наложы онь ту цеплогрэйку ў лес, то тобе цепло будзе.* Кароцічы.

ЦЕПЦІ' *незак.* Калаціць, трэсці. *От ек грыпа поймае, то цепе.* Цераблічы. *Мене цепе на возі.* Верасніца. *Мене цепло, то я не спала, а воны стрэляюць і стрэляюць.* М. Малешава.

ЦЕ'ПЦЯ *ж.* Бульбачка (у размове з дзецьмі). *Не плач, я тобе дам цепці.* Запясочча.

ЦЕ'РНІЦА *ж.* Церніца. *Лён звезалі, прывезлі да церніцою труць.* Запясочча. *За сценою каменною брэшэ сучка без чэрэва* (загадка). *Церніца* (адгадка). Хачэнь.

ЦЕРНОВА'ЦЬ *незак.* Тузаць. *Не цернуй коня, не муч.* Аздамічы.

ЦЕРНО'ЎКА *ж.* Шаліноўка. *Церноўка, то та сама*

*шаленова хустка.* Сямурадцы. *Ек колішня церноўка була, да шоб кіціцы доўгіе булі.* Старажоўцы.

ЦЕРПЕ'НЬЕ *н.* Цярпенне. *Хто мае церпенье, перэнесе ўсё, то знайдзе того цвета* (пра папарацъ-кветку). Луткі.

ЦЕРПЕ'ЦЦА *незак.* Цярпецца. *Поседзела я ў том бліндажэ трохі, поседзела — не церпіцца.* Дварэц.

ЦЕРПЕ'ЦЬ *незак.* Цярпець. *Церпі як-небудзь ужэ, годзі стогнала.* Кароцічы.

ЦЕРПЛЕ'НЬЕ *н.* Цярпенне. *Нема ў його церпленья аніяк.* М. Малешава. *Трэба церпленіе стояць.* Луткі.

ЦЕРПЛІ'ВО *прысл.* Цярпіма, трывала. *Нішчымне з'есці, то не церпліво.* Альшаны.

ЦЕРПЛІ'ВОСЦЬ *ж.* Цярпенне. *Церплівосць не берэ седзець.* Цераблічы.

ЦЕРПЛІ'ВУ *прым.* Цярплівы. *Бачыце, кум, ека ваша маці не церпліва.* Сямурадцы.

ЦЕРПЯ'ЧЫ *дзеепрым.* Тое ж. *Ай, екі ты не церпячы!* М. Малешава. *Вон церпячы чоловек, у зло ўводзяць, а вон бутто не чуе.* Мачуль.

ЦЕ'РТКА, ЦЁРТКА, ЦЁРКА *ж.* Тарка. *Труць картоплі на цертку.* Запясочча. *Цёртка для того, шоб картоплі на латкі.* М. Малешава. *Цёрка.* Пагост.

ЦЕ'РТЫ *прым.* Цёрты. *Ежце ягоды цертые.* В. Малешава. *Я люблю церту бабку!* Альпень.

ЦЕРУШЫ'ЦЬ *незак.* Церушыць. *Церўшыць малéнькі дождж.* Хачэнь. *Не рушыло, то церўшыло і рушыло, то поцерушыло* (прымаўка). Там жа.

ЦЕ'РЦІ *незак.* Церці (лён, бульбу). *Лён труць у церніцы да гледзяць ек готову, то ўжэ йдуць збіраць.* М. Малешава. *Така поскудна робота, ек церэш лён, то тым пулом заліпне і горло.* Луткі. *Трэш, трэш каноплі тымі ногамі, шо чырвоные пороб'яцца, позрэзваюцца, шо сёроўно, ек уродзіліса.* Пагост. *Нацеру картоплёў да спеку бабку.* Альпень.

ЦЕ'РЦІСА *незак.* Церціся. *А той Іванко давай церціса об його.* Сямурадцы. *Ужэ трэцца дзіця, спаткі трэ.* В. Малешава. Аціраццa. *Я коло іх так церуса, екого молока дадуць ці шчо.* Хачэнь.

ЦЕРЫ'ЛКА *ж.* Будынак, дзе труць лён. *Я йду ў церылку трэпаць лён.* Сямігосцічы.

ЦЕРЭБЕ'Ж *м.* Пацяроб. *Вуцерэб дзе хош лозу, то і будзе церэбеж.* Пагост.

ЦЕРЭБІ′ЦЦА *незак.* Церабіцца. *Вон то — бела вутоўка, а тот церэбіцца — селезён і почварквае, голос сіплы.* Кароцічы. *Ек куры церэб'яцца, то будзе дождж* (прыкмета). Запясочча.

ЦЕРЭБІ′ЦЬ *незак.* 1. Церабіць. *Лóзу церэ́біць, шоб косіць.* М. Малешава. *Я буду церэбіць, а ты гольe паліць.* Там жа. *Церэбіць кажны свой лес.* Бярэжцы. *Церэбімо росці ў картоплях.* Цераблічы. 2. Лузаць. *На, церэбі мой соношнік, я его добрэ поджарыла.* М. Малешава. *У посны дзень і сéмечкоў не церэбяць, короста будзе* (павер'е). Запясочча. 3. Чысціць, скубці. *Вон не ўмее церэбіць ту рыбу.* Дварэц. *Я курэй церэбіла, церэбіла, але ты іх вуцягнеш, тые сосны́!* Хачэнь. *Раня пташка нос церэбіць, а позная очы* (прымаўка). Аздамічы.

ЦЕРЭ′БЛЕНЫ *прым.* Лузаны. *Багато церэбленых сéмечок чорных, без шкорлупкі.* Дварэц.

ЦЕ′РЭЗ *прыназ.* Праз, з-за. *Я церэз цебе нічого не пороблю.* В. Малешава. *Церэз золото забагацелі.* Бярэжцы. *Розышліса оны цераз мацер.* Там жа. *То церэс ту войну ў петнаццэць год ожэнілі да к той печы поставілі.* Сямурадцы.

ЦЕРЭМО′К *м.* Клетка для птушак. Запясочча.

ЦЕРЭ′МХА *ж.* Краснапёрка. *Церэмха — етэ краснопёрка.* Запясочча.

ЦЕРЭ′МШЫНКА *ж.* Чарэмшына. *Ой, вішэнька да церэмшынка, шчо стоіш не родзіш? Молодая дзеўчынонька, чо й гуляць не ходзіш?* (з песні). Бярэжцы.

ЦЕ′СНО *прысл.* 1. Цесна, шчыльна. *Цесно ў хаці.* Аздамічы. *Еслі цесно накласці поўну бочку, то нічого не будзе* (пра скуры). В. Малешава. *От цесно дзержы́ць кулачок дзіця.* М. Малешава. *З лозы, гужвою зуб у бороне ўкручвалі, шчо б цесно було ему.* Чэрнічы. *Забілі гвозда цесно ў ствол.* Запясочча. *Цесно натопчэ м'яса ў торбочку.* Хачэнь. 2. Сціпла, стрымана. *Себе ведзі цесно.* Запясочча. *Памянш.* ц é с н е н ь к о. *Цесненько так кладзі яйца.* В. Малешава.

ЦЕСНО′ТА *ж.* Цесната. *Цеснота ў клубі, не пролезці, не пробіцца!* В. Малешава.

ЦЕ′СНЫ *прым.* Вузкі, шчыльны. *Інцерэсно прожыць, коб пролезці ўсе цесные места.* Запясочча. *Камень екі цесны, але чэрві погодуюцца й под їім.* Цераблічы.

ЦЕ′СТО *н.* Цеста. *Ек цесто, то ёй нема колі есці.*

Сямурадцы. *Відно́ Куліну, шо пірогі пекла — ворота ў цесці* (прыказка). Там жа.

ЦЕСЦЬ *м.* Цесць. *Построіўса коло цесця да той цесць помогае.* Старажоўцы. *Було ў його цесця дзве корові, то ўжэ воны далі.* Кароцічы.

ЦЕЦЕВІ'НА *ж.* Бульбоўнік. *Тоўста цецевіна ў «цемпа», а картоплёў мало.* Цераблічы.

ЦЕЦЕ'РА *ж.* Цецярук. *Глухі, ек цецера.* Верасніца.

ЦЕЦЕ'РВА *ж.* Цяцерка. Мачуль.

ЦЕЦЕРУ'К *м.* Цецярук. *Цецерукі ек возьмуцца на току болботаць, то можно ўсе перэбіць.* Старажоўцы.

ЦЕЦЕ'ЎЕ *н. зб.* Бульбоўнік, бадылле. *Зелёнэ цецеўе до інею, а ек прошоў іней, то цецеўе почэрнее.* В. Малешава. *У кого цецеўе, у того й картоплі.* Там жа.

ЦЕ'ЧКА *ж.* Прамыіна. *По вéрху не можно іці, страшно, цечкі одные.* Верасніца. *Там цечка на рэцэ, не едзь.* Запясочча. *Чэчка — усю зіму не замéрзае.* Пагост. *Кругом лёд, а посерэдзіні цечка.* Сямурадцы. Палонка ў лёдзе, у якую запускаюць невад. *Просéкаюць цечку з одного і з другого боку і процягваюць невода.* Мачуль.

ЦЁВА-ЦЁВА-ЦЁВА *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць гусей. Дварэц.

ЦЁВОЧКА *ж.* Кураня. Дварэц.

ЦЁЛА-ЦЁЛА-ЦЁЛА, ЦЁЛО-ЦЁЛО-ЦЁЛО *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць кароў, цялят. М. Малешава.

ЦЁЛКА *ж.* Цёлка. *Цёлка — шчэ вона не оцеліласа.* Сямігосцічы. *Корову здаймо, а цёлку оставім.* Луткі. *Памянш.* ц ё л о ч к а. Бярэжцы.

ЦЁЛКА-ЦЁЛКА-ЦЁЛКА, ЦЁЛКО-ЦЁЛКО-ЦЁЛКО *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць цялят. *Цёлка-цёлка-цёлка, ану ў адрыну!* Сямігосцічы.

ЦЁМ *м.* Цемень. *По цёму крадзе солому, шоб не бачылі.* Пагост.

ЦЁМКАЦЬ *незак. экспр.* Балбатаць. *Коб була робота, то хіба б му цёмкалі тут?* Сямігосцічы.

ЦЁМНІ'ЦЬ *незак.* Цямніць. *Не цёмні, прыміса от окна!* Верасніца.

ЦЁПКАЦЬ *незак. экспр.* Сёрбаць. *От цёпкае, аж носом есць, усе вусербаў.* М. Малешава.

ЦЁПЛЫ, ЦЕ'ПЛЫ *прым.* Цёплы. *Цёпла месціна не замерзае зімой.* Дварэц. *Я постаўлю ваш чай у печ, хай будзе цёплы.* Хачэнь. *Стог згорэў, одно место цёплэ зо-*

*сталосо.* Цераблічы. *Налі мне цеплое воды ногі помуць.* Запясочча.

ЦЁРОН *м.* Дзёран. *Цёрон ек сліву, его сушылі, вон смашны, ек іней сціскае, а так, то давучы.* Чэрнічы. *Там е урочышчэ Людóмір, там цёрон рос.* Дварэц.

ЦЁРТНІК *м.* Дранік. *Цёртнікоў нацерла да напеку.* Цераблічы.

ЦЁСКА *ж.* Трэска, стрэмка. *От загнаў цёску, а ек веліка, то спіца.* Луткі. *Овечка вусохла на цёску.* Хачэнь. *Памянш.* ц ё с о ч к а. *Вусох на цёсочку.* Бярэжцы.

ЦЁТКА *ж.* 1. Цётка. *На Ладычэве жыве цётка Марына.* Запясочча. *Цётко, продайце корову.* Луткі. *Не, я, цётко, не гладжу так.* Бярэжцы. *Голот — не цётка* (прымаўка). Хотамель. 2 *перан.* Малярыя. *Була на мне хондзя, але потрусіла!— І на мне гэта цётка була, але покінула.* Луткі. *Памянш.* ц ё т о ч к а. *А хлопчык ка: цёточко, дайце мне воды.* Бярэжцы.

ЦЁТУХНА *ж.* Цётка (пры звароце). *Говорыў жэ вон: цётухно моя, мамонько моя!* Сямурадцы.

ЦЁТЧЫН *прым.* Цётчын. *Вона ў цётчыной хаці жыве.* Хачэнь.

ЦЁЎ-ЦЁЎ-ЦЁЎ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць куранят. *Воны маленькіе, то не знаюць ціп-ціп-ціп, а цёў-цёў-цёў знаюць.* Дварэц.

ЦЁХНУХНА *ж.* Цётка (пры звароце). Сямурадцы.

ЦІ *часц.* Ці. *Цуеш ты ці не?* Сямігосцічы. *Коб знала, ці будзе по мне плакац.* Запясочча. *Ці сала дзежкі ў ее стояць?* Хачэнь. *Ці жыў хлопец мой?* Бярэжцы. *Ці коніка не маў, ці дорожкі не знаў, ці маці не пускала?* (з песні). Сямігосцічы. *Ці-то к Лексі, ці-то к кому ешчэ.* М. Малешава.

ЦІ′ВА-ЦІ′ВА-ЦІ′ВА, ЦІ′ВО-ЦІ′ВО-ЦІ′ВО, ЦІЎ-ЦІЎ-ЦІЎ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць куранят. *А ціва-ціва-ціва, шоб вас дох!* Сямурадцы. *Памянш.* ц і в о н ь к і-ц і в о н ь к і-ц і в о н ь к і. М. Малешава.

ЦІВЕНЯ′ *н.* Кураня. Старажоўцы. *Памянш.* ц і в е н я́ т к о. *Ек цівенятко е, то пуха ў ейцэ чорненька.* Старажоўцы.

ЦІ′ВОЧКА *н. экспр.* Тое ж. *Цівочкі-цівочкі, ежце!* Сямурадцы.

ЦІКА′ВО *прысл.* Цікава, хітра. *І так качкі цікаво ховаліса, шоб не поймаў.* Дварэц. *Мне тожэ цікаво послу-*

*хаць.* Луткі. *Ему ж тожэ цікаво, шо такое.* Там жа. *Трэбо цікаво пройці, коб траву не заломіць.* Мачуль.

ЦІКА′ВУ *прым.* Цікавы, хітры. *Которы цікаву, хітры, погледзіць і знае, шо той думае.* М. Малешава. *Цікавы — усё поняў.* Аздамічы. *Цікавые плетуць кошэлі, хорошые.* Запясочча.

ЦІ′КНУЦЬ *зак.* Падумаць імгненна. *Мне цікнуло, шо чоловеку недобрэ, я до его, а вон дубовіна.* В. Малешава.

ЦІКОВА′ЦЦА *незак.* Сачыць, пільнаваць. *Цікуецца, ек кот на муш.* Запясочча. *Седзеў, цiковаўса кот на берэзе рэкі і поймаў плотку.* Пагост.

ЦІКОВА′ЦЬ *незак.* Тое ж. *Кот на курэня цікуе з-под вугла.* Запясочча. *Ідзі цікуй, куды вон пошоў.* Аздамічы. *Цікуе коценя уценят.* Цераблічы.

ЦІМА′ЛО *прысл.* Вельмі даўно. *Цімало пошоў і ўсе нема!* Мачуль.

ЦІМЦЕ′ЦЬ *незак.* Імжаць. *Дождж цімціць пополам з тума́ном.* В. Малешава.

ЦІП-ЦІП-ЦІП, ЦЫ′ПУ-ЦЫ′ПУ-ЦЫ′ПУ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць курэй. *Ціп-ціп-ціп — да куры ўсе і бегуць!* Цераблічы.

ЦІ′ПЕЛЬ *м.* Пакаты пясчаны бераг. *Прыстанем лодкою до ціпля.* Кароцічы.

ЦІ′ПЕТКА *н. экспр.* Кураня. *Ціпетка осталосо однэ.* Кароцічы.

ЦІ′ПЕЦ *м.* Сівец. *Ціпец, вон росце на вусокіх груда́х.* Сямігосцічы.

ЦІ′ПЛЕ *н.* Кураня. *Тая молодзіцка, ек ціпле, тудсюд — і зноў нап′еецца воды.* Цераблічы. *Памянш.* ц і п л е т к о. *А дзе ціплетка маленькіе?* Любавічы.

ЦІПЛЕНЯ′ *ж.* Тое ж. *Кура с ціплетамі повугрэ́бала ўвесь боб на градзе.* М. Малешава. *У мене ціплета не ведуцца, сорокі хопаюць.* Там жа.

ЦІПЛЮ′К *м.* Тое ж. *Кошка з′ела двананцаць ціплюкоў.* Кароцічы. *Памянш.* ц і п л ю ч о́ к. *Ціплючкоў шаснанцаць вувелі дзве куры.* В. Малешава.

ЦІПЛЯ′ *н.* Тое ж. *Ежык ціплета есць, бодай на ёго, малые! А ека ему разніца — ціпля ці жаба!* Старажоўцы. *Ціпля нікогда не пойдзе на воду.* Сямігосцічы. *Памянш.* ц і п л е т к о. *А дзе ціплетка маленькіе?* Любавічы.

ЦІПУ′ЛЬЧЫК *м.* Кончык. *Мой дзень — век, ужэ смерць вісіць на ціпульчыку.* В. Малешава.

ЦІПУ′Н *м.* △ Ц і п у н н а я з ы к. Нядобрае пажа-

данне. *Шоб тобе ціпун на езык, ек ты богато брэшэш.* М. Малешава.

ЦІ'ПЦЯ *н.* Кураня (у размове з дзецьмі). *Онінё ціпця! Цюцька, лові его, бежы, поймай!* Луткі.

ЦІ'СНУЦЦА *незак.* Сціскацца, уціскацца. *Вон не бачыў, ек я цісну́ўса, ек мне ўкола робілі.* Сямігосцічы.

ЦІ'СНУЦЬ *незак.* Ціснуць. *Онно тобе цісло, шоб на рыбу.* Луткі. *От мороз цісне!* Альгомель.

ЦІ'ЎКА *н.* Кураня. *А дзе ціўка булі?* В. Малешава.

ЦІ'ЎКАЙЛО *н. экспр.* Кураня. *Ціўкайло забегло ў огород і дзень ціўкае.* М. Малешава.

ЦІ'ЎКАЦЬ *незак.* 1. Ціўкаць. *Курэня тэ ціўкало-ціўкало, пока коты ні прышлі і ўзялі.* Запясочча. *Селезён — то ціўкае, а вутоўка крачэ.* Луткі. *Ціўкаюць ціплета на дождж вельмо.* Там жа. *Кура пойшла, а оно останецца і ціўкае.* Бярэжцы. *Ціўкае гразь под ногамі.* В. Малешава. 2 *перан.* Паказваць стомленасць. *Елі ціўкалі на том сенокосі.* М. Малешава.

ЦІЎКОНЕ'ЦЬ *незак.* Ціўкаць працяглы час. *Ціўконяць ціплета вельмі — будзе дождж.* Луткі.

ЦІ'ЎКОТ *м.* Ціўканне. *Ціўкот буў — под подлогою пацы бегалі.* М. Малешава.

ЦІЎКОТНЯ' *ж.* Тое ж. М. Малешава.

ЦІ'ЎЦІК *н. экспр.* Кураня. *Ціўцікі малые гамаць хочуць.* В. Малешава.

ЦІ'ХІ *прым.* Ціхі, спакойны. *Сколоцілі раз ёго ў бойцы да ціхі стаў, не лезе больш.* Пагост. *Ціхі дождж ідзе.* Запясочча. *На ціхе нападуц, а боеве саме наскочыц* (прыказка). Там жа.

ЦІ'ХО *прысл.* Ціха. *Ціхо, не крычэць!* Любавічы. *Ціхо, ні по волосу!* Аздамічы. *От весна пройдзе — так ціхо, лето проходзіць — ціхо, праўда ж.* Хачэнь.

ЦІ'ХОВЕ *прысл.* Тое ж. *Ціхове! Нехай поплачэ, ей не первінка.* Сямігосцічы.

ЦІХОВО'Д *м.* Месца, дзе няма цячэння. *Дзе ціховоды такіе, то рэзак росце.* Аздамічы. *Мо на ціховодах берэцца рыба, не на бустраку.* Цераблічы.

ЦІХОМІ'Р'Е *н.* Мірны час. *Ек ціхомір'е, ек нема войны, так усё було ў лаўках.* Верасніца. *Ек ціхомір'е, то добрэ.* Там жа.

ЦІХО'НЯ *м.* і *ж.* Ціхоня. *Такім ціхонею буць тожэ плохо.* Азяраны.

ЦІ'ХОЦЕ *прысл.* Ціха, цішэй. *Ціхоце, дзеці!* Сямігос-

цічы. *Ціхоце, я вам раскажу, ека вона.* Хачэнь. *Ціхоце, дзеці, дайце послухаць!* Цераблічы.

ЦІШЫНА′ *ж.* Цішыня. *Такая цішына, шо дажэ ні по волосу!* Дварэц.

ЦКОВА′ЦЬ *незак.* Цкаваць. *Не трэ цковаць собаком дзецей.* Аздамічы.

ЦК-ЦК-ЦК *выкл.* Выгук, якім падклікаюць парасят. *Цк-цк-цк, ходзіце молочка поежце.* Сямігосцічы.

ЦМОК *м.* 1. Вясёлка. *Цмок з рэкі воду набірае.* Цераблічы. 2. Міфічная істота. *Ек була земля нехрышчэна, то булі людзі неверные, то не веровалі ў господа бога да поверовалі ў ліхого цмока* (з песні). Запясочча.

ЦМО′КАЦЬ *незак.* Цмокаць. *Цмокаць на коня, коб ішоў.* Бярэжцы. *Вон ее цмок у морду.* Альпень.

ЦМО′КНУЦЬ *зак.* Цмокнуць. *Цмокнула дзіця.* Бярэжцы.

ЦОБА′-ЦОБА′-ЦОБА′ *выкл.* Выгукі, якімі паварочваюць вала ўправа. Сямурадцы.

ЦО′ГАНКІ, ЦО′КАНКІ, ЦО′ХАНКІ *мн.* △ У цóганкі. Дзіцячая гульня ў каменьчыкі. *У цóганкі.* Дварэц. *У цóканкі.* Сямурадцы.

ЦОК *м.* Сок. *Начавіла з яблок цоку.* Альшаны.

ЦО′ЛДА *ж.* Вялікі кавалак. *Коб цолду хлеба з′еў, то наеўса б.* Сямігосцічы.

ЦОЛОВА′ЦЦА *незак.* Цалавацца. *Мне бедной, бедной некуды дзевацца, по колено борода, лезе цоловацца* (прыпеўка). Хачэнь.

ЦОЛОВА′ЦЬ *незак.* Цалаваць. *Колісь цоловалі пана ў руку.* Аздамічы.

ЦО′НІК-ЦО′НІК-ЦО′НІК, ЦУ′НІК-ЦУ′НІК-ЦУ′НІК *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць парасят. *Цунік-цунік-цунік — зовуць поросятко.* Тураў.

ЦО′ПАЦЬ *незак.* 1. Выдаваць гук (шлёпаць, топаць, стукаць). *У мене коты, дай мышы цопаюць, шамаюць.* Хачэнь. *Я цопаю за ею, а вона лецiць.* Там жа. *Лежу ў курэне і чую, як вецёр шуміць да яблукі по земле цопаюць, выспелі ўжэ.* Пагост. *Цопаюць помалу цэпамі ў гумне.* Аздамічы. 2. Мацаць. *Вон корову цопае да дойіць.* Хачэнь.

ЦО′ПНУЦЬ *зак.* Упасці з гукам. *Яблуко цопнуло.* Чэрнічы. Упасці. *Натомлюса, прыду да цопну ў посцель.* Запясочча. *Бýськi дзікiе ў лесі: ек едзеш, то вон цоп у кубло, прыляжэ і седзіць, пока не пройдзеш.* В. Малеша-

ва. Скокнуць. *Пацук цопнуў з печы да п'е воду.* Дварэц. *Не ідзі ў одрыну, бо ек цопне вона на цебе.* Хачэнь. Кінуць. *Прынеслá дрожджэй да цопнула ў бочку.* Старажоўцы. Рэзка ўдарыць. *Вон его вілкáмі ек цопне!* В. Малешава. *Ногою цопнула добрэ.* Хачэнь. Цапнуць. *Прыехаў на мост — цоп, люлькі нема!* Цераблічы.

ЦОПОНЕ'ЦЬ *незак.* Стукацець. *Упаў конь на перэдніе ногі, а заднімі стаў цопонець.* Луткі.

ЦУБА'К, ЦЫБА'К *м.* Цыбук. *Ек на печы цыбуля повісіць, то не будзе цубакоў тогды.* Сямігосцічы. *Пошла цыбуля ў цыбаке.* Там жа.

ЦУ'БКІ *прым.* Цвёрды, тугі, каляны. *Цубкі сноп, як цубко з'язаны. Цубке полотно, як цвёрдэ, добрэ прыбітэ.* Луткі. *Цубкая дзеўка — не ўшчыпнуць, а ў другой цело бу клоч'е м'якке.* Там жа. *Сорочка трохі цупчэйша от кухмалу.* Там жа. *Таке цупке, ек у хомуце лямец.* М. Малешава. *У бродку дно цупко, песочок.* Верасніца. *Суткі полежыць, то цупкі сыр зробіцца.* Сямурадцы. *Лозове путо цупке, ек сухе.* Цераблічы. *Памянш.* ц ý п е н ь к і. *Прыўяне сыр на соўнейку да зробіцца цупенькі.* Сямурадцы.

ЦУ'БКО *прысл.* Цвёрда. *Там цубко, тудою брудзі, а тут загрузнеш.* Старажоўцы.

ЦУ'ГА *ж.* △ Д о ц у ґ і. Дакладна падобны адзін да другога. *Я ёму одразу сказаў, шо вона тобе не до цуга.* Старажоўцы. *Ей дай до цугі таке пальто.* Запясочча. *Зобраліса до цуґі і дажэ свое соткі не догледзець.* Дварэц. Ц у г а ц у г і ш у к а е. Пра падобных. Сямігосцічы.

ЦУ'ГЛІ *мн.* Цуглі. *Цуглі ёму ў рот, то будзе ек міленькі.* Верасніца. *Дай цуглі ў рот, доха побежыць.* В. Малешава. *Цублі.* Запясочча.

ЦУКЕ'РОК *ж.* Цукерка. *Ты, кажу, зроду цукерка не з'ела смашного.* Запясочча. *Цукеркоў, Міша, даць?* Дварэц.

ЦУ'КОР *м.* Цукар. *Булі сахарные буракі, сеялі, по дзесець рублей давалі і цукор.* Цераблічы.

ЦУКРОВА'ЦЬ *незак.* Цягнуць, несці. *Мех кортохляў цуковала домоў.* Запясочча.

ЦУКРО'ЎКА *ж.* Цукроўка. *Нападало за ноч цукровок. Повен кошэль назбірала.* Верасніца.

ЦУ'НІК *м.* 1. Кароткія бярвенні ў прасценках паміж вокнамі. *Цунік між окон.* Луткі. 2. Цялеж. *Хай бы цуніка подложыў под дошку.* М. Малешава. *Порэзаў дзераво на*

*цунікі*. Там жа. 3 *перан*. Невысокі чалавек. *Мого брата цвеляць «цунік», бо невелікі*. М. Малешава. 4 *перан*. Малое парася. *Цунік — малэ поросятко, цонік-цонік зовуць*. Тураў.

ЦУНЬ *м*. Кароткія бярвенні паміж вокнамі. *Усе коротышэ называюць цунь*. Сямурадцы.

ЦУ'ПЕЛЬ *м*. Паўвостраў, які ўтвараецца пры зліцці рэчак, пратокаў. Пагост.

ЦУР 1 *выкл*. Цур. *От, ек іду, а бабу́ кажуць: «Нека ты гладкая стала». То я: «Цур тобе да тобе печы́на з твоімі ліхімі очыма́, ты ўжэ мене хочэш наўрочыць»*. Луткі. 2 *м*. Цурка. *Дубу побіло ў цур*. Мачуль. 3 *м*. Кіёчак, якім гуляюць *у цурку*. Запясочча.

ЦУРА'ХА *ж. абразл*. Лаянка. *Цураха той, ніяк ні старэе, усе ў одном покосці!* Запясочча. *От цураха тобе, прыехаў сюды рыбу ловіць!* Дварэц.

ЦУРА'ЦЦА *незак*. Цурацца. *От краю до краю ўсім добра жэлаю, шоб жылі красоваліса і нас не цураліса* (вясельнае пажаданне). Хачэнь.

ЦУРБА'К *м*. Стрыжань пяра. *Гэто цурбакі з гусей*. Луткі.

ЦУРБА'Н *м*. Цурбак. *Вон ек едзе, то навек нейкіе цурбаны везе*. Цераблічы.

ЦУ'РБАЛОК *м*. Качалка. *Цурбалок — коротка, кругла, гладка палка, от шо ек цесто качаць*. Пагост.

ЦУРБУ'Н *м*. Стрыжань пяра. *Подзерла пух курыны, однэ цурбуны покінула*. Луткі.

ЦУ'РКА *ж*. 1. Палачка для гульні *у цурку*. *Коб скорэй весна, то будом гуляць у цурку*. В. Малешава. *На ком верх, той б'е цурку*. Хачэнь. *Тому брыгадзеру трэбо на селе ў цурку гуляць!* Бярэжцы. 2. Палачка, пры дапамозе якой вязалі снапы і гужву ў плытах. *Цуркой онно жыто і пшэніцу вяжуць*. Верасніца. *Як звяжэ цуркою, то кідай куды хочэш, не развяжэцца*. Запясочча. *Баба старэнечка ідзе везаць снопі, цурку заткне за поес*. Сямігосцічы. 3. Цялеж. *Дзве цуркі нашла олеховуе*. Мачуль. 4. Прадаўгаваты драўляны гузік. *Цуркі былі ў світках*. Хотамель. 5. Палачкі ў крыле жака. Альшаны. 6. Храсток у хвасце каня. Аздамічы. 7. Стрыжань пяра. Аздамічы.

ЦУ'РКНУЦЬ *зак*. Пляснуць. Луткі.

ЦУРКО'М *прысл*. Струменем. *Молоко цурком л'ецца, шнурочком, без перэрыву. Дошч цурком л'ецца*. Пагост.

ЦУРЛІ'ЦЬ *незак*. Струменіць. *Обедае, а пот цурліць!*

М. Малешава. *Цурліць вода.* Пагост. *Сонцэ прыгрэло да ручэйкі кругом цурляць, на сонцы пабліскваюць.* Там жа. *Цурліць ек із ведра.* Аздамічы.

ЦУРОВА′ЦЬ *незак.* Грызці (пра мышэй, пацукоў). *Ека смела муш: седзіць на ганку і цуруе собе нешчо.* Пагост.

ЦУРО′К *м.* Струменьчык. Луткі.

ЦУРОЛО′М *прысл.* Струменем. *Цуролом валіць, ек з екого бражніка.* Цераблічы.

ЦУРПА′ЛКА *ж.* Сцябліна. Д.-Гарадок.

ЦУРПА′ЛОК, ЦУРУ′БАЛОК *м.* Тое ж. *Одрэзаў одного цурпалка на ночву з ветлы.* М. Малешава. *Цурубалок, то поленяк такі.* Аздамічы.

ЦУРУ′БАЛЬЕ *н. зб.* Тое ж. *Цурубалье цюцюнў складалі і в'язалі ў сноп.* Дварэц.

ЦУРУЛЕ′ЦЬ *незак.* Струменіць. *Вода цуруліць по ўліцы.* Запясочча. *Просек берэзу, а сок цуруліць.* Там жа. *Молоко цурком цуруліць із цыцок.* Пагост. *Цурком цуруліць зо стрэхі.* Луткі. *Кроў цуруліць струею.* Аздамічы.

ЦЫБА′ТЫ, ЦЫБЛА′ТЫ *прым.* Цыбаты. *Ну і цыбаты, ногі ек у буська!* Верасніца. *Цыбаты, ножышча ек у буська доўгіе.* Кароцічы. *Рослэ жэрэб'я, цыбатэ.* Цераблічы. *Цыблаты — ногі длінные, а целесо короткое.* Альшаны.

ЦЫБЛА′Х *м.* Цыбук. Мачуль.

ЦЫ′БЛЫ *мн.* Доўгія ногі. *Цыблামі вушагвае, не зойдзешса.* Пагост.

ЦЫБУ′К *м.* Цыбук. *Поплела ў плёценкі цыбулю, вона вісела на печы, а вушлі однэе цыбукі.* Мачуль.

ЦЫБУ′ЛІНА *ж.* Цыбуліна. *Цыбуліну покрышы на сковороду.* Пагост. *Памянш.* ц ы б ў л і н к а. *Вона ему вушчэпіла тры цыбулінкі і крозь плот подала.* Сямурадцы.

ЦЫБУ′ЛЬНІК *м.* Лушпіны ад цыбулі. *Цыбульнікам красяць яйца.* Аздамічы.

ЦЫБУ′ЛЬНІЦА *ж.* Тое ж. *Цыбульніца, шо красіць яйца, зовом.* Старажоўцы.

ЦЫБУ′ЛЯ *ж.* Цыбуля. *Седзяць до часу, наберуць цыбулі, хлеба. Попрадуць, попрадуць, сядуць поедзяць.* Пагост. *Я повіла свою цыбулю ў венок.* Любавічы. *Пошла цыбуля ў стрэлкі.* Бярэжцы. *Памянш.* ц ы б ў л ь к а. *Подарыце мене хоць цыбулькою.* Сямігосцічы. △ З а́ й ч ы к о в а ц ы б ў л я (з а́ й ц о в а ц ы б ў л ь к а). Лугавы

часнок. *Зайчыкова цыбуля е на сенокосе.* Старажоўцы. Д з і к а  ц ы б у́ л ь к а. Тое ж. Вароніна.

ЦЫ'БЫ *мн.* Доўгія ногі. Кароцічы.

ЦЫГА'Н *м.* 1. Касцёр з трэсак сярод хаты для абагрэва. *Клалі цыгана посерэд хаты, ежэлі морозы.* В. Малешава. *До́лі цыгана клалі з лупікоў, кругом дзеці стояць дэ грэюцца.* Запясочча. 2. Цёмнавалосы, загарэлы хлопец, мужчына. Пагост. 3. Цыган. *Нема твое мацер, цыганы ўхопілі* (жарт). Хачэнь. *Ек ходзілі на сено, ек цыгане поробіліса чорные.* М. Малешава.

ЦЫГА'НІЦЬ *незак. экспр.* Выпрошваць. *Потходзяшчы хлопчак по селу шчэ цыганіць.* Луткі. *Цыганка пошла по дзерэўні цыганіць.* Там жа.

ЦЫГА'НКА *ж.* 1. Чорнавалосая, загарэлая жанчына. Верасніца. 2. Сорт яблыкаў. *Аж голле гнецца, так багато на яблуні яблук-цыганок.* Верасніца. *Цыганкі цвёрдые, воны зімніе, такіе красные.* Луткі. 3. Сорт фасолі. *Цыганка расце перэд вокнамі. Уецца по ніцы, або палцы. Цвіце красным цветом.* М. Малешава. 4. Плотка. Альшаны. 5. Цыганка. Тураў. *Памянш.* ц ы г а́ н о ч к а. Запясочча.

ЦЫГЛАНКІ' *мн.* △ У  ц ы г л а н к і́. Дзіцячая гульня ў каменьчыкі. *У цыгланкі гулялі, п'яць каменчыкаў бралі і паткідвалі.* Луткі.

ЦЫ'ГЛЯ *ж.* Высокая хударлявая дзяўчына. *Гэтые цыґлі позбіраюцца коло клуба і рогочуць* (пра дзяўчынак-падросткаў). Луткі.

ЦЫ'ГРА *ж.* Міфічная істота. *Не йдзеце, бо цыгра ўхопіць ды ўб'е каменною цыцкою.* Пагост.

ЦЫ'МБЕЛ *м.* Даўганогі чалавек. Луткі.

ЦЫНА'МОНТ *м.* Карыца. Мачуль.

ЦЫ'НБАЛО *м.* Даўганогі чалавек. *Цынбало пойшло. Цыбаты, ногі тонюсенькіе.* Луткі.

ЦЫ'НГЕЛЬ *м.* Спускавы кручок у стрэльбе. Мачуль.

ЦЫ'ПЕЛЬ *м.* Пясчаная каса на рацэ. *Озме́м волоком за того цыпеля, там будзе рыбка.* Запясочча.

ЦЫ'ПОЧКІ *мн.* △ Н а  ц ы́ п о ч к а х. На пальцах ног. *На цыпочках прышоў, шоб не розбудзіць.* М. Малешава.

ЦЫ'РКАЦЬ *незак.* Цвыркаць. *Цыркун цыркае.* Бярэжцы.

ЦЫРКУ'Н *м.* Цвыркун; конік. *Цыркуны скачуць по лугу.* В. Малешава. *Цыркуноў у хату з болонья прынесеце, то я буду погоду ведаць. Ек на погоду, то цыркуны*

*цыркаюць, а ек непогодзь, то воны моўчаць.* М. Малешава. *Цыркун не лётае, а скачэ.* Луткі.

ЦЫЦ *выкл.* Ціха. *Цыц, не крычы!* М. Малешава. *Цыц, хлопцы!* Аздамічы.

ЦЫ'ЦА *ж.* Цыцка (пры размове з дзецьмі). *Мама цыцу несе!* Кароцічы. *Мамо, дай цыцы.* Аздамічы.

ЦЫ'ЦКА *ж.* Цыцка. *Цыцка прудка ў ее.* В. Малешава. *Вон за ее за цыцкі схопіў да скруціў, да ўбіў.* Там жа. *Ноч хворэюць бес цыцкі поросята.* М. Малешава. *Одна цыцка нейка слепа, тугая ў корову.* Сямурадцы. *Чотэры сестрыцы да ў одну ямочку льюць* (загадка). *Цыцкі ў корову* (адгадка). Хачэнь. *Не йдзі ў жыто, там русаўка з велікою цыцкою, вона цебе задавіць* (павер'е). Сямігосцічы.

ЦЫЦКІ' *мн.* Маленькія качанчыкі пад асноўным качаном капусты. *Бабі кажуць: цыцкі некіе понаро́сталі на капусці, а то отмолодзь пошла.* Сямігосцічы.

ЦЬМА *ж.* Мноства. *На свято вуйдзе на вуліцы народу, ек цьма.* Бярэжцы. *Ягод там цьма.* Тураў. △ Н і ц ь м у, н і л і с т у. Дашчэнту. *Много вутоў, то вутопчуць, шо ні цьмі, ні лісту.* Цераблічы. Ц ь м а ц ь м у́ ш ч а я. Вельмі многа. *Цьма цьмушчая було качок.* В. Малешава.

ЦЬМЕЦЬ *незак.* Цьмець. *От, не горадь дрова да цьмеюць.* Сямурадцы. *Сырэ, то не горыць, а цьмее, тліць.* Аздамічы. *Папіроса цьміць.* Там жа.

ЦЬМЯ'НО *прысл.* Цьмяна. *Цьмяно горыць лампа.* Аздамічы.

ЦЬМЯ'НЫ *прым.* Цёмны. *Цьмяны крам.* М. Малешава.

ЦЭБА'РКА *ж.* Цэбар. *О это цэбарка колішня, а это барыло.* Сямурадцы.

ЦЭ'БЕР, ЦЭ'БОР *м.* Тое ж. *Корові дают пойло ў цэбры.* Тураў. *Давай вунесом гетого цэбра на двор, а то вон поцёк онь.* Кароцічы. *У цэберы запарваць коровам.* Хотамель. *Весною цэбор воды, ложка гразе, осенью ложка воды, цэбер гразе* (прымаўка). Хачэнь. *Памянш.* ц э́ б р ы к. *Буў цэбрык на трох ножках.* Сямурадцы.

ЦЭ'ГЛА *ж.* Цэгла. *Зробі мне лежака з цэглы, да погрэемса.* Сямурадцы. *Цэглы наробіць трэба.* Аздамічы.

ЦЭ'ГЛІ *мн.* Цяглі. *Пад цэглямі перэціснуў.* Запясочча.

ЦЭ'ГЛІНА *ж.* Цагліна. *Цэгліною гострылі ножа.*

М. Малешава. *Упала цэгліна ў комін да закрыла ход.* Мачуль.

ЦЭГЛЯ'НКА *ж.* 1. Грузіла ў рыбалоўных сетках. Луткі 2. Цагляны дом. *Дзіця которэ будзе жывэ дай захочэ, хай становіць еку цэглянку.* Пагост.

ЦЭД *м.* Заквашаная аўсяная мука. *Мукі з оўса намочым, скісне, нацадзім на сіто ці ў рукаў, да той цэд варым на жур, а лупў остающа.* Кароцічы. *На цэду млінцы подбіваюць.* Хотамель.

ЦЭЛІ'К *м.* Цалік. *По цэліку поехаў саньмі.* Луткі. △ У ц э л і к. Напрасткі, без дарогі. Хотамель.

ЦЭЛІКО'М *прысл.* Напрасткі, без дарогі. *Цэліком поехаў, напрамік.* Альпень.

ЦЭ'ЛІЦЬ *незак.* Пацэліць, патрапіць. *Як ві цэлілі к Ганніной даццэ?* В. Малешава. *Таке шчасце попалосо, шчо вон мацёру цэліў.* Мачуль.

ЦЭЛО'К *м.* Меткі стралок. *От цэлок, не пропусціў однэ й друге.* Луткі.

ЦЭ'ЛНОСЦЬ *ж.* Цэласць. *Нічого ёго не покурожыло, усе ў цэлносці.* Сямурадцы.

ЦЭ'ЛНЫ *прым.* Цэлы, увесь. *Я за тобою ходзіў цэлну недзелю.* Старажоўцы.

ЦЭ'ЛЫ, ЦА'ЛЫ *прым.* 1. Увесь. *Цалые суткі ідзе дожч.* Сямігосцічы. *От, дайце мне попіць, так я вам воды дам на цалэ вашэ государство.* Кароцічы. *Цылу ноч бліскало.* М. Малешава. *Елі, ек свое, цэлэ лето.* Луткі. 2. Не пашкоджаны, не сапсаваны. *Хто вернуўса з войны, ек не забіты, то не цалы.* Сямігосцічы. *Цэлымі кочанчыкамі попекуць капусту.* Дварэц. *Здаецца, воны п'юць і едзяць і вонэ ўсе цэлэе.* Бярэжцы. 3. Вельмі вялікі. *Бабры там понаносілі цалые гуры ломач'я.* В. Малешава. *Цэлую берэмку трэбо класці на веселы.* М. Малешава.

ЦЭЛЬ *ж.* Грыб-трутавік. Хотамель.

ЦЭЛЮ'ШЧЫ *дзеепрым.* Гаючы. *Прынесі мне жывушчэе і цэлюшчэе воды* (з казкі). Кароцічы.

ЦЭЛЯ'ЦЬ *незак.* Цаляць, трапляць. *Запуняецца рыба перэд гатком, ідзе ў дзверы і цэляе ў жака.* Сямігосцічы. *Тые, шчо ў полі, хапаюць мячыка і цэляюць по тых, шчо бегуць.* Талмачава. △ З у б н а з у б а н е ц э л я́ е. Пра дрыжыкі ад моцнага холаду, страху і інш. В. Малешава.

ЦЭНІ'ЦЬ *незак.* Цаніць. *Вона цэніла мужыка свого.* М. Малешава.

ЦЭНІ′ЦЦА *незак.* Прыцаняцца. *Цэніласа ты, колько даюць?* В. Малешава.

ЦЭ′ННО *прысл.* На рэдкасць добра. *Вон так цэнно іграў!* Верасніца.

ЦЭНОВА′ЦЬ *незак.* Прыцаняцца. *Дзед не цэноваў да так продаў.* В. Малешава.

ЦЭ′НТЭР *м.* Вялікі свярдзёлак. *Цэнтэр з сердзейком.* Хотамель.

ЦЭП *м.* Цэп. *Цыпом молоцілі па току.* М. Малешава. *У цыпа е біч, цыпу́лнэ, голоўка, гу́жык, прыу́язка.* Чэрнічы. *Отразу ногамі, а потом цэпам просо молоцілі.* Лутқі. *Езыкі ў баб, шо цэпу́, ты з імі не спор, лепш помоўчы.* Пагост.

ЦЭПІ′ЛНО, ЦЭПІ′ЛЬНО, ЦЭПЫ′ЛНО *н.* Цапільна. *Цэпілно з орэхова кійка.* Хотамель. *Цэпылно.* Альшаны. *Цыпульна.* Чэрнічы. *Цэпільна.* Запясочча.

ЦЭ′ПКІ *прым.* Учэпісты. *Дзерэза цэпка, бо чэпляецца.* Любавічы.

ЦЭПО′К *м.* Кіёк (у драбіне, ніце і інш.). *Построй драбіну, а то цыпкі зломаліса.* М. Малешава. *Скацерсце ткалі ў тры цэпкі, і ў лаўкі, і ў боло́ночкі, а цепер у моды ткуць.* Лутқі. *Памянш.* ц э п о́ ч о к. *У мене сват за пастуха, да вурэзаў мне цэпочок.* Сямурадцы.

ЦЭПО′ЛНО, ЦЭПО′ЎНО *н.* Цапільна. *Біч прыяжуць рэменем до цэполна.* М. Малешава. *Цыпоўно робілі з берэлозіны.* Там жа.

ЦЭ′ПОМ *прысл.* Ланцугом. *Два часы цэпом так жабу ішлі — перэбіраліса ў другую доліну.* Пагост.

ЦЭПОНІ′ЦЬ *незак.* Малаціць. *Цэпоняць помалу цэпамі.* Лутқі.

ЦЭ′РКВА *ж.* Царква. *Цэрква Ільінска згорэла ў Турові.* Дварэц.

ЦЭРКО′ВІ′ШЧЭ *н.* Месца, дзе стаяла царква. *Моя хата стойіць на цэрковішчы.* Верасніца. *Гэто, кажу, цэрко́вішчэ було, а гэто могілкі.* Дварэц.

ЦЭ′РКОЎ, ЦА′РКОЎ *ж.* Царква. *Цэркоў була на валу ў Турове.* Дварэц. *У царкву пойдом.* Запясочча.

ЦЭСА′РКА *ж.* Цацарка. *Кура така цесарка.* Запясочча.

ЦЭ′ЎКА, ЦЭ′ЛКА *ж.* Цэўка. *Мотайецца на цэўку нітка.* Запясочча. *З'ездзі, сыне, за рэку́ за чэрэтом, шоб було ш чого цылок наробіць.* Пагост. *Одные прадуць, а*

*другіе цэўкі сучуць.* Хачэнь. *Памянш.* ц ы́ л о ч к а. *Пража на цылочку навіта.* Запясочча.

ЦЮ'КАЦЬ *незак.* Цюкаць. *Нехто ўсе цюкае сякераю.* Луткі.

ЦЮ'КНУЦЬ *зак. метаф.* Успомніцца. *Цюкнуло мене, шо ў его нешчо е таке, поганэ.* М. Малешава. *Ей цюкнуло, шо то за вона.* Луткі.

ЦЮ'ПЦІК *м.* Шпянёк. *У бабцы е такі цюпцік, шо ў колоду забіваюць.* Сямурадцы.

ЦЮ'ЦЬКА *м. экспр.* Сабака. *Ня-ня-ня, цюцько!* Альшаны.

ЦЮ'ПА *ж.* Малако з накрышаным хлебам. *Налі, унучко, молока ў міску, да я цюпу собе зроблю, на мое зўбу екраз еда добра.* Пагост.

ЦЮ'ПЛІК *м.* Хвосцік; храсток. *Картоплі с цюплікамі — не одорвеш.* В. Малешава.

ЦЮ'ПЦІК *м.* Тое ж. *Того самого кончыка, того цюпціка отсекаюць у ката.* М. Малешава.

ЦЮРЛЮВА'ЦЬ *незак. экспр.* Пець (пра жаваранка). *Так і пошоў цюрлюваць жаворонок.* В. Малешава.

ЦЮ'ЦЯ *м.* Сабака (у размове з дзецьмі). *Не плач, во цюця ідзе.* Запясочча. *Наворыла Муця, шо не поесь і цюця* (прымаўка). Старажоўцы.

ЦЮ'ЦІК *м.* 1 *экспр.* Сабака. *Цюцік хлам папу з маслом!* Цераблічы. 2. Калок для нацягвання навою з палатном. *Цюцік — шоб полоценнэ вороціло не отходзіло.* М. Малешава. *Ох, мой цюцік у полоценном вороцілі поломаўса.* Верасніца. 3. Хвосцік у гарбузе. *Цюцік одбіўса, гарбўза зогніе.* Дварэц.

ЦЮ-ЦЮ-ЦЮ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць сабак. *Собачэня зовуць цю-цю-цю.* Сямурадцы.

ЦЮЦЮ'Н, ЦІЦЮ'Н *м.* Тытунь. *Курылі цюцюн.* Верасніца. *Вон нішчо не есць, ему только курэніе, одно цюцюн ему.* Луткі. *Цюцюн пасынковала.* Кароцічы.

ЦЮЦЮНЕ'Ц *м.* Тое ж. *Курэц на чужы цюцюнец* (прымаўка). Запясочча.

ЦЮЦЮНІ'НА *ж.* Каліва тытуню. *Я сам трыста злотых штрапу заплаціў пры Польшчы за тры цюцюніны.* Цераблічы.

ЦЯ'ГА *ж.* 1. Імкненне, жаданне. *Не було охоты, цягі, не цягло до его.* М. Малешава. 2. Цяга. *Шчо вушкі, то нема моцнойе цягі ў одрыні.* Дварэц.

ЦЯ'ГЛЫ *прым.* Цягавіты, вынослівы. *Тые бабі цяглые!* Запясочча.

ЦЯЖ *м.* 1. Сцёк вады. *Рыба пошла на цяж.* Альшаны. *Смуга ніжэйша есць, там цяж больша.* Хотамель. *Шоб цяж воды було, то там лобкі векамі б'юцца.* Там жа. 2. Раменная вяроўка, пры дапамозе якой падымалі вуллі. Хотамель. 3. Гняздо з вашчыны ў вуллі. *У вульі до самое подкі цяж, да з медом.* Мачуль. 4. Дышаль. Аздамічы.

ЦЯЛЁГА *ж.* Расцягнуты воз, на якім перавозяць доўгія бярвенні. Альшаны.

ЦЯ'МІЦЦА *незак.* Прападаць. *Ідзі хлеб помогі несці.— Не хочу, мамо. Я буду тут.— Шчоп ты цяміласа. Вон жэ с сеткі падае!* Сямігосцічы. *Шчоп гэта война цямілася, шчоп ее ніхто не знаў!* Там жа. *Не показвайса, хай вон цяміцца!* Там жа.

ЦЯ'МІЦЬ *незак.* 1. Кеміць. *Не цямяць нічого, а нос свой усуне сюды.* Верасніца. *Старэ не цяміць, бі дзіця.* В. Малешава. *А вона така стара, шо ўжэ нічого не цяміць.* М. Малешава. *Заморочылі голову, шчо нічого не цямлю.* Кароцічы. *Вон цяміў, шо бук можэ сколоць, хоць п'яны.* Цераблічы. *Хорошая голова ў его, вон тяміть.* Альпень. 2. Уяўляць, прыпамінаць. *Ты цяміш, шо то за муш, шо крыла е?* Рычоў. *Не цямілі жыць колісь.* Аздамічы. *Стары чоловек не цяміць, як залезці на дзерэво.* Рубель.

ЦЯ'ПКА *ж.* Матыка. *Дзедўро, поджыргай цяпку, бо я пойду полоць.* М. Малешава.

ЦЯ'ЎКАЦЬ *незак.* 1. Цяўкаць. *Сучка прышла да цяўкае.* Запясочча. *Шчэнята цяўкаюць.* Аздамічы. 2 *перан. экспр.* Гаварыць. *Цяўкае бес перэстанку.* Верасніца.

ЦЯ'ХНУЦЬ *зак.* Стукнуць, ляснуць. *Екраз по тому стоўбу ек цяхнуло да і по ему* (пра маланку). Дварэц.

ЦЯЦЬ *зак.* △ Ц я ц ь п е с н я к á. Запець песню. *Бабу ек тнуць песняка!* Альшаны.

# Ч

ЧАБО'Р *м.* Чабор. *Чабор от простуды, от кашлю.* Хачэнь. *Чобóр — колючая трава.* Бярэжцы.

ЧАБУРА'КНУЦЬ *зак. экспр.* Паваліць. *Маці чабу-*

*ра́к за ее дай отлу́піць ее до́брэ.* М. Малешава. *Чабуракнуў во́бзем.* Пагост.

ЧАВЕНУ′ЦЬ *зак.* Цісkануць, прыціснуць. *Як чавенула, то ажні кроў пошла.* В. Малешава.

ЧАВІ′ЦЬ *незак.* Ціснуць, прыціскаць, сціскаць. *Нешчо мне ча́віць го́лову.* Бярэжцы. *Мої го́ды мэне́ ча́в'яць.* Д.-Гарадок. Выціскаць. *Ко́лісь чаві́лі воск.* Хотамель. *Як сыр возьмі да положы ёго́ чавіць, то цечэ сыро́ватка.* Бярэжцы. Душыць, мяць. *Не чаві муху!* Лутқі. *Не трэ чавіць корук!* Аздамічы.

ЧАГА′РНІ′К *м.* Хмызняк, густыя зараслі. *Там чагарнік, той цёрон колючы буў.* Хачэнь. *Зогнаў у чагарнік да погубля́ў целя́та.* Цераблічы. *От зелья́ бога́то понаросло́, бы чага́рнік.* Сямурадцы. *Чагарнік на сухом месці росце, дзе больш ку́п'я.* Верасніца.

ЧАГАРЭ′ЧА *ж.* Гушчар, густы хмызняк. *Товар у чагарэ́чу улёзе, так не можно ву́гнаць.* Цераблічы.

ЧАД *м.* Чад. *Не топіў моцно, чаду бояўся.* Луткі.

ЧА′ДЗЕЦЬ *незак.* Чадзець, губляць прытомнасць ад чаду. *З дубовых дроў чадзеюць.* Кароцічы. Затыхацца. *Дзе прыдуха, рыба чадзее.* Запясочча. *От коно́плі рыба чадзее, як мочаць.* Цераблічы.

ЧА′ДЗІЦЬ *незак.* Чадзіць, курыць. *Ча́дзіць у печы.* Луткі. *Чадзіць з пэчы вэ́льмо.* Сямігосцічы.

ЧА′ДНО *прысл.* Чадна, душна. *Так чадно на полі од жары!* Луткі.

ЧА′ДО *н.* 1. Дзіця. *Чадо — гэто ж отрава!* Чэрнічы. *Шану́й себе́ і свое́ чадо* (прыказка). Цераблічы. 2. Род, племя (?). *Зло скажэ часом: шчоб усе чадо звело́со!* Цераблічы.

ЧАЁВА′ЦЬ *незак.* Піць чай, чаяваць. *Так не вельмі я чаёвала, а з вамі прыву́кла.* Луткі.

ЧАІ′НЫ *прым.* Кнігаўчын, які належыць кнігаўцы. *Чаінэ кубло́.* М. Малешава.

ЧАЙ *м.* Чай. *О, мед — вешч важная до чаю!* Сямігосцічы.

ЧА′ЙКА *ж.* Кнігаўка. *Чайка заране́й прыле́тае, ужэ цепло́ будзе як прылецяць.* Запясочча. *Чайка кладзе яйца по су́ху.* Сямігосцічы. △ Ча́йка чуба́тая. Тое ж. *У нас чайка чубатая, а ў Рубле́ кнігоўка кажуть.* Альпень. *Памянш.* ча́ечка. *Мо то ча́ечкі з чубкамі?* Хачэнь.

ЧА'КАЦЬ *незак.* Цікаць, тахкаць. *Часы чакаюць.* Цераблічы.

ЧА'КНУЦЬ *зак.* Шахнуць, чыкнуць. *Кабан ек чакнуў зубамі!* Верасніца.

ЧАКУ'ХА *ж.* 1. Драўляны молат; даўбешка, якой глушаць рыбу па першым лёдзе. *Як даў чакухою, дак зёбра роставіў* (шчупак). Аздамічы. 2 *перан. экспр.* Галава. *Чокуха не варыць у цебе, трэ клепку ўставіць.* Цераблічы. *Чакуха дурная нешчо боліць.* Лутកі.

ЧА'ЛЫ *прым.* Дэрашаваты (пра каня). *Е кобула у нас така́ чала.* Любавічы. *Чалый конь — это сівый волос, і белый да красный.* Запясочча.

ЧАМАЙДА'Н, ЧУМАЙДА'Н *м.* Чамадан. *То ваш чамайдан?* Запясочча. *А хто ето з чумайданом по вуліцы йдзе?* Пагост.

ЧАМА'РА *м.* і *ж.* Пачвара, страшыдла; *перан.* неахайны чалавек. *От чамара, о чому то ты не ўстро́ілас?* Луткі. *От чамаро ты стары́!* Хільчыцы. Цёмны, някемлівы чалавек. *От чамара, не соображае нічо́го.* М. Малешава. *Чамара, непоня́тлівая жоно́чына, не ўсе дома.* Запясочча.

ЧА'МКАЦЬ *незак.* Жаваць бяззубым ротам. *Ча́мкае, да́віцца.* В. Малешава.

ЧАМО'Р *м.* Чэмер, чамярыца (?). *От як бувае коро́ву го́ніць у одры́не, то ве́шаюць чамо́р у одрыне да перэстае́.* Луткі.

ЧАМРА' *ж.* 1. Чмута (лаянкавае слова). *Чамрэ́, чого ты ходзіш?* Аздамічы. 2 *экспр.* Самагонка. Аздамічы.

ЧАПКІ' *прым.* Хісткі, няўстойлівы. *Ежэлі шырокі човен, то вон не такі чапкі́.* Цераблічы. *Чапка́ клатка, пома́леньку ідзі, бо можэш упасці.* Там жа.

ЧА'ПЛЯ *ж.* Чапля. *Чапля така сыта, шчо саме сало.* Мачуль. *Собака ўзяў з-за дроў подкраўса й чаплю з'еў.* Луткі. *Чапля ніяк не крычыть, оно ды́бае по водé.* Альпень.

ЧАР *м.* Мошчы (?). *Такі худы, страхо́цье чоловек, чар одзін остаўса, кожа і косці, шчоб воны не россы́паліса, як віло́шнік.* Дварэц. *Ву́сох на чар, а дрыжыць за горэлкой.* М. Малешава.

ЧА'РКА *ж.* Чарка. *Будзе чарка, будзе й шкварка* (прымаўка). М. Малешава. *Одноéю чаркою обходзіліса кругóм ко́лісь.* Запясочча. *Памянш.* ч а́ р о ч к а. *Тая чарочка мо двадцаць грам була?* Луткі.

ЧАРКОВА'НЬЕ *н.* Пачастунак. *Дай шэсцьдзесят рублей на чаркованье.* Луткі.

ЧАРОВА'ЦЬ *незак.* Чараваць, калдаваць. *Не дозволю ўдову браці, ўдова ўмее чароваці, чаровала мужа свого, очаруе сынка мого* (з песні). Пагост.

ЧАРОДЗЕ'ЙСТВО *н.* Чараўніцтва. *Я чородзейству ні грама не веру.* В. Малешава.

ЧАРОЎНІ'К *м.* Вядзьмар, чараўнік. Бярэжцы.

ЧА'РОЎНІ'ЦА *ж.* Чараўніца, вядзьмарка. *Нейка чароўніца прысвоіла чоловека, прычаровала к собе.* Запясочча. *Чароўніца.* Там жа.

ЧАРУ'ШКА *ж.* 1. Выразаная з нароста на дрэве місачка. Запясочча. Чарка. Сямігосцічы. Ізалятар. *Чарушкі на стоўпах, шоб провод чэпляць.* Пагост. 2. Бяззубка; ракавіна малюска. *Чарушку як рошчавіш, то блюеш.* Сямігосцічы. *Чарушкі, жаба там е.* Мачуль. *Бы місочка, то чарушка.* Луткі. 3. Шкарлупка (з яйца і інш.). *Чарушкі валяюцца — кура недзе нанесла, а сорокі повыпівалі.* Бярэжцы. *Гурок не вуросце, усе з'едзяць, одно чэрушке покінуць куры.* Пагост. *Памянш.* ч э р у ш э ч к а. *О таку чэрушэчку выпіла.* Сямігосцічы. *Сорока ейцэ вып'е, одно чэрушэчкі покіне.* Хачэнь.

ЧАРЫ'НА *ж.* Чарка. *Хоць бу ужэ яку чарыну вупіў на с'ято!* М. Малешава. *Памянш.* ч а р ы н к а. *Колісь вып'е еку чарынку да й усе.* Верасніца.

ЧАС *м.* 1. Час. *Німа мне часу з вамі возіцца.* Тураў. *У прошлом году гэтымі часамі было двацацць градусоў.* Мачуль. *Прыдзе Спас — то ўсёму час* (прымаўка). Хачэнь. 2. Гадзіна. *Зарэз ужэ два часы ночы.* Тураў. *П'яць часоў робіў, біў пліцье.* Луткі. △ Н а с к о р о м ч а с е. Неадкладна, у хуткім часе. *На скором часе сталі шэптаць да вышэпталі.* Луткі. *На скорым часе столок свой зробіў.* Там жа. *Як на скором часе, то снегом отцірае одморожэнэ место.* Там жа.

ЧАСА'МІ *прысл.* Часам, часамі. *От, часамі весною половіць рыбу.* Луткі. *Часамі куды ідзеш да ўстрэнеш, то можэ жыгнуць ножэм і ўсе.* Сямурадцы.

ЧАСІ'НА *ж.* Кароткі адрэзак часу. *Ці не далі б вы, дзядзе, свого гебліка на часіну?* Тураў.

ЧА'СНЫ *прым.* Часовы. *Му часные людзі.* Цераблічы.

ЧА'СОМ *прысл.* Часам, калі-нікалі. *Часом прыдзе.* Аздамічы. *Часом дзе хвост, то сеялі пшэніцу.* Там жа.

ЧА́СТО *прысл.* Часта. *Часто ку́рыць.* Аздамічы. *То я часто тые чоботы спомінаю.* Сямурадцы. *Не дай божэ часто селіцца і часто жэніцца* (прыказка). Цераблічы. *Чашчэ́й захо́дзьце до нас.* В. Малешава.

ЧАСТОВА́ЦЬ *незак.* Частаваць. *Заехалі к брату, той брат стаў іх частоваць.* Бярэжцы. *Сімо́н дочку́ оддаваў дай сам себе́ чостова́ў* (з песні). Хачэнь.

ЧАСТОКО́Л *м.* Агароджа з завостраных калкоў. *Частокол ко́ліся не рэзалі, а кололі пла́шкі і прыбівалі к жэ́рдзю.* Лутківі. *Як за добрым чоловеком, то як за плотом, а за нехорошым — як за частоколом* (прымаўка). Запясочча. *Чостоко́л.* Аздамічы. *Чэстоко́л.* Запясочча.

ЧА́СТЫ́ *прым.* Часты, густы. *Просею на ча́стэ сіто, усыплю ў пля́жэчку да воно й стоіць.* Луткі. *Часты́ грэбэне́ц.* Альпень.

ЧАСЦЕКА́ *прысл.* Часта, вельмі часта. *Ро́дзіч часцека нам ко́сіць.* Сямурадцы.

ЧАСЦЕКО́М *прысл.* Тое ж. *Ко́лісь моя мацi часцеком воры́ла галу́шкі.* Цераблічы.

ЧАСЦЬ *ж.* Частка. *Одного запалка росколу́палі на чотыры часці.* Сямігосцічы. Доля, частка маёмасці. *Гэто твоя часць була од бацька.* Хотамель. Раз. *У тры ча́сці дорожэ́й беруць за тые трапкі.* Верасніца. △ Б о л ь ш у ч а с ц ь. Часцей за ўсё, найбольш. *Большу часць вязалі снопы рукамі, а хто цу́ркою.* Хотамель.

ЧА́ЎКАЦЬ *незак.* Чмякаць. *Еду́ць, чаўкаюць дзеці яблокі.* Запясочча. *Прыбегла свіня́ ў хлеў і давай чаўкаць той гной.* Мачуль.

ЧАЎНУ́ЦЬ *зак.* Цісkануць, прыцiснуць. *Чуць чаўнула яйцо́, воно́ і поцекло́.* Чэрнічы. *Собака чаўне і задушыць, але не есць.* Луткі. *Гледзіць, шоб не чаўнуло* (плыт), *а як чаўне, то полеціць той лес мольвю.* Дварэц.

ЧАЎРЭ́ЦЬ *незак.* Гібець, існаваць надгаладзь, галадаць. *Побеле́лі, ек гу́сі, бо чаўрэ́юць там — это ж не до́ма.* Верасніца. *Дасць не́ку по́суш, шо корова чэўрэ́е.* Дварэц. *Чаўрэ́е, не есць, і за чым вона жыве?* М. Малешава. *Стоіць, дзень нейкое беды чаўрэ́е, як я тут чаўрэ́ла коло вас, рота розя́віла.* Кароцічы.

ЧА́ХНУЦЬ 1 *незак.* Худнець, марнець. *Без еды́ свіньe чахнуць.* Аздамічы. 2 *зак. экспр.* Разануць. *Ножэ́м чахнулі і ўсе.* Запясочча.

ЧАЧА́ХКАЦЬ *незак.* Скіргатаць, трашчаць. *Сорока чачахкае.* Мачуль.

ЧАШ *м.* Галінка з лістамі. *Ву́лом ча́ша да отгоняй комарэ́й.* Старажоўцы. △ Чаш — чэрэпа́ш. Дзіцячая прыгаворка, калі абмахваюцца галінкай з лістамі. Старажоўцы.

ЧА́ША *ж.* Вялікая пасудзіна ў царкве. *Була чаша веліка, цоркóўна.* Бярэжцы.

ЧА́ШКА *ж.* 1. Мера сыпучых цел (10—12 гарцаў, прыблізна 2,5 пуда) у выглядзе пасудзіны з клёпак. Хотамель. 2. Выемка ў бервяне. *Коб зробіць у немецкі ву́гол, то трэба чашку зарэзаць і ву́секці.* Аздамічы. 3. Пасма нітак на клубку. *Ек чашка спада́е, то ніткі заблутваюцца.* Тураў. *Намота́еш чашку, повора́чваеш і дру́гу мота́еш.* Сямурадцы. Некалькі колцаў з лазы на веніку. *Чашка не спадзе на веніку, ек замотаеш до́бро.* Цераблічы. Вочка (перавязь) у кашы. Аздамічы.

ЧВА́КАЦЬ *незак.* Чмякаць, чвякаць. *Чую нешчо чвакае там, мо ву́тва.* Кароцічы. *Намочыш шмоціну яку́ю, будзеш чэ́біць, вона будзе чвакаць.* Хотамель.

ЧВАЛ *м.* Галоп. Аздамічы.

ЧВАЛОВА́ЦЬ *незак.* Бегчы галопам (пра каня). *Чвалуе конь, бежыць чва́лом.* Пагост.

ЧВА́ЛОМ *прысл.* Галопам. *У чвал коня погоня́е, поехаў чвалом.* Аздамічы.

ЧВА́НІЦЦА, ЧВО́НІЦЦА *незак.* Фанабэрыцца, ганарыцца. *Чва́ніцца своею красотою.* Хачэнь. *Ой, чваніліса, шо воны шляхта.* Там жа. *Ох, кажэ, тая гадосць, шчэ й вонэ чво́ніцца.* М. Малешава.

ЧВАНЬ *ж.* Дрэнь. *Шчоб вас дох поеў, хужэ́й чва́ні, па́косці нема́.* Пагост. *Чвань гэта, така́ дро́бна цыбуля.* Там жа.

ЧВА́РКАЦЬ *незак.* Кракаць, падаваць голас. *Ву́тва чваркае.* Запясочча.

ЧВІ́ДКІ́ *прым.* Шустры, бойкі, рэзкі. *Нап'еццa да ходзіць такі чвідкі.* Цераблічы. *Чві́дкі.* Бярэжцы.

ЧВІ́ДКО *прысл.* Шпарка, хутка. *Чвідчэ́й за у́сіх бегае Міша.* Тураў.

ЧВІР, ЧВЫР *м.* Жвір, пясок з дробнымі каменьчыкамі. *Чвір, дзе песок аж чырвоны і каменцэ́, ек пшоно, бо́льшых нема.* Луткі. *Чвір е, рэдка почва, там загру́зці можно.* В. Малешава. *Дзе пешчуга́ веліка, то кажуць чвір.* Цераблічы. *Карамза́ч'е дзерэво росце на самом чвыру́ ў га́лі.* Аздамічы.

ЧВІ́РКАЦЬ *незак.* Цвыркаць. Запясочча.

ЧВІ′РКІ *мн.* Від лесаматэрыялу, паўметровыя калодкі з дубу. М. Малешава.

ЧВІРКУ′Н *м.* Цвыркун. *Як чвіркун под печкою чвіркае, то будзе веселье* (прыкмета). Запясочча.

ЧВІРЫ′КОТ *м.* Цвырканне. *Крык, чвірыкот у той лозé!* Луткі.

ЧВО′ГАЦЬ *незак.* Сцябаць, біць пугай. *Чвоґай, чвоґай іх, хай скорэй бегуць.* Верасніца.

ЧВО′ГНУЦЬ *зак.* Сцебануць, выцяць. *Ек чвóґнуў коня пýжкою!* Верасніца.

ЧВО′КНУЦЦА *зак.* Стукнуцца, урэзацца. *Можэ чвокнуцца об сцéну головóю.* Луткі.

ЧВО′КНУЦЬ *зак.* Стукнуць, трахнуць. *Ек чвокну, то будзеш помніць до нóвых вéнікоў!* Луткі. *Вона не знала, дзе добрэ чвокнуць, коб очомрэ́ў.* В. Малешава. *Одзін подкідае того м'ячыка, а другі палкой чвок!* Тураў. Раптоўна сесці, хлюпнуцца. *Я на ее чвок, ек на коня!* Запясочча. Раптоўна ўскочыць, пабегчы. *А воно чвок на печ!* Тураў.

ЧВОРСТЫ′ *прым.* Чэрствы. *Чворсты́ хлеб.* Луткі.

ЧВО′РЫЦЬ, ЧВА′РЫЦЬ *незак.* Вытвараць, вырабляць штукі. *Шчо-нéбудь чворать на Купального Івана.* Альпень. *Людзі на весéлы будуць чвáрыць до раніцы.* М. Малешава. Выдумляць, гаварыць лухту. *Чворыць, лепш бы моўчала.* Аздамічы. *Ты сам такі гáтало, шо ты лю́дзям чвóрыш.* Мачуль. Рабіць нешта недазволенае, недапушчальнае. *Шо ты чворыш там, ты ж ужэ велікі хлóпец.* Верасніца. *А шчо воны гэто робілі, чворылі тые немцы!* В. Малешава.

ЧВЭ′РТКА *ж. устар.* Чвэртка, мера вадкасці (1/4 літра), вагі (1/4 фунта), даўжыні (1/4 аршына), плошчы (1/4 надзелу = 2 га) і г. д. *Чвэртку горэлкі вýпіў, поўстакана.* Дварэц. *У кого чвэртка землі, той лепш жыў, а ў кого поўрэз, той худжэ́й.* Хачэнь.

ЧВЭРЦЬ *ж.* △ Т р ы  ч в э́ р ц і  д о  с м é р ц і. Пра вельмі слабога, худога. Луткі.

ЧКО-ЧКО, ЧКОТ-ЧКОТ, ЧКЕ-ЧКЕ *выкл.* Выгукі для падзывання свіней. *Чко-чко.* М. Малешава. *Чкот-чкот, куды бежыш!* Сямігосцічы. *Чке-чке.* Альшаны.

ЧМА′КАЦЬ *незак.* Пыхкаць. *Годзе ты чмакаў, росчмáкаўса, поўну хату надыміў.* М. Малешава. Плявузгаць. *Чмакае не тэ, шо трэба.* Там жа.

ЧМЕЛЁ′ВУ *прым.* Чмяліны. *Чмелёвы мед для глаз хорóшэ лекарство.* Луткі.

ЧМЕ′ЛІК *м.* Чмель. *Чмелік мае жалó.* В. Малешава. *Е чмелікі, воны мошкý наносяць і жывуць.* Там жа.

ЧМЕЛІ′НЫ *прым.* Чмяліны. *Чмеліны мед лекарсцвенны.* Старажоўцы.

ЧМЕЛЬ *м.* Чмель. *Іх е дзве сорты чмелёў.* Хачэнь. *Чмэлí у землé чорные, а на купіне — жоўцейшые.* Хачэнь. *Е ў нас чмэлі, у іх мэд смашны.* Хотамель.

ЧМУТА′ *ж.* 1. Марока, абмарачэнне. *Накіне такую чмуту, шо чоловек везé сéно і вон думае, шо сено горыть.* Альпень. *Чмутá старые людзі говорылі, так ек якá болéзь.* Луткі. 2. Баламут, чмут. *От нейка чмута будзе, годуецца.* Аздамічы. *Собрáласа тут чмута і старýе.* Мачуль.

ЧМУ′ХАЦЬ *незак.* Чмыхаць, фыркаць. *Одно старые чмушэ, сопе на ўсю хату.* Сямігосцічы. *Воўкі ек собакі чмýшуць, почмýхалі і пошлí.* Луткі. *Оннó чмушуць волы, як нервýюць.* Цераблічы. *П'е, одно чмышэ.* Аздамічы.

ЧМУ′ХНУЦЬ *зак.* Чмыхнуць, фыркнуць. *Кабан чмухнé, то воны змóўкнуць.* Цераблічы.

ЧО *займ.* Чаго, чаму. *Чо ты стоіш, чо не кóсіш?* Сямігосцічы.

ЧОБОРНО′ *н. зневаж.* Бот, чобат. *Кóлькі ты тут своімі чоборнáмі накéўзаў!* М. Малешава. *Я на его сворыласа, шо вон у гэткіх чоборнáх ходзіць.* Дварэц. *От этые чоборна уéліса!* Луткі. *Павел.* ч о б о р н í ш ч э. *Мах чоборнішчэ!* В. Малешава.

ЧО′БОТ *м.* Бот, чобат. *Вон лоўкі — і печ зробіць, і чóбота пошые.* Сямурадцы. *Петрыкóвые* (з Петрыкава) *чóботы славілісь.* Альшаны. *Кóлісь у одных чобóцях венчаліса по тры пáры.* Запясочча. *Соўсýн-боўсýн, постаў дай усýнь* (загадка). *Чóбот* (адгадка). Хачэнь.

ЧО′ВЕН *м.* Човен, лодка-даўбёнка. *Лоткі цепер, а я лоткі век не бачыла тогды, да чоўны. Так, як корыто.* Бярэжцы. *Кокóры ў лотцы, а ў чóўне нема кокóр, вон вýдоўбаны, а ў концах два порóжкі, у перэднем нос гостры, а ззаду тупý.* М. Малешава. *Човен з росколотой колоды вудóўбвалі.* Цераблічы. *Буў човен крýглы, смолóвы, кайдáн казалі.* Там жа. *Чоўны булі колубкіе.* Кароцічы. *Тоды чоўны былі, а цепер дубы.* Велямічы.

ЧОВУ′ЧЫ *прым.* Бліскучы. Бярэжцы.

ЧО′КАЦЬ *незак.* Цокаць. *Налóжыць туфлі і чокае по хаце Валя.* Цераблічы.

ЧО'КНУЦЬ *зак.* Ціскануць. Аздамічы.

ЧО'КОТ *м.* Уключына, кочат (у лодцы). *Зробіў з одного́ боку чо́кота і з другóго.* Пагост.

ЧОЛО', ЧАЛО' *н.* 1. Адборнае зерне пры ручным веянні. *Са́мое чоло сперэдзі, ек вееш.* Запясочча. *Гэто ўжэ добрэ́йшэ чоло, а то пу́жына.* Хачэнь. *Са́мэ голоўнэ́е зе́рне, як ве́ялкою вееш, чаló зовецца, воно да́льшэ одлета́е.* Мачуль. Лепшае зерне для сяўбы. *На хлеб се́яці — самэ чаló.* Луткі. *Чалóм поле посеяў.* В. Малешава. 2. Відны чалавек, месца і інш. *Вон у нас у селе чолó!* Аздамічы. *На самом чолу́ росце кукуруза.* Бярэжцы.

ЧОЛОВЕ'К *м.* 1. Чалавек, особа. *А той чоловек зваўса Дзеніс.* В. Малешава. *Ужэ як су́торга возьме за ру́кі й за нóгі — ужэ ўсё, ужэ чоловека нема* (у час купання). Пагост. *То там хату чоловеку робяць да зайшлі шчэ ў магазін.* Кароцічы. *Прыдзе Лья, то чоловек як свіньяя, ходзіць да чаўкае* (прымаўка). Луткі. *От п'я́ного чоловека і бог отступа́ецца* (прымаўка). Старажоўцы. 2. Мужчына. *Дзесець класоў — это ужэ чоловек.* Луткі. *На Роздво ек пе́рву зра́на прыдзе чоловек, то корова оцеліць буцка́, а ек жóнка — то будзе цейлу́хна* (павер'е). Старажоўцы. *Абы чолове́к то й ша́пка? Не!* Аздамічы. *Не вер чоловеку у дорóзе, а жóнцы дóма* (прыказка). Мачуль. 3. Муж. *Ее дóчкі с чолове́камі не жывуць.* М. Малешава. *То Марыны Васільеўны чоловек.* Бярэжцы. *Чолове́чэ, прынесі воды́.* Там жа. *Чоловек на цэліну поехаў, а жонка жыве й горóд дозіра́е.* В. Малешава. *Як хорошы чоловек, то і век* (прымаўка). Сямігосцічы. *За хорошым чоловеком і жонка молодзе́е, а за плохім і голова сіве́е* (прыказка). Там жа. *Хай чоловек ек лапоць, абы за ім не плакаць* (прыказка). Луткі. *Хлопец у ее той за чоловека жыве.* Там жа. *Трэба і чоловека мац за чоловека!* Запясочча. △ Не на́шого бóга чолове́к. Пра прышлага, нетутэйшага. М. Малешава. Спасённы чолове́к. Пра вартага райскага жыцця. *Як гром уб'е, то казалі — спасённы чоловек.* Старажоўцы. *Памянш.* чолове́чок. *Едзе чолове́чок по дрóва вóліком.* В. Малешава.

ЧОЛОВЕРНО' *н. зневаж.* Вялікі, часцей за ўсё нязграбны ці неразвіты чалавек. *А вон мах чоловерно!* Цераблічы. *От чоловерно, як полескі ба́ндур!* Старажоўцы. *Ох, чоловерно, така нестройнóта!* В. Малешава. *Таке ве-*

*ліке чоловерно, а дзеціініцца.* Верасніца. *Ат, чоловерно дай годзе, шчо ўбіў, то ўехаў.* Луткі.

ЧОЛОВЕ'ЧУХНО *н. экспр.* Чалавек (у ласкавым звароце). *Ой, чоловечухно, я цебе́ не знаю.* Любавічы.

ЧОЛОВЕ'ЧЫНА *ж. экспр.* Чалавек, мужчына, муж (пры звароце). *Чоловечына, одсечы лучыны подпальваць дрова.* Цераблічы.

ЧО'МБОР, ЧА'НБОР *м.* Чабор. *Чомбор вельмо пахне на горы́, его у чай, от кашлю добрэ піць.* Луткі. *Чомбор ек голова боліць, простудзіцца чоловек, то его за чай пілі.* Там жа. *Чомбор жэ мале́нькі, росце на ву́гоні, а запах, як у мацеры́нкі.* Хачэнь. *Ча́нбор.* Цераблічы. *Памянш.* чо́мбрік, чанбо́рок, чымбо́рык. *Чо́мбрік.* Хачэнь. *Чанбо́рок.* Запясочча. *Чымборык от кашлю, вон на песочку росце, дзе го́ркі.* Чэрнічы.

ЧО'МКАЦЬ *незак.* Чмякаць, гучна жаваць. *Дзе́ду, не чомкайце нішчымны хлеб, я вам за́ре молока у ку́хол налью.* Пагост.

ЧОМОРЫ'ЦА *ж.* Чамярыца. *Вона вельмі ўрэ́дная. Чоморыца, як короста нападзе, то зварыць у пе́чы і змуць, да пропадзе́.* Хачэнь.

ЧОМУ' *прысл.* Чаму. *Чому́ не? Поеду.* В. Малешава. *Еж моча́нье! — Не хочу́.— Чому?* Там жа.

ЧОМУ'-ТО *прысл.* Чамусьці. Тураў.

ЧОНБА'РНІК *м.* Гарбар. Цераблічы.

ЧОП *м.* Зачэп, выступаючы прадмет на дне. *Бувае чоп у водзе, корч ці шчо.* Альшаны. △ Як чоп (нае́сціса). Празмерна, даадвалу (наесціся). *Наеўса, як чоп.* Цераблічы.

ЧОПА' *ж.* Тое ж. Альшаны.

ЧО'ПАЦЬ *незак.* Цікаць, тахкаць. *Чопаюць часы́.* Запясочча.

ЧО'ПУРНО *прысл.* Дзіўна, мудрагеліста (пра адзенне, упрыгожанні). *У нас трохі чопурне́й ускладзе́ на голову́.* Хільчыцы.

ЧОПУХА' *ж.* Лухта, бязглуздзіца. Альшаны.

ЧОРНЕ'ЗНЫ *прым. экспр.* Вельмі чорны. *От чорнезны, ек сажа, ек головешка.* М. Малешава.

ЧО'РНО *прысл.* Чорна, цёмна. *Чорно под очы́ма.* Запясочча. Змрочна, цяжка. *Чорно і горко ім, невесело, ва́жко.* Цераблічы. *Шчоб тобе чорно, шчоб тобе млосно!* (лаянка). Там жа.

ЧОРНОГОЛО'ВА *ж.* Чорнагалоў. *Чорноголова весною выскакваe по болóту.* Альпень.

ЧОРНОГОЛО'ВІК *м.* Хвойнікавы баравік. *Чорноголовікі по пороcлé ростуць, а жоўценькіе на нізком.* Луткі. *Пороcлéвуе грыбў чорноголовікі.* Хачэнь.

ЧОРНОГОЛО'Ў *м.* Чорнагалоў. *Чорноголоў эты — сітнік, у Рычове кажуць дзеды́ на гэто.* Хачэнь. *Чорноголоў с-под снегу достаéцца короўмі.* Старажоўцы.

ЧОРНО'ЗЕМ, ЧЭРНО'ЗЕМ *м.* Чарназём. *Вона не такá песчаная і не чернóзем, наша землý.* Старажоўцы.

ЧОРНО'ЗЕМ'Е *н. зб.* Тое ж. *Там здоровéйшэ урэ́м'е на чорнóзем'е, а на песку́ жэрчэ́йшэ.* Мачуль.

ЧОРНО'ЗЕМЛЯ, ЧЭРНО'ЗЕМЛЯ *ж.* Тое ж. *На пескóх картоплі чыстые, а на чорнóземлі воны гразные.* Сямігосцічы. *У нас чэрноземля, так грэчка не росце.* Дварэц.

ЧОРНОЗЁ'М *м.* Тое ж. *Сад буў добры у пана на том чорнозёме.* Луткі. *Там чорнозём, а этты ж песок.* Бярэжцы.

ЧОРНОКА'Л *м.* Падуст. *Чорнокалы бы чорноватые, чэрэз ето чорнокалы.* Сямігосцічы. *Чорнокал поўкілограма бывае, у его бі чорно ў серэ́дзіне.* Там жа.

ЧОРНОЛЕ'С *м.* Лісцевы лес. *Там чорнолес — дуб, ольха, бероза, сосны́ мало.* В. Малешава. *У нас кóлісь усе було — чорнолес, берэзáк.* Там жа.

ЧОРНОЛЕ'СЬЕ *н. зб.* Чарналессе, лісцевы лес. *Чорнолесье — дуб, óльха, осіна, я́сень, граб, а угэ́ сóсну не шчытаюць чорнолéсом.* В. Малешава. *У нас було чорнолесье: осні́к, дубы́, олéшнік, рабіна, граб росце, а ў бору́ — хвоёвы лес.* М. Малешава.

ЧОРНОПО'Л *м.* Від укладкі столі. *Зáра на столю не кладуць наклáдзічэ да чорнопол: порэжуць, шчоб однэ між бáлькою, пошнурують, пообчэсвают да кладу́ць екіе опóлкі, а тогды потшывают сухою шчокоту́ркою цы́лою.* Луткі. *То ў цебе ж чорнопóл у сéнях?* В. Малешава.

ЧОРНОСЛІ'Ў *м.* Сорт сліў. *У нас мало чорносліву було.* Верасніца.

ЧОРНО'ТА *ж. экспр.* 1. Чарната (пра смуглага або цемнаскурага). *Цыгáнье, чорнóта этая, чóрные, смáглые.* В. Малешава. 2 *перан.* Беспрасветнасць, цемната. *Чорнóта і стогнóта ім од п'яніцы.* Цераблічы.

ЧОРНОХВО'СЦІК *м.* Гарнастай. Альпень.

ЧОРНУ'ШКА, ЧЭРНУ'ШКА *ж.* 1. Расліна чарнушка. *Добра у хлеб чорнушка, вона не вадзіц.* Запясочча. *У чэрнушкі зернета, як у маку, іх кідаюць у хлеб, у копусту квашону.* М. Малешава. 2. Сорт цыбулі. *Чорнушка — сеенка цыбуля, у ее голоўкі малые на гэты год.* Цераблічы.

ЧО'РНЫ *прым.* 1. Чорны. *Чорна курыца под плотом кубліцца* (загадка). *Гарбуза* (адгадка). Сямігосцічы. *Кажуць, шыхуе тому дому, дзе хазяін чорны, да кота чорного дзержыць, да пеўня, да собаку* (павер'е). Луткі. 2. Цёмны, смуглы. *Пока і пом'ёр, то буў на від чорны од горэлкі.* Луткі. Загарэлы. *Мое дзеці чорные, так запекліса на сонцы.* Луткі. 3 *перан.* Змрочны, прыгнечаны. *Ядзя пошла забіта, така чорна.* Мачуль. △ Чо́рны баро́н. Сорт вяргіні. Альпень. Чо́рна балі́зня. Чума. *Чорна болізня раптом схопіць кого.* Аздамічы. Чо́рна боль. Тое ж (?). *Чорное болі ёму!* (праклён). Пагост. Чо́рны бу́сько. Чорны лясны бусел. *Чорны бусько ў лесе, дзе самы вўшэйшы лес, там вон кубло зробіць.* Бярэжцы. Чо́рны вол. Пра цяжкія абставіны, бяду. *Колісь бабу казалі: ек наступіць чорны вол на ногу, то знацьмеш усе* (г. зн. гора ўсяму навучыць). Луткі. Чо́рны год. Тое ж. *Як прыдзе чорны год, то попомніш.* Луткі. Чо́рна гара́чка. Пра нейкую страшную хваробу (у праклёне). *Шоб цебе гарачка чорная з'ела да поймала, ек ты мене не слухаеш!* Старажоўцы. Чо́рны дзень. Цяжкае становішча, цяжкі час. *Надо положыць на чорны дзень грошэй.* Старажоўцы. Чо́рны знак. Радзімка. Запясочча. Чо́рна кні́жка. Лячэбнік, даўняя кніжка з рэцэптамі прымянення зелля. *У мене була чорна кніжка колісня, по ей лечыліса.* Хачэнь. Чо́рны лес. Чарналессе, лісцевы лес. *Чорны лес — то дуб, ольха, ясень, граб, орешына.* Аздамічы. Чо́рна ожы́на. Від ажыны. *Чорные ожыны ек маліна, у корчох наемоса.* М. Малешава. Чо́рна хма́ра. Навальнічная, цёмная хмара. *Чорна хмара ідзе з западу, мо дождж будзе.* Луткі. Чо́рны ціх. Ціф (у праклёнах). *Хай на цебе ліхо, хай на цебе чорны ціх!* В. Малешава.

ЧОРНЯ'ВУ *прым.* Чорнавалосы. В. Малешава.

ЧОРТ *м.* 1. Чорт, міфічная істота, што жыве ў балоце. *Росказвалі, шо буў нейкі ў Ендрыеў знахор, то оддаў жонку чортом да завесілі ее ў клеці, у кольбелі ў дзіцячой.* В. Малешава. *Му ж браты родные, а ву ж чорты*

*звóдные — кóлісь казалі дзеці на бацькóў.* М. Малешава. *Чорт жэніцца, як моцна завіруха.* Бярэжцы. *Чорт за чóртом цягне, а мужчына за мужчыною* (прымаўка). Хачэнь. *Чым чорт не орау, тым сеяць не будзе* (прымаўка). Сямігосцічы. *У ціхом болóці чэрці водзяцца* (прымаўка). Там жа. *Ні бог с тобою, ні чорт с тобою* (прымаўка). Там жа. *Я тобе про гарбузы́, а ты мне торóчыш про чорта з лозы́* (прымаўка). Мачуль. *Чорт сем пар лапцей стоптаў, пока пару таку добраў* (прыказка). Старажоўцы. *Дзеры лыко, ек дзерэцца, а ек прысохне, то й чорт не отдзерэ́* (прыказка). Там жа. 2. Нешта дрэннае, непрыемнае (у лаянкавых выразах). *Не ў Стýжыцу, а ў гэто, чорт, я забýла, як воно зовéцца.* Бярэжцы. *Чорт, як вона мне сказáла?* Сямігосцічы. △ Ч о р т б е р ы́. Пра поўную абыякавасць адносна некага ці нечага. *Чорт іх беры, хай стоіць, ужэ мало остáлосо.* Пагост. *Чорт беры з Оўдзю́шкою, поп'ёк рукі пампýшкою* (прымаўка). Там жа. Ч о р т в é д а е (з н а е). Пра поўную пагарду ці абурэнне адносна некага ці нечага. *Чорт вед шчо робіцца!* Бярэжцы. *Чорт ёго знае, як вон зваўса!* Там жа. Ч о р т т в о ю́ (ё г ó і інш.) м á ц е р в е д а е (з н а е). Тое ж. *Чорт ёго мацер ведае, дзе вон подзеўса!* Сямурадцы. *Чорт твою мáцер знае, шо с твоею рукóю!* Старажоўцы. Ч о р т н е в ó з ь м е. Нічога не здарыцца. *От, чорт цебе не ўзяў, вернуўса.* Бярэжцы. Ч о р т м á е (м а). Пра поўную адсутнасць нечага. *Чорт мае нéякой роботы, вон леніцца!* М. Малешава. *Чорт ма з чогó рóбіць!* Велямічы. Ч ó р т ы к і д а ю ц ь (г ó н я ц ь і інш.). Пра незвычайныя, неапраўданыя паводзіны, рухі. *А чо цебе чорты кідають?* В. Малешава. Е к ó г о ч ó р т а. Пра абурэнне. *А екого чорта ву крічіце?* Бярэжцы. Н а ч ó р т(а). Пра поўную непатрэбнасць, непрыгоднасць. *На чорт вонá, хáта, колі у хáце сóнца немá?* Дварэц. Д а й ч ó р т ы ў л ó з у. Пра канчатковае завяршэнне якой-небудзь справы. *Кýры пошлí на сéдайло, а корóву подою да й чорты ў лóзу.* М. Малешава. Ч ó р т о м п о д ш ы́ т ы. Пра нядбайнага, нестараннага. *А шо з его, як вон чортом подшыты, жыць не можэ?* Сямігосцічы. Ч э́р ц і н а к у л á ч к і. Пра вельмі ранні час. *Шчэ чэрці на кулачкі ўстаў.* Запясочча. *Памянш.* ч о р т ó к. Сямурадцы.

ЧОРТОПОЛО'Х *м.* Чартапалох. *Чортополох бэз копаніцы не возьмэш, такіе колюкé.* Мачуль. *Чортополохом окурвають дымом дзецей, як сполохаюцца.* Луткі. *Чор-*

*тополохом курыліса і старые. Чортополох лехчэйшэ зелье, а од блёкоту уміраюць.* Хачэнь.

ЧО'РТОЎ *прым.* Чортаў. △ К ч о́ р т о в о й м а́ ц е р ы (п о с л а́ ц ь, п о й ц і́ і інш.). Пра поўную непавагу да некага ці нечага. *А вона так і пропа́ла к чортовой мацеры.* Кароцічы. К ч о́ р т о в о й с т ы́ л о й м а́ ц е р (п о с л а́ ц ь, п о й ц і́ і інш.). Тое ж. *Ідзі ты к чортовой стылой мацер!* Пагост. Ч о́ р т о в о в е с е́ л ь е. Віхор. Луткі.

ЧО'ТЧЫК *м.* Лічыльшчык. Запясочча.

ЧОТЫ'РНА'ЦЦАЦЬ *ліч.* Чатырнаццаць. *У его чоты́рнаццаць уну́коў.* В. Малешава. *Хло́пец годо́ў чотырна́ццаць.* Хачэнь.

ЧОТЫРОХГАНТО'ВЫ *прым.* Чатырохвугольны, чатырохгранны. *Сціpта доўгая, а стог чотырохґантовы да круглы.* Дварэц.

ЧОТЫ'РЫ, ЧЭТЫ'РЫ *ліч.* Чатыры. *Разоў чотыры на день коба́нчык еў.* Хотамель. *Нас було чэтыры сестры: я са́ма ме́нша.* Пагост. *Чотыры чотыра́ночкі побеглі на поляночкі, прывезлі ву́тку да посадзілі у ку́тку* (загадка). *На во́зе прывезлі пашню́ на ток* (адгадка). Верасніца.

ЧОТЫРО'Х *прысл.* Учатырох. *Поехала сама́, а едзе с чоловеком і двое дзецей — чотырох едуць.* Сямурадцы. *І му чотырох ходзілі.* Кароцічы.

ЧО'ЎНІК *м.* Чаўнок (у кроснах). *У чоўніку цэўка е і пруто́чок.* Мачуль. *Чоўніком з дном спраўней ткаць.* Цераблічы. *Шо гэто будзе: ні до землі, ні до неба, вісіць лу́чнік?* (загадка). *Чоўнік* (адгадка). В. Малешава.

ЧОЎНО'К *м.* 1. Чаўнок (у кроснах). *Бежыць воўк, а за ім шэрхне* (загадка). *Чоўнок і полотно* (адгадка). Луткі. 2. Невялікі човен. Запясочча. *Памянш.* ч о ў н о́ ч о к. *Чоўночкі булі дубовые, смоловые.* Запясочча. *Чоўночком поехалі.* Пагост.

ЧО'ЎПА *ж.* Неахайная жанчына. *Як жонка непрыладжэна, сама себе не опране́, то кажуц чоўпа.* Запясочча.

ЧО'ЎПАЦЬ *незак.* Чаўпці, плявузгаць, выдумляць. *Прышоў да нешчо тут чо́ўпае п'яны.* Хачэнь.

ЧОЎПОТА' *ж.* Глупства, бязглуздзіца. *Чоўпота некая получаецца!* Цераблічы.

ЧОЎПЦІ' *незак.* 1. Чаўпці, выдумляць, плявузгаць. *Усе жонкі на ее́ чоўпуц, абы́-шчо говорац.* Запясочча. *Шо п'яніцы тые чоўпуць, послухай но!* М. Малешава. Паўтараць адно і тое ж. *Цылы дзень на мене чоўп.* Запясочча. *На ее чоўпу, чого вона пошла.* Там жа. 2. Вытвараць, ра-

біць нешта недарэчнае або непрыстойнае. *Тые подстройваюць, а той чоўпэ́.* Альпень. *Бабы́ танцуюць і малая давай чоўпці.* Хачэнь. *Не знаеце, як п'юць, то чоўпуць абушо, брышкуюць.* М. Малешава. *Шо ты чоўпеш тут, ці тобе онэ трэба?* Верасніца. *Шо воно* (надвор'е) *чоўпло на стрэ́чанье, так страх!* Аздамічы.

ЧОЎПЦІ'СА *незак.* Таўчыся (?). *Побачце, як дзеці чо́ўпяцца!* В. Малешава.

ЧОХА'РНЯ *ж.* Ваўначоска і майстэрня, дзе чэшуць воўну. *Як е своя воўна, то понесо́м да счо́хрым у чохарні, да несом тому, шчо б'е, да поб'е.* Кароцічы.

ЧОХЛЫ' прым. Дрэнны, нізкі (?). *Старшына даў таке чохле́ болото, шо туды ніхто не ўлезе, шоб скосіць.* Мачуль.

ЧО'ХЛЯ *ж.* 1. Ліхаманка, малярыя. Аздамічы. 2. Ваўначоска. Аздамічы.

ЧОХМА'РНЯ, ЧОХНЯ'РНЯ *ж.* Ваўначоска і майстэрня, дзе чэшуць воўну. *У чохмарні чохрац воўну.* Запясочча. *Чохнярня.* Альпень.

ЧОХО'Л, ЧЭХО'Л *м.* Манжэта на рукаве. *Цесные чохлы́ у кохце.* Луткі. *Чохлы во́джэные у сороццы.* Кароцічы. *Памянш.* ч о́ х л і к, ч о́ х л і ч о к. Мачуль.

ЧОХРА'ЛЬНЯ *ж.* Ваўначоска. *У чохральні шчокі, сіто, піло́к.* Хотамель.

ЧО'ХРЫ'ЦЬ *незак.* 1. Часаць, раздзіраць воўну. *Ко́лісь булі чохральні, воўночоскі, куды ходзілі чо́хрыць воўну.* Тураў. *Самі чохры́лі воўну колісь.* Альпень. 2. Апрацоўваць граблямі зямлю, разбіваць камякі на градцы. *Треба чохры́ць грядку граблямі.* Альшаны. *Чо́хрыць градку лопатой, як скопа́е.* Цераблічы.

ЧУБ *м.* 1. Чуб, чубок. *Чуб е у цаплі.* Запясочча. 2. Від жаночага галаўнога ўбору. *Наматае хустку на газету да зробіць калача, а потым ужэ зав'яжэ хустку. От, кажэ, калача зав'язала або чу́ба.* Аздамічы. *Баба чу́ба носіць, ходзіць у чу́бе.* Там жа.

ЧУБА'ТКА *ж.* Курыца з чубком. Запясочча.

ЧУБА'ТО *прысл.* Няроўна, нягладка. *Чуба́то покосіў.* Запясочча.

ЧУБА'ТЫ *прым.* Чубаты, з чубам. *Нейкіе чубатые немцы седзелі.* Запясочча. *По ко́длу і куры чубатые* (прыказка). Верасніца.

ЧУ'БА'ЦЦА *незак.* Чубіць адзін аднаго, чубасіцца.

*Чубаюцца дай годзі!* Запясочча. *Чубаюцца удвох п'яные.* Аздамічы.

ЧУ'БАЦЬ *незак.* Апладняць (пра гусей). *Гусак чубае гусь, іграе.* Рыдча.

ЧУ'БІ'ЦЬ *незак.* Чубіць, *перан.* біць, тузаць. *Хто кого любіць, той того чубіць* (прыказка). Старажоўцы.

ЧУБО'К *м.* Чубок. *Е чаечкі з чубкамі.* Хачэнь. Вільчак, выступ над франтонам. *На самом чубку буські стояц.* Запясочча.

ЧУБУ'К, ЧЫБУ'К *м.* Цыбук. *Чубук у люльцы зломаўса.* Запясочча. *Согінае лозу, отрэжэ, роспарыц, проволокою пропхне, согне і чубукі готовуе.* Там жа. *Чубукі булі і гліняные.* Сямурадцы. *Памянш.* ч ы б у ч о к. *Чыбучок з любого дзерэва вупальвалі.* Сямігосцічы.

ЧУГА'ЙКА *ж.* Міфічная істота ў выглядзе вялізнай жанчыны (паводле падання, жыла ва ўрочышчы *Чагошчы*). *Нека чугайка ходзіла да душыла людзей, да й од того цепер Чагошчы прозываюць.* В. Малешава.

ЧУГІ'СТАЦЬ *незак. экспр.* Рабіць што-небудзь з цяжкасцю. *Кажны дзень чугістай дровы!* Альшаны. Ледзь ісці, цягнуцца. *Стары чоловек чугістае.* Альшаны.

ЧУГУ'Н, ЧЫГУ'Н, ЧАГУ'Н *м.* Чыгун. *У нас чугун, а на полесьі чавун кажуць.* Дварэц. *Кладзе повен чыгун да ў водзе варыць.* Хачэнь. *Чагун.* Чэрнічы. *Памянш.* ч ы г у н е ц, ч і г у н ч і к, ч ы г у н ч ы к. *Такі чыгунец е, то кажны берэ на сенокос.* Хачэнь. *А коло гню стояў чігунчік з водою* (з казкі). Бярэжцы. *Чыгунчык.* М. Малешава. *Павел.* ч у г у н і л о, ч у г у н і ш ч э. *Поставіш чугуніло таке, як ведро, да лупіш ту вускарку.* Хачэнь. *Вот тоўсты, як чугуніщчэ.* Старажоўцы.

ЧУГУ'НКА *ж.* Ануча, якой бяруць чыгуны з печы. Хотамель.

ЧУДА'К *ж.* Жартаўнік. *От, Пецё, чудак ты!* Сямігосцічы.

ЧУ'ДО *н.* 1. Дзіўны, незвычайны выпадак. *Я тожэ тобе чудо роскажу.* Кароцічы. 2. Рэлігійнае свята восенню. *Чудо бувае увосень, до Міхайла, коло Прэчыстой.* Лутpredicted Луткі. *Було чудо, с'ято увосень, да прыбілі ў Турове дрова чоловека.* Дварэц.

ЧУДО'ВІШЧЭ *н.* Пачвара, страшыдла. *Твоя жонка родзіла чудовішче, ні дзіця, ні хто его знае шчо* (з казкі). Бярэжцы.

ЧУДО'СЕЯ *ж.* Дзівосы. *Дзе буваюць жарты, да рос-*

*казваюць смéшное, то кажуць — от чудóсея. Можэ, і стрáшное шчо.* Луткі.

ЧУДО'СНЫ *прым.* Камічны, дзівакаваты. *Такі чудосны дзед, мóдны церэблюк!* Цераблічы.

ЧУДО'СЬЕ *н.* Дзіва, *перан.* дзівак. *Мой чоловек такое чудосье, з гэтой рыбой усё.* Аздамічы.

ЧУЖОСЕ'ЛЬНІК *м.* Чалавек з іншага сяла. Альшаны.

ЧУЖЫ' *прым.* Чужы, няродны. *Я пожыла поўтора года, то ека я своя, я чужá ему.* М. Малешава. *Коб кого чужнéйшого зловіла, а то свойго у клубніцы!* Там жа. *Своé сечы́са, рубáйса, а чужóе не мешайса* (прыказка). Сямігосцічы. Належачы іншым. *Я не возьму й чужого і свого не оддам.* Хачэнь. *Свою рыбу я угэ половіў, а чужу́ не хочу* (жарт). Альшаны. *Дару перчаткі з руковіцамі, шоб не ходзілі за чужымі молодзіцамі* (з вясельных прыгаворак). Сямурадцы. *У чужое шчáсце му́хою не ўпасці* (прыказка). Аздамічы. *Чужы́м дóбры не будзеш, як свойгó нема* (прымаўка). Старажоўцы. *Як свого розуму нема, той чужы не поможэ* (прымаўка). Там жа. *У чужэ́ просо не сунь носа* (прыказка). Сямігосцічы. *Чужы госць за стол не лезь* (прымаўка). Там жа. *На чужые гáлкі усе кідаюць палкі* (прыказка). Там жа. *Чужэ́ не грэе* (прымаўка). Хачэнь. *Чужая хата такáя, як свекру́ха ліхáя* (прымаўка). Сямурадцы. △ Ч у ж á ч у ж а н і ц а. Пра зусім чужога, пабочнага. *Я тобé каў — чужá чужаніца вон.* Альшаны. *Прышлá я чужа чужаніца, нідзе нікого.* Мачуль. З а ч у ж ы́ м п о р ó г о м. Пра выданую замуж. *Оўдзюшка ужэ була замужэм, за чужым порогом лічы; да ўжэ не ў егó, ужэ вон оддаў ее замуж.* В. Малешава.

ЧУЖЫНА' *ж.* 1. Чужакі, няродныя, чужыя людзі. *У мене нема нідзе нікого, дай гэто чужына.* В. Малешава. *У мене чужына усе!* Хачэнь. *Там ужэ усе чужына, не так, як тут: попросіш мене, попросіш цебе.* Там жа. 2. Чужая старана, чужына. *На чужынé заболела, да ніхто не пошкодуе.* Запясочча. *Осталаса я самэнькая на чужынé, седжу́ і плáчу.* Мачуль. *Нешчасны подорóжны ў чужынé!* М. Малешава. *Вон попоéздзіў по чужынé.* Дварэц. *На чужыне і лозá очы дзерэ́* (прыказка). Сямігосцічы. *На чужынé і рак ры́ба* (прыказка). Там жа.

ЧУКА'НОЧКІ *мн.* Падкіданне (дзіцяці). *«Гоп-чукі, гоп-чукі! — кажуць, ек подкідаюць дзіця, — ходзі на чуканочкі!»* Луткі.

ЧУ'КАЦЦА *незак.* Падскокваць, гойдацца. *Дзеці чукаюцца на матрасе.* Аздамічы.

ЧУ'КАЦЬ *незак.* Падкідваць дзіця на руках ці каленях. *Чукае цалы дзень гэто дзіця́тко.* Кароцічы. *Як прывыкне подчукваць дзіця, то не хочэ седзець — чу́кай его.* Аздамічы.

ЧУМА' *ж.* Хвароба свіней, чума. *Чума напала на свінью́.* Запясочча. *Чума нелечы́ма.* Хачэнь.

ЧУМА'К *м.* П'яніца, валацуга (значэнне не могуць вызначыць дакладна). *От набра́уса, што чумак!* Альшаны. *П'е чумак, п'е, у его гро́шей е* (з песні). Там жа. *П'я́ны як чумак.* Старажоўцы. *Ужэ чумако́м (!) усе п'я́ные.* Там жа.

ЧУМІ'ЗА *ж.* Сорт проса. *Чуміза бы просо, только вона не ўспева́е у нас.* Дварэц.

ЧУМЧУРЫРЫ' *ж.* Івалга. *Чумчурыры ужэ́ мое́ вішні об'е́ла.* Любавічы.

ЧУ'НІ *мн.* Бахілы, глыбокія самаробныя галёшы. *Чуні продавалі западнюкі.* Хачэнь. *Надзевай чуні на валёнкі, ато ногі намочіш.* Пагост.

ЧУПРЫ'НА *ж.* Чуб, шавялюра. *Ну і чупрыну ж ты загодоваў!* Тураў.

ЧУ'ПРЭЦЬ *незак.* Тлець. *Дрова чупрэюць, не хочуць горэць.* Хільчыцы.

ЧУПУРУ'ХА *ж.* Модніца, жанчына або дзяўчына, што любіць прыхарошвацца. Запясочча. *Памянш.* ч у п у р у́ ш к а. *Чупурушка — ек дзеўка добрэ одзета, накрашэна.* Лутκі.

ЧУПУРЫ'ЦЦА *незак.* Прыбірацца, прыхарошвацца. *Моя сестра старэйша да радзіцца шчэ, да чупурыцца!* М. Малешава. *Чупурыцца дзеўка — хлопцы будуть.* Хотамель.

ЧУРБА'К *м.* Цурбан, цурбалак. *Ек даў чурбаком, дай вуехаў пробой.* Верасніца.

ЧУ'РКА *ж.* Цурка, кіёк закручваць перавясла. *Чурка, шо снопу в'езалі.* М. Малешава.

ЧУ'ТКА *ж.* Чутка, пагалоска. *Была чутка, шчо былі воўкола́кі ко́лісь.* Кароцічы. *Чутка е такая про ёго, шо вон крадé.* Хотамель. △ Н і ч у́ т к і, н і в é с ц і. Пра поўную адсутнасць звестак. *Поехаў, нема ні чуткі, ні весці.* Запясочча. Н е м а́ ч у́ т к і-в é с ц і. Тое ж. *Утахторылі мого дзеда, і нема чуткі-весці.* М. Малешава.

ЧУТКІ' *прым.* Чуткі, чуйны. *Така су́ка чутка́!* Луткі.

ЧУТНІНА′ *ж. экспр.* Выдатная чутнасць. *Ой, там чутніна, у тым целефоні!* Верасніца.

ЧУ′ТНО′ *прысл.* Чутна, чуваць. *Чу́тно на усю дзерэўню.* Хільчыцы. *Одно́ чутно́, шо нашы ужэ там.* Запясочча. *Цепер воўкоў не чутно́ — часом перэходзяць з Вільчы* (з-за Прыпяці). М. Малешава. Адчувальна. *Зайчыкова цыбуля е на сенокосі, ее пожуй трохі, то і чутно́.* Старажоўцы. *Памянш.* чутню́сенько. *Мне ж чутнюсенько, ек спеваюць.* Лутка.

ЧУТО′К *м.* Невялікая частачка, кавалачак. *Чутка́ ётого як бу кончыць косіць до обе́ду.* Пагост.

ЧУ′ХАНКА *ж.* Трасца, кароста. *Шоб на іх ека чуханка наехала!* (праклён). Запясочча.

ЧУ′ХАЦЦА *незак.* Чухацца, часацца. *Ста́не свінья́ і чухаецца коло колоды.* М. Малешава. *Корова чухаласа і плот заваліла.* Хачэнь. *З ног до голову зпры́шчэў, чу́хаўса, дра́ўса.* Верасніца. *Ай, чухаюцца ногі. — Помочы холодной водой, то не будуць чухацца.* Сямурадцы. *Чухацца трэ об вугол, ек перву гром, то спіна не будзе болець* (павер'е). Старажоўцы. Шоргацца, качацца. *Кобыла пошла чухацца по песку.* Аздамічы.

ЧУ′ХАЦЬ *незак.* Чухаць, часаць. *Ёму свербіць, то вон чухае. Колісь чухалі коросту.* Запясочча. *Чухае п'яты.* Бярэжцы. Церці. *Коб поздороўкацца, то вон око чухае* (быццам не бачыць ці не ведае). Хачэнь.

ЧУ′ХМАС *м.* Кароткая палачка, якой разграбаюць жар у агні. *Подай чухмаса, да я чухмасом жар одгорну.* Мачуль.

ЧУХМО′РЫЦЦА *незак.* Часацца, чухацца. *Ко́лісь чухморіліса от вошы.* Хотамель. *Уставай да чухморса од того жа́беру.* Старажоўцы.

ЧУ′ХНУЦЦА *зак. экспр.* Прапасці, згарэць. *Хай воно чухнецца, як зімою на дворэ праць.* В. Малешава.

ЧУЦІ′НКА *ж.* Малая колькасць, трошкі. *Коліся, коб дождж буў, то све́чоны мак, казалі, трэбо усыпаць у дзевець коло́дзезей — з пу́шэчкі чуцінку браць і сыпаць* (павер'е). Верасніца.

ЧУ′ЦЦА *незак.* 1. Адчуваць, мець адчуванне. *Я ўжэ не чуюса на сілу.* Сямурадцы. 2. Клапаціцца, дбаць. *Сама об собе не чуласа.* Кароцічы.

ЧУЦЬ *незак.* Чуць, успрымаць слыхам. *Чую: нехто ў вокно стукае.* Азяраны. *Чу́йце нас, чу́йце, ды пірог готу́йце!* (з вясельнай песні). М. Малешава. *Лес чуе, а поле*

*бачыць* (прыказка). Запясочча. Чуць, мець звесткі. *Агу, я чула, да не бачыла, шо е таке́ просо.* М. Малешава. *Вы не знаеце, то мо чулі?* Аздамічы. Адчуваць, мець адчуванне. *Я ж не чую, як ей боліць.* Цераблічы. *Серцэ чуло, шо нешчо з ім, раз нема нічого од ёго́.* Старажоўцы. *Зёзю́ля, зёзюля, чого ра́но ку́еш? Мо ты, зёзюля, горэ мое чуеш?* (з песні). Пагост. Пазнаваць, адрозніваць (нюхам, на слых і інш.). *Ох, дох, і чуе рыбу ву́дра, ек муш зе́рнета.* В. Малешава. *Я усе чую, шо воняе.* М. Малешава. △ Чуць на свое́ ву́шы. Пра дакладнасць звестак. *Я на свое вушы чула, як вон казаў.* Старажоўцы. Ног не чуць. Пра стомленасць ад хадзьбы. Запясочча. Ног не чуць под собо́й. Пра энергічнага, рухавага. *Ног под собою не чуе, така проворна жонка.* Дварэц.

ЧУЦЬ *прысл.* 1. Ледзь, ледзьве. *Чуць не сказаў ей про тэ.* Аздамічы. 2. Трошкі, нямнога. *Міша буў раз сховаўса да чуць подгорэў.* Цераблічы. *Коб чуць вупіў, а то ніяк не вупіў.* Луткі. △ Чуць на свет. На досвітку. *Чуць на свет, а вона шуміць у картоплях.* Запясочча. Чуць-чуць, чуч-чуч. Ледзь-ледзь. *Чуць-чуць онё розвіднело, і я пошла ў ягоды.* Луткі. *Чуч-чуч жыво́го пусціў.* Пагост. *Памянш.* чу́тонькі, чу́тоньку, чу́ценькі. *Чутонькі об ку́зоў удырыласа дай негожа стала робіць.* Дварэц. *Я по чутоньку піла маленькімі кілю́шкамі.* Сямурадцы. *Недосма́жэнэ са́ло чу́ценькі.* Хачэнь.

ЧУ′ЧАЙЛО *н.* 1. Чучала, пудзіла. *Чучайло постановяць да гледзяць, шо будзе.* В. Малешава. *Стоіць, ек чучайло.* М. Малешава. 2 *перан.* Боўдзіла, недарэчны чалавек. *Стоіць чучайло, рот розявіўшы, а не бороніць жонку.* Верасніца.

ЧУ′-ЧУ′, ЧУЧУ′-ЧУЧУ′ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць казу, авечку. *Чу-чу, ходзі, хлеба дам!* Цераблічы. *Кажу: «Чучу-чучу-чучу, на хлеба!» — то воны і бегуць.* Дварэц.

ЧУ′ЧЭЛО *н.* Чучала, пудзіла. *Онь чучэло ў вокны позірае, головішчэ веліке.* Запясочча. *Вускочыло неке чучэло з конопель.* Сямурадцы. △ Чу́чэло горо́ховэ. Страшыдла. Запясочча.

ЧХА′НЬЕ *н.* Чханне, чых. *Чханье у мене, я чхаю вельмі.* В. Малешава.

ЧХАЦЬ *зак.* Чхаць. *Прохолодзісса да станеш чхаць.* Аздамічы. *От напала чыховіца, дык чхае.* Бярэжцы. △

Ч х а ў я н а е г ó. Пра непавагу да каго-небудзь. *Чхала я на его, не чую я его, не дбаю.* Бярэжцы.

ЧХНУЦЬ *зак.* 1. Чхнуць. *Але і чхнула, ек у лесý!* Луткі. 2 *экспр.* Уцячы; даць драла. *Прышла, за свое вешчы і чхнула ў город.* В. Малешава. *Коб вона за его узеля́са, от скоро чхнуў бу одтуль!* Там жа.

ЧЫ *часц.* Ці. *Чы то собáка, чы то воўк?* В. Малешава.

ЧЫВУ'РКАЦЬ *незак.* Чырыкаць, спяваць. *Усякімі голосáмі чывуркае соловей.* В. Малешава.

ЧЫ'ЖЫК *м.* Чыж. Запясочча.

ЧЫЙ *займ.* Чый. *Віцька, чый ты? — Віцін, пáпуў, мáмін* (з размовы з малым). Бярэжцы. *Не познаў, чыé вы?* Луткі. *Чые б рычáло, а твое б моўчало* (прыказка). Сямурадцы. *На чыём возку седжу, тому і песню пою* (прыказка). Старажоўцы.

ЧЫ'КЕЛЬ *м. зневаж.* Дрэнны нож. *Баба да гэтым тупім чыкелем можэ зробіць кобанчыку операцыю* (выпакладаць). В. Малешава.

ЧЫКІЛЬДА' *м.* і *ж. экспр.* Кульгавы чалавек. Аздамічы.

ЧЫКІЛЬДА'ЦЬ *незак. экспр.* Кульгаць, клыпаць. *Чыкільдае ужэ Вера.* Верасніца.

ЧЫКІЛЯ'ЦЬ *незак.* Тое ж. *Одно та нога чыкіляе.* Запясочча.

ЧЫКІРДА' 1 *м.* і *ж. экспр.* Кульгавы чалавек. Аздамічы. 2 *ж.* Дзіцячая гульня чахарда. *У чыкірду гуляють, чэтырох перэплы́гають одін одногó!* Альпень.

ЧЫКІРА'ЦЬ *незак. экспр.* Кульгаць, клыпаць. *Нога чыкірае.* Запясочча.

ЧЫМ *злуч.* Чым. *Чым дорожэ́й, тым солоджэ́й* (прымаўка). Цераблічы.

ЧЫНА' *мн. зб.* Два калочкі для падліку і раздзялення пасмаў пры снаванні. *Положыла ніткі не на тые чынá.* Верасніца. *Буду кросна здымаць з чыно́ў.* Аздамічы.

ЧЫНІ'ЦЬ *незак.* 1. Чыніць, рабіць. *Запас беды не чыніць* (прымаўка). Старажоўцы. 2. Начыняць, напіхваць. *М'ясо чынім у капшукý.* Аздамічы. *Берэ берэсціну, у кішку ўстаўляе і пáльцом чыніць каўбáсы.* Запясочча. 3. Патрашыць. *Поймае рібу, а мне шчэ чініць трэбо.* Пагост.

ЧЫНІ'ЦЦА *незак. груб.* Есці, наядацца. *Зголодáласа, цепер потрóху чыніса.* М. Малешава.

ЧЫ'ННО *прысл.* Практычна, моцна (?), ладна. *Сплеце вэрэньку з лозы і бэрэсты, і чынно і відно.* Мачуль.

ЧЫНЧЫ'НА *ж.* Нейкая птушка. *Чынчына малёнька, по корчáх вона жылá.* Сямігосцічы.

ЧЫ'ПЕЛЬ, ЧЭ'ПЕЛЬ *м. зневаж.* Дрэнны нож. *Ой, то нож? То чыпель!* Дварэц. Вышчарбленае лязо ў нажы, сцізорыку. Запясочча.

ЧЫРА'К *м.* Скула. *Нарве чырак, то там е жэрэлó, тэ жóўце.* Запясочча. *Чырак лечаць, прыкладáюць то лісціну, то мазіну.* Луткі. *Зноў нейкіе чыракі его подперáзваюць.* Старажоўцы.

ЧЫ'РВА *ж.* Масць у картах (чэрві). Аздамічы.

ЧЫРВОНЕ'ЦЬ *незак.* Чырванець, рабіцца чырвоным. *Чырвонéе небо.* Бярэжцы.

ЧЫРВО'НКА *ж.* Дызентэрыя. *Два-тры дні і выстружыть чырвонка усё.* Альпень.

ЧЫ'РВОНО *прысл.* Барвова, чырвана. *Чы́рвоно заходзіць сонцэ — або вецёр або дождж будзе* (прыкмета). Верасніца.

ЧЫРВОНОВА'ТЫ *прым.* Чырванаваты. *Чырвоновата кожа на картоплях марокáнках.* Дварэц.

ЧЫ'РВО'НЫ *прым.* Чырвоны. *Таке чырвóнэ, як кроў.* Сямігосцічы. *Мохомóры чырвóные, хорошые ростуць.* Сямурадцы. *Стоіць певень над водою з чырвóной бородою* (загадка). *Каліна* (адгадка). Верасніца. Барвовы. *Сонцо сходзіць — чы́рвоно небо, а зарва — ек горыць нешчо.* Луткі. Буры. *Од ржы штаны зробяцца чырвóные.* Кароцічы. *Памянш.* ч ы р в ó н е н ь к і. *Чырвóненька настойка.* Бярэжцы.

ЧЫ'РКА *ж.* Балотная птушка, чырок (?). *Сáма менша пташка чырка, воны водзяцца ў болотáх.* Запясочча.

ЧЫРКУ'Н *м.* Цвыркун. Запясочча.

ЧЫРЫ'КАЦЬ *незак.* Цвыркаць, цырыкаць. *Вороб'é чырыкаюць або шчэбечуць.* Хачэнь. *Ластовочкі спеваюць і чырыкаюць.* Бярэжцы.

ЧЫРЫ'ЦА *ж.* Самка чырковай качкі. *Чырыца на вутву похожа.* Запясочча. *Чіріца.* Альшаны. *Памянш.* ч ы р ы́ ц к а. Хачэнь.

ЧЫРЫ'ЧЫ, ЧЫРЫ'ЧЫН, ЧЭРЭ'ЧЫН *прым.* Чыркоў; які належыць чырковай качцы. *Собіралі яйца чырычые, качыные і воронячые.* Хачэнь. *Колько там того чырычыного еéчка!* Верасніца. *Кóшкалі уціные і чэрэчыные яйца.* Старажоўцы.

ЧЫРЫЧЭНЯ′ *н.* Птушаня чырковай качкі. *Чырыцка вувела з канаві чырычэнята і сховаласа.* В. Малешава.

ЧЫРЭ′Ц *м.* Чырок (самец). Запясочча.

ЧЫ′СЛЕНКА *ж.* Тры ніткі асновы, пры ўкіданні ў бёрда. Луткі. Тры трасціны ў бёрдзе. Хотамель. *Перан.* любыя тры прадметы з сукупнасці аднародных прадметаў. *Було двацацаць п'яць гусенят, а цепер чысленка зосталаса.* М. Малешава.

ЧЫСЛО′ *н.* Дата, парадкавы нумар дня ў месяцы. Запясочча. △ У ч ы с л е. Пра пастаянную дату. *Благовешчэнье ў чысле, а паска блудзіць і тройца не ў чысле.* В. Малешава.

ЧЫ′СТО 1 *прысл.* Чыста, прыбрана. *Заўтра прочыста, шчоб у хаце было чысто* (прымаўка). Цераблічы. 2 *злучн.* Як быццам, дакладна. *Чысто Левон говорыць у паціфоне.* Цераблічы. △ У в е́ с ь (у с я́, у с ё і г. д.) ч ы́ с т о. Начыста, поўнасцю, без рэшты, без выключэння. *Воўк подавіў усе чысто!* Сямурадцы. *Выступіла хмара і тую пшэніцу збіло усю чысто, змешало з землею.* В. Малешава. *Заліў дождж чысто усе, усе поплыло.* Луткі. *Усе чысто дзеўкі до гу́ры!* Сямігосцічы.

ЧЫСТОПОКРО′ЎНІК *м.* Нейкая лекавая расліна (?). *Од жолу́дка чыстопокроўнік п'юць, од малокровія, і бувало, жонкі его п'юць, як схо́ды булі.* Луткі.

ЧЫСТОТА′ *ж.* Чысціня; нешта вельмі чыстае. *Там у іх жа́бер'е на водзе, а ў нас вода — чыстота́.* Запясочча.

ЧЫСТОЦЕ′Л *м.* Чыстацел. *Чыстоцела корэнь розла́муецца і націраеш мозоль і боро́даўкі.* М. Малешава.

ЧЫСТОЦЕ′ЛЬНІК *м.* Тое ж. В. Малешава.

ЧЫСТУ′ХА *ж.* Чысцёха. *Вона б була́ чыстуха, одно шчо не бачыць.* Луткі.

ЧЫ′СТЫ *прым.* 1. Чысты, белы, ахайны. *Чысты, му́ты чоловек.* Кароцічы. *Прыдзе прэчыста, то березка чыста* (прыкмета). Старажоўцы. *Ему нема колі й шмацья́ чышчэ́йшэго накласці.* Луткі. 2. Празрысты. *Бела вода, чыста, як у Стру́мені.* Запясочча. *Гэто чыста вода, можно піц.* Тураў. 3. Без прымесей (пустазелля і інш.). *Ек чыста солома, то на посцёл косілі пожню.* М. Малешава. 4. Не сапсаваны. *Ожыны чыстые, у іх і чэрвей нема.* Хачэнь. *Опэнькі чыстые, кругом дубового пня ростуць.* В. Малешава. *Яблука чыстые, нехай бы шчо постро́іла.* Мачуль. 5. Надзейны. *Самэ чы́стэ дзело — зварыў, зжарыў да з'еў свежы грыб.* Хачэнь. 6. Сапраўдны, выліты.

*Чысты бацько, у бацька удайса.* В. Малешава. △ Чы́сты ву́гол. Гладкі, без выступаў вугал. *Просты вугол — это хата, а ўжэ еслі чысты вугол — этэ домо́к.* Старажоўцы. Чы́стэ ейцэ́. Ненаседжанае яйцо. Аздамічы. Чы́сты чэцве́р. Чацвер перад вялікаднем. *У чысты чэцвер у нас бегуць до сонца му́цца ў прыбутной водзе.* Луткі. *У чысты чэцвер пеўню го́лову одсека́лі да ў ры́бу клалі.* Там жа. *Памянш.* чы́сценькі, чысцю́ленечкі. *Чысценькіе дубы, без коры, без нічого, жоўценькіе такіе везлі.* Хачэнь. *Отпраўляю — чысцюленечкі, а прыдзе — пока́лены.* В. Малешава.

ЧЫСЦІНА′, ЧЫШЧЫНА′ *ж.* Чысціня; нешта вельмі чыстае. *Чысціна́ гэтые лёхкіе у овечкі.* Цераблічы. *Да чышчына круго́м!* Запясочча. *Бач, колькі м'яса* (з шчупака)! *Да чышчына, да беліна́!* Луткі.

ЧЫ′СЦІЦЦА *незак.* Чысціць. *Надоело б чысціцца — кінулі б* (пра рыбу). Верасніца.

ЧЫ′СЦІЦЬ, ЧЫ′ШЧЫЦЬ *незак.* 1. Ачышчаць ад бруду і інш. *Чышчылі песок.* Запясочча. *Ко́ні чышчац.* Там жа. *Чышчаць кішкі.* Луткі. 2. Патрашыць. *Чысціць рыбу.* Хільчыцы. *Попрыбіраю да буду чышчыць рыбу.* М. Малешава. 3. Пакладаць, кастрыраваць. *Чысціў букé, свінье чоловек.* Бярэжцы.

ЧЫ′ХОВІЦА *ж.* Чыхаўка, чых. *У ёго́ чыховіца, чха́е і чхае.* Луткі. *От напала чыховіца да чхае.* Бярэжцы. *Колі чыховіца, то прыклю́чыцца і ліхо.* Аздамічы.

ЧЫ′ШЧЭНЫ *дзеепрым.* Пакладаны. *Вол чышчэны.* Запясочча.

ЧЭ′БЕНЬ *м.* Каркас з бяросты, элемент галаўнога ўбору *(голову́). Чэбень высокі, як корона, з бэ́рэсту сшыто, а поверх сарпа́нок накрывалі, як жэніліса.* Цераблічы. *Чебень.* Бярэжцы.

ЧЭБЕРА′КНУЦЬ, ЧЭБЕРА′ХНУЦЬ *зак. экспр.* Схапіць, цапнуць. *Вон ее за цыцкі чэберакнуў!* В. Малешава.

ЧЭБЕРЫ′ЦА *ж.* Чабор (?). Старажоўцы.

ЧЭ′БІЦЬ *незак.* Сціскаць. *Намочыш шмоціну, будзеш чэбіць, а вона будзе чвакаць.* Хотамель.

ЧЭБРА′К *выкл.* Хоп, цап. *А воўк чэбрак за овэчку і понёс.* Мачуль.

ЧЭ′ЗЛЫ *прым.* Замучаны, слабы. *А воны* (партызаны) *прыдуць мокрые, чэзлые, то я іх кормлю.* В. Малешава.

ЧЭ′ЗНУЦЬ, ЧЭ′ЗЦІ *незак.* Чэзнуць, гібець, прапа-

даць. *А богато ж чогó чэзне!* Сямігосцічы. *Будзеш чэзці.* Запясочча.

ЧЭ'КАР, ЧЭ'КІР, ЧЭ'КЕЛЬ *ж. зб.* Драбяза (пра дзяцей і інш.). *Богато чэкары тоé, не дам рады покорміць её.* Луткі. *Хваціць ужэ этое чэкіры* (куранят)! Верасніца. *Там поўна хата чэкелі.* М. Малешава. Саранча, навала (пра вялікую колькасць малых пражэрлівых істот). *От, чэкель гэта, усе потопталі і поломалі на градах.* М. Малешава.

ЧЭКО'ТКА *ж.* Костка ў суставе нагі, рукі. *Вушэй — то колено, а ніжэй — то чэкотка.* В. Малешава.

ЧЭКУ'Н *м.* Нейкая балотная птушка (чакан, саракуш?). *У нас по болоці бегае чэкун: чэку-чэку — так крычыц.* Запясочча.

ЧЭКУ'ХА *ж.* 1. Чакуха, доўбня. *Озьмі чэкуху да росколі колоду.* Цераблічы. *Чэкуха — это тонкая загу́зловатая па́ліца, якой глуша́ць рыбу.* Аздамічы. 2 *перан.* Галава (дурная). Цераблічы. Тупы, някемлівы чалавек. Аздамічы.

ЧЭ'ЛІШЧЭ *н.* Чалеснікі, уваход у печ. *Чэрэз чэлішчэ у печ усе стаўлю.* Хачэнь.

ЧЭЛЬЧА'К *м.* 1. Караед-чарвяк. Запясочча. 2. Хвароба ў коней на языку. Запясочча.

ЧЭ'ЛЮСНІК *м.* Чалеснікі, уваход у печ. Запясочча.

ЧЭ'ЛЮСЦІ *мн.* Тое ж. Аздамічы.

ЧЭ'ЛЮСЦЬ, ЧЭ'ЛІСЦЬ, ЦЕ'ЛЮСЦЬ *ж.*, рэдка *м.* Тое ж. *Нізкую чэлюсць зробіў у печэ́ печнік, чугуны не пролазяць.* Кароцічы. *На чэлісці много сажы.* Цераблічы. *За чэлюсцем горшчок.* Бярэжцы. *Чэлюсць. Целюсць.* Альшаны.

ЧЭ'МЕР *м.* Нешта непатрэбнае, зношанае. *Му ужэ старые чэмерэ́, нікуда́ не гóдные.* Хачэнь.

ЧЭ'МЕРА *ж.* Куча, процьма. *Шо ты з мене хочэш, у мене чэ́мэра детей.* Рамель.

ЧЭМЕРЫ'ЦА *ж.* Чамярыца. *Купаліса у чэмерыцы от коросты, ек нападзе.* Луткі.

ЧЭМО'Р *м.* Нейкая калючая трава ў пшаніцы. Бярэжцы.

ЧЭМРЭ'ЦЬ *незак.* Чмурэць, дурэць. *Рыба чэмрэе под лёдом, а як зап'атрэе, ужэ не.* Цераблічы.

ЧЭ'ПА *ж.* Тое, за што чапляецца сетка ў вадзе; зачэп. Пагост.

ЧЭПА'ЦЬ *незак.* Чапаць, рухаць, кратаць. *Не чэпай*

*ёгó* (сабаку), *крый бог не бі!* Луткі. *Не чэпай, дочэнька, гэто жы́жа!* Кароцічы.

ЧЭПЕ′Ц *м.* 1. Чапец у выглядзе шырокага цыліндра з кардону або бяросты, абшытага сарпанкам з наклеенымі ці нашытымі ўпрыгожаннямі (*сухозлóціцэй*). *Колісь на весельі чэпец очэплялі.* Луткі. 2. Плеўка на галаве нованароджанага. *Бувае, родзіцца як у шапцы. То некоторые засушвалі і давалі ў дорогу ці на суд. У нас кажуць: у чэпцэ́ родзілосо.* Хачэнь. 3. Сала на кішках у жывёлы. *Чэпец е такі бі марля коло кі́шок.* В. Малешава. *У мене ш чэпца сало шчэ е.* Дварэц. *Ек заб'еш свінча́, то коло жэлудка такой сеткой жыр, чэпец; его перэтапліваюць і п'юць от сухот.* М. Малешава.

ЧЭПЛЕ′ЙКА *ж.* Невялікая драўляная прылада, пры дапамозе якой ставілі і вымалі гаршкі ці чыгункі з вогнішча ў час сенакосу. Мачуль.

ЧЭПЛЕ′ЙНІК, ЧЭПЛЕ′НІК *м.* Чапяльнік. *Чэплеéю вуймаюць скóвороду з пéчы, а без чэплейніка не вýймеш.* Луткі. *Чэпленік поломаўса.* Крэмна.

ЧЭПЛЕЯ′ *ж.* Чапяла. *Чэплеéю скворóды у печ стáўляём.* Кароцічы. *Трэ на чэплею вурэзаць орэ́шыну.* М. Малешава.

ЧЭПЛЯ′ЦЦА *незак.* Чапляцца. *Дзерэзá е і ў пашні, чэпляецца.* Любавічы. *Давай, сыну, до мене́ чэпляйса.* Дварэц. *Унук чэпляецца за штанцы́.* Сямігосцічы. *А бувало, як бóсые, то неможно одогнацца од іх* (п'явак), *лезуць так да чэпляюцца.* Хачэнь. Лавіцца. *Онё о там мое дзеці вýдзілі, то чэпляюцца плоточкі.* Сямігосцічы.

ЧЭПЛЯ′ЦЬ *незак.* 1. Чапляць, падвешваць. *Посвет у кóміне буў, его знімаюць, а ек паліць, то чэпляюць.* Сямурадцы. Замацоўваць, прычапляць. *Веройку за кокорыну чэпляем.* М. Малешава. 2. Перашкаджаць, турбаваць. *Там цесно да однэ́ одномý чэпляе.* Цераблічы. *Нехай сядзе там да не чэпляцьме нікóму.* Там жа.

ЧЭ′ПОК *м.* Чапец, чэпчык. *Бабý старые шылі да называлі чэ́пок, носілі ужэ котора замуж вýшла.* Хачэнь.

ЧЭРВА′ *ж. зб.* 1. Чарва. *Ужэ пчолы заложылі чэрву.* Запясочча. 2. Чарвякі пладажэркі. *Чэрва поела яблука, нічогіе у гэтом году.* Старажоўцы.

ЧЭРВЕКОВА′ТЫ *прым.* Чарвівы, зачарвіўлены. *А вонэ, бачыш, кáжнэ чэрвековатэ, тые яблука.* Луткі.

ЧЭ′РВЕЦ *м.* Пустазелле ў льне, зерне якога цяжка

аддзяліць ад семені льну. *Чэрвец по льну сплетае, вон і зáра е.* Мачуль. *По лну чэрвец трава росте́.* Хотамель.

ЧЭРВІ′ВУ *прым.* Чарвівы. *Чэрвівэ я́блуко.* В. Малешава. *Перан.* гнілы, з частымі адлігамі. *Чэрвіва зіма ў этом году.* В. Малешава.

ЧЭРВІ′ЦЬ *незак.* Чарвіць, адкладваць яйкі (пра пчол). *Матка чэрві́ць чэрву́, зачэрвіла усе.* В. Малешава.

ЧЭРВОВА′ТЫ *прым.* Трохі чарвівы. *Запытайце яблык, хоць воны чэрвоватые.* Мачуль.

ЧЭРВОВА′ЦЬ *незак.* Станавіцца чарвівым. *Ужэ чэрвуе, то грыбоў не будзе.* Хачэнь.

ЧЭРВОТО′КА *ж.* Чарвяточына. *Яблыка — одна чэрвотока!* Запясочча.

ЧЭРВЯ′К *м.* Чарвяк. *А точно вон е, той чэрвяк, шо то́чыць зу́бу?* Хачэнь. *Не той чэрвяк, шо мы емо́, а той, шо нас есць* (прымаўка). Хільчыцы.

ЧЭРГА′ *ж.* 1. Чарга. *Прыдзе чэрга, то вон пасе товар.* Старажоўцы. *Мне чэрга ўзаўтра, трэбо пасці.* Бярэжцы. *Моя чэрга пасці товар.* Цераблічы. *Чэрго́ю пасо́м коро́ў.* Запясочча. 2. Статак, чарада, якую пасуць па чарзе. *Чэ́ргу погнаў.* Кароцічы. *У іх чэрзе́ ове́чкі ходзяць.* Лутк і. *У чэрзе мо больш за сорок голо́ў.* Хачэнь. *Пасу чэ́ргу і розмышля́ю.* Буразі. 3. Нешта нядобрае (смерць, хвароба?) *Коб его чэрга́ узела́!* (праклён). Хотамель. *Чэрга́ его́ зна́е!* Там жа.

ЧЭРДА′К *м.* Насок у лодцы. Запясочча.

ЧЭРЛІ′ВУ *прым.* Чарвівы. *Чэрлівые яблука.* Луткі. *Чэрлівые картоплі, іх важко лупіць.* Сямігосцічы. *Чэрліві печуры́цы.* В. Малешава.

ЧЭРНЕ′Й *м.* Сіняк. *Наробіў чэрнеёў ей, ох надаваў ей!* Сямурадцы.

ЧЭРНЕ′ЦЬ, ЧОРНЕ′ЦЬ *незак.* 1. Чарнець, станавіцца чорным. *Сталі зу́бу чэрнець од ягод.* Пагост. *Ба́бкі старые чэрнеюць, іх не беруць.* Сямурадцы. *Ягоды ўжэ спелые, ужэ чэрнеюць.* Бярэжцы. *Обрываные картоплі чорнеюць скорэй.* Там жа. 2. Выступаць, паказвацца (пра нешта чорнае). *От косіць, аж земля чэрнее.* Старажоўцы. Цямнецца. *Вуйшла я на двор, аж нешчо чорнее.* Хачэнь.

ЧЭРНЕ′Ц *м.* Чарната (?). *Ек по земле чэрнец, то будзе свету конец* (прымаўка, пра бясснежную зіму). Хачэнь.

ЧЭ′РНІЦА *ж.* Церніца. *Берэ́ бо́йку да чавіць лён, а*

*потом его перэцірае на дзерэўяну чэрніцу.* М. Малешава.

ЧЭРНІ'ЦЫ, ЧОРНІ'ЦЫ *мн.* Чарніцы, чорныя ягады. *Коло нас е за кілометроў тры чэрніцы.* Сямурадцы. *Набером черніц да ложкамі поемо, дай на другі дзень зноў ідом.* Бярэжцы. *Варэнікі з чорніцамі смакоцце.* Пагост.

ЧЭРНІ'ЧНІК *м.* Чарнічнік, зарасці чарніц. *Увесь чэрнічнік корову поелі, хай бу ж іх куда так гналі.* Верасніца.

ЧЭРНОБРО'ВУ *прым.* Чарнабровы. *Ты, дзеўка чэрноброва, поехала у лес по дрова* (з песні). Хачэнь.

ЧЭРНО'ЗЕМЛЯ *ж.* Чарназём. *У нас чэрноземля, так грэчка не росце.* Дварэц.

ЧЭРНО'СТУП *м.* Дарога па мёрзлай зямлі без снегу. *По чэрноступу в'ёз дрова.* Верасніца.

ЧЭРНУ'ШКА *ж.* Чарнушка (расліна). *Чэрнушку кідаюць у хлеб, у капусту квашону.* М. Малешава. *Добра у хлеб чорнушка, она не вадзіц.* Запясочча.

ЧЭ'РНЯ *ж.* Від дзікай качкі. *Чырка — маленька вутва, вутва — серэдня вутва, а чэрня — веліка вутва.* Варонін. *Черня.* Альшаны.

ЧЭРНЯ'ВУ *прым.* Чарнявы, цемнавалосы. *Чэрнява дзёвочка.* Луткі.

ЧЭРНЯ'К *м.* Сіняк. *Ек удырыш, то чэрняк будзе доўго, а тогды вон пожоўкне.* Луткі. *Ек ушчыкне хто, то зробіцца чэрняк.* Цераблічы.

ЧЭРО'Д *м.* Чарга. *У чэрод пасці товар.* Аздамічы.

ЧЭРПА'К *м.* Вялікая лыжка, якой разліваюць страву; пэўная колькасць стравы, якая змяшчаецца ў ёй. *Чэрпак супу.* Бярэжцы.

ЧЭРПАЛІ'СТ, ЧЭРПА'ЛЬШЧЫК *м.* Той, хто працуе на земснарадзе. Пагост.

ЧЭ'РПАЦЬ *незак.* Чэрпаць. *Вона чэрпае воду.* Запясочча. *Чорп ложкою пчолы у коробку.* Мачуль.

ЧЭРПНУ'ЦЬ *зак.* Чарпануць. *Ек чэрпнуў ложкой еешню, то вона зводзянёе.* М. Малешава.

ЧЭРСТВУ' *прым.* Чорствы. Запясочча.

ЧЭРЭВА'ТА *прым.* Цяжарная. Аздамічы.

ЧЭРЭВА'ТЫ *прым.* Чараваты, з вялікім жыватом. *Лінок коло головў чэрэваты.* Запясочча. *Ропуха раба, чэрэвата, бу жаба.* М. Малешава. *Чэрэваты чорт — кажуць, у кого чэрэво нагодовано веліке.* Сямігосцічы. Пукаты. *Чыгун чэрэваты.* В. Малешава.

ЧЭРЭВА'Ч *м.* Пузач. *Чэрэвачы ободва — і вам не*

*це́сно спаць на одном ложку?* Цераблічы. *Гэтым чэрэвачом мало попада́е, так хоцелі у мене зобраць.* Мачуль.

ЧЭРЭВЕ'Й *м.* Тое ж. *Некі череве́й пошоў.* Кароцічы. *Ідзе ужэ наш чэрэвей!* Сямігосцічы.

ЧЭРЭВІ'КІ *мн.* Чаравікі. *У мене е чэрэвікі і чоботы́ новые.* Сямігосцічы. *Чэрэвікі на поляках булі, а мы то ў лапця́х ходзілі.* Луткі.

ЧЭ'РЭВО *н.* Чэрава, пуза, жывот. *Ек жыво́т боліць, то ляж чэ́рэвом на чэрэне́, полежы, і перэстане.* Тураў. *Бульбы понасаджваюць поўнэ́ чэ́рэво!* Альшаны. *А чого у цебе чэрэво, то ж не з голодухі?* Сямігосцічы. *От чэрэво, от тоўшчына, мо будзе двое у тое молодзіцы.* Луткі. *Веліке чэрэво у коровы.* Бярэжцы. *Чэрэво не дзерэво, роздасца* (прымаўка). Старажоўцы. *Это от чаю чэрэво годуецца?* Запясочча. △ П р ы д б а́ ц ь ч э́ р э в о. Пра цяжарнасць. *Той хазяін прыдбаў ей чэрэво.* Старажоўцы. З ч э́ р э в о м. Пра цяжарную. *Коб прышла яка́ ш чэровом, шоб ты сказала?* Запясочча.

ЧЭРЭВУ' *прым.* Пузаты, чараваты. *Хоро́шчы такі, чэрэвы, прысадзісты чоловек!* Запясочча.

ЧЭРЭДА' *ж.* 1. Чарга (пасвіць жывёлу). *Вон погнаў товар — его чэрэда була.* Бярэжцы. 2. Статак, чарада. *Чэрэда товару пошла.* Запясочча. *Цэла чэрэда поросят.* В. Малешава. *Пастух зойма́е че́реду.* Альшаны. *Ву́тоўкі! Гэтых не корміла, гэта друга́ чэрэда.* Верасніца. *Усі сюды у одну чэрэду на груд.* Дварэц.

ЧЭ'РЭЗ *прыназ.* Праз. *Перэгналі худобу чэрэз дол, а там воды́ гэ́тулькі!* Мачуль. 3-за. *Чэрэз этого рукава́ трэба перэшываць кохту.* Луткі. *Чэрэз дурну́ го́лову ногам нема спокою* (прымаўка). Сямігосцічы. *Чэрэз што это получілоса?* Там жа. Дзякуючы. *Чэрэз его не запісалі нам штрафу.* Сямігосцічы. △ Ч э́ р э з л а д. Звыш меры. *Чэрэз лад насыпаў, з го́ркой ягод у шаньку.* Аздамічы.

ЧЭРЭ'МУХА, ЧЭРЭ'МХА *ж.* Краснапёрка. Дварэц.

ЧЭРЭ'Н *м.* 1. Под у печы. *По-нашому, по-сельскому чэрэн, дзе горшкі і дро́ва гораць.* Дварэц. *Постаў боршч на чэрэн, шчоб упрэў добрэ.* Тураў. *Нероўны чэрэн у пе́чы, то ўсе горшкі розліваюцца, ек стаўлю.* Кароцічы. 2. Гарачае месца на печы. *Над чэрэном небо у пе́чы і на пе́чы чэрэн.* Пагост. *На голом чэрэне́ ноч проле́жала.* Запясочча. *Полезла на чэрэн да погрэлас.* В. Малешава. *Вы́шэй склепенья чэрэн.* Сямігосцічы. *От ляпнуў, ек кот*

*на чэрэн* (прымаўка). Старажоўцы. 3 *перан.* Голая мёрзлая зямля. *Ек у марці чэрэн — будуць грыбы́ росці* (прыкмета). Хачэнь.

ЧЭРЭНО'К *м.*, звыч. ч э р э́ н к і *мн.* **Тронак у складаным нажы.** *Чэрэнкі е у ножа, шчо закрываецца.* Любавічы. *Чэрэ́нкі.* Запясочча.

ЧЭРЭПАЛУ'ШКА *ж.* Нейкі від змяі. *Ужо́ўе: лазу́шкі, ківу́шкі, верэсённікі, чэрэпалушкі.* Мачуль.

ЧЭРЭПА'ХА *ж.* 1. Чарапаха. *Ко́лісь чэрэпах було богато да ёжы́.* Запясочча. *Не бачно́ чэрэпах, та чэрэпаха як міса.* В. Малешава. *Чэрэпаху тожэ боязно браць, але бралі.* Хачэнь. *Ек чэрэпаху возьмеш у рукі, то обмочыць і можно умерці* (павер'е). Луткі. *Наібольш дзе пова́л водзяцца чэрэпахі.* Там жа. 2. Бяззубка і ракавіна бяззубкі. *Поло́нікі з чэрэпах у нас кажуць.* Цераблічы. 3 *перан.* Няўклюда. *А чэрэпахо! — кажуць, колі вона ні така́, ні сяка́.* Мачуль.

ЧЭРЭПА'ШКА *ж.* 1. Бяззубка і ракавіна бяззубкі. *Чэрэпашка — ею горшкі скрэбці можно наве́к.* Цераблічы. 2. Частка сахі. *П'ета́ на чэрэпасцы таке́е, шчо усе часці соберуцца на ту чэрэпашку.* Аздамічы.

ЧЭРЭ'П'Е *н. зб.* Хатні посуд (агульная назва). *Чэрэп'е — это міскі, чугуны́, горшкі.* Пагост. Чарапкі, пабітая пасуда. *Сколько там чэрэп'я е у тым Городзішчы* (урочышча)! Хільчыцы.

ЧЭРЭПІ'ЦА *ж.* Чарапіца. *І ў мене хата накрыта чэрэпіцою.* М. Малешава.

ЧЭРЭПО'К, ЦЕРЭПО'К *м.* 1. Чарапок, абломак пабітай пасуды. *Коту ш чэрэпка дае есць.* Запясочча. *Усёй здор вумазала з чэрэпка, нема й чым сковороду подмазаць.* Кароцічы. *Як нема запалок, то берум чэрэпка і ідом до суседа по жар.* Сямігосцічы. *Там, дзе Коне́цполе і Се́лішчэ, чэрэпкі вуворваюцца.* Луткі. 2. Чэрап, косці галавы. *На Со́лом'і чэрэпкі, косці, міскі, горшкі вукопвалі.* Хачэнь. *І чэрэпкі голо́ў вецёр повыдуваў на Каза́ргаці.* Буразі. Верхняя частка галавы. *Як вустрэліў — то ужэ чэрэпка нема.* Кароцічы. *Церэпок.* Аздамічы. 3. Панцыр чарапахі. *Чэрэпаху возьмі да положы на чэрэпку, то вона поховае усе, і лапкі, і го́лову — усе.* Хачэнь. 4. Слімак з хаткай. *Як чэрэпок такіе е, шчо скерге́чуць.* Цераблічы. *Памянш.* ч э р э п о́ ч о к. *Воны* (археолагі) *нашлі такіе чэрэпо́чкі, місочку неку нашлі.* Пагост. *Чэрэпочкі роскідайце по столах, шоб булі хлопчыкі*

(пра чарапкі ад гаршка з бабінай кашай на радзінах). Хільчыцы. *Круць, верць, под чэрэпочком смерць* (загадка, *чэрэпочок* — тут метафарычна нерат). *Уюн* (адгадка). М. Малешава.

ЧЭРЭПУ'ШКА *ж.* 1. Бяззубка. *Я гэтые чэрэпу́шкі еў з голоду.* Хачэнь. 2. Шкарлупа ад яйца. Хачэнь. *Памянш.* чэрэпу́шочка. *Яйца поўпіва́е тхор, одные чэрэпушочкі поостаю́цца.* Хачэнь.

ЧЭРЭП'Я'НКА *ж.* Гліняная міска. *А коліся так міска була, больш, як одэ́та чэрэп'янка.* Пагост.

ЧЭРЭП'Я'НЫ *прым.* Гліняны, з гліны. *Чэрэп'яна міска.* Запясочча. *Чэрэп'яны горшчык.* Там жа.

ЧЭРЭ'Т *м.* Чарот. *Як жнуць чэрэт, то в'яжуць у пукі́.* В. Малешава. *Заросла́ чэрэто́м канава.* Там жа. *Крыша чэро́том покрыта.* Бярэжцы. *Чэрэт жнуть да крыють ха́ты.* Альпень.

ЧЭРЭ'ЦЕНЫ, ЧЭРЭ'ЧЭНЫ *прым.* Чарацяны. *Чэрэцяна крыша. Чэрэцяны верх.* Аздамічы. △ Чэрэ́цены вол. Бакас. Запясочча. Чэрэчэны волік. Тое ж. Запясочча.

ЧЭРЭ'ЦІНА *ж.* Чараціна, сцябліна чароту. Кароцічы. Цэўка са сцябла чароту. Хотамель. △ Як чэрэ́ціна на пожарэ́. Пра адсутнасць блізкіх, самотнасць, бездапаможнасць. *Осталáса одна, ек чэрэціна на пожарэ.* Старажоўцы. *Як чэрэціна на пожары́, нікого не маю.* В. Малешава. *Бах за тэ лето трэба воўко́м з'есці коро́ву — остаўса, ек чэрэціна на пожарэ.* Цераблічы.

ЧЭРЭЦЮ'К *м.* Бакас. *Чэрэцюк мале́нькі, з доўгім носом, жоўты.* Запясочча.

ЧЭРЭШЧУ'Р *прысл.* Залішне. *Ры так м'якко выговарваюць, шчо чэрэшчур.* Луткі.

ЧЭР'Я'К *м.* Чарвяк. *Я розрэзаў я́блук, а там седзіць чэр'як.* Сямігосцічы. *Чэр'яка́ вудавіш з тва́рыны весною.* Цераблічы. *Памянш.* чэр'ячок. Альпень. △ Чэр'ячо́к траўляны́. Светлячок. *Траўляны́е чэр'ячкі у порохне́ седять.* Альпень.

ЧЭР'Я'НКА *ж.* Бляшанка з чарвякамі (для прынады). *Шоб чэрві не зопре́лі, постаў чэр'янку ў бабцы под лаўку, там цене́к.* Пагост.

ЧЭ'САНЫ *дзеепрым.* Чэсаны, абчасаны. *Балі такіе булі, чэсаные на чотыры канты.* Старажоўцы.

ЧЭСА'РНЯ *ж.* Часальня. *Чэсарня, шо во́ўну чэсалі.* Сямурадцы.

ЧЭСА'ЦЦА *незак.* Часацца. *Чэшыса вол з волом, а конь с конём, а свіньа об тын, бо нема с кім* (прыказка). Запясочча. *Ек ступіш на тое место, дзе конь качáецца, то ногі чэсацца будуць* (павер'е). Старажоўцы.

ЧЭСА'ЦЬ *незак.* 1. Часаць, расчэсваць. *Чэшуць грэбенцэ́м, а чу́хаюцца рукáмі.* Луткі. *Чэсалі воўну.* Кароцічы. *Чэсаць лен вельмі трудно, болаць рукі.* Азяраны. 2. Абчэсваць, часаць, склюдаваць. *Чэсалі шклюдóм балі.* Бярэжцы. *Чэшу дзерэв'янку на чотыры бóкі.* Цераблічы. *Ты шчэ своє дзерэво не чэсаў?* Аздамічы. 3. Чысціць, здымаць луску з рыбы. *Будом чэсаць ры́бу.* Кароцічы. 4. Красаць. *Крэ́сало було і огонь чэсалі.* Крэмна.

ЧЭСЛА', ЧАСЛА' *ж.*, ЧЭСЛО' *н.* Цясла, прылада для выдзёўбвання. *Чэслóю доўбе і вучышчае.* Запясочча. *Була колісь чэсла, ею выдоўбваюць ночвы, вýлеўкі, корыта.* Аздамічы. *Чэслó.* Там жа. *Корыто мі когда-то вісклóбвалі чэслою.* В. Малешава. *З плашкі зробі ночвы чэслою.* Цераблічы. *Така часла е, вучэсвалі чоўна з дубіны ею.* Чэрнічы.

ЧЭСНО'К, ЧОСНО'К, ЧАСНО'К *м.* Часнок. △ З á й ц о ў ч а с н ó к. Лугавая расліна, падобная да часнаку. Хачэнь. З а е ч ы ч о с н о к. Тое ж. *Заéчы чоснок пахне ек чоснок.* М. Малешава. Ч а с н о к з і м о в ы. Позні сорт часнаку. Хотамель.

ЧЭ'СНЫ *прым.* Сумленны. *Вон чэсны чоловек, ёму трэба верыць.* Верасніца. Цнатлівы. *Чэ́сна молодá.* Пагост. Цудатворны, цудадзейны. *Чэ́сны крэ́ст.* Пагост.

Каменны крыж у Пагосце, які, па паданню, прыплыў супраць цячэння па Прыпяці і з вады сам узнёсся на высокі бераг каля вёскі. *Чэсны крэст знізу прыплоў, мо то з Кіёва.* Пагост.

ЧЭСЦЬ *ж.* Гулянка, частаванне. *Быў на чэсцé ў Наталкі.* Сямігосцічы. *Пробачайце, госці, за мою чэсць — у менé ешчэ другíе госці есць* (жартам). Старажоўцы.

ЧЭТЫРА'Н *м.* Дзве капейкі. *Кóлісьня назва чэтыран — это дзве копейкі.* Дварэц.

ЧЭХО'Л *м.* Манжэта. *У жонóк вушытые крэшчыком вóдзікі на чэхлóх булі.* М. Малешава.

ЧЭХО'НЯ, ЧАХО'НЯ *ж.* Чахонь. *Чэхоня.* Запясочча. *Чахоня — вона рэдко бувае, такіе плоткі тóнкіе, бу сабля.* Верасніца.

ЧЭХО'ТКА *ж.* Сухоты. Сямігосцічы.

ЧЭ′ХРЫЦЬ *незак.* Абдзіраць лён на грэбені. *Мычку чэхрыць.* Аздамічы.

ЧЭЦВЕ′Р *м.* Чацвер. *Прыдзе ў сéрэду ці ў чэцвер.* Мачуль. △ С у х í  ч э т ь в е р. Чацвер велікоднага тыдня. Альпень. Ч ы с т ы  ч э ц в е р. Тое ж. *Вон жэ е перэд паскою, чысты чэцвер.* Бярэжцы. *А булі такіе бáбы, шо у чысты чэцвер, вэ́чором, повэчэраюць і до паскі больш і воды не п'е, тры дні.* Дварэц. *Яке ліхо там на ком, короста, то, ка, коб у чысты чэцвер покупайса.* Пагост.

ЧЭЦВЕРНЁ′ВУ *прым.* З чатырма рагамі (пра жалезныя вілы). *Чэцвернёвые вілкí.* Сямігосцічы.

ЧЭЦВЕРНЯ′ *ж.* Брак у палатне, сцежачка ад таго, што ў адной трасціне ўкінута больш нітак пры снаванні. *А то чэцверня, шо процягáецца.* Аздамічы. △ Ч э ц в е р н ю́  у к í н у ц ь. Укінуць лішнюю нітку ў трасціну пры снаванні. *Чэцверню укінула, чотыры ніткі ў бердо, у одну тросціну.* М. Малешава.

ЧЭЦВЁРО′ВУ *прым.* Тканы ў чатыры ніты. Хотамель.

ЧЭЦВЕРТУ′ШКА *ж.* 1. Мера поля, роўная чацвёртай частцы чвэрткі. *От таке вўзеньке поле — это чэцверць, чэцвертушка кажуць. А у нас трэцяя часць із рэ́зу.* Бярэжцы. 2. Мера гарэлкі, чацвёртая частка літра. Кароцічы.

ЧЭЦВЕРЫКО′М *прысл.* На карачках. *Чэцверыком ідзе п'яны, іці ніяк не можэ.* Луткі.

ЧЭЦВЕРЫ′НА *ж.* Чвэрць надзелу (2 га). *Мой бацько даў мне чэцверыну.* М. Малешава. *І ў мене чэцверына поля була.* Сямігосцічы.

ЧЭЦВЁРНІ′К *м.* Бёрда на 14 пасмаў. Альшаны.

ЧЭЦВЁ′РО, ЧЭ′ЦВЕРО *прысл.* Чацвёра. *Дзецей штук чэцвёро у его, с тымí дзецьмí чэцверы́ма нагоровайса.* Цераблічы. *Да чэцверо блізнят у его!* В. Малешава. *Покінуў жонку, чэцверо дзецей да на цэліне нейдзе ожэніўса.* Пагост.

ЧЭЧ *ж.* Прамывіна, незамерзлая частка вадаёма. *Чэч на озеры зімой.* Альшаны.

ЧЭ′ЧКА *ж.* Аддушына, прадуха ў лёдзе. *Не ўваліса ў чэчку, богато шчэ чэчóк.* Кароцічы. *Бувае і навеснé ростаé, то богато чэчок е.* Там жа. *Чечёк вельмі богато, іх снегом позанóсіло.* Пагост.

ЧЭЧО′ТКА, ЧОЧО′ТКА *ж.* Драўніна бярозы са скру-

чанымі слаямі. *Чочотка — така берэ́за, шо не можно розбіць; як гроза удырыць, то не ростоўчэ́.* Запясочча. *Карава бероза, крутая чэчотка.* Там жа. Камель, корань бярозы. *На клешчы трэ чэчотка, берэ́за.* Мачуль. Нешта густое, скручанае. *Засела борода, як чачо́тка.* Мачуль.

ЧЭШУЯ′ *ж.* Луска. *На лінку нема чэшуе́, са́ма хороша чэшуя на язю́, з ее можно варыць юшку.* Хотамель.

ЧЭ′ШЧА *ж.* Цешча. *Свойму зяцю я чэшча.* Кароцічы. *Чого́, е чэшчы ек родные мацерэ́ для зя́цеў.* Тураў. *Абу я буў, а чэшча будзе* (прымаўка). Верасніца. *Пойдзе жэніх по молодую да дае госцінца чэшча ему.* В. Малешава.

Ч'Я′КАЦЬ *незак.* Чвякаць. *Пуд ногамі ч'якае.* Бярэжцы.

# Ш

ШАВАРДА′ *ж.* Балбатун, пустаслоў. *От шаварда, шо трэбо, шо не трэбо шаварда́е.* В. Малешава.

ШАВАРДА′ЦЬ *незак. экспр.* Балбатаць. *Шаварда́е, бу шмель гудзе.* Пагост.

ШАГА′ЦЬ *незак.* Шагаць. *Блізко відаць, да далеко шагаць* (прымаўка). Сямурадцы.

ШАГОВІ′ТЫ *прым.* Які шырока ступае. *У его буў шаговіты конь.* Хотамель.

ША′ГОМ *прысл.* Крокам. *Шагом ехаў, бо конь утоміўса.* Лутці.

ШАГНУ′ЦЬ *зак.* Ступіць. *Шагнуць не боіцца ўжэ сам, лу́ччэй нога стала.* Луткі.

ШАЛАХЦІ′ЦЬ *незак.* Шалясцець. *Кот чуе, дзе вона шалахціць.* Цераблічы.

ШАЛА′ЦЦА, ШАЛЯ′ЦЦА *незак. экспр.* Цягацца. *Дзетвора шалаецца кругом.* Дварэц. *Дзе ты доўго шаляўса, волоцуга?* М. Малешава.

ШАЛЕНО′ЎКА *ж.* Шарсцяная квяцістая хустка. *Му ўчора ў цыганкі хорошую шэленоўку купілі.* Кароцічы.

ШАЛЕ′ЦЬ *незак.* 1. Захворваць шаленствам. *Як со́бака шалее, трэба парыць тэ зелье.* Хачэнь. 2. Дурэць, сваволіць. *Дзяцей назбіралосо та́мэка, шалёюць.* Сямурадцы. 3. Узбуджацца, раз'юшвацца. *Шалеюць за тым*

*хутболом, до ночы по болонью гоняюць.* Пагост. *Шалее пчола, ек пóтом нáгле воняеш.* Там жа.

ШАЛЁВА'НЬЕ *н.* Франтон, абшыванне ў вокнах. Аздамічы.

ШАЛЁВА'ЦЬ *незак.* Шаляваць. *Летом будом шэлёваць хату, то будзе і красівéй, і цеплéй.* Верасніца.

ШАЛЁНЫ *прым.* Шалёны. *Шалёны собака ўкусіць, то померці можна.* Пагост.

ШАЛЁЎКА *ж.* Шалёўка. *Шалёўка — сама ходка дошка.* Тураў. *Шэлёўка будзе добрая з этое колоды.* Верасніца.

ША'ЛІК *м.* Шалік. *Ма, купі мне шалік!* Лутткі.

ШАЛІНО'ВЫ *прым.* Гарусавы. *Колісь накладáлі на сорочку гáльку, а дале сподніцу накладалі, а дале хвартуха шылінового з карýнкамі.* Запясочча. *Шэленóву.* Там жа.

ШАМА'РКАЦЦА *незак. метаф.* Шастаць, швэндацца. *Там его сенокос, там ніхто не шамаркайса.* Верасніца.

ШАМА'РКАЦЬ *незак.* Плявузгаць. *Не шамаркай абу-шчо.* Рубель.

ША'МАЦЬ *незак.* 1. Шамацець. *Нешчо шамáе ў кустох.* Бярэжцы. *Звонец ек вуспее, то шамае.* Дварэц. *Дошч шамае.* Запясочча. 2. Шамкаць. *Не розберэш, шо вона шамае.* В. Малешава. 3. Балбатаць, плявузгаць. *Ой, годзе тобе шамаць без толку!* Бярэжцы. *Шо ты, Ганно, шамаеш абу-шчо!* М. Малешава.

ША'МКАЦЬ *незак.* Балбатаць, плявузгаць. *Ох ты, шамкаеш шчо ты!* Сямігосцічы. *Годзі ты шамкала, і докуль ты тут будзеш шамкаць!* Там жа. *Шамкае, говорыць абу-шчо, запраўду!* В. Малешава.

ША'МНУЦЬ *зак.* 1. Зашамацець. *Ніхто й не шамне косою.* Дварэц. *По соломі йдзе й не шамне* (загадка). *Цень* (адгадка). Луткі. 2 *перан.* Пайсці, лінуць, кінуць, упасці з шумам. *Там дождж шамнуў, шо за мінюту навулёт вумочіў.* Пагост. *А з ёгó кроў ек шамнула!* Запясочча. *Шамнула веліка вода й грýбу й печы поваляліса.* Сямурадцы. *Як шамнуць чэрэдою на вішню шпакі!* Старажоўцы. *Узела крыша да шамнула.* Луткі. *Схопіла воды да шамнула на выключацель!* Сямігосцічы. *Ек жэнілі коміна, то зéрнета сыпалі: озьме місу зéрнет, шам на его, і мы іх збіраемо.* Цераблічы.

ША'МОТ *м.* Шамаценне. *Шамоту наробіць бумагою.* Цераблічы.

ШАМОЦЕ'ЦЬ *незак.* Шамацець. *Так і шамоцяць прусы по сценах.* Кароцічы. *Аж шамоціць на коні той зброй!* Мачуль. *Я не чула, шчо на дворэ дождж шамоціць.* В. Малешава.

ША'МРЫК *м.* Званочак у бубне, бома. *Шамрыкі шамають у бубні, поддаюць зыру.* Сямігосцічы.

ШАМРЫ'ЦЬ *незак.* Шамацець. *Шамрыць дождж по дзерэві.* Аздамічы.

ШАМУ'ЧЫ *прым.* Шапаткі. *Шамучэ лісце ў гавезу.* Луткі.

ШАМЦЕ'ЦЬ *незак.* Шамацець. *Шамцяць тые балакуры, да свадзьба едзе.* Старажоўцы.

ШАНОВА'ЦЦА *незак.* Берагчыся. *Вона вельмі шануецца, не попнецца ніколі.* Хотамель.

ШАНОВА'ЦЬ *незак.* Шанаваць. *Не ўмеў шановаць себе, то потом попохворэў.* Луткі. *Трэ одзежыну шановаць, то і она цебе шановаціме.* Кароцічы.

ШАНЦОВА'ЦЬ *незак.* Шанцаваць. *Як шанцуе, то й у постолах танцуе, а як не шанцуе, то й у камашах не танцуе* (прыказка). Рубель.

ША'НЬКА *ж.* Кошык. *Шанька з хвоёвое дране, збіраюць ягоды, грыбу, картоплі.* Аздамічы. *Шанька ў нас лозовая, дно вузкое, з вушыма вона.* Сямігосцічы. *У нас зовецца кошэль, а ў Хільчыцах шанька, а ў Хочэні, Рычові і Берэжцах — коробка.* Старажоўцы. *Памянш.* ш а́ н е ч к а. Хотамель.

*Шанька* — кошык прамавугольнай формы без накрыўкі. Плятуць з дранкі.

ША'НЯ, ШАЙНЯ' *ж.* Тое ж. *Верэня з веком, а шаня без века.* Сямігосцічы. *Шайня.* Велямічы. *Памянш.* ш а е́ н ь к а. Велямічы.

ША'ПКА *ж.* 1. Галаўны убор. *Колісь робілі шапкі іс коры і козырок стояў. Воны лёгкіе і доўгіе булі.* М. Малешава. *Шапку знімі, седзіш ек удод!* Старажоўцы. *Хай чорт с кубла, абу шапка еец була!* (прымаўка). Там жа. *Мой бацько казаў: не кладзі шапку на столе, бо век будзе голова ў клопоці* (павер'е). Луткі. *Скінь шапку, ек есі, бо будзе чэшча глуха* (павер'е). В. Малешава. 2. Сноп-накрыўка на мэндлік. *Шапка тэ, шо накрывалі снопу: колоскі под ее схованые, а гузыр сохне у снопох.* Тураў. 3. Абярэмак сена паверх апоўзін на стозе. *Іван*

*подаў па́вузнік, а наверх шапку подае на стога.* Старажоўцы. 4. Вяршняк у аконнай ці дзвярной скрыні. Мачуль. *Памянш.* ш а́ п о ч к а. Запясочча.

ШАПКОВА'ЦЬ *незак.* Вельмі дагаджаць. *Шапку́е перэд го́сцем, не знае, дзе посадзіць.* Аздамічы.

ШАПНО' *н. груб.* Шапка. *Твое шапно онучніку понесу.* Пагост.

ШАПО'РНІК *м.* Капялюшнік. Старажоўцы.

ША'ПОРЫЦЬ *незак.* Шнарыць. *Улезе да там шукае, ша́порыць.* Хачэнь. *Пошлі шапорыць, а вона сховала жар у сцёпцы* (раней у час аброку, калі нельга было захоўваць агонь у сяле). Цераблічы.

ШАР *м.* Рад. *У одзін шар поставіў хату, клець і хлёў.* Хотамель. *То толькі ў Хочэні було так: той шар — шляхта, а гэто — мужыкі. Тому шару́ оддáлі тэ поле, а гэтому шару тут далí.* Хачэнь. *Опенькі, ца́лы шар!* Луткі. *Памянш.* ш а р о́ к. *У тэ шаркі буракі саджаюць.* Цераблічы.

ШАРАБА'ТКА *ж.* Чатырохгранная палачка з нумараванымі гранямі для гульні, падобнай да чыжыка. Хотамель.

ШАРАРА'ХНУЦЬ *зак.* Шарахнуць. *Подняў вон полено да шарарах у голову́!* М. Малешава. *Шарарахнуў поленом у свінью.* Пагост.

ШАРЛО'ТА *ж.* Шантрапа. *Як эта шарлота, беднота́ будзе жыць!* В. Малешава.

ШАРМА'К *м.* △ Н а ш а р м а к а́. Дарэмна. *Круціцца, дзе веселле, на шармака хочэ погуляць!* Пагост.

ШАРМА'НКА *ж.* △ Н а ш а р м а́ н к у. Тое ж. *Хочыш на шарманку проехаць!* Запясочча.

ШАРОБУ'НІЦЬ *незак.* Паводзіць сябе шумліва, непрыстойна. *От, подпіў да шаробуніць.* Сямігосцічы.

ША'РНУЦЬ *зак.* Цярнуць. *Ек ша́рну етым па́лцэм об це́рку, то закрычу.* Пагост.

ШАРОВА'ЦЬ *незак.* Шараваць. *Ла́пцем добро шароваць подлогу.* Луткі. *Пік вару з дзёгцем і дратву шарую, шоб вона була осмолена.* Запясочча.

ШАРО'Н *м.* Рад. *Насаджала у шарон тых буракоў.* М. Малешава.

ШАРО'НКА *ж.* Тое ж. *У шаронку поставяць да полічаць усіх.* М. Малешава.

ШАРЫ'ХВО'СТ *м.* Гарэза, свавольнік, прайдзісвет. *Ну й шаріхвост Цітоў хлопец, то тут крутнецца, то там,*

*усе оббегае, усе обглéдзіць.* Пагост. *Ну й шаріхвост твой зяць, пролезе, обдуріць, достане, а з людзьмі ў селе ек пан говóріць.* Пагост.

ША'РЫЦЬ *незак.* Шнарыць. *У гумне шарылі, шарылі да не нашлі вілóк.* Запясочча.

ШАСНА'ЦЦАЦЬ *ліч.* Шаснаццаць. *У нас було шаснаццаць конёў!* Старажоўцы.

ШАСНУ'ЦЦА *зак.* Хіснуцца ў бок. *Човен шаснецца і можно упасці.* Луткі.

ША'СТАЛО *н.* Бразготка. *Бýбон рукóпашны, а ў ём шастало.* Цераблічы.

ША'СТАЦЬ *незак.* Шастаць. *Одна дзерэзá толькі шастае, ек косіш.* М. Малешава.

ШАТА'Н *м.* Нячысцік. *Чорт мы кáом, або дзявол, або шатан буў.* Сямігосцічы.

ШАТА'ЦЦА *незак.* Бадзяцца. *По лесу шатаемса мало.* Сямігосцічы.

ШАТВА' *ж.* Шарош. *Через реку ні перэйці, ні на лодцы переехаць, бо шатва густа йдзе.* Пагост. *Одзін год гусі булі поплулі з шатвою аж до Мозыра.* Верасніца.

ШАТКІ' *прым.* 1. Хісткі. *Ай, шаткіе тые чоўны.* Цераблічы. *Наша лодка старá, вона шаткáя і невеліка.* Пагост. 2 *перан.* Рухавы. *Нáгле вона шаткá, проворна, не поседзіць!* Дварэц.

ШАТКОВА'ЦЬ *незак.* Шаткаваць. *Трэба і свою капусту шатковаць, у людзей ужэ ўкісла.* Тураў.

ШАТНУ'ЦЦА *зак.* Хіснуцца. *Ву ж поверце, шо шатнесса чуць — так ці прыедом, ці й мо не прыедом* (пра язду на чоўне). Пагост.

ШАТО'Р *м.* Шацёр. *На болонью шатор — жджы цыганóк.* Пагост.

ШАТРОВА'НЫ *прым.* Шатраваны. Луткі.

ШАТРОВА'ЦЬ *незак.* Шатраваць. Луткі.

ША'ТЫ *мн.* Шаты. *Екіе шаты на іх вісяць, хустка бела!* Запясочча.

ШАТЫ'РЫЦЬ *незак.* Шараваць. *Докуль ты будзеш ту місочку шатырыць?* Рубель.

ШАЎРЫ'КАЦЬ *незак.* Балбатаць, плявузгаць, невыразна гаварыць. *Абу-шчо шаўрыкаюць.* М. Малешава. *Шаўрыкае без зубоў.* В. Малешава. *Говóрыць, нешчо шаўрыкае не так, ек трэба.* Там жа. *Шаўрыгае трохі немая.* Запясочча.

ША'ХАЦЬ *незак.* Рэзаць з шумам. *Хомчыха так — чык, чык, а я так — шах, шах жала.* Сямурадцы.

ША'ХВОРОСТ *м.* Гарэза, свавольнік, прайдзісвет. *Ме́ньшый іх хло́пец рохма́ный і толковый, а бо́льшый — нейкі шахворост.* Тураў. *От шахворост, усе ў хаце перэверне.* Аздамічы.

ША'ХВОРОСЦЕНЬ *м.* Тое ж. *Шахворосцень вёрткі ек юла.* Крэмна.

ША'ХНУЦЬ *зак.* Разануць. *А вон як шахне, шахне, той лівень!* Хачэнь.

ША'ХОРЫЦЬ *незак.* Шнарыць. *Шахорыла, шахорыла, а вона ў чо́боці.* Сямігосцічы.

ШАХРА'Н *м.* Шафран. Запясочча.

ШАХЦЕ'ЦЬ *незак.* Шалясцець. *Чую, коса́ шахці́ць, нехто ко́су ме́нціць.* Хотамель.

ША'ШЭЛЬ *м.* і *ж.* 1. Шашаль. *Тэ дзерэво, шо з воды, вечнэ, шашэль не з'есць.* Цераблічы. *Шашэль хату з'ела.* Там жа. *У мене е ешчэ дзежэчка, толькі шашлі з'елі.* Чэрнічы. 2. Вялікі чмель. *Шашэль ударыў, то чуць не кончыўса, ой, б'ючэ джало.* Пагост.

ША'Я *ж.* Непаседа. *Ек тая шая круціцца, не вусе-дзіць спокойно!* Верасніца.

ШВА'ГЕР *м.* Сястрын муж. *Мой от швагер у кузні, мое сестры чоловек.* Пагост.

ШВА'ЙКА *ж.* 1. Швайка. *Не знаю, йдзе гета швайка дзеласа, трэба йці свінью колоці — нема!* Кароцічы. *Хвост у мойго кабана, шо швайка.* Бярэжцы. *На хітрого вузла — хітрая швайка* (прымаўка). Цераблічы. 2 *метаф.* Шчупак. Д.-Гарадок.

ШВАРГІ'КАЦЬ *незак. экспр.* Гаварыць, балбатаць. *Нешчо шваргікалі там тые дзейкі коло клуба.* Хачэнь.

ШВАРДЫ'КАЦЦА *незак.* Тое ж. *Швардыкаліса селом.* Хачэнь.

ШВАРДЫ'КАЦЬ, ШВАРДЭ'КАЦЬ, ШТЭРДЭ'КАЦЬ *незак.* Тое ж. *Не швардыкай абу-чого!* Верасніца. *Да от штэрдэкаюць, б'юцца, крычаць, бу овечкі тые кручоные.* Дварэц. *Прыехаў зяць до мене і так швардэкае, шо я нічого не понімаю.* Пагост.

ШВА'РКА *ж.* Кавалак вяроўкі. *Шваркою сцебену́ў по пле́чах.* Пагост.

ШВА'РКІ *мн.* Абноскі абутку. Хотамель.

ШВАРЫ'ПІЦЬ *незак.* Кракаць (пра качара). Аздамічы.

ШВА'ЧКА *ж.* Швачка. *Не швачка пошые, а сама.* Верасніца.

ШВА'Я *ж.* 1. Паля. Запясочча. 2. Швайка. *Е швая такая гострая, ее ў землю убівае коморнік.* Сямігосцічы.

ШВЕ'ЙГАЦЬ *незак.* Гойсаць, бегаць. *Малы не поседзіць, цэлы дзень швейгае.* Хачэнь.

ШВЕ'ЛЯ' *ж.* Брус. *Швеля була на чотыры ка́нты чэсана навек.* Луткі.

ШВЕ'РКАЦЬ, ШВЭ'РКАЦЬ *незак.* Балбатаць, плявузгаць. *П'яны чоловек ужэ не говорыць, а швэркае.* Старажоўцы. *Нап'ецца да шверкае абу-шчо.* Хачэнь.

ШВЕЦ *м.* Шавец. *Напутаўса швец роботы* (прымаўка). Луткі.

ШВІ'ГАЦЬ *незак.* Свістаць, дзьмуць. *Само глаўно вулепіць хату, шоб не швіґаў ве́цёр.* Сямурадцы. *Я по воздуху швіґаю пугою, не б'ю, коні й бегуць.* Пагост.

ШВІД *м.* Свідзіна. Аздамічы.

ШВІДЗІ'НА *ж.* Тое ж. *Швідзіна, на ей ягодкі крэстовіною ростуць.* Хачэнь.

ШВІ'ДКІ' *прым.* 1. Быстры, жвавы. *От швідка́ дзеўка і ў робоці, і ў гульне.* В. Малешава. 2 *перан.* Гнуткі. *От дубец швідкі!* Запясочча. *Швідкім дубцэм далей картопель шпурленеш.* Пагост.

ШВІ'ДКО *прым.* Хутка. *У той каруселі швідко бегаюц самотужкі.* Тураў. *Швідко жучок поўзе.* В. Малешава.

ШВІДО'ВУ *прым.* Свідзінавы. *Швідову дубчык.* Хачэнь.

ШВІРА'ЦЬ *незак.* Шпурляць. *Ек стаў вон швіраць з себе одзежу, ек здурэў.* Верасніца.

ШВІ'РКА *ж.* Плашка дроў. Запясочча. Укладка дроў. Пагост.

ШВІРЛЯ'ЦЬ *незак.* Шпурляць. *От швірляе гной на воз моцно.* Луткі. *На шчэдрэц швірлялі чоботы ў порог.* Пагост.

ШВІРНУ'ЦЬ, ШВУРНУ'ЦЬ *зак.* Шпурнуць. *Як швірну, то зара вулеціш!* Луткі. *Ек швурне мене отчім, то я лецела до плота.* М. Малешава.

ШВО *н.* 1. Рубец. *Шво отрубіла ў сороццы.* Луткі. 2. Шрам. *Показала на тэ шво на целе, дак вонэ веліке!* Запясочча. 3. Шытво, шыццё. *Буду сама собе шыць, бо дороге шво.* Верасніца.

ШВО′РКА *ж.* Кавалак вяроўкі. *Возьмі на шворку собаку!* Рыдча.

ШВО′РЭНЬ *м.* Швoран. *От, колісь Ганну везлі венчацца коньмі, а шворэнь поламайса, колесо ўпало, то й жызнь ее пропала.* Верасніца. *Шворень у оплёнь ідзе.* Хотамель. *Шворень у колодзежы буў дубову коліся.* Хотамель. *Шворень у коловороці е.* Бярэжцы.

ШВУРО′К *м.* Невялікая ўкладка дроў у лесе. Альшаны.

ШВЭД *м.* Доўгая палоска сала. *На сковородзе швэды лежаць, аж хорошэ гледзець!* В. Малешава.

ШВЭ′НДАЦЦА, ШВЕ′НДАЦЦА *незак.* Швэндацца. *А чо ты швэндаесса по чужых хатáх?* М. Малешава. *Нейке у капелюшэ за ею швэндалосо.* Там жа. *Не трэба швэндацца абу-дзе!* В. Малешава. *Швéндацца.* Пагост.

ШВЭ′НДАЦЬ, ШВЕ′НДАЦЬ *незак.* Тое ж. *Нічого не робіш да швендаеш!* Аздамічы.

ШКА′БКА *ж.* Скобка для змацавання пазоў у лодцы. Хотамель.

ШКАБУ′РОК *м.* 1. Стары, зношаны абутак. *Некіе тэ шкабуркі обула дай цегае.* Цераблічы. *Я зову шкабуркамі старые сапогі, шо вон вукідаю!* М. Малешава. 2. Лахман. *За гэтые разные шкабуркі, онучы старые, нічого не дае клочэнік.* Там жа.

ШКАНДЫБА′ЦЬ *незак.* Шкандыбаць. *Моя старая чуць шкандыбае.* М. Малешава.

ШКАРАДА′ *ж.* Лодка-даўбёнка; дрэнная старая лодка. Аздамічы.

ШКАРЛУ′ПКА *ж.* Корка. Сямурадцы.

ШКА′РЛЯ *ж.* Шкарлятына. *Шоб цебе шкарля з'ела!* (праклён). Сямурадцы.

ШКАРЛЯ′Т *м.* Тое ж. *Буў год, шчо некі шкарлят натто браў за горло дзецей.* В. Малешава.

ШКАРЛЯЦІ′НА *ж.* Тое ж. *Шкарляціна сцісне за горло і ні дасць дыхаць.* Мачуль.

ШКАРПА′ТЫ *прым.* Шурпаты. *Побелелі рукі, шкарпатые роб'яцца.* Старажоўцы.

ШКАПКІ′ *мн.* Скобкі для змацавання пазоў у лодцы, скрэпы. Хотамель.

ШКІЛЕ′Т *м.* Касцяк. *Худы, ек шкілет.* Кароцічы.

ШКІ′РКА *ж.* △ У з я ц ь з а ш к і р к у. Узяць за каўнер (у злосці). *За шкірку дай на двор ее!* Пагост.

ШКЛО *н.* Шкло. *Мо ў гразе, дзе шкло, то покалілосо поросяі порэ́залосо.* Луткі.

ШКЛЮД *м.* Склюд. *Шклюдом дзерэво обчэсваюць роўненько, ек шнуром.* Цераблічы. *А шклюд буў із хвостом ззаду.* Бярэжцы. *Шклюд називаюць сокеру, шо шпалы, плаксоны чэсаць на чотыры бокі.* М. Малешава.

ШКЛЯНЫ′ *прым.* Шкляны. *Шкляны кілішок.* Хотамель.

ШКО′ДА 1 *ж.* Шкода, патрава. *Ноч ходзяць хлопцы да шкоду робяць.* Дварэц. *Наробілі шкоды куры.* Хачэнь. *Товар зайшоў у шкоду.* Альшаны. *Шчо году, шоб даў бог шкоду* (жартоўнае, вясельнае пажаданне пра нараджэнне дзяцей). Старажоўцы. 2 *прысл.* Шкада. *Мне шкода, шчо я кермаш страчу.* Сямурадцы. *Ну, раз ты хорошы роботнік, то мне шкода.* Кароцічы. *Мацер шкода, а дочкі уседно шкоднéй.* Сямурадцы. *Шкода мне ее, бо на чужыні, ек сіроціні.* Пагост.

ШКО′ДЗІЦЬ *незак.* Шкодзіць. *Хто позно ходзіць, той сам собе шкодзіць* (прыказка). М. Малешава.

ШКОДЛІ′ВУ *прым.* Шкадлівы. *Кот шкодлівы.* Хотамель.

ШКО′ДНІК *м.* Шкоднік, дураслівец. *Шкоднікі шчоты роскідалі дай косточкі посыпаліса.* Запясочча.

ШКОДОВА′ЦЬ *незак.* 1. Адчуваць любасць. *Дзеўка хлопца любіць, а маці шкодуе.* Запясочча. *Чоловек нáгле жонку шкодоваў.* Сямурадцы. *Не буду я цебе годоваць, не буду шкодоваць, ты не моя!* М. Малешава. *Я свого не вельмо шкодую і то часом скажу: «Сцéпанько!»* Сямігосцічы. 2. Берагчы. *Шкодуем, шоб жыто не м'ялі.* Аздамічы. *Вона мне не шкодовала.* М. Малешава. *Хто чужого шкодуе, шчоб свого не маў* (прымаўка). Сямігосцічы.

ШКОДО′ЎЛІВУ *прым.* Жаласлівы, спачувальны, спагадлівы. Луткі.

ШКОДО′ЎЛЯ *ж.* Шкадаванне, спагадлівасць, любасць. *Як шчэ маці е і бацько, то шчэ й шкодоўля е.* В. Малешава. *Не знаеш ніякое ні жалобы, ні шкодоўлі, бо ты сірота.* Там жа.

ШКОДО′ЎНІ′К *м.* Жаласнік, спагадлівец. *Нагле багато жáлобнікоў да шкодóўнікоў, не даюць, а толькі перэговорáюць.* М. Малешава.

ШКОДО′ЎНІЦА *ж.* Жаласніца. Луткі.

ШКОРУ′ЗЛЫ *прым.* Закарэлы. *Шчо храпа такі шкорузлы.* Альпень.

ШКОРУ'ПЛЫ *прым.* Тое ж. *І жонка е, а нема кому догледзець за етым человеком, бач, екі шкоруплы.* Пагост. *На ком порванэ, шкоруплэ, а на ёй усё чыстэ було.* Сямурадцы. *Пожыраюць ек злыдні свіней, гусей і шкоруплые ходзяць.* М. Малешава.

ШКОРУ'ПЛЯ'К *м.* 1. Караўка. *Шкору́плякі клочэнікý оддалá.* Аздамічы. *Белые онучы да шкоруплякі.* Запясочча. *Вецер кажэ: «Вот дýну, сем світок продуну». А шкорупляк на сметніку говорыць: «А мене й одного не продунеш». А вецер обідзіўса да говорыць: «Я цебе, шкоруплá́к, не займáю»* (з казкі). 2 *перан.* Малакасос, сапляк. *Вона ужэ дзеўка веліка, а ты шчэ куды этакі шкорупляк!* Бярэжцы. 3 *перан.* Слабак, стары слабы чалавек. Запясочча. *Памянш.* ш к о р у п л я́ ч о к. Сямігосцічы.

ШКОРУПЛЯ'ЦІНА *ж. груб.* Тое ж. *Назбірала шкорупляціны да оддала клочэніку, да купіла подвéдзенку, цветы аж горацъ!* Верасніца.

ШКОРУ'ПНУЦЬ *незак.* Карэць, каравіцца. *Шкорупнуць онучы на печэ.* Цераблічы. *Кожух вельмі шкорупне от сыросці.* Луткі.

ШКОРУ'ПЫЙ *прым.* Закарэлы. М. Малешава.

ШКРАБА'Н *м.* Абчэсаная з чатырох бакоў калода. *Вон лоўко роспусціў шкрабан на дзве швéлі.* Хотамель.

ШКРА'БАЦЬ *незак.* 1. Шкрабаць. *У нас мышы под шкахóм шкрабаюц.* Запясочча. *Задзерэ бóроду да шкрабае.* Там жа. 2 *перан.* Вастрыць, тачыць. *Шкрáбай ее цапку, коб гостра була.* Луткі.

ШКРАБНІ'НА *ж.* Драпіна. *Шкрабнуў гвоздом — да шкрабніна.* Альпень.

ШКРА'БНУЦЬ *зак.* Шкрабнуць. *Гордóўніком замáчвалі рану, дзе шкрабнеш.* Хачэнь.

ШКРО'БНІК *м.* Скнара. *Е такіе шкробнікі, шо получыў да положыў на кніжку грошы.* Старажоўцы.

ШКРОГАНЫ' *мн.* Старыя боты без халяваў. *Шкроганы налажыў да пошоў.* В. Малешава.

ШКРО'ГНА *мн.* Тое ж. *Халя́ву отрэжэ, то тые шкрогна.* Верасніца.

ШКРЭ'БНУЦЬ *зак.* Драпануць. *Конь ек шкрэбнуў з тэй бабою на болото!* Цераблічы.

ШКРЭ'ГАЦЬ *незак.* Шкрабаць. *То вон з яблоні ту ложку скрэгаў.* Луткі.

ШКУ'РА *ж.* Скура. *З коня вельмі тóненька шкура, а*

*з вола тоўста́.* Луткі. *Сало кладуць шкурою уверх, а ніжні кружок шкурою уніз, шоб не соло́днэ було.* Там жа. *От спаліўса, аж шкура лупіцца.* Альпень. *Есці хочу, шо шкура боліць.* Запясочча. *А худзезны прыехаў з тое вучобу, шкура да косці.* Азяраны. △ Шку́ра на ём (на ей) гово́рыць. Пра вельмі энергічнага чалавека. *А вона така, шо шкура на ей говорыць.* М. Малешава. Хоць за шку́ру лі. Вельмі многа, уволю. *Се́мсят копеек стакан віна, пі, хоць за шкуру лі.* Цераблічы. Залі́ць ло́ю за шку́ру. Пакараць, пабіць. *Як зальюц лою за шкуру, то будзе знац.* Тураў.

ШКУРОЦІ́НА *ж. экспр.* Тое ж. *Дзячэ́не, дзячэне, здзелай замолчэнье, тобе шкуроціна і м'яса половіна* (з казкі). Цераблічы.

ШКУРОЦЯ́НЫ *прым.* Скураны. *Шкуроцяны лапець з шкуры това́рэчэе.* М. Малешава.

ШКУ́РКА *ж.* Скурка. *Ек мочыш боб, то шкурка атскаквае, облупваецца.* М. Малешава. *Не шкурку хлеба, мекіша́, шкурку не кідаеш коту.* Хачэнь. *Лін мо знаеце? Ну, без лускі вон, одно шкурка.* Бярэжцы. *Шкурка коло ногця задраласа і боліць.* М. Малешава. *Памянш.* шку́рочка. *Шкурочка, побач, горіць на крупніку!* Хотамель.

ШКУРОЛУ́П *м.* Жывадзёр. *Такі шкуролуп, шкуру ш чоловека злупіць.* М. Малешава.

ШЛА́МАЦЬ *незак.* Шлёпаць. *Ба́цькову чоботы мне велікіе, шламаць буду да муле́нікоў нароблю.* Пагост.

ШЛАНДЫГА́ЦЬ, ШЛЕНДЫГА́ЦЬ *незак.* Кандыбаць. *А я ў тых ва́ленках шлендыгаю.* Запясочча. *Шо ты ў своіх не седзіш да шландыгаеш по ха́тах?* Там жа.

ШЛАПАНТЫ́КІ *мн.* Зношаны абутак. *Як тобіе не сором у гэтакіх шлапантыках ходзіць?* Тураў.

ШЛА́ПАЦЬ *незак.* Шлёпаць. *Мокро, шлапае ў ла́пцях.* М. Малешава.

ШЛАПЕНТО́Х *м.* 1. Зношаны абутак. *У, екі шлапентох, абу́-екі.* Хачэнь. 2. Той, які шлёпае нагамі пры хадзьбе. Старажоўцы.

ШЛАПІНДО́Х *м.* Той, які шлёпае нагамі пры хадзьбе. Старажоўцы. *От шлапіндох, ногу мне чуць не одчавіў.* Пагост.

ШЛА́ПНУЦЬ *зак.* Ступіць. *Шлапнуў ты мне на но́гу.* Пагост.

ШЛАПО'ЎКА *ж.* Сорт яблыкаў. *Шлапоўка — белые й смашные яблока.* Дварэц.

ШЛАХЦЕ'ЦЬ *незак.* Шалясцець, шамацець. *На ём усе дорогое одзёнье шлахціць!* Сямурадцы.

ШЛЁГАЦЬ *незак.* Сцёбаць. *Постух шлёгае пугою навек, ек табуна жэнé.* Запясочча.

ШЛЁГНУЦЬ *зак.* 1. Сцебануць. *І п'янка мінецца, як добрэ шлёгнеш.* Цераблічы. *Шлёгнуў по плéчах, то знаціме.* Аздамічы. 2 *перан.* Паваліць. *Ну, я этого дýба шлёгну!* Старажоўцы.

ШЛО'ПАЦЬ *незак.* Шлёпаць. *Ек толькі цýркнула рыба, вон ужэ тоею нáстоўкой шлоп! І накрыў ее.* Луткі.

ШЛУ'НОК *м.* Страўнік. *Шлунок у ёгó, шо й косць перэварыць.* Сямурадцы. *Шлунок мой не прымае масла.* Хачэнь. *Шлункі его не добрые.* Луткі.

ШЛЫ'НДАЦЬ *незак.* Швэндацца. *Вон одзінáццаць год шлы́ндаў дома.* В. Малешава. *Шлындае по свету, нідзе не прыб'ецца.* Пагост.

ШЛЭМПОВА'ЦЬ *незак.* Заграбаць нагою пры хадзьбе. *Вона шлэмпýе, ек ідзе.* Хачэнь. *Шлэмпуе по-старэчому, ног от земле не оторве.* Пагост.

ШЛЮЗ *м.* Слізь. *Шлюз на сому, уюну е.* Кароцічы.

ШЛЮХОВА'ЦЬ *незак.* Цыкляваць. *Трэба шлюховаць топорышчэ.* Аздамічы.

ШЛЮХО'ТА *ж.* Плюхота. *Гразь да негода — о, шлюхота!* Запясочча. *От, бувае і зімою снег з дождджэм, то гэто і шлюхота.* Луткі.

ШЛЮ'ХТА *ж.* Стос зложанага лесаматэрыялу. *Гонку на гонку цягнуць і ў шлюхты складваюць.* Сямігосцічы. *Нагоніць к берэгу, зачэ́пваем цэлу ту дзерэвіну да конéм цягном у шлю́хту.* Верасніца. *На прыстані лес складáюць у шлю́хты.* Запясочча.

ШЛЯГ *м.* Шляк. *Кругом на клеёнцы шляг, а там цветы посерэдзіні.* Дварэц.

ШЛЯ'ГА *ж.* Трамбоўка. Альшаны.

ШЛЯ'ГАЦЬ *незак.* Сцябаць. *Ото шля́гаў бы дзень тою пугою!* Мачуль.

ШЛЯГОВА'ЦЬ *незак.* Змацоўваць у вялікі плыт асобныя гонкі лесу. Пагост. *Карован шлягýёмо з грэбенок.* Пагост.

ШЛЯГОНУ'ЦЬ *зак.* Сцебануць. *Шлягоні корову!* Мачуль.

ШЛЯК *м.* △ Нехáй іх шляк трáфіць! Выказванне незадавальнення. Мачуль.

ШЛЯ'КОЦЬ, ШЛЯ'КІЦЬ, ШЛЯ'ХОЦЬ *ж.* Плюхота. *Ек ідзе снег, то така весною шлякоць, шчо не можно вуйці!* Луткі. *От, така шлякоць, шо усе гольé ледовітое зробілосо!* Сямурадцы. *От, шлякіць, лепота, ідзе снег з дожджом!* Аздамічы. *Така шляхоць, шчо не вубрусці з хаты.* Луткі.

ШЛЯ'ПА *ж.* Шопа, стрэшка. *Под однэю шляпою чотыры браты стояць* (загадка). *Стол* (адгадка). Луткі.

ШЛЯ'ПЫ *мн.* Сорт яблыкаў. *Шляпы — такіе яблука булі.* Хачэнь.

ШЛЯХ *м.* Шлях, гасцінец. *Укладáюць шлях кáменем.* Луткі. *Ек глянь, то до шляху вода!* Сямурадцы. *Памянш.* шлешóк. *Ек шлешок робілі, то мое зáроботкі булі.* М. Малешава. *Шлешок вельмо вýзенечкі.* Там жа.

ШЛЯХЕ'ЦКІ *прым.* Шляхетны, прыстойны. *Чоловек буў хорошы, шляхецкі.* Хачэнь.

ШЛЯХО'ЦЬЕ *н.* Плюхота. *Таке шляхоцье, шчо за село не можно вуйці, а не то шчо далéко йці!* Луткі.

ШЛЯ'ХТА *ж.* Шляхта. *Шляхта племенем сільнó отлічаласа.* Альшаны. *Хто воны? Шляхта картопляна!* (жарт). Бярэжцы. *Шляхта — лозóвуе гузікі!* (жарт). Сямурадцы.

ШЛЯХТУ'Н *м. экспр.* Шляхціц. *Ек шляхтун, то особно еў з місы кáжны.* Цераблічы.

ШЛЯХЦІ'ЦЦА *незак.* Весці сябе ганарыста, фанабэрыцца. *І цепер шляхцяцца ў Хочэні.* Сямурадцы.

ШМА'ЛЕЦ *м.* 1. Топлены тлушч. *Шмалец, то чысты жыр.* Альпень. 2. Нікацінавая смала. *У люльцы от цюцюнý шмалец е.* Сямурадцы.

ШМАНА'ЦЬ *незак.* △ Не шманáць. Не звяртаць увагі. *Ёмý хоць кол на голове гострьí, а вон не шманае.* Верасніца. *Мне голова трэшчыць, а дзеці не шманаюць.* М. Малешава. *Як заведзецца глушак токоваць, то й вострэла не шманае.* Аздамічы. *Уверх стрэліў, а лось стоіць і не шманае.* Там жа.

ШМА'НЬЕ, ШМО'НЬЕ *н. зб. экспр.* Адзенне, лахманы. *Шманне дзерэ на собе.* Бярэжцы. *От рыбу шманье ў слюзу.* Пагост.

ШМАРОВА'ЦЬ *незак.* Шараваць. *Песком чугуны шмарую.* Пагост.

ШМАТ 1 *м.* Шмат. *На палцы буў зроблены такі шмат,*

*або, кажэм, заткало, ім і затыкалі* (адтуліну ў столі курнай хаты, у коміне). Сямігосцічы. 2 *прысл.* Шмат, многа. *А прынёс вон учора шмат грошэй.* Луткі.

ШМА'ТА *ж.* Шмат. Хотамель.

ШМАТА'ЦЦА *незак.* Матляцца. М. Малешава.

ШМА'ТКА *ж.* 1. Шматок. *Подрáлосо ўсе, однóе шмáткі осталіса.* Дварэц. *Узела шматку, муць посуду трэ.* Луткі. 2 *экспр.* Адзенне. *Возьмеш свое шмáткі-лахмáткі да пойдзеш до своей хáткі* (прымаўка). Хачэнь. *Памянш.* ш м á т о ч к а. *Шматочку еку оддзерэ да уплёткі зробіць.* Луткі.

ШМАТЛЮ'К *м.* 1. Шматок. Запясочча. 2 *мн. экспр.* Адзенне. *Одзеваюць ёго екімі шматлюкамі.* Верасніца. 3. Анучнік. Луткі.

ШМА'ЦЬЕ' *н. зб.* Адзенне. *Така жара, коб поскíдаў усе шмацье.* Мачуль. *Тре, дзеўко, заўтра шмацье гразнэ попраць.* Пагост. *Прыдзе зіма, то плечы боляць от шмацéй.* Запясочча. *Ідзі, свое шмацьá заберы!* Любавічы. *Ек бы не собакі, кабан порваў бу у шмáцье.* Луткі. *Шмацья этого назбіраецца клочэніку.* Верасніца. *Ек мухі ховаюцца ў шмацьé, то будзе дождж* (прыкмета). Там жа.

ШМАЦЬЯ'НКА *ж.* Посцілка, вытканая са шматкоў. *Вутчы дзве шмацьянкі, от трохі нуч назбірала.* Верасніца.

ШМО'ЛДНІК *м.* Свідзіна. Аздамічы.

ШМО'РГАЦЦА *незак.* 1. Шморгацца, церціся. *Веройка шморгаецца на круку.* М. Малешава. *На лóжок пошыла шморгацца просцілку.* В. Малешава. *Хай будзе тэ шмацье коло печы пошмóргацца.* Аздамічы. 2 *перан.* Швэндацца. *Будзе шморгацца по гóроду, шчо вона там будзе робіць!* Луткі. *Піліп шморгаецца тут, коб забегці до Олены.* М. Малешава.

ШМО'РГАЦЬ *незак.* 1. Шморгаць, церці. *Халява об халяву шмóргае.* Запясочча. 2. Рэзка ўцягваць паветра носам. *Годзі шморгаў носом, ідзі да высекай!* Аздамічы.

ШМО'РГНУЦЬ *зак.* 1. Пацягнуць. 2 *перан.* Кінуцца. *Побачыў, шо мужчыны, дай шморгнуў вон той цыган.* Пагост.

ШМОРОВА'ЦЬ *незак.* Шмараваць. *Усё седзіць вон ды шморýе нешчо ў блокноці.* Сямігосцічы.

ШМО'ЎДЗІНА *ж.* Бружмель. *Со шмоўдзіны зробіў чубукá.* Аздамічы.

ШМУГА'ЦЬ *незак.* Шмыгаць. *Сорока шмугае і скер-*

*гечэ.* Хачэнь. *Вона шмуг, шмуг перэд ім, а вон ек бу не бачыць.* М. Малешава.

ШМУ'РГАЛКА *ж.* Завостраны дубец, на які насаджваецца бульбіна для кідання. *На шмургалку картопель — да рэку перэлеціць!* Пагост.

ШМУРЭ'НЬЕ *н. зб.* Трэскі, смецце. *Кідаеш шмурэнье у печ, воно чуць горыць.* В. Малешава.

ШМЫ'ГАЦЬ *незак.* Шмыгаць. *От, шмыгаюць пчолы у лёто́к.* Аздамічы.

ШМЫГНУ'ЦЬ *зак.* Шмыгнуць. *Она шмыгну́ла — і шукай у лесе!* Хачэнь.

ШМЯ'КНУЦЬ *незак.* Кінуць на зямлю. *Ек шмякнуў вобзем, то мо й гілёхты оторваліса.* Пагост.

ШНАЛЬ *м.* Вухналь. Запясочча.

ШНІ'ПРЫ, ШЛІ'ПРЫ *мн.* Абчасаныя загатоўкі лесаматэрыялу. Велямічы. *Шліпры.* Альпень.

ШНУР *м.* Шнур. *На сто педзесят шнуроў перэбіра́ць умеём.* ЛутКі. △ У шнур. У адну лінію. *Вуж у шнур кладзе я́йца.* Кароцічы. *Памянш.* шнуро́к. *Шнурком прыўязвалі кудзелю.* Луткі.

ШНУРА'ЦЬ *незак.* Шнырыць. *Ку́гошнік не робіць, шнурue по рэцэ, запальвае хванарэ́.* Дварэц.

ШНУРОВА'ЦЬ *незак.* 1. Хадзіць уздоўж. *Вуйдзеш на двор, то воны шнуруюць туды-сюды.* Луткі. *Шнуроваць по вуліцы од хаты до маці і назад цэлы дзень будзе.* Там жа. 2. Рабіць аснову са шнуроў пры пляценні матаў. Чэрнічы.

ШНУРКО'М *прысл.* Гуськом. *Ек шлі хлопцы шнурком і голові не повернулі.* В. Малешава.

ШНУРО'ВУ *м.* Пільшчык, які стаіць зверху на сталюзе. Запясочча.

ШНЫ'КАЦЬ *незак.* Шнырыць. *А іх тут расплодзілосо, свіней, я сам бачыў дзве ста́дзі, такіе здороўцэ́, тольќо шныкаюць.* Старажоўцы.

ШНЫ'ПОРКА, ШНІ'ПОРКА *м.* і *ж.* Праныра, пралаза. *Ну й шніпорка ў мене малы: нічога од ёго́ не сховаеш.* Пагост.

ШНЫ'ПОРЫЦЦА, ШНІ'ПОРЫЦЦА *незак.* Шнырыць. *Нешчо я доўго ў хаце шныпоруса.* Дварэц. *Да і там вутву і шніпорыліса дзюбамі ў гразе.* Хачэнь. *І ўсе шніпорыцца, усе ла́пае по собе, шукае нагана.* Луткі.

ШНЫ'ПОРЫЦЬ, ШНІ'ПОРЫЦЬ *незак.* Тое ж. *Мы-*

*шы шныпорацъ у мекіні.* Хачэнь. *Дзеці шніпорацъ, маслюкі шукаюць.* Луткі.

ШНЫРО'ЎКА, ШНІРО'ЎКА *ж.* Шнуроўка. Альшаны.

ШНЫ'РЫЦЬ *незак.* Шнарыць. *Шнырыць по чужых картоплях, мо то ціплята позагўбвала.* Пагост.

ШО, ШЧО 1 *займ.* Што. *Шо воны там вўшукалі?* Хачэнь. *Ну шчо мне робіць?* Пагост. *Шо ж тобе жонка родзіла?* М. Малешава. *Шчо, дзеткі, тобе даць?* Хільчыцы. *Шо знае, то й скажэ.* Сямурадцы. *Намочыш полотнянэ шо і положыш на вайку.* Там жа. *Шчо стары скажэ на глум, то молодэ берэ на ум* (прыказка). Сямігосцічы. *Чого это ву ко мне ідзеце?* Бярэжцы. *А чому ж ву не пусцілі?* Там жа. *Шо я йшла? По муло йшла.* В. Малешава. *Шчо на свеці несуць на свадзьбу.* Аздамічы. 2 *злучн.* Што. *Не знаю, шо гэто.* Сямурадцы. *Не бойса того собакі, шо брэше, а того, шо нішком ходзіць* (прыказка). Там жа. *Пячэ ў ногі, шчо дзецца нема дзе.* В. Малешава. *А невестка не знала шо гэто за ліхо.* Хачэнь. *Шчо полетіть, так вужа і прынесе.* Рубель. *Шчо далей, горш і горш.* Кароцічы. 3 *часц.* Для ўзмацнення. *Шо добры вон буў!* Сямурадцы. *Воды шчо воды — морэ!* Луткі. *Шчо п'яніцы, п'яніцы воны!* М. Малешава.

ШОБ, ШЧОБ 1 *злучн.* Каб. *Шоб у ёгó лес, вóбшчэм, не ходзілі.* Бярэжцы. *Не було тóе весны, шчоб людзей не трэсла тая шэньдзя.* Сямігосцічы. *Шо ж таке? Шоб это така фамілія, ек мого чоловека?* Там жа. 2 *часц.* Каб. *Шоб ты шчэзла, господ дай.* Пагост. *Шоб это жонка да мэне біла так, ек дзіця! Не-е!* Кароцічы.

ШОЛО'ПІЦЬ *незак.* Кумекаць. *Его голова шолопіць, добрэ розбіраецца.* Аздамічы.

ШОЛУПА' *ж.* Шалупінне. *Шолупа з цыбулі добрэ красіць яйца.* М. Малешава.

ШО'ПА *ж.* Павець. *Шопа без сценок, крыша да ўсе.* Цераблічы. *У шопі возы стáўляюць, дрóві складáюць.* В. Малешава. *Шопа — там ставіць вóза, летом там сані, шоб не гнілі на дождж.* Луткі.

ШО'ПКА *ж.* Стрэшка над стажком. Альпень.

ШОПОЛО'НІК, ШУПОЛО'НІК, ШЫПОЛО'НІК *м.* Апалонік. *Шополонікі у лужах маленькіх, і не бачно тое воды, одно воны.* Дварэц. *Шуполонік.* Запясочча. *Шыполонік.* Там жа.

ШОРА'НКУ *прысл.* Кожны ранак. *Шоранку дзецям дае по баранку* (прымаўка). Хачэнь.

ШО′РГА *ж.* Моцны вецер. *Узела шорга аж вочы песком засыпае!* Аздамічы.

ШО′РГАЦЬ *незак.* Шоргаць. *Мы седзімо да шоргаемо* (нагамі). В. Малешава. *Вецер шоргае с-под хмары, дождж будзе.* Бярэжцы.

ШОРКА′ЦЦА *незак.* Варушыцца. *Той зуб шорка́ецца.* Альшаны.

ШО′РСТКІ *прым.* Шорсткі. *Чэрэпахі такіе шорсткіе!* Мачуль. *Шорстка трава цвёрда, коса не хочэ браць.* Альпень. *На вышэ́йшум месці лён шорсткі.* В. Малешава.

ШОРЫ′ГАЦЦА *незак.* Швэндацца. *Шо ты тут шоры́гаісса?* Сямігосцічы.

ШО′РЫШ *м.* Шарон. *Снег послі́ одлігі да моро́жчык, то вон стане шорыш.* Сямігосцічы.

ШОСТ *м.* Шост. *Вон веслом, я шостом — да ек бач лодку прыгналі.* Пагост.

ШО′ЎКАЦЬ *незак.* Шамкаць. *Шоўкаў, не говорыў чысто.* Сямурадцы.

ШО′ЎКО′ВІ′ЦА *ж.* Шаўкоўніца. *Шоўко́віца была красна, бела і чорна.* Буразі. *Усю шоўкові́цу нехто за ноч оборваў.* Верасніца.

Перад Вялікай Айчыннай вайной у Азяранскім лясніцтве раслі шаўкоўніцы і была арганізавана вытворчасць шоўку ў Азяранскай бальніцы. На выстаўку ў Маскву было саткана некалькі пар панчох і сцяг.

ШО′ЎКО′ВУ *прым.* Шаўковы. *Ек цвіце па́пороць да побачыш, як вона цвіце ў мінуту, то трэба накінуць шоўкову хустку, то ўсе будзеш знаць.* Луткі. △ Ш о ў к о́ в а т р а в а́. Дэкаратыўная трава з белымі падоўжнымі паскамі на лісцях. Бярэжцы.

Паводле традыцыі, гэта трава выкарыстоўваецца для набівання падушак нябожчыкам. Бярэжцы.

ШОХЛЮВА′ЦЬ *незак.* Шараваць, церці. *Кірпіч шохлюе одзін об одзін* (пры выкладванні пода ў печы). Верасніца.

ШО′ХЛЯ, ШУ′ХЛЯ *ж.* Малярыя. *Шоб на ёго́ напа́ла шохля!* (праклён). Запясочча. *Трэсе, подкідае, холодно, то ето шухля.* Хотамель.

ШПАК *м.* Шпак. *Шпаке́ по са́ду чэрвячкі збіра́юць.* В. Малешава. *Шпакі табунцэ́м собіраюцца осене́ю.* Альпень.

ШПАКО′ЎНІЦА *ж.* Шпакоўня. Запясочча.

ШПАКО′ЎНЯ *ж.* Тое ж. *Шпакоўню трэ поставіць.* За-

пясочча. *Б'юцца шпакі з вороб'ямі з-за шпакоўні.* Пагост.

ШПА'ЛА *ж.* Шпала. *Чэсáлі шпалы дубовые.* Аздамічы.

ШПАР *м.* Утора, прарэз у палатняным навоі. Кароцічы. Лінія стыку дошак у падлозе. Запясочча. *Памянш.* ш п á р ы к. Запясочча.

ШПА'РА *ж.* △ З а й ц í ў ш п á р ы (ш п а р). Закалоць ад холаду (пра рукі, ногі). *Як зайшлі ногі ў шпары, не можно вутрывац.* Запясочча. *Прáла я ў полонцы да здубелі палцы, у шпар зайшлі.* Пагост. Ш п а р ы з а й д у ц ь (з а х о д з я ц ь), ш п а р а з а х о д з і ц ь (з а й д з е). Пра паколванне ў пальцах рук і ног ад холаду. *Шпары зайдуць у рукі, не знаеш, дзе дзецца, шо робіць.* Верасніца. *Шпары заходзяць от морозу.* М. Малешава.

ШПАРКІ' *прым.* Шпаркі. *Конь шпаркі.* Любавічы.

ШПА'РКО *прысл.* Шпарка. *Бежыць шпарко дзед, а коліся вон церэз кýста перэскóчыў і конем не догналі.* Луткі. *Дзеркач не летае, а шпарко бегае.* Хотамель.

ШПАРО'ЎНІК *м.* Адборнік. Аздамічы.

ШПЕК *м.* Дзіцячая гульня. Аздамічы.

ШПЕ'НІК, ШПЕНЁК *м.* Хвосцік у гарбузе. *Одбіўса шпенік у горбузé.* Цераблічы. *Шпенёк.* Буразі.

ШПЕ'НТРЫ *мн.* Дзіцячыя штаны (тыпу камбінезона). Запясочча.

ШПЕНЬ *м.* Шпень. *Шпень подымае попрúцу у жорнах.* Хотамель. *На шпень наклáдваецца цылка.* Сямігосцічы. *Памянш.* ш п é н ь ч ы к. *Чорны горошок коле, ек шпеньчык.* М. Малешава.

ШПІ'ГА *ж.* Піка. *Така шпíга той ікол у кабана, шо дзерэво перэсечэ.* В. Малешава.

ШПІГНЕ'Р, ШПІГНА'Р *м.* Шкіпінар. *Шпíгнар дзержалі, хто дзеці годуе, то на сахар покáпне дай помоч од глістоў.* Луткі.

ШПІК *м.* Клей на слівах, вішнях. *Шпік емо, коб забавіцца.* Пагост.

ШПІ'КАР *м.* Назва гульні, падобнай да рускіх гарадкоў. *У шпікора гулялі — колок заб'ём, а на ём чэрэпóчэк лежыць, і збівáем.* Тураў.

ШПІЛЬ *м.* Востры бераг у рацэ, паўвостраў. *На шпілю «Ракета» прыстае.* Пагост. Рог вуліцы, рагавы дом. *На гэтом шпіле, то тут коваль жыў.* Чэрнічы. *Памянш.*

шпілік. *Дзе цебе ўзялі ў лодку? — От там, на шпіліку, прысталі ды і ўзялі.* Пагост.

ШПІ'ЛЬКА *ж.* 1. Шпілька. *Шпілька ў нас кажуць на булайку.* Луткі. 2. Калючка. *У язёх богато шпілёк.* Запясочча.

ШПЛІ'НТУС *м.* Плінтус. *До подлогі по краёх прыбіў шплінтуся́, бланку такую.* Аздамічы.

ШПО'НКА *ж.* Драўляны гузік у сарочцы. Альшаны.

ШПО'РА *ж.* 1. Шпора на нагах у пеўня. Запясочча. 2. Рагавы нарост на назе ў каня. Запясочча. *Шчыміць шпора коню.* Пагост.

ШПУ'ГА *ж.* Ігліца для змацавання дзвярных дошак. Хотамель. Шпунт для змацавання прасценка. *Шпуга і ў просценку е.* Бярэжцы.

ШПУГОВА'ЦЬ *незак.* Змацоўваць з дапамогай ігліцы. Хотамель.

ШОЛОПУ'Т *м.* Шалапут. *Шолопутом мене назовуць за тэ дзело.* Старажоўцы. *На свінье катаецца шолопут малы.* Пагост.

ШРАМ, ШО'РАМ *м.* Шрам. *После раны остаўса шрам.* Альпень. *Ек сколюц короў дна другу, то шарамы́.* Запясочча.

ШРАМОВІ'ТЫ *прым.* Са шрамамі. *Шрамовіты нос у собакі, кот раз драпенуў.* Пагост.

ШРОТ *м.* Шрот. *Е шрот, і дроб, і карцеч.* Хотамель.

ШРОЦІ'НА *ж.* Шраціна. *На вутву шроцін п'яць у потрон даю.* Пагост.

ШРУ'БА, ШУРУ'БА *ж.* Гайка. *Шрубу закруці!* Хотамель. *Шуруба — котора на конец во́сі закручваецца.* Там жа.

ШРУБСТА'К *м.* Вялікія кавальскія ціскі. Хотамель.

ШРЫҐ *м.* Вяроўка на плыце. *Шрыґ шырыґуе шырґо́ўшчік.* Хотамель.

ШТАБІ'НА *ж.* Пласціна, штаба. Луткі. Дошчачка з дзірачкай, у якую ўстаўляецца верхні канец млёна ў жорнах. Аздамічы. Дэталь у варотах. Хотамель.

ШТАКЕ'Т, ШТАХЕ'Т *м.* Штыкетнік. Запясочча.

ШТАКЕ'ТНІК *м.* Тое ж. В. Малешава.

ШТАКЕ'ЦІЦЬ *незак.* Гарадзіць. Сямурадцы.

ШТАНДА'Р *м.* Калодка ў фундаменце. *Штандары — колодкі, на которых строіцца дом.* Запясочча.

ШТАНДА'РА *ж.* Тое ж. *Печ на штандарах у мене*

*була.* Хотамель. *Дайней под хату ставілі дубовые штандары.* Аздамічы.

ШТАНДА′РЫНА *ж. экспр.* Тоўстая жанчына. *Поўзе штандарына, жыр еле цягне.* Верасніца.

ШТАНКІ′ *мн.* Пласцінкі пад шапкай у грыбах. *Печэрыцы ростуць по попасу, штанкі под нізом красненькіе, а зверху беленкіе.* Сямігосцічы.

ШТАНЫ′ *мн.* Штаны. *Воўчкі за штаны чэпляюцца, багато іх.* Старажоўцы. *Памянш.* ш т а́ н і к і́, ш т а н ц э́. *Ходзем, другіе шта́нікі наложым.* Сямігосцічы. *Булі колісь штанцэ́ полотняные, сорочкі тые по колено.* Цераблічы.

ШТАНІ′ШЧЭ *н. груб.* Штаны. *Начэпіць штанішчэ на ногі і трусіць!* Хачэнь.

ШТАПОВА′ЦЬ *незак.* 1. Весці дзве ніткі на снавалцы пры снаванні красён. *Дзве ніткі штапуе.* Луткі. 2. Абкідваць. Луткі.

ШТО′МЛЯ *ж.* Змрочны, панурысты чалавек. *І на «добры дзень» не отзываецца, от штомля!* Пагост.

ШТО′МЛІШЧЭ *н. груб.* Тое ж. *Сунецца, бу хмара чорна, штомлішчэ етэ.* Пагост.

ШТО′РМОМ *м.* Вялізнай чарадою, гуртам, хмараю. *Ек вуведуцца, подростуць, то што́рмом ходзяць тые качкі.* Кароцічы.

ШТРО′КНУЦЬ *зак.* Балбатнуць. *Штрокнуў не тэ, чорт за езык поцягнуў.* Цераблічы.

ШТРЫХО′ЎКА *ж.* Стрыхоўка. *У штрыхоўкі е рубчыкі і ручка.* Верасніца.

ШТУ′КА *ж. метаф.* Істота. *Рысь — то урэдна штука!* Запясочча.

ШТУРХА′Н *м.* Удар. *За косы рвала, штурханоў ногою надавала.* Чэрнічы.

ШТУ′РХА′ЦЬ, ШТЫ′РХА′ЦЬ, ШТЫ′ХАЦЬ *незак.* Штурхаць. *Вона шту́рхае, шоб я спевала.* Луткі. *Бацько дома шту́рхае — вучы́са!* Чэрнічы. *На возу́ шты́рхае, ек труско.* Аздамічы. *Вон шты́хае ее — не пі, а вона чарку ця́гне.* Мачуль.

ШТУ′РХНУ′ЦЬ, ШТЫ′РХНУ′ЦЬ, ШТЫРХАНУ′ЦЬ, ШТЫ′ХНУЦЬ *зак.* Штурхнуць. *Штурхну́ць мене, а далей дай ёго́ штурхну добрэ!* Верасніца. *Чо́боты рэзі́нову бояцца, дзе іх шты́рхнеш дай проб′еш.* Кароцічы. *Штырхану́ць.* Дварэц. *Шты́хнуць.* Альшаны.

ШТЫ′БАЛО *н.* Высокі, худы чалавек. *Ек екі велікі*

*чэловек, да такі подгалісты, то кажуць штыбало.* Аздамічы.

ШТЫБА'ЦЬ, ШТЫ'РБАЦЬ *незак.* Дыбаць. *Шчо вон робіць? Штырбае тоею козою по полі.* Цераблічы. *Блізко відаць, да далеко штыбаць* (прыказка). Аздамічы.

ШТЫКЕ'ЦІНА, ШТАКЕ'ЦІНА *ж.* 1. Адна планка ў плоце. Верасніца. 2 *перан.* Высокі, худы чалавек. *Выросла штыкеціна, штаноў не подберэш.* Верасніца.

ШТЫКІЛЯ'ЦЬ *незак.* Кульгаць. *Ек не гож, то йдзеш да штыкіляеш.* Пагост.

ШТЫЛ *м.* Спосаб, падыход. *Екім жэ шты́лом обробіць, надо роздумацца.* Сямігосцічы.

ШТЫЛЬ *м.* 1. Завостраны шост, калок, шпень. *Штыля́мі попіхаюцца, ек по Прыпеці пла́йляць го́нчкі.* Хачэнь. 2. Завостраны шпень. *У нас у одрэ́ штыле́ забівалі од медзве́дзей.* Луткі. *На том дубу́ у ветраку штыль, на том штыле было коло.* Цераблічы. *Дай штыль прыцісмаць прыміцу!* Хотамель.

ШТЫ'МБРЫ *мн.* Абчасаны лесаматэрыял, прыгатаваны для сплаву. Запясочча.

ШТЫХ *м.* Жалезная частка рыдлёўкі. *Ек копаў, то трэба було на одзін штых узяць, то там золото було.* Чэрнічы. *Гліны там на штых жэлезнека.* Сямігосцічы. △ З б і в а́ ц ь з ш т ы х у. Скіроўваць з правільнага шляху. *Не збівайце бабу з шты́ху!* Рубель. *Хочэ его з шты́ха збіць з-за крыво́ты.* Цераблічы.

ШТЭРДЭ'КАЦЬ *незак.* Гаварыць неразборліва. *От штэрдэкало, шчо не можно слова разобраць!* Пагост.

ШУГА'ЙЛО *н. метаф.* Вялікі вецер. *Шоб э́таке шугайло не було!* М. Малешава. *От узяўса шугайло, не повернуў бу стогі за рэкою!* Пагост.

ШУ'ГАЦЬ *незак.* Шугаць. *От шу́гае ве́цёр, шо не можно седзець!* М. Малешава.

ШУ'ГНУ'ЦЬ *зак.* 1. Шугануць. *Мороз з ветром ек шу́гне, то і кожух не нагрэе.* М. Малешава. 2 *перан.* Рэзка пабегчы, лінуць, успыхнуць, увайсці. *Маці сказала хату замесці, а вон шу́гнуў галяць.* Бярэжцы. *Тут ямо́к багато, не перебро́дзь, а то шу́гнеш у еку-небудзь да намочішса.* Пагост. *Учора два раз шугну́ло, і зноў прыбаўляе вода ў рэцэ* (пра дождж). Цераблічы.

ШУГОВА'ЦЬ *незак.* Шугаць (пра полымя). *Вона дрэма́е на кудзелі, хлопцы потпаляць, да тая кудзеля шугуе, не ўтушыш.* Пагост.

ШУ'ЕДЗЬ *ж.* Драбната. *Не картоплі, а шуедзь, дробна вельмі.* Аздамічы. *Этые старые не так, а та шуедзь ек набежыць, то за імі нічога не зловіш.* Лутікі.

ШУКА'ЦЬ *незак.* Шукаць. *Бацько другу́ мацер шукаць будзе.* Мачуль. *Е пчоляры шукаюць ліпу тоўсту.* Старажоўцы. *Не шукайце за водою, да напроціў воды.* Там жа. *Мы ж не ведаем куды іці шукаць.* Аздамічы. *У місцы здоровўя шукаюць!* (прымаўка). Запясочча. *Коб добрые грыбкі, то б елі і воўкі, а то м'яса шукаюць* (прыказка). Там жа. △ Ш у к а́ ц ь б у м а́ г о ю. Расшукваць пісьмова. *Давай ёго́ бумагою шукаць.* Старажоўцы. Ш у к а́ ц ь п р а́ в а. Дабівацца законных правоў. *Бу́дом шукаць свого права.* Луткі. Ш у к а́ ц ь р а́ д ы. Шукаць ратунку. *Вон жонцы рады шукаў.* Сямурадцы. Ш у к а́ ц ь с і л о́. Шукаць пагібель. *Сіло вон собе шукае.* Пагост.

ШУ'ЛА *ж.*, ШУ'ЛО *н.* 1. Шула. *Хлеў во ўсе шу́ла.* Хотамель. *Шула.* Аздамічы. 2 *перан.* Непаваротлівы чалавек. *Гета шула тобе повернецца, гледзі!* Верасніца. *Памянш.* ш у́ л к о, ш у́ л ц э. *У шулцэ засторонок робілі.* Луткі.

ШУЛЕ'ПА *м.* і *ж. экспр.* Недарэка. *От шулепа: показваў, показваў ёму́, як коні запрагаць, а вон ніяк не навучіцца.* Пагост. *Тоды шчо му знали, шуле́пу!* Хачэнь. *Ох, ты нерозборчыва шулепа, толкуй, толкуй, а воно не розбіраецца!* М. Малешава. *Ек я цепер шулепа, то мене стопталі б.* Луткі. *Ек оно гэтак гу́нуло, так я зробіласа шулепа.* Старажоўцы. *Памянш.* ш у л е́ п к а. *Шулепка ты малы, нічого не понімаеш.* Любавічы.

ШУ'ЛЕ'ПОВА'ТЫ *прым.* Прыдуркаваты. *Воны нейкіе шу́леповатые.* Сямурадцы. *Шулепова́ты ідзе так, абыкуды.* Луткі. *Шуле́поваты.* Запясочча.

ШУ'ЛЬМАН *м. экспр.* Дурань. *Шульман стары, шчо ты собе думаеш?* В. Малешава.

ШУЛЯ'К *м.* 1. Шуляк. *Шуляк ек леціць, то свішчэ.* Альшаны. *Шуляке́ — таке коршачкі мале́нькіе.* Цераблічы. 2. Рыхлы качан капусты. *Капуста не ўродзіласа, одные шулякі порослі.* Луткі. 3. Недарэка. *Ну й шуляк: коро́ву ў жыто ідуць, а вон іх не отворочáе!* Пагост. *І я, шуляк, послухала ёго́, поехала.* В. Малешава. *Шу́ля́к.* Пагост.

ШУЛЯКОВА'ТЫ *прым.* 1. Рыхлы, пуставаты. *Качан*

*нейкі такі шуляковаты.* Луткі. 2. Дурнаваты. *Шулякова́та была ў пана жонка* (з казкі). М. Малешава.

ШУЛЯЧЫ'ШЧЭ *н. груб.* Недарэка. *Ох ты шулячышчэ старэ!* М. Малешава.

ШУМ *м.* 1. Шум. *Ме́сіць хлеб, аж шум ідзе.* Альпень. 2. Пена. *Вон доіць скоро, то ў ёго́ шу́му поўно ведро.* Хачэнь. *Во гнаў коня, шчо пот шумом стаў.* Мачуль.

ШУ'МА' *ж.* Пена. *Шуміць варэнье, ек кіпіць, аж шума́ наверху́.* М. Малешава. *Шу́ма.* Рамель.

ШУМЕ'ЦЬ *незак.* Шумець. *Лес шуміць ілі на негоду ілі ве́цёр.* Бярэжцы. *У голове шумело.* Дварэц. *Ек шумяць жабы, то язе́ будуць біцца* (прыкмета). Аздамічы.

ШУ'МНОСТЬ *ж.* Шум. *Як солома сніцца, то шумносць, разговор будзе екі.* Луткі.

ШУ'МНЫ *прым.* Пакрыты пенай. *Шумны конь.* Хотамель.

ШУМО'ТА *ж.* Шум. *Шумота така от машын, спокою нема!* М. Малешава.

ШУ'ПІЦЦА *незак. экспр.* Шчасціць. *Ек толькі мне шупіцца, то й людзі помогаюць.* Хачэнь.

ШУПЛЁВА'ЦЬ *незак.* Перабіраць. *Гледзі, гледзі: ніешчо і воно шуплю́е* (пра дзіця). Тураў. *Шуплююць вутву́ ў дне, есці шукаюць.* Пагост.

ШУПЛЯ'К *м.* 1. Рыхлы качан капусты. *З твое росады, суседко, у мене одные шуплякі порослі.* Пагост. *Як капуста вуросце мяккая, у качаны не ўецца, то зовуць шупляк.* Запясочча. 2 *перан.* Слабы на здароўе або розум чалавек. *Там не хлопец, а нейкій шупляк.* Тураў.

ШУ'ПТА *ж.* Спадніца з баваўнянай або льняной тканіны. *Шупта — то юбка.* Хачэнь.

ШУ'РА *ж.* Круглы капец з бульбай. *Мі кажэмо шура, а некоторые кажуць копец для бульбі.* Сямігосцічы. *Кулём опстаўляем картоплі ў шуры і засыпаем землёю.* Там жа.

ШУРА'К *м.* Швагер. Альшаны.

ШУРА'ЦЬ *незак.* Шпурляць. Пагост.

ШУ'РГА *ж.* Дождж з ветрам. Аздамічы.

ШУ'РГАЦЬ *незак.* Шургаць, моцна дзьмуць парывамі. *Ве́цёр шургае, аж б'е по хаці.* Пагост.

ШУ'РКА *ж.* Укладка дроў у лесе. *Дзве шуркі дроў стоіць на той Дзедовой горэ.* Хачэнь. *Цэлая шурка дроў згорэла.* Азяраны.

ШУРПА' *ж.* Неахайная жанчына. *Вона нека шурпа́,*

*нек вона собе накомéхаецца — сподніца гэ, косы гэ.* Цераблічы.

ШУСТРА'К *м.* Шустры лаўкач. *Шустрак буў дядько!* Альпень.

ШУ'СТРО *прысл.* Шустра. *Шоб буў спокойны, шоб шустро не ўцекаў.* Хотамель.

ШУ'СТРЫ, ШУ'ЙСТРЫ *прым.* Шустры. *Шустры конь, не ўдзержыш!* Аздамічы. *Ля́сіца бéленька ек снег, вона вельмо шустра.* Сямігосцічы. *Шустра корова поперэд ідзе за ўсе стадо.* Цераблічы. *Шуйстры.* Старажоўцы.

ШУТ *м.* Штукар. *Ці вы не ведаеце, екіе людзі шуты́?* В. Малешава.

ШУТ-ШУТ-ШУТ, ШУ'ТА-ШУ'ТА-ШУ'ТА, ШУ'ТА-ПА'ПА, ШУ'ТКІ-ШУ'ТКІ-ШУ'ТКІ, ШУ'ТОЧКА-ШУ'ТОЧКА-ШУ'ТОЧКА, ШУ'ТОЧКІ-ШУ'ТОЧКІ-ШУ'ТОЧКІ, ШУ'ТУ-ШУ'ТУ-ШУ'ТУ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць авечак. *Шут-шут-шут, пошлі ў хлёў!* Запясочча. *Шута-шута-шута, коб вас воўкі поелі!* М. Малешава. *Шута-папа, ідзі ко мне!* Там жа. *Шуткі-шуткі-шуткі, йдзець у кошару!* Азяраны. *Шуточка-шуточка-шуточка, пошла домоў!* Хачэнь. *Шуточкі-шуточкі-шуточкі, жэні іх на двор!* Азяраны. *Зові овéчок шуту-шуту-шуту, а я подгоню!* Сямігосцічы.

ШУТКОВА'ЦЬ *незак.* Жартаваць. *Стары чоловек буў інцерэсны, до того шутковаў!* Хачэнь.

ШУ'ТЫ *прым.* Бязрогі. *Шýта е вечка, шута е корова.* М. Малешава.

ШУ'ХЛІК *м.* Друшляк. *Цэдзілі варэнье з яблык на шухлік, то было хорошэ.* Дварэц.

ШУЦЕ'ЗНЫ *прым.* Жартаўлівы, вясёлы. *Шуцезны разговор!* Дварэц.

ШУЦІ'ЦЬ *незак.* Жартаваць, кпіць. *Я шучу з хлопца, а воны думалі праўда.* М. Малешава.

ШУ'ШКАЦЦА *незак.* Апранаць на сябе шмат. *Шушкаюс, шоб не змерзці.* Пагост.

ШУ'ШМАЛО *н.* Няўклюда. *Бацько ёгó шушмало, а вон не ў бацьку удайса.* М. Малешава.

ШУШНА'ЙКО *н.* Вахлак. Луткі.

ШУШУЯ' *ж.* Шалупінне. *Шушуя остаецца з семені, ек олей ціснуць.* Мачуль.

ШУЯ' *ж.* Тое ж. Мачуль.

ШЧА'ВЕР, ШЧАВЕ'Й *м.* Шчаўе. *Шчавер росце на мурозé.* Альпень. *Як весна, то дожыдаюць, шоб шчавер*

*які вурос.* Дварэц. *Шчавер зарэ у огородзі сеём.* Старажоўцы. *Шчавей.* Тураў. △ С в о́ й с к і (д з і́ к і, л ю́ ц к і) ш ч а́ в е р. Шчаўе. Сямурадцы. К о́ н ь с к і ш ч а́ в е р. Конскае шчаўе. *Шчавер коньскі е, его не едзяць.* Старажоўцы. В е р а б ' ё ў, в о р о б е́ й к о ў ш ч а́ в е р. Палявое шчаўе. *Е свойскі шчавер, ко́ньскі шчавер, а на полі — вераб'ёў.* Бярэжцы. З а́ й ч ы к о ў ш ч а́ в е р. Кісліца. *Зайчыкоў шчавер той дробненькі, трохі кісленькі.* Сямурадцы.

ШЧАВЕРОВА'ЦЬ *незак.* Рваць шчаўе. *Му наклалі куро́дыму, а самі пошлі шчаверовать.* Верасніца.

ШЧАВІ'ЦЦА *зак.* Раздавіцца. *Шчавіліса помідоры ў торбі.* Пагост.

ШЧАВІ'ЦЬ *зак.* Здавіць. *Набра́клі ціцке́, то й трэбо шчавіць.* Аздамічы.

ШЧА'ВУ' *прым.* Кіславаты. *Шча́вэ молоко, ёго́ не можно есці.* Рубель.

ШЧАДЗІ'ЦЬ *незак.* Ашчаджаць. *Вон шчадзіць, не роскі́дае абы-як.* Луткі.

ШЧАСЛІ'ВІЦЦА *незак.* Шчаслівіцца. *Дзед на су́сі поймаў бы, ему шчаслівіцца рыба.* Цераблічы.

ШЧАСЛІ'ВО *прысл.* Шчасліва. *Шчаслівое пуце́!* Пагост. *Памянш.* ш ч а с л і́ в е н ь к о. Пагост.

ШЧАСЛІ'ВУ *прым.* Шчаслівы. *Як на весельe дождж ідзе, то будзе шчасліва молода́* (павер'е). Старажоўцы. *Хто багаты, то шчасліву.* Там жа.

ШЧА'СНЫ *прым.* Тое ж. *Не родзіса красны, да родзіса шчасны* (прымаўка). Сямурадцы.

ШЧА'СЦЕ *н.* Шчасце. *Без шчасця і ў грыбі не йдзі!* (прымаўка). Сямурадцы. *Нема шчасця ў ле́цях, не будзе ёго́ ў дзе́цях* (прыказка). Там жа. *Як шчасце носілі, то я спала, а як красоту́ носілі, то я ўстала* (прымаўка). △ З о г н я́ н о г о д а ў п о л о м ' я́ н э ш ч а́ с ц е. Пра бяздолле. *Плохе́ ў ее шчасце. Пошла замуж, да пожыла з год, да чоловек умер. З огняного да ў полом'янэ попала.* М. Малешава.

ШЧАСЦІ'ЦЬ *незак.* Шчасціць. *Шчасціць ёй на зяцёў.* Пагост.

ШЧОВЕ'К *прысл.* Спрадвеку. *Наш род шчовек тут жыве.* Пагост.

ШЧОВЕ'СНУ *прысл.* Кожную вясну. *Бывае там шчовесну у госцях.* Аздамічы.

ШЧОГО′ДУ *прысл.* Штогод. *У нас шчогоду добайляецца зароботок.* Хотамель.

ШЧОДЗЕ′НЬ *прысл.* Штодзень. *Мінск нáбуць шчодзень ходзіць айтобус.* В. Малешава.

ШЧОДРОВА′ЦЬ *незак.* Шчадраваць. *Я шчэдрýю, коўбасу чую* (з шчадровак). Аздамічы. *Шчэдруюць пэрэд Новым годом.* Цераблічы.

ШЧО′ДРЫ *прым.* △ Ш ч ó д р ы в é ч о р. Вечар перад Новым годам. *Добры вечор! Шчодры вечор! Дайце колядкі, коб коровы булі гладкі!* (з шчадровак). Альшаны.

ШЧОДРЫКОВА′ЦЬ *незак.* Шчадраваць. *Жэрэб'ята запрагáюць у сані да шчэдрыкуюць.* Пагост.

ШЧОДРЫ′ЦЦА *незак.* Памнажацца пасля шчадраца. *У нас на шчэдрэц беруць сено і грошы кладуць на стол под скацерць, шоб сено і грошы шчэдрыліса.* Верасніца.

ШЧОДРЭ′Ц *м.* Шчадрэц. *Шчэдрэц шчэдруюць перэд Новым годом.* Цераблічы. *На Нову год, на шчэдрэц пеклі ладкі.* Запясочча. *Прыдзе шчодрэц, то й зіме конец.* Бярэжцы. *Як я вумету смецье да вýсыпу ў горóд на шчэдрэц, то у его зелье будзе росці.* Луткі.

Існавала павер'е, што на *шчэдрэц* трэба занесці пустазелле на чужы агарод, то на сваім яго не будзе.

ШЧОДРЭ′ЧНІК *м.* Шчадроўнік. *Шчодрэчнікі ходзяць под Новы год.* Мачуль. *Шчодрэчнікі спеваюць, як запросіць хозяін у хату.* Сямігосцічы. *Хлеба пеком шчэдрэчніком навек.* В. Малешава.

ШЧОДРЭ′ЧНЫ *прым.* Шчадрэчны. *Шчэдрэчна куцья.* Альшаны.

ШЧОКА′ *ж.* Сценка ў печы паміж подам і прыпéчкам. *Постаў за шчоку горшка.* Цераблічы. Сценка ў борці. *Медзведзь оторваў шчокі і выеў мед.* Аздамічы. Бакавая сценка ў церніцы. *У бойцы, шо лён б'юць, е ножкі, езычок і шчокі.* Запясочча.

ШЧО′КАЦЬ *незак.* Вымаўляць займеннік *шчо* замест *што. Да вона ж хочэ по-рускі говорыць, вона не хочэ шчокаць.* Мачуль.

ШЧОКОТУ′РЫЦЬ *незак.* Мазаць рэдкай глінай з пяском пасля тынкоўкі. *Хату тынкуюць, а поверх шчыкотурáць рэдкою гліною.* М. Малешава. *Шчэкотýрыц.* Запясочча.

ШЧОЛО′БОК, ШЧОЛУ′БОК, ШЧОЛО′ПОК *м.* Не-

вялікая ўзвышаная мясціна, выспа. *На геты о горбунéц, шчолóпок селіліса людзі* (пра заяцельскую выспу). Тураў. *Шчолóбок.* Тураў. *Такіе шчолубкі, грудкі такіе, кругом вода.* Луткі. *Шчолóпок.* М. Малешава. *Памянш.* шчолóпочэк *м.*, шчолýбочка *ж.* *Далі шчолопочэк землі.* Тураў. *Шчолýбочка така травы останецца* (як усё навокал вадой залье). Луткі.

ШЧОНО'Ч *прысл.* Кожную ноч. *Шчоноч не сплю.* Пагост.

ШЧОПСЦІ'НА *ж.* Шчопаць. *Озьмі шчопсціну солі!* Сямігосцічы.

ШЧО'ПТА' *ж.* Тое ж. *Шчоптý солі ўзяў да кінуў у горшчок.* Любавічы.

ШЧОСЬ *займ.* Штось, штосьці. *Дай шчось пожоваць ёмý.* Пагост. *Доўго шчось-то нема з работы.* Сямігосцічы.

ШЧО'ТКА *ж.* 1. Шчотка. *Шчотка, ею коні чысцілі.* Цераблічы. 2. Шчотка для ачысткі льну. Хотамель. 3. Валік у ваўначосцы. Запясочча. 4. Рад калодак у фундаменце. *Стоіць хата на шчотцы, а не на подмурку.* Аздамічы. 5. Рад паляў у плаціне. Хачэнь. 6. Рад дошак, забітых у зямлю за скрыняй у калодзежы. *Ужэ ек поставяць скрыню, тогды б'юць шчотку.* Буразі. 7. Сівец. *Шчотка е така трава, пропадзеш, пока скосіш!* Рубель. *Де зэмля глеёвата, то шчотка росте.* Там жа. 8. Шчотка на назе ў каня. *Шчотка закрывае копыто.* Альпень.

ШЧОТЫ'ЖНЯ *прысл.* Кожны тыдзень. *Шчотыжня баня ў нас.* Хотамель.

ШЧУ'КА *ж.* Шчупак. *Короўка на вéрос, а шчука на нерэст* (прымаўка). Хачэнь.

ШЧУПА'К *м.* 1. Шчупак. *Нашые шчупакі тонкіе, а то нейкіе куцэвáтые.* Запясочча. 2. Удзельнік гульні *у камянцы,* які не выйграў. *Хто остаецца, той шчупак, ёгó усе разом шчыпáюць.* Сямігосцічы.

ШЧУ'ПЛЫ *прым.* Шчуплы. *От ужэ ў колхозі ведлуг летошнего не ўвесь уроджай собралі, шчýплэ зерно.* Чэрнічы.

ШЧУР *м.* Пацук. *Шчур велікі, сіву, хвост велікі й грызецца с котом.* Бярэжцы. *Мокры, шо шчур.* Рычоў. *Сухі, ек шчур.* Аздамічы.

ШЧУХА' *ж.* Пропуск ніткі ў бёрдзе. *Шчуха, ек одну нітку мінём, одну трысціну мінём, не накідáём.* Цераблічы.

ШЧУ'ЧА *ж.* Сала, мяса (у размове з дзецьмі). *Мо хочэш шчучы?* Альшаны.

ШЧЫБРА'ВУ *прым.* Шчуплы, шчыгульны. *Я була така шчубрава, а пошла замуж — розросласа.* М. Малешава. *Шчыбраву чоловек, у ёго ўсе на месці, не опушчэны.* Рыдча. *Памянш.* шчыбра́венькі. М. Малешава.

ШЧЫ'БРЫ *прым.* Тое ж. Запясочча. *Памянш.* шчы́брэ́нькі. *Шчыбрэнькі мой плем'янік.* Рыдча.

ШЧЫ'ГА *ж.* Скіба, луста. *Шчыга така, нельга побіць!* Лут.кі. *Збіў дождж горо́да — одна шчыга!* Рыдча. *Шчы́га — груд, перэве́рнецца да стоіць.* Альгомель. *Сала одрэжэ шчыгу добру дай гроша не озьме́.* Там жа.

ШЧЫГУ'ЛЬНО *прысл.* Дакладна, строга. *Шчыґульно мерае соткі крынджо́ламі.* Луткі.

ШЧЫГУ'ЛЬНЫ *прым.* Шчыгульны. *Усе шчыгульные такіе мужчыны.* Верасніца. *Шчыґульное на ёй плацье.* Луткі. *Памянш.* шчыґу́льненькі. *Усе шчыґу́льненькіе такіе у ее браты.* Верасніца.

ШЧЫ'Ж'Е, ШЧЫ'ЗЬЕ *н. зб.* Скібы, лусты. *Однэ шчыж'е с-под плуга. Ека холера там вуросце на том шчыж'і!* Дварэц. *Той год лу́чша пашня́ на шчыж'і, як поорэ́цца.* Рубель. *Этому шчыж'ю рады не дасі.* Там жа. *У ёго́ на дзялцы шчызьe, шчыга, грудзьe веліке!* Запясочча.

ШЧЫ'ЖЫНА *ж.* Скіба, луста. *Такіе на полі шчыжыны, шчо рады не дасі.* Рубель.

ШЧЫК *м.* Верх, вершаліна. *На саму шчык залез.* Запясочча. *Поваліў дзерэво да до самого шчыка оцерэбіў.* Пагост. *На самом шчыку́ хвоі кубло́ е.* Дварэц.

ШЧЫ'КА'ЦЬ *незак.* Шчыкаць. *Да ее столькі шчы́каў, да вона на одных чэрнеко́х!* Верасніца. *Як блоха шчыка́е, то не улежыш.* Старажоўцы.

ШЧЫКНУ'ЦЦА *зак.* Шчыпнуць. *Жук шчыкнецца, аж подскочыш!* В. Малешава.

ШЧЫКНУ'ЦЬ *зак.* Ушчыпнуць. *Жук ек шчыкне, то аж схопісса.* В. Малешава.

ШЧЫ'КОВІЦА *ж.* 1. Парасткі травы вясною. *Шчыковіца, кажуць, ек весною па́ша росце!* Цераблічы. 2. Верхавіна. *Шчыковіца — саму верх дзерэва.* Запясочча. 3. Адкрытае высокае месца. Тураў. 4 *перан.* Добрая жыццёвая пуцявіна. *Выйшоў на шчыковіцу ужэ мой сын.* Запясочча.

ШЧЫ'КОЛОДКА *ж.* Сустаў на пальцы. *Шчыколодкі на руцэ боляць.* Цераблічы.

ШЧЫ'КОЛОДОК *м.* Тое ж. *Шчыколотка обобіў.* Альшаны.

ШЧЫ'ЛІНА *ж.* Шчыліна. *Шчыліна, ек расколецца дзе.* Луткі. *Памянш.* ш ч ы́ л і н к а. *Недзе ў шчылінку упало.* Хачэнь.

ШЧЫ'ЛКА, ШЧЫ'ЛЬКА, ШЧЭ'ЛЬКА *ж.* Тое ж. *Шчылка ў дзверáх, шчо навулёт свеціцца.* Альшаны. *Снег у шчыльку шыецца, ек отліга.* Луткі. *Зламану голку закідаюць у шчэльку.* Сямігосцічы. *Гэтые косы у печ кідалі, або у шчэ́лькі екіе дзе-небудзь ховалі, шчоб не валяліса.* Хачэнь. *Памянш.* ш ч ы л е ч к а. М. Малешава.

ШЧЫ'ЛКО *прысл.* Шчыльна. *Лáзбін шчылко построяць, у серэ́дзіні чысто, хóрошэ.* Сямігосцічы.

ШЧЫ'ЛНО' *прысл.* Тое ж. *Хата зроблена шчылно, не трэба і мох.* Луткі. *Трэба, шоб шчылнó сало легло ў яшчыку, бо ек нешчылнó, то попсуе́цца.* Талмачава.

ШЧЫ'ЛНЫ' *прым.* Шчыльны. *Шчылны плот, ані не ўлезе ў огород!* Луткі.

ШЧЫ'ЛЯ' *ж.* Шчыліна. *Трэба забіць шчы́лю.* Аздамічы. *Коб ты лежаў і лежаў, ек прус у шчыле́!* В. Малешава.

ШЧЫМЕ'ЦЬ *незак.* Шчымець. *Мое ногі попухлі да шчым'яць.* Мачуль. *Шчыміць зуб, почынае болець.* Бярэжцы.

ШЧЫНІ'ЦЬ *зак.* Змесці мятлою або згрэбці граблямі рэшткі саломы з зерня пасля малацьбы. Цераблічы.

ШЧЫНЯ'ЦЬ *незак.* Змятаць мятлою або зграбаць граблямі рэшткі саломы з зерня пасля малацьбы. *Помолоцілі жыто да ужэ трэбо шчыняць.* Луткі.

ШЧЫПА'К *м.* Маленькі жучок, які моцна шчыпаецца. *Шчыпак — такі жучок чорненькі, кусае часом, як залезе ў чóбот.* Сямігосцічы. *Шчыпак больно шчыпае.* Луткі.

ШЧЫПА'ЦЬ *незак.* 1. Шчыпаць. *Порося морожóк шчыпае.* М. Малешава. *На болоні гусі траву шчыпаюць.* Азяраны. *Рукáмі шчыпай по однéнькой ягодцы.* Верасніца. *Не шчыпай за чэрэво!* Запясочча. 2. Пячы, пашчыпваць. *Раны шчыпле.* Аздамічы.

ШЧЫПНУ'ЦЬ *зак.* Шчыпнуць. *Шчыпне так, шо больно!* Запясочча.

ШЧЫПУ'ЧЫ *прым.* Ураджайны. *Растуць памідоры велікіе, але шчыпучые.* Луткі.

ШЧЫ'ПЧЫК *м.* Чэпчык. *Завіва́ночка-шэ́льма, да ўсю свою ко́сочку сцерла, сцёрла, зом'яла да под шчыпчык сховала* (з вясельнай песні). Хачэнь.

ШЧЫР *м.* Аксамітнік. Пагост.

ШЧЫ'РО *прысл.* Шчыра. *Ты побач, як воны шчыро плачуць, слёзы, ек з бобра́, сыплюцца!* Хачэнь.

ШЧЫ'РОСЦЬ *ж.* Шчырасць. *Вон не маў шчыросці ў робоці.* Старажоўцы.

ШЧЫ'РЫ *прым.* Шчыры. *От шчы́рое душы́ ро́біць.* Запясочча. *Шчыры, хто робіць по праўдзі.* Луткі. *А шчырого й чорт берэ* (прымаўка). Сямурадцы. △ Ш ч ы́ р а н о ч. Уся ноч напралёт. *Свеціцца, свеціцца ноч шчы́ру!* (пра бліскание маланкі). Хачэнь.

ШЧЫТ *м.* 1. Франтон. *Подшылі шчыта́ до́шкамі.* Хотамель. *Курны́е хаты́ булі без столі і таксамо со шчыто́м.* Сямігосцічы. *Шчыт на тры клеткі робіцца ў хаце, а одзінарны шчыт — у одрыні.* Аздамічы. *Памянш.* ш ч ы т о́ к. Бярэжцы. 2. Вільчык. *На са́мом шчыту́ буські стояц.* Запясочча.

ШЧЭ, ШЧЫ *прысл.* Яшчэ. *Елі, елі сало і шчэ остало́со.* М. Малешава. *Як там твое бацькі жывуць, шчэ ходзяць трохі?* Пагост. *Богатыро́м, дак шчэ больш далі!* Бярэжцы. *Я б і цепер шчэ вуткала ту рого́жу.* Сямурадцы. *Дзед шчэ жыву́? — Шчэ!* Запясочча. Яшчэ не. *Скоро год? — Шчэ.* Хачэнь.

ШЧЭ'БЕЛЬ *м.* 1. Ліст вашчыны, які чапляецца на кожны зуб у борці. Мачуль. 2. Шчэбень. Кароцічы.

ШЧЭ'БЕТ *м.* Шчэбет. *Такі шчэбет, шо не чутно нічого ў лесі!* Хачэнь.

ШЧЭБЕТА'ЦЬ *незак.* Шчабятаць. *На дворэ вороб'е шчэбе́чуць.* Хачэнь.

ШЧЭБЕТУ'Н *м.* Шчабятун. *Такі буў шчэбетун да говорун хорошы!* Хачэнь.

ШЧЭ'ЛЕПІНА *ж.* Сківіца. Запясочча.

ШЧЭ'ЛЕПУ *мн.* Сківіцы. *Хоцеў заспеваць, да вускочылі шчэлепу, да такого розяўленого і поперлі ў больніцу.* Луткі. *Шчэ́лепі — этые косці, дзе зубі седзяць.* Хотамель.

ШЧЭНІ'ЦЦА *незак.* Шчаніцца. *А наша су́ка шчэніцімецца скоро.* Аздамічы.

ШЧЭ'ННАЯ *ж. прым.* Шчэнная. *Сучка другі раз шчэнная.* Верасніца.

ШЧЭНЯ' *н.* Шчаня. *Дзве недзелі шчэнята поўзалі слепу́е.* Верасніца.

ШЧЭПА'ЦЬ *незак.* Шчапаць. *Шчэпаю лучыну, шоб зага́рваласа.* Пагост.

ШЧЭПІ'ЦЬ *незак.* Прышчэпліваць. *На чотыры сорты шчэпіць хто одну грушу!* Сямігосцічы.

ШЧЭ'ПКА *ж.* Трэска. *От гэтой шчэпкой, шчо гром одбіў, поколупай зуба, то ўсей зуб покры́шэцца* (павер'е). Хачэнь. *На перэклады кладом дрова, шоб можно подсунуць шчэпку.* Сямурадцы.

ШЧЭ'ПЛЕНКА *ж.* Прышчэпа. *Шчэпленкі — то ўжэ садовые яблуні.* Хачэнь.

ШЧЭ'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Прышчэплены. *Уродзі это воспа шчэпленая.* Запясочча.

ШЧЭ'РБА *м.* і *ж.* Шчарбаты чалавек. *Вон от бо́ёк шчэрба.* Пагост.

ШЧЭРБА'ТЫ *прым.* Шчарбаты. *Шо зубоў нема, то шчэрбата.* Запясочча. Вышчарблены. *Гірка шчэрбата.* Сямурадцы. *Нікому не горэ, ек тому горшчэчку дай шчэрбатому. Горшчык кіпіць, а водзіца бежыць дай скрозь дзірочку* (з песні). Сямурадцы.

ШЧЭРБА'Ч *м.* і *ж.* Шчарбаты чалавек. *Шчэрбач у сорок зробіўса.* Пагост.

ШЧЭРБЕ'Й *м.* і *ж.* Тое ж. Сямігосцічы.

ШЧЭ'РБЕЛЬ *м.* і *ж.* Тое ж. *От ста́ры шчэрбель, а шчэ молодзі́цца!* Верасніца.

ШЫ'БА *ж.* Шыба. *Шыба — то сцекло ў вокне.* Кароцічы.

ШЫБА'ЦЬ *незак.* Кідаць. *Не шыбай, бо кого по голове удырыш.* Запясочча. *У страх шыбае, як ту песню поюць!* Хачэнь.

ШЫ'БЕЛЬНІК *м.* Шыбенік. Аздамічы.

ШЫ'БЕЛЬНІЦА *ж.* Шыбеніца. *Поперэд бацька на шыбельніцу не лезь!* (прымаўка). Верасніца.

ШЫ'БКА *ж.* Шыбка. *Побілі дзеці шыбку у клубі.* Цераблічы. *У вокне шыбка побіласа на дробны мак!* Луткі. *Памянш.* ш ы́ б о ч к а. *У сцене було окно по дзве шыбочкі.* Кароцічы.

ШЫ'БКІ *прым.* Шыбкі. Сямурадцы.

ШЫ'БКО *прысл.* Шыбка. *Шыбко ходзіць на роботу.* Луткі.

ШЫ'ВАНКА *ж.* Хустка, пашытая з тканіны. *Еку заўяжу шыванку, та й добрэ будзе.* Луткі.

ШЫ'ВЕЛЬНЯ *ж.* Вышыванне на спадніцы. *Шывельню поўшывала у боках на сподніцы.* М. Малешава.

ШЫГ *м.* Шыгалле. *Шы́гу багато на хвойніку.* Аздамічы.

ШЫ'ГА *ж.* Тое ж. *Поўны кордю́к одно́е шыгі у глушца́.* Запясочча. *Шыга́ з хвойніку падае.* Хачэнь.

ШЫГА'ЦЬ *незак.* Выкідваць уверх рукі. *Калі танцуем козу, то шыгаем рукамі.* Бярэжцы.

ШЫ'ДЗІЦЬ *незак.* Кпіць. *Шо ві мене шы́дзіце. Там, дзе я прошоў, там вам не буць!* В. Малешава. *З ёго так шыдзяць.* Луткі. *Там у моей сестры той дзед Сцепан шыдзіць.* Цераблічы.

ШЫ'КАЦЬ *незак.* Шыпець. *Коты дзікіе шыкаюць.* Луткі. *Гадзюка шыкае.* Там жа. *Так і шамацяць прусы по сценах, шыкаюць.* Кароцічы.

ШЫКІРДА' *м.* і *ж.* *экспр.* Той, хто неразборліва гаворыць. Пагост.

ШЫКІРДА'ЦЬ *незак.* *экспр.* Неразборліва гаварыць. Пагост.

ШЫ'КОТНЯ *ж.* Гадзюкі, вужы. *Е гэтой шыкотні ў болотáх!* Аздамічы.

ШЫ'ЛО *н.* Шыла. *Верх тонкі, бы шыло* (пра дрэва). Сямігосцічы.

ШЫЛОВА'ТЫ *прым.* Шылаваты. *У гэтого дзерэва шыловаты верх.* Аздамічы. *Шыловаты кабанчык, бо мало есць.* Там жа.

ШЫ'ЛЬГІНА *ж.* Шашаль. *Шыльгіна проесць усе дзерэво.* Альшаны.

ШЫ'ЛЬНЕГА *ж.* 1. Шашаль. Альшаны. 2. Дзірачка ў бочцы, праз якую працякае вада. Альпень.

ШЫ'ЛЬНІК *м.* Шашаль. *Шыльнік хату збіў.* Сямурадцы.

ШЫЛЬНЯ'К, ШЭЛЛЯ'К *м.* Тое ж. *Шыльняк поеў сцену.* Кароцічы. *Шэльняк — ек одзін, а ек багато, то ша́шэль поела да порохно сыплецца.* Цераблічы.

ШЫЛЬПА'К *м.* Тое ж. Аздамічы.

ШЫЛЬЧА'К *м.* Тое ж. *Шыльчак вінціць дзерэво, і порохно сыплецца.* В. Малешава.

ШЫЛЮГА' *ж.* Шалупайка. *Шылюга́ — то́ лускі з пшэніцы, з проса.* Цераблічы.

ШЫЛЯ'К *м.* Шашаль. *Шыляк дзерэвіну сточыў.* Луткі.

ШЫ'МОРЫЦЦА *незак.* Непакоіцца (пра дзіця). Рубель.

ШЫ'НА *ж.* Шына. *Шыны робілі ў кузні.* Верасніца.

ШЫП *м.* 1. Гронка. *Шіп орэ́хоў на орэ́шніку нашоў.* Пагост. 2. Шып. *Шып у прасценку е.* Бярэжцы.

ШЫПА' *ж.* Гронка. *Шыпа орэхоў.* Хотамель.

ШЫПА'К, ШУПА'К, ШЫПЯ'К, ШЧЫПА'К *м.* Тое ж. *Такіе шыпакі вісяць каліны!* Сямурадцы. *Шыпакі тые ставяць у печ і орэхі вупрэваюць.* Луткі. *Жменей нельга обгорнуць шыпака́.* Альшаны. *Орэхі ростуць шупока́мі.* Запясочча. *Шыпя́к.* Там жа. *Шчыпа́к.* М. Малешава. *Посядуць на ве́тлы шыпакамі жукі да гуду́ць.* Дварэц.

ШЫ'ПА'Х, ШУПА'Х *м.* Тое ж. *Орэхо́ў мно́го у одном месці — то шыпа́х.* Любавічы. *Ой, вішэ́нь было, то шыпоха́мі целепаха́ліса!* В. Малешава. *Яблукі прамо шіпахамі вісяць!* Хотамель. *Памянш.* ш ы́ п а ш о́ к. *Брусніцы краснымі шы́пашкамі ростуць.* Любавічы. Ш у п а ш о́ к. Запясочча. Ш ы́ п о ч к а *ж.* *Каменіцы шыпочкамі ростуць.* Запясочча.

ШЫПУ'ЛЬ *м.* Камяк. *На самом верху́ шыпуль седзіць вусені.* Сямурадцы.

ШЫПШЫ'НА *ж.* Шыпшыннік. *У нас одну шыпшыну затыкаюць у дзверы перэд Купалным Іваном, шоб ведзьмы молоко доіць не йшлі* (павер'е). Луткі. *Як абу-екі чоловек, хворы, то шыпшыну п'юць.* Хачэнь.

ШЫ'ПШЫ'ННІК *м.* Тое ж. Хачэнь.

ШЫРОКОПЛЕ'ЧЫ *прым.* Шыракаплечы. Альпень.

ШЫРОЧЫНА' *ж.* 1. Шырыня. *Рашшэўкі на два пальцы шырочыны на подоле робіліса.* Запясочча. 2. Вялікая шырыня. *На Днепрэ шырочына!* Пагост.

ШЫ'РМА *ж.* Шырма. *Зацегла́ шырму і легла спаць, коб мухі не так надодзевалі.* М. Малешава.

ШЫРОДА'ЛНЫ *прым.* Шырачэзны. *Булі такіе з бляхі бані велізные да шыродалные з каросіною.* Дварэц.

ШЫРО'ЗНЫ, ШЫРЭ'ЗНЫ *прым.* Тое ж. *Вуліца шырозна, то вона й хороша.* Дварэц. *У комбайна шырэзна косілка!* Хачэнь.

ШЫРО'КІ *прым.* Шырокі. *Гра́нкі вузкіе, а е гранкі шырокіе і на іх зелья не будзе.* Дварэц. *Шы́рша з того конца дошка.* Пагост.

ШЫ'РО'КО *прысл.* Шырока. *Вон шы́роко ступае.* Аздамічы. *Ек у коня шы́роко стояць ногі перэдніе, то говораць сільны конь.* Сямігосцічы. *Шыро́ко.* Аздамічы.

ШЫРОКОП'ЁРКА *ж.* Назва травяністай расліны. *У Ценецішчы трава шырокоп'ёрка росце.* Хачэнь.

ШЫРХ *м.* Завостраны тоўсты кол у канцы плыта для тармажэння. *Як прыдзержыць шырх, то бы́рне того чоловека, ажні ў рэ́ку леціць.* Цераблічы.

ШЫ'РХАЦЬ *незак.* Тыкаць. *Кулік по мелкому месту хуценько вуша́гвае, дзюбочкою у дно шырхае.* Пагост.

ШЫ'РХВА *ж.* Прывязь у плыце. *Зробілі шырхву вязаць го́нзкі.* Аздамічы.

ШЫРХОВА'ЦЬ *незак.* Звязваць, злучаць часткі плыта. Запясочча.

ШЫРХО'ЎКА *ж.* Ліна з лазовых дубцоў для вязання плыта або для звязвання плытоў у караван. *Звязваем гонкі шірхоўкамі.* Хотамель. *Шырхоўкі з дубцоў робяць.* Сямурадцы.

ШЫРЫНА' *ж.* Шырыня. *А ў іх Се́лішчах шырына поле!* Верасніца. *Да шырына, да доўжына! От полотно!* Запясочча.

ШЫ'РЭДЗЬ *ж.* Вялікая шырыня. *Шырэдзь лясоў була ў Радзівіла.* Хотамель.

ШЫТНЫ' *прым.* Шыўны. *Это шытны́е ніткі.* Луткі.

ШЫ'ТЫ *прым.* Пашыты. *Купляй хату крыту, а світу шыту* (прыказка). Старажоўцы.

ШЫХА' *ж.* Ігліца. *Гэтой шыхой прыкладом, то працёкае стрэха.* Луткі.

ШЫ'ХНУЦЬ *зак.* Рэзка павеяць. *Вецер подуне, а далей шыхне, да жара дась, да жонкі поміраюць.* Запясочча.

ШЫ'ХО *н.* Стужка з бліскаўкамі на падоле спадніцы або фартуха. Альшаны.

ШЫХОВА'ЦЦА *незак.* Рыхтавацца. *Мушы шыхуюцца на зіму.* Цераблічы.

ШЫХОВА'ЦЬ *незак.* 1. Рыхтаваць, гатаваць старанна. *Прыходжу, маці шыхуе на столы, кажэць, будуць запоіны.* Хотамель. *К операцыі ёго́ шыхуюць.* Велямічы. 2. Снаваць, рухацца. *Рыба б'еցца, бы екіе вутвы́ шыхуюць у водзе.* Запясочча. *От переЛо́жные мушi, шiхуюць усю ноч под подлогою, пiшчаць, заснуць не можно.* Пагост. 3. Шанцаваць. *Гіншому то шыхуе, шчасліві́цца.* Цераблічы. *Як кому пошыхуе: тому у скоціні шыхуе,*

*скоціна плодзіцца.* Мачуль. *Шыхуе тому, ек хозяін чорны, да кота чорного дзержыць, да пеўня, да собаку* (павер'е). Луткі. *От мне не шыхуе, корова здохла.* Запясочча.

ШЫ'ХОВІЦА *ж.* Шэпты. *А там ужэ шыхавіца про мене.* Стаража̄ўцы.

ШЫХОЦЕ'ЦЬ *незак.* Шастаць, плюскатаць. *Нерэсціласа рыба, подышла под куст і шыхоціць!* Цераблічы.

ШЫ'ХТА *ж.* Частка плыта. Хотамель.

ШЫ'ЦЦА *незак.* Тачыцца. *Не шыйцеса усе на лаўку!* Альпень. *І ты туды шыйса, дзе не чэчэ̇, ек дождж ідзе.* Дварэц. *Ціплята шыюцца ў огород, погрэ̇бціса хочуць у м'яккой земле.* В. Малешава.

ШЫЦЬ *незак.* Шыць. *Тут жылі одные еўрэі, то шылі чоботы.* Тураў. *Ой, не едзь, братко, до той дзеўкі, бо вона не ўмее ні шыць, ні вышываць* (з песні). Сямігосцічы. △ Ш ы́ ц ь б е з г о́ л к і. Лоўка маніць. Сямігосцічы.

ШЫЦЬЕ' *н.* Шыццё. *Да колько ты дала за шыцье?* В. Малешава.

ШЫШ *м.* 1. Шышка. *От шышы еловуе па́даюць.* Сямурадцы. 2. Шышак, гронка. *Лісі́чкі шыша́мі росту́ць* (пра парэчкі). Д.-Гарадок. 3 *метаф.* Кукіш. *Шыш тобе, а не грошы!* Альпень.

ШЫ'ШКА *ж.* 1. Шышка. *Ты бачыла, на е́лцы шышкі́ екіе?* Запясочча. *Ек простуду нічым не зведзеш, то параць шышкі сосновые.* Луткі. *У рогозі шышка е.* В. Малешава. *Шышкі рвалі с хмелю.* Хачэнь. *Вурві мне онь ту красну шышку.* Кароцічы. *Як ліша́й, то шышку з дуба да почавіць, да трэ тым соком помазац.* Сямігосцічы. *Вулезе з бо́хана така шышка, ек у печэ̇ не зырко.* Луткі. *З набедрыкаў шышкі вісяць.* Аздамічы. 2. Вясельнае печыва. *Шышкі — булочкі такіе маленькіе на короваі, ек цепер пончыкі.* Мачуль. *Шышкі пекуць пшэнічные да жытніе да даюць коровайніцам.* Луткі. *Шышкі у сіто ці рэшэто кладуць і на стрэху кідаюць, і дзеці хапаюць.* М. Малешава. *Шышкі качалі с цеста і дзецям сыпалі на свадзьбі.* Мачуль. 3 *метаф.* Кукіш. *От тобе шышка под нос!* Луткі. 4 *перан.* Важная асоба. *Шо ты насміхаесса, поддзеваеш, думаеш, шчо ўжэ веліка шышка!* Бярэжцы. *Памянш.* ш ы́ ш э ч к а. *Шышэчкі на олешніку навек ростуць.* Сямігосцічы.

ШЫШКОВА'ТЫ *прым.* Квяцісты. *От крам хорошы, шышковаты!* Луткі.

ШЫ'Я *ж.* 1. Шыя. *К свойму роду, хоць по шыю ў во́ду* (прыказка). Сямурадцы. *Абу шыя, то хомут будзе* (прыказка). Старажоўцы. 2 *перан.* Прамежак паміж комінам і сцяною. *Переложі, хлопче, лучіну ш черена ў шыю, вона ўже вусохла.* Пагост. *От у шыі положыла рукавіцы.* Дварэц. *У шыю положы гладышкі сушыцца!* Аздамічы. 3 *перан.* Вузкі прамежак на сенажаці. Бярэжцы. *Памянш.* ш ы́ й к а. Запясочча.

ШЫЯ'ТКА *ж.* Саламяная бочачка для збожжа. Хотамель.

ШЫЯ'ТЫ *прым.* З доўгай шыяй. *Така шыята чапля, похожа на жураўля.* Кароцічы.

ШЭБЕ'НЬКАЦЦА *незак.* Кешкацца. *Старі, годзі тобе шебенькацца коло етое горо́жі, у хату ідзі, до́чка пріехала!* Пагост. *Шэбенькаюцца хлопцы на горэ.* Запясочча. *Бацько там косіць, да я коло ёго́ шэбенькаюса.* Хачэнь.

ШЭВЕЛІ'ЦЦА *незак.* Шавяліцца. *Шчось трава шэве́ліцца под дубом.* Кароцічы.

ШЭВЕЛІ'ЦЬ *незак.* Казытаць. *Так то лоскотаць кажуць, а шэвеліць — по-просцяцку.* Крэмна.

ШЭ'ВЕРОМ *прысл.* Уроссып. *Пошлі моі куры шэвером, дзе хочуць, ніколі не зогнаці.* М. Малешава.

ШЭВЕ'Ц *м.* Шавец. *Не люблю шэўца — дзёгцем воняе, а краўца — рано ўставае* (прымаўка). Сямурадцы.

ШЭЛА'ЦЦА *незак.* Бадзяцца. *Не хочуць, коб там шэла́ліса.* Аздамічы.

ШЭ'ЛЕГ *м.* Нейкая істота? *Я цебе боюса, ек ліхого ше́лега.* Запясочча. △ А н і ш э́ л е г а. Пра адсутнасць. *Ані шэлега хлеба.* Аздамічы. *Ані шэлега грошы.* Там жа.

ШЭЛЕ'ГНУЦЬ *зак.* Шаснуць. *Кругом ціхенько, ані по волосу і не шэле́гне.* Луткі.

ШЭ'ЛЕСТ *м.* Казытанне. *Вон боіцца шэлесту.* Рубель.

ШЭ'ЛЕХТ *м.* Тое ж. *Кажуць, хто шэлехту боіцца, жонку любіть.* Альпень.

ШЭЛЕХЦЕ'ЦЬ *незак.* Шалясцець. *Колі раненько дзерево шэлехціць, будзе негода.* В. Малешава. *Шэлехчэ осінка — дождж будзе.* Хотамель.

ШЭЛЮГА'ЦЬ *незак.* Рабіць вялікія крокі. *Дарма, шо стары, бач, як шэлюгае, не ўгонішса за ім.* Пагост.

ШЭМЕЛЯ'ХНУЦЬ *зак. экспр.* Перакуліць. *Як шэмеляхне того воза з горы!* Запясочча.

ШЭМЕТНУ'ЦЬ *зак.* Шпурнуць, штурхнуць. *Вон ек шэметне, то і ўпадзеш.* Луткі. *Вона ек шэметнула ёго́ поперосы на долоўку!* Там жа.

ШЭ'МКАЦЦА *незак.* Корпацца. *Будзе шэмкацца доўго, не зойдзе.* Дварэц.

ШЭ'МКАЦЬ *незак.* Корпаць. *Нешчо там шэмкае, прысела.* Запясочча.

ШЭ'НДЗЯ *ж.* Малярыя. *Не было тое весны, шчоб людзі не хворэлі на эту шэндзю. Од ее некіе дзеркачэ под голову клалі, водой пужалі, ее под шыю лілі.* Сямігосцічы. *У нас хондзя называлі, а шэньдзя — то полякі.* Луткі.

ШЭПЕЛЮ'Н *м.* Шапялявы чалавек. Сямурадцы.

ШЭПЕЛЯ'ВІЦЬ *незак.* Шапялявіць. Запясочча.

ШЭПЕЛЯ'ВУ *прым.* Шапялявы. Запясочча.

ШЭПЕЛЯ'ЦЬ *незак.* Шапялявіць. *Ты зроду шепеляеш чі з болезні?* Пагост.

ШЭПЕТА'ЦЬ *незак.* Нашэптваць, шаптаць. *Нешчо шэпетаў под ухо ёмў.* М. Малешава.

ШЭПЕТУ'Н *м. метаф.* Полаг. *Молодые нішчочком у шэпетун полёглі.* Луткі.

ШЭПЕТУ'ХА *ж.* Нагаворшчыца. *Ночна шэпетуха легла коло вуха* (жарт). М. Малешава.

ШЭПІ'РНІК *м.* Лопух. *У шэпірніку багато шышок, шо чэпляюцца за грыву коню.* Старажоўцы.

ШЭПТА'ЦЦА *незак.* Лячыцца замовамі. *Шэптацца колісь ішлі до бабы.* Сямігосцічы.

ШЭПТА'ЦЬ *незак.* 1. Шаптаць. *На вухо шэпчэ.* Аздамічы. 2. Замаўляць. *Одзін од вужа шэпчэ, а другі од сліменя.* Хачэнь. *Усе шэпчуць — і звіхі, і удары, і золотнік.* М. Малешава. *Буў одзін стары, шэптаў од звёру, заціnaў худобу, людзі верылі, шчо вон таку сілу маў.* Цераблічы.

ШЭПТУ'ЛЯ *ж.* Шаптуха. *Я не верыла ніякім шэптулям.* Верасніца.

ШЭПТУ'Н *м.* Шаптун. *Шэптун — то не знахор, шэптаць многіе ўмеюць.* Луткі.

ШЭПТУ'ХА *ж.* Шаптуха. *У нас поўнэ село шэптух!* Луткі.

ШЭ'ПТЫ *мн.* Замовы. *Я не кінуласа ў этые шэпты, да к дохтору.* Сямурадцы.

ШЭРГ *м.* Танец. *Шэрг — танец хорошы буў ўродзі матлёта.* Сямурадцы. *У шэрг гулялі ў шэсць пар, становіліса і перэбегалі одна к одной.* Хачэнь.

ШЭРЛУПА′ *ж.* Шалупінне. *Ту шэрлупу с конопель замéшвалі свіньям.* Запясочча.

ШЭРНУ′ЦЦА *зак.* Шаргануцца. *Ек шэрнецца коло раны, то боліць рука.* Дварэц.

ШЭРСЦІ′НА *ж.* Шарсцінка. *Шэрсціна, а чыя вона, ці з котá, ці з корові?* В. Малешава. *Корову купляеш, то стой ззаду, шчоб шэрсціны не кінула на гной.* Сямігосцічы. △ До одной шэрсціны (пра жывёл). *Вудох весь товар до одной шэрсціны!* Цераблічы.

ШЭРСЦІ′НОЧКА *ж. метаф.* Жывёліна. *У старое жонкі нема і шэрсціночкі на дворэ, хоць шаром покаці!* М. Малешава.

ШЭРСЦЬ *ж.* Поўсць. *З коровы шэрсць вулінее веснóю, ек добрэ корміш.* Луткі. *Побрыў бороду, то обросла шэрсцю.* В. Малешава. *Конь сіву шэрсцю.* Запясочча.

ШЭ′РХНУЦЬ *незак.* Падмярзаць, падсыхаць ад марозу. *Осенью земля ужэ шэрхне з ночы.* Бярэжцы.

ШЭРШОВІ′НЬЕ *н.* Гняздо шэршняў. Бярэжцы.

ШЭ′РШЭНЬ *м.* Шэршань. *А шэршэнь ек ударыць, то спухне.* Луткі. *На хвоі маў два вульі, там селі шэршні.* Там жа. *Двананцаць шэршней ек укусіць, то помрэ чоловек.* Мачуль. *З ос і с шэршнёў меду не едзяць.* Там жа.

ШЭРЭБА′НІЦЬ *незак.* Балбатаць. *Годзі, не шэрэбань ты, дзядзько!* Сямігосцічы.

ШЭРЭМЕ′ТА *ж.* Прылада для лоўлі ўюноў. Мачуль.

ШЭРЭ′Н *м.* 1. Шарон. *По шэрону вельмі важко іці, прогрузаеш.* Тураў. *Зімою ек пойдзе по шэрэнý, то лапці на дзень!* Старажоўцы. 2. Сям'я грыбоў. *Ек багато грыбоў, то шэрэн зовуць, я трыццаць на одном месці нашла.* Хачэнь.

ШЭРЭ′НКА *ж.* Шарэнга. *У дзве шэрэнкі пошлі.* Запясочча.

ШЭРЭПЕ′НЬЕ *н. зб.* Усякая дробязь. *Шэрэпенья на горэ назбіралосо.* Пагост.

ШЭ′РЭ′Ш *м.* 1. Шарош. *Шэ́рэш рэчку забівае.* Альпень. *Шэрэ́ш такі плуве по водзе.* Мачуль. 2. Шарон. *Шэ́рэш — ек снег да дожджык пойдзе на ёгó, ты ідзеш, а вон шамае.* Альгомель.

ШЭСТА′К, ШОСТА′К *м.* Шастак. *Шэстак — тры ко-*

*пейкі*. Дварэц. *Сем дзён молоціла, шостак зоробіла. За гэтого шостака да купіла мужыка* (прыпеўка). Луткі.

ШЭСТОКО'ЎКА *ж.* Вялікі гаршчок (раней прадавалі за шэсць грошай). Запясочча.

ШЭСТУ'ХА *ж.* Шостая частка надзелу. *Шэстуха — шоста часць рэза.* Луткі.

ШЭ'СЦЕРО *ліч.* Шасцёра. *Шэсцеро дзецей, і вона іх сама годуе.* Пагост.

ШЭСЦЕРЫ'К *м.* Шасцілінейная газавая лямпа. Цераблічы.

ШЭСЦЕРЫ'НА *ж.* Шостая частка надзелу. *Ек шэсцерына була, то мало того поля, менш за поўчверткі.* Хачэнь.

ШЭСЦЕ'Ц *м.* Калок, да якога прывязваецца сетка ў волака. Аздамічы.

ШЭСЦЬ *ліч.* Шэсць. *Двое гусенят затоптала ужэ корова, а шэсць осталóсо.* Пагост.

ШЭ'ЎКАЦЦА *незак.* Кешкацца. Тураў.

ШЭ'ЎКАЦЬ *незак.* Шамкаць. *Шо ты шэўкаеш, шо не розберу?* Любавічы.

ШЭЎРЫ'КАЦЬ *незак.* Тое ж. *Ек выпаў гэттыка зуб, то от неяк шэўрыкаю.* Мачуль.

ШЭЎРЭ'ГАЦЬ *незак.* Тое ж. *Ты ўжэ зноў з бабамі шэўрэґаеш.* Дварэц.

# Э

Э *выкл.* Э. *Ээ, воны б не прызналі нашого села!* Сямігосцічы. *Э-э, ек ты Петро, то йдзі. Я з такім і говорыць не стаў бу* (з казкі). В. Малешава.

ЭГЕ' *выкл.* Эге. *Эге, байкі бае дай годзе!* Сямурадцы.

ЭЙ *выкл.* Эй. *Эй ты, баюра, шо тобе трэ?* Сямурадцы.

Э'НІКІ-БЭ'НІКІ *выкл.* У дзіцячых лічылках. *Энікі-бэнікі елі варэнікі, энікі-бэнікі, клёц!* Талмачава.

ЭНЬ *часц.* Вунь. *Энь ідзе вўнорнуло вуценятко!* Луткі.

ЭРГІ'НА *ж.* Вяргіня. Альпень.

ЭТ *выкл.* Ат. *Эт, дам, колі полезеш у кўхор, злодзюга! Эт, не будзе з ёгó толку!* М. Малешава.

Э'ТАКІ, Э'ТКІ *займ.* Гэтакі. *Этака зáмець!* Бярэж-

цы. *Бацько буў злодзей, дзед злодзей, і вон будзе этакі.* Цераблічы. *Вона сем'ю мае, этака сем'я веліка!* Хачэнь. *Прожылі, коб больш не бачыць ѐтакого, гэткое жыткі.* Пагост. *Этаке лоўке з гусе этэ сало да м'ясо!* Там жа.

Э'ТО *займ.* Гэта. *І это вона учора спевала?* Бярэжцы. *Это называецца борць, а это, шо зачыняе, называецца доўж.* Там жа. *А хто то ў вас, хозяйка, это оцец ваш?* Кароцічы.

Э'ТОЙ, Э'ТЫ *займ.* Гэты. *Вуйшла вона на этой шлях да йдзе.* Кароцічы. *З эстымі дошкамі з вышок упала.* Аздамічы. *Дзверы ж этые, то трэба ж зачыніць, шоб веце́р не дунуў.* Дварэц. *Это весло хто тобе даў?* Тураў.

Э'ТТЫ *прысл.* Тут. *Этты була гушча, то недаўно подралі.* Бярэжцы. *Тут на Бо́рку добро: этты сухо, этты трава до́бра.* Там жа.

Э'ТТЫКА *прысл.* Тое ж. *Эттыка ўюцца тые людзі, а не едуць у Сібіры.* В. Малешава. *Хай стоіць эттыка гладышка.* Запясочча.

Э'ТУЛЬКІ *прысл.* Гэтулькі. *Этулькі намеце снегу, шчо не оччыніць ворот!* Дварэц.

# Ю

Ю'ДЗІЦЬ *незак.* Падбухторваць. *А вон ходзіць юдзіць, юдзіць Васіля, думае, мо шо той біцца будзе.* Верасніца.

Ю'Р'ЕЎКА *ж.* Майская машкара. *Юр'еўка залеза́е ў нос товару і ў лёхкіе, і товар гіне.* Запясочча.

ЮРО'К *м.* Юрок для наматвання нітак. *Юрок роб'яць з цвёрдо́го дзерэва, потом пропальваюць шылом.* М. Малешава. *Без юрка будзе нітка ў пальцы рэзаці, клубок не будзе тугі.* Кароцічы.

Ю'СТРО *н.* Люстэрка. *А вона нічого не робіць, только пе́рэд юстром круціцца.* Кароцічы.

Ю'ХА *ж.* 1. Юшка. *Юха та белая, бу пойло, з карпоў.* М. Малешава. *Хавай хвоста, ногі, вушы з свіны, юха будзе добра!* Сямігосцічы. 2 *экспр.* Рот, зяпа. *Ну і юха, наставіць свойго лыча́ і буркае.* Верасніца.

Ю'ХАЛКА *ж.* Студзень. *Юхалкі з м'яса наварыла і чэстовала госцей.* М. Малешава. *Зварыла я ножкі і вуш-*

*кі, дай порэзала ў міску, наліла юхою і захолóдала та юхолка.* Там жа.

ЮХАНІ′НА *ж.* Юха. *Заўтра тожэ будзе такая юханіна, пошлі воны на рыбу у дзесець часоў і нема.* Старажоўцы.

Ю′ХТА *ж.* Юхт. Сямурадцы.

Ю′ШКА *ж.* 1. Юшка. *З уюнóў юшка зелёна.* Бярэжцы. *Сама хороша чэшуя на я́зю, з ее можно варыць юшку.* Хотамель. *Уся юшка вы́кіпела, одна осталаса.* Альпéнь. *На веселыі юшку грушóвую пілí.* Бярэжцы. *Дзешовая рыбка — поганая юшка* (прыказка). Запясочча. *Хто зевае, той юшку хлебае* (прыказка). Сямурадцы. 2. Засаўка ў коміне. *Закрой юшкі, а то грыміць.* Запясочча. 3 *перан. экспр.* Рот, зяпа. *Закрый юшку і помоўчы!* Верасніца.

# Я

Я *займ.* Я. *У мене е грошы колісні, шо не бачылі, я покажу.* Пагост. *Я летося ездзіла, то й рукамі набрала ягод ведро.* М. Малешава. *«А ты хто есць?» — «А,— каа,— я Петро».* В. Малешава. *Не гледзі, шо на мне, а гледзі, шо во мне* (прымаўка). Старажоўцы.

Я′БЕТКА *ж.* Праклён. *Шоб зышла на ее я́бетка!* Хотамель.

ЯБЛОНЬЕ′ *н. зб.* Яблыні. *Яблонье у мене хорóшэ.* Хачэнь.

Я′БЛОНЬ *ж.* Яблыня. *У іх нема саду, одна яблонь, да і та дзічка.* Луткі. *Сорока то на яблонь, то на плот.* Верасніца.

Я′БЛОНЬКА *ж.* Тое ж. *Не так хаты шкода, ек яблонёк.* Луткі.

Я′БЛОНЯ *ж.* Тое ж. *Поселя інцерэсная була, там яблоні, ліпу.* Кароцічы. *У нас онь там о такая яблуня, шо то одзін год зародзіло, шчо, поверце, і однэ не зогніло.* Пагост.

Я′БЛУКО *н.* Яблык. *Прошлы год було яблык ек смецьця.* Дварэц. *Ек прыдзе спас, то будзе яблуко і ў нас* (прымаўка). Старажоўцы. △ К о ц я́ ч ы е я́ б л у к а. Плады на бульбе. Сямігосцічы. У я́ б л у к а х. З цёмнымі плямамі. *Конь у яблуках, урóдзі ў п'ятнах, сіву.*

Запясочча. *Памянш.* я́ б л у ч к о. *Грушка — мінушка, а яблучко на голінцы* (прымаўка). Сямігосцічы.

ЯБЛУКОВА′ТЫ *прым.* Плямісты (пра масць каня). Кароцічы.

Я′БЛУЧКО *н.* 1. Адамаў яблык. *Яблучко е ў дзядзькі Грышы, і ў дзядзькі Васіля е, да незаметно.* Цераблічы. 2. Нарасць на дубовым лісту. *Яблочка дубовые, там будзе або муха, або чор'ячок; ек будзе муха, то берэгі вуха, а ек чэр'як, то зіма будзе так* (прыкмета). Цераблічы.

Я′БРОДЗЬ *ж.* Пупышкі на дрэвах і кустах вясною. *Ольхова ябрудзь сама луčча для пчол.* Мачуль. *Ябродзь — на лозе попушкі.* Там жа. *На дубніку ябрудзь е. Товар понаедаўса ябродзі да з вусеняй да і поносяць.* Старажоўцы.

ЯВІ′ЦЦА *незак.* З'явіцца. *І ніхто на посе́лю не явіўса.* Хачэнь. *Сюд не туд да я́віцца.* Запясочча.

Я′ВОР *м.* Тополя. *Под явор закопаў дзед тэ золото.* В. Малешава.

ЯВОРО′ВУ *прым.* Яваравы. *Я'вор, яворо́вы людзі, шчо вы робілі? — Мо́ста гацілі* (дзіцячая прыгаворка). Альшаны.

Я′ГІНЯ *ж. груб.* Бессаромная, дрэнная жанчына. Запясочча.

ЯГІРОВА′ЦЬ *незак.* Знаходзіцца ў стане цечкі. *Кобула яѓіру́е.* Запясочча.

ЯГЛІ′ЦЬ *незак.* Прагнуць, моцна жадаць. *От ягліць, скорэй коб купіць ту шэліноўку.* Луткі. *Тые курчэня́та до куры лучшэ яглять, чым тые вутенята до квокту́хі.* Рубель.

ЯГНЮ′ШКА *ж.* Маладая авечка-самка. Аздамічы.

ЯГНЯ′ *н.* Ягня. *Осенча́к ягня, то по́зне ягня.* Запясочча. *У ка́жной овечкі по дзве егняці.* Луткі. *Памянш.* е г н я́ т к о. Бярэжцы.

ЯГОДЗІ′НА *ж.* Адна ягада. *Сорок егодзі́н кура з'ела того а́грэсту за одзін раз.* Хачэнь.

Я′ГОДКА *ж.* Мочка. *Прокольваюць ягодку на завушніцы.* Хотамель.

ЯГО′ДНІК *м.* Чарнічнік. *Егодні́ку богато, а ягод нема.* Мачуль. *Памянш.* я г о́ д н і ч о к. *У том берэзнічку ягодні́чок.* Цераблічы.

ЯГО′ДНІ′ЦА *ж.* Ягадніца. *Яго́дніца.* Кароцічы. *Ягодніца.* Сямігосцічы.

Я'ГОДНЫ' *прым.* Ягадны. *Места усе егодные знаю.* Старажоўцы.

Я'ГОДЫ *мн.* 1. Журавіны. *У нас ягоды — журавіны, а у сёлах — чэрніцы.* Запясочча. *На Полесьі е такіе болотá з ягодзьмі.* Сямурадцы. *Нашоў болоцвіну, по ўсёй мох зелёны, а ў ём зверху ягоды чырвоные.* Пагост. *З ягодзьмі цяжко по болоту ходзіць, ў мох нога тоне, не можно вўцегці ног.* Луткі. 2. Чарніцы. Мачуль. *У ягоды помпушкі мачаемо да добрэ.* Сямурадцы. 3. Ажыны. *Ожыны — ягоды самўе.* Хачэнь. △ В о ў ч ы е я́ г о д ы. Ягады паслёну, крушыны і інш. К р а́ с н ы е я́ г о д ы. Журавіны. Запясочча.

ЯД *м.* 1. Яд. *Яд у годзю́кі е.* Бярэжцы. *У хвосце котá е яд.* Сямурадцы. *Воўчы яд ўрэдны, то бояліса есці м'ясо* (ад загрызенай ваўком жывёлы). Там жа. 2 *перан.* Гарт. *Коса не мае яду, не гостра.* Сямігосцічы.

Я'ДКІ, ЕДКІ' *прым.* 1. Ядавіты. *Я'дкі блошчытнік, блошчыцы бояцца ёгó.* М. Малешава. 2. Пякучы, злосны. *Едкі мороз, холод вельмі.* Запясочча. *Бáло, тых свіней собакамі пораз'едаюць, шчоб булі едкіе, да ў лес загоняць, то там і жывуць.* Луткі.

ЯДОВІ'ТЫ *прым.* Тое ж. *Горчак едовіты, ім травілі блошчыцы.* М. Малешава. *Такіе мошкі ядовітые!* Запясочча.

ЯДО'МЫ *прым.* Ядомы. Альшаны.

ЯДРО' *н.* 1. Зерне арэха. Луткі. 2. Яйцо (у жывёлы, чалавека). Запясочча.

Я'ДРЫЦА *ж.* Яравая пшаніца. *Яра пшэніца — то ядрыца.* Хільчыцы.

Я'ДРЫЦЦА *незак.* Чырванець. *Ядрыцца рана, начынае гнаіцца.* Бярэжцы.

ЯДРЭНЕ'ЦЬ *незак.* Чырванець, спець. *Ядрэнеюць добрэ памідоры.* Бярэжцы.

Я'ДРЭНО *прысл.* Ядрана. *Месяц на дворэ, ядрэно.* Любавічы.

Я'ДРЭНЫ' *прым.* 1. Ядраны. *Ядрана ноч.* Альшаны. 2. Наліты. *Таке зерне едрынэ́!* Сямігосцічы. *Екіе едрынье гуркі!* Аздамічы. *Яблуко ядрынэ́, поўнэ, налілóсо.* Луткі. *Горóхвіны тэ старэ́е не хочэ свінья, а було молодэ́, ядрэнэ́, то ела.* М. Малешава.

Я'ДУХІ *мн.* Дыхавіца. *Ядухі чоловека жмуць.* Хотамель.

Я'ДУШЛІВЫ *прым.* Задышлівы. Хотамель.

ЯЕ'ЧНЯ, ЕЕ'ШНЯ *ж.* Яешня. *От, еец наб'ём да зробім яечню.* Альпень. *Яешня.* Запясочча. *Памянш.* е ё ш э н ь к а. *Вона собе еешэнькі напечэ.* Сямурадцы.

Я'ЗВІНА *ж.* Месца на балоце, якое не замярзае. Хотамель.

ЯЗЁВУ *прым.* Язёвы. △ Я з ё в а п л ó т к а. Пад'язак. Запясочча.

ЯЗЬ *м.* Язь. *От такіе булі езé, от такіе на тоўшчыну, а такіе на доўжыну.* Хачэнь.

ЯЗЫ'К *м.* 1. Язык. *Ну і език у цебе, трэпле, ек трэпашка.* Верасніца. *Да ў ёгó на езыцы не було плохого слова.* М. Малешава. *Я платы не беру за езы́к.* Хачэнь. *Език до музы́к, а дле роботы не прыдатны* (прымаўка). М. Малешава. *Езы́чэ, езычэ, чого цебе чорт смýчэ?* (прымаўка). Верасніца. *Език без кóсці, вýговорыць бéзвесці* (прымаўка). Сямігосцічы. *За сценою косценóю цецерук болбочэ* (загадка). *Език* (адгадка). Хачэнь. 2. Мова, маўленне. *Богато езыкоў е на свеці.* Запясочча. *Езыкá не знаеш, не доб'есса нічого.* М. Малешава. *Памянш.* я з ы ч ó к. *Шо ж вам даць солоўёвых езычкоў?* Старажоўцы. *Шо ў цебе нема езычка?* (да малога дзіцяці). Хотамель. △ У в о п é р ц і е з ы к á. Умяшацца ў справу, сказаць абы-што. *Марта увопрэ свого езыка, куды не трэ.* Цераблічы.

ЯЗЫКА'ТЫ, ЯЗЫКА'СТЫ *прым.* Языкаты. *Соседка вельмі языката, улезе усюдою.* Верасніца. *Була та Вара езыката, усёгó назычыць.* М. Малешава. *Ох, лю́дзенькі, езыкасты вон буў чоловек.* Тураў.

ЯЗЫКОВА'НЬЕ *н.* Яшчур (хвароба ў кароў). Сямігосцічы.

ЯЗЫКОВА'ЦЬ *незак.* 1. Хварэць на яшчур. *Корова езыкуе, не можэ есці траву.* Сямігосцічы. 2. Пустасловіць, пляткарыць. *Нашчо языковаць, шчо нема роботы? Буракі полоць!* Дварэц.

ЯЗЫ'ЧЛІВУ *прым.* Языкаты. *Нема язычлівух людзей у Малешові.* М. Малешава.

ЯЗЫ'ЧНІЦА *ж.* Пляткарка. *У еé чоловека нема, бо вона езычніца. Для ее нема нікого доброго.* Сямігосцічы.

ЯЗЫ'ЧО'К *м.* Язык у званку, бародка ў замку, рухомая дэталь у церніцы і інш. *Нешчо не достае езычок замка, сцёрса.* Луткі. *Язычок бýмкае ў звóноку.* Хотамель. *Езычок у горлі спух.* Пагост.

ЯЗЮ'К *м.* Пад'язак. Запясочча. *Памянш.* я з ю ч о́ к. *Мне случалось, от такого озьму езючка́.* Луткі.

Я'ЙКО *н.* Яйцо. *Нехай кура несе яйка нам.* Бярэжцы.

ЯЙЦЭ', ЯЙЦО' *н.* 1. Яйцо. *Вутва знесла ейцэ.* Аздамічы. *Цепер ейцэ хітрэй куры.* Сямігосцічы. *Хіміны куры, а Бо́рысовы я́йца* (прымаўка). Там жа. 2. Мяшочак з ікрой у акунёў. *Ікру́ ў о́куня называюць ейцэ́.* Верасніца. *Памянш.* е е́ ч к о. *Она с са́мого покро́ва ее́чка несе.* Сямурадцы. △ Г у л я́ ц ь у я́ й ц а. Дзіцячая гульня ў падкіднога мячыка. *Подкіда́юць м'ячыка, крычаць ім'я, той ловіць і кідае ў другога, да як попадзе, то на тым, хто кідаў,— яйцо́.* Запясочча.

ЯК, ЕК 1 *прысл.* Як. *Як жэ я пойду на веселье?* Хачэнь. *А як жэ? Поеду!* Кароцічы. *Як там у Давуд-Городку людзі жывуць? Багацей?* Пагост. Адкуль. *Як прыстала к ему: «Скажы, як ты гэто знаеш?»* Бярэжцы. 2 *злучн.* Як. *Я гледзеў, як оруць там.* Пагост. *Як мого́м, робімо.* Хотамель. *А я знаю, як?* Сямурадцы. *Пшэніцы больш давалі, ек жыта.* Хачэнь. *Не так стара́, ек да́ўня.* Старажоўцы. *Так будзе, Кірыло, як у Туроў ці меней?* Бярэжцы. Калі. *Ек цепер не выпішуць, то ў понедзелок.* Сямігосцічы. *Мы звалі ее Лексо, ек булі малые.* Цераблічы. *Ек бы ты не дозволіла, то воны не ходзілі бу.* Мачуль. *Ек тоўсты лёд, то лінкі рукою ловяць.* Сямігосцічы. *Чому не прышоў, ек месец зышой?* Там жа. *Ек вон скоро прыедзе з Турова, то скажэш, шчоб прышоў ко мне.* Кароцічы. Падобны да. *Чорны, ек чорт.* М. Малешава. *Праў, ек дуга!* (жарт). Верасніца. *Ідзе, ек та пава́!* Запясочча. *Швардыкнуў, ек бу дурэнь с печы.* Там жа. 3 *часц.* Як. *Да ек запелі, то ўсе поподымаліс!* Бярэжцы. *Як усуча ей по спіне!* Запясочча. △ Я к н е (п р о с і ц ь, п л а ч э і інш.). Як быццам, ледзьве. *Здаецца, ек не просіць собака, гаўкае да гаўкае.* Хачэнь. Я к н і я́ к. Як бы там ні было. *Як-ніяк, ужэ мне семдзесят годоў.* Бярэжцы. Н е м а я к. Няма магчымасці. *Едзьце. Усцімо не поедзе, нема як.* Бярэжцы. Я к б а ч. Вельмі хутка. *Дзень, ек бач пройдзе.* Хільчыцы. Я к г л я н ь. Як вокам скінуць. *Там болото як глянь до самого Мінска!* Пагост.

ЯКБА' *прысл.* У момант. *Половіна лета екба прошло.* Бярэжцы. *Екба собра́ліса.* Запясочча.

ЯКІ' *займ.* Які. *Трэбо яке́ целятко вы́годоваць да*

*продаць*. Хільчыцы. *Стары свой цюцюн кідае, я екіе семена ў гэты кошэль кідаю, шоб над духом віселі*. Дварэц. *Еке ўрэм'е там?* Там жа. *Еке ведро возьмеш?* Хотамель. *Як позно цыплята выведуцца у еком аўгусце, то кажуць осенчакі*. Сямігосцічы. *Екое ты, цыган, веры? — Екое хоч!* В. Малешава. *Екé дрэво, такі клін, екі бацько, такі сын* (прыказка). Там жа. *Ека ўласць, така і снасць* (прымаўка). Верасніца.

ЯКІ-НЕ'БУДЗЬ *займ*. Які-небудзь. *У еком-небудзь у феўрале прыедом*. Сямігосцічы. *Дайце по остопку еком-небудзь*. Луткі.

ЯКІ'СЬ *займ*. Якісь. *Ек кот прывук да людзей, то вон робіцца екісь такі до мышэй*. Сямігосцічы. *Не, була тут екась сем'я гродзенцаў*. Там жа.

Я'КОР *м*. Якар. *На плыце буў якор з зубом*. Хачэнь.

ЯКРА'З *прысл*. Якраз. *Я ў складзé быў екраз*. Сямігосцічы. *Екраз во е, бра, та ніточка*. Верасніца. *Захоцелі картошку везці, а воны екраз прішлі*. Бярэжцы.

Я'ЛОВЕ'ЦЬ *незак*. 1. Ялавець. *Еловéе корова, не доіцца*. М. Малешава. *Я'ловець*. Верасніца. 2. Заставацца незасеяным. *Доўгэ тэ поле еловело, то добро й жыто вуросло*. Верасніца. *Земля яловее, ек онно посеюць траву*. Цераблічы. Не даваць пладоў. *Яблуня еловее, ек не покладзеш гною*. В. Малешава.

Я'ЛОВІНА *ж*. Ялавіна. *От поросло б на еловінé жыто, коб спахаў!* Цераблічы.

Я'ЛОВІЦА *ж*. Ялаўка. *Була чотырі годы яловіцэю, не крыласа*. Луткі.

ЯЛОВУ' *прым*. 1. Нятлусты. *Вона любіць ЯЛОВЭ м'ясо*. Бярэжцы. 2. Пакінуты незасеяным. *Еловэ поле*. Верасніца.

Я'ЛОВУ *прым*. △ Я'ловуе дзвéры. Праход у плаціне для пропуску плывучага лесу, плытоў. *Яловые дзверы, шо дзерэво плавяць*. Мачуль.

Я'ЛОЎКА *ж*. Ялаўка. *Вона ялуўка, мо п'яць год не кочаласа та коза*. Хачэнь. *Ялоўка не пополюе, гладка така*. Запясочча.

Я'МА *ж*. 1. Яма. *Вукопае яму, бу хата*. Цераблічы. *Е'сцека ямі, стойла, дзе рыбі стояць*. В. Малешава. 2. Магіла. *Домовіну опускаюць у яму*. Хотамель. *Не копай яму некому, бо сам упадзеш* (прыказка). Сямігосцічы.

ЯМІ′НА *ж.* Яміна. *Трэбо утоптаць стожка́, шоб ямі́ны не було.* В. Малешава.

Я′МКА *ж.* 1. Ямка. *Вурыло ямку водою.* Сямурадцы. *Лу́чэй росце коло ямо́к.* Кароцічы. 2. Магіла. *Нема такое мамкі, шоб не было ямкі* (прымаўка). Хачэнь. 3. Пячурка. *Положэ́це ў ямку, нехай посохнуць* (пра рукавіцы). Тураў. *Памянш.* я́ м о ч к а. *Картоплі варшаўкі бе́ленькіе, только емочо́к багато.* Дварэц. △ Д а́ ц ь п о д я́ м о ч к у. Ударыць пад сонечнае спляценне. *Даў под я́мочку і дух занело.* Аздамічы. У я́ м о ч к і. Узор тканіны. *Рушнікі з мо́хрыкамі, у ямочкі ўзя́лі.* Дварэц.

Я′МЧЫНА *ж.* Яміна. *Була такая ямчына дай вусохла.* Альшаны.

Я′НГОЛ *м.* Анёл. *Памянш.* я́ н г о л о к. Сямурадцы.

Я′ПА, ЎЯ′ПА *ж.* 1. Гуля. *Япа бувае ў коровы, ек удырыш у бок.* В. Малешава. *Удырыла кота́, то ў ёго́ о така япа на боку, дай жыве.* Хачэнь. 2. Нарасць на дрэвах. *Виросла япа на дзерэві.* Пагост. *З етых япоў на берозі робілі люлькі.* Запясочча. 3 *экспр.* Зяпа. *Чого розявіў япу?* М. Малешава. *Памянш.* я́ п і н к а. *Япінку ву́б'ём з оле́шыны.* Верасніца.

ЯР *м.* Нізкае месца. *Ярь — нізке место, дзе вода спадзе да коровы ходзяць.* Альшаны. Равок. *Яр не можно перэбрусці.* Чэрнічы.

Я′РКІ *прым.* 1. Яркі. *Ярка погода, сено добрэ сохне.* В. Малешава. 2. Празрысты, чысты. *Яркі воск.* Луткі. 3. Крамяны, храбусткі. *Яркіе, едраны́е гуркі.* Аздамічы. 4. Увішны. *Як буў молоды, то буў я́ркі.* Кароцічы. 5. Заўзяты, злы. *Яркіе булі воўкі, злые.* В. Малешава. *Ек малы́й почына́е брэхаць, кажуць, от будзе яркій собака.* Луткі. *У спасоўку мухі вельмі яркіе.* Там жа. 6. Востры, рэзкі. *Коса я́рка, шо брытва.* В. Малешава.

Я′РКО *прысл.* Узбіта, пышна. *Посцелю пад'яру́ да положу подушкі ярко. Я люблю, ек под'яраны воны́.* В. Малешава.

Я′РКОСЦЬ *ж.* 1. Жвавасць. *І ў трыццаць год не маў той яркосці.* Кароцічы. 2. Вастрыня, рэзкасць. *Коса твоя не ймея яркосці.* Старажоўцы.

Я′РКУС *м.* Просвіра. *Гэты яркус, ек дзеці малы́е, то шоб ёго́ нішчо не спужало, не зурочыло, то зашывалі у шматочку і вешалі на шыйку* (павер'е). Старажоўцы.

Я′РМОЛОК *м.* Кірмаш. *У недзелю пойду на ярмолок*

*у Городок.* М. Малешава. *Дзве бабу базар, а тры ярмолок* (прымаўка). Верасніца.

ЯРОВІ'НА *ж.* Яр. Бярэжцы.

Я'РОВУ' *прым.* Яравы. *Усю ярову́ пашню́ зовом ярыца.* Цераблічы.

Я'РОСЦЬ 1 *ж.* Пякучасць, злосць (пра камароў, мошак і інш.). *У мусколі сама яросць весною.* 2 *прысл.* Вельмі. *Жукі гулі на селе, яросць!* Любавічы.

Я'РОЦІНА *ж.* Ярына. Хотамель.

Я'РУГА *ж.* Вялікая гразкая лужына. *Вода позбегала на дорозі — і еруга. Вукінь у ту еругу смецье.* Запясочча. *Колесо стало у ту еругу, і машына не можэ вуехаць.* Луткі.

Я'РУС *м.* Канец. *Два ярусы картоплёў у Хве́дора, багато наросло.* В. Малешава. *Бурт — то ўжэ длінны, у колхозі, мэтроў дзесяць, а як мешкоў дзесяць-дванаццаць картошкі — то ярус.* Мачуль. Курган, насып. *У нас ярусо́ў багато було на полі.* Хачэнь.

Я'РХА' *ж.* Арфа (для ачысткі зерня). *Жонкі ярховалі у ярсі пшэніцу.* Верасніца.

ЯРХОВА'ЦЬ *незак.* Арфаваць. Верасніца.

ЯРЧУ'К *м.* Кучаравы чалавек. Цераблічы.

ЯРЧУКОВА'ТЫ *прым.* Кучаравы. *Маленькіе цыганчэнята ерчуковатые.* Верасніца.

ЯРЧУКІ' *мн.* Кучары. *Ерчукі покру́чэные.* Аздамічы.

ЯРШЫ'Н *м.* Аршын. *Полотно на ершыны́ мералі.* Кароцічы.

Я'РЫ *прым.* 1. Яравы. *Пшэніцу я́ру і пшэніцу озіму у колхозі сеюць.* Дварэц. *Сеялі яру пшэніцу, цепер не сеюць.* Хачэнь. 2 *перан.* Заўзяты. *Яры, зоўзя́ты да роботы.* Альпень. *То ўжэ такі яры зло́дзей, то мо й ў селе такого нема.* Верасніца. 3. Заўзяты, злы. *Ярый собака — поганый.* Хачэнь.

ЯРЫНА' *ж.* Ярына. *Му только засевалі ерыну: оўёс, ечмень.* Старажоўцы.

Я'РЫЦА *ж.* Тое ж. *З ярыцы кро́хкэ цесто, вонэ ша́мае ў роце.* Хачэнь.

ЯСЕНЁВУ *прым.* Ясянёвы. *Ясенёвуе, берэзо́вуе, кленовуе булі вілы.* Старажоўцы.

Я'СЕНЬ *м.* Ясень. *Нема лесу, от дзе ясень у селе, ека ве́рба.* Сямігосцічы.

ЯСЕНЕ'Ц *м.* Тое ж. *Одсёк есенца́ на дугу.* Мачуль.

ЯСЕННІ'К *м.* Ясеннік, драўніна з ясеня. Луткі.

Я'СІҚ *м.* Падушачка. Бярэжцы.

Я'СЛІ *мн.* Яслі. *Я коню есе́ль не робіў.* Луткі. *Натрусі сена корові да положы за яслі, шчоб ела.* Қароцічы.

Я'СМЕННЫ *прым.* Узбуджаны, усхваляваны. *Шчото ты зробіласа нека ясменна, голос некі повўшоны.* Цераблічы.

ЯСНЕ'ЦЬ *незак.* Яснець, ззяць. *Тые ґўзікі яснеюць!* (на кіцелі). Верасніца.

ЯСНО'ТА *ж.* Вялікая ясната. *На дворэ ужэ такая яснота!* Азяраны.

Я'СНЫ *прым.* Ясны. *Онё я́снэ небо робіцца.* Дварэц. *Мы ж ужэ стары́е, это молодым трэбо, шчоб було я́снэ.* Луткі.

Я'СОҚОР *м.* Таполя. Любавічы.

Я'СОЧҚА *ж. экспр.* Прыгажуня. *Красівы, шчо ясочка!* Аздамічы.

Я'СТРЭ'Б *м.* Ястраб. *Я'стрэб — которы ловіць шпакоў.* Запясочча.

ЯСТРЭБЕ'Ц *м.* Тое ж. *Ястрэбэц под сову́ подхо́діть.* Альпень.

Я'ТРАЦЬ *ж.* Пачырваненне скуры. *Ятраць на целе ў дзецей бувае.* М. Малешава.

ЯТРО'ВІЦА *ж.* Жонка брата. *Етровіца к ей пошла, іх чолове́кі браты!* Верасніца.

ЯТРО'ЎҚА *ж.* Тое ж. *Твой муж да мой муж — браты, то мы етро́ўкі.* Мачуль. *Қолі у гурці жывуць браты, то етроўкі часто сварацца, особенно, ек е дзеці.* Тураў. *Етроўка — ліха вероўка* (прымаўка). Верасніца.

Я'ТРА *мн.* Болькі. *Это ятра на віду, ёго́ откіда́юць.* Старажоўцы.

Я'ТРЫЦЦА *незак.* Чырванецца. *Почэсаў, дай зноў рана я́трыласа.* Хотамель.

Я'ЎҚАЦЬ *незак.* 1. Мяўкаць. *Қот стаў яўкаць, есці хочэ.* Хотамель. *Яўча́ць коты́.* Бярэжцы. 2 *перан.* Плакаць (пра дзяцей). *Қіне, ры́не одных, то яўкаюць блізнюкі.* Бярэжцы.

Я'ЦЕЛЬ *ж.* Пратока. *От ека лужына, дзе вода пробага́е васной, то зовэ́мо яцель.* Мачуль. *Поедзеш яцеле́ю і ў Олема́ні прыедзеш.* Велямічы. *Е така ложчына гразкая, то вона з той ложчыны да ў гэту іде, та ятель.* Рубель.

Я'ЦОНКА *ж.* Вялікі кавалак. *Добру яцонку м'яса укінь, то борш будзе добры, сыты.* Сямурадцы.

ЯЧМЕ'НІНА *ж.* Ячменнае зерне. *У молодого коня у его зуб у крэмінў почці ечмéніна улезе.* Дварэц.

ЯЧМЕ'НІШЧЭ *н.* Ячнішча. *На ечменішчы картоплі порослі добрые, ек голоўе!* Верасніца.

ЯЧМЕ'ННЫ *прым.* Ячменны. Верасніца.

ЯЧМЕ'НЬ *м.* 1. Ячмень. *Ячмень клалі прамо ў кóпу.* Старажоўцы. *Мешкоў дванаццаць одного ечменю стоіць.* Луткі. 2. Ячмень на воку. *Ечмень на очы садзіцца, на вейцы.* М. Малешава.

Я'ЧНІК *м.* Ячны блін, печыва з ячнай мукі. *Ячнікоў наеўса, але коб это пшэнічные!* Верасніца. *Як прывезе тых ячнікоў, шо коляцца, то тыждзень емо.* Дварэц.

Я'ЧНІШЧЭ *н.* Ячнішча. Луткі.

Я'ЧНЫ, Я'ШНЫ *прым.* Ячны. *Добра хозяйка з ячной мукі зробіць пшэнічны хлеб* (жарт). Чэрнічы. *Бусько казаў — на ячной копе поседжу, да і ў поўрэй полечу* (прымаўка). Сямігосцічы.

Я'ЧЭЙКА *ж.* Ячэйка ў жорнах. *Поўну ячэйку насыпаў зерня.* Луткі. Ячэя у сотах. *У чмелёў екіх дзве ечэйкі мёду.* Запясочча.

ЯЧЭЯ' *ж.* Адтуліна ў верхнім камені жорнаў. Альшаны.

Я'ШЧЫК *м.* Нізкая бочка з накрыўкай для захоўвання сала. Верасніца.

Я'ШЧЭРКА *ж.* Яшчарка. *Яшчэрка — вона урэдна.* В. Малешава. *Воны ж тыкі ешчэркі. Яшчэрка бежыць буйстро.* Луткі. *Яшчэрку палкою стукні, так хвост отпадзе, а вона побежыць.* Аздамічы. *Грызецца, ек яшчэрка.* Верасніца. *Яшчэрка еслі б укусіла, то капут.* Запясочча.

# АНАМАСТЫКА

## *Палі*

АНДРЭ'ЕЎ СЕНОКО'С. Аздамічы.
АРЦЁМОВА ПОЛЯ'НКА. Любавічы.
АЭРОДРО'М *м.* М. Малешава.
БАБА'Н *м.* Сямурадцы.
БА'БІН БО'РОК. Мачуль.
БАРА'НЬ *ж.* Рычоў.
БАРАСТО'К *м.* Мачуль.
БАРСУКІ' *мн.* Хільчыцы.
БА'ШЫНА *ж.* Цераблічы.
БЕ'ЛЬКОЎ *м.* Старажоўцы.
БЁРВЕЧКІ' *мн.* В. Малешава.
БЕ'РЕКОВО *н.* Запясочча.
БЕ'РЭГ *м.* Рамель.
БЕРЭ'ЗНІК *м.* Азяраны, Рычоў, Сямурадцы.
БЕРЭ'ЗНІКІ *мн.* Старажоўцы, Цераблічы.
БЕРЭ'ЗНЭ *н.* Альгомель.
БЕРЭСТОВЕ' *н.* Хотамель.
БЕ'СЕДКІ *мн.* Рычоў.
БЛІ'ЖНЯ *ж.* Талмачава.
БОР *м.* Кароцічы, Любавічы [1], Пагост, Рычоў.
БО'РКІ *мн.* Мачуль, Хільчыцы, Хотамель.
БОРОВІ'ЦА *ж.* Сямігосцічы.
БОРОВЕ', БОРОВЭ' *н.* Аздамічы, Кароцічы.
БО'РОК *м.* Талмачава.
БО'РОЧОК *м.* Знаменка, Старажоўцы, Сямурадцы [2].
БОРОШЧЫ'Н *м.* Альпень.
БОРЭ' *мн.* Мачуль.
БОСОЎСКІ'Е *мн.* Мачуль.
БРУ'СОВО *н.* М. Малешава.
БУЛА'ТОЎ ХУ'ТОР. В. Малешава.
БУ'ЛІНА *ж.* Хільчыцы.
БУРЕ'ЖЧЫНА *ж.* Запясочча.
БУ'ТНЕВО *н.* М. Малешава.
ВАЖО'Д *м.* Аздамічы, Альгомель.
ВАЛЕ'ЦІНКІ *мн.* Старажоўцы.
ВАЛІ'КІ СТРЫКО'Ў. Мачуль.
ВЕЛІ'КА НІ'ВА. М. Малешава.
ВЕЛІ'КЕ ЗАГА'ЦЬЕ. Альгомель.
ВЕЛІ'КЕ ПО'ЛЕ. Аздамічы.
ВЕЛІ'КІЕ МІХАЛЁЎКІ. Буразі.
ВЕЛІ'КОПАНЬ *ж.* Хільчыцы.
ВЕРЕСО'ЎКА *ж.* Пагост.
ВЕРХКЛЮ'Ч *м.* В. Малешава.
ВЕРЭСО'ВА ГРАДА'. Хачэнь.
ВЕТО'ЧОК *м.* Альгомель.
ВІРО'К *м.* Хотамель.
ВІ'РКІ *мн.* М. Малешава [3].
ВІТОРА'ДЗІНЫ *мн.* Мачуль.
ВІ'ШНЕ *мн.* Хільчыцы.
ВІ'ШНЁЎ *м.* Талмачава.
ВІШЭНЬКІ' *мн.* Хачэнь.
ВОГАРЭ'Ў *м.* Альпень.
ВОЙЧЫ'ЦКО *н.* Мачуль.
ВОРО'НЕ *н.* Аздамічы.
ВОРО'НІНО *н.* Запясочча.
ВО'СОЎЕ *н.* Старажоўцы, Хачэнь.
ВУ'ГЕЛЕЦ *м.* Пагост.
ВУ'ГОЛ *м.* В. Малешава, Хільчыцы, Цераблічы.
ВУ'ГОН *м.* Рычоў, Хільчыцы.
ВУ'ЖАР *м.* В. Малешава [4].
ВУ'ЗЕНКА *ж.* Знаменка.
ВУ'ЗЕНЬКІЕ *мн.* Чэрнічы.
ВУЗКА'Я *ж.* Пагост.
ВУЗКІ'Е *мн.* Азяраны.
ВУСО'КІЕ БЕРЭ'ЗНІКІ. Альгомель.
ВЫСО'КА НІ'ЎКА. Хільчыцы.
ВЫСО'КЕ *н.* Альшаны.
ВЭЛІ'КІЕ КОЖУ'ШЫНА. Любавічы.

ВЭЛІ'КІ КОЗЁЛ. Любавічы.
ВЭЛІ'КІ ЛЕСО'К. Любавічы.
В'Я'ЗЕНКІ *мн.* М. Малешава.
ГАЛЬКО'ВА ПОЛЯ'НКА. Хільчыцы.
ГА'ТА *ж.* Альгомель.
ГАТОВІ'ЦА *ж.* Сямурадцы.
ГВОЗД *м.* Мачуль.
ГДАНЬЕ' *н.* Мачуль.
ГЛІ'НІШЧА *мн.* Рамель.
ГЛОБНЭ' *н.* Мачуль.
ГЛУШЫ'Н *м.* Альпень.
ГЛУШЭ'Ц *м.* Старажоўцы, Сямурадцы.
ГНОР *м.* Альгомель.
ГОЛЕ'ЦЫЦКО *н.* Пагост.
ГОЛОВА' *ж.* Хотамель.
ГОЛЯ'ЧЫЦКО *н.* Азяраны.
ГОРА' *ж.* Аздамічы, М. Малешава.
ГОРКІ' *мн.* Мачуль, Хачэнь [5].
ГОРОДЗЕ'Ц ВЕЛІ'КІ. Альшаны.
ГОРОДЗЕ'Ц МАЛЫ'. Альшаны.
ГОРОДЗІ'ШЧЭ *н.* Хільчыцы [6], Хотамель.
ГОРО'ХОЎНІЦА *ж.* Мачуль.
ГОРЫ'ЦА *ж.* Рамель.
ГРАДА' *ж.* Кароцічы.
ГРАДКІ' *мн.* Старажоўцы, Талмачава.
ГРО'МУША *ж.* Альгомель.
ГРУ'ЗКІ О'СТРОЎ. Старажоўцы.
ГРУСТЫ'НЬ *ж.* В. Малешава.
ГРЭ'БЕЛЬКА *ж.* Пагост.
ГРЭ'СЬКОВА ГОРА'. Хотамель.
ГРЭЦКО'ЎЕ *н.* Любавічы [7].
ГУ'МНІШЧА *мн.* Любавічы.
ГУ'РЧЫШЧА *мн.* Старажоўцы.
ГУ'СЦЬЕ *н.* Кароцічы.
ГУ'ЦОЎ *м.* Кароцічы.
ДА'ЛЬНЯ НОВІНА'. Старажоўцы.
ДВО'РЫШЧА *мн.* Хачэнь, Хільчыцы.
ДЗЕ'ДОЎКІ *мн.* Альпень.
ДЗЕЛЯНКІ' *мн.* Старажоўцы.
ДЗЕРБІНА' *ж.* Хачэнь.
ДЗЕРЖЫ'ЧОЎ *м.* Кароцічы.
ДЗЕ'ТКОВО *н.* Мачуль.
ДЗЯКО'Ў КРАЙ. Старажоўцы.
ДОРО'ГІ *мн.* М. Малешава.
ДО'ЎГА *ж.* Альгомель, Альпень, Знаменка.
ДОЎГА' *ж.* Знаменка.
ДО'ЎГА ДУБРО'ВА. Мачуль.
ДО'ЎГА ЛОЗА'. Буразі.
ДО'ЎГА ПОЛЯ'НКА. Хільчыцы.
ДО'ЎГЕНЬКЕ *н.* Старажоўцы.
ДО'ЎГІ ОСТРОВО'К. Старажоўцы.
ДО'ЎГІ О'СТРОЎ. Хотамель.
ДО'ЎГЭ *н.* Буразі.
ДО'ЎЖЫЦА *ж.* Альгомель.
ДУБЕНСКЕ' *н.* Старажоўцы.
ДУ'БІШЧО *н.* Запясочча.
ДУБКІ' *мн.* Чэрнічы.
ДУБНІ'К *м.* М. Малешава [8].
ДУБНІКІ' *мн.* Любавічы.
ДУБРО'ВА *ж.* Любавічы, Мачуль, Рычоў, Сямурадцы, Хільчыцы, Цераблічы.
ДУБРО'ВІЦА *ж.* Аздамічы.
ДУ'БРОЎКА *ж.* Альпень, Хільчыцы.
ДУБРОЎКІ' *мн.* Аздамічы.
ДУБРОЎСКЕ' *н.* Аздамічы.
ДУ'БЦЫ *мн.* Аздамічы.
ЕСЕНО'ВЭ *н.* Мачуль.
ЖДАНЬЕ' *н.* Мачуль.
ЖМУРО'ЎНЕ *н.* Запясочча.
ЖУРЫ'ХА *ж.* Сямурадцы.
ЖЫРЫЧПО'ЛЕ *н.* Хачэнь.
ЖЭ'РДЗІ *мн.* Аздамічы.
ЗАБАРЭ'Ж'Е *н.* Альпень.
ЗА'БЕРЦЫ *мн.* Альшаны.
ЗАБЕРЭ'ЗНІКІ *мн.* Рамель.
ЗАБЕРЭ'СЦЕ *н.* М. Малешава.
ЗАБО'КІ *мн.* В. Малешава.
ЗА'БОЛОЦЬ *ж.* Сямурадцы.
ЗА'БОЛОЦЬЕ *н.* В. Малешава.
ЗАБОЛО'ЦЬЕ *н.* Знаменка, Сямігосцічы.
ЗАБО'Р'Е *н.* Рамель.
ЗАБО'РКІ *мн.* Знаменка.
ЗАБОРОВІ'Ч'Е *н.* Сямігосцічы.
ЗАВЕ'РБОЧЬЕ *н.* Аздамічы.
ЗАВОЖО'ДЗЬЕ *н.* Аздамічы.
ЗА'ВОРДОЛІ'НА *ж.* В. Малешава.
ЗАВ'Я'ЗНІК *м.* В. Малешава.
ЗАГА'ЦЕЛЬ *м.* В. Малешава.

ЗАГА'ЦЬЕ *н.* Любавічы, Рамель.
ЗАГА'ЦЬЕ ПЕ'РЭД. Альгомель.
ЗАГОРА' *ж.* М. Малешава.
ЗАГО'Р'Е *н.* М. Малешава [9].
ЗАГО'РКА *ж.* Альпень.
ЗА'ГОРОД *м.* Кароцічы.
ЗАГРА'ЦКА СІ'ЛЕГА. Альпень.
ЗАГУМЕ'НЬЕ *н.* Пагост.
ЗАДВО'Р'Е *н.* Талмачава.
ЗА'ДНІЕ ОСНІКІ'. Хільчыцы.
ЗА'ДНІ О'СТРОЎ. Старажоўцы.
ЗАДО'ЎЖ'Е *н.* Талмачава.
ЗАЗЕ'Р'Е *н.* Аздамічы.
ЗАКО'РЧЫН *м.* Азяраны.
ЗАКО'ТКА *ж.* В. Малешава.
ЗАКРЫНІ'ЦЫ *мн.* Хачэнь [10].
ЗАЛЕ'СЬЕ *н.* Альгомель, Старажоўцы.
ЗАЛЕ'ШЧ'Е *н.* Талмачава.
ЗАЛЕ'ШЧА *мн.* Аздамічы.
ЗАЛЕ'ШЧЭ *н.* М. Малешава.
ЗАЛО'З *м.* Альгомель.
ЗАЛУКА' *ж.* Альпень.
ЗАЛЮ'БЖЭНЬЕ *н.* Сямігосцічы.
ЗА МО'ГЛІЦАМІ. Рамель.
ЗАМО'ГЛІЧЬЕ *н.* Аздамічы.
ЗА МОСТ. Буразі.
ЗАМОСТО'ЧЬЕ *н.* Сямурадцы.
ЗАМО'СЦЕ *н.* Любавічы, Цераблічы.
ЗАМО'ШЧЫ *мн.* Аздамічы.
ЗАМОШЧЫ'ШЧЭ *н.* Аздамічы.
ЗАПАДНЯ' *ж.* Кароцічы.
ЗАПЕШЧА'НІЦА *ж.* М. Малешава [11].
ЗА ПОДЫ'. Хачэнь [12].
ЗАПО'ЛЬЕ *н.* М. Малешава, Рубель.
ЗАПША'Р *м.* Хачэнь.
ЗАРЭ'ЧКА *ж.* Любавічы.
ЗАСА'ДЗЬЕ *н.* Сямурадцы.
ЗА СА'ДОМ. Чэрнічы.
ЗАСЛЕПЕЧЫ'ШЧЭ *н.* Хільчыцы.
ЗАСНІ'КІ *мн.* В. Малешава.
ЗАСТАВО'Ч'Е *н.* Старажоўцы.
ЗАЎСКРЭ'СІНА *ж.* Хільчыцы.
ЗАХІНО'ЎСК *м.* Альшаны.
ЗВОЗ *м.* Альгомель.
ЗДЫ'МНЭ *н.* Рамель.
ЗНЕ'НО *н.* Альгомель [13].
ЗНЕ'НЦЭ *н.* Альгомель.
ЗОЛОТА'Я ПОЛЯ'НА. Буразі.
КАЖАНО'ЎШЧЫНА *ж.* Знаменка.
КАЛІ'НОЎ КУСТ. Сямурадцы.
КАЛІ'НОЎНІКІ *мн.* Хотамель.
КАПУ'СНІК *м.* Азяраны.
КАРАНДО'ВІЦА *ж.* Луткі.
КВІТОВА'Я *ж.* Аздамічы.
КЛІН *м.* Альпень.
КЛІНЫ' *мн.* Запясочча.
КЛЮЧ *м.* В. Малешава.
КОЖАНО'Ў РОГ. Талмачава.
КОЗАКО'Ў РОГ. Альшаны.
КО'ЗЛІШЧА *мн.* Альшаны.
КОЗЛО'ВЫЕ НІЎКІ'. Сямурадцы.
КОЗЛЫ' ВЕЛІ'КІЕ. Хільчыцы.
КОЗЛЫ' МАЛЫ'Е. Хільчыцы.
КОЛЕСЦЭ' *н.* Аздамічы.
КОЛОДЕ'ЖЫН *м.* Запясочча.
КО'ЛО МО'ГІЛОК. Бярэжцы.
КО'ЛО МО'ГЛІЦ. Рамель.
КО'ЛО СА'ЖАЛКІ. Сямігосцічы.
КОЛЬНІ'К *м.* М. Малешава [14].
КОЛЬЧЭ' ВЕЛІ'КЭ. Рычоў.
КОЛЬЧЭ' МАЛЭ'. Рычоў.
КОМАРЕ' *мн.* Запясочча.
КОНЕ'Ц *м.* Мачуль.
КОНЕ'ЦБОР *м.* Рамель.
КОНЕ'ЦБОР'Е *н.* Мачуль.
КОНЕ'ЦПОЛЕ *н.* Альгомель.
КОНЭЦПО'ЛЬЕ *н.* Цераблічы.
КО'НІК *м.* Альгомель, Мачуль.
КО'ПАНЬ *ж.* Знаменка.
КО'ПАНЬЕ *н.* Старажоўцы.
КОПА'НЭ *н.* Хотамель.
КОРО'ЎЕ *н.* Мачуль, Рамель.
КОРО'ЧЫНО *н.* Аздамічы.
КОРЧО'ЎЕ *н.* Альшаны.
КОСЕВА'ТА *ж.* Альгомель, В. Малешава.
КО'СТРЫЦКО *н.* Кароцічы.
КОСЦЕНЦІ'НА *ж.* М. Малешава.
КО'СЦІКОВА *ж.* Хільчыцы.
КОЎПЧЭ' *н.* Мачуль.
КОШЭ'ВІШЧЭ *н.* Сямурадцы.
КРА'СНА *ж.* Рамель.
КРА'СНІЦА *ж.* Старажоўцы.

КРА'СНЫ БЕ'РЭГ. Альпень.
КРА'СНЫ БО'РОК. М. Малешава.
КРОСНІ'ЦА *ж.* Альпень.
КРУЖО'К *м.* Рычоў.
КРУ'ПСІНА *ж.* Альгомель.
КРУ'ТОЎ *м.* Альгомель.
КРУШНІ'К *м.* Хільчыцы.
КРЫВА'ВАЯ НІ'ВА. М. Малешава [15].
КРЫВА' НІ'ВА. В. Малешава.
КРЫВА'Я *ж.* Бярэжцы.
КРЫВЕ' ДУБРО'ВЕ. Запясочча.
КРЫЖ *м.* Альшаны.
КУПІ'ЛНО *н.* Кароцічы.
КУСТОВА'ХА *ж.* Сямурадцы.
КУСТОВІ'ХА *ж.* Знаменка.
ЛАПЕ'ЧОЎ *м.* В. Малешава.
ЛЕДЗЕНІ'К *м.* Старажоўцы.
ЛЕДЦЭ' *мн.* Рычоў.
ЛЕМЕНТАРЫ' *мн.* Альпень.
ЛЕСА' *ж.* Рычоў.
ЛЕ'СКІ *мн.* В. Малешава.
ЛЕСКО'ВА *ж.* Альпень.
ЛЕ'ЧЭНІЦА *ж.* Пагост, Чэрнічы.
ЛЕ'ШНЕ *н.* Хільчыцы.
ЛІНІНЕ'Ц *м.* В. Малешава.
ЛІ'ПКІ *мн.* Буразі.
ЛІ'ПНІКА *ж.* Бярэжцы.
ЛІ'ПНЭ *н.* Хотамель.
ЛІ'ПО *н.* Альгомель.
ЛІ'ПЧА *ж.* Хотамель.
ЛІПТО'Ў *м.* Аздамічы.
ЛІСІ'ЧЫНА *ж.* Альшаны.
ЛІ'СНЕТОК ВЕЛІ'КІ. М. Малешава [16].
ЛІ'СНЕТОК МАЛЫ'. М. Малешава.
ЛІХІ' ГРОНЬ. М. Малешава.
ЛІЦВІ'Н *м.* Альгомель.
ЛІЧЫ'ШЫНО *н.* Аздамічы.
ЛО'ДЫЧ *м.* Альшаны.
ЛО'СІЧА *ж.* Кароцічы.
ЛОЎЗО'Ў *м.* М. Малешава.
ЛО'ШЫЧЫ *мн.* Аздамічы.
ЛУКА' *ж.* Запясочча.
ЛУ'ТКІ *мн.* Л393ткі.
ЛУЧЫ'ЦА *ж.* Старажоўцы.
ЛУШЫ'Н *м.* Любавічы.
ЛЫНЕ'ВО *н.* Альгомель.
ЛЫНЁЎКА *ж.* Альгомель.
ЛЫ'СА ГОРА'. Рамель.
ЛЮ'БЖНЯ *ж.* Сямігосцічы.
ЛЮБІ'Н *м.* Кароцічы.
ЛЮБІНЕ'Ц *м.* Кароцічы.
ЛЮБОВІ'ЖЫ *мн.* Хотамель.
ЛЮБОВІ'ЦКЕ *н.* Хільчыцы.
ЛЯ'ДО *н.* Буразі, М. Малешава [17], Рычоў, Хачэнь, Хільчыцы, Цераблічы.
ЛЯ'ХОВІЦА *ж.* Старажоўцы, Сямурадцы.
ЛЯ'ХОВО *н.* Мачуль, Рамель.
ЛЯ'ХОЎСКА *ж.* Запясочча.
МАЛЫ'Е КОЖУ'ШЫНА. Любавічы.
МАЛЫ'Е МІХАЛЁЎКІ. Буразі.
МАЛЫ' КОЗЁЛ. Любавічы.
МАЛЫ' ЛЕСО'К. Любавічы.
МАЛЫ' СТРЫКО'Ў. Мачуль.
МАЛЫ'ШЧЫН *м.* Буразі.
МА'РКОВА *ж.* Альгомель.
МАРУ'ШЧЫНА ГРАДА'. Кароцічы.
МЕЛЕ'ШКОЎКА *ж.* В. Малешава.
МЕ'ЛЬНІКОЎ *м.* Рамель.
МІ'ЖДОРОЖ *м.* Пагост.
МІЖЛО'ЗЫ *мн.* Хачэнь [18].
МІ'ЗДОРОЖ *н.* Сямурадцы.
МІ'ЗДОРОЖ'Е *н.* Сямурадцы.
МІ'НКОЎКІ *мн.* Альгомель.
МІХАЛЁЎКІ *мн.* Буразі, Хільчыцы.
МЛІН *м.* Хачэнь [19].
МОГІ'ЛКА *ж.* Бярэжцы.
МОЗОЛЁВЭ ПО'ЛЕ. Хотамель.
МОРК *м.* Рычоў [20].
МОСКО'ЎШЧЫНА *ж.* Хачэнь.
МОШЧЫ'ШЧА *мн.* Кароцічы, Аздамічы.
МЦЫНЬ *ж.* Аздамічы.
НА ГОРЧАКУ'. Знаменка.
НАДСО'СОНЬЕ *н.* Сямурадцы.
НА'СТРО *н.* Рубель.
НА'СПІ *мн.* Альгомель.
НЕЛЮ'БА *ж.* Хачэнь.
НЕ'МЧЫНА *ж.* Буразі.
НЕНА'ДОЎКА *ж.* Хачэнь.
НЕПРЫЦЭ' *н.* Чэрнічы.
НІ'ВА *ж.* Азяраны, Знаменка.
НІ'ВЫ *мн.* Мачуль.
НІЗ *м.* Альгомель, Бярэжцы, Рычоў.
НІЗО'Р *м.* Альгомель.

НІПРЭ′Ц *м.* Дварэц.
НІ′ЎКА *ж.* Буразі, Знаменка, Любавічы, М. Малешава, Рычоў, Хачэнь.
НІЎКІ′ *мн.* М. Малешава, Сямурадцы.
НІ′ЎКІ *мн.* Старажоўцы.
НОВІНА′ *ж.* Любавічы, Старажоўцы, Сямурадцы, Хільчыцы.
НОВІНКІ′ *мн.* Любавічы.
НОВІ′НСКІ О′СТРОЎ. Старажоўцы.
ОБОЛО′НЬЕ *н.* Альгомель.
ОБША′Р *м.* Знаменка, Хачэнь.
ОГОРО′Д *м.* Альгомель.
ОГОРО′ДЫ *мн.* Бярэжцы.
ОДРЫНКІ′ *мн.* Талмачава.
О′ЛОМ′ЕЦІ *мн.* Кароцічы.
ОПА′РА *ж.* Кароцічы.
ОРЛО′ВА *ж.* В. Малешава.
ОСНІ′К *м.* Хільчыцы.
ОСТРОВЫ′ *мн.* Старажоўцы.
О′СТРОЎ *м.* Знаменка, Любавічы, Мачуль, М. Малешава [21].
О′СТРОЎ ВЕЛІ′КІ. Альшаны.
О′СТРОЎ МАЛЫ′. Альшаны.
ОЎДЗЕ′ЕЎ ПО′ЦЕРЭБ. Аздамічы.
ПАДО′ЎЖЫЧА *ж.* В. Малешава.
ПА′НСКЕ *н.* Пагост.
ПАРАДЛУКА′ *ж.* Хотамель.
ПАРАХРЭ′СЦЕ *н.* Альпень.
ПАРХО′МСЬКОЕ *н.* Рубель.
ПАРЭ′ДНЕ ПО′ЛЕ. Мачуль.
ПАЦУКІ′ *мн.* Буразі, Запясочча.
ПЕЛЬНЕ′ВІЦА *ж.* Любавічы.
ПЕ′РЭД ГУ′МНАМІ. Бярэжцы.
ПЕРЭ′ДНІЕ ОСНІКІ′. Хільчыцы.
ПЕРЭКО′П *м.* Любавічы.
ПЕРЭ′СПЫ *мн.* Сямігосцічы.
ПЕРЭХРЭСЦЬЕ *н.* Рычоў.
ПЕСО′ЧОК *м.* В. Малешава.
ПЕСЧА′НЭ *н.* Знаменка.
ПЕТРО′ЎШЧЫНА *ж.* Талмачава.
ПЕ′ЧНЭ *н.* Кароцічы.
ПЕ′ЧЫШЧА *мн.* Старажоўцы, Сямурадцы.
ПЕШЧА′НІЦА *ж.* Аздамічы, М. Малешава [22].
ПІ′ШЧЫК *м.* Сямігосцічы.
ПЛО′СКЕ *н.* Кароцічы.
ПЛОШЧЫ′ЦА *ж.* Альгомель.
ПЛЯШЧ *м.* Альгомель.
ПО′БАЧ *м.* Альпень.
ПОБЕ′ДНЭ *н.* Мачуль.
ПОГРЭБЦЫ′ *мн.* Талмачава.
ПОД БОЛО′ТО. В. Малешава.
ПОДБОРО′Ч′Е *н.* Сямурадцы.
ПОД ВЕТО′ЧОК. Альгомель.
ПОДВІ′РКІ *мн.* М. Малешава.
ПОДГОРА′ *ж.* М. Малешава [23].
ПОД ДУБРО′ЎКОЮ. Азяраны.
ПОДЗАБОЛО′ЦЬЕ *н.* Сямігосцічы.
ПОДЗЕЛЁНЭ *н.* Знаменка, Пагост, Чэрнічы.
ПОДКРАМО′Ч′Е *н.* Старажоўцы.
ПОД КРУГ. В. Малешава.
ПОД ЛЕ′СКІ. В. Малешава.
ПОДЛУ′ЖНЭ *н.* Старажоўцы.
ПОДЛУ′ЗЬЕ *н.* Сямурадцы.
ПОДОРЛО′ЎЕ *н.* В. Малешава.
ПОДОСНІ′Ч′Е *н.* Альгомель.
ПОДПЕСЧА′НІЦА *ж.* М. Малешава [24].
ПОДРЫ′БЫНЬ *ж.* Альшаны.
ПОДРЫЛО′ЎЕ *н.* Альгомель.
ПОД САДО′К. Бярэжцы.
ПОД СТАРОСЕ′ЛЬЕ. В. Малешава.
ПОДСТРЭЧЭ′НЬЕ *н.* Альшаны.
ПОДУ′БРОД *м.* Альшаны.
ПОДХІНО′ЎСКО *н.* Альшаны.
ПОДЧЭ′РНІЧЫ *мн.* М. Малешава.
ПОДЫ′ *мн.* Пагост.
ПОЖА′Р *м.* Любавічы [25].
ПОКДУ′ЖАР *м.* Кароцічы.
ПОЛІ′ЦА *ж.* Хотамель.
ПОЛОСА′ *ж.* М. Малешава.
ПОЛЬЦЭ′ *н.* Альпень.
ПОМО′Ж′Е *н.* Аздамічы.
ПОПО′ЎКА *ж.* Хільчыцы.
ПОПО′ЎШЧЫНА *ж.* Старажоўцы.
ПОСЬЕТО′ЧНА *ж.* Альгомель.

ПО'ТАК *м.* Старажоўцы.
ПОТОЛМА'ЧОЎ *м.* Любавічы.
ПО'ЦЕРЭБ *м.* Аздамічы.
ПО'ЦЯЖ *м.* В. Малешава.
ПРІДА'ТКІ *мн.* Запясочча.
ПРЫДА'ТОК *м.* Сямурадцы.
ПУ'ЖАЛКІ *мн.* Кароцічы.
ПУСТОВА'ХА *ж.* Сямурадцы.
ПУ'ХЛЭ *н.* М. Малешава [26].
ПУ'ЧЫШЧА *мн.* Рычоў.
ПЧЭ'ЛЬНО *н.* Старажоўцы.
РА'ДАЎЛЕ *н.* Кароцічы.
РАЗДЗЁРЫ *мн.* Хачэнь.
РОГ *м.* Азяраны.
РО'ЗДЗІМЕЛЬ *м.* Альшаны.
РОЗДО'Л *м.* Талмачава.
РЫ'БЧЫН *м.* Старажоўцы.
РЫЛО'ВО *н.* Альгомель.
РЫЧО'Ў *м.* Рычоў [27].
РЭЗА'Н-СВОРЫ' *мн.* Хотамель, Рубель.
РЭ'ЗКІ *мн.* Альгомель.
РЭЗКІ' *мн.* Рычоў.
РЭЗНІ'ЦА *ж.* Кароцічы.
РЭПІ'ШЧЭ *н.* Сямурадцы.
РЭЧКІ *мн.* Хачэнь [28].
САД *м.* Буразі, Сямурадцы.
СА'ЖАЛКА *ж.* Сямурадцы.
САМЕ'Ц *м.* Альшаны.
САМО'ЙЛОЎ *м.* Талмачава.
САРАНА' *ж.* Аздамічы.
СА'ЎЧЫН ВУ'ГОЛ. Альпень.
СВАРЫ'Ж *м.* Кароцічы.
СВАРЫ'ЧОЎ *м.* Альгомель.
СВІДОВА' *ж.* В. Малешава.
СВІ'НІКІ *мн.* Рамель.
СЕ'ЛІЦА *ж.* Буразі.
СЕ'ЛІШЧА *мн.* Бярэжцы [29].
СЕ'ЛЦА *мн.* Кароцічы.
СЕМЕНЬКО'ВІЧЫ ВЕЛІ'КІЕ. М. Малешава.
СЕМЕНЬКО'ВІЧЫ МАЛЫ'Е. М. Малешава.
СЕРЭ'ДНЯ ГРАДА'. Сямурадцы.
СІ'ЛЕГА *ж.* Рубель.
СІ'НЕГОЎ *м.* В. Малешава.
СІРО'ТКА *ж.* Аздамічы.
СІРО'ТКІ *мн.* Аздамічы.
СІ'ТНІЦА *ж.* Хотамель.
СЛАВІ'ЦКА *ж.* Кароцічы.
СЛА'ЎЧЫ *мн.* Альгомель.
СЛІ'ШЧЭ *н.* Старажоўцы.
СМОЛЫ'НЬ *ж.* Рамель.
СМОЛЬЧЫ'НКА *ж.* Запясочча.
СНІ'КІ *мн.* Альгомель.
СНІ'ЦА *ж.* Рубель.
СО'ЛОМ'Е *мн.* Рычоў, Хачэнь [30].
СО'ЛОМ'Е ВЕЛІ'КІЕ. Рычоў.
СО'ЛОМ'Е МАЛЫ'Е. Рычоў.
СОЛОМ'Я'НКА *ж.* Бярэжцы.
СО'НЧЭ *н.* Рубель.
СО'СОНЬЕ *н.* Сямурадцы.
СПА'СКЕ *н.* Рубель.
СПО'РНЭ *н.* Кароцічы.
СТАРОПО'ЛІЦА *ж.* Сямурадцы.
СТАРОПО'ЛІЦА СЛАВІ'ЦКА. Кароцічы.
СТАРОСЕ'ЛЬЕ *н.* В. Малешава [31].
СТА'РЭ СЕЛО'. Кароцічы.
СТО'ЙЛО *н.* Азяраны, Сямурадцы.
СТРЭ'ЛКА *ж.* Запясочча.
СТРЭ'ЛЬБІШЧЭ *н.* Буразі.
СТРЭ'МЧЫ *мн.* Аздамічы.
СТУ'ПІШЧА *мн.* Бярэжцы.
СУЛІ'Н *м.* Альгомель.
СУПО'РНЭ *н.* Мачуль.
СУ'СОНЬЕ *н.* Сямурадцы.
СЦЕБЕЛЕ'Ц *м.* Рамель.
СЦІ'ЎСКІЕ ПЛАВЫ'. Рамель [32].
СЯ'ДРА *мн.* Азяраны.
ТА'ЛЕЖЫ *мн.* Хотамель.
ТОКІ' *мн.* М. Малешава.
ТОЎКА'Ч *м.* Сямурадцы.
ТРЫ'ЧЫНКА *ж.* Сямурадцы [33].
ТЯНЕЦІ'ШЧЭ *н.* Хачэнь.
УСА'ТЧЫНА *ж.* Хільчыцы.
ХВАЛЬНІ'ШЧЭ *н.* Альпень.
ХВОЁНКА БОЛЬША'Я. Альгомель.
ХВОЁНКА МАЛА'Я. Альгомель.
ХВО'І *мн.* Хачэнь [34].
ХВО'ЙКА *ж.* Мачуль.
ХВОЙКІ' *мн.* Хачэнь [35].
ХВОЙНІК *м.* Любавічы, Сямігосцічы, Чэрнічы.
ХВО'ЙСА *ж.* Цераблічы.
ХВО'СЦІКІ *мн.* Знаменка.
ХВОШЧО'ЎКА *ж.* Запясочча.

ХОДОКО'УКА *ж.* Любавічы, Хільчыцы.
ХОМІ'Ч-ПО'ЛЕ *н.* Буразі.
ХО'МЧЫЦ-НІ'ВА *ж.* Сямурадцы.
ХОНЕ'ЕЎКА *ж.* М. Малешава.
ЦВІ'ЛІНА *ж.* Хільчыцы.
ЦЕЛІ'ЦА *ж.* Кароцічы.
ЦЕМНІ'ЧЫШЧА *мн.* В. Малешава.
ЦЕРЭБОСТЫ'НЬ *м.* Цераблічы.
ЦЕРЭ'ПША *ж.* Старажоўцы.
ЦІ'ТОЎКА *ж.* Сямурадцы.
ЦЫГА'НСКІ ОГОРО'Д. Старажоўцы.
ЦЭГЕ'ЛЬНЯ *ж.* Буразі.
ЦЭРКО'ЎЕ *н.* Талмачава.
ЧА'ЙЧЫНА ПОЛЯ'НКА. Хільчыцы.
ЧАХЛЕ' *н.* Аздамічы.
ЧАШЧ *м.* В. Малешава, М. Малешава.
ЧО'РНЫЙ О'СТРОЎ. Кароцічы.
ЧУГАЁЎ ГОРО'Д. Сямурадцы.
ЧЭ'РНЕ *н.* Мачуль.
ЧЭ'РНІЦКЕ *н.* Пагост.
ЧЭРНІЧА'НЧЫНА *ж.* Буразі.
ЧЭ'РНІЧЫ *мн.* М. Малешава.
ЧЭРТОРЫ'Я *ж.* Старажоўцы.
ЧЭРЭ'ЦІНКА *ж.* Старажоўцы, Сямурадцы.
ШРУ'БОВА ПА'СЕЎКА. Хільчыцы.
ШУСЦІ'ЛОЎКА *ж.* Старажоўцы.
ШЧА'КЛІЦКА *ж.* Сямурадцы.
ШЧЫ'ТНЭ *н.* Кароцічы.
ШЧЭХЛІ'ЦКО *н.* Сямурадцы.
ШЫРО'КА *ж.* Талмачава.
ШЫ'Я *ж.* Пагост, Талмачава.
Я'БЛУНЦЫ *мн.* Кароцічы.
Я'ЗВІНА *ж.* Альгомель.
Я'ЗВІНКІ *мн.* Запясочча.
Я'МЕНЕЦ *м.* Кароцічы.
Я'МІЦА *ж.* Альпень, Мачуль.
Я'МНЭ *н.* Кароцічы.
ЯРМОЛІ'НЫ РОГ. Сямурадцы.

## ЗАЎВАГІ ДА РАЗДЗЕЛА «ПАЛІ»

[1] На гэтым полі часта знаходзяць люлькі, чарапкі, косці.

[2] Тое ж, што і *Старопо́ліца.*

[3] *Там ко́лісь цекла́ рэка, её замы́ло і образова́ўса віро́к, і цепе́р вон есь.* М. Малешава.

[4] Урочышча знаходзіцца на ўскрайку сяла.

[5] *Ко́лісь там була́ гора́.* Хачэнь.

[6] На гэтым полі часта знаходзяць люлькі, чарапкі, косці.

[7] Існуе легенда, што гэта поле распрацаваў мужык па імені Грыц (Грэц).

[8] *Ко́лісь тут дубы́ рослі, іх поўкорчо́ўвалі, а цепер поле.* М. Малешава.

[9] *Там рос ко́лісь ор́эшнік і ходзілі за орэхамі, потом его здзерлі.* М. Малешава.

[10] *Там була крыніца, а за ёй поле.* Хачэнь.

[11] *Там земля́ пешча́на, вона находзіцца за пешча́ніцэй.* М. Малешава.

[12] *Ко́лісь там на пода́х пашню́ ложылі.* Хачэнь.

[13] *Зне́но — это корміліца наша була, як во́дзено.* Альгомель.

[14] *Там буў до́ўгі на́сып, і там було обучэнье военных, а цепер трактор усе розбу́рыў.* М. Малешава.

[15] *Колісь война там була, да була рэчка там. Тудо́ю ліласа не вода, а кроў. Вельмі много людзей полегло́. І людзей похоронілі на гетом полі, засыпалі землёю, і веліка гора образовалася. На гетой горэ крэст поставілі. А цепер самы́ холм стоіць, а круго́м оруць. Кожны год находзяць там руж'я, копе́йкі. А геты крэст струх. Цепер там*

*соткі лю́дзям. Як ідзеш на Веліkі Ма́лешоў, то гетое поле находзіцца по левы бок.* М. Малешава.

[16] *Там булі стрэ́льбішча, военные обуча́ліса.* М. Малешава.

[17] *Там го́рка була. Кажуць, шо там склад ру́ж'я буў.* М. Малешава.

[18] *Міжло́зы — між лозамі було поле.* Хачэнь.

[19] *Ко́лісь млін стояў.* Хачэнь.

[20] Поле размешчана каля могілак.

[21] *Булі кусты ко́лісь, усе заро́шчанэ, а цепер ужэ поле.* М. Малешава.

[22] *Там земля пешча́на.* М. Малешава.

[23] *Воно находзіцца под горою.* М. Малешава.

[24] *Воно находзіцца под пешча́ніцэй.* М. Малешава.

[25] Поле на месцы згарэўшага лесу.

[26] *Там колісь стоялі дубы і грушы.* М. Малешава.

[27] Поле размешчана ўздоўж рэчкі.

[28] *Колісь рэчка там цекла.* Хачэнь.

[29] Згодна мясцовай легендзе, некалі на гэтым месцы была вёска.

[30] *Ко́лісь на гэтым месцы было село́.* Хачэнь.

[31] *На старосе́лы і чэрэпкі е.* В. Малешава.

[32] Даўней было балота.

[33] Праз поле праходзяць тры дарогі.

[34] *Хво́йнік колісь рос.* Хачэнь.

[35] *Хво́йка росла там.* Хачэнь.

## *Сенажацi*

АМУ'Р *м.* Чэрнічы.
БА'БІНЫ *мн.* Пагост.
БА'ЗОВУ РОГ. Запясочча.
БАЛКІ' *мн.* Буразі.
БАЛДУЧЫ'ХА *ж.* Чэрнічы.
БАРА'Н *м.* Сямурадцы.
БАРА'НЬ *ж.* Бярэжцы.
БАРБУ'СІНА *ж.* Альпень.
БЕ'ЛА *ж.* Мачуль.
БЕЛОГНО'ВІЦА *ж.* В. Малешава.
БЕРО'ЗКА *ж.* М. Малешава, Сямігосцічы.
БЕ'РЭ *н.* Хачэнь.
БЕ'РЭГ НАД СТАРЫКО'М. Сямурадцы.
БЕРЭ'ЗНІКІ *мн.* Аздамічы, Хільчыцы.
БЕРЕ'ЗНО *н.* Аздамічы.
БЕРЭ'ЗОВЭ ЛЯ'ДО. Альшаны.
БЕРЭ'ЗОЎ О'СТРОЎ. В. Малешава.
БЕРЭСТКІ' *мн.* Любавічы.
БЕРЭСТОВЭ' *н.* Хотамель.
БЕРЭСТО'К *м.* Рамель.
БЕСЕ'ДКА *ж.* Бярэжцы.
БЕ'ХЛІ *мн.* Сямурадцы.
БЕШТАНЬКО'ВО *н.* Запясочча.
БОЛО'НЬ *ж.* Хільчыцы.
БОЛО'НЬЕ *н.* Бярэжцы, Хільчыцы.
БОЛО'ТО *н.* Сямурадцы.
БОР *м.* Талмачава.
БОРОВЭ' *н.,* частка БО'РУ. Талмачава, Аздамічы.
БОРШЧЭ'ВІК *м.* Любавічы.
БОРЭ'ШЧЫНА *ж.* Сямурадцы.
БОСОКО'ЎСКІ ОСТРОВО'К. Любавічы.
БОЎШЫ' *мн.* Альшаны.
БУ'ЖКОЎ *м.* Талмачава.
БУРГО'Н *м.* М. Малешава.
БУ'СЬКОВАЯ ПОЛЯ'НКА. Хільчыцы.
БЭРЭ'СЦКІ *м.* Рубель.
ВАЛЮТО'ЎЕ *н.* Аздамічы.
ВАНЕ' *мн.* Мачуль.

ВАРА'Ш *м.* Альшаны.
ВАРБО'ВА *ж.* Альпень.
ВАСІ'ЛІЧЫ *мн.* М. Малешава.
ВАСЮ'ШКОЎ ЛЕС. Хільчыцы.
ВЕЛІ'КА *ж.* Пагост.
ВЕЛІ'КІ ГРУД. Сямігосцічы.
ВЕЛІ'КІЕ *мн.* Альшаны, Знаменка.
ВЕЛІКО'ПАНЬ *ж.* Хільчыцы.
ВЕ'РБНЭ *н.* Аздамічы.
ВЕРХІ' *мн.* Альшаны.
ВЕРШКО'ВО *н.* Альшаны.
ВЕ'РШЫШЧА *мн.* Талмачава.
ВЕРШЫ'ШЧА *мн.* Хільчыцы.
ВЕ'ТЛЫ *мн.* М. Малешава.
ВЕЦЕЛІ'ШЧЭ *н.* Пагост.
ВЕЦЕ'ЛЬЕ *н.* Альшаны.
ВЕЦЁЛКА *ж.* Альшаны.
ВЕЦЁЛКІ *мн.* Альшаны.
ВІРКІ' *мн.* Знаменка.
ВІТНІ'К *м.* Альшаны.
ВІ'ШНЁЎ *м.* Талмачава.
ВІ'ШНЁЎКА *ж.* Талмачава.
ВОКРУТНЕ' *н.* Альшаны.
ВОР *м.* Альшаны.
ВОРОНО'ЎСКІЕ ГРУДЫ'. Альпень.
ВОРОНЬЯ' *ж.* Запясочча.
ВОРСКІ'Е *мн.* Альшаны.
ВОСІ'ЛЬЕ *н.* Альшаны.
ВОСОКОРЦЭ' *мн.* Бярэжцы.
ВО'СТРОЎ *м.* Рубель.
ВОЎКОЎНЯ' *ж.* Любавічы.
ВОЎКОСЬКА' *н.* Альшаны.
ВОЎЧЫ ЛУЖО'К. Рубель.
ВУ'ЖАР *м.* В. Малешава.
ВУ'ЛІЦА *ж.* Цераблічы.
ВУСО'КІ ГРУД. Хільчыцы.
ВУ'ЦЕНЬІЕ *мн.* Альшаны.
ВЫ'ГОН *м.* Сямурадцы, Хільчыцы.
ВЫ'ПАС *м.* Сямігосцічы.
ВЫРГУ'ЦКОВЫ ГРАДКІ'. Хотамель.
ВЫСО'КІ ОСНІ'К. Мачуль.
В'ЯЗО'К *м.* В. Малешава.
В'ЯЗО'ЎЕ. *н.* Альшаны.
ГАБІ'ШЧА *мн.* Мачуль.
ГА'ЛО *н.* Сямурадцы.
ГА'ЛЭ *н.* Альпень.
ГАЦІ'ШЧА *мн.* В. Малешава.
ГЛАДКА' *ж.* Альшаны.
ГЛУ'ШКА *ж.* Альшаны.
ГЛЫБО'КОЕ *н.* Хільчыцы.
ГНІЛА' *ж.* Пагост.
ГНІЛЫ'Е КРЫНІ'ЦЫ. Альпень.
ГО'ЛІНО *н.* Цераблічы.
ГОЛОВА' *ж.* Сямурадцы.
ГОЛО'ЎЧЫЧЫ *мн.* Старажоўцы.
ГОЛЯШО'Ў *м.* Запясочча.
ГОМОНО'ЎСКА ГРАДА'. Сямурадцы.
ГОРО'ДЗІШЧА *мн.* В. Малешава.
ГОРЫ'ШЫН *м.* Хотамель.
ГОРЭ'ЙШЭ *н.* Рубель.
ГО'СТРОЎ *м.* Буразі.
ГРАБО'ВА *ж.* Альшаны.
ГРАДА' *ж.* Альшаны, Мачуль.
ГРА'ДКА *ж.* В. Малешава.
ГРАДСКА' *ж.* Пагост.
ГРІЧЫ'Н *м.* Альшаны.
ГРОБО'ВО *н.* Альшаны.
ГРОМНЭ' *н.* Мачуль.
ГРОЧА'НЧЫН РОГ. Хотамель.
ГРУД *м.* В. Малешава, Пагост.
ГРУДЫ' *мн.* Альшаны.
ГРУДЫ' БОЛЬШЫ'Е. Альшаны.
ГРУДЫ' МАЛЫ'Е. Альшаны.
ГРУЗКІ'Е *мн.* Бярэжцы.
ГРУ'ШКА *ж.* Сямігосцічы.
ГРУ'ШКІ *мн.* Альшаны.
ГРУЦІКІ' *мн.* Мачуль.
ГРУ'ШЫ *мн.* Мачуль.
ГРУШЭ'ЦКА *ж.* Пагост.
ГРЫ'ШЧЭНЬ *ж.* Альшаны.
ГРЭЦКО'ЎЕ *н.* Талмачава.
ГУСТА' КА'ША. В. Малешава.
ГУ'ЦОЎ *м.* Кароцічы, Талмачава.
ДАМА'НСКІ О'СТРОЎ. Знаменка.
ДЗ'ЕДОВА НІ'ВА. Сямурадцы.
ДЗЕМІ'Д О'СТРОЎ. Рамель.
ДЗЕМІ'ДЗІХА *ж.* М. Малешава.
ДЗЕМІ'ДОВО *н.* Хотамель.
ДЗЕМІ'ДОЎСКАЯ *ж.* Знаменка.
ДЗЕ'МКОВА ГРА'ДКА. В. Малешава.

ДЗЕРЖЫ′ЧОЎ *м.* Талмачава.
ДЗЕРЭВІНІ′ШЧА *мн.* Рамель.
ДЗЕ′ТКОВО *н.* Мачуль.
ДОМОВУ′ХА *ж.* Пагост.
ДО′ЎГА *ж.* Мачуль.
ДО′ЎГА ЛОЗА′. Сямігосцічы.
ДО′ЎГАЯ *ж.* Хільчыцы.
ДО′ЎГЕ *н.* Аздамічы.
ДОЎГРАДА′ *ж.* Рубель.
ДО′ЎГЭНЬКІ *мн.* Альшаны.
ДРАСЕ′НЬ *м.* Пагост.
ДРУ′ГА МІ′КШІНА. Бярэжцы.
ДРЫ′НІШЧА *мн.* Рамель.
ДУ′Б′ЕЧНОЕ *н.* Альшаны.
ДУБКІ′ *мн.* Хільчыцы.
ДУБО′ВА *ж.* Альпень, Альшаны.
ДУБО′ВА ГРАДА′. Пагост.
ДУБО′ВЕ *н.* Альпень.
ДУБОВЕ′Ц *м.* Запясочча.
ДУБОВУ′ХА *ж.* Знаменка.
ДУБО′К *м.* В. Малешава.
ДУБОУСКА′Я *ж.* Чэрнічы.
ДУБО′ЦКЕ *н.* Альшаны.
ДУБРО′ВА *ж.* Аздамічы, Мачуль, Хільчыцы.
ДУ′БРОЎКА *ж.* Альпень.
ДУБЫ′ *мн.* Альшаны.
ДУБЭНЬСЬКА′ *ж.* Альшаны.
ДУ′МАНКА *ж.* Хільчыцы.
ДУПЭЛЕ′Ц *м.* Мачуль.
Е′ВЕЦ *м.* Хільчыцы.
ЕМКІ′ *мн.* Мачуль.
ЕСЕНЕ′Ц *м.* Мачуль.
ЕСЕНО′ВЭ *н.* Мачуль.
ЕЎМІН *м.* Талмачава.
ЖЕЛЕМЕ′ЙКА *ж.* В. Малешава.
ЖО′РНОВОК *м.* Пагост.
ЖО′ЎТЫ ВІРО′К. В. Малешава.
ЖУРАВЕ′ЛЬ *м.* В. Малешава.
ЖЫ′НСКЕ *н.* Цераблічы.
ЖЫ′НЬСКА *ж.* М. Малешава.
ЖЫЎЦО′Ў ДУБ. Мачуль.
ЗАБЕ′ЛЬЕ *н.* Старажоўцы.
ЗАБОКІ′ *мн.* В. Малешава.
ЗА′БОЛОЦЬЕ *н.* В. Малешава.
ЗАБРО′ДДЗЕ *н.* Любавічы.
ЗАБРОДО′Ч′Е *н.* Альшаны.
ЗАБЕРЭ′ЗЬЕ *н.* Альпень.
ЗАВАГА′Н *м.* М. Малешава.
ЗАВЕХОВА′ *ж.* Пагост.
ЗАВІ′Р′Е *н.* Сямігосцічы.
ЗАВІНІ′ШЧА *мн.* М. Малешава.
ЗАВО′ДНОЕ *н.* Хотамель.
ЗАВУ′СЦЬЕ *н.* М. Малешава.
ЗАВУ′ЦЕНІЦА *ж.* М. Малешава.
ЗАГРА′ЦКА *ж.* Мачуль.
ЗАГРУ′ДЗЬЕ *н.* М. Малешава.
ЗАГРУЗО′Ч′Е *н.* В. Малешава.
ЗАГРЭ′БА *ж.* Знаменка.
ЗАГРЭЦКО′ЎЕ *н.* Любавічы.
ЗАГУМЕ′НЬЕ *н.* Хільчыцы.
ЗАДОЛІ′НЬЕ *н.* Мачуль.
ЗА′ДОРОЖ′Е *н.* Аздамічы.
ЗАДО′ЎЖ′Е *н.* Талмачава.
ЗАДУБРО′ЎЕ *н.* Цераблічы.
ЗАДЫ′ЧА *ж.* Рубель.
ЗАЗЕ′Р′Е *н.* Аздамічы.
ЗАКОБУ′ЛЬЕ *н.* В. Малешава.
ЗАКО′ВАНІКІ *мн.* Альшаны.
ЗА КОЗЛА′МІ. Хільчыцы.
ЗАКОСТРО′ЎЕ *н.* М. Малешава.
ЗАКО′ЎПІН *м.* М. Малешава.
ЗАКРІВОСНЕ′ЦЬЕ *н.* Альшаны.
ЗАЛЕСО′Ч′Е *н.* Любавічы.
ЗАЛЕ′СЬЕ *н.* Мачуль.
ЗАЛЕТО′Ч′Е *н.* Цераблічы.
ЗА′ЛОЗІ *мн.* В. Малешава.
ЗАЛО′ЗНЫЕ *мн.* Запясочча.
ЗАЛО′ЗЬЕ *н* Альшаны, Сямурадцы, Талмачава.
ЗАЛУ′Ч′Е *н.* Знаменка.
ЗАЛЮ′ТОВО *н.* М. Малешава.
ЗАМАКСІ′МКОВО *н.* М. Малешава.
ЗАМА′ЛА *ж.* Альшаны.
ЗАМО′ГЛІЧ′Е *н.* Хільчыцы.
ЗАМО′ЎСТВА *ж.* Аздамічы.
ЗАНА′ЎЕ *н.* М. Малешава.
ЗАПЛЕ′СО *н.* Пагост.
ЗАПО′ЛЬЕ *н.* Бярэжцы.
ЗАПРЫ′ПЯЦЬ *ж.* Хачэнь.
ЗАПРЫ′СТАНСКАЯ *ж.* Хільчыцы.
ЗАП′Я′ЛНА *ж.* Альшаны.
ЗАРЭКА′ *ж.* Бярэжцы.
ЗАРЭ′ЎТ *м.* М. Малешава.
ЗАРЭ′ЧЫЧ′Е *н.* Альшаны.

ЗАСЕ'КІ *мн.* Хотамель.
ЗАСІЦЕ'НЬЕ *н.* Альшаны.
ЗАСЛЕПЕЧЫ'ШЧЭ *н.* Хільчыцы.
ЗАСТАРЫ'К *м.* Хачэнь.
ЗАСТРО'ЎЕ *н.* Мачуль.
ЗАТО'Н *м.* В. Малешава, М. Малешава.
ЗАТОНЫ' *мн.* Буразі.
ЗАХВОШЧЭ' *мн.* В. Малешава.
ЗАЯ'ЦЕЛЬЕ *н.* Буразі.
ЗБІ'ШЧА *мн.* Альшаны, В. Малешава.
ЗЕ'БЕНІ *мн.* Пагост.
ЗЕЛЁНЭ *н.* Мачуль.
ЗОЛОТА' ДОЛІ'НА. Знаменка.
І'ЛЬБІШЧЭ *н.* Пагост.
КАЛІ'ВІЦА *ж.* В. Малешава.
КАЛІ'ГВІЦА *ж.* Аздамічы.
КАЛІ'НОВА *ж.* Альпень.
КАЛІ'НОЎ ЛЕС. В. Малешава.
КАЛІТА' *ж.* Хачэнь.
КАРА'СІНА *ж.* Рубель.
КАРАСІ'НЫ *мн.* Пагост.
КАРА'ЧА *ж.* Запясочча.
КАРА'ША *ж.* Чэрнічы.
КВАРТА'ЛЫ *мн.* М. Малешава.
КІ'ЗЁВА *ж.* Мачуль.
КЛЕ'ПКОВА ДОЛІ'НА. Запясочча.
КЛЕ'ТКА *ж.* Пагост.
КЛІК *м.* Аздамічы.
КОВАЛЁВА *ж.* В. Малешава.
КОЖУ'Х *м.* Альшаны.
КО'ЗІ РОГ. Талмачава.
КОЗЛЫ' *мн.* Хільчыцы.
КОКО'РКА *ж.* Хотамель.
КОКО'РЫ *мн.* М. Малешава.
КОЛБА'СОЎ ГРУД. Цераблічы.
КО'ЛБІКІ *мн.* Аздамічы.
КОЛІ'ВІЦА *ж.* В. Малешава.
КОЛО'ДЫ *мн.* Мачуль.
КО'ЛО О'ЗЕРА. Любавічы.
КОНАЎЦО'ВЭ КОШАРЭ'. Хотамель.
КОНДРАЦЕ'ЕВО *н.* Запясочча.
КО'ННА ДОРО'ГА. Цераблічы.
КОНОТО'П *м.* Мачуль.
КО'ПЧЭ *н.* Аздамічы.
КО'РНІКІ *мн.* Альпень.
КОРО'ЎЕ *н.* Рамель.
КОРЧОВА'ТА *ж.* Альшаны.
КОСЕВА'ТА *ж.* Талмачава.
КО'СЦІКОВАЯ *ж.* Хільчыцы.
КОСЦЯШЫ'Н *м.* В. Малешава.
КОЦЕ'ЛЕЦ *м.* Буразі.
КОША'РА *ж.* Альпень, Знаменка.
КРА'СНА *ж.* Аздамічы, Знаменка, Пагост, Рамель.
КРА'СНАЯ *ж.* Чэрнічы.
КРА'СНАЯ ГРАДА'. Альпень.
КРА'СНОЕ *н.* Хільчыцы.
КРА'СНЭ *н.* Мачуль.
КРІВОСНЕ'Т'Е *н.* Альшаны.
КРУ'ГЛА *ж.* Буразі, В. Малешава, Пагост, Талмачава.
КРУ'ГЛОЕ *н.* Запясочча.
КРУ'ГЛЫ *м.* Альшаны.
КРУЖКІ' *мн.* Азяраны, Знаменка.
КРУХО'ВІЦА *ж.* Альшаны.
КРУЦЯКІ' *мн.* Хачэнь.
КРУШЫ'НЬЕ *н.* Рамель.
КРЫВА' *ж.* Пагост.
КРЫВА'Я *ж.* Хільчыцы.
КРЫВОСНЕ'ЦЬЕ *н.* Альшаны.
КРЫВУ'ШЫ *мн.* Мачуль.
КРЫ'ЖЫКІ *мн.* Сямігосцічы.
КРЫО'ЗЕРО *н.* Любавічы.
КРЫТОВА' *ж.* Бярэжцы.
КСЁНДЗО'ЎСКА *ж.* Альпень.
КУЗЕЯ' *ж.* Любавічы.
КУЛАНЕ'Ц *м.* Альшаны.
КУЛА'НЬ *м.* Альшаны.
КУ'ПНІСТА *мн.* Альшаны.
КУ'РДЗІНЭ *н.* Хотамель.
ЛАДЫ'Ч'Е *н.* Запясочча, Пагост.
ЛАПЕ'ЧОЎ *м.* В. Малешава.
ЛЕЖКО'ВА *ж.* Альшаны.
ЛЕЛЕ'ЧНЭ *н.* Альшаны.
ЛЕ'МЕЗЫ *мн.* Альшаны.
ЛЕСКО'ВА *ж.* Альшаны, Хотамель.
ЛЕСО'К *м.* Альпень.
ЛЯ'ХОВЫЕ *мн.* Альшаны.
ЛЕ'ЧЭНІЦА *ж.* Пагост.
ЛІ'ПОВА ГРАДА'. Цераблічы.
ЛІСІ'ЧЫНА *ж.* Цераблічы.
ЛІЧЫ'-ДОЛІ'НА. В. Малешава.
ЛОБА'Ч *м.* В. Малешава.

ЛОВІ'ЧА *ж.* Рамель.
ЛО'ДЫЧА *ж.* Рамель.
ЛО'ЖЧЫН ХУ'ТОР. Аздамічы.
ЛОЗО'ВА ГРАДА'. Пагост.
ЛОЗОВА'ТА *ж.* Цераблічы.
ЛО'ЗЫ *мн.* В. Малешава.
ЛОПА'ТЫ *мн.* М. Малешава.
ЛОСІ'К *м.* Мачуль.
ЛУ'Г'Е *н.* Сямурадцы.
ЛУЖО'К *м.* Бярэжцы, Пагост.
ЛУКА' *ж.* Сямурадцы.
ЛЮБЕ'ТОВО *н.* Альпень.
ЛЮБО'ВА *ж.* Мачуль.
ЛЮ'ТОВО *н.* М. Малешава.
ЛЯ'ЦЦА *мн.* Рубель.
МАДЖВЭ'ДЖА *ж.* Мачуль.
МАДЗЬВЕ'ДЗЕВО *н.* Альпень.
МАДЗЬВЕ'ДЗЬ *м.* Хотамель.
МАЛЫ'ШЧЫН *м.* Буразі.
МА'РКОВЫ ЛУЧКІ'. Аздамічы.
МАЦЕРЫ'НА *ж.* Альшаны.
МЕЛЕШКО'ЎСКАЯ *ж.* Знаменка.
МІЖОЗЁР *м.* Альпень.
МІЖРЭ'ЧЧЭ *н.* Чэрнічы.
МІЖЫЗЁРЫ *мн.* В. Малешава.
МІКО'ЛЬЧЫКОВА *ж.* Хільчыцы.
МІ'КШЫНА *ж.* Бярэжцы.
МІ'КШЫНА ВЕЛІ'КА. Бярэжцы.
МІ'КШЫНА МАЛА'. Бярэжцы.
МОГІ'ЛКА *ж.* Бярэжцы.
МОКОТЫ'Ш *м.* Альшаны.
МО'КРЫЙ О'СТРОЎ. В. Малешава.
МОРХІ'ЛЬ *м.* Сямігосцічы.
МОСКАЛЁВА ШЫ'Я. Сямурадцы.
МОСЦІ'ШЧА *мн.* В. Малешава.
МОЧУ'ЛІШЧЭ *н.* Запясочча.
МОШЧЫ'ШЧА *мн.* Аздамічы.
МУГІ'НІ *мн.* Сямурадцы, Чэрнічы.
МУ'ДРЫКОВА *ж.* Кароцічы.
МУ'ЖОЎ ДУБ. Талмачава.
МУРАВА'Н *м.* Хільчыцы.
МУРАВІ'Н *м.* Хільчыцы.
МУ'РОЎ ГРУД. Талмачава.
НА БУДАНА'Х. Альшаны.
НАЗАРО'ВА НОСПА'. Запясочча.
НА МАЯ'К. Рубель.
НА МЕ'СЯЦЫ. Альшаны.
НЕ'ВОЙТОВО *н.* Буразі.
НЕМЕ'ЦКА *ж.* Альшаны.
НЕ'МЦОЎ О'СТРОЎ. В. Малешава.
НЕ'МЧЭ *н.* М. Малешава.
НЕПРЫЦЭ' *н.* Альшаны.
НІ'ВА *ж.* Сямігосцічы.
НІ'ВІШЧА *мн.* Сямігосцічы.
НІ'ВЫ *мн.* Мачуль.
НІ'ЖНЯ *ж.* Альпень.
НІКО'ЛЬЧЫКОВА *ж.* Хільчыцы.
НІ'ЎКА *ж.* Альшаны.
НІ'ШЧЭ *н.* Рамель.
НОВІНА' *ж.* Рубель.
НО'РЫ *мн.* Талмачава.
О'БІНОВО *н.* Сямігосцічы.
ОБЛО'ГІ *мн.* Хільчыцы.
ОГОРЭ'Ў *м.* Альпень.
ОДНА' МІ'КШЫНА. Бярэжцы.
ОЗЕ'РЦА *мн.* Мачуль.
ОЛЕ'СЦА *мн.* Знаменка.
ОЛЕ'ШКА *ж.* Альшаны.
ОЛЬША'НІЦА *ж.* Рубель.
О'РЛІЦА *ж.* Любавічы.
ОРОБ'ЁВІ СКО'КІ. В. Малешава.
ОРЭ'Ш'Е *н.* Хотамель.
ОСМА'ЛІНЫ *мн.* Альшаны.
ОСНІКІ' *мн.* Аздамічы, Альпень, Хільчыцы.
ОСО'КІ *мн.* Знаменка.
ОСОКОРОЎСКА' *ж.* Пагост.
ОСО'ТНЕ *н.* Альшаны.
ОСО'ЎКА *ж.* Мачуль.
О'СТРОЕ *н.* Запясочча.
О'СТРОЎ *м.* Чэрнічы.
ОСТУПЦЭ' *мн.* Пагост.
ОТ ЛУТО'ЦКОГО ДО ДУ'БА. Хільчыцы.
ОТ СЕЛА'. Сямурадцы.
О'ШЭРОВО *н.* Хотамель.
ОЎЦЭ' *мн.* Альпень.
ПАЛА'ВІЧ'Е *н.* Талмачава.
ПАРСЦЕ'Ц *м.* Альпень.
ПАРЦЭ'ЛІ *мн.* Альпень.
ПА'СЕКА *ж.* Знаменка, Чэрнічы.

ПА'ЎЛОЎ О'СТРОЎ. Цераблічы.
ПЕЛЬНЕ'ВІЦА *ж.* Любавічы.
ПЕНЯ'КА *ж.* Бярэжцы.
ПЕРЭВО'З *м.* Цераблічы.
ПЕРЭГОРЭ'ЛЬНІКІ *мн.* Аздамічы, Альшаны.
ПЕРЭКО'П *м.* Хільчыцы.
ПЕРЭМІ'Н *м.* Альшаны.
ПЕТРО'Ў РОГ. Бярэжцы.
ПЕЎГУКО'ВЫЕ Я'МЫ. Сямурадцы.
ПЕШЧА'НА *ж.* Пагост.
ПЕШЧА'НІЦА *ж.* Бярэжцы.
ПІ'РАЧ *м.* Рубель.
ПЛЕ'СО *н.* Аздамічы, Хачэнь.
ПЛЕ'СЦА *мн.* Альшаны.
ПЛО'СКАЯ *ж.* В. Малешава, Хільчыцы.
ПЛО'ЧЫШЧЭ КОЗАКО'ВО. Альшаны.
ПЛЯ'СО *н.* Бярэжцы.
ПНІ'ШЧА *мн.* Рамель.
ПОБО'ЦНЫЕ *мн.* Альшаны.
ПОГНО'Й *м.* Альшаны.
ПОДБЕРО'ЗКА *ж.* Пагост.
ПОДВІНІ'ШЧА *мн.* М. Малешава.
ПОДВ'ЯЗО'ЎЕ *н.* Альшаны.
ПОДГАЕ'Ч'Е *н.* Альшаны.
ПОДГО'ЕЧ'Е *н.* Альшаны.
ПОДГРА'ДЗЬЕ *н.* Любавічы.
ПОД ДО'ЎГІЕ. В. Малешава.
ПОДДУБО'Ч'Е *н.* Знаменка, Пагост.
ПОДДУ'БСЬКА *ж.* Буразі.
ПО'ДЗІШЧЫ *мн.* Аздамічы.
ПОД КА'МЕНЕЦ. Азяраны.
ПОД ЛЕСО'К. Альшаны.
ПОДЛЯ'Ш'Е *н.* Рамель.
ПОДМУ'РАЎНО *н.* В. Малешава.
ПОДНІ'ЎКА *ж.* Хільчыцы.
ПОДНЕ'МЧЭ *н.* М. Малешава.
ПОДНЮТО'ВІШЧЭ *н.* М. Малешава.
ПОДОСНІ'ЦКА *ж.* Пагост.
ПОДО'СНІЦКА *ж.* Знаменка.
ПОДСВЕ'РБЛО *н.* Пагост.
ПОД ХВОЙКІ'. Талмачава.
ПОДЦІ'ХОНОЎСКА *ж.* В. Малешава.
ПОД ЧА'ГОШЧЫ. В. Малешава.
ПОД'ЯЗО'ЎЕ *н.* Альшаны.
ПОД'Я'СЕНЕЦ *м.* Пагост.
ПОПО'ВА *ж.* Буразі.
ПОПО'ВА БЕРЭ'ЗОВА. Альпень.
ПОРО'БІНОВО *н.* Сямігосцічы.
ПОРОХОНЕ'Ц *м.* В. Малешава.
ПОЎЧО'К *м.* Талмачава.
ПОЎЧЫН *м.* Запясочча.
ПО'ЦЕРЭБ *м.* Сямурадцы, Хільчыцы.
ПОЦЕРЭБЫ' *мн.* Цераблічы.
ПУХІ'Р *м.* Мачуль.
ПРА'СЕЛЬСКА *ж.* Бярэжцы.
ПРОЙДЗІ'ШЧА *мн.* Мачуль.
ПРОТЕРЭ'БЕН *м.* Рубель.
ПРЫДА'ТКІ *мн.* Азяраны, Пагост, Сямурадцы.
ПРЫСО'Ў *м.* Рубель.
ПРЫШЧЫ'НЫ *мн.* М. Малешава.
ПЭРЭПЕЛІ'ЧАНА *ж.* Альшаны.
РА'ДЗЬКОВА ДУБРО'ВА. Цераблічы.
РАЧКОЎСКА' *ж.* Пагост.
РЖЫ'ШЧЭ *н.* Хотамель.
РОГІ' *мн.* Альшаны, Знаменка, Чэрнічы.
РОГОВА' *ж.* Рубель.
РОГОВА'ТАЯ *ж.* Альпень.
РОЖКІ' *мн.* Сямурадцы.
РО'ЎЦА *мн.* Мачуль.
РО'УЦЫ *мн.* Талмачава.
РУБЭ'ЛЬСКА ДА'ЧА. Хотамель.
РЫ'ЛЬЧЫЦКО *н.* Цераблічы.
РЭ'БЕРЫХА *ж.* Талмачава.
РЭЗЫ' *мн.* Альшаны, Пагост.
РЭЧКІ' *мн.* Аздамічы, Цераблічы.
РЭ'ЧЫШЧЫ *мн.* Аздамічы.
САНІ'ШЧА *мн.* Цераблічы.
СВІ'НА *ж.* Альшаны.
СВІРІ'ДОВА ГРАДА'. Пагост.
СЕЛІЧО'ВО *н.* Сямігосцічы.
СЕ'ЛІШЧА *мн.* Талмачава.
СЕ'ЛІШЧЭ *н.* Пагост, Старажоўцы.
СЕ'ЛЬСКАЯ *ж.* Старажоўцы.

СЕ′НЬКОЎ ДУБ. Сямігосцічы.
СЕРКОВІ′ШЧЭ *н.* Хільчыцы.
СЕРЭ′ДНІЕ *мн.* Альпень.
СЕРЭ′ДНЯ ГРАДА′. Сямурадцы.
СІ′ЛЕГА *ж.* Альпень.
СІ′ЛЕГІ *мн.* Мачуль.
СКАБА′РЫНА *ж.* Цераблічы.
СКАРЫНКІ′ *мн.* Аздамічы.
СКВІРЫНКІ′ *мн.* Аздамічы.
СКНЮ′ТА *ж.* Рамель.
СКРЫПІ′ЦА *ж.* Знаменка.
СЛА′ЎНОЕ *н.* Знаменка.
СЛА′ЎЧА *ж.* Рамель.
СЛІ′БЭНЕЦ *м.* Хотамель.
СО′БРАНКА *ж.* Запясочча.
СО′МОВО *н.* Запясочча.
СПЛА′ЎНЭ *н.* Мачуль.
СТА′РЫЦА *ж.* Пагост.
СТА′РЭ СЕЛО′. Талмачава.
СТОРОЖОВЕ′ЦКІ *м.* Пагост.
СТОЯ′ЛО *н.* М. Малешава.
СТРУ′ПЕНЬ *м.* Цераблічы.
СТРЫЖНЕ′ *мн.* Азяраны, Знаменка.
СТРЫЖЫ′ *мн.* Знаменка.
СТРЭЛЦО′Ў ГРУД. Цераблічы.
СУПО′РНО *н.* Рамель.
СУХІ′Е *мн.* М. Малешава.
СХЛЕ *н.* Альпень.
СЦЁПКА *ж.* Альшаны.
СЦЯ′БЛОВЭ *н.* Альпень.
ТАБУ′ЛКІ *мн.* Альшаны.
ТАРА′СОВКА *ж.* Альшаны.
ТАТА′РСКЕ БОЛО′ТО. Альпень.
ТАТАРЧЫ′Н *м.* Талмачава.
ТОЖА′ЦІНА *ж.* Альшаны.
ТО′ПАЛЬНІЦА *ж.* М. Малешава.
ТРУ′ХОНОВО *н.* Аздамічы.
ТРЫНІ′ШЧЭ *н.* Рамель.
ТУНЯ′ТА *мн.* Рамель.
УСЦІ′МІНА *ж.* Хільчыцы.
ХВОШЧЕ′ *мн.* Альшаны.
ХЛЕВЫ′ *мн.* М. Малешава.
ХЛЕ′ЎЧЫШЧА *мн.* Мачуль.
ХМЕ′ЛІШЧА *мн.* Знаменка.
ХОТОМЛІ′ЦА *ж.* Хотамель.
ХОЧЕ′НСКІ *м.* Пагост.
ХРАПКО′Ў *м.* М. Малешава.
ХРА′ПОЎ ДУБ. М. Малешава.
ЦАРО′ВА *ж.* Альшаны.
ЦЕЛЕШО′Ў *м.* Мачуль.
ЦЕРЕХО′ЎСКА ПОЛЯ′НКА. Пагост.
ЦЕРЦЕ′Ж БОЛЬШЫ′. Хотамель.
ЦЕРЦЕ′Ж МАЛЫ′. Хотамель.
ЦЁМНОЕ *н.* Запясочча.
ЦІХВАНО′ВА *ж.* В. Малешава.
ЦУРОЎСКІ′Е *мн.* Альшаны.
ЦЫГА′НКА *ж.* В. Малешава.
ЦЭ′РКВІШЧЭ *н.* М. Малешава.
ЧА′ГОРШЧЫ *мн.* Альшаны.
ЧА′ГОШЧЫ *мн.* В. Малешава.
ЧО′РНО *н.* Хотамель.
ЧОРНОСТА′ЙЛА *ж.* В. Малешава.
ЧО′РНЫ О′СТРОЎ. Талмачава.
ЧО′РНЭ ЛОЗЗЕ′. Пагост.
ЧУДАКО′Ў ПЛЕ′ШНІК. Сямурадцы.
ЧЭМЭРЯ′ТНА ВЕЛІ′КА. Альшаны.
ЧЭМЭРЯ′ТНА МАЛА′. Альшаны.
ЧЭРГАНЫ′ *мн.* Пагост.
ЧЭРЭВА′ХА *ж.* Любавічы.
ЧЭРЭ′ТЦА *мн.* Хільчыцы.
ЧЭРЭ′ЦІНА *ж.* Альпень.
ШАБУ′НЬСКА *ж.* Мачуль.
ШАХОЎСЬКА′ *ж.* Альшаны.
ШТЫ′КЕЛЕВО *н.* Запясочча.
ШУ′ПІНА *ж.* Хільчыцы.
ШУ′ПІЛОЎ ГРУД. Цераблічы.
ШЫ′Я *ж.* Талмачава.
Я′КОВІЧ-О′СТРОЎ. Запясочча.
Я′МІШЧЭ *н.* Хотамель.
Я′МНЭ *н.* Талмачава.
Я′СЛІ *мн.* Пагост.
Я′СТРЭБ *м.* Мачуль.
ЯСТРЭ′МІЦА *ж.* Хільчыцы.
ЯСЦЕ′МІЦЫ *мн.* Хільчыцы.
Я′ЧНІШЧЭ *н.* Чэрнічы.

БАРАСЬНІ′КІ *мн.* Мачуль.
БЕ′ЛА ЛОЗА′. Мачуль.
БЛАГАДАНО′ВА ДУ′БРОЎКА. Альшаны.
БОЛО′НЬЕ *н.* Знаменка.
БОР *м.* Бярэжцы.
ВО′ЎЧА ГРЯ′ДКА. Альшаны.
ВУЗКЕ′ БОЛО′ТО. Альшаны.
ВЫ′ГОН *м.* Хачэнь.
ВЫСО′КА *ж.* Альшаны.
ВЭЛІ′КА БЭРЭЗО′ВСЬКА. Альшаны.
ГЛЫБО′КІЕ *мн.* Альшаны.
ГЛАЗЕ′ЦКА *ж.* Альшаны.
ГРА′ДЫ *мн.* Рычоў.
ГРЯДА′ *ж.* Альшаны.
ГРЯДОЧКІ′ *мн.* Альшаны.
ДО′ЎГА *ж.* Альшаны.
ДУБНІКІ′ *мн.* Любавічы.
ДУБО′ВЫ ОСТРОВО′К. Старажоўцы.
ДУБРО′ВА *ж.* Любавічы, Сямурадцы.
ДУ′БРОЎКА *ж.* Бярэжцы.
ДУБРОЎКІ′ *мн.* Альшаны.
ЖЫ′ЛІНКА *ж.* Рычоў.
ЖЭ′РДЗІ *мн.* Аздамічы.
ЗАБЫСТРОРО′ЎЕ *н.* Сямурадцы.
ЗАГРУЗКУ′ША *ж.* Чэрнічы.
ЗАГРЭ′БА *ж.* Чэрнічы.
ЗА ДВОРО′М. Знаменка.
ЗАЗЕ′Р′Е *н.* Знаменка.
ЗАЛУ′Г *м.* Пагост.
ЗАПЕСО′ЧЬЕ *н.* Пагост, Чэрнічы.
ЗАПЛО′СКА *ж.* Мачуль.
ЗАПО′ЛЬЕ *н.* Альшаны.
ЗАСА′ДЗЬЕ *н.* Хачэнь.
ЗАТОПЕ′ЛЬНЯ *ж.* Чэрнічы.
ІВА′НОЧКОВЭ *н.* Рубель.
КАПУ′СЦІНА *ж.* Альшаны.
КА′РЛОЎ *м.* Альшаны.
КЛІК *м.* Аздамічы.
КНЯЖА′ *ж.* Старажоўцы.
КОЗАКО′Ў РОГ. Альшаны.
КОЗІ′НА Я′МА. Старажоўцы.
КОЛЮ′ЧА *ж.* Альшаны.
КОПЕ′ЦКА ПОГО′НЯ. Альшаны.
КОПКІ′ *мн.* Альшаны.
КО′ЎБОЎ *м.* Альшаны.
КРА′СНІЦКА *ж.* Альшаны.
КРА′СНЫ БОР. Хачэнь.
КРУ′ГЛІЦА *ж.* Чэрнічы.
КРЫВЕ′Ц *м.* Бярэжцы.
КУ′ЦАМЦА *мн.* Альшаны.
ЛЕСО′К *м.* Мачуль.
ЛІ′СКА *ж.* Мачуль.
ЛО′ДЫЧ *ж.* Альшаны.
ЛО′СІКОЎ РОГ. Альшаны.
ЛУЖКІ′ *мн.* Рычоў.
ЛУКА′ *ж.* Бярэжцы, Сямурадцы, Хачэнь.
ЛУПА′ТЫ РОГ. Рычоў.
ЛУ′ЧКІ *мн.* Альшаны.
ЛЯ′ДО *н.* Бярэжцы.
МАКОВЕ′ЦКА *ж.* Альшаны.
МАЛА′ БЭРЭЗО′ВСЬКА. Альшаны.
МА′РКОЎ БЕ′РЭГ. Рычоў.
МОСКА′ЛЬ *м.* Альшаны.
МОСКА′ЛЬСЬКА *ж.* Альшаны.
МО′ЎСТВА *ж.* Аздамічы.
МОЧУЛЕ′ *н.* Мачуль.
НА БУ′БЛІКОВІ. Альшаны.
НА ВЫ′ЛІМОВОМ РО′ЗІ. Альшаны.
НА ГАРАСІ′МОВІ. Альшаны.
НА ДРОБО′ЦЬКОВЕ. Альшаны.
НА КРУ′ГЛЕНЬКОМ. Альшаны.
НА ПОДРО′Ж′І. Альшаны.
НА ЦЕРЭ′ШКОВІ. Альшаны.
НІЎКІ′ *мн.* Сямурадцы.
НОВІНА′ *ж.* Альшаны.
ОГОРО′ДЦА *мн.* Альшаны.
ОКА′ПКА *ж.* Мачуль.
О′СТРОЎ *м.* Альшаны.
ОСТРОЎКІ′ *мн.* Любавічы.
ОСЬЕ′ *н.* Старажоўцы.
ОСЬНІ′К *м.* Чэрнічы.
ПЕРЭЗНЭ *н.* Аздамічы.
ПОД АРЦЮШКО′. Альшаны.
ПОД АРЦЮШКО′М. Альшаны.
ПОД БЛІЗЬНЮКІ′. Альшаны.
ПОДБОРО′Ч′Е *н.* Сямурадцы.
ПОДГРЯ′ДЬЕ *н.* Альшаны.
ПОДРАГАЧО′ЎЕ *н.* Альшаны.
ПОДУЛЬЯ′НКА *ж.* Альшаны.
ПОЖА′Р *м.* Альшаны.

ПОТА'ПОВА ДОЛІ'НА. Альшаны.
ПОТСУХ'Е' *н.* Альшаны.
ПРАЦОДО'ЎЕ *н.* Любавічы.
ПРО'РВА *ж.* Знаменка.
ПЧЭ'ЛЬНО *н.* Сямурадцы.
ПЭРЭПЕЛІ'ЦКА *ж.* Альшаны.
РОГАЧЭ'В *м.* Альшаны.
РА'ДЗІХОВО *н.* Альшаны.
РАЧО'ЎСЬКА *ж.* Альшаны.
РОГ *м.* Мачуль.
РОГІ' *мн.* Пагост, Рычоў.
РОЗДО'ЛЫ *мн.* Рычоў.
РОКІ'ТА *ж.* Знаменка.
РОЎЦЫ' *мн.* Старажоўцы.
РЫ'БЫНЬ *ж.* Альшаны.
СВЁКО'ЛЬНІЦА *ж.* Альшаны.
СЕРЕ'ДНЯ ДОЛІ'НА. Альшаны.
СІ'ЛЕГА *ж.* Любавічы.
СІ'ЛЯГОЎСЬКА *ж.* Альшаны.
СІ'МОНОВЫЕ *мн.* Альшаны.
СЛЕПЕЦІ'НЕЦ *м.* Старажоўцы.
СТА'РЭ СЕЛО'. Чэрнічы.
СТОРО'БЧА *ж.* Рычоў.
СТОРОЧКІ' *мн.* Бярэжцы.
СТОЎПЕ'Ц *м.* Бярэжцы.
СТУ'ЖЫЦА *ж.* Рычоў.
СЫНОГАТКІ' *мн.* Альшаны.
СЫ'СІН РОГ. Альшаны.
СЭМЕНЦО'ВА ДОЛІ'НА. Альшаны.
ТОЎКОЧО'Ў ОГОРО'Д. Старажоўцы.
ТЫЧ'Е' *н.* Альшаны.
ХАШЧ *м.* Альшаны.
ХВО'ТНЯ *ж.* Мачуль.
ХІНО'ЎСЬКО *н.* Альшаны.
ХМЭ'ЛІШЧА *мн.* Мачуль.
ЦЕ'МНО *н.* Альшаны.
ШЫРЁКЕ БОЛО'ТО. Альшаны.

## *Лясныя ўгоддзі*

БЕ'ЛКІ ВЕЛІ'КІЕ. Бярэжцы.
БЕ'ЛКІ МАЛЫ'Е. Бярэжцы.
БЕ'ЛКІ ЧО'РНЫЕ. Бярэжцы.
БЕЛОНО'ША *ж.* Альманы.
БЕ'РВЫ *мн.* Бярэжцы.
БЕРЭ'ЖНІКІ *мн.* Бярэжцы.
БЕРЭ'ЗНІК *м.* Старажоўцы.
БОРОВЭ' *н.* Рубель.
БОРЫ'СОВО *н.* Хотамель.
БУГО'Р *м.* Бярэжцы.
БУДЫ'НКІ *мн.* Альманы.
БУСО'ВІШЧА *мн.* Бярэжцы.
ВАР'Я'НОЎ ЛЕС. Рубель.
ВЕ'ЙНА *ж.* Хачэнь.
ВЕРЭЯ' *ж.* Хачэнь.
ВЕ'ЦЬВЕЗКО *н.* Альшаны.
ВОКЗА'Л *м.* Бярэжцы [1].
ВОЛО'ВО СТО'ЙЛО. Старажоўцы.
ВОЛО'К *м.* Хотамель [2].
ВОЛОСА'ТА *ж.* Мачуль.
ВОЎКОЎНЯ' *ж.* Сямурадцы.
ВУГЛЫ' *мн.* Альшаны.
ВУЗВІ'ЖА *н.* Хотамель.
ВУ'ЛОЗ *м.* Любавічы [3].
ВУСО'КІ ГРУДЗЕ'Ц. Бярэжцы.
В'ЯЗЁНСКА ГРАДА'. Сямурадцы.
В'Я'ЗНІКІ *мн.* Старажоўцы.
ГАЛУ'НІЧЫ *мн.* Мачуль.
ГВОЗД *м.* Мачуль.
ГОЛОВА' *ж.* Рубель.
ГО'РКА *ж.* Знаменка, Пагост.
ГОРНО'ШЧА *ж.* Старажоўцы.
ГОРОВА'ХА *ж.* Знаменка, Старажоўцы, Сямурадцы, Хачэнь.
ГОРОДЗЕ'Ц *м.* Пагост, Хотамель.
ГОРО'ДЕЦ *м.* Знаменка.
ГОРО'ХОВІШЧЭ *н.* Рубель.
ГО'РЫ *мн.* Альпень, Рубель.
ГО'РЫН *м.* Альпень.
ГРА'БОВЭ *н.* Хотамель.
ГРЭДКІ' *мн.* Мачуль.
ГУБОРЭ'Ц *м.* Хотамель.
ГУ'СІ *мн.* Рубель.
ДАВУ'ДАЎКА, ДАВЫ'ДОЎКА *ж.* Сямурадцы, Знаменка.
ДЗЕ'ДОВА ГОРА'. Старажоўцы.
ДЗЕЛЯНКІ' *мн.* Старажоўцы.
ДЗЕ'ТКОВО *н.* Мачуль.
ДЗІРЭВЭ'Ц *м.* Хотамель.
ДЗЮ'РДЗЕЎСКІЕ *мн.* Аздамічы.
ДО'БРЫ ЛЕС. Сямігосцічы.
ДО'ЎГА ГРАДА'. Сямурадцы.

ДО'ЎГЕ *н.* Знаменка.
ДО'ЎГОЕ *н.* Старажоўцы.
ДРА'БІШЧА *мн.* Бярэжцы.
ДУБОВУ'ХА *ж.* Знаменка, Сямурадцы.
ДУБРО'ВА *ж.* Любавічы.
Е'ЛЬНІК *м.* Сямурадцы.
ЕСЕНЁВА *ж.* Хотамель.
ЁЎЖЫН КОЛО'ДЗЕЗЬ. Бярэжцы.
ЗАБА'ЎЕ *н.* Знаменка, Пагост.
ЗАБОРО'ЎЕ *н.* Рубель.
ЗА'ДНІ О'СТРОЎ. Старажоўцы, Хачэнь.
ЗАДЫ *мн.* Мачуль.
ЗАМО'Ш'Е *н.* Альпень, Рубель.
ЗА РОВО'М. Сямігосцічы.
ЗА'СІ *мн.* Альпень.
ЗА'СІНЬ *ж.* Альпень.
ЗАХВОЙНІЦКЕ *н.* Альпень.
ЗАЯ'ЦКІ РОГ. Бярэжцы.
ЗІМНІК *м.* Альшаны.
ІСЦЕ'Ц *м.* Аздамічы.
КА'МЕННЭ *н.* Альпень, Рубель.
КЛЕННА'Я *ж.* Мачуль.
КОЖУ'ШЫНО *н.* Аздамічы.
КО'ЛО ЖАДЗЕ'НЯ. Бярэжцы.
КО'ЛО СТА'РЦА. Бярэжцы.
КОПЦЕВІ'ЧЫ *мн.* Мачуль.
КОПЧЭ' *н.* Мачуль.
КО'РНА *ж.* Бярэжцы.
КО'РОСТІ *мн.* Альпень.
КО'СТРЫЦКІ ЛЕС. Кароцічы.
КОЎПЧЭ' *н.* Мачуль.
КОЦЕ'Ц *м.* Аздамічы.
КРА'СНЫ БЭ'РЭГ. Рубель.
КРУТЫ' БЕ'РЭГ. Аздамічы.
КРЫ'ЧКІ *мн.* Бярэжцы.
КУРЭ'НІК *м.* Аздамічы.
КУТО'К *м.* Хотамель.
ЛА'СТОВІЦА *ж.* Мачуль.
ЛЕ'КСІНА *ж.* Бярэжцы.
ЛЕ'СКІ *мн.* Старажоўцы, Сямурадцы.
ЛЕСКІ' *мн.* Бярэжцы.
ЛЕСКІ' ВЕЛІ'КІЕ. Бярэжцы.
ЛЕСКІ' МАЛЫ'Е. Бярэжцы.
ЛІ'ПІЦА *ж.* Сямігосцічы [4].
ЛІПКІ' *мн.* Бярэжцы.
ЛІ'ПНІКА *ж.* Бярэжцы.
ЛІ'ПОВА ГРАДА'. Сямурадцы.
ЛОДЫЖА'НКА *ж.* Аздамічы.
ЛО'ША *ж.* Пагост.
ЛУ'ЦЕЦКЕ *н.* Аздамічы.
ЛУ'ЧЭНЕЦ *м.* Азяраны.
ЛЮБІ'Ж *м.* Аздамічы.
ЛЮЦІ'ЎЕ *н.* Старажоўцы, Сямурадцы.
ЛЯ'ДО *н.* Старажоўцы.
ЛЯ'ДЦЭ *мн.* Старажоўцы.
МАЙДА'Н *м.* Бярэжцы.
МАЛІКО'Ў РОГ. Бярэжцы.
МАНУ'ЙЛОВА ПЕЧ. Аздамічы.
МАШЛЯКЕ'ВІЧ *м.* Рубель.
МАЯКО'ВА ГРАДА'. Сямурадцы.
МЕ'ДЗЬВЕДКА *ж.* Бярэжцы.
МЕДЗЬВЕ'ЖЫ КЛАДКІ'. Старажоўцы.
МІКІ'ЦІНА *ж.* Хотамель.
МОГІЛКІ' *мн.* Аздамічы.
МОЖАРО'ЎЕ *н.* Старажоўцы.
МОРГІ' *мн.* Бярэжцы.
МОХ *м.* Знаменка.
МОЯКО'ВЭ *н.* Знаменка.
МУ'ЖЫН *м.* Альпень, Мачуль.
МУРОВІ'Н *м.* Рубель.
МУРОЎНЭ' *н.* Хотамель.
НІ'ВЫ *мн.* Мачуль.
ОЗЕ'РЦО *н.* Старажоўцы.
ОКОЛО'ЖАНО *н.* Аздамічы.
ОКО'П *м.* Хотамель.
ОЛЕШКІ' *мн.* Альпень.
ОПА'НЬКА *ж.* Аздамічы.
ОРЭ'ЙКА *ж.* Старажоўцы.
ОРЭ'Ш'Е *н.* Хачэнь [5].
ОРЭЯ' *ж.* Старажоўцы.
ОСВЕ' *н.* Старажоўцы.
О'СІ *мн.* Альпень.
ОСНІ'К *м.* Хачэнь.
ОСЦЕ'Ц *м.* Аздамічы.
ОШО'К *м.* Мачуль.
ПАНА'СОЎКА *ж.* Хачэнь [6].
ПАЎЛЫ' *мн.* Старажоўцы.
ПЕНЁК *м.* Старажоўцы.
ПЕРЭДЗЕ'Л *м.* Бярэжцы
ПЕРЭЕ'ДКА *ж.* Бярэжцы.
ПЕРЭКА'ЛЬЕ *н.* Аздамічы.
ПЕРЭЛО'МІНО *н.* Аздамічы.
ПІНЧУ'К *м.* Сямурадцы [7].
ПІ'ПОВА ГРАДА'. Старажоўцы.

ПЛО'ЦІШЧЫ *мн.* Сямігосцічы.
ПОРЭБІ'ШЧЭ *н.* Рубель.
ПОДКЛЕ'ТЬЕ *н.* Аздамічы.
ПОД'Я'М'Е *н.* Аздамічы, Мачуль.
ПОПЕЛЁЎ *м.* Аздамічы.
ПРОКІ'ЎНАЯ *ж.* Сямурадцы.
ПРОСТЫ'Н *м.* Альпень.
ПРОХО'Д *м.* Бярэжцы.
ПРЫВОЛО' *н.* Аздамічы.
ПУЖА'ВІШЧЭ *н.* Альпень, Рубель.
ПЧОЛНА' ГРЭДА'. Сямігосцічы.
РЖЫ'ШЧЭ *н.* Альпень.
РОСХО'ДНІ ДОРО'ГІ. Аздамічы.
РЭЗАНТВОРЭ' *мн.* Рубель.
РЭ'ПІШЧА *мн.* Старажоўцы.
СВІНСКЭ' *н.* Рубель.
СЕ'МГА *ж.* Сямурадцы.
СЕ'МЦА *ж.* Пагост.
СЕ'МЧА *ж.* Знаменка.
СЕ'МЧЭНЭ *н.* Старажоўцы.
СЕ'НЕНА *ж.* Хотамель.
СЕРХОВЭ' *н.* Рубель.
СЕРЭДБО'Р'Е *н.* Мачуль.
СЕЧЫ'ШЧА *мн.* Старажоўцы.
СКІ'РНО *н.* Аздамічы.
СКРЫ'ЛІХА *ж.* Пагост.
СТА'ЙЛЕЧКО *н.* Старажоўцы.
СТАНОВА' *ж.* Хотамель.
СТУ'ПІШЧА *мн.* Бярэжцы.
СУНІ'ЦА *ж.* Хотамель.
СУХІ' БОР. Мачуль.
СЫЧ *м.* Мачуль.
ТА'ЛЕЖА *ж.* Рубель.
ТАРАКА'ТНІЦА *ж.* Старажоўцы.
ТОВА'Р *м.* Мачуль.
ТОП'ЯШЧЫЕ *мн.* Аздамічы.
ТОРОЧКІ' *мн.* Бярэжцы.
ТО'ЎСТЭ БОЛО'ТО. Старажоўцы.
ТОЎСЦІ'ЦА *ж.* Альпень.
ТОЧЫ'ШЧА *мн.* Бярэжцы.
ТРЫГУ'БОВО *н.* Хотамель.
УГЛЫ' *мн.* Старажоўцы.
УЦЕ'ХА *ж.* Знаменка, Старажоўцы, Сямурадцы.
ХВОЕ'НСКІ БОР. Пагост.
ХВОСТО'ЎСКА *ж.* Кароцічы.
ХВОШЧО'ВА ГРАДА'. Сямурадцы.
ХВОШЧО'ВЭ *н.* Знаменка.
ЦЕРЭ'ПША *ж.* Старажоўцы.
ЦЁМНЫ ЛЕС. Пагост.
ЦЫГА'НСКА ГРЭ'БЛЯ. Старажоўцы.
ЦЮХАЁВА ГРА'ДКА. Альпень.
ЧА'ЙКА *ж.* Мачуль.
ЧАЙКІ' *мн.* Знаменка.
ЧО'РНА *ж.* Хотамель.
ЧО'РНЭ *н.* Бярэжцы.
ЧЫНА *ж.* Аздамічы.
ЧЭЛЯ'ДНЭ *н.* Хотамель.
ШАТАНО'ВА *ж.* Хотамель.
ШПАКО'ВА *ж.* Хотамель.
Я'ЗВІНКІ *мн.* Мачуль.
ЯЗІ'НСКАЯ *ж.* Знаменка.
Я'ЗІНСКАЯ ГРАДА'. Старажоўцы.

ЗАЎВАГІ ДА РАЗДЗЕЛА «ЛЯСНЫЯ ЎГОДДЗІ»

[1] Тут знаходзіцца стойла для жывёлы.
[2] Участак лесу, абкружаны земляным валам.
[3] Густыя зараснікі дубняку.
[4] Дубовы і альховы лес.
[5] *Орэ́шніку бага́то було, его вы́корчовалі, а зараз полянка.* Хачэнь.
[6] *Ве́чно грыбы там рослі, лес вы́корчовалі, а зарэ полянка.* Хачэнь.
[7] Участак лесу пасярод балота.

## *Даліны*

БЕ'ЛКІ ВЕЛІ'КІЕ. Хільчыцы.
БЕ'ЛКІ МАЛЫ'Е. Хільчыцы.
БЕ'РВЫ *мн.* Хільчыцы.
ВЫСО'КІ ГРУДЗЕ'Ц. Хільчыцы.
ЕЎЖЫН КОЛО'ДЗЕДЗЬ. Хільчыцы.
ЖАДЗЕ'НЬ *м.* Хільчыцы.
ЗАБОЛО'ЦЬЕ *н.* Сямурадцы, Хільчыцы.
ЗАБО'Р'Е *н.* Хільчыцы.
ЗАБРО'ДЗЬ *ж.* Хільчыцы.
ЗАБРО'ДЗЬЕ *н.* Хільчыцы.
ЗАГУ'МЕНЬЕ *н.* Хільчыцы.
ЗАЯ'ЦКІ РОГ. Хільчыцы.
ЗЕЛЁНКА *ж.* Хільчыцы.
КОЛО'ВІШЧЭ *н.* Хільчыцы.
КО'РНА *ж.* Хільчыцы.
КРЫНІ'ЦА *ж.* Сямурадцы.
КРЫ'ЧКІ ВЕЛІ'КІЕ. Хільчыцы.
КРЫ'ЧКІ МАЛЫ'Е. Хільчыцы.
МЛІНІ'ШЧА *мн.* Рамель [1].
МЛІНЫ' *мн.* Сямурадцы.
НІЎКІ' *мн.* Сямурадцы.
ОБЗО'Л *м.* Хільчыцы.
ПО'ЦЕРЭБ *м.* Хільчыцы.
ПРОКО'Ў *м.* Сямурадцы [2].
РУ'ДОЎ РОГ. Хільчыцы.
СА'ЖАЛКА *ж.* Сямурадцы.
СМО'ЛЗАВОД, СМО'ЛЬЗАВОД *м.* Хільчыцы.
ТАТА'РСКА ДОЛІ'НА. Рамель [3].
ЧО'РТОВА ДОЛІ'НА. Хільчыцы.
ЧЭРЦІ'НСКАЯ ГРАДА'. Хільчыцы.

### ЗАЎВАГІ ДА РАЗДЗЕЛА «ДАЛІНЫ»

[1] Раней тут працякала рэчка і на ёй быў пабудаваны вадзяны млын.
[2] Забалочаная мясціна пасярод поля. Тут нават водзяцца карасі.
[3] Згодна з легендай, тут некалі ўтапіўся татарын.

## *Узвышшы, пагоркі*

БАЙРА'К *м.* Альгомель [1].
БОБРУ'ЙКОВА ГОРА', БОБРУ'ЛЬКОВА ГОРА'. Запясочча, Старажоўцы.
БО'РОЧОК *м.* Сямурадцы.
ВАЛІ'КІ ЛЕС. Мачуль.
ВАРВА'РЫНА *ж.* Буразі [2].
ВОЎКОЎНЯ' *ж.* Буразі.
ГОРА' *ж.* Аздамічы.
ГРА'ДОЧКА *ж.* Хачэнь.
ДЗЕ'ДОВА ГОРА'. Хачэнь [3].
ДО'ЎЖЫЦА *ж.* Рамель.
КРЫ'ЧА *ж.* Альпень.
ЛЫ'СА ГОРА'. Бярэжцы [4], Рамель.
ЛІ'ПКІ *мн.* Буразі.
ЛІ'ПОВЫЕ ГО'РЫ. Аздамічы.
ЛІ'ПОВЫ ОСТРОВО'К. Буразі.
НЕДОКО'ЛІН *м.* Бярэжцы [5].
ОЎДОВЕ'ДЗЬКОВЭ *н.* Буразі.
СЛЕПЕ'ЦКІЕ ГО'РЫ. Пагост.
СТА'ЙЛЕЧКО *н.* Буразі.
ТУ'РОВСКА ГОРА'. Запясочча.
ФО'НТОВА ГОРА'. Сямурадцы.
ЦЮ'ЦІНА *ж.* Хільчыцы.
ЧО'РНА ГРА'ТКА. Мачуль.

### ЗАЎВАГІ ДА РАЗДЗЕЛА «УЗВЫШШЫ, ПАГОРКІ»

[1] *На са́мом Суліне́ вусо́ке месцэ і там яма, называлі Байра́к; у Байрак запусціўса з коровой, там трава росла.* Альгомель.

[2] Словамі *Варва́рына, Во́йкоўня́* ў в. Буразі называюць узгоркі пасярод балота.

[3] *На Горы́ ко́лісь дзед погі́б. Зараз лес росце.* Хачэнь.

[4] Пясчаны ўзгорак пасярод балота.

[5] *Там доколо́лі банду.* Бярэжцы.

## *Балоты*

АНДРЭ'ЕВА ПОЛЯ'НКА. Хотамель.
БА'БІНСКЕ *н.* Мачуль.
БАДЗЕ'РСКЕ *н.* Альпень.
БАРЭЦКІ' *м.* Рычоў.
БЕ'ЛКІ ВЕЛІ'КІЕ. Бярэжцы.
БЕ'ЛКІ МАЛЫ'Е. Бярэжцы.
БЕ'РВУ *мн.* Бярэжцы.
БОРОВЭ' *н.* Хотамель.
БУРЭ'ЗЬКЕ *н.* Сямурадцы.
БУСО'ВІШЧА *мн.* Рычоў.
БЭКО'ВА *ж.* Рамель.
БЭ'РЭГ *м.* Рамель.
ВЕРБІ'НСКЕ *н.* Старажоўцы.
ВЕТРО'ЎСКЕЕ *н.* Сямігосцічы.
ВІ'ЛАС *м.* Хотамель.
ВОРОТЫ' *мн.* Хотамель.
ВОРОТЫ'ЧА *ж.* Рычоў.
ВУГЛЫ' *мн.* Сямурадцы.
ВЫ'ЛАЗ *м.* Альпень [1], Рычоў.
ВЯ'ЗЬМІНА *ж.* Хотамель.
ГА'ЛЭ *н.* Альпень.
ГВОЗД *м.* Мачуль [2].
ГЛУШЫ'Н *м.* Альпень.
ГНІВАШО'Ў *м.* Рычоў.
ГНІЛЫ'Е КРЫНІ'ЦЫ. Альпень.
ГРЭДКІ' *мн.* Мачуль.
ГРЭЦКО'ЎЕ *н.* Любавічы.
ГУ'СІ *мн.* Хотамель.
ДЗЕ'ТКОВО *н.* Мачуль.
ДО'ЎГАЯ ЛОЗА'. Рыдча.
ДРА'БІШЧА *мн.* Бярэжцы.
ДУБО'К *м.* Рамель.
ДУМО'ТОВО *н.* Запясочча.
ЕРЭМО'ЎСКЭ *н.* Сямурадцы.
ЖАДЗЕ'НЬ *м.* Бярэжцы, Рычоў.
ЗАГА'ЦЬЕ *н.* Азяраны.
ЗАГОЛО'ЎЕ *н.* Хотамель.
ЗАЛЕ'СКЕ *н.* Старажоўцы.
ЗА ПЕРЭКО'П. Любавічы.
ЗАРОГО'ЖІЧ'Е *н.* Старажоўцы.
КАПШУКО'Ў НАДЗЕ'Л. Сямурадцы.
КЛІН ПРОХОРО'ЎСКІ. Бярэжцы.
КЛІН ПРЫТУ'ЛІНЦОЎ. Бярэжцы.
КО'ВІНО *н.* Чэрнічы.
КОЛО'ВІШЧА *мн.* Бярэжцы.
КОНА'ЙДРОВІШЧА *мн.* Мачуль.
КО'РНА *мн.* Бярэжцы.
КОРОВАЕ'Ц *м.* Рычоў.
КОЎПЧЭ' *мн.* Мачуль.
КОШЭЛЁЎ РОГ. Хотамель.
КРУ'КОЎ *м.* Аздамічы.
КРУШЫ'ННЭ *н.* Рамель.
КУ'ПІСТА *ж.* Рамель.
ЛА'ГЭРЫ *мн.* Хотамель.
ЛЕ'КСІНА *ж.* Бярэжцы.
ЛІПОВЭ *н.* Сямурадцы.
ЛІХА' СТРУ'ГА. Аздамічы.
ЛО'ЗКІ *мн.* Рычоў.
ЛО'СІК *м.* Мачуль.
МАЛІКО'Ў РОГ. Бярэжцы.
МЕЛЬНІ'ЦКЭ *н.* Сямурадцы.
МЕЦЁЛКІ *мн.* Рычоў.
МІ'СЫ *мн.* Сямурадцы.
МІХАЛЬКО'ВО *н.* Старажоўцы.
МІХАЛЬЦО'ВЭ *н.* Сямурадцы.
МОСТКІ' *мн.* Сямурадцы.
МУЖЫКО'ВЭ БОЛО'ТО. Хачэнь [3].
МУ'ЖЫН *м.* Мачуль.
МУ'ЦВІЦА *ж.* Бярэжцы.
НА МО'ЎСКОМ. Хотамель.
НЕ'ВОЙТОЎ ОСТРОВО'К. Хотамель.
НЕДОКО'ЛІН *м.* Рычоў.
НІ'ВА *ж.* Рычоў.
НІ'ЎКА *ж.* Рычоў.
О'БЗОЎ *м.* Рычоў.
ОДА'МОВЭ БОЛО'ТО. Сямігосцічы.

ОДЗІНІ'ЦА *ж.* Хотамель.
ОЗЕ'РЭЦКЕ *н.* Мачуль.
ОЛЁС *м.* Сямурадцы.
ОСО'ВЫ БРОД. Рычоў.
ОСТРОЎСКЕ' *н.* Мачуль.
ПАРЦЭ'ЛІ *мн.* Альпень.
ПЕРЭДЗЕ'Л *м.* Бярэжцы.
ПЕЎЧУКО'ВЭ *н.* Сямурадцы.
ПОПО'ВА ГРЭДА'. Рычоў.
РАГІ' *мн.* Хачэнь.
РА'ДЗЕЦКЕ БОЛО'ТО. Бярэжцы.
РОЖО'Н *м.* Мачуль.
РО'ЗДЫМЛЕ *н.* Хотамель.
РО'ЎКІ *мн.* Рамель.
РЭ'ПІШЧА *мн.* Сямурадцы.
СІ'МІСТО *н.* Хотамель.
СПЛА'ЎНЭ *н.* Мачуль.
СТА'РЫ ЖАДЗЕ'НЬ. Рычоў.
СТРАДЗІ'Н *м.* Рычоў.
СТРУ'ПЕНЬ *м.* Аздамічы.
СЦІЎСКОЕ *н.* Рамель.
ТОЎСТЭ' *н.* Знаменка, Сямурадцы.
У ГО'РАХ. Хотамель.
ХВО'ЙКА *ж.* Рамель.
ХІ'ЖЫШЧА *мн.* Старажоўцы.
ХОТУЧЭ' *мн.* Мачуль.
ЦЕ'РЭБОВО *н.* Хотамель.
ЧАХЛЕ' *мн.* Аздамічы.
ЧЫ'СТЭ *н.* Мачуль.
Я'ЗВЕНКІ *мн.* Рычоў.

ЗАЎВАГІ ДА РАЗДЗЕЛА «БАЛОТЫ»

[1] Згодна легендзе, тут некалі затануў карабель.
[2] Пасярод балота знаходзіцца гара, на якой растуць сосны.
[3] *У Мужыко́вом боло́це утопі́ўса мужык.* Хачэнь.

## *Рэчкі*

БУЧО'К *м.* Азяраны, Пагост, Чэрнічы.
БЫ'СТРЫ РОЎ. Знаменка.
ВЕРСЕНЕ'ЦКІ СТАРЫ'К. Запясочча.
ВУ'БОРЦЬ *ж.* Чэрнічы.
ГО'РЫНЬ *м.* Альпень.
ЕЗДА' *ж.* Альшаны, Запясочча, Любавічы.
ЖЭРЭЛО' *н.* Альшаны.
КАНА'ВА *ж.* Бярэжцы.
ЛА'НА *ж.* Альшаны.
ЛЬВА *ж.* Альпень, Мачуль [1], Цераблічы.
МО'СТВА *ж.* Кароцічы.
МО'ЎСТВА *ж.* Аздамічы, Мачуль.
НЕ'СВІЖ *м.* Чэрнічы.
НО'ВА РЭКА'. Пагост.
ПРО'РВА *ж.* Знаменка [2].
ПРЫ'ПЕЦЬ *ж.* Азяраны, Чэрнічы.
РЭЧЫ'ЦА *ж.* Альшаны.
СЛУЧ *ж.* Чэрнічы.
СТАРА' РЭКА'. Чэрнічы.
СТВІ'ГА *ж.* Чэрнічы.
СЦВІ'ГА *ж.* Азяраны, Бярэжцы, Кароцічы, Пагост.
СЦВІ'ЖЭНЕЦ *м.* Знаменка.
ТУР *м.* Пагост.
ХОМІ'ШЫНА РЭ'ЧКА. Кароцічы.

ЗАЎВАГІ ДА РАЗДЗЕЛА «РЭЧКІ»

[1] На другім участку яна мае назву *Мо́ўства.*
[2] Новае рэчышча ракі.

## *Азёры*

БАГАТЫ'РСКА КА'ВЕРЦЬ. Хільчыцы.
БЕ'ЛА ВОДА'. Альгомель.
БЕ'ЛІЧ *м.* Старажоўцы.

БЕ'ЛОЕ *н.* Старажоўцы.
БЕ'ЛЬКОЎ *м.* Старажоўцы.
БЕ'ЛЭ О'ЗЕРО. Азяраны, Бярэжцы.
БЕ'РВУ *мн.* Бярэжцы.
БЕ'ХЛІ *мн.* Чэрнічы.
БІ'ЧКОВЭ *н.* Рычоў.
БОЛО'ТЦА *мн.* Пагост.
БОЛЬШО'Е ШТУ'Ч'Е. Старажоўцы.
БОЛЬШЫ' ЛУЖО'К. Старажоўцы.
ВАГА'Н *м.* М. Малешава.
ВАКШЭ' *мн.* Мачуль.
ВАРКЛЕ'ШНЭ *н.* Мачуль.
ВЕЛІ'КІ БУТО'К. Старажоўцы.
ВЕРФІ'Р'Е *н.* Сямігосцічы.
ВЕРШКО'ВА *ж.* Альшаны.
ВЕ'ЦІЦА *ж.* Сямурадцы, Старажоўцы.
ВІНІ'ШЧА *мн.* В. Малешава, М. Малешава.
ВІР *м.* Альпень, Альшаны, В. Малешава, Пагост.
ВІРКІ' *мн.* Аздамічы.
ВОЖО'ДСКЕ О'ЗЕРО. Аздамічы.
ВОРОБІНО' *н.* Запясочча.
ВО'ЎЧЭ *н.* Альшаны.
ВУ'СЦЕ *н.* Аздамічы, М. Малешава.
ВУ'ТРЫНЭ *н.* Хотамель.
ВУ'ЦЕНІЦА *ж.* М. Малешава.
ВЫДРЫЧЭ' *мн.* Мачуль.
ВЫ'ЖАР *м.* Альпень.
ВЭКВА' *ж.* Хотамель.
В'ЯЗО'К *м.* В. Малешава.
ГА'ТКА *ж.* Старажоўцы.
ГАТКІ' *мн.* М. Малешава.
ГЛУ'ШКА *ж.* Альшаны.
ГЛУШЭ'Ц *м.* Старажоўцы, Сямурадцы.
ГЛУШЫ'НСКОЕ *н.* Альпень.
ГЛЫБО'КА *ж.* Сямігосцічы.
ГОЛО'ЎЧЫЧ *м.* Старажоўцы.
ГОЛЯШО'ЎНЕ О'ЗЕРО. Запясочча.
ГОРОДЗІ'НСКЕ О'ЗЕРО. Хотамель.
ГРОМНЭ' *н.* Мачуль.
ГРУЗІ'ВІЦА *ж.* Старажоўцы.
ГРЫЦЫКО'ВОЕ *н.* Альпень.
ГРЭ'БЛЯ *ж.* Старажоўцы.
ДАМА'УХА *ж.* Чэрнічы.
ДЗЕ'ДОВА ДОЛІ'НА. Пагост.
ДЗЕРБІ'НКІ *мн.* Старажоўцы.
ДО'УГЕ *н.* Альшаны, Старажоўцы.
ДО'ЎГЭ О'ЗЕРО. Альгомель.
ДУБЕНСКЕ' *н.* Старажоўцы.
ДУБРО'ЎНОЕ *н.* Запясочча.
ДЫ'БЕЧЭ БОЛО'ТО. Азяраны.
ЕРШО'ВЕЦ *м.* Старажоўцы.
ЕЎМЕ'НОЎ КА'МЕНЬ. Сямурадцы.
ЖДАНЬСКЕ' *н.* Мачуль.
ЖЫ'МСКЕ О'ЗЕРО. Аздамічы.
ЖЫНСКЕ' *н.* Мачуль.
ЖЫ'НЬСКЕ *н.* Цераблічы.
ЗАВЕХОВЭ' *н.* Сямурадцы.
ЗАГА'ЦЬЕ *н.* Мачуль, Рамель.
ЗАГРУ'ДЗЬЕ *н.* М. Малешава.
ЗА КАРА'СІНОМ. Чэрнічы.
ЗАЛОЖЭ'НЬЕ *н.* М. Малешава.
ЗА ПЛЕ'СОМ. Чэрнічы.
ЗАРУ'БАНІК *м.* Аздамічы.
ЗА'СПА *ж.* М. Малешава.
ЗАТО'Н *м.* Альпень.
КАБУ'ЛЬЕ *н.* Старажоўцы.
КА'ВЕРЦЬ *м.* Сямігосцічы.
КАЛІТА' *ж.* Пагост.
КАЛЬНІ'ЦА *ж.* Альшаны.
КАРА'СІНЫ *мн.* Пагост.
КАРА'ША *ж.* Чэрнічы.
КЛІК *м.* Аздамічы.
КОЗАЧКО'ВЭ *н.* Рычоў, Хільчыцы.
КОМАРЫ'ЧЫНА БУ'ХТА. Аздамічы.
КО'НІЦКЕ *н.* Мачуль [1].
КОНО'ПЛІШЧЭ *н.* М. Малешава.
КОНОТО'ПУ *мн.* Пагост.
КОНЮ'Х *м.* Альшаны.
КО'ПАНКА *ж.* Хачэнь.
КОРА'ЧА *ж.* Сямурадцы.
КОРО'ЎЕ *н.* Мачуль, Рамель.
КОСТРУ'БЕЛЬ *м.* Сямігосцічы.
КОТІЧЫНА *ж.* Альшаны.
КРУ'ГЛОЕ *н.* Хачэнь.
КРУ'ГЛЭ О'ЗЕРО. Альгомель.
КРУЖО'К *м.* Хачэнь.
КУЗІ'МОЎШЧЫНА *ж.* Чэрнічы.

ЛАДЫ′ЧЬЕ *н.* Чэрнічы.
ЛАЖЭ′НЬ *ж.* М. Малешава.
ЛЕБЖО′Д *м.* Альпень.
ЛЕ′СА *ж.* М. Малешава.
ЛОЗОЧО′Ў *м.* Аздамічы.
ЛО′ШЫНА *ж.* В. Малешава, М. Малешава.
ЛО′ШЫЧЫ *мн.* Аздамічы.
ЛУГ *м.* Старажоўцы.
ЛУКА′ *ж.* Альшаны.
ЛУ′К′Е *н.* Альшаны.
ЛЮ′ТОВО *н.* М. Малешава.
ЛЯДЗЕ′ЦКО О′ЗЕРО. Бярэжцы.
МАКА′РОВО О′ЗЕРО. Азяраны.
МАКСІ′МКОВО О′ЗЕРО. М. Малешава.
МА′ЛОЕ ШЧУ′Ч′Е. Старажоўцы.
МАЛЫ′ БУТО′К. Старажоўцы.
МАЛЫ′ ЛУЖО′К. Старажоўцы.
МЕЛЕ′ШЧЫХА *ж.* Аздамічы.
МІЗАЛЕ′ШКОВО *н.* Хільчыцы.
МОРО′ЗОВА БУ′ХТА. Аздамічы.
МУ′ТО *н.* Азяраны.
МУ′ЦЬВІЦА *ж.* Аздамічы.
НАБРЫ′СЬ *ж.* Хачэнь.
НІ′КОНОВА Я′МА. Альпень.
НЕМЕ′ЦКА Я′МА. Сямурадцы.
О′ЗЕРО *н.* Азяраны, Альшаны.
ОЗЕРЫ′ШЧЭ *н.* Альпень.
ОЛЕ′ТЧЫНОЕ *н.* Альпень.
ОЛЕ′ШКА *ж.* Альшаны.
ОЛЕ′ШНЭ *н.* Мачуль, Цераблічы.
ОМХ *м.* Альпень.
ОРЭХО′ЎНЯ *ж.* Аздамічы.
ОСЛІ′ВА *ж.* Старажоўцы.
ОСТРОВО′К *м.* Старажоўцы.
О′СТРОЎ *м.* Мачуль.
ОСТРОЎСКЕ′ *н.* Мачуль.
ОТО′НЦЫ *мн.* Альшаны.
ПА′НСКЭ О′ЗЕРО. Рычоў.
ПА′ЎЛОВІЧОВО *н.* Альпень.
ПА′ЎЛОВЭ О′ЗЕРО. Рычоў.
ПЕРЭВО′З *м.* Альшаны.
ПЕРЭМЕ′Н *м.* Альшаны.
ПЕ′СІН ЗАТО′Н. Старажоўцы.
ПЕ′ЧЫШЧА *мн.* Рычоў.
ПЕШЧА′НІЦА *ж.* Альшаны.
ПЛЕ′ССА *ж.* Альшаны.
ПЛЕ′СЦЭ *н.* Альшаны.
ПЛЕ′ШЧЫН *м.* Сямурадцы.
ПЛЁСО *н.* М. Малешава.
ПЛЮ′ШЧЫН *м.* Азяраны.
ПОД КАЛІ′НОЮ. Старажоўцы.
ПОДО′ДРЫК *м.* В. Малешава.
ПОДОЎЖЭ′Ц *м.* Альшаны.
ПРОКО′Ў *м.* Старажоўцы.
ПРЫ′СТАНЬ *ж.* М. Малешава.
ПЭРЭКІ′ЛОК *м.* Хотамель.
РА′ЧКОЎ *м.* Старажоўцы.
РОСО′ХА *ж.* Сямігосцічы.
РЭ′ВУТ *м.* М. Малешава.
РЭЧЫ′ЦА *ж.* Альшаны, В. Малешава.
РЭЧЫ′ШЧЭ *н.* Сямурадцы.
СА′ВОЧНЭ *н.* Рычоў.
СЕЛЮ′ТКОВО *н.* Сямурадцы.
СЕЛЮ′ТКОЎ *м.* Старажоўцы.
СЕМЕНО′ЎСКІЕ *мн.* Рычоў.
СЕ′НЬКОВА БУ′ХТА. Рычоў.
СІ′ЛНЭ *н.* Цераблічы.
СКРАБІЧЭ′ *мн.* В. Малешава.
СКРЫПІ′ЦА *ж.* Азяраны.
СЛЕПЕ′ЦКІ РОЎ. Азяраны.
СУПО′РНОЕ *н.* Рамель.
СТАДУХА′ *ж.* Сямігосцічы.
СТАРА′ *ж.* Альшаны.
СТАРЫ′К *м.* Запясочча, Сямурадцы.
СТА′РЫЦА *ж.* Старажоўцы [2], В. Малешава.
СТОЎПЕ′Ц *м.* Старажоўцы.
СТОЯ′ЛО *н.* М. Малешава.
СТУ′ЖЫЦА *ж.* Рычоў.
СПА′СЬКЕ О′ЗЕРО. В. Малешава, М. Малешава.
СПЛА′ЎНЭ *н.* Мачуль.
ТОПЕ′ЛЬНЯ *ж.* Пагост.
ТОПІ′ЛА *ж.* М. Малешава.
ТОЎСТОКО′ЛЬЕ *н.* Альшаны.
ТРОХВЕ′РКІ *мн.* Альшаны.
ТУПОНІ′ЧЫНА БУ′ХТА. Аздамічы.
ТЭ′ЙЦОВЭ О′ЗЕРО. Талмачава.
ХВАЛЯМІ′ШЧЭ *н.* Альпень.
ХВОЕ′НСКЭ О′ЗЕРО. Чэрнічы.
ХВОЙКІ′ *мн.* Старажоўцы, Сямурадцы.
ХОТУ′НЬ *м.* Альпень.
ХОТУЧЭ′ *мн.* Мачуль.

ХРЫСЦІ′ННА Я′МА. В. Малешава.
ЦЕРЕБЕ′НЬ *м.* Старажоўцы.
ЦЭРКО′ЎНЭ О′ЗЕРО. Альшаны.
ЦЫ′ХМАНОВО О′ЗЕРО. В. Малешава.
ЧО′РНЭ О′ЗЕРО. Хотамель.
ЧО′РНЭ ПЛЁСО. Аздамічы.
ЧЭ′РНІНА *ж.* Альшаны.
ЧЭ′РНІЦКЕ *н.* Талмачава.
ЧЭ′РНІЧОЗЕРО *н.* Любавічы.
ЧЭ′РНІЧ *м.* М. Малешава.
ШВЕ′ДОВО *н.* Запясочча.
ШЫЁК *м.* Хотамель.
ЯКОЎЦО′ВЭ *н.* Хотамель.
Я′МІНЕЦ *м.* Аздамічы.
Я′ЦЕЛЬ *м.* Запясочча, Луткі, Тураў.

ЗАЎВАГІ ДА РАЗДЗЕЛА «АЗЁРЫ»

[1] Возера знаходзіцца ва ўрочышчы *Ко́нік.*
[2] Адна назва для двух азёр.

## *Затоны*

БЕЧА′НЬСКІ ПЕСО′К. В. Малешава.
БЕ′ЧЫ *мн.* В. Малешава.
БІ′ЧКОВЭ О′ЗЕРО. Рычоў.
БОГАТЫ′РСКАЯ БУ′ХТА. Бярэжцы.
БОРОВА′Я *ж.* Рычоў.
БУ′ЙСТРЫЦА *ж.* Чэрнічы.
ВУ′ЗКІНЬ *м.* Чэрнічы.
ВЕЛІ′КАЯ ТО′НЯ. В. Малешава.
ГЛУШЭ′Ц *м.* Сямурадцы.
ГОЛОВА′ *ж.* В. Малешава.
ГРУ′ЗКА *ж.* Рычоў.
ДЗЬЯ′КОЎ ЗАРО′Г. Пагост.
ДУ′БЭЧНЕ *н.* Альшаны.
ЖО′ЎТЫ ВІРО′К. В. Малешава.
ЖЫ′ЛІНКА *ж.* Рычоў.
ЗАВЕХОВА′ *ж.* Пагост.
ЗАГЛУБО′КАЯ *ж.* Рычоў.
ЗА′ЖЭРЭЛО *н.* В. Малешава.
ЗАКО′ТКА *ж.* В. Малешава.
ЗАЛО′ШЫНА *ж.* В. Малешава.
ЗАЛУ′Ч'Е *н.* Пагост.
ЗАНІВО′ЦКІ ЗАРО′Г. Сямурадцы.
ЗАПЕСО′Ч'Е *н.* В. Малешава.
ЗАПУ′ДЗІШЧА *мн.* В. Малешава.
ЗАРО′Г *м.* Пагост.
ЗАСТА′ВІШЧА *мн.* В. Малешава.
КАКУ′РЫН РОЎ. Бярэжцы. Рычоў.
КАЛІТА′ *ж.* В. Малешава.
КОВА′ЛЬЧЫКОЎ ЛЕСО′К. Бярэжцы.
КОЗЕ′КІ *мн.* Азяраны.
КО′ЛО СМОЛО′ВОГО ОСТРОЎКА′. Бярэжцы.
КО′ШАРЫШЧА *мн.* В. Малешава.
КОШЭЛЁВО *н.* Рычоў.
КРУГЛЯ′К *м.* Сямурадцы.
ЛАЗАРЕ′Т *м.* В. Малешава.
ЛЕСНІ′ЧОЎ РОГ. Азяраны.
ЛОПА′ТЫ РОГ. Рычоў.
МАЙДА′Н *м.* В. Малешава.
МАЛА′Я ТО′НЬКА. В. Малешава.
МІХЕ′ЕЎШЧЫНА *ж.* В. Малешава.
ОПАНА′СОЎКА *ж.* Рычоў.
ОСЛІ′ВА *ж.* Сямурадцы.
О′СТРІЕ *мн.* В. Малешава.
ПЕТРЫ′ЧЫЧ ВІРО′К. В. Малешава.
ПЕ′ЧЫШЧА *мн.* Рычоў.
ПЛЕ′СЦЫ *мн.* Чэрнічы.
ПОДГА′ЛЫ *мн.* В. Малешава.
ПО′КАЛЫ *мн.* Пагост.
ПРОСЕРЭ′Д *м.* В. Малешава.
ПРЫСТА′НЬСКЕ *н.* В. Малешава.
РЫГОРО′ЎСКІ ЛЕСО′К. Бярэжцы.

РЭЧЫ'ЦКІЕ ГРА'ДЫ. В. Малешава.
РЭЧЫ'ШЧЭ *н.* Сямурадцы, Чэрнічы.
СЕДЗЕЛЕ'Ц *м.* Рычоў.
СЕРЭ'ДНЯ *ж.* Рычоў.
СІТНІКО'ВЫЕ ЗАТО'НЫ. В. Малешава.
СКО'БЕЛЁЎ ОСТРОВО'К. Рычоў.
СЛЕПЕ'ЦКІ РОЎ. Чэрнічы.
СТАРА' РЭКА'. Пагост.
СТАРЫ'К *м.* Пагост, Чэрнічы.
СТУ'ЖЫЦА *ж.* Рычоў.
ТОПЕ'ЛЬНЯ *ж.* Чэрнічы.
ХВОЙКІ' *мн.* Сямурадцы.
ХОЧЭ'НСКІ *м.* Пагост.
ШТАНЫ' *мн.* Пагост.
ЯКУ'БОВО *м.* Рычоў.

## *Пратокі*

БУР'Я'НКА *ж.* Пагост.
ЕЗДА' *ж.* Альгомель [1].
ЖЫВОТО'К *м.* Запясочча.
ОГЛЕМСЬКА' ЕЗДА'. Талмачава.
РОЎ *м.* Пагост.
СТАРЫ' ХОД. Пагост.
ТУР *м.* Пагост.
ТУРОЎСКА' ЕЗДА'. Талмачава.
Я'ЦЕЛЬ *м.* Альшаны [2], Талмачава, Запясочча, Тураў.

ЗАЎВАГІ ДА РАЗДЗЕЛА «ПРАТОКІ»

[1] Пратока працякае праз балота.
[2] *Бы жэрэлó вонэ́ йдзе, доліна з водою.* Альшаны.

## *Віры*

БОГОРО'ДЗІЦКІ ВІРО'К. Альшаны.
ВАСІЛЁЎЦА *мн.* Альшаны.
ВІРО'К *м.* Мачуль.
ГРУ'ЗКА *ж.* Альшаны.
ДО'ЧЭРП *м.* Хачэнь.
ЖЫДО'ЎСКА Я'МА. Старажоўцы, Хачэнь.
ЛУЖО'К *м.* Хачэнь.
МЕДЗВЕ'ДЗЕЎ ВІРО'К. М. Малешава.
МІНО'К *м.* Альшаны.
МЛІН *м.* Хачэнь.
МЛІНІ'ШЧА *мн.* Мачуль.
О'ТМЕЛЬ *ж.* Хачэнь.
ПЕРАДЗЕ'ЛЫ *мн.* Старажоўцы.
ПЕРАМІ'ЛКО *н.* Хачэнь.
ПЛІТА' *ж.* Альшаны.
ПОПО'Ў ПЛОТ. М. Малешава.
ПЭНЬВІРА' *ж.* Мачуль.
РЫ'БЕЧА ХА'ТА. Старажоўцы.
РЯБЕ'Ц *м.* Альшаны.
СУДА'Ў *м.* Мачуль.
СЫ'СІН *м.* Альшаны.
ЧА'ПЛЯ *ж.* Мачуль.
ЧО'РНЫ ПЕНЬ. Хачэнь.

## *Перамелы*

ГОЛУКО'ЎСКЕ *н.* Альпень.
ОЗЕРЦЭ' *н.* Альпень.
ОЗЕРЫ'ШЧЭ *н.* Альпень.

## *Брады*

ГНО'РСКІ БРОД. Альгомель.
ГРУЗКУ'ША *ж.* Чэрнічы.
ЗАПРЫСТА'НЬСКІ *м.* М. Малешава, Хільчыцы.

КО'ЛО СПУ'СТА. Бярэжцы.
КО'РНІЦКІ БРОД. Хільчыцы.
КОРОЛЁЎ БРОД. Луткі [1].
ЛІТВІ'НСКІ БРОД. Альгомель.
ЛУТО'ЦКОЕ *н.* Рычоў.
МУ'НІН БРОД. Хільчыцы.
НА БОЛО'НЫ. Хільчыцы.
НА ПЕРЭЕ'ЗДЗІ. Бярэжцы.
ПЕРЭДО'Л *м.* Чэрнічы.
ПЕРЭЦЕ'ЛЬЕ *н.* Чэрнічы.
РОЎКІ' *мн.* **Рамель.**
СВАРЫ'ЧОЎСКІ БРОД. Альгомель.
СМОЛО'Ў ОСТРОВО'К. Бярэжцы.
СОПКІ *мн.* М. Малешава.
СТОЯЛЬСКІ *м.* М. Малешава.
СЦЕБЕЛЕ'Ц *м.* Рамель.
СЦЁПКА *ж.* Рамель.
СЬЯ'ТКА *ж.* Хільчыцы [2].
ТУНЯ'ТА *мн.* Рамель.
УПЛЯ'СО *н.* Бярэжцы.
У ТОПЕ'ЛЬНІ. Чэрнічы.
ХІЛЕ'ЦКОЕ *н.* Рычоў.
Я'ЦЕЛЬ *м.* Запясочча.

ЗАЎВАГІ ДА РАЗДЗЕЛА «БРАДЫ»

[1] *Казалі, шчо некі король утопіўся за кладбішчэм, там буў бродок, то звалі Королёў брод.* Луткі.

[2] Брод знаходзіцца каля вёскі. Дзеці тут купаюцца, ловяць рыбу і г. д.

## *Часткі вёсак*

БА'БІНСКО *н.* Мачуль [1].
БАКО'ЎСКІ КОНЕ'Ц. Чэрнічы.
БЕРО'ЗКІНА *ж.* Чэрнічы [2].
БЕ'РЭГ *м.* Аздамічы, Рамель.
БЕРЭГОВА' ВУ'ЛІЦА. Буразі.
БОРЫ'СОЎКА *ж.* Мачуль.
БРОД *м.* Луткі.
БУ'ХАЛО *н.* Рычоў.
ВЕЛІ'КІЕ ГУ'МНА. Верасніца [3].
ВЕЛІ'КІ ЛЕС. Хотамель.
ВІШЭНЬКІ' *мн.* Верасніца [4].
ВУ'ГОЛ *м.* Любавічы.
ВУ'ГОН *м.* Пагост.
ВЫ'ГОН *м.* Рамель.
ГАЁК *м.* Хачэнь [5].
ГЛІ'НКІ *мн.* Луткі.
ГЛУ'ХОВО *н.* Знаменка.
ГНО'ІШЧА *мн.* Луткі.
ГОРА' *ж.* В. Малешава [6].
ГОРЭ'МЕХ *м.* Цераблічы.
ГО'СТРОЎ *м.* Верасніца [7].
ГРАДА' *ж.* Альпень, Бярэжцы.
ГРУЗІ'ВЕЦ *м.* Буразі.
ДВО'РЫШЧА *мн.* Кароцічы, Хільчыцы.
ДЕ'ДОЎКІ *мн.* Альпень.
ДРЫНКІ' *мн.* Буразі.
ДУБНІ'К *м.* Буразі.
ДУБРО'ВА *ж.* Знаменка, Хотамель.
ДУЛІНА' *ж.* Сямігосцічы.
ЗАБЕРЭ'Ж'Е *н.* Альгомель.
ЗАБОЛО'ЦЬЕ *н.* Хільчыцы.
ЗАБУ'Ч'Е *н.* Азяраны.
ЗА ВЕ'ШНІЦОЮ. Цераблічы.
ЗАГО'РКА *ж.* Альпень.
ЗА'ГОРОД *м.* Кароцічы.
ЗАГУ'МЕНЬЕ *н.* Хільчыцы.
ЗАДВО'Р'Е *н.* Талмачава [8], Хільчыцы.
ЗАЛО'З *м.* Альгомель [9].
ЗАМО'СЦЕ *н.* Любавічы.
ЗАПЛО'ЦЬЕ *н.* В. Малешава.
ЗАСА'Д *м.* Альгомель.
ЗАСВЕРЭ'НЬСКАЯ *ж.* Рамель.
ЗАХРЭ'СЦЬЕ *н.* Сямігосцічы.
ЗАЯ'ЦЕЛЬЕ *н.* Буразі, Мачуль.
ЗДО'ЛІНЬЕ *н.* Рычоў.
ЗУБАЧЭ' *мн.* Рычоў.
КЛІ'МОВА НІ'ВА. Мачуль [10].
КОЗЕ'ЛЕЦ *м.* Верасніца [11].
КО'ЛОК *м.* Бярэжцы.
КО'ЛО КЛУ'БА. Бярэжцы.
КОРЧКІ' *мн.* Буразі.
КОШЧЫ'Н *м.* Альпень.
КРАСНІ'ЦА *ж.* Альпень.

КРЫ'НКА *ж.* Альпень.
КУДРЫ'НКА *ж.* Хільчыцы.
КУ'НДАРОЎКА *ж.* Верасніца[12], Луткі[13].
КУТЛЯ'НСКІ КОНЕ'Ц. Чэрнічы.
КУТО'К *м.* Сямігосцічы.
КУ'ТПОЛЕ *н.* Кароцічы.
ЛАДЫ'ЧОВО *н.* Запясочча.
ЛОЖЧЫ'НА *ж.* Альгомель.
ЛОЗКІ' *мн.* Аздамічы.
ЛУЖО'К *м.* Верасніца[14].
ЛЮБЕ'ТОВО *н.* Альпень.
ЛЯХІ' *мн.* Бярэжцы.
МАЛЫ'Е ГУ'МНА. Верасніца[15].
МАР'Я'НКА *ж.* Верасніца[16], Талмачава.
МЕДОВА' ВУ'ЛІЦА. Хотамель.
МЕЛЬНІКІ' *мн.* Аздамічы, Пагост.
МЕ'ЛЬНІКІ *мн.* Аздамічы.
МОСЕЙКІ' *мн.* Хотамель.
МОЧУ'ЛЕ *н.* Мачуль.
МУЗОЛЕ' *мн.* Хотамель.
НОВА' ВУ'ЛІЦА. Буразі.
О'ЗЛІ ЦЭ'РКВІ. Альгомель.
О'СТРОЎ *м.* Хачэнь[17].
ПА'НЬСКЕ *н.* Аздамічы.
ПА'СЫНКІ *мн.* Азяраны.
ПА'ЎЛОВА НІ'ЎКА. Луткі.
ПОДВА'РОК *м.* Азяраны.
ПОДЗА'БОЛОЦЬЕ *н.* В. Малешава.
ПО'ЛЕ *н.* Мачуль.
ПОЛЁВЫ' КУТО'К. Азяраны.
ПОСЕЛЕ'ННА *ж.* Кароцічы.
ПУГАЧЭ' *мн.* Хотамель.
ПУ'СТКІ *мн.* Кароцічы.
ПУ'ЧЫШЧА *мн.* Рычоў.
ПРОСЕРО'ДОК *м.* Азяраны.
ПРЫ'СТАНЬ *ж.* Рамель.
РОГІ'НЯ *ж.* Кароцічы.
СЕ'ЛІЦА *ж.* Кароцічы, Сямігосцічы, Талмачава.
СЕЛО' *н.* Аздамічы, Азяраны, Буразі, Верасніца, Знаменка, Любавічы, Мачуль, Пагост, Рамель, Талмачава, Хачэнь, Хотамель[18].
СІ'ЛЕГА *ж.* В. Малешава.
СОЛОДО'ЎНЯ *ж.* Бярэжцы[19].
ТОЙ КОНЕ'Ц. Пагост.
У ГУ'МНАХ. Луткі.
ХОРКІ' *мн.* Сямігосцічы.
ХУ'ТОР *м.* Луткі, Пагост, Хільчыцы, Чэрнічы.
ЦВІ'НТАР *м.* Рычоў.
ЦІМ'Я'НІЦА *ж.* Аздамічы.
ЦЫГА'НСКА ВУ'ЛІЦА. Пагост.
ЧЭРЭСЕЛЁЎ *м.* Аздамічы.
Я'БЛОНЬКА *ж.* В. Малешава.

ЗАЎВАГІ ДА РАЗДЗЕЛА «ЧАСТКІ ВЁСАК»

1 Раней на гэтым месцы было балота.

2 Назва ўтворана па прозвішчу салдата.

3 Назва паўднёвай часткі вёскі. Засяленне яе адбылося ў асноўным пасля Вялікай Айчыннай вайны.

4 Назва паўднёва-заходняй часткі вёскі. Даўней там расло многа вішань. Заселена пасля грамадзянскай вайны.

5 *Там скрозь рос гай.* Хачэнь.

6 Цэнтральная частка вёскі.

7 Заходняя частка вёскі. Да Вялікага Кастрычніка на гэтым месцы стаяла толькі царква. Зараз — жылыя дамы калгаснікаў і сярэдняя школа.

8 Раней было поле.

9 *Залóз — то буў пáнські двор, вонэ шчытáлосо панськe.* Альгомель.

10 Новая вуліца ў вёсцы, адтапанімічная назва.

11 Знаходзіцца паміж *Селóм* і *Вішэнькáмі,* даўней было балота.

12 Частка *Мар'янкі.* У недалёкім мінулым — апошняя вуліца на правы бок па дарозе на Тураў. Зараз яна не апошняя.

[13] Новае пасяленне на ўскраіне вёскі.

[14] Паўднёва-ўсходняя частка *Мар'янкі.* Раней быў луг. Заселена пасля Вялікай Айчыннай вайны.

[15] Паўднёвая частка вёскі. Да Вялікай Айчыннай вайны стаялі гумны.

[16] Заселена даўно. Усходняя частка вёскі ўздоўж дарогі Верасніца — Тураў.

[17] *Кругóм Óстрова розліваецца вода.* Хачэнь.

[18] Ва ўсіх вёсках назвай *Селó* абазначаецца цэнтральная частка вёскі.

[19] Тут некалі быў панскі бровар.

## *Жыхары*

БЕРЭШЧА'НЕ *мн.* Бярэжцы.
БЕРЭШЧАНІ'Н *м.* Бярэжцы.
БЕРЭШЧА'НКА *ж.* Бярэжцы[1].
ЛІПЕ'НЕЦ *м.* Альпень.
ЛУТЧА'НЕ *мн.* Луткі.
ЛУТЧАНІ'Н *м.* Луткі.
ЛУТЧА'НКА *ж.* Луткі.
ЛЮБОУЧА'НЕ *мн.* Любавічы.
ЛЮБОЎЧАНІ'Н *м.* Любавічы.
ЛЮБОЎЧА'НКА *ж.* Любавічы.
МУЖЫКІ' *мн.* Хачэнь.
ОЛЬПЕ'НЕЦ *м.* Альпень.
ОЛЬПЕ'НКА *ж.* Альпень.
ОЛЬПЕ'НЦЫ *мн.* Альпень.
ОЛЬША'НЕЦ *м.* Альшаны.
ОЛЬША'НКА *ж.* Альшаны.
ОЛЬША'НЦЫ *мн.* Альшаны.
ПОГОШЧА'НЕ *мн.* Пагост.
ПОГОШЧА'НІН *м.* Пагост.
ПОГОШЧА'НКА *ж.* Пагост.
РЫЧО'ВЕЦ *м.* Рычоў.
РЫЧО'ЎКА *ж.* Рычоў.
РЫЧО'ЎЦЫ *мн.* Рычоў.
РЭМЕ'ЛЕЦ *м.* Рамель.
РЭМЕ'ЛЬЦЫ *мн.* Рамель.
РЭМЛЯ'НКА *ж.* Рамель.
СЕЛЯ'НЕ *мн.* Хачэнь[2].
СЛЕПЧА'НЕ *мн.* Знаменка.
СЛЕПЧА'НІН *м.* Знаменка.
ХОТОМЕ'Ц *м.* Хотамель.
ХОТОМЛЯ'НКА *ж.* Хотамель.
ХОТОМЦЭ' *мн.* Хотамель.
ХОЧЭ'НЕЦ *м.* Хачэнь.
ХОЧЭ'НКА *ж.* Хачэнь.
ХОЧЭ'НЦЫ *мн.* Хачэнь.
ЧЭРНІЧА'НЕ *мн.* Чэрнічы.
ЧЭРНІЧАНІ'Н *м.* Чэрнічы.
ЧЭРНІЧА'НКА *ж.* Чэрнічы.

ЗАЎВАГІ ДА РАЗДЗЕЛА «ЖЫХАРЫ»

[1] *Берэшчáнка з лутчáнкою ніколі не свáрыцца.* Луткі.

[2] Так жыхары г. Турава называюць жыхароў в. Хачэнь.

# ТЭКСТЫ

## ВЯСЕЛЛЕ (ЗАКАНЧЭННЕ)

### *Нарадзілі молодзіцою*

З недзелі на понедзелок граюць, танцуюць до пóзнёго боя́рые. Поспяць, да з световóю зарою зыходзяцца молоду́ ўвозíць. Молода строіцца. Дру́жкі коснік у кóсу ўплётаюць, венка ёй на гóлову. Молодые пóровень садзяцца на полу ці там на пóкуці. Весéлные за столы лезуць. Спеваюць боярые мацер:

Пропіла маці дóчку на солодком медóчку,
Да, напіўшыса, скачэ, а проспаўшыса — плачэ.
Добрэ було да медок піць, да недобрэ дзéлцэ робіць.

Маці пла-ачэ! Спеваюць і бацьку:

А ў сенечках, на крэ́слечку Галонька кóсу чэсала.
Вона, чэшучы, говоры́ла: «Я бацюхну не мíла.
Мілей бацюхну горка гарэлка, чым я, молодзéнька.
Усе пілí, усе говорылі, а мною заплацíлі».

І таку:

Да лецелі гу́сонькі церэз сад, да клікнулі Гáлоньку на посад.
Што ж вам, гусонькі, до тогó? Е ў мене бацюхно для того.
Ой, вон мене, молодзеньку, нарáдзіць да вон мене на посадзі посáдзіць.
Ой, вон мене за голоўку подзержыць, шчасця, долі попрóсіць.

Вупіваюць. Бацько пéрву налівае. Вуп'юць да закусяць. Поедзяць, жонкі спеваюць:

Каменная пéчонька, вечор горыш да не ву́горыш,
Камéнейка да не роспáліш,
Молодая дзевочка, вечор седзіш да не заплáчэш,
Бацюхна не розжáліш.
— Розжалю бацюхна, ек пойду по застолейку.
Кóскою да роспушчуса, а слёзкою оболью́са,
З бацюхном розыйду́са.

Ету спевалі боярые, уродзі ек бацьку:

Прыехалі вулёўцы,
Просыпалі на столе чырвóнцы.

— Да погордýй, бацюхно, погордýй,
Да хоця́ зімоньку мене погодýй.
— Да не буду, дзіця мое, гордовáць —
Прыехалі госценькі, трэба оддаць.

Да завівáцімуць. Росплéтаюць ленту молодой, шо ў косе. Да екі мужчына — косы мне, отрэжэ з іх трошэчкі, чуць, сáмо хвосціка. Спеваюць:

Не брат коску трэпле, да чужá чужэніца,
З чужое да сторóноньki, да з блізкое да мóвоньki.

Осмаляць да схаваюць некуды. Да нек заматáюць косы, ек на коўпакá. Вона плачэ. Спеваюць:

Ох, мамонько моя, цепер я не твоя.
Цепер я того пана, з кім на шлюбі стояла.

Да зьмуць хустку, перэвернуць да накрыюць. Цернóўкою, семерыкóм, бувало, накрывалі. А хто і сарпáнкою, ек була. З берэ́сціны обруч да на ёй сарпанка. Седзіць молода накрыта, від схáваны. Спевалі ўжэ:

Пятніца — почынáльніца,
Субота — коровáйніца,
Недзеля — венчáльніца,
А ты, светы понедзéлку,
Загубіў жэ нам дзеўку.
Посадзілі под полíцою,
Нарадзілі молодзíцою.

Спеваюць:

Молодзéнькі Іваночко свого цéсценька просіць:
«Ой, цесцюхно, да мой бацюхно,
Да не лекáй жэ нас із дому, да отпраўляй додому.
Ой, будзе мене татко ждаці да на мене да нарэкáці.

Про молоду спеваюць:

Ой, чого ты, Галонько, седзіш? Чому бацюхна не прóсіш?
Бо ўжэ ж возы позавéрненые, а конікі позапрэ́жэные.
Да велі коню оброк даць. Да нехай коні постоя́ць.
— Да закýль прыдзе мой бацюхно.
Ідзе бацюхно з вішнёвого саду, ведзе коню́чэнька позáду,
А я, молодзéнька, да тому радзéнька.
Я з вамі да готóвенька,
Ой, готова, готовýсенька, я з вамі да радзю́сенька.

Молоды ўстае на лаву. Вон знімае образá, шо бацько й мацер покажуць. Да кругом столоў ведуць іх. Старшы маршáлок, молоды коло маршалка, а молода позáду. За імі свецёлка з свечкамі. По сонцу обойдуць тры раз, да ўжэ молода прошчаецца з бацьком й мацер'ю. Тры раз кланяласа ім, первому — бацьку. Цэловала іх, братоў, сесцёр, цёток. Спеваюць:

— Чого, молода мацюхно, чого ж ты так сільню́сенько плачэш?
— Як жэ, мне, молодзéнькой, сільнюсенько не плакаць,
Шо усе пілі, усе говорылі, а мною молодою, заплацілі?

Маці заўя́звае ў платок хлеба бо́хан, тарэлку і ложку і оддае дочцэ́. Спевалі:

Розганя́йса, маці, да по велікой хаці
То ў той куток, то ў за́печок, головою об пры́печок.
Накі́дай да, маці, дрова, оставайса здорова.
Загрэба́й, маці, жар-жар, будзе тобе дочкі́ жаль-жаль.

Жыто насыпа́лі ў пляшку, лентою красною обоўя́звалі. Да з хаты к возу ведуць. Ек вуво́дзілі, хме́лём обсыпалі молодых, родня ее. Трэба ж і скрыню ці там бо́дню вуно́сіць. Бодня, ек бочка, з вушамі, у ёй одзежа, полотно, рушнікі, скацерце́. А на ёй хлопча́к седзіць, брат молодо́е, родны ці стрэдні. Да не дае. Цукеркоў дають. То шчэ грошэй. То ўжэ злазіць з тое́ скрыні, да маршалкі, сваты за ее да вуносяць з хаты. Посцель особно. Ее тожэ не дають, шоб заплацілі.

Попере́д молодых одзін маршалок корова́я несе, другі посцель. Позаду свецёлка, старша дружка, старшы сват од ёго пірогі несе, чотыры пірогі. А коровай молодого. От ведуць, бацько молодое по дворў походжа́е да ў город зазірае. То спевають:

Ой, божэ мой, божэ, ву́рвано ў мене ро́жу,
Красную і зелёную,
І ро́дную мою до́чку, дай весёлую,
І ору́чую, і робочую, і на дзелечко охо́чую.

Подводзяць молодых к возу. Ек уве́сну да вода веліка, то й лодкамі везлі. Да спевають:

Ой, сваце, сваце, рогожа опала,
А сенена́я подушэчка коня спужа́ла.
Ой, сваце, браце,
Коня дзержэ́це,
Сенену́ю подушэчку на воз кладзе́це.

У пе́рву воз сено топчуць, подушкі́ кладуць, просцілку сцелюць, коней накрывають хорошымі попо́нкамі. Молода сама ткала ці маці вуткала. Понара́джвають оброці́, ду́гі, возы́. Седа́ють на воз. Спевають:

Муш, муш по печэ́ скачэ, брат, брат по сестре́ плачэ.
Сестра не зважае да на возік седае.

Сядуць молодые на подушкі. Спевають:

Ужэ свет світае, сонцэ сіяе,
Молодая Галонька да на воз седае.
Вуйшоў ее бацюхно, ключо́ў путае:
— Дзе ж, дзе ж, Галько, дзе ж ключэ́ дзела?
— Погледзі, бацюхно, дзе я седзела.
Седзела, бацюхно, у новой коморы,
Повесіла ключэ на золотом пробоі.

Старшы маршалок з боку молодого садзіцца. Старша дружка з ее боку. Свецёлка на етом возі. І шчэ ж маршалок за ездового.

Молодые платочкі з хмелем і жытом роз'яжуць да сыплюць церэз себе. Спевалі ўжэ:

— Шо ты, бацюхно, мене жэне́ш
Да мне проводнічка не даеш?
— Даю тобе проводнічка — брацейка,
А проводніцку — сестрыцку.

То воны ужэ на бодню ці там на скрыню садзіліса. Бацько ў лево́й руцэ пірога́ дзержы́ць, у правой пугу. Пірог на рушніку, соль на ём. Да обухо́дзіць воз з молодымі по сонцу. Спеваюць:

Перэсядзьце, во́рогі, да не перэходзьце доро́гі,
Да нехай пере́йдзе господзь бог,
Да нехай пере́йдзе бацько свой
Із хлебцэм, із солькою, із шчасцем, із долькою.

Тры раз обуходзіў, ка́жын раз дорогу перэд коньмі перэхры́сціць. Да ўжэ кажэ: «Едзьце од порога з богом». Да ўжэ едуць. Ек шчэ коло хаты едуць, спеваюць:

Да леці, леці, голуб сіву, да ў мой двор шчасліву,
Да накажы моёй мамоньцы, шо я еду ў па́роньцы,
Накажы моёй ро́дненькой,
Шо я еду ў дво́йненькой,
Накажы на порозі, шо неве́хна на дорозі.

От молодое небагато ехало. Ек шчэ етою вуліцою ехалі, спевалі:

Лецелі гу́сонькі церэз сіне морэ.
Закрычалі гусонькі, церэз сіне морэ летучы́:
«Ці ж усе му перэлеце́лі церэз сіне морэ?»
Да закрычала гусонька, поперэдочку летучы́:
«Ой, я була прыоста́ласа да на моры купаласа».
Да гукалі боярые, церэз село едучы:
«Ці ж усе му, любуе боярые, церэз село перэехалі?»
Дай отозваласа молода Га́лонька:
«Я була прыосталаса, я з бацюхном прошчаласа».

Хто захочэ, той стола ву́несе з хле́бцом жытнім, а сваты́ ёму — бутылку.

У дорозі спевалі:

Ой, постойце, возы́, да надзерэмо́ лозы́,
Да будом верчэ́ мотаць, да подаркі роздаваць.

Ек узіму, то й таку:

Ку́ночка снегом-снегом, а му за ею следом-следом,
Следочку не ўхопілі, да куночку загубілі.

Ку́ночка — ето на молоду. А коло хаты молодого ўжэ стояць, ожыдаюць молодых, на вуліцу ці там на дорогу позіраюць. Бацько й мацер выходзяць. То ўжэ спеваюць жонкі:

Іванкоў бацюхно вуйшоў на схо́доньki
Да позірае на зо́роньki:
— Ой ву, мое ясные зоры, не свеце́це на моём дворы,
Да свецеце на дорозі.
Там у мене дзеток двое, однэ дзіця роджо́ное,
А другée — суджо́ное.

Таку от:

Дымно ў полі, дымно да нічого не ві́дно,
Там Іванко воюецца, по ём бацько жу́рыцца.
— Не журыса, мой бацюхно, я к свету да домоў еду,
Светово́ю зарою із своею жоною.

Ожыдаюць. Зноў спеваюць:

От Іванкоў бацюхно прылёг ік дорозі —
Да ці стогне дорога,
Ці шуміць дубрава, ці свішчуць нагайкі,
Ці гука́юць марша́лкі.

Да бацько которы й прыляжэ вухом к земле дай слухае. Да ўжэ под'ежджае веселле к хаці да бояры спеваюць:

— Ой, вуйдзі, вуйдзі, бацюхно, погледзі́,
Шо тобе бояры прывезлí —
Ці целя, ці сіву козу́, ці невехночку молоду́?
— То не сіва коза, не целя, да невехночка паненя́
(молода́).

Ко́ней зно́жаць да бацько ці хросны бацько поперэ́д іх крэста з солому моло́чаное положыць. Запа́ліць. Згорыць, да ўжэ везуць молодых церэз его. От злазяць з воза молодые, ідуць. Ек перэд двоpо́м, то спеваюць:

Свёкорко невехну ў воро́цях стрэчае...

Ек по двору ідуць, спеваюць:

Ой, божэ мой, божэ, посаджоно ў мене рожу
Красную й зелёную,
І су́джоную мою дочку, дай весёлую,
І оручую, і робочую, і на дзелечко охочую.

От молодые сталі на порозі, то спеваюць:

Прывезёно молодзіцу у нову светліцу
Да на ту́птану зе́млю, у весёлую се́м'ю.
Земелька корэні́стая, а семейка норові́стая.

Перэд порогом у се́нях стола́ поста́вяць, скацерцю накрыюць. Свекруха кожу́ха вувернутого на го́лову й плечы напне́, у руках місочка з медом і ложка. Медом прыві́тває, кожу́хом пужае. Тры раз давала. Бояры спеваюць:

Знаці, знаці, не своя маці,
Напнула кожу́ха, хочэ спужаці,

А я того кожуха не боюса,
Я за свого Іванка дзержуса.

Спевалі шчэ:

Свёкорко говорыць: «Не будзь вельмі хварсíва,
А будзь вельмі шчаслíва.
Роспусці свою долю да по мойму полю,
Роспусці шчасце да по моіх одрынах,
Да по моіх нівах».

Да ўжэ ў хату. Бувала, хмель і жыто сыпле, ек у хату ўлезе молода. Некого пірогá обрэзваюць, некіе шышкі од ёго да даюць дзéцям, шоб не дрэмала. Да вона ў хату прыходзіць да на печэ́ ставіць по дной ложцы і по дной тарэ́лцы. Бувало, дзерэўя́ные ложкі, тарэлкі чэрэп'я́ные.

Маршалок за платочок ведзе молодых на посад, позаду свецёлка з свечкамі. От селі. Свёкор смýком, шо-то грае, ці пугоўéм да здымае ту церноўку ці ту сарпанку з голову молодóе да кажэ шо-небудзь. «Здымаю з цебе... дарую цебе конéм, ці коровою». Да ўжэ роскрылі молоду. Свекруха чарку вуп'е, венка здыме, дружцы надзене, шоб хутко замуж шла, да свою хустку невесцы заўя́жэ. Вулезуць з-за столоў да ўжэ рушнікі молодое вешаюць, брацíха вешала. І скацерцé молодóе сцелілі на столы. Посцель просцілалі ее, подушкí. Молода з бодні своей достае да дарыць свекрусі перкалёўку, сподніцу, кохту. Свёкру — рубашку невýшыту, рукáва перкалёвуе, остатне полотняне. Спевалі:

Да гулá пчолка, гулá, да по горóду летáючы,
К своім вуллём прылетаючы.
Вýлле мое да малéнькіе, летá мое молодзéнькіе,
Поставочкі да беловéнькіе.
Да на зімочку прáла, да на весну я ткáла,
Да на лето беліла, за одзін вечор роскоціла.

Даўно колісь молода рушнікі весéлным усім ёго давала. Да ўжэ ведуць молодых у клець. Ее ў садý часцей ставілі. У ёй до зімý жы́цімуць. Покладуць спаць тых молодых. Поспяць екі час ці поўчаса. Ці воны там спяць, ці так лежаць. Да ўжэ йдуць будзіць іх — з музы́кою. Песню спеваюць, шо й казаць не можна. Да ўжэ рáдзяцца, ужэ вона одзежу дае ёмý свою, ужэ вон скідае тэ мацерынэ да ее кладзе. І вона перэдзеваецца ў своé. Порадзяцца. Вуйдуць да ў хату іх ведуць. Спевалі:

Шчэ пшэніцка не зжата,
Устаньце, зожнéце, у копку кладзéце.

Да ўжэ посылаюць молодого за ее бáцьком й мацер'ю. Пляшку з віном ці квасом даюць, на ёй лента красна. Да ўжэ прыедзе молоды на подводзі — з маршалком, музыкою. Спеваюць прыдáные:

От дóбра та годзінонька настала,
Молода Галонька да по бацюхна прыслала,
Прыслала вона два конíчэнькі, а трэ́цёй воз,
А чэцвёртого да повóзнічка, шоб прыўёз.

26. Зак. 1411

Ставіць зяць пляшку на стол, цёшча ёму — пляшку з жытом. Да везе цесця й чэшчу. А шо за бацьком і мацер'ю едуць з іх роду — то ето пpыданые. Спеваюць з роду молодое:

Ой, у лесі на клёну́, там вісела колбе́лка на шнуру́.
У той колбелцы дзе́вочка.
— Колышэ́це, маршалкі, вусо́ко, шоб мне було відно
далёко,
Шоб я бачыла свого бацюхна,
Ёк вон едзе до мене да госцінцы везе.

Прывезе молоды цесця. Трохі позней прыданые прыедуць ці прыдуць. Перэд порогом постануць да спеваюць:

Дзе ж наша дзевочка, дзе ж наша нево́льніца?
Чому з намі не віта́еццa, на здароўе не пута́еццa?
Ці по во́ду пошлёна, ці ў клеце́ замукнёна?
Седзіць вона за скам'ею, мед, віно перэд ею,
Седзіць вона за століком з своім соко́ліком.

Вона вуйдзе ў на́метцы да ка́жному кланяеццa, родне своёй. Спеваюць прыданые:

Да берэз'я́нко, мамко, познай да свою дочку.
Учора була ў веночку, а цяпер у сарпа́ночку.

Да ўжэ ведзе вона іх у хату. Родня ёго седзіць, ек зайдуць прыданые. Спеваюць:

Галонька молодзе́нька свого бацюхна прыгласі́ла,
Да на покуці посадзіла, да солодкім вінцэ́м напоіла.

Чужне́йшые з роду молодого ідуць домоў, а ее родня ўжэ за столы. Спеваюць прыданые молодой:

Церэз мой сад, да церэз мое се́ні
Да цецера лецела,
Да не даў мне бог, не судзіў мне бог,
За кого я хоцела,
Да з кого кпіла да смея́ласа,
Да сама к тому попаласа.

Про свекруху:

Ой, лесом-бором да хмаронька ўступа́е,
І мадзведзь рыка́е.
А ў на́шое Галонькі
Свекроў ліхая.
— Вона будзе ліхая, а я буду до́брая.
Вона будзе ворчаці, а я буду моўчаці.

Спевалі свекрусі:

Да сваха свасі покоры́ласа, шоб на нашу Галоньку не
сварылася.
Бо наша Галонька вельмі мале́нька да на сон радзе́нька.
Не будзе́це ее, ек певень пее, да будзе́це ее, ек пастух
товар жэне́.

Бо певень пее рано і з поўночы, а пастух жэне рано поснёдаючы.

А шчэ таку свекрусі:

Ой, сва́шэчко, моя пташэчко, прошу вас,
Шоб не було нашому дзіцяці га́ньбу ў вас.
Ой, шоб не стояла цёмное ночэнькі под окном,
Шоб не вуцірала дробных слёзонёк рукавом.
Ой, шоб не було із лешчы́ночкі хаточкі,
А шоб не була і суседонька матухна.

Спеваюць бацьку:

Ой, жално мне, жално,
Да на кого мне жа́лно?
На бацюхна свого́.
Куды едзе, то не заедзе, куды йдзе, то не за́йдзе.
А я, молодзенька, бачу
Да сільню́сенько плачу.
А я, молодзенька, чую, под селом ночую.

Про свёкра:

Побегла Галонька, тры дворэ міна́ючы,
А на трэйці наступаючы.
— Ой, стану я, послухаю, шо людзі гово́раць —
Мого свёкорка судзяць.
Ой, екіе дзіўные людзі! Чому ву не казалі,
Ек шчэ мене не веньча́лі?
А цепер не кажэ́це, серцэ мое не сушэ́це,
Серцу жалю не задава́йце,
Моіх слёзок не розліва́йце. Слёзкі мое дробне́нькіе,
А лета молодзе́нькіе.

Про бацька й свёкра:

Дымно ў полі, дымно, да нічого не відно.
Усе дзевочкі ў ягодкі ідуць, а Галоньку не позвалі.
Ве́рнемоса да позове́мо, больш ягодок наберэ́мо.
Наберу я ягодок жменьку да сховаю на недзельку,
Наберу другую да сховаю на тую,
Зелёная — ето для бацюхна, а спелая — для свёкорка.
Бо бацюхно не хоцеў дзержа́ці, а свёкорко будзе дзержа́ці,
Да мною загадваці.

Музы́кі булі. На скрыпцы хо́рошэ йгралі. У нас граў з Грэбеня, тры сыны́, а вон чэцвёрты. От іграў! Вон на скрыпцы, а сын — на гармонь, а другі — на кларнэт сын, а трэйці — барабан такі велізны. Турэцкі, з тарэлкамі. Цепер нема такого оркестру. Ла́ву поўносяць на вуліцу да зайграюць, то зберэ́цца ўсе село́. Шчэ й перэпой буў.

*Герман Усціма Рыгораўна, 1907 г.,*
*Ліцвінка Анастасся Рыгораўна, 1913 г.,*
*Карась Анастасся Адамаўна, 1909 г.,*
*Ліцвінка Васіліна Анікееўна, 1898 г.,*
*Торчык Арына Паўлаўна, 1908 г., в. Пагост,*
*Баран Ганна Сцяпанаўна, 1913 г., в. Перароў.*
*Запісаў у 1981—1984 гг. М. А. Саскевіч*

## ЦЁТКА ПАРУЛЮШКА РАСКАЗВАЕ

Поехала я ў Гомель. Назад ужэ ехаць прышла. Ну, я ўжэ шукаю такý жэншчыну, шо на Жытковічы. Бачу, молодá така берэ білет на Жытковічы. Кажу: «Як ты зовесса?» Кажэ: «Надзя».— «Надзе, так от ужэ гледзі, я старá жонка, а ты молода, бýдом рáзом ехаць. Ты знаеш, на екі поезд, на екý плошчатку іці». А эта Надзя завелá мене на такі поезд, шо й éдом і едом. Я ў эты бок, ужэ у Жытковічы колько раз ехала і ў мене у эты бок сáду не було. А то сады́ й сады, сады й сады! «Надзе, не туда мы едом, не на Жытковічы». А седзіць такі чоловек да кажэ: «А вам куда?» — «Нам,— кажу,— трэба на Жытковічы». А вон кажэ: «Эты поезд ідзе на Калінінград». Ой господзі, міленькі! Тая Надзя сюда-туда, бегóм по том поезду. Вуйшла эта проводніца. Кажэ: «Не волнуйцеса, цёткі, от будзе йці на Гоміль поезд, тýтэка останоўка малéнька. От пóйдзеце вóзьмеце білет да вéрнецеса, вон дваццэць мінут не йціме. Да вéрнецеса ў Гомель да сядзеце на Жытковічы». Прыехала ўжэ ў Гомель, ужэ ту Надзю кінула, мне така проводніца не трэба, шо она горш не знае за мене. Я ў справочнэ юро да попутáла тоé жэншчыны. Она мне росказала: на трэцюю платформу, іціме поезд на Жытковічы у только і только часоў. Я собе самéнька пошла, саменька села. Думаю, на чорта ты мне, Надзя! Я ўжэ вýлезла з поезда ў Жытковічах. Да кажу собе: «Дзе та Надзя?» А вона ідзе: «І ву прыехалі?» — «Ну, а шо ж,— кажу,— цебе буду гледзéць? Мо ты ўжэ у Москву поехала б!»

* * *

То я не п'ю... Ох, мой сынок, я родзіла первого хлопца і выпіла віна. І стало мне тут вельмі важко дыхаць. І зноў я коўтнýла — ешчэ важэ́й мне. І я от того кінула й кінула, й не беру ў рот. Дочка була одзін год наробіла настойкі з клубнікі да прышла з дохторкою. І тая дохторка кажэ: «Ой, бабочко, это ж прамо шчо ўжэ таке смáчнэ, таке смачнэ, коб ву попрóбовалі!» Я кажу: «Знаеце шчо, дзéўкі, мне ў ложку, я попрэбую». І я эту столову ложку, половіночку я коўтнула. І як коўтнýла, так от очы вýрочыла і мне дыханіе закрылосо! І я не могу отозвацца. І от того я не п'ю, й не п'ю, не могу піці.

* * *

Погналі воны тутэка пасціць, поле у нас зовецца Прокóў. А поўз той Прокоў там болото, і такá е градá. А мой хлопец, бедны, не можэ ходзіць. Поробіліса на бокáх чыракí. А з Семýрадцоў стары́ чоловек пас тожэ. Прышоў тай і пытае этых нашых пастухоў: «А шо то ў вас за хлопец лежыць?» — «Ой, дзядзько, шо страдае, то страдае! Чыракі, да бедны,— кажэ,— мучыцца, да войкае!» — «Хлопчыкі, шукайце тутэка, можэ чмэлíны мед дзе трапім, так мы ёго, этого хлопца, вулечым». Роскідаліса тые хлопцы, пошлі стаўкáмі. А гэты стары, вон понімаў, дзе і на яком гурпáнчыку шукаць. Кажэ: «Онё там, перэйці на Тоўкачóў огород (так зовецца высóка така градка), от на том огородзі будзе». Да пошоў вон і найшоў эты мед. Найшоў і несе от, ек коробочка, такіх два кусочкі. Прынёс і кажэ: «Ідзіце побачце. Я зарэ ёго подлечý». Прыйшоў ік ёму, кажэ: «Сынок, роздзевайса, дзе этэ у цебе боліць». А вон як одзеты? Так,

вісіць на ём эта рубашка. А вон подняў эту рубашку, помазаў одного, а потом помазаў другóго. А іх мо штук чотыры. Велікіе, да ўжэ й малые поўсыпáлі. Вон его обмазáў, обмазаў, кажэ: «Вот полежы, пока эты мед трошкі подсохне, а там мы тобе зноў помáжэм».— «Ох,— кажэ,— дзя́дзю, але ж мне так спаць хочэцца, нек як не тое цело».— «Добрэ, добрэ,— кажэ,— сынок». І на тых хлопцоў ужэ кажэ: «Погледзіце ж скот за его, нехай вон полежыць. А ёму дам, шоб вон домоў занёс этэ лекарство». От вон полежаў, полежаў, той зноў чоловек ёму помазаў. Прышоў домоў, то тые маленькіе, шоб хоця б одзін отыскаўса! Дзе воны й подзеліса! А гэтые позашколупáлі! «Ох, мамочко, екі мене дзядзько полечыў!»—«А чым?» — «Чмеліным медом». І мой хлопец пошоў потскакаючы! А то шо не даліса рады ім. З-за чырака бюлютня ж не даюць, это не хвороба. А вўтрымаць не можне!

* * *

У ее чоловек інвалід. Пошла вона ў ягоды с кумпаніею. А туман такі! Прышла я домоў з ягод, леглá спаць. Стукае ў окно: «Параско, Параско!» — «А хто-то?» — «Это я, Міша! А дзе ты мою Пашу дзела?» А я кажу: «Ох, Мішэчко, вона жэ з намі не була, вона була з Яковіхою, у той компаніі, ідзі пытай у іх». — «Хай ее чорты́ мацеры з'едзяць, я ходзіў, вона кажэ, шо вона пошла уперэ́д домоў». А тая жонка заблудзіласа, осталаса, да ходзіла, ходзіла, да вўбіласа на лінею, да обняла стоўпá, да ночовала коло стоўпа. Вон до мене прышоў да гэтак говорыць. А я кажу: «Знаеш, Міша, на трэ́цёй лініі это гукáлосо, як мы булі ў ягодах. І як ты хочэш іці, то йдзі ўскрозь поўз пры́канавок». А той Міша не пошоў ужэ ўночы́. Стаў дзень, мы тожэ пошлі ў ягоды, гукáём, мо недзе отзовецца. І мы недалеко од ее булі. От она на той бок пры́канаўка, а мы по гэты бок бером ужэ. Ужэ я так беру, беру, адале чую: «Каце!» Кажу: «Жонкі, Міша гукае Кацю». І зноў: «Каце!» Другі раз. Вона: «Ой, а як ты мене трапіў? Хто тобе сказаў?» — «Ох, то мне Параска. Уночы́ я зайшоў і ў ее стаў пытаць, ці ты була». Кажэ: «Не, я була з Яковіхою. Воны пошлі, а я асталáса, гукала, гукала, ніхто не тозвáўса, а я коло гэтого,— кажэ,— стоўпá о на гэтой лінеі і ночовала. Ох, Мішэчка, ўсю ноч стояла. От бог даў ўрáно да сонейко хоця, а тож вы́дрыжала ноч, не знаю ж куда йці».— «То от жэ,— кажэ,— прыканавок, хай бы ты прышла на прыканавок да прыканаўком ішла».— «А ўночы трапіш, дзе той прыканавок?!»

* * *

А то маці росказвала. Була маці шчэ дзéўкою. Да пошлі з ее мацер'ю на Бор, так от у лес. У іх там було поле. Пошлі жаць. Да йшлі нáноч. Удзень вельмі жарко. То воны рáненько жнуць і под вéчор. Кажэ, зайшлі мы, так рано усталі, і давай жаць. Жном і жном. Ну, маці, то жне. А як бу я, то я б жáла? А Таня наша будзе жаць? Она пожнé й роззірáе, мо нехто йдзе, мо нехто едзе. Ну, кажэ, я так гледжу, ідзе мадзьведзь. Так я ту мацер тоўхéць: «Мамо, поба, хто к нам ідзе». — «От, жні, прызірáесса, шчо йдзе. Хай ідзе!» Вона жне й жне, а вон ідзе, кажэ, і кульгае. Прышоў да поклоніўса той бабі дай показвае лáпу. Вона погледзéла. Аж у той лапі такá

трэска седзіць! Ця́гне, цягне, кажэ, та баба. Не можна ву́цегці! А вон показвае зубамі. Вона ўзела́, кажэ, зубамі да вуцегла ту трэску да пошла, кажэ, іс куска сала ву́рэзала, да ону́чу, да замота́ла ёму́ эту но́гу. Поклоніўса, кажэ, і пошоў. Пошоў, кажэ, ўжэ, і нема, й нема, й нема. А да́ле, так под по́лудзень, кажэ, зноў ідзе. Ужэ йдзе, ўжэ й так не кульгае. Ідзе, кажэ, і ў лапах несе стольки ме́ду, шо мацi, кажэ, прослала полоценце, а вон положыў і поклоніўса і пошоў. І больш, кажэ, і ні чулі і не бачылі.

* * *

Ой, знаеце, як то мой сыночэк заболеў! Поехаў вон у Скрыпіцу. Поехаў на той сенокос у Скрыпіцу. А остала́са жонка ёго дома і мы з Марусею. А та дочка́ моя ў Ко́лном. Я пытаю так от людзей. Кажуць, ужэ погрэблí, ужэ стожкі покíдалі. «А мого Володзю не бачылі?» Кажэ: «Бачылі, там оны ко́пу ужэ начыналі носíць». Узаўтра ўра́но прыходзіць моя та дочка́ іс Колного. Прыходзіць, да: «Мамо!» Это: «То ты, Гале?» Кажэ: «Я!» — «А шо-то?» Вона не́ка така, шо не можэ говоры́ць. «А вы нічого не чулі?» Кажу: «Не!» — «Ох, это Володзька прыпоўз на чэцьверэньках, да прыпоўз ко мне да па́лочкою у вокно: «Гале, выйдзі». Я выйшла. А вон: «Ох, сестрыца, рату́й». А там у Колном зноў сестра моя е. «Зові й цётку». Позвала дочка эту цётку. А вона: «Ох, а шчо ж тобе й робіць?» А там недале́ко коло іх эты пункт, больніца. Дочка́: «Я побегу на пункт, а мо не́шчо на пункцi, здаецца, нешчо свеціцца». Вона забегла, а там эта дохто́рка прышла з вызова. «Ох, ходзíце ж,— кажэ,— побачце мого брата. Прыпоўз, і это колько о,— кажэ,— кіло́метраў вон поўз. І шчо-то ў ёго із жыротом». Она ёго перэгле́дзела і пошла. Кажэ: «Вы ёго гледзíце тут. От за́раз я прыду». Аж она чэрэз мінут двацацць ужэ з машыною прыехала. Ужэ позвоніла туда ў Жытковічы, то там ужэ подготовілі стола́. І ёго завезлí прамо на стол. І там ёму́ операцыю робілі. У ёго ўжэ той пендзіцыт процёк. Ох, божэ ж мой, све́це ж мой! Два часы робілі операцыю. Зайшла дочка́ на другі́ дзень ужэ к ёму́, там жэ ёй бліжэ́й с Колного. Зайшла к ёму, аж вон под этою капельніцою лежыць. Ох, як нежывы буў, божэ мой! Ну, а потом ужэ на трэці дзень ужэ ёму даюць нешчо трошкі. Прыма́жуць губы і нешчо пускаюць. І ўжэ вон отозваўса. «Ужэ,— кажэ,— сестро́, мо буду жыў. Ужэ мне не боліць так, як болело». Ужэ лежыць недзельку. Дочка прыбегала ко мне. Кажэ: «Мамо, этые куроняткі малы́е, да шоб зверы́ць ёму́ да эту юшэчку даваць». Давай мы гэтые куроняты ужэ душы́ць да варыць да эту юшку посылалі. А невестка — дзеці малы́е, родзíла двояня́та! Ох, да божэ мой, да свеце мой, да яка́ ж ёму́ була, бе́дненькому, мука! А потом на дзев'яты дзень ёму ўжэ да́лі сушкі. Далі ўжэ ёму сесці. Ужэ вон поседзе́ў трошкі. І на двонаццаты дзень ужэ стаў ходзіць. Ужэ ўстаў, ужэ, кажэ, выйшоў, там жэ ў іх столовая, ужэ вон у столовую подышоў. Ёму отрэ́залі таку то́неньку, кажэ, скібочку хлеба. «От,— кажэ,— сестро, колько я ем». Ох, а вона плачэ, ей жаль гледзець на ёго. Кажэ: «Не плач, ужэ як тогды я не дойшоў да не ко́нчыўса серэд дорогі, то цепер ужэ мо я поду́жаю». І дзень за дзень, дзень за дзень, ужэ лучшэ і, дзякуй богу, дождалі ёго́ й домоў. То от прыежджаў у госці, то я кажу, покажы, сыночок, твою ту рану, чы вона зажыла́. Ой, значно́ усе одно́, чырво́нэ

таке! Казаў: «Одзін раз мне, мамо, поўрэдзіло после лечэнья». Пропускаў бараны́, вон чабаном буў, да пропускаў бараны́ этые ўжэ здаваць на вес, да пропускаў да шчэ о так о жыволом подпіха́ў. А воно ек заболело, то тры месяцы лежаў у больніцы. «А после того,— кажэ,— ужэ я не беру тако́е роботы. Цепер я старшым скотніком». А вот, дзякуй богу, дзеткі погодоваў, дай ўжэ й зяцёў дождаў. Пісаў, шо прыедзе, а нема. Да от і кончано. От это росказ. Да гэто ўсе на своём дзіцяці ж побачыла.

* * *

Ох, а шчо ж! У нас вечо́ркі робілі. Понахо́дзяць дзеўкі да прадуць, да нашыва́юць. У нас тут була большая хата, сынок, то от тут так одгоро́джанэ, то тут вечоркі, а там бацько робіць сані. А тут на́йдзе хло́пцоў да кураць. Да божэ ж мой, а дзеўкі спеваюць. Прадуць да спеваюць. А далей ек пойдуць по вуліцы по хатах под окна! Ой, було, божэ мой! Дзякуй богу, шо цепер нема этого пра́дзіва. А то попопра́лі. Это мука! А шчэ ў нас буў дзед і бацько, то шчэ прадзе́ш, а ў п'ятніцу ўжэ не можна этых мучок пра́сці. Ужэ прадзі́ на жака́. Коно́плі. Ужэ прадом тые коноплі. Да самопрадкі ж тожэ ж булі. То ўжэ на той самопрадцы дзень су́чу ніткі тые. Да зробіць за зіму́ мо дваццэць жако́ў. Да ек поедуць! Ой, божэ мой! То було й ры́бу!

* * *

А мой чоловек, сынок, годоваўса сіротою, із дзедом і з дзяцьком. Було ўжэ восем год ёму́. А там коло мо́гілок оны робілі сарай. У нас цепер там га́ло, а тогды було, зваліса поды́. Мо й у вас так було. Шо клалі снопы́. Ну, зваліса поды. Вон пошоў у тые поды. «Пойду ко́шкаць вороб'ёў». Да пошоў да там ходзіў, лазіў-лазіў, а потом под по́дом вецёр, да продуў. Вон бачыць: нешто таке блішчыць. Шо-то блішчыць. Вон погро́б, аж пля́жка. Вон эту пляжку ву́гроб. А гэта пляжка побіта, да накрыта ей друга́ пляжка. Вон достаў ту пляжку да ек перэвернуў! А воны ек посы́плюцца! Аж там наш жыў дзед. А буў багаты́р, продаваў корову́, коні. А гэ́тое золото да носіў у поды да зако́пуваў. Буў дурны. А геты хлопец за этые грошы. Насы́паў, кажэ, одну кішэньку, другу́ кішэньку дай ідзе. А дзед: «Ай ты, га́дзіно, ходзіш, а трэ́скі не подкінеш у ворох». А вон: «Ціхо, дзеду». Подходзіць да кажэ: «Поба, дзеду, у мене во у руках, і вот поўные кішэні». Эты дзед ек угле́дзеў да того дзя́дзька позваў. Да этого хлопца за руку́ да бего́м домоў. А гумно ж там коло мо́гілок, а хата стояла тут. Прыпе́рлі этого хлопца домоў, да не ў хату, да ў сцёпку: «Вусыпа́й на стол!» Эты хлопец ву́сыпаў этые грошы на стол. Эты дзед із дзядзьком забралі. Да шчэ й баба була, дай бабі далі. А гэты хлопец годоваўса сіротою, ёму́ нічого не попало. Ужэ йшоў у а́рмею, ужэ ёго́ ў армею отпраўлялі, а баба дала ёму дваццэць рублёў. Дзьве дзесяткі. То вон у армеі собе купіў хро́мовуе чо́боты, штаны гельхве́, рубашку. І зноў чоботкі такіе купіў: «Як ожэнюса, то жонцы будуць». То я этые чоботкі носіла. А воны забралі тэ золото.

* * *

Онно́ я бояласа свіней. Шчэ невелі́ка була. Була ў нас баба. Да пошлі му ў чорні́цы. Бером тые чорніцы, бером. Тут нешто гу́кнуло. А та баба: «Ох, дзе́цетко, то ж недзе дзікіе сві́нье!» А я кажу: «Бабо, екіе дзікіе, от свінья́ бежыць іс поросятамі». Ох, та баба за руку, за мене да на ду́ба цягне. А воны такіе полоса́стые, рудзе́нькіе. А вона така веліка! От, то я бачыла. І свінье этые бачыла, і ўсе бачыла. І ко́зы бачыла дзікіе! Ішла ў ягоды, да бегло тры. Летом — от бу сіноватые, а ўжэ ўвосень, то некіе жоўтые, жоўтоватые. Бачыла, ой! Шо ж, у лесі ходзіш, ходзіш і нічого не поба́чыш?

* * *

Колісь дзед такі буў крыве́нькі. Да навучыў мене. А купілі му два волы. Волы на́глые! У гэтую хату не ўлезлі б! Одзін такі трыбла́ты і пра́віцца, а другі́ — не. Бацько пута́е: «Шо таке, куме, у мене одзін вол правіцца, а другі — не. Мокры-мокры, по ём ўсёдно, ек роса». А вон кажэ: «Ну, а чому ж ву мне не сказалі? Я б прышоў побачыў».— «То прыдзе́це!» Прышоў той дзед да погледзеў того́ вола́ да походзіў коло того́ вола́, да той вол стаў правіцца, ек і той. Пошоў ўжэ мой сын у прымы ў Сему́радцы. Прыхо́дзіць невестка да кажэ: «Мамо, у нас корова мокрэ́е. Му й урачоў звалі, му ўжэ ўсе, хто шчо й говорыў, і нічого нема по́мочы». А я кажу: «Ну, то я знаю. Але ж мне нема колі. От ты ж грамотна, то озьмі напішы да от погово́рыш корові». — «Ой, я не поговору, я забудуся, я не хочу, прыдзе́це!» Пошла одзін раз — ек і не було на ёй того́. От. То я гэтэ вам могу перэказаць (пераказвае загавор). І больш нічого не трэба. Ножа́ озьмі да шчэ й поляскай по залёзу над худобіною тою. То мене этэ колісь дзед вучыў. Пасціў у нас, сынок, товар усёго́ села.

* * *

От такіе вусе́калі палкі, о так позатыка́юць, да нагнуць, а тут поз'язваюць, да зроб'яць, ек будку. А тут сена накідалі, да вот і курэ́нь. Ек здалёк ідзеш, то думаеш, это копа сена стоіць. Аж тамека той курэнь. Косілі, то ночовалі ў тых курэнько́х. А цепер жэ шчо? Цепер ужэ не роб'яць этых курэнёў. А тогды то робілі, бо тогды ж пехото́м ходзілі. Зайдзі, да дасць дождж, да дасць дождж, так мусіш. Цепер ек бу прыйшлосо зробіць, так з чого? Цепер жэ кустоў нема. А то булі кустарнікі тые. Зробі того курэня́, да ляж поспаць, да тэ сено па́хне! А нашы сенокосы да далеко, онь коло Перэро́ва. Ек дождж дасць да дасць, то мука була!

* * *

Ве́чкі пому́ём, а дале стрыго́м. А дале гэту воўну росця́гваём рукамі, посушым да росцягваём ее. Ну, да ўжэ несом. Булі ж такіе чэса́рні, шо эту воўну чэсалі. От такіе бочкі поро́бляные булі, а та бочка ўся набіта такім дроціком. Ну й на гэту бочку кідаеш, росцягваеш да кідаеш, кідаеш, однэ кідае, а друге́ круціць. Да круціш і круціш. От круціш у одзін бок, а дале крутні ў другі́ бок, ужэ гэта воўна і злазіць. Ужэ гэту воўну зматваеш у кудзелю, ўжэ вона

рошчэ́сана, як вашы во́лосы, така роўненька. Да зматваеш ее ў кудзелю. Ну, то гэту кудзелю ўжэ дома робім. Такіе до́шкі, прасніцы ўродзі, да заматваём, да прадо́м. Вона ўжэ ведзецца тонко, прадзецца. Да ткалі на штаны, ондаракі́ з этое воўны. Белые моткі красілі, то ўжэ мушчынам світкі булі, ўжэ поткуць, да тые чорные світкі пошыюць. А гэто ўжэ потко́м да несом зноў у валю́шу. Валюша ж була. От у нас буў млін і була валюша. Гэтэ сукно мата́юць на ту неку бочку зноў да круцяць і круцяць, а там вода цёпла да зваліцца этэ сукно, зробіцца о таке о. Да ўжэ ж з ёго шыюць. От вам і воўна. Вечкі дзержалі да мулі іх у водзе. Усё муём да муём, да ўжэ стрыгом ножнамі. Такіе булі ножны. Да стрыгом этые вечкі. Ой, шчо було!

* * *

Лечы́лі хондзю ўсім ўсякім. Булі такіе зелья́, полын рвалі да вулечвалі. Ой, хай вона задавіцца! Я сама хворэла. Ох, божэ ж мой! Затоб уме́рла. От, не даюць нічого есці. Того не можно есці да того не можно есці, ек вона. А тут хочэцца. І з'еж — то вона й тру́сіць.

Дай багато помогало. От прыўёз нейкі дзед у млін, у нас тут мельніца була. А я седжу коло окна. Ой, шо́б ее добрые людзі й не знали, то́е хондзі! А вон кажэ: «Дзевочко, дай мне ведро, я хочу коні напоіць». А я кажу: «Ой, дзеду, мое вельмі ногі боляць, я не ўстану. Я него́жа». — «А шо ў цебе боліць?» А я кажу: «Я знаю шчо? Кажуць, хондзя! Мене цегаюць то на мо́гліца, шоб лежала, то ведуць ік цэркві, да лежу до сонца. Мне ўжэ запусцілі коўтуны́. А вона ўседно, кажу, трусіць, дай годзі». — «А дзе ж ведро ўзяць?» А я кажу: «Там за сеньмі́ побачце, мо вісіць, а мо стоіць». Вон пошоў да ўзяў. А колісь жэ дзерэвянные ведзе́рца булі. Пошоў, узяў напоіў этые коні. «А дзе твой бацько?» А я кажу: «У млін тожэ поўёз». — «А не казаў завозно?» — «Казаў, шо цепер,— кажу,— зме́ле». — «А маці дзе?» — «На полі». — «А ты не отмукне́ш мне?» Кажу: «Чому, отмукну́!» Прышоў да погледзеў да кажэ: «Я тобе поговору, ек хондзя. Ек хондзя,— кажэ,— то должна́ покінуць, то до́лжон я ее ву́говорыць у цебе». Кажу: «Поговорэ́це, ну». Да шоб я за ім говорыла. Я перэговорыла, да кажу: «Ох, як я, дзеду, спаць хочу». — «Ну, лега́й да спі». Я легла́ да сплю. А маці прышла. На полі булі. А ў нас хатка так була да буў такі прымо́рочок. А я на том прыморочку лежала. Ек заснула! А оны прышлі да гука́юць, гукаюць. А зашчэ́плено ў хаці. І не тшчэплю і не ўстану. Нек окно тшчэпілі, улезлі. Гоняць мене, кажуць, то вона ўжэ й нежыва́. Слухаюць: кажэ спіць. Розбудзілі. А я кажу: «Некі дзед буў да мне шэптаў, да я заснула, да поўёз у млін, да казаў, шо прыедзе ік нам на́ноч, дай шчэ мне пошэпчэ». Да я ўжэ ж мо то ходзіла ў пе́рву клас ў школу. «Да казаў, шоб я спісала тэ. Да я есці хочу́!» То нічого не ела, а то я кажу: «Я есці хочу! Дайце мне шчо есці». — «А шо ж ты б ела?» — «Я рыбу хочу». У нас рыбу екое хоч було. А воны кажуць: «То рыбы ж не можно». — «Ну, ек не можно, то ўмру, ек не дасце́ рыбы». Баба дала тое ры́біны, я з'ела ліна́, і молока далі мне, я з'ела. Да багато коб не ела, да потроху. Той дзед прыехаў, змолоў, да ўжэ позно, да прыехаў, да ў нас ночуе, да кажэ: «От довелі,— кажэ,— дзіця, шо ўмірае і ко мне не обраціліса. То ж вона́ б у вас,— кажэ,— уме́рла б».

* * *

Ну, колісь вельмі болелі людзі хондзею! Да на одну дзеўку напала хондзя. Бацько з мацер'ю усе ж думалі, чым ее зогна́ць? Колісь ўрачоў не було. Шэпталі, робілі шчо-небудзь, шчоб это ее зогнаць. Ну, й шчо оны не робілі, хто ім шчо не говорыў, не моглі ее зогнаць. І от бабе сон прысніўса. Сходзі там до такого й до такого дзеда, она знала (ў іхнём селе), озьмі люльку і кроз цыбук поцегні тры раз воды. І покінула. А яшчэ жа́бу морацъ у водцы. Только шоб не бачыў. І даюць піць эту водку. С прошлогодніх гарбу́зоў этые сучкі беруць окурваюць. Ну, обшчэм, хто шчо. Хто на вошчо нары́не. А так шоб от і однэ зробіло таке́ са́ме і другее, то так не.

* * *

Як роб'яць карука́? Обмуваюць, соляць ёго́, шоб вон у соле́ побыў, коб вон просоле́ў до́брэ. На дру́гі дзень ёго ву́мыць чысценько. А гэтэ м'ясо, шо ў ёго класці, трэба положыць ёго ў таку́ю міску, шоб гэта юшка ўся сцекла́ з гэтого м'яса. І посоліць. І ў гэтого карука напіха́юць этэ м'ясо. У гэтэ м'ясо перэмеша́ць перэц, ліст, чоснок, шоб воно набралосо этым усім, шоб вонэ полежа́ло. І ўжэ як воно полежыць і повісіць год, то ўжэ ж будзе добрэ. Вонэ ж таке чырвонэ, да таке пахучэ, да таке ўкуснэ! Карука об'язвалі веро́ўчынкою да от і вешаюць. Шоб коты не досталі!

Але одзін чоловек росказваў. Кажэ, пошоў я побачыў того карука, аж у том каруку нора́. А то — коты. Едзяць потроху того карука!

* * *

Шчэ й ніхто не ходзіў по этые ягоды, по эту клюкву. Баба Масаніха була у Сему́радцах, сама ходзіла по ягоды. Кажуць, ужэ Масаніха ходзіць по эту клюкву. Ну, і зобраліса мы з Ганною. Ну, ўжэ я того бацька ка́жын раз путаю: «Баце, як там, ростала ўжэ рэка́?» — «Ростала». — «А под'едзь, баце, побач каналом, ці канава гуляе». — «А шо ты, рэка ростала, а канава будзе мерзлая? Там жэ вода бежыць, там трудно заме́рзці,— кажэ,— зімою». Ну, поехаў вон. Прыехаў у недзелю од жакоў, я путаю: «Баце, ну як, вы проверылі рэчку?» Кажэ: «Проверыў, едзьце, дзеўкі, смело. Берыце лоточку, ежджайце ў канаву і кана́вою скрозь прамо на Велі́ке Га́ло. І пры́каноўкі ўжэ гуляюць, можна і ў пры́каноўку ехаць. До ягод,— кажэ,— доедзеце». Лоточка ў нас невелі́ка. Бацько мне зробіў таку пілочку. Да от мо й будзе яка хвоіна ці шчо да нам будзе мешаць, перэрэ́жэце, дай далей і далей. Выехалі мы ўжэ на самэ тэ болото, дзе ўжэ ягоды. Вылезлі, поставілі эту лоточку, походзілі, походзілі. Ягод трошкі понабіралі. Давай прыспособімса нано́ч. Этты сухостою багато. Наклалі огню, гэтого хвойніку наломалі, попросціла́лі ёго, шоб не промокало нам. Наморыліса, пока доехалі, давай ночоваць. Ночу́ём. А нідзе нікого а ані-ні на том болоці! Вона бояласа вельмі, усё за мене ховаецца. Вона ложы́цца ўжэ к огню, шоб ёй було це́пло. Ну, й спімо́. Уродзі зразу заснулі. Спімо, спімо. Як огонь горэў, добрэ було лежаць, а потом і стух. «Параско, то накладзі огню». А я кажу: «А ты?» А вона: «Ай, мне ж недобрэ ўставаць, а ты ж о, с краю, подложы дроў, хай горацъ».

Я ўстала, послухала ее, устала й кладу эты посуш, этэ сухоўе. А вон, эты посуш, як догарвае, да трэшчыць. Трэшчыць огонь. А я чую іншэ: і там трэшчыць. Кажу: «Ганно, огонь то трэшчыць, но й нехто к нам ідзе, трэшчыць, бо чутно́,— кажу. — Сту́піць на эты сухостой, да ек трэсне! Шо мы будзем робіць?» А вона ўжэ тожэ почула. А я кажу: «Ек екі звер, то вон жэ не будзе на огонь лезці, а чоловек екі не пры́дзе, то шо, така ўжэ наша судзьба». Ужэ жджом, шчо будзе. Ёму ж то нас відно́, а нам от огню ёго не, не відно́. Побліжваецца трэск, побліжваецца... А потом: «Дзевочкі ці жоночкі?» Кажэм: «Дзевочкі! А хто-то гэто?» — «Не бойцеса, гэто баба Масаніха». — «Ох бабочко, ох родненька, ой ходзі ж до нас!» Прышла вона к нам. «Ох,— кажэ,— дзе́точкі, добрэ, шо я вас трапіла, а то я б ужэ замерзла б. Я ж брала ягодкі». — «Бабочко, а ягод е?» — «Ох, е! Хоч ты под пахі нагрэбі!» — «Ох, да бабочко, чому ж ты ўдзень не прышла к нам! Мо б мы й шчэ набраліса». — «А як вы сюды прыйшлі?» — «У нас тут лоточка, от у прыканаўку!» От вона ужэ коло нас седзіць, нам росказвае: «Ох, да мое дзеточкі. Я прышла сама. Трошкі набрала. А ў мене була кваты́рочка. А я думаю: я ее коўтну і ўжэ трошкі поседжу. Коўтнула гэту кватырочку, стомлена да под хвойкою заснула. Да лу́пнула я — аж ноч! А ў мене тут ўжэ е прыстроенэ месцэ, бы курэнік. То куды ж я, ужэ ноч, ужэ не знаю, ў которы бок іці к ёму. І холодно мне. І нема ў мене нідзе нічого, шоб я прокла́ла ці огню, ці чого. А потом глену́ла — ой, екі-то бляск, за́грэва яка то, дай недалеко! Пойду я на гэты бляск! От і прышла». Ну, мы ўжэ й рады, шо эта баба к нам прышла, да росказвае, шо й ягодо́к багато знае, шо ўжэ нас заведзе. «А мы, бабочко, цебе завезом у саме́е село». І завела вона нас у тые ягодкі. Там мы, можэ, два часы — понагрэ́балі! І кошэле́! І вузлы́! А это то ж на весне ўжэ! А іх шчо! Куп'е гэтэ роўнэ, да грэбі дай годзі. Такіе сівые, да смачные. Это ж на весне. Ох, мы прыехалі с тых ягод, ужэ село гудзе: «Ох, ужэ Мікі́ціна і Ільіна́ ўжэ прыве́злі недзе лотку ягод! І бабу Масаніху,— кажэ,— прывезлі». Ото о, бачыце, еке було.

* * *

А коз було багато ў селе. Пасл́і чэ́ргою, а то пастухоў наймалі. А Жукоўского той козлік, звалі Борыс, ходзіць, хо́дзіць по селу да за́йдзе ў клуб. «Жукоўскі, забірай свого Бо́рыка, годзі вон тутэка мешаў нам!» Шчо була комедзія, ей богу! А вон кажэ: «Я ёго браць не буду. Раз вон прыйшоў сюда, то он по́йдзе й домоў! Дайце ёму розгуля́цца!» Такі буў лоўкі козёл! І не б'ецца ніколі, ходзіць, от с чэрэды не йдзе домоў. Пошоў, дзе той велікі магазін, постоіць коло магазіна, от магазіна ў клуб. І кругу́е! Як прочы́няць дзьверы — і не ўстро́паюць, колі вон зайдзе туды, дзе кнішкі, і там ходзіць. Як той Жукоўскі гуляе там у доміно чы шчо, то просяць: «Жукоўскі, да заберы ёго!» — «А я ёго сюды не браў. Вон прышоў сам. То й сам пойдзе».

* * *

Гэту козку прывела. Да не знала, шо ей даваць. А вона була така зача́хла! Думаю, я пойду к Лене, дай там вужну клеверу. Да вужала того клеверу, да дала козе. Ох, божэ ж мой, свеце ж мой! Ой, козы ж не будзе! Побегла за ўрачом. Кажу: «Васечко, да ходзі

поба козу!» — «А шо вы ей давалі?» — «Ой, шо ні давала, да ходзі побач!» А вон побачыў да кажэ: «Это вы опкормілі. А шо вы ёй давалі?» Кажу: «От дала́ клеверу, вона й не з'ела ёго, да роскідала». — «От ек клевер ўжэ поспее, от тогды ўжэ можно, а то вы сырого далі, вона зачэ́зла. Ну, давайце ёй этого порошка». Далі этого порошка і, дзякуй богу, прошло. А ўжэ цепер мы пpыменіліса к ёй.

* * *

У нас було, господзі, міленькі! Пошлі ў ягоды, это по чорніку. А ўпо́лету ўжэ, то вот Купа́лны Іван, а там дзесятуха будзе. І на гету дзесятуху нехто запаліў село. І ўсе чысто село згорэло і колка́ не осталосо. Господзі, міленькі! Зробіў усім людзя́м горэ, да вот робе́це зноў, стройцеса. От леснік построіў буў собе домік. Було тры коро́ві ў ёго, кабаны булі. А жонка із дочкою пошлі по клюкву да на́ноч, далеко-то за канаву. Там у нас га́ло шчытаецца. Зайшлі воны на тэ гало. Та стара́ проснуласа — за́грэва. «Сарафімо, злезь на койку да погледзі». Вона злезла на койку да кажэ: «Наша хата горыць!» То ж дзе болото! Прышлі — і корову погорэлі, і ўсе на свеці. От якее було пра́во.

* * *

Бувало, бацько кажэ: «Ідзі, стара́, я дзве гусе́ закруціў, ідзі обберы іх». І пе́ўнёў круцілі, ніхто не рубаў. А чого не рубалі? Чы это бояліса, чы это шчо? От ужэ дожы́нкі, ужэ пеўня закруці́ць. Досе́ўкі — ужэ пеўня закруці́ць.

* * *

Это ж на сорок светых. Ужэ бацькі́ от, ек е хлопцы, будзяць: «Хлопцы, уставайце і берэ́це по сорок па́лок, отшчытайце, наломе́це і перэкі́дайце церэз сарай, то будзеце ко́шкаць яйца». Пошлі ву́твы кошкаць дзі́кіе, пошлі чайкі кошкаць, пошлі чыркі́ кошкаць. Так як которы скошкае, да кажэ: «А шчо, я перэкіда́ў палкі, а ты нігодное не перэкінуў — нігодное не скошкаў!» О! Вуціные яйца, як свойскіе, ву́тва — вона ж вялі́ка, а чы́рка — менша, то меншые яйца. А зноў чайкі, то такіе рабе́нькіе да велікіе яйца. Дак дзеці як пойдуць, да кошкаюць, кошкаюць! От мое, то середні да навек нашкае этых еец! А тые — не. А вон кажэ: «Не трэ було спаць. Я,— кажэ,— перэкі́даў палкі. От і накошкаў».

* * *

Вышла я гуляць на вуліцу — дождж ідзе. А маці моя лежыць у хаці, заболела шо-то. А на вуліцы бегуць дзеці на той конец. Кажуць: «Нюрчыху гром убіў». А гэта було на Лью. Склалі стога — снопы склалі. А вона кажэ: «Пойду грыбоў наберу». Пошла она по грыбы да прынесла грыбоў, да затопіла печ. Не цсюль, не стуль хмара да як дала́ ў ту печ! Этую Нюрчыху ўбіло, і грыбы осталі́са.

* * *

Було мне годоў двонаццэць. Мушчыны едуць на сенокос у Бо́рок. І бацько мой з дзядзьком. Заехалі на гэтой Борок. Оны там

прокосілі. Ну і ўжэ хочуць домоў ехаць. А коліcь вельмі шкодовалі этых кóней. От вечэрком, ек сонцэ зайшло, холодком поехалі. Едуць воны ўдвох. Той дзядзько зваўся Іван, мой бацько — Мікіта. Едуць воны. А коні такіе зыркíе! От до гэтого шляху, шо там есцека, як едзеш у Бóрок, да есць шлях такі колісні, до гэтого шляху воны доехалі. Перэехалі этой шлях — стоіць баба: «Мікітко й Іванко, возьміце мене на воз». Воны эту бабу ўзялí й посадзілі: «Садзіс, бабо». Села эта баба ззаду. А эты Іван коні поганяў. А мой бацько кажэ: «Шчо ты етые коні не гоніш, шо то воны так помалу ідуць?» А коні етые так везуць навыцяжку, шо ек екого стóга сена! Ужэ мы одзін коло одного поселі у перэдку, а вона седзіць іззаду. Везом і везом. А ехаць трэба було дорогою поўз мóгілкі. Везом і везом. Як прывéзлі до могілок, так эта баба ссунуласа, і мы не бачылі, куды вона дзеласа. Только коні на колéньках попадалі і под пеною прамо. І гэто не брэшу, гэто ж росказ. І велікім росказвалі, і малым нам росказвалі. Прышоў эты бацько мой у хату і на тую ўжэ, шо ёгó годовала, на ту дзя́нну (дзянною коліся звалі): «Дзянно,— кажэ,— йдзíце выпражце коні, бо мы не выпраглі». А чому, воны не сказалі ёй. Она пошла, выпрагла тые коні, прышла: «Шчо вы везлí, шо обáдва конí мокрые?» — «Узаўтра я роскажу ўдзень, а уночы я вам росказваць не буду». І воны ўдзень этэ росказалі. І от така ім поездка була.

* * *

Оўся́ну муку рошчыня́е так, як от у дзежцы, у хлебной. У хлебной дзежцы, шоб это буў той квас. А потом порáну ўстаé. Сечас берэ этэ сіто, як мы кажом, да ёго ўжэ процáдзіць, шоб воно було чысценьке без тых вýсевок. То вон бéленькі-беленькі, такі светленькі! Адале берэ ужэ ў печ да варыць, шоб вон закіпеў. А нéкотора хочэ гушчэ́йшы, то берэ крохмал. Да подколоціць, да ўжэ вон гушчэйшы. А некотора ўжэ не хочэ, шоб густы́. То ўжэ берэ сóлоду жменю шáмне, дай гэтак і едзяць. Да от вам і жур.

* * *

А то зноў квáшу. Кваша тожэ солодка. Тожэ берэ просто мукý, опáрвае горачою водою да ў печ. Вона ўжэ осолодзéе там, зробіцца сладкая. Ужэ тожэ берэ перэцáдзіць, шоб вона була рэдзенька, да перэвáрыць, да это, ек старые казалі, кваша.

* * *

Закололіі кабана да смалім. Адале посмалім да обмýём чысценько, вы́скрэбом увесь верх, шоб вон ужэ буў чысценькі. Да розрэ́зваём. Этые кішкі выкідáём оддзельно, кроў вубірáём оддзельно. Лёгкýшу, вохкýшу кíдаю у холодну вóду, шоб воно вычышчылосо, шоб не було ні кровé, нічого. А кішкі — ідом на рэ́ку да чысценько поўпускáём, да помы́ём іх там, да прыносім домоў. То як е снег, то я снегом попотру, воны беленькіе-беленькіе. Адале солью ўжэ, адале зноў поскрэбом на слон, да вускрэбу ножэ́м, шо воны тóненькіе-тоненькіе, так, як павуціночка, чуць дзержацца ўжэ. Тогды эту варым кроў, печонку, гэтэ ўсе ўжэ, да дзелають коўбасу із этого. Просто надзевáём, налівáемо, розмéшваемо, крупу кíдаём туды, перлоўку, там ужэ ўсяку прыправу туды кíдаём ешчэ, і этые потрохí ссекáём

усе, этэ ўсе розмеша́ём. Ужэ этэ усе налiва́ём у кiшкí тоўстые да ў печ. I вона спечэцца. Хто любiць, то вона ўкусна.

* * *

Даўно було, не за моей шчэ па́мецi. Дзеды росказвалi, шо було такое дзело. Ну, от когда-то буў одзiн хлопэц ожэнiўса, да не знаю, мо вон плохо жыў с тое́ю жонкою. Да пошлi ў госцi к чэшчы. Да перэночова́ў, утром устаў, пошоў умуўса, прышоў, а тая чэшча дала уцiральнiка, а вон уцёрса да i... Нашы самi, этые старэйшые, ўжэ нема iх, то бачылi того чоловека. Ходзiў сем год воўком! Кажэ, хочу есцi, бачу, кажэ, людзi i косяць, i жнуць. Но як выйду хоця б ухопiць у кого хлеба, крычаць: «Воўк, воўк!» То сем год! Колiсь булi такiе калíткi. Так, кажэ, доўго було, пока эта калiтка пообрывалосо ужэ на ём. А потом церэз сем год на Юр'я собiраюцца этые воўкi ўсе ў однэ место, i вон зайшоў туды. Лёг, кажэ, под колодою. I вот той Юрый прышоў там до iх да, кажэ, палочкою такою да ёго́ от этты, по поясніцы, ударыў, да кажэ: «Ну, то ўжэ годзi ты ходзiў, iдзi ўжэ». То дажэ, кажэ, дзе ўдарыў по этому месту, то i шэрсць остала́са, так, бородка, на этом месцi. А як жэ, пока́зваў! То, кажэ, прышоў ужэ вон домоў, голы, голы, шчытайце так от, як мацер нарадзiла, без нiчого. Да зайшоў к суседу там недзе ў хлеў, да прышоў сусед, да вон кажэ: «Йдзi да мне прынесi шо-небудзь одзену́цца». Як прышоў, так ужэ ту чэшчу отправiў, i по сёй дзень ее нема.

* * *

На Купа́лного Iвана людзi пошлi на роботу. I жонка молода́ с хлопчыком. Хлопчыку було мо годоў ужэ п'яць. Прышла вона з роботы да коло хаты там нешчо робiла. А хмара! Вона зайшла ў хатку тую свою. Тожэ як дало́ ў хату! У комiн дало да ў ее! I хата згорэла, i вона ў хацi згорэла, i хлопчык той ее згорэў. А ее мацi прыехала, да ўжэ ёй прыпла́квала: «Ох, людзечкi, ох, мiлые! Мо ж вона ко́мiнка не заложыла, мо ж вона на неке свято шчо робiла? Это ж у нас ек святкуюць, нiчого ж не роб'яць. А вона ж у мене такая була, шо не послухае».

* * *

## *Калыханка*

Ой люлi, люлi, да ко́тухно,
Да шчо ў цебе да опу́хло,
Да чы правэ рэбро, чы сцегно́,
Да цi тобе, котко, да не добро́.
Ай люлi, люлi, да коцíно,
Да куды ж iдзеш? Цi по се́но?
Озьмi ж мене i с собою,
То я ж тобе буду да слуго́ю,
То я ж буду тобе слугова́цi,
А ты ж, мое дзiцятко, заснi спацi,
Ай люлi, люлi, да коты два
Дай серэнненькiе, дай оба́два:
Шчо й одзiн серы, то сме́лы,
Як другi чорны, то прово́рны.
Дай побег котко по лесо́чку

Да ў чырвоненьком поесо́чку.
Трэба ж того котка пойма́ці
Да того й пояска́ й отняці.
Як мое дзіцятко засне спаці.

* * *

## *Плачы*

Ой, бацюхно мой родненькі,
Да бацюхно ж мой міленькі,
Да чому ж ты проці нас не говорыш,
Да шчо ж ты так на нас обідзеўса?
Да хай бы ж ты подняў вочэнькі
Да погледзеў на свою семеечку,
Да як она цепер й остаецца?
Да хто ж ею будзе командоваць,
Да хто ж ею будзе порадоваць?
Да кому ж ты свое шчо отказаў,
Да кому ж ты свое шчо росказаў,
Да на кого ж гэта й обідочка ўпала?
Ох ты ж мой бацюленько,
Ох ты жэ мой плотнічку!
Ох чому ж ты загадаў плотнікам,
Шоб тобе ж таку хатку зробілі,
Шчо й ні одного й океночка,
Шо ні дзверэй нема?
Да як жэ ты ў такой хаці будзеш жыці?
Шо ты ж любіў й у дзверы іці,
Шо ты любіў ў океночко гледзець,
Ох, а цепер тобе усюдою цёмно!
А цепер тобе усюдою чорно!
Ох, мо ж ты своім сыночкам пісьмо послаў,
Мо ты ім целеграмы не даў,
Шо воны к тобе не прыехалі,
Шчо воны ж цебе й не отведалі?
Да на кого ж ты этэ й покінуў?
Да твоя ж хата дзірковата,
Да твоя ж одрынка роскрыта,
Да хто ж ее будзе поччыняці,
Да хто ж ее будзе ромонцероваці?
Да бацюленько роднюсенькі,
Да бацюленько любусенькі,
Да перэдасі прывет нам бедненькім
Хоць соловейком, хоць зоўзюлькою!
Ой, на добра ноч, бацюленько,
Ой, на добра ноч, роднюленькі,
Ох ужэ ж му коло цебе потоміліса,
Да ўжэ ж му цебе гукаём котору пору,
Да му ж цебе не могом догукацца!
Да ручэчкі ж робочые, да ножэчкі ж ходзячые,
Ох, ек жэ воны трудно й робілі,
Ох, як жэ воны важко й ходзілі!

А цепер жэ ў іх усе ж не боліць,
А цепер жэ ў іх нічого й не шчыміць!
Ох, бацюленько роднюсенькі,
Ой, бацюленько мілюсенькі,
Да куда ж ты зобраўса,
Да ў екую ж дорожэньку,
Шо туды ж ніхто й не йдзе,
Шо туда ж ніхто й не едзе?
Да туда ж не трэба ні машыны,
Да туда ж не трэба ні самолёта,
Да му ж цебе ужэ й не побачым,
Да му ж цебе ужэ й не почуём!
Да прысніса ж, бацюленько, як тобе там будзе,
Шоб му цебе зналі, шоб му цебе...

* * *

Да на добра ноч, наша й мамуленько,
Да на добра ноч, наша й роднюленька,
Да на кого ж ты нас й оставіла,
Да кому ж ты нас да прыпоручыла,
Шо му самые ешчэ нічого не знаём,
Шо му гэтого і шчэ й не робілі,
А цепер дзелечко усе на нас опало?
Да хто ж нам будзе й загадваці,
Да хто ж намі будзе командоваці,
Да куды ж ты зобраласа,
Да ў екую й дорожэньку,
Шо й оттуль не можна ні пісьма прыслаць,
Шо й оттуль не можна ні целеграмы прыслаць?
О, а ты ж туда захоцела,
О, там тобе будзе наравіцца!
Да як твое дзеточкі по тобе плачуць,
Да як воны ж по тобе скучаюць!
Ох, мамонько ж наша міла,
Ох, мамонько ж наша люба,
Ох, як жэ ты нас покінула,
Ох, кому ж ты нас прыпоручыла?
Ой, хто ж нас будзе й годоваці,
Ой, хто ж з намі будзе розговорваці?
Ох, к кому ж му будом ходзіці,
Ох, к кому ж му будом хіліцца?
Ох, мамонько й моя мілая,
Ох, мамонько ж моя родная,
Да последня ж часінонька,
Да последня й гадзінонька,
Да последня й мінюцінка!
Дай отзовіса проці нас,
Да роскажы, як нам жыці,
Да роскажы, ек нам робіці,
Бо му ешчэ не вучоные,
Бо му ж ешчэ й ўсёго не ўмеём?
Ох, а ты ж й от нас улетаеш,

Ох, а ты ж й от нас зобраласа,
Да ў екую ж ты дорожэньку й поедзеш,
Да мо ты поедзеш к сыночкам,
Да мо ты поедзеш і к дочэчкам,
То му ж тое дорожэнькі й не знацемо,
То му ж тое дорожэнькі не будом бачыць?
Ох, мамонько ж наша міла,
Ох, мамочко ж наша родна,
Да му ж коло цебе стоімо,
Да му ж цебе й гукаём,
Да му ж цебе путаём,
Мо ж ты хоця й однэ словечко одзовесса,
Мо ж ты однэ хоця словечэчко скажэш?
Ох, а ты ж нічого й не дзываесса,
Ох, а ты ж нічого й не росказваеш,
Да коровонькі твое ж цебе гукаюць
Да дзеточкі твое цебе шукаюць,
Шоп ты коровочцы ж дала,
Шоп ты ж ее й подоіла!
Ох, а ты ж зобраласа ў таку дорожэньку,
Шо там нема ні коровочок,
Шо там нема ніякіх роботочок,
Да шчо ж ты надумалас,
Да на кого ж ты нас покінула?

Хваціць, это ўжэ отспевала, шо ўжэ нідзе ніхто так не спевае.

*Жукоўская Праскоўя Мікітаўна, 1907 г.,*
*в. Старажоўцы. Запісаў у 1981—1982 гг.*
*на магнітафоне і зрабіў транскрыпцыю П. А. Міхайлаў*

## *Песня валачобнікаў*

Як була земля нехрышчона,
То булі людзі неверные.
Не веровалі ў господа бога,
Да поверовалі ў ліхого цмока.
Да давалі цмоку да на дзень броку
По цылому чоловеку.
А як ужэ прышла пора
До самого цара —
Хочэш, сам ідзі,
А хочэш, жонку шлі.
Як самому іці —
То царэм не буц,
А жонку послац —
З не с кім веку дожыц.
А була ў цара да одна дочка,
Да не веровала ў ліхого цмока,
Да поверовала ў господа бога.
— Уставай, панно, убірайса,
Убірайса да ўмывайса.
Да кладзі ж на себе шоўкове убранье
І заплетай у косу шоўковый коснік,

Да ідзі, панно, к сінёму мору.
Там понічы купаюцца,
А цебе, молодзенькую, дожыдаюцца.
Пошла панна к сінёму мору —
Там нікого-нікогусенькі,
Там нічого-нічогусенько.
Посерэд мора змея плуве,
А ў ее ў роце огонь горыц,
А з ее ушэй дымы ідуц.
Тая панна спужаласа і злякаласа,
На сіній камень розбіваласа.
— Ой господзі, да мілосцівый,
Чому ж мой оцец не воюе,
Мене от смерці не ротуе?
Озірнуласа дай назад себе,
Аж едзе светы Юрэй на сівом коне.
— Не бойс, панно, не пужайса,
На сіній камень не розбівайса,
Вуплетай с косы шоўковый коснік,
Да беры цмока за круты рогі,
Да ведзі цмока к отцу своему да к мацеры.
Прывела панна цмока к отцу под двор,
А ў ее отца позамукано, позачынено,
Кругом двора сторожэ стояц,
І кругом двора огне горац.
Тые замкі отомкнуліса,
Тые брамы отчыніліса,
Тые сторожэ отступіліса,
Тые огні потушыліса.

*Запісаў у 1968 г. у в. Запясочча Г. А. Цыхун*

## *Лічылкі*

Ходзіц бýсько по болоту,
Клічэ жабы на роботу.
Жаба кажэ: «Не пойдý!»
Бусько кажэ: «Задзёўбý!»
Жаба кажэ: «У суд подам!»
Бýсько кажэ: «Носцá дам!»

*Запісаў у 1968 г.*
*у в. Запясочча Г. А. Цыхун*

Кукарэ́ку,
Баба ў рэку,
Дзед за ёю
З ковенёю.

* * *

Коціласа тóрба
З велікого гóрба,

А ў той торбе хлеб, пшеніца.
— З кім ты хочеш оженіцца?
— Тобе плю́шчыць. Хова́йцеса.

*Запісаў у 1969 г.*
*у в. Бярэжцы Г. А. Цыхун*

* * *

— Заяц, заяц, дзе ты быў?
— А я ў ле́се робіў,
Там лыкі драў.
— А куды іх клаў?
— Под старую коло́ду.
— Выйдзі вон з корогоду!

* * *

— Чый ты сын? — Лукашоў.
— Куды йдзеш? — До кошоў.
— Шчо ў кошох? — Уюны́.
— Ў цебе ззаду коўтуны!

*Запісаў у 1970 г. у в. Аздамічы Г. А. Цыхун*

Эно, рэно, рэц, кінтэр, вінтэр, жэц.
Эно, рэно, жаба, кінтэр, вінтэр, раба.

*Запісаў у 1974 г. у в. Цераблічы Г. А. Цыхун*

Эні, бэні, тры канторы,
Сахар, бахар, помідоры.
Ац, бац, кіслы квас,
А ты, дурэнь, лові нас.
Раз, два, тры, чэтыры, пяць, шэсць, сем,
восем —
Мы цебе жмурыцца просім.

* * *

Дзон, дзон, дзон, дзон,
Вон побіт на дзесецць дзён.
Дзон ідзе, а мы стоім,
Нам выходзіць ўсім троім!

*Запісаў у 1972 г. у в. Пагост Г. А. Цыхун*

## *Замовы ад ікаўкі*

— Іковіца, дзе була? — Ік! — Коня ела? — Ік! — Колі? — Ік! — Іковіцы сколі!

— Іковіца, дзе була? — Ік! — Коня ела? — Ік! — Покінула? — Ік! — Покінь і мене!

*Запісаў у 1975 г.*
*у в. Луткі Г. А. Цыхун*

## *Хітры Дзяніс*

Быў такі хлопец, Дзеніс зваўса. Жыў так о сіротóю, не було нікóго у ёгó. Ну, вон шчо ж надумаўса? Пойду я ў паробкі. Дзеніс, значыць, хоцеў неяк ожывіцца, шоб за хозяіна як-небудзь ужо стáці. Пошоў вон у паробкі чоловеку служыць на год. «Знаеш, шо ты мне дасі,— вон кажэ тому чоловеку,— дасі мне коня́-трэцекá. От я ў цебе буду,— кажэ,— год служыць». Робіў, робіў год. Даў господар ёмý того конюшкá. Дзеніс узяў конюшка да пусціў ёго на пáшу. Бах, узяў да на Петра воўк да з'еў гэтого конюшка. Ну, шо ж ты будзеш робіць? Ужэ завóшчо служыць? Нема завошчо. Ужэ ж воўк конька з'еў. Пошоў к другому. «Знаеш шо. Я цебе буду год служыць, ты мне загон пшэніцы дасі. Я цебе буду год робіці за гэ́тае сáмэ». Ну, вон узяў ёгó. Рóбіць той год. Прышлóсо на спáса, грозá веліка ўзелáса. Выступіла хмара і ўзела тую пшэніцу гэтты збіла ўсю чысто. Збіло, змешало з землéю. Дзеніс ужэ кінуў і другого. А шо? Нема за шчо служыць! Пошоў. Ідзе да йдзе, ўстрэчáе, значыць, чоловека. «Куды ты, чоловечэ, йдзеш?» — говорыць той Дзенісу. «А йду, хочý за парóбка йдзе-небудзь стаць».— «То ходзі ко мне да стань». — «Давай!» Вот вон роботаў год. Настрóілі ёмý обéд. А вон ёгó ў сумку й подáўса. Йдзе да йдзе. Ну, стрэчае чоловека. «Чоловечэ, а куда ты йдзеш?» — «А куда я йду, кого доброго стрэну, з тым пообедаю». — «А ты хто есць?» — «То я Петрó». — «Ой, ек Петро, то йдзі, я з такім говорыць не стану. Ты мне таку порчу зробіў, шо й конéц». Йдзе да йдзе, сустрэчае зноў, жэ́ншчына йдзе. «А куды ты йдзеш?» — «А куды? Кого доброго стрэну, сяду, пообéдаём».— «А хто ты есць?» — «Я — смерць». — «Ты есць прáвільная, ты, значыць, берэш крывого, слепого і багатого й бедного, не бракýеш нікім. С тобою давай сядом, пообедаём». Селі воны і обедаюць. «Ты знаеш шо? — кажэ смерць.— Я дам тобе план, ек забагáцець. Ты зробісша знáхором, дóхтуром. Ты прыдзеш і будзеш мене бачыць. Ніхто ні бачыць, а ты менé бáчыціме. Я буду ў ногáх у хворого, то ты дасі воды да нап'еццa хворы, дай поздоровéе. Ну, як я буду седзець у головах, то ты ужэ гэтому не лекар. Не будзе вон». Ну, Дзеніс гэты самы пошоў і гэ стаў робіць. Забагацéў. Несуць і везуць ёмý добро. Éсцека і поверх ўсего і грошы. Ну, ожэні́ўса вон, сталі дзеці, стаў жыць багáто. Вот ёмý захацелоса знаць про свою смерць. Я ж лю́дзям кажу, а сам не знаю. Шо вон надумаўса? Зарэзаў целя да ўзяў у шкуру ўвобрáўса, зашоў на росходные дорогі і лёг. А вон знаў, кудой гэта смерць ходзіць. Лёг, лежыць, а вона йдзе. Прышла вона, ногой ёгó покорпáла дай кажэ: «Дзеніс сем год будзе жыць на свеці, да волы ёмý дадуць смерць». Так вон усхопі́ўса у тэ ўрэ́м'е дай кажэ: «Ах ты моя голубóнька, дзякуй тобе, шо ты мне сказала, як мне смерць будзе». А вона кажэ: «Вот, брат Дзеніс, ты,— кажэ,— знаеш свою смерць, но лю́дзям не знáцімець ужэ». Той Дзеніс ужэ не ўгадвае. Бачыць Дзеніс, шо дзело плохо. Быў у ёго лёх, збоку трошкі ў хлёвé. Вон бачыць, шо дзело плохо. Вон узяў да шо надумаўса: я того хлеўкá запалю, нехай вон горыць, да буду крычаць: «Гвалт, людзі!» Да буду лезці сам у той огонь. Да скажу: «Людзі, вот усе там мое пропало, я цепер ужэ нічого не маю!» Ну, вон шчытаў, шчытаў тые гóды й забуўса той самы Дзеніс, шо сем год. Веліка ноч була. Спáсуўка, колісь воламі робілі. Мухі, значыць, ек нарэзалі тые волы́! Той

чоловек ехаў возом назад, шчэ й накруціў на руку поводца́. Узелі волы да ў рэ́ку і Дзеніса ўтопілі. Утопіўса вон на спаса за свою хітросць. Вот да вам і ўсё.

## *Чаму назвалі Цераблічы*

Мой ба́цько роска́зваў, шо було зра́зу петна́ццаць хат. Але як село заснова́лосо, э́тты було, ек му ка́жом, кочэгу́рнік. Ну, ужэ ву́церэбілі той кочэгурнік гэттыка, і ўжэ Цэрэблі́чы сталі. Вуцэрэбіў Кі́рыло, вуцэрэбіў Гаўрыло да поставілі хаты́, і шчытай село. А там у нас цэркоў була. Там цеперэка чэрэпкі есцека, жэлезо кой-еке. Ёго́ ржа поела, а чэрэпкі́ — не.

*Запісаў у 1974 г.*
*у в. Цераблічы А. А. Крывіцкі,*
*зрабіў транскрыпцыю І. Я. Яшкін*

## *Пра калядоўнікаў*

Это ўжэ уласць була Совецка. Хіле́цкіе хлопцы пошлі коледоваць у Рычэ́ў. А ў Рычэві эты бацюшко, шо ў нас быў. Да пошлі да к бацюшку зашлі да кажуць: «Пане господа́рэ, ці можно песню заспеваць, ваш дом розвеселя́ць». А бацюшко сказаў: «Можно».— «А якую песню?» — «Рожджэство шоб заспевалі». А воны: «Добрэ». От вон загадаў эту песню, а воны усе да шчэ й под барабан: «Эх ты, бероза, эх ты, кудрава, над рэкою стояла, эх ты, дзеўчы́на, дзеўка молода́я, с комсомольцом гуляла». Да шчэ й у барабан! Той бацюшко за імі, воны наўцек. Усякое було.

*Запісаў на магнітафоне*
*ў в. Бярэжцы ў 1969 г. А. А. Крывіцкі.*
*Зрабіў транскрыпцыю П. А. Міхайлаў.*

## *Гульня*

Гулялі ў плю́шчэнку. Зав'яжуць очы. Як зав'язваюць, то спеваюць: «Чэропок масла, голова красна!» Ведуць на порог да кажуць: «На чом стоіш?» — «На камені!» — «Шчо п'еш?» — «Квас!»— «Лові чортоў, а не нас!»

Як бука́ з'едзяць, то голо́ўку возьмуць да круцяць над головою і говорaць: «Бу́сько, кле́чко, знесі мне еечко, а ек не знесеш, то сам пропадзеш!» І подкіда́юць уверх.

Як покупаешса, то скачэш на одной нозе, кру́жышса, шоб вода выліласа з вуха: «Зайчыку, шэрэнькі, вылі воду за колоду! Кроў, кроў, кроў!» Гледзіш на руку. Як сіняя — то небо, як красна — то сонцэ, як жоўта — то дождж.

*Запісаў у 1974 г. у в. Цераблічы Г. А. Цыхун*

* * *

А потом ужэ здымаюць сало. Сало здымае оддзельно, а ту́луб, як мы кажом тулуб, ой, остаўса одзін тулуб, однэ м'ясо остало́со с косця́мі. М'якке́ зноў обрэзваём оддзе́льно, а косці оддзельно секо́м, перэсека́ём усе чысценько. Гэтэ ўсе оддзельно, сало оддзельно складаём, а гэтэ оддзельно у другую посудзіну складаём. Да от вам кабан.

А сало як хто хочэ. Хто хочэ от эттакімі кусочкамі, а хто хочэ — і о гэтакімі рэжэ, як яка посудзіна ў кого. Са́льніца — посуда.

А гетты м'яккее — то это мы кажом палендры́цы. Этые палендрыцы, то я беру сечас у марлю, цэлу гэтаку як отрэжу, веліку, с кабана, то я марлею опкручу ее ўсю чысценько. Вона полежыць, посо́ліцца уперэ́д, а потом марлею усю ее опкручу да споўю абу дзіця, так оно на́крэст, накрэст, да ўжэ я ее подвешу, вона ўжэ вісіць до самого лета. Уполе́ту вельмо сма́чна. Не, вона не высохне. Она но засохне. Одэтты трошэчкі краю́шкі. Она ж сы́та. Сало ж не обрэзваём, а сало ж не засыхае.

Е шчэ здор у ём. То эты здор хто качае тожэ ў кача́лку. Вон у мене й зараз ешчэ, як скачала, марлею обкруціла да вісіць. А хто берэ да перэтопіць его ўсе да так. Ужэ уволье́ у любу́ посудзіну, будзе стояць усе лето, перэто́п.

А там шчэ е коса́, і шчэ е чэпе́ц, это так, як сетка, екраз, як сетка, гэтак й ву́роблена, як сетка. Это таке у кабана. Вон называецца чэпец. Она як росцегні, то якраз як сетка, гэто чэпец.

*Запісаў на магнітафоне ў 1968 г.*
*у в. Запясочча Э. Г. Якушаў,*
*зрабіў транскрыпцыю П. А. Міхайлаў*

* * *

То у мене ж шчэ колісьні любчык е, шо й цепер спомінае. А я бедно з бацьком жыла. Так ў мене була шчэ сестра двою́родна. Мы ўдвох із сестрою. Як недзеля, і ў ее нема чобо́т, і ў мене нема чобот. А дзе дзецца? То мы на печ. Удзень лежымо́ на пе́чы. А як ужэ ве́чор, то ўжэ йдом на танцы. По хата́х жэ булі танцы. Так мы сечас посядзем, от туды ногі под лаву, о так о. І так седзімо́. А ў ее, у сестры, буў тут із гэтого села хлопец, то буў гармоніст хорошы! Ну вон із ею гуляў. Вона була старэйша трошкі за мене, я моло́джэй ее. Ужэ той пошылі чо́боты. Той ужэ ухажор пошыў чоботы. Гвалт, я бо́са. Ужэ я одна остаюса. А э́той хоцеў гуляць, вон крывы цепер. То вон і тогды буў крывы. Кажэ, я пошыю чоботы. Той ужэ Міша прышоў да кажэ: «Ты знаеш шо, Матруно, Лёва тобе чоботы пошые. Але шоб ўжэ гуляла з ім». А я, халера его ведае, шо робіць. І бе́дна. Я на́вець не сказала нічого, да моўчала. Моўчала, а вон кажэ: «Значыць, моўчанье знак согласіі». Нічого не сказала. От так одного́ ра́зу мы лежымо́ на печэ́, і зноў-такі с тое́ю ешчэ Одаркою. Несе такіе хромовые чо́боты, хоць ву́гледзьса, ну як зеркало! А я, праўда, обула, да гэтак по хаце пройшла о, сюды поглецзела, сюды поглецзела. Эх, ада́ле за чоботы, чвок — і сама́ на печ! Не хочу его́ чобо́т! Ну, не хочу ёго, то не

хочу й чобот! Не хочу чобот і Лёвы не хочу. От як. І гэта я оста́ласа пока. Гэтак, як тые песне́ спеваюць. То от я ж і кажу, што і цепер шэ любчык е.

*Запісаў на магнітафоне ў 1973 г.*
*у в. Сямігосцічы П. В. Садоўскі,*
*зрабіў транскрыпцыю П. А. Міхайлаў*

* * *

Буў велікі злóдзей. І от зайшоў ік чоловеку. Чоловек забіў кабана́. Сало вы́нёс у сені, шоб остыло. А вон прышоў, ша́ню сала наклаў да ўжэ хоцеў с тым салом уцекаць да не попаў у дзверы, шоб на двор, да ў хату. А оны за столом вечэралі. Вон говорыць: «Добры вечор, мо вам трэба сало?» Людзі кажуць: «Не, мы свое забілі». А вон: «То добра́ноч». І пошоў. Оны ў сені, аж нема половіну сала.

*Запісаў на магнітафоне ў 1975 г.*
*у в. Лутկі В. Д. Лабко,*
*зрабіў транскрыпцыю П. А. Міхайлаў*

## *Альшанскае смехаўё*

Була ў Ольша́нах су́ка, да нічóгая. Шо воны наду́маліса тые ольша́нцы — су́чку уністожыць. А як уністожыць? І той біць не хоче і той. Рэшылі: му ее спалім. Узелі повеза́лі ее соломою да і запалілі. Та сука ек стала горэць, да у село! Да так село ўсе чысто к чортовой мацеры згорэло. Вот этэ ольшанске смехоўе́.

*Запісаў у 1974 г.*
*у в. Цераблічы А. А. Крывіцкі*

ТУРОВСКИЙ СЛОВАРЬ

В ПЯТИ ТОМАХ

ТОМ 5

Минск. Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі Г. Ф. Юрчанка
Рэдактар Н. М. Тарасевіч
Мастак В. В. Саўчанка
Мастацкі рэдактар В. А. Жахавец
Тэхнічны рэдактар А. У. Скакун
Карэктар М. А. Вячорка

ІБ № 2732

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 31.10.86. Падпісана ў друк 08.04.87. АТ 14748. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 2. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 22,26. Ум. фарб.-адб. 22,26. Ул.-выд. арк. 23,57. Тыраж 1060 экз. Зак. № 1411. Цана 1 р. 80 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.